УДК 811.161.3'373.6'374
ББК 81.2Беи-4
Э93

*Выпуск выдання ажыццёўлены па заказу і пры фінансавай падтрымцы Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь*

Укладальнікі:

В. Л. Авілава: *Раб – Раіць*;
М. П. Антропаў, Г. А. Цыхун: *Рай – Рдза*;
І. У. Кур'ян (у межах названага фрагмента – частковы адбор матэрыялу, а таксама асобныя артыкулы): *рай$_1$, райба́, райдун, райка$_{1,2}$, райло, райнік, райстопы, райткі, райца, райцінніі, рак$_{1,2}$, ра́ка, рака, ракавіна$_1$, ракаўка, ракяцень, рала$_{1,2,3,4,5}$, ралейнік, ралля$_1$, ралца́$_1$, ральніцтва, ралюх, рам, рама$_{1,2,3,4,5}$, раманіць, раматус, рамачнік, раме, рамень, рамізнік, рамонак, рамуль, рамштук, рана$_2$, ранак, рангавіска, ранет, рапэта, рарытус, раса́$_2$, расавальнік, расаваць, расада, Расея, раскаваны, раскараніцца, расоха, рата, ратунак, ратонда$_1$, ратуша, раўгеня, раўчук, рахаваць, рахунак, рачадзь*;
І. І. Лучыц-Федарэц: *Рдзець – Рошына*;
М. Я. Абрагімовіч: *Ртуць – Рыба*;
В. Л. Авілава: *Рыбак – Рышэльё*;
Я. В. Волкава: *Рэ – Рэяць*; Р. М. Малько: *С – Саян*;
Г. А. Цыхун (асобныя артыкулы):
*рабочай, рабзон, рабічыч, работнік, рагавіла, рагаловы, радасная вада, радашча, радуніца, раёўка, разамара, разбушаны, развігнуцца, раздрай, раззеўрат, разяніць, ракапыціна, ракамату, ракомсе, ралца, раманент, рамяна, ранаць, рандак, рантух, раном, ранцавальнікі, ра́па, рараты, расамаха$_{1,2}$, расаўка, раскурстаць, растатоха, ратар, рататус, раторда, раўнаць, руга, руда$_4$, рум$_{1,2,3}$, рунклі, руна, рунуцца, русавы дзед, русалка$_{1,2}$, русін, русьць, рухо, руцня, руцьмяны*

Галоўны рэдактар

доктар філалагічных навук Г. А. Цыхун

Адказны рэдактар

кандыдат філалагічных навук М. П. Антропаў

Рэцэнзенты:

кандыдат філалагічных навук С. М. Запрудскі;
кандыдат філалагічных навук Ф. Д. Клімчук

**ISBN 985-08-0740-7(Т. 11)**
**ISBN 978-985-08-0739-3**
**ISBN 985-08-0739-3**



# СКАРАЧЭННІ

## КРЫНІЦЫ

АБ – Atlas gwar wschodniosłowianskich Białostoczczyzny, t. 1. Wrocław–Warszawa–Kraków–Gdańsk, 1980 і наст.

Архіў БЭЛА – Архіў «Беларускага этналінгвістычнага атласа».

Бломкв. – Бломквист Е. Э. Крестьянские постройки русских, украинцев и белорусов (поселения, жилища и хозяйственные строения) // Труды Института этнографии им. Н. Н. Миклухо-Маклая, т. 31. Восточнославянский этнографический сборник. М., 1956.

Булыка, СІС – А.М. Булыка. Слоўнік іншамоўных слоў. Т. 1–2. Мн., 1999.

Гарэц. 1 – Гарэцкія М. і Г. Маскоўска-беларускі слоўнік. Смаленск, 1918; Словы, што не трапілі ў другое выданне слоўніка з першага // Гарэцкі Г. Выбранае. Мн., 2002.

Гіл. – Гілевіч Н. І. Дыялектны слоўнік (Лексіка. Фразеалагізмы. Прыказкі, прымаўкі, прыгаворкі. Параўнанні). Мн., 2005.

Леванц. – Леванцэвіч Л. В. Атлас гаворак Бярозаўскага раёна Брэсцкай вобласці. Лексіка. Брэст, 2001.

Макар. – Макарэвіч В. З гаворак вёскі Купленкі // Полымя, 1980. № 8.

Мат. Маг. 2 – Матэрыялы да абласнога слоўніка Магілёўшчыны. Вып. 2. Магілёў, 2005.

Паўл. – Паўлаў У. Быў светлы міг // Полымя, 2000. № 8.

Рагаўц. – Рагаўцоў В. Матчыныя словы: З лексікі стрэшынскай гаворкі // Наша Слова, 2002, 16 кастр.

Сержп. Казкі – Сержпутоўскі А. К. Казкі і апавяданні беларусаў Слуцкага павета. Мн., 2000.

Сержп. Прык. – Касько У. К. Палескі дзівасіл. Беларускія народныя прыказкі, прымаўкі, выслоўі: са скарбніцы А. К. Сержпутоўскага. Мн., 2005.

Ск. нар. мовы – Скарбы народнай мовы: Дыялекталагічны зборнік. Мн., 2005.

Стома Сл. – Саўка Зм. Балтызмы ў слоўнічку Васіля Стомы «Дыялект Дзісеншчыны» // Запісы–23. Нью-Йорк, 1999.

Сцяц. Сл. – Сцяцко П. У. Слоўнік народнай мовы Зэльвеншчыны. Гродна, 2005.

Сярж.-Яшк. – Сяржаніна Г. І., Яшкін І. Я. Грыбы і грыбная кулінарыя: папулярны энцыклапедычны даведнік. Мн., 2005.

Тур. – Turska H. Słownik trudniejszych wyrazów białoruskich w tomie V i VI *Ludu Białoruskiego* M. Federowskiego // M. Federowski. Lud Białoruski. T. VII. Suplement do tomu V i VI. Warszawa, 1969.

Яшкін, Слоўнік – Яшкін І. Я. Слоўнік беларускіх мясцовых геаграфічных тэрмінаў: Тапаграфія. Гідралогія. Мн., 2005.

## ЛІТАРАТУРА

Агапкіна, Основы – Агапкина Т. А. Мифопоэтические основы славянского народного календаря. Весенне-летний цикл. М., 2002.

ALE – Atlas Linguarum Europea, I. Assen, 1983 і наст.

Анікін, Опыт – Аникин А. Е. Опыт словаря лексических балтизмов в русском языке. Новосибирск, 2005.

Аткупшчыкоў, Из истории₂ – Откупщиков Ю. В. Из истории индоевропейского словообразования. 2-е изд. СПб., 2005.

Бел. міф. – Беларуская міфалогія: Энцыклапедычны слоўнік. Мн., 2004.

Бел. фальк. у суч. зап. (Брэс.) – Беларускі фальклор у сучасных запісах. Брэсцкая вобласць. Мн., 1973.

Бенвяніст, Словарь – Бенвенист Э. Словарь индоевропейских социальных терминов. М., 1995.

Борысь – Boryś W. Słownik etymologiczny języka polskiego. Kraków, 2005.

Варбат, Морфон. – Варбот Ж. Ж. Праславянская морфонология, словообразование и этимология. М., 1984.

Відоескі, Геогр. терм. – Видоески Б. Географската терминологија во дијалектите на македонскиот јазик. Скопје, 1999.

Грэймас, Этн. – Грэймас А. Ю. Пра багоў і людзей. У пошуках этнічнай памяці. Пераклад з літ. С. Шупы. Мн., 2003.

Длугаш-Курчабова – Długosz-Kurczabowa K. Nowy słownik etymologiczny języka polskiego. Warszawa, 2003.

Жураўлёў, Язык и миф – Журавлев А. Ф. Язык и миф. Лингвистический комментарий к труду А. Н. Афанасьева «Поэтические воззрения славян на природу». М., 2005.

Зб. Логару – Zbornik razprava iz slovenskega jezikoslovja. Tinetu Logarju ob sedemdesetletnici. Ljubljana, 1989.

Зб. Талстому – Philologia slavica. К 70-летию академика Н. И. Толстого. М. 1993.

Зб. Памяці Трубачова – История и культура славян в зеркале языка: славянская лексикография. III чтения памяти академика О. Н. Трубачева. Тезисы докладов и выступлений. М., 2005.

Из истории рус. сл. – Из истории русских слов: Словарь-пособие. М., 1993.

Каня, Słownik – Kania S. Słownik argotyzmów. Warszawa, 1995.

Курцова, Polszczyzna – Kurzowa Z. Polszczyzna Lwowa i Kresów południowowschodnich do 1939 roku. Warszawa–Kraków, 1983.

Куфэрак Віленшчыны – Куфэрак Віленшчыны. Гісторыка-краязнаўчы і літаратурна-мастацкі часопіс Віленскага краю. № 1. Маладзечна, 2000 і наст.

Куцала, Słownik – Kucała M. Porównawczy słownik trzech wsi małopolskich. Wrocław, 1957.

Лепешаў, Этым. фраз. – Лепешаў І. Я. Этымалагічны слоўнік фразеалагізмаў. Мн., 2004.



Ліндэ – Linde S. B. Słownik języka polskiego. T. I–VI. Lwów, 1854–1860.

Leksyka słow. – Leksyka słowiańska na warsztacie językoznawcy. Warszawa, 1997.

Мартынаў, Становление – Мартынов В. В. Становление праславянского языка по данным славяно-иноязычных контактов. Мн., 1982.

Мішкінене, Seniausi – Miškinienė G. Seniausi lietuvos totorių rankraščiai. – Древнейшие рукописи литовских татар. Vilnius – Вильнюс, 2001.

Мызнікаў, Рус. гов. Обон. – Мызников С. А. Русские говоры Обонежья: ареально-этимологическое исследование лексики прибалтийско-финского происхождения. СПб., 2003.

Общая лексика – Общая лексика германских и балто-славянских языков. Киев, 1989.

Onomastica Jugoslavica – Onomastica Jugoslavica, 1. Ljubljana, 1969 і наст.

РС – Роднае слова, 1991, № 1 і наст. (З 1988 па 1991 г. – Беларуская мова і літаратура ў школе).

Слав. др. – Славянские древности: Этнолингвистический словарь под ред. Н. И. Толстого. Т. 1. М., 1995 і наст.

Смулкова, Białoruś – Smułkowa E. Białoruś i pogranicza. Studia o języku i społeczeństwie. Warszawa, 2002.

Станг, Urkundensprache – Stang Chr. Die altrussische Urkundensprache der Stadt Polock. Oslo, 1939.

Сцяцко, Выбр. тв. – Сцяцко П. У. Мовазнаўчы досвед: Выбраныя творы. Ч. 1–2. Гродна, 2005.

Сэндзік, Prasł. – Władysław Sędzik. Prasłowiańska terminologia rolnicza // Slawica, 3, PAN, 1977.

Талстая, Полес. – Толстая С. М. Полесский народный календарь. М., 2005.

Тюркизмы вост.-слав. – Тюркизмы в восточно-славянских языках. М., 1974.

Чэкман, Гісторыя – Чэкман В. М. Гісторыя процiпастаўленняў па цвёрдасці/мяккасці ў беларускай мове. Мн., 1970.

Шмітак, Mit. – Šmitek Z. Kristalna gora: Mitološko izročilo slovencev. Ljubljana, 1998.

ЭБ – Этнаграфія Беларусі. Мн., 1989.

Язык культуры – Язык культуры: семантика и грамматика. М., 2004.

## МОВЫ І ДЫЯЛЕКТЫ

бурац. – бурацкае
вацяцк. – вацяцкае
вед. – ведыйскае
веліж. – веліжскае
венецк. – венецкае
дзевяніш. – дзевянішскае
жмуд. – жмудскае
іванаўск. – іванаўскае (Расія)
інд.-іран. – індаіранскае
калм. – калмыцкае
капатк. – капаткевіцкае
копц. – копцкае
лігур. – лігурыйскае
ляш. – ляшскае
парт. – партугальскае
рудзен. – рудзенскае
саам. – саамскае
серб.-ц.-слав. – сербска-царкоўнаславянскае
славін.-каш. – славінска-кашубскае
славон. – што і славонск.
сміл. – смілавіцкае
ст.-егіпец. – старажытнаегіпецкае
ст.-сканд. – старажытнаскандынаўскае
ст.-славац. – стараславацкае
табол. – табольскае
чашн. – чашніцкае

# Р

**Раб** ‘чалавек, пазбаўлены правоў’, ‘чалавек залежны, прыгнечаны’ (ТСБМ), сюды ж *раб лісавы* ‘пра няшчырага, ліслівага’ (ТС), *у ра́ба: у про́стого ра́ба, у дзерэўя́ного ра́ба, у жэле́зного ра́ба* ‘гульня, падобная да гульні ў квача’ (ТС), *раба́* ‘сялянка або наёмная работніца’ (Нас.), ст.-бел. *робъ, рабъ* (тут мае месца не пераход *а* > *о*, а перавага паралельных утварэнняў з *о*, гл. Карскі, 1, 96), параўн. рус. *ра́б* ‘раб’, польск. *rab* ‘раб, хлопец’, чэш. *rab* ‘тс’, ст.-чэш. *rob* ‘нашчадак’, славац. *rob* ‘раб, нявольнік, служка’, ст.-славац. *rab* ‘хлопец, палоннік, вязень’, серб.-харв. *rȁb* ‘тс’, *rȍb* ‘хлопец’, славен. *r̀ȍb* ‘тс’, балг. *роб, раб* ‘хлопец, нявольнік, служка’, макед. *раб, роб* ‘тс’, ст.-слав. **рабъ, робъ** ‘хлопец, падданы’. Запазычана з ц.-слав., часцей у спалучэнні *раб Божии, раба Божия*, параўн. ст.-руск. *рабъ* ‘раб’, ‘слуга’, ‘прасіцель’; *раба* ‘рабыня’, ‘служанка’. Мяркуецца, што формы з *а* і *о* з’яўляюцца праславянскімі дыялектнымі варыянтамі, якія выводзяцца з прасл. **orbъ*; паводле Скока (3, 151), формы з *о* – першыя, а формы з *а* ўзніклі ў выніку ліквіднай метатэзы прасл. **orb-* > *rab-* або пераходу *ŏ* > *a*; паводле іншай думкі (параўн. Бязлай, 3, 187; ESJSt, 12, 743), формы з *о* запазычваліся з паўночнай Славіі ў выніку гандлю рабамі, і, наадварот, формы *а* распаўсюджваліся з поўдня пераважна ў сакральным ужыванні. Старажытны характар такіх адносін, магчыма, адлюстроўваўся ў назвах гульняў, параўн. балг. *ро́ба, на ро́ба* ‘дзіцячая гульня, пры якой адбываецца падзел і даганянне’ (узводзіцца да *роб* ‘раб’, гл. БЕР, 6, 276) і названыя вышэй палескія гульні. Узыходзіць да і.-е. **orbhos*, значэнне якога досыць размытае: ‘асірацелы’, ‘сірата’, ‘маёмасць сіраты’>‘спадчына’, ‘спадчыннік’, ‘слабы’, ‘маленькі’, ‘бездапаможны’>‘раб’, ‘праца раба’. Звязана з гоц. *arbaiþs* ‘работа’, ‘патрэ-

ба', ням. *Arbeit* 'работа', лац. *orbus* 'асірацелы', 'пазбаўлены чаго-небудзь', ст.-ірл. *orbe* 'спадчыннік' (<'сірата'), ст.-інд. *árbha- h* 'маленькі', 'дзіця' (Покарны 1, 781–782; Бенвяніст, Словарь, 233–236; Гамкрэлідзэ, Іванаў, 747; Чарных 2, 91; БЕР, 6, 133; Глухак, 529–530).

**Рабава́ць** 'забіраць сілай, разбоем' (ТСБМ, Нас.; астрав., даўг., Сл. ПЗБ), 'разрабляць, бушаваць' (Нас.), ст.-бел. *рабовать, рабовати* (з канца XVI ст.). Праз польск. *rabować* з ням. *rauben* 'рабаваць' (Брукнер, 451); паводле Нававейскага (Zapożyczenia, 83, 261) "starsze zapożyczenie adaptowane" з с.-в.-ням. *rouben* 'тс'.

**Рабáк₁** 'гліст' (ТСБМ, Сцяшк., Сержп. Казкі; ашм., астрав., смарг., лях., баран., беласт., Сл. ПЗБ), 'чарвяк, вусень' (воран., нясвіж., ЛА, 1; Бес., Сцяшк. Сл.; ашм., воран., смарг., іўеў., Сл. ПЗБ; віц., Жыв. НС), *рабóк* 'вусень' (Сцяшк.), *робáк* 'вусень' (бяроз., ЛА, 1), *светлю́шчы робáк* 'светлячок' (беласт., Ніва, 1979, 16 снеж.), ст.-бел. *робак* 'чарвяк' (Ст.-бел. лексікон), *хробакъ* 'тс' (Вярхоў, З жыцця, 64). Укр. *робáк*, польск. *robak* 'тс', харв. *robak* 'чарвяк, які грызе вінаградную лазу'. Выводзяць з **xrěb-, *xrob-* (гукаперайманне), параўн. польск. *chrobak* 'хрушч', чэш. *chrobák* 'жук', 'лічынка чарвяка', 'чарвяк', *chrobot* 'шоргат', 'хруст', 'трэск', якое тоеснае **skreb-, *skrob-*, з суфіксам *-ak* (Брукнер, 459, Трубачоў, ЭССЯ, 8, 99); параўн. таксама чэш., славац. *chrobák* 'чарвяк, матыль', для якіх Махэк₂ (206) рэканструюе форму **rabākos* з узмацняльным *ch*. Харвацкую форму Скок (3, 150) узводзіць да *rob* 'працаўнік'. Няясна. Усходнеславянскія формы, хутчэй за ўсё, запазычаны з польскай, параўн. у "Алфавите иностранных речей" (XVII ст.): *робак, червь* (Кохман, Polonica, 49).

**Рабáк₂** 'андарак з ільну' (ст.-дар., мін., ДАБМ, камент., 934), 'спадніца з порту' (шальч., Сл. ПЗБ). Ад *рабы́* (гл.). Сюды ж *рабацце́* 'паласатая тканіна' (ігн., Сл. ПЗБ), *рабі́зна, рабакі́* 'тс' (ЛА, 4).

**Рабале́пны** 'ліслівы, рабскі, угодлівы', *рабале́пстваваць* 'быць рабалепным' (ТСБМ), сюды ж *рабалепства* 'падляганне' (Гарэц.). Запазычана з рус. *рабо́ле́пный, раболепство, раболе́пствовать* 'тс', дзе ў сваю чаргу са ст.-слав. **рабол́ѣпьно** 'па-рабску, як раб'.

**Рабарбáр** 'рэвень' (смарг., лудз., Сл. ПЗБ), *рабáрбар* 'тс' (Цых.), *рэбáрак* 'тс' (Гарэц. 1), укр. *рабарбáр*, польск. *rebarbara*, чэш. *rebarbora*, літ. *rabárbaras*, лат. *rabarbers*. Назва прыйшла з лац. *r(h)eubarbarum*, г. зн. *Rheum barbarum* 'варварскі рэвень', праз чэшскую або польскую, у якія трапіла з нямецкай, параўн. ням. *Rhabarber* 'рэвень' (Брукнер, 456; Станкевіч, Зб. тв., 1, 112).



**Рабáтка** 'вузенькая градка' (Мат. Гом.). Праз польск. *rabatka*, *rabata* 'градка для кветак' з ням. *Rabatte* 'градка для кветак', 'абшлаг', якое з галандскага агародніцтва, куды яно ў сваю чаргу трапіла з фр. *rabat* 'лацкан; манішка' (Махэк₂, 503).

**Рабаці́нне** 'вяснушкі або ямкі на скуры; рабізна на паверхні вады' (ТСБМ), *рабаце́нне, рабаце́не, рабацце́, рабаце́ня, рабаце́нё* 'вяснушкі' (Сл. ПЗБ), 'пашкоджанне скуры ад воспы' (Сцяшк.), *рабоце́нье, рабоці́нье* 'воспіны' (ТС). Паводле народных уяўленняў, як вынік разбурэння гнёздаў птушак: *Птушкі пораш, затоя і рабацце́* (смарг., Сл. ПЗБ; Архіў БЭЛА). Ад *рабы́* (гл.).

**Рабáць** 'памінаць памёршых з амбона, чытаць памінальныя спіскі' (ТС): *Бацюшка рабае граматкі, ужэ почаў рабаць покойнікоў*. Мясцовае ўтварэнне ад пачатковага спалучэння *раба Божая/раб Божы*, якое з ц.-слав. *рабъ Божии* пры памінанні (Цыхун, Зб. Талстому, 420), параўн. *благатаць*: *дзяк пачне благатаць да спеваць* (Сержп., Казкі), ад ц.-слав. *благодать* 'дабро, дабрата'.

**Рабаця́га** 'старанны, шчыры працаўнік' (ТСБМ, Нас.; шальч., Сл. ПЗБ), *робоця́га* 'тс' (ТС), *рабаця́ка* 'працаўнік' (Ян.), ст.-бел. (склонавыя формы) *роботягу, роботягомъ* (Сл. Скар.), *роботяговъ*, укр. *роботя́га* 'працавіты чалавек'. Утворана ад *робо́та* (гл.) з экспр. суф. *-аг-а*, параўн. Карскі (2–3, 34) адносна *роботяга* (XVI ст., Скарына).

**Рабачáй** 'працаўнік' (Гарэц.; ашм., Стан.; віл., Анім.). Назоўнік, утвораны шляхам семантычнай кандэнсацыі са спалучэння *рабочы чалавек* па тыпу *ратáй* (Станкевіч, Зб. тв., 1, 69). Параўн., аднак, харв. *rabàčati* 'штосьці рабіць, займацца нечым', *rabačalo* 'ветрагон', якія Скок (3, 91) разглядае як вытворныя з суфіксам *-ač* ад ц.-слав. *раб (Божии)* 'служка'.

**Рабачкі** 'расходнік едкі Sedum acre' (брэсц., Федар.; гродз., Кіс.). Ад *рабáк₁* з-за знешняга падабенства расліны – галінастыя сцяблы, аблепленыя яйцападобнымі лістамі.

**Рабзо́н** *(рябзон)* 'рабы чалавек' (Стан.), *рябзо́нка* 'рабая жанчына' (Нас.). Ад *рабы* (гл.), суфікс *-он-* (Карскі, 2–3, 29) з няясным (экспрэсіўным?) нарашчэннем *-з-* (< **рабза*).

**Рáбін**$_1$ ‘служыцель культу, духоўны кіраўнік веруючых у яўрэйскай рэлігійнай абшчыне’ (ТСБМ, Гарэц.), *рабéй* ‘тс’ (Сержп.), *рабэй* ‘тс’ (Нас.) ст.-бел. *рабей, рабинъ, раббинъ, равви, рави*, рус. *раввúн*, укр. *рáбин*, польск. *rabin*, чэш. *rabín*, літ. *rãbinas*. Упершыню зафіксавана ў помніках старабеларускай пісьменнасці ў форме *рабинъ (раббинъ)* у 1506 годзе. Са ст.-яўр. *rabbî* ‘мой настаўнік’. Як мяркуе Фасмер, тут, магчыма, сінгулятыўнае слав. *-инъ* (Фасмер, 3, 428).

**Рáбін**$_2$ ‘рабы чалавек’ (міёр., З нар. сл.). Ад *рабы* (гл.) з іранічнай адсылкай да папярэдняга слова.

**Рабíна**, *рабіна́, рабініца* ‘рабіна’ (ТСБМ; воран., глыб., шальч., вільн., швянч., Сл. ПЗБ; ТС, Нар. Гом., ЛА, 1, карта № 215; Бяльк.), рус. *рябúна*, укр. *горобúна, оробúна, ор́ябина, гораб, горба, ворбина, веребина, р́ябка*, польск. *jarzębina*, чэш. *jeřabina, jeřáb*, в.-луж. *wjerjebina*, н.-луж. *jerjebina*, славін. *řab'ina*, серб.-харв. *jarèbika*. Прасл. **arębina, *erębina, *ěrębina* або (з іншай ступенню вакалізму) **rębina* паходзіць з прасл.**arębъ* ‘курапатка, рабина’, **erębь* ‘рабчык’, **ěrębь* ‘буры’, звязаных з і.-е. **e̿re̿-b(h)- *o̿ro̿-b(h)-* са значэннем істот або дрэў цёмнага, чырвонага, бурага колеру (у славянскіх мовах пра стракаты колер). Роднаснае да літ. *jerubẽ, jerbẽ* ‘рабчык’, лат. *ir̃be* ‘курапатка’, *ir̃bene* ‘рабіна’, ст.-ісл. *jarpr* ‘карычневы’, *jarpi* ‘рабчык’, ст.-в.-ням. *erpf* ‘цёмнага колеру’ (Бернекер 1, 274; Мацэнаўэр, LF 8, 29; Фасмер, 3, 535; Трубачоў, ЭССЯ, 1, 73–75; SP, 6, 58, 134; ЕСУМ 1, 570; Покарны I, 334; Папоўска-Таборска, Бел.-польск. ізал., 104). Брукнер збліжае з літ. *ráibas, raibas* ‘стракаты’ (Брукнер, 200).

**Рабíнавая ноч** ‘летняя ноч з громам, маланкай, дажджом’ (ТСБМ), ‘навальнічная ноч у канцы лета’ (Ян.), *рабінная ноч* ‘тс’ (Мат. Гом.), *рабінова (рабіна) ноч* ‘тс’ (ТС), укр. *горобúна ніч* ‘ноч з моцнай навальніцай’, рус. дыял. *рябúновая ночь, арабúновая ночь* ‘душная летняя ноч з зарніцамі’, ‘навальнічная ноч’. Выраз вядомы толькі ўсходнім славянам. Упершыню засведчаны ў спісах XV ст. “Аповесці мінулых гадоў” як *рябинаꙗ ночь*: *И бывши нощи рябинои, бысть тма, и гром шибаше и дождь.* Німчук лічыць, што першы член выраза – гэта прыналежны прыметнік ад стараж.-рус. *(о)рябь, (о)рябь* (< прасл. **rębъ* ‘курапатка’), гл. *рабчык*, які з цягам часу перастаў суадносіцца з назвай птушкі і быў рээтымалагізаваны шляхам збліжэння са словам *рабіна* або *верабей* (Німчук, Давньорус., 161–163). Малаверагоднай падаецца



версія Даля пра сувязь з назвай дрэва (гл. *рабіна)*, бо ў гэты час цвіце рабіна (Даль$_3$, 1775–1776). Па меркаванні іншых навукоўцаў назва звязана з *рабы́* і роднаснымі і.-е. назвамі колеру і матывавана ўяўленнямі пра “рабую, стракатую” ад успыхваючых маланак у летнюю ноч (Брукнер, 451; Агапкина, Топорков, СіБФ, 1989, 230–253; Фінкель, ВЯ, 1956, 4, 92). Можна прапанаваць версію аб балтыйскім паходжанні назвы, параўн. літ. *rabėti, rãbinti* ‘стукаць, грукатаць’, лат. *grabināt* ‘стукаць, ударацць’, *rībināt* ‘грукатаць (пра гром)’. Агляд версій гл. Фасмер, 3, 535; Будзішэўска, SOr, 39, 3–4, 275; Жураўлёў, Язык и миф, 522–524; Слав. др., 1, 433–434.

**Рабíнка**$_1$ ‘расліна сінюха блакітная, Polemonium coeruleum’ (смал., Кіс.), ‘расліна спірэя, дуброўка, Spiraea’ (в.-дзв., Сл. ПЗБ). Ад *рабіна* (гл.). Метафарычны перанос па знешнім падабенстве лістоў і суквеццяў раслін.

**Рабíнка**$_2$ ‘гатунак бульбы’ (Мат. Гом.). Вытворнае ад *рабіна* (гл.) з-за падабенства лістоў або ад *рабы* (гл.) з-за пярэстасці ціваспаватасці клубняў.

**Рабíннік**$_1$ ‘вялікі шэры дрозд’ (ТСБМ). Рус. дыял. *рябúнник* ‘тс’. Ад *рабіна (*гл.*)*. Назва адсутнічае ў народнай мове, хутчэй за ўсё з рус. *рябинник*, параўн. бел. народныя назвы птушкі *дрозд-піскун, лепік* (Ласт.). Назва ўзнікла ў выніку метанімічнага пераносу назвы месца пражывання дразда (зараснікі рабіны) на птушку.

**Рабíннік**$_2$ ‘піжма’ (ашм., мядз., шчуч., клім., ЛА, 1; Сцяшк. Сл.), Утворана ад *рабіна* (гл.) у выніку метафарычнага пераносу назвы дрэва паводле знешняга падабенства лістоў і суквеццяў раслін да лістоў і гронак рабіны, параўн. рус. *рябúнка* ‘піжма’.

**Рабінóвы** ‘аранжавы’ (брасл., Сл. ПЗБ). Колеру ягад рабіны, аналагічна *малінавы, бэзавы, бурачкóвы.*

**Рабíць** ‘займацца чым-небудзь’, ‘майстраваць’, ‘працаваць’ (ТСБМ, Сцяшк. Сл., Сцяшк., Ян., Бяльк., Гарэц., Янк. 3, Шпіл.), ‘апрацоўваць зямлю’ (Выг.), *рабíць сéна* ‘нарыхтоўваць сена’, *рабíць лад* ‘спраўляць вяселле’, *рабíць дзела* ‘працаваць’ (Сержп.). Сюды ж *рабíцца* ‘станавіцца; адбывацца, тварыцца; выраблягца з чаго-небудзь’ (ТСБМ); ‘утварацца, выраблягца з чаго-небудзь; апрацоўвацца’ (мядз., лід., вільн., віл., Сл. ПЗБ). Параўн. польск. *robić* ‘рабіць, працаваць’, што суадносіцца з літ. *dirbti*, ням. *arbeiten* ‘тс’. Да прасл. кораня **orb-*, аднакарэннае да *рáб, рабóта (гл.)*. Беларускае слова запазычана з польскай мовы (Карскі, 1, 96).

**Рабічыч**, ст.-бел. *робичичъ* 'сын рабыні' (Ст.-бел. лексікон), параўн. ст.-слав. робичищь 'хлопец-служка'. Вытворнае ад *роб, раб* (гл.), хутчэй за ўсё, ад незафіксаванага **робица* 'рабыня'.

**Ра́бка₁** 'жанчына з вяснушкамі на твары' (Сцяшк., Юрч. СНЛ), 'аса', 'плямістая карова' (ТС), 'сабака рабой поўсці' (Варл.). Ад *рабы́* (гл.).

**Ра́бка₂** 'самка рабчыка' (ТС). Гл. *рабчык₁*.

**Рабкі́ня**, *рабыкі́ня* 'пакорная, рахманая жанчына' (маг., Нар. словатв.). Па ўсёй верагоднасці, гэта словаўтваральны варыянт слова *рабыня* (гл.) з суфіксам *-к-*, які мае тут памяншальна-зневажальнае значэнне. Але не выключана таксама, што словаўтварэнне ішло іншым шляхам – спачатку ад *раб* (гл.) утварылася форма ж. р. *ра́бка* (параўн. балг. *ро́бка* 'рабыня') з наступным нарашчэннем суфікса *-іня*, параўн. серб., харв. *rȍpkiňa, рȍпкиња* 'рабыня' ад дэмінутыва *ро́бак* 'раб' (Скок, 3, 150).

**Рабо́** 'многа, густа' (Сцяшк.). Утворана ад *рабы́* (гл.) з семантычным пераходам 'стракатасць' → 'мноства'.

**Рабо́й** 'усё з прыносаў, з прычындалля' (Песні матчыны з Вушаччыны [у зап. Р. Барадуліна] // Полымя. 2000. № 10. С. 166). Параўн. макед. *ро́бој* 'частка кроснаў'. Няяснае слова. Наўрад ці звязана з рум. *răboj* 'палачка з нарэзкамі', што параўноўваюць з чэш. *rabuša* 'расколатая на дзве часткі палачка, на якой зарэзамі адзначалі даўгі і пад.', серб. *ра̏бош,* харв. *ra̋boš* 'тс', балг. *рабо́ш* 'тс', польск. *rowaś* і інш. (гл. Махэк₂, 503; Скок, 3, 161).

**Рабо́к₁** 'рабчык' (Дразд.). Гл. *рабчык₁*.

**Рабо́к₂** 'грыб Panaeolus' (Сярж., Грыбы). Ад *рабы́* (гл.), паколькі грыб мае рабыя пласткі.

**Рабо́та** 'праца, занятак, дзейнасць', 'прадукт працы' (ТСБМ; шчуч., астрав., паст., віл., смарг., в.-дзв., брасл., мядз., лід., гродз., люб., пух., ігн., шальч., кам., Сл. ПЗБ; Бяльк.), *робо́та* 'праца; прылада працы' (ТС), ст.-бел. *робота, работа, роботати*, рус. *рабо́та*, укр. *робо́та*, польск., в.-луж., н.-луж. *robota*, чэш., славац. *robota* 'паншчына', славен. *rabǫ̑ta*, серб. *ра̀бота,* 'паншчына', харв. *ràbota* 'работа, праца', балг. *ра́бота*. Прасл. **orbota* ўзыходзіць да і.-е. **orbhos*, роднаснага гоц. *arbajÞs* 'патрэба, нястача', ст.-в.-ням. *ar(a)beit* 'работа, нястача', ням. *Arbeit* 'работа' (Фасмер, 3, 427; Чарных 2, 91–92).

**Рабо́ташна** 'зручна, карысна' (Юрч.), рус. смал. *рабо́ташно* 'шмат работы', маск. *рабо́тошный* 'прыбытковы, выгадны', 'зроблены ўласнымі рукамі'. Утворана ад *рабо́та* (гл.), на ўзор *мо́ташна*.



**Рабо́тнік** 'рабочы, працаўнік' (Гарэц., Шат., Стан.). Вытворнае ад *работа* (гл.), параўн. *робо́тны* 'працавіты, старанны' (ТС). Не выключана запазычанне праз польск. *robotnik* 'наёмны працаўнік' (Віткоўскі, Зб. Русэку, 247) з чэш. *robotník* 'тс' (параўн. Басай, Сяткоўскі, SFPS, 14, 5). Гл. таксама Станкевіч, Зб. тв., 1, 32.

**Рабо́чы** 'працоўны', 'работнік' (ТСБМ), 'прыстасаваны да пэўнага віду работы', 'працалюбівы': *рабочы конь* (Касп., Стан.; паст., вільн., Сл. ПЗБ), 'работнік' (брасл., Сл. ПЗБ). Дзеепрыметнік ад *рабіць* (гл.), параўн. кароткую форму *рабо́ч* 'працалюбівы': *рабоч, да не багат* (Сержп. Казкі); субстантывацыя адбылася, хутчэй за ўсё, пад уплывам рус. *рабочий* 'прадстаўнік рабочага класа; наёмны рабочы'.

**Рабо́хом** 'несправядлівы хабар, рабаўніцтва' (Нас.). Запазычанне з ідышу, гл. *рэ́бахі*.

**Рабро́**, *рыбро́, ра́бро* 'частка скелету', 'выгнутая частка каркасу', 'край ці бок прадмета' (ТСБМ, Сержп. Казкі; кам., докш., крыч., хойн., леп., арш., Сл. ПЗБ), 'спінка ў ложку'(паст., ЛА, 4), рус. *ребро́*, укр. *ребро́,* польск. *żebro*, чэш. *žebro*, *řebro*, славац. *rebro*, в.-луж. *rjebło,* н.-луж. *robro, robło,* палаб. *rebrŭ*, славен. *rẹ̑bro*, балг. *ребро́*, макед. *ребро*, ст.-слав. ребро. Роднаснае да ст.-в.-ням. *ribbi* 'рабро', *hirni-reba* 'чэрап', ст.-сакс. *ribbi(i)*, грэч. ἐρέφω 'пакрываць дахам', ὀροφή 'дах'. Зыходным значэннем і.-е. **rebh-* было 'пакрываць купалам, дахам', 'пакрываць' (пра скляпенне, дах, грудную клетку) (Покарны, I, 853; Чарных, 2, 102; Фасмер, 3, 453–454). Сюды ж вытворныя *рабры́на* 'адно рабро' (ТСБМ; чэрв., зэльв., паст., Сл. ПЗБ; Шушк.), *рабры́нка* 'рабрына', 'мяса грудной часткі тушы', *рабрына́* 'рабро' (Сцяшк.), *рабры́ны, рабе́рцы, рабёркі* 'рэбры ў кошыку' (КЭС).

**Рабры́на** 'драбіны' (кобр., жабін., малар., ЛА, 4; брэсц., міёр., Нар. словатв.), *рабрэ́на* 'драбіна' (драг., ЛА, 4), *rebryna* 'тс' (пін., Кольб.). Утворана ад *рабро́* (гл.) з дапамогай суф. *-ын-а* ў выніку метафарычнага пераносу назвы па знешнім падабенстве або пераробкай *драбіна* (гл.).

**Рабу́ля** 'ластаўка' (Сцяшк. Сл.), 'рабая або пярэстая карова' (ТС). Утворана ад *рабы́* (гл.) з дапамогай суф. *-ул-я*, як *рагу́ля* ад *рага́ты* (Сцяцко, Афікс. наз., 122–123).

**Рабу́нак** 'гвалтоўны захоп чужой маёмасці', 'грабёж' (ТСБМ, Гарэц., Яруш., Варл.). Старое адаптаванае запазычанне (*-ung* >

*-unek* > *-унак*) з польск. *rabunek* 'тс', што ўзыходзіць да с.-в.-ням. *rouben* (Нававейскі, Zapożyczenia, 83, 261), параўн. *пакýнак, малюнак.*

**Рабýсі** 'дзікія пчолы, якія крадуць мёд' (воран., Сцяшк.). З польск. *rabuś* 'рабаўнік', параўн. іншую назву: *зладзейкі* (навагр., там жа).

**Рабýха**$_1$ 'рапуха' (слуц., ашм., ЛА,1). Магчыма, другаснае ўтварэнне ад *рапýха* (гл.) на базе *рабы́* (гл.), параўн. *рабáя жáба* 'рапуха' (капыл., петрык., ЛА,1)

**Рабýха**$_2$ 'пярэстая жывёліна', 'рабая жанчына'. Ад *рабы́* (гл.).

**Рабýха**$_3$ 'грыб Panaeolina' (Сярж., Грыбы). Ад *рабы́* (гл.), паколькі грыб мае чырвона-рудыя (рабыя) пласткі.

**Рабýшка**$_1$ 'саматканая спадніца', 'завітая намітка на галаве ў выглядзе шапачкі' (ТС, Нар. лекс.), 'спадніца з палатна, тканага ў клетку' (Малчанава, 136), *рябýшкі* 'саматканыя спадніцы' (віц., ДАБМ, камент.). Сюды ж, відаць, і *рабýшка* (*рябушка*) 'абруч з бяросты як частка галаўнога ўбору замужняй жанчыны' (ТС). Ад *рабóк* (гл.).

**Рабýшка**$_2$ 'клін у пярэднім навоі' (Ян.). Няясна. Магчыма, нейкім чынам звязана з серб. *ра̂бош, ра̂буш,* харв. *râboš* 'бірка', балг. *рáбош, рабýш* 'тс', параўн. таксама балг. *ръбýшка* 'зарэз, пазнака на нечым'.

**Рабушóк**, *рабýшчык* 'верабей' (драг., ЛА, 1). Узнікла ад *верабéй* (гл.) з адпадзеннем пачатковага *в-* і пры дапамозе суф. *-уш-ок.* Або ад *арабýшок* (бяроз., ЛА, 1), *арабýшкы* (івац., ЛА, 1) з адпадзеннем пачатковага *о-*, параўн. рус. *вορóбышек.*

**Рáбчык**$_1$ 'лясная птушка' (ТСБМ; лудз., Сл. ПЗБ; Ян., ТС), *рабéц* 'рабчык' (Гарэц.), *рабóк* 'рабчык' (Дразд.), *рáбка* 'самка рабчыка', 'плямістая карова' (ТС), ст.-бел. *рабецъ, рябецъ*, рус. *ря́бчик*, укр. *ря́бчик, óрябка*, польск. *jarząbek*, чэш. *jeřábek*, в.-луж. *wjerjabka*, балг. *я́ребица* 'курапатка', літ. *jerubė̃.* Узыходзяць да і.-е. кораня **ē̄reb(h)-: *ō̄reb(h)-* (на агульнаславянскай глебе з назалізаваным *е : *(j)eręb-*), які меў значэнне цёмна-чырвонага і бурага колераў, параўн. ст.-в.-ням. *erpf* 'цёмны', 'чорна-буры', ст.-ісл. *jarpr* 'карычневы', 'буры' (Покарны I, 334).

**Рáбчык**$_2$ 'клін у заднім навоі' (Ян.). Няясна, параўн. *рабýшка*$_2$ (гл.).

**Рáбчыкі** 'бульба, зрэзаная з аднаго боку, каб заходзіла соль' (Ян.). Другасна збліжана з *рабы́* (гл.) з няяснай матывацыяй.

**Рабы́** 'пярэсты', 'з рабаціннем', 'паласаты', 'з рабізной на вадзе' (ТСБМ, Сл. ПЗБ), 'вяснушкаваты, стракаты' (Сцяшк.), 'пярэсты, стракаты (пра каня, парася, карову)' (ЛА, 1), 'паласатая тканіна' (узд., ЛА, 4), *рáбы* 'рабы' (Ян.), *рáбый* 'рабы' (Бяльк.), *рабáты* 'рабы, пярэсты' (ТС, Яруш., Бяс.), *рáбіць* 'рабіць стракатым' (Федар.), ст.-бел. *рабый, ребый*, польск. *jarzębaty* 'стракаты', славен. *ríbast* 'паласаты', суадносны з літ. *raĩbas* 'пярэсты', лат. *ràibs* 'пярэсты', ст.-пруск. *roaban* 'паласаты'. Рэканструюецца зыходны корань **rei̯-/*roi̯-* з суф. **bho-* (Бязлай, 3, 177). Паводле Чарных, і.-е. корань **ērerb(h)-: *reb(h)-* – на праславянскай глебе – з назалізацыяй галоснага **ręb-*, параўн. ст.-в.-ням. *erpf* 'цёмны', 'чорна-буры', ст.-ісл. *jarpr* 'карычневы', 'буры', грэч. ὄρφνη 'цемната' (Чарных, 2, 133).

**Рабы́ня** 'пазбаўленая правоў, раба' (ТСБМ). Запазычана з рус. *рабы́ня* 'тс', што да ст.-слав. **рабыни** 'раба, служка'.

**Рабэ́йза** 'вяснушкаваты чалавек' (дзятл., Сл. ПЗБ; навагр., Нар. словатв.; клец., Нар. лекс.; Янк. 3), *рабéйза* 'тс' (ст.-дар., ЖНС), *рабэ́йжа* 'рабы' (карэліц., Нар. лекс.). Утвораны ад прыметніка *рабы́* (гл.) з дапамогай суфікса *-эйз-а (-эйж-а)* (Сцяцко, Афікс. наз., 134).

**Рабяніца** *(рабеніца)* 'сорт вялікіх груш' (ТС). Ад *рабы* (пра словаўтваральны тып гл. Сцяцко, Афікс. наз., 110). У аснове матывацыі ляжыць афарбоўка груш.

**Рабя́ты** 'дзеці' (ТСБМ), *рабя́ты, рыбя́ты, рібя́ta, робя́ты* 'тс' (Сл. ПЗБ). У сучаснай літаратурнай мове з рус. *ребя́та* 'тс'. У народнай мове захаваліся сляды стараж.-рус. *робѧ*, 'дзіця' Р. скл. *робѧте* (Німчук, Давньорус., 304), што адлюстроўвае прасл. **orbę, *orbęte,* мн. л. **orbęta* параўн.: «У нашай ваколіцы на дзяцей казалі *рабяты*, але не ў значэнні расейскага *ребята*» (Стома-Сініца, Полымя, 1998, 10, 258).

**Равéснік** 'чалавек аднолькавага ўзросту з кім-небудзь' (ТСБМ, Бяльк.), 'аднагодак' (вільн., дзятл., карэл., віл., кам., Сл. ПЗБ); *равéсніца* 'аднагодка' (ТСБМ; навагр., шчуч., лід., Сл. ПЗБ). Рус. *ровесник*, укр. *ровéсник*, чэш. *rovesník*, польск. *rowieśny* 'аднаго ўзросту'. Суфіксальнае ўтварэнне ад той жа асновы, што і *рóўны* (гл.). Падобна на тое, што тут мела месца складанне асноў *рóўны* і *веснá* ў значэнні 'год'. Сной (Безлай, 3, 156) мяркуе, што на падставе гэтых форм можна рэканструяваць **orvesnikъ* ад прыметніка **orvesьnъ*, другаснага ў адносінах да **orvьnъ* 'роўны'.

**Равéць** 'раўці, крычаць' (віл., в.-дзв., лаг., Сл. ПЗБ). Параўн. рус. *ревéть* 'тс'. Арэальнае ўтварэнне паўночнабеларускіх і паў-

днёварускіх гаворак у выніку уніфікацыі асновы (Жакава, Бел.-рус. ізал., 45).

**Равідава́ць** 'аглядаць, знаёміцца са становішчам' (Сцяшк. Сл.). Запазычанне з польскай мовы, параўн. польск. *rewidować* 'абшукваць каго-небудзь', 'рабіць рэвізію', 'пераглядаць'.

**Раво́шка** 'мачалка' (Сцяшк. Сл.). З *рагóжка (рагóшка)* з няяснай заменай *ж(ш)* на *в*, гл. *рагожа*.

**Ра́га** 'струменьчык чаго-небудзь вадкага' (ТСБМ), 'пісаг', 'пацёк поту' (Сцяшк.), *рáгі* 'сляды на брудным ад пылу твары' (слонім., Арх. Бяльк.), 'пацёкі поту ці слёз' (ЛА, 4; Сцяшк. Сл.), суфіксальныя ўтварэнні ад таго ж кораня *рагáйды, рагáлы* 'пацёкі поту ці слёз' (Сцяшк. Сл., ЛА, 4), 'пацёкі на запацелых вокнах', 'пацёкі на дзвярах пасля фарбавання', 'брудныя плямы' (Сл. ПЗБ). Версіі пра балцкае паходжанне слова – з літ. *rãgas* 'рог' і вытворных ад яго *ragavà, raguvà* 'роў' (Весці АН БССР, 1969, 4, 128), літ. *rà'ugtis, riáugtis* 'хмурыцца, збірацца на дождж' (Грынавяцкене, LKK, 30, 116); з літ. *rãgės, rõgutės* 'сані' (Лаўчутэ, Балтизмы, 147) або з *regė́ti* 'бачыць' (Саўка, Запісы, 23, 56) – падаюцца малаверагоднымі. Параўнанне з славен. *rag, raga* 'лядзяш', а таксама *srag, srága* 'капля поту, крыві, слёз', харв. дыял. *srȁga* 'капля', 'дахавы жолаб', дзе пачатковае *s-* можна патлумачыць як *s*-mobile, таксама выклікае пэўныя цяжкасці пры этымалагізаванні. Цяжка схіліцца да якой-небудзь канкрэтнай версіі: або звязваць са ст.-інд. *sárga* 'струменьчык, які цячэ, ліецца', *srjáti* 'цячы', або рэканструяваць _*sporga_ і параўноўваць з лац. *spargo* 'раскідваць', 'рассыпаць', або ўзводзіць да _* sréz_ < _*k'erg_. Іншыя мяркуюць, што зыходным значэннем *srága* было 'кропля' і адмаўляюць сувязь з літ. *sir̃gti* 'быць хворым', а выводзяць з _*sorəga_ да і.-е. _*serH-_'цячы', ст.-інд. *sárati* 'цячы', *sárga* 'ліе', якія з _*selg'_ (агляд версій гл. Бязлай, 3, 301; Скок, 3, 314; Куркіна, Диал. структура, 117). Бязлай прапануе таксама іншае тлумачэнне славенскай лексеме. Улічваючы, што існуе словазлучэнне *potne srage* 'кропелькі поту', ён збліжае слова з літ. *sir̃gti* 'быць хворым', *pasargà* 'хваравітая слабасць', лат. *sìrgt* 'быць хворым', *sērga* 'хвароба'. Паколькі ў славенскай і сербска-харвацкай мовах ёсць словы *kapja, kap* са значэннем 'хвароба', то ён мяркуе, што значэнне 'апаплексія', 'сардэчны ўдар' з'явілася ў славенскай лексеме раней за 'капля', якое пазней выцесніла яго (Бязлай, Eseji, 116–117). Іншай думкі прытрымліваецца Борысь (ЗФЛ, 25, 2, 17;



Czak. stud., 45–46); далучаючыся да рэканструкцыі Міклашыча (316) прасл. _*sorga_, ён канстатуе яе няпэўнасць у сувязі з адсутнасцю іншаславянскіх адпаведнікаў. Улік беларускіх адпаведнікаў схіляе да прасл. _*(s)ōrga_, што ўяўляе ступень чаргавання да _*rogъ_ (параўн. Бязлай, 3, 144), гл. *рог*$_1$.

**Рагаве́нь**$_1$ 'табакерка, зробленая з рога' (ТСБМ). Ад *рог* (гл.). Матывацыяй стала назва матэрыялу, з якога зроблена рэч.

**Рагаве́нь**$_2$ 'вельмі крыклівы' (рагач., Сл. ПЗБ). Экспрэсіўнае ўтварэнне на базе *рэгаць, рэгаца* (Ян.) 'моцна брахаць' (гл.).

**Рагаві́к**$_1$, *рыгавік* 'кроквіна на стыку двух бакоў страхі' (Юрч.), 'вільчык; сноп саломы, прызначаны для крыцця вільчыка, спосаб пакрыцця страхі "ў вугал"' (віл., воран., гарад., шальч., Сл. ПЗБ), *роговік* 'вугал у страсе' (ТС), 'палічка трохвугольнай формы' (ТСБМ), 'асноўная частка сахі', 'аснова плуга' (шальч., ганц., Сл. ПЗБ), 'печыва спецыяльнай формы' (лід., Сл. ПЗБ). Ад *рог*$_1$ (гл.). Метафарычны перанос назвы па знешнім падабенстве.

**Рагаві́к**$_2$ 'чорнае зярно ў жыце' (палес., КЭС). Ад *рог*$_1$, гл. *ражкі*.

**Рагаві́к**$_3$ 'зуб мудрасці' (Сцяшк.), 'металічны навугольнік для аконнай рамы' (там жа). Ад *рог*$_2$ 'вугал, кут' (гл.), г. зн. 'які знаходзіцца на рагу, у куце', параўн. *кутні зуб* 'зуб мудрасці'.

**Рагаві́к**$_4$ 'клінок для адціскання сыру' (Мат. Гом.), 'вышытая касынка' (Сцяшк. Сл.). Да *рог*$_1$ 'прадмет канічнай формы, клінападобны прадмет', сюды ж *рагавічóк* 'закутак у полі ці сенажаці сярод кустоў' (Сцяшк. Сл.).

**Рагаві́к**$_5$ 'жук-алень' (віц., ЖНС). Да *рог*$_1$, параўн. *рагаль* (гл.).

**Рагаві́ла** (*рагавúло*) 'рагаты' (чэрв., Мат.). Назоўнік з суф. *-ла (-ло)*, што называе імёны асоб "с некоторым презрительным оттенком" (Карскі, 2–3, 25).

**Рагаві́нка** 'расліна ясколка, Cerastium L' (Кіс.), рус. *яскóлка*, параўн. балг. *роговка* 'тс', серб. *птичја трава, рожац*. Ад *рог*$_1$ (гл.) з-за ланцэтападобных лісцяў і формы плода. Не выключана аднак, што ўтварылася ад іншай назвы той жа расліны – *вагавінка* – у выніку мены пачатковага *в-* на *р-*.

**Рагаві́ца** 'празрыстая вонкавая абалонка вока' (ТСБМ), рус. *роговúца*, укр. *рогівка*, польск. *rogówka*, чэш. *rohovka*, в.-луж. *rohowka*, серб. *рȍжна навлака*, славен. *roženica*, балг. *рóговица*, літ. *ragenà*. Хутчэй за ўсё, слова мае сувязь з *арагавéць* 'стаць цвёрдым', паколькі абазначае цвёрдую абалонку вока, параўн. ням. *Hórnhaut* 'рагавіца', якое складаецца з *Horn* 'рог' і *Haut* 'скура',

франц. *cornée* 'рагавіца', *corne* 'рог', 'арагавеласць'. Паводле Бязлая (3, 191) адпаведнае славенскае слова з нямецкага слова, што з'яўляецца калькай лац. *cornea* 'тс'. Менш верагодна сувязь з *рог₂* 'вугал, куток', аднак, тады цяжка даць семантычнае абгрунтаванне. Па іншай версіі лічыцца суфіксальным вытворным ад *рóгавы* (< *рог*), матывацыяй у такім выпадку мог паслужыць рознакаляровы адліў знешняй часткі рогаў.

**Рагадан**: пры гульні "ў рагадана": *Рагадан, рагадан,/ на чатыры загадан./ Кацярынін нос/ На пятнаццаць вёрст/ Шалдэбалдэ/ Башмак барада!* (бялын., Рам. 8). Няясна. Антропаў лічыць цюркізмам (БЛ, 45, 25). Магчыма, з цюрк. *ramadan (ramazan)* 'дзевяты месяц па месяцавым календары', 'пост', 'уласнае імя'.

**Рагазá₁** 'усе рэчы, што не прылягаюць шчыльна адна да адной', 'сукаватая палка, ламачына, сук', 'беспарадак' (Нас., Гарэц., Бяльк.), 'рагаццё' (Юрч.), 'няўмека' (Сцяшк. Сл.), *рагóзіна* 'сукаватая палка' (Сцяшк.), *рагóза* 'нешта калючае, зачэпістае', 'сварлівы чалавек' (КЭС), *рагазýлька* 'раскірака', 'нешта раздвоенае' (Гарэц.), *рагазюлі*: *вілакі нейкія, як рагазюлі, стаяць у вачах* (Наша слова, 1992, 19 лют.), ст.-бел. *рагоза* 'дрэнны чалавек' (Баркулабаўскі летапіс), сюды ж *рагазіць* 'перашкаджаць' (Гарэц.), рус. дыял. *рáгозá* 'раздор', 'сварлівы чалавек', *рáгозúть* 'балбатаць, хлусіць, мітусіцца ўпустую', ст.-рус. *рагоза* 'сварка', *рагозынъ* 'сварлівы', *рогозити ся* 'абурацца', Фасмер зближае з серб.-ц.-слав. *рогаљевати* 'непакоіць', славен. *regetáti* 'квакаць', 'траншчаць', лат. *rēdzêt* 'гневацца' (Фасмер, 3, 429). Бязлай (3, 144–145) узводзіць да **rag-*, што са змененым вакалізмам выступае ў **rog-* (гл. *рагатаць*) і *rěg-* (гл. *рыгаць*). Гл. таксама Сной, 599. Няпэўна; для некаторых слоў нельга выключыць сувязь з *рог₁* (гл.) на базе метафарычнага пераносу па форме рэаліі.

**Рагазá₂** 'рагоз' (Мат. Гом.), *ragozá* (Арх. Федар.). Гл. *рагоз*.

**Рагáзы** 'пацёкі поту ці слёз' (Сцяшк. Сл.). Утворана ад *рáга* (гл.) пад уплывам *рагазá₁* (гл.). Форма мн. л. з'явілася ў выніку суаднясення слова з іншай назвай рэаліі – *рáгі*.

**Рагáк** 'спарыння ў жыце', *рогáк, рагакí, рогакí* 'тс' (ЛА, 2). Ад *рог* (гл.). Метафарычны перанос па форме, параўн. *рагавік₂* (гл.).

**Рагалóвы** 'калматы' (Мат. Гом.). Магчыма, кантамінацыя *рог₁* (гл.) і *галава* (гл.) (<**рогагаловы*?).



**Рагáлы** 'пацёкі поту; пацёкі на запацелых вокнах' (віл., Сл. ПЗБ). Гл. *рага*.

**Рагаль** – пра вала або лася з вялікімі рагамі (Др.-Падб., Сержп.). Адпрыметнікавы назоўнік з суфіксам *-аль* ад *рагáты* (гл.), як *насáль* ад *насáты*. Пра словаўтваральную мадэль гл. Сцяцко, Афікс. наз., 94. Да *рог* (гл.), параўн. *роголé* 'вялікія рогі' (ТС). Сюды ж *рагáлік* 'жук-алень' (глыб., міёр., ЖНС), паколькі жук мае моцна развітыя верхнія сківіцы, якія па форме нагадваюць рогі аленя, і *рагáлік* 'маленькая булачка ў выглядзе рога' (ТСБМ), *рагóлік* 'варэнік', 'коржык з бульбы і мукі' (Ян.). Перанос назвы па форме.

**Раганýць** 'упасці, скінуцца' (Сцяшк.), 'памерці, здохнуць' (Полымя, 1986, 2, 119). Магчыма, роднаснае да чэш. *rohnouti* 'моцна параніць', 'ударыць', якое, разам з рус. *грóхнуть,* лічыцца гукапераймальным утварэннем (Махэк₂, 515).

**Рагатáць** 'гучна смяяцца' (ТСБМ, Гарэц., Сцяшк.; калінк., шчуч., астрав., Сл. ПЗБ), 'гагатаць' (пра гусей) (рас., Сл. ПЗБ), 'іржаць' (пра каня) (Нар. лекс.; ДАБМ, камент.), *рагацéць* 'смяяцца' (Сцяшк. Сл.; Сл. ПЗБ), *роготáты* 'голасна смяяцца' (Булг.), *роготáць* 'тс' (ТС); рус. дыял. *реготáть* 'гучна смяяцца', укр. *реготáти, реготіті* 'гучна смяяцца', польск. *rzegotać, rzechotać* 'квакаць', чэш. *řehotati* 'іржаць, хіхікаць', славац. *rehotat' sa* 'іржаць', в.-луж. *rjehotać* 'іржаць, моцна смяяцца', н.-луж. *rjagotaś* 'квакаць, трашчаць, іржаць', славен. *réga* 'кваканне', *regetáti, rogítati* 'квакаць', серб. *рȅга,* харв. *rȅga* 'гырканне сабакі'. Прасл. **reg(ot/ъt)-ati*. Далей звязана з бел. *рыгаць* (гл.), чэш. *říhati* 'адрыгваць'. Гукаперайманне (Шустар-Шэўц, 2, 1219, 1225; Бязлай, 3, 145), ёсць спробы выявіць роднасць з *рагазá* 'сварка', лат. *rēdzêt* 'злавацца' (Фасмер, 3, 457). Гл. таксама *рахтаць* 'тс'.

**Рагатка₁** 'перашкода ў выглядзе накрыж збітых калоў', 'драўляная развіліна з гумкай', 'палка з развілінай для падтрымання якіх-небудзь прадметаў; рагаціна' (ТСБМ, в.-дзв., Сл. ПЗБ), *рогáтка* 'прылада для вымярэння даўжыні', 'рагаціна, з якой хадзілі на мядзведзя' (ТС). Ад *рог₁* (гл.). Перанос назвы адбыўся паводле падабенства прадмета да рагоў жывёлы.

**Рагáтка₂** 'прылада для лоўлі рыбы' (гарад., Сл. ПЗБ). Ад *рог₁* (гл.), метафарычны перанос назвы па форме прылады.

**Рага́тка**$_3$ 'рыба колюшка, Gasterosteus aculeatus' (гарад., Сл. ПЗБ), *рага́ткі* 'дробная рыба' (Сцяшк. Сл.), рус. *рога́тка* 'колюшка'. Назва матывавана наяўнасцю вострых і моцных калючак на хрыбце рыбы. Ад *рог$_1$* (гл.).

**Рагатня́** (*rahatnia*) 'бурчанне ў жываце': *ad chaładniku zrabiłasia rahatnia u trybusie* (Арх. Федар.). Да *рагатаць* (гл.).

**Рагату́н** 'той, хто любіць смяяцца' (ТСБМ, Нар. словатв.). Аддзеяслоўнае ўтварэнне з суфіксам *-ун* ад *рагата́ць* (гл.); пра словаўтваральную мадэль гл. Сцяцко, Афікс. наз., 68.

**Рага́ты** 'чорт' (Інстр. 2). Табуіраваная назва міфалагічнай істоты паводле знешняй прыметы – наяўнасці рогаў. Да *ро́г$_1$* (гл.), параўн. *рага́тка* 'рагатая карова' (Мат. Гом.; брасл., глыб., талач., леп., ЖНС); з няясным значэннем ('неупарадкаваная'?): *хата рагата, дзела ў ёй шмат* (Сержп. Прык.).

**Рагатыу́ка** 'канфедэратка' (гродз., Сл. ПЗБ), *рагато́ўка* 'летняя шапка' (Сцяшк. Сл.). З польск. *rogatywka* 'польская вайсковая шапка з чатырохвугольным верхам'.

**Рагаце́нька** 'абрадавая кветка (вясельная), якая складаецца з жытняга каравайчыка, трохзубай рагаценькі і чырвонай хусткі' (Федар.). Ад *рог$_1$* (гл.), паколькі кветка мае ў сваім складзе вострыя – "рагатыя" элементы.

**Рага́цік** 'радоўка шэрая' (узд., Нар. словатв.). Ад *рог$_1$* (гл.), паколькі грыб мае няроўную ("рагатую") шапачку.

**Рага́ціна**, *рагацю́лька* 'неабцярэблены сук', 'сукаватая палка', 'расахатае дрэва' (Сл. ПЗБ), 'развіліна, разгаціна' (зэльв., Нар. словатв.), 'паляўнічая зброя' (ТСМБ). Утворана ад *рог$_1$* (гл.).

**Рага́ч**$_1$ 'вілы з двума рагамі' (Сцяшк., ЛА, 2), 'вілкі, якімі ставяць (або вымаюць) у печ чыгуны' (ТСБМ, Выг.). Да *рог$_1$* (гл.).

**Рага́ч**$_2$, 'драўляная саха' (ТСБМ), 'частка сахі' (ТСБМ, Выг., Янк., Сержп., Дзмітр., Дэмб. 2), *рагачы́* 'ручкі плуга' (Выг. дыс.), рус. дыял. *рога́ч* 'ручка ў сахі'. Ад *рог$_1$* (гл.). Падабенства па форме.

**Рага́ч**$_3$ 'вывернуты корань дрэва' (ТСБМ). Ад *рог$_1$* (гл.).

**Рага́ч**$_4$ 'самец-алень або іншая жывёліна з рагамі' (ТСБМ), укр. *рога́ч* 'самец-алень', в.-луж. *rohač* 'жывёліна з рагамі'. Ад *рог$_1$* (гл.), параўн. *рога́та* 'карова з вялікімі рагамі' (ТС).

**Рага́ч**$_5$ 'ражон, кол з сучкамі'; зборн. *рагаччо́ (рогаччо́)* 'колле няроўнае і сучкаватае' (Нас.), 'дзяркач' (ігн., Сл. ПЗБ). Мае не зусім ясныя адносіны да *рог$_1$* (гл.). Магчыма, паводле знешняга падабенства з вострымі, тырчачымі ў розныя бакі галінкамі.



**Рагачы́** 'прылада для звівання нітак' (Сцяшк.), 'звязаныя разам тры драўляныя калкі, на якія ставілі калыску' (гродз., Сл. ПЗБ), 'драўляныя вілы' (Выг.), *рагачэ́* 'прылада, якой абмерваюць поле' (гродз.). Ад *рог$_1$* (гл.). Усе прадметы маюць вытыркальныя часткі, якія напамінаюць рогі жывёлы.

**Раге́ня** 'каша з бобу і бульбы' (в.-дзв., Сл. ПЗБ). Гл. *раўгеня*.

**Раге́ша** 'някемлівы, неахайны чалавек' (мін., Непакупны, Связи), 'плакса' (зэльв., Нар. словатв.), *рэке́ша* 'тоўстая, бясформенная, неахайна апранутая жанчына' (смарг., Непакупны, Связи), укр. *реге́ша, реке́ша* 'неахайны, няўклюдны або тоўсты чалавек'. Балтызм, параўн. літ. *rekešỹs* 'разгалінаванае дрэва', 'сукаватая галінка', 'няўклюдны чалавек', *rekežỹs* 'бясформенная рэч', 'амаральны чалавек', якія да кораня **rek-, *ker-* (Лаўчутэ, Балтизмы, 59). Непакупны (Связи, 195) дапускае метатэзу апошняга кораня, параўн. *раскярэша* (гл.).

**Рагізу́ля** 'растропа' (Касп.). Гл. *рагаза$_1$*.

**Рагілі** 'вазок для сена, снапоў' (Касп.). Гл. *рэдалі*.

**Рагі́ня** 'вяргіня' (ТС). Узнікла ад *вяргі́ня* ў выніку метатэзы і збліжэння са словам *рог$_1$* (гл.), паколькі пялёсткі кветкі маюць форму, падобную на рожкі.

**Раго́жа,** *раго́жка* 'грубая ўпаковачная тканіна', 'посцілка', 'тканіна рэдкага перапляцення' (ТСБМ), *рого́жа*, рэдка *рого́га* 'сплеценая з травы посцілка' (ТС), *раго́шка* 'мачалка з лубяных палосак' (Сл. ПЗБ), *раво́шка* 'мачалка' (Сцяшк. Сл.), рус. *рого́жа*, укр. *рого́жа*, польск. *rogoża*, чэш. і слав. *rohož* 'рагожа', 'пляцёнка з чароту, саломы', славен. *rogóža* 'чаротавы верх вазка', серб. *ро̀гожина,* харв. *rógožina* 'цыноўка з рагожы', балг. *рого́жка* 'тс'. Прасл. **rogoža* вытворане ад **rogozъ* 'чарот, трыснёг' (Фасмер, 3, 490). Махэк$_2$ (420) адносіць слова разам з нова-в.-ням. *Rohr* 'камыш', гоц. *raus*, герм. **rauza-* да рэліктаў "праеўрапейскага". Гл. таксама наступнае слова.

**Раго́з** 'балотная расліна, пухоўка Typha L., трыснёг' (ТСБМ, Кіс.), *рого́з, рого́ж* 'балотная расліна з вузкімі лістамі' (ТС); *раго́ж, раго́жа, рого́жа, руго́жа, рогожа́* 'трыснёг' (ЛА, 1; Арх. ГУ), *рага́за* 'чарот' (Ян.), 'плюшчай' (ЛА, 1), рус. *рого́з*, дыял. *ра́гоза* 'трава асака', 'мачала', укр. *рогі́з, рогоза́*, польск. *rogozie* 'трыснёг', 'чарот', в.-луж. *rogož, rohodź* 'трыснёг', 'чарот', н.-луж. *rogož* 'чарот', серб. *ро̀гоз,* харв. *rògoz* 'асака', балг. *рого́з* 'высокая

балотная трава, з якой плятуць посцілкі і інш.', макед. *рогоз* 'трыснёг', ст.-слав. **рогозъ** 'папірус'. Агульнаславянская назва пухоўкі, чароту і трыснягу. Узводзяць да прасл. **rogozъ*, якое, хутчэй за ўсё, вытворнае ад **rogъ* 'рог' (Брукнер, 461; Фасмер, 3, 490; Шустэр-Шэўц, 2, 1231–1232). Ва ўсіх слав. мовах слова мае яшчэ і значэнне 'луб', 'грубая тканіна', як і слова *рагóжа,* параўн. літ. *regzti* 'плясці'. Магчыма, звязана з словам *рагазá,* якое мае значэнне 'рагаты сук', 'штосьці калючае', параўн. бел. *рагóзіна* 'сукаватая палка' (Сцяшк.). Уяўленне аб *рагазé* як аб развілцы, рагаціне пацвярджае яго этымалагічныя сувязі з *рог₁*, гл. (Мяркулава, Очерки, 48–50).

**Рагóйш**, *рагóйж* 'пірог-скавароднік' (ЛА, 4; Сл. ПЗБ). З літоўскага *ragaĩšis* 'хлеб, пірог, выпечаныя з пшанічнай ці ячневай мукі грубага змолу' (Лаўчутэ, Балтизмы, 49).

**Рагóйшыла** 'няўдаліца' (ашм., Сл. ПЗБ), 'скаціна (пра чалавека) (там жа). Утворана па мадэлі *дурыла.* Лічыцца запазычаннем з літоўскай мовы, параўн літ. *ragúotas* 'рагаты', *radužlis* 'пірог' (Лаўчутэ, Балтизмы, 72), але гэта версія гучыць неправаканальна. Складальнікі беларускага слоўніка звязваюць запазычанне з літ. *rãgas* 'рог' (Сл. ПЗБ, 4, 238). Параўн. таксама *рагóйш* (гл.).

**Рагтýн**, *рягтýн, рігатýн* 'частка ракі, якая не замярзае (на стаячай азярыне' (клім., ЛА, 2). Да *рагатáць* (гл.), *рэ́гты* 'гучны смех', *рэ́хтаць* 'іржаць' і пад. (гл.).

**Рагý** 'страва з кавалачкаў мяса, рыбы, гародніны' (ТСБМ). З франц. *ragoût* < *ragoûter* 'выклікаць апетыт'.

**Рагýлька**₁ 'сукаватая палка' (Юрч. СНЛ), 'укапаная ў зямлю верхавіна сасны з сукамі, прызначаная для прасушкі посуду' (Бяльк.), 'карова з вялікімі рагамі' (шальч., Сл. ПЗБ), 'колюшка' (гродз., Жук.). Утворана ад *рагýля* (гл.) з дапамогай памяншальна-ласкальнага суфікса *-к-а.* Матывацыяй паслужыла тое, што ўсе гэтыя прадметы маюць вострыя, падобныя да рагоў часткі.

**Рагýлька**₂ 'дзяўчына ў сярэдзіне карагоду на Вялікдзень' (пін., Кольб.). Сюды ж *рагýлька* 'песня-вяснянка' (беласт., Ніва, 1974, 12 мая; Федар.), відаць, перанос семантыкі з 'дзяўчына, якая спявае песню'>'песня-вяснянка'. Няясна; магчыма, ад *рагулька₁* 'сукаватая палка' як сімвал сусветнага дрэва, што знаходзілася, паводле народных вераванняў, у цэнтры сусвету, параўн. вясельнае дрэўца ў цэнтры т. зв. *рагатага каравая* (пра апошні гл. Іванаў, Тапароў, Зб. Крапіве, 167–169), параўн. *рáлец* (гл.).



**Рагýлькі** 'казялец', 'курасле́п, Ranunculus acer L.' (ЛА, 1; іўеў., Сл. ПЗБ). Ад *рог₁* (гл.) з-за падобных да рожак формы лістоў.

**Рагýля**₁, *рагýліна* 'прадмет, які мае разгалінаванне ў выглядзе рагоў' (ТСБМ, Гарэц.), 'галіна' (Ян.),'сукаватая палка' (Юрч. СНЛ), 'карова з вялікімі рагамі' (Нар. Гом., Інстр. 2). Сюды ж *рагýлькі* 'наморднік з цвікамі (для маладых цялят)'. Ад *рог₁* (гл.) з дапамогай памяншальна-ласкальных суф. *-ул-я, -ул-ін-а* як *крывýля, рыжýля* (Сцяцко, Афікс. наз., 122–123).

**Рагýля**₂ (*rohula*) 'палявая кветка, Delphinium consolida', *rogulka* 'тс' (Ажэшка). Да *рог₁* (гл.) з-за "рагатасці" кветак.

**Рáгуці**, *рагýці, рáгуцькі, рагуцé* 'дзве жэрдкі, якія кладуцца на сані, каб сані былі шырэй' (смарг., Сл. ПЗБ; Шат.), 'шырокія сані' (ігн., Сл. ПЗБ), параўн. польск. дыял. *ragucie* 'сані для перавозкі дроў'. Запазычанне з літ. *rãgutes* 'сані' < *ragaĩ* 'рогі' (Лаўчутэ, Балтизмы, 127; Сл. ПЗБ, 4, 238).

**Рад**₁ 'лінія аднародных прадметаў', 'шэраг', 'прабор у валасах' (ТСБМ), 'засеяная баразна', 'пласцінка ў грыбе' (Нар. словатв.), 'шарэнг', 'вуліца' (Ян.), 'пракос' (Сл. ПЗБ), 'валок скошанага сена' (ТС, ПСл), 'пласт' (Янк. 2), 'пропуск пры касьбе' (Мат. Гом.), 'рад', 'чарга' (Гарэц.), 'раскладка снапоў для малацьбы' (ДАБМ), ст.-бел. *радъ* 'шэраг', укр. *ряд*, рус. *ряд*, польск. *rząd*, чэш. *řád* 'парадак', 'клас (бат.)', 'строй', славац. *rád*, в.-луж. *rjad*, н.-луж. *rěd*, славен. *rȇd* 'парадак', 'ярус', 'рад', серб. *рȇд* харв. *rȇd*, мак. *ред*, балг. *ред* 'рад, парадак, радок', ст.-слав. **рѧдъ**. Да прасл. **rędъ*. Звязваюць з **orǫdьje* (> рус. *орýдие*) і збліжаюць з літ. дыял. *rindà* 'рад', 'лінія', лат. *riñda* 'тс' (Фасмер, 3, 536; Чарных, 2, 134), этымалогія якіх цьмяная. Махэк₂ (529) лічыць роднасць з балтыйскімі словамі няпэўнай і прапануе зблізіць прасл. **rędъ* з лац. *ōrdō* (аснова **orden-*) 'рад', 'чарада', 'строй', якое звязваюць з *ōrdior* 'навіваю аснову', 'нанізваю', 'стаўлю ў рад' і далей са словамі, што ўзыходзяць да і.-е. кораня **ar-* 'далучаць', 'звязваць'.

**Рад**₂ 'намер, дапамога, толк', 'справа' (Ян.), серб. *рâд* 'праца', *рáдити* 'працаваць', балг. *рáда* 'работа', *рáдя, рáда* 'працаваць'.

Да прасл. *radъ 'праца', *raditi 'працаваць'. Яцвяжская паралель – *rada* 'праца', *radid* 'рабіць, працаваць' (калі гэта не запазычанне са славянскіх моў) сведчыць аб заходнебалтыйскай старажытнасці слова. Этымалогія няпэўная. Паводле Скока (3, 97), развіццё семантыкі ішло па лініі 'клопат, старанне' → 'старанная праца'. Мяркуецца, што прасл. *raditi ўзыходзіць да іран. *rōd-* 'карчаваць, церабіць' (Мартынаў, Праслав. язык, 37–38), што цяжка давесці. Параўноўваюць таксама са ст.-інд. *rādhayati* 'ён робіць', авесц. *radaiti* 'ён падрыхтоўвае, уладкоўвае' (БЕР, 6, 145). Гл. *радзець*.

**Ра́да** 'парада, павучанне', 'сход' (ТСБМ), 'парада, сродак' (Нас.), 'парада, дапамога, работа' (Ян., Бяльк.), 'парада' (астрав., шальч., віл., маст., мядз., шчуч., в.-дзв., Сл. ПЗБ), 'спосаб, змова' (Юрч.), 'нарада родных і сваякоў' (ТС), 'сродак, выхад', 'рада' (Гарэц.), *даць ра́ды* 'справіцца з чым-, кім-небудзь' (Калюга), ст.-бел. *рада* 'парада', *радити, радить*, укр. *ра́да*, рус. дыял. *ра́да*, польск. *rada* 'рада, парада'. Лічыцца, што ўсходнеславянскія мовы запазычылі гэтую лексему праз польскую з с.-в.-ням. *rât* 'рада', параўн. ням. *Rath, rathem* 'радзіць', інд. *rādh-noti* 'набываць; атрымліваць карысць', авест. *rāda-* 'дабівацца чаго-небудзь, мець клопат' (Фасмер, 3, 429; Брукнер, 452). Бязлай (3, 143) выказвае сумненне ў запазычаным характары слова, рэканструюе прасл. *radъ, што да і.-е. *rōdh-, параўн. ст.-інд. *rādha-* 'благаславенне, поспех, шчодрасць'. Сюды ж адносяцца серб. *ра́дити*, харв. *ràditi* 'рабіць', гл. *рад*₂. Дапускаючы такую магчымасць, нельга выключыць змяшэнне са старым запазычаннем праз польскую з нямецкай (Наваэйскі, Zapożyczenia, 10) *ра́да* 'савет, рада (як орган)' (Гарэц.), параўн. ст.-бел. *рада* 'орган пры магістраце, які выконваў функцыі гарадской улады і суда па маёмасных і грамадзянскіх справах'.

**Радабо́дзіна**, *радабо́ціна, радабо́ззя* 'рэдкае, нямкасна вытканае палатно' (лід., ганц., смарг., мядз., Сл. ПЗБ), *радабо́дзь, радабо́ць* 'рэдкае (пра палатно, пасеў, сенажаць)' (Нар. словатв., Варл.), 'рэдкія ўсходы' (Юрч.), 'грубая, рэдкая тканіна' (Янк. 3), *radabócie* 'рашотка' (Арх. Федар.), *радабо́ддзе*: *з радабоддзя хмар зрэдку вытыркаўся месяц* (Асіпенка, Полымя, 1992, № 5). Ад *рад₁* (гл.) і *бада́ць* (< *bosti) (гл.), параўн. серб.-харв. *бо̏д* 'укол', 'спосаб шыцця і пляцення', 'пятля ў пляценні', 'калючка', макед. *бод* 'шывок', 'вастрыё', балг. *бод* 'укол вострым', 'тып



пляцення', 'шывок пры вышыванні', якія ўзыходзяць да *bodъ. Паводле Станкевіча (Зб. тв., 2, 29), ад *рэдкі* (гл.), у аўтара *радкі́*: «усё тое, дзе рэдка стаяць бодкі – пункты».

**Ра́давацца** 'адчуваць радасць', *ра́даваць* 'прыносіць, выклікаць радасць' (ТСБМ), рус. *ра́доваться, ра́довать*, укр. *ра́дуватися, ра́дувати*, польск. *radować się*, чэш. *radovati se*, славац. *radovát' sa*, в.-луж. *radować so*, славен. *radovati se*, серб.-харв. *ра̏довати се*, балг. *радвам се*, ст.-слав. радовати сѧ. Прасл. *radovati sę (<*radъ). Слова не мае роднасных сувязей у іншых і.-е. мовах, акрамя некаторых моў германскай групы. Тут мяркуецца і.-е. корань *rēd-(:*rod-) 'радасны, вясёлы', 'падбадзёрваць'; славянскія словы з прасл. коранем *rad- супастаўляюцца з англ.-сакс. *rōt* 'радасны', 'вясёлы', ст.-ісл. *rótask* 'станавіцца вясёлым, ясным' (Покарны I, 853; Фасмер, 3, 429 з літ-рай).

***Ра́давіца,** *ра́довіца* 'вясёлка': *узве́сіла радовіца – потопу не будзе* (ТС). Ад *радавацца* (гл.) па тыпу *вясёлка* 'тс'.

**Рада́нь** 'раўніна' (Ласт.). Гл. *раўдань*.

**Ра́дасная вада́** 'дажджавая вада, сабраная ў красавіку, якая мае цудадзейную сілу' (у мове беларускіх татараў – хамаіл 1866 г., гл. Мішкінене, Seniausi, 57), выкарыстоўвалася таксама для прыгатавання спецыяльнага чарніла пры напісанні магічных формул і знакаў: *фижмӯ из шафранам ӯ радо̄снайе вадзе на име того человека написавши* (там жа). Цёмны выраз; відаць, паходзіць ад *радасць* (гл.), аднак семантычнае развіццё застаецца незразумелым, параўн. аргат. польск. *radosny proszek* 'какаін' (Каня, Słownik, 187).

**Ра́дасць** 'пачуццё задаволенасці, весялосці' (ТСБМ), укр. *ра́дість*, рус. *ра́дость*, польск. *radość*, чэш. *radost*, славац. *radost'*, в.- і н.-луж. *radosć*, славен. *radost*, серб.-харв. *ра̏дост*, балг. *ра́дост*, макед. *радост*. Да прасл. *radostь. Гл. *радавацца, рады*.

**Ра́даўніца**₁ 'памінальны дзень' (ТСБМ, Др.-Падб., Рам. 8, Касп.), 'гандлёвы дзень у аўторак на Фаміным тыдні' (віл., Яшк. Мясц.), *ра́дуніца* 'памінальны тыдзень' (Бяльк.), *ра́дульніца* (Ян.), *ра́доница, ра́дуница* 'тс' (Нас.), *раданіца* 'тс' (Гарэц., Рам. 8), *ра́доўніца* 'тс' (ТС), ст.-бел. *радуница* (1522 г.), рус. *ра́дуница*, дыял. *раду́ница, ра́довница, ра́дошница, ра́дунки* 'радуніца', *раду́ница* 'Фаміны тыдзень' 'вясёлка', ст.-рус. *радуница*. Збліжаюць з *рад*, тлумачачы з першапачатковага 'свята раданага памінання па-

мерлых на Вялікдзень у сувязі з уваскрасеннем Хрыста' (Фасмер, 3, 431), параўн. рус. дыял. *Христов день* 'радаўніца'. Няпэўна. Малаверагодным падаецца збліжэнне з *род*, якое грунтуецца на рус. дыял. выразе *родителки* 'памінальны дзень', *родитель* 'памерлы сваяк увогуле' (Патабня, РФВ, 1, 84). Праводзячы паралелі паміж славянскім і літоўскім язычніцкім абрадам галашэння над памерлымі, які на мяжы Літвы і Беларусі існаваў да пачатку XX ст., Лаўчутэ (Балтизмы, 127–129) даводзіць, што назва *ра́даўніца* ўтворана на аснове літ. дзеяслова *raudóti* 'галасіць', 'моцна плакаць', *raudine* 'малітва з плачам і галашэннем за памерлых', параўн. суфіксальныя варыянты *raudėti, raudáuti* 'плакаць', 'галасіць'. Перамяшчэнне дыфтонга *-аў-* з першага на другі склад магло адбыцца пад уздзеяннем славянскага *рад*, з якім славяне пачалі збліжаць незразумелую для іх назву, што сумніўна, гл. Анікін, Опыт, 261. Малаверагодна вывядзенне з незафіксаванага грэч. *ροδωνια ад ροδον 'ружа' (Дзясніцкая, Слав. языкозн., IX, 92), гл. Жураўлёў, Язык ■ миф, 393.

**Ра́даўніца$_2$** 'вясёлка' (Мат. Гом.). Ад *ра́ды, радавацца* (гл.) па ўзору *вясёлка* (гл.).

**Радаўні́ца** 'беспарадак': *у яе вечная радаўніца* (капыл., Жыв. сл.). Няясна, магчыма, ад *ра́даўніца$_1$* – 'перадсвяточнае прыбіранне'? (сувязь з *рад, парадак* здаецца незразумелай у словаўтваральным плане).

**Ра́дашча** (*радоща*) 'агульная радасць' (Нас.). Мяркуецца, што запазычана з украінскай мовы (Сцяцко, Выбр. тв., 1, 237), дзе выступае як pluralia tantum *ра́дощі*, што ставіць пад сумненне наяўнасць формы адз. л. (параўн. Малдаван, Этимология–1994–1996, 210). Праблематычнай падаецца і суадносная форма адз. л. ст.-слав. **радоща**, паколькі ў пісьмовых помніках гэтая і падобныя формы на **-щи** сустракаюцца выключна ў форме мн. л., часцей за ўсё ў Тв. скл. **радощами**, што выступае ў ролі прыслоўя, якое паслужыла асновай для ўтварэння формы назоўнага і іншых склонаў (Трыпуцька, SR, 10, 81–96). Да **radostь* з пашырэннем *-(j)a* (ESJSt, 12, 745). Гл. *радасць*.

**Раджэ́й** 'радзей' (Юрч. СНЛ). Дыялектная форма слова *радзе́й*.

**Радзе́ць$_1$**, *радчэ́ць* 'рабіцца рэдкім', 'змяншацца колькасна' (ТСБМ, Касп.). Ад *рэ́дкі* (гл.).

**Радзе́ць$_2$** 'спрыяць' (Касп., Бяльк.), сюды ж *радзі́вы* 'клапатлівы, дбайны' (Сцяшк. Сл.), 'старанны' (Др.-Падб.), 'старанны, дбайны' (Гарэц.), ст.-бел. *радѣти* 'клапаціцца, дбаць'. Параўн. рус. *раде́ть* 'клапаціцца', 'хацець, жадаць', 'спадзявацца на што-небудзь', 'радавацца чаму-небудзь', *радивый* 'клапатлівы', в.-луж. *rodzić* 'хацець, імкнуцца', н.-луж. *rožeś* 'клапаціцца', славен. *róditi* 'клапаціцца, захоўваць', серб.-харв. *ра́дити* 'імкнуцца, працаваць', балг. *радя́, раде́я* 'клапаціцца, старацца', ст.-слав. **радити** 'клапаціцца'. Ад *ра́да* (гл.)



**Ра́дзі** прыназ. 'з-за' (Ян., ТС), *ра́дзі, ра́ді* 'з прычыны, дзеля' (Сл. ПЗБ). Архаізм, магчыма другаснае запазычанне з рус. *ра́ди* 'з-за', 'з мэтай чаго-небудзь'. Укр. *ра́ди, зара́ди*, славен. *zaradi*, серб. *ра̑ди*, харв. *rȁdi*, балг. *заради́*, старое *ради*, макед. *поради. заради*, ст.-слав. **ради**. Да прасл. **radi*, якое лічыцца прамым пранікненнем ст.-перс. *rādiy* 'тс' (Мартынаў, Становление, 37); іншыя разглядаюць іх як акамянелыя формы лакатыва нейкага назоўніка з тым жа і.-е. коранем (Чарных, 2, 93); паводле Глухака (515), утварэнне ад асновы на *і* прасл. **radь* ж. р., суадноснага з прыметнікам **radъ* (гл. *рады*) па тыпу *дзе́ля*: *дзе́ла* (гл.), лац. *causā*: *causa* 'справа, праца' і пад. Аўтары ESJSt (12, 744) схіляюцца да непасрэднай сувязі з **raditi/ roditi* 'дбаць, старацца' (гл. *рад$_2$*).

**Радзі́лля** 'парадзіха' (Нар. лекс.). Ад *радзі́ць* (гл.), як *тка́лля, пра́лля*.

**Радзі́ма** 'бацькаўшчына; месца нараджэння' (ТСБМ), 'сям'я, радня' (Стан.), 'айчына' (Сцяшк.). Ад *род$_1$* (гл.) з дапамогай суф. *-ім-а*, які мае значэнне прыналежнасці да чаго-небудзь, параўн. бел. *пабрацім*, серб.-харв. *rodim* 'сваяк' (Скок, 3, 152).

**Радзі́мец** 'прыпадак з сутаргамі і стратай прытомнасці' (ТСБМ, Нас., Гарэц.; сен., Гіл.), 'хвароба' (Касп.), 'невядомы злы чалавек, чорт' (Мат. Гом.), *радзі́мец* (*радимец*) 'нейкая хвароба, прыпадак у немаўлят'(Раст.), *радзі́мчык* 'дзіцячая хвароба' (Інстр. 2), 'мяккае месца на цемені ў нованароджанага дзіцяці' (Арх. ГУ), рус. *роди́мчик, роди́мец* 'прыпадак з сутаргамі і стратай прытомнасці', дыял. *роди́мец, роди́мое, родиманец*, укр. *роди́мець, роди́мчик* 'хвароба'. Ад *радзі́мы* 'прыродны, ад нараджэння', да *радзі́ць$_1$* (гл.), паколькі гэта пасляродавая хвароба. Відаць, табуізаваная назва, параўн. *родзі́мец* 'тутэйшы чалавек', *родзі́мы чолове́к* 'свой, блізкі чалавек' (ТС). Версія аб паходжанні ад назвы племені *радзімічы* (на карысць яе прыводзіцца паданне: *радзімцы – ета месныя дреўнія людзі, якія дзелылі убействы, калі хто атказуваўся ат сваіх*; параўн. таксама праклён *каб ця-*

*бе радзіміц забіў*!, гл. Яшкін, Лекс. ландш., 204–205) падаецца малавераroднай.

**Радзíмы** ‘родны, свой (ад нараджэння); спадчынны’ (ТСБМ, Нас.), *родзімы* ‘прыродны, ад роду’ (ТС). Ад *радзіць₁* (гл.) па ўзору *любімы*. Сюды ж *радзімы знак* ‘прыроджаная плямка на целе чалавека’ (Шат., Сцяшк.; ашм., Стан.), *радзімая замéтка* ‘тс’ (Сл. ПЗБ), *радзíмка* ‘тс’ (ТСБМ, Сл. ПЗБ), *радзíмае цéла* ‘непашкоджанае месца на целе’ (Ян.), *радзíмы дзень* ‘дзень нараджэння’ (Мат. Гом.), параўн. рус. *родúмое пятнó*, укр. *рóдимка, родима пляма* ‘тс’.

**Радзíна** ‘сям’я’, ‘радня’, ‘родзічы і сваякі’ (ТСБМ, Касп., Шн. 3, Ян., Янк., Мат. Гом.), *родзíна* ‘радня; нешта блізкае, падобнае’ (ТС), ‘сям’я і сваякі’ (Варл.). Даўняе запазычанне з польскай мовы, фіксуецца ў Скарыны (Цвяткоў, Запіскі, 2, 63), параўн. польск. *rodzina* ‘тс’ (< чэш. *rodina*), ст.-бел. *родина*.

**Радзíнка** ‘расліна, з дапамогай якой прыварожваюць каго-небудзь’ (Нар. Гом.). Суфіксальнае ўтварэнне ад *род₁* (гл.), аднак, матывацыя непразрыстая.

**Радзíны** ‘нараджэнне дзіцяці’, ‘святкаванне, звязанае з нараджэннем’ (ТСБМ, Нас., Касп., Сцяшк.; шчуч., лід., Сл. ПЗБ). Ад *радзíць* (гл.), як *хрысцíны* ад *хрысцíць*, *улáзіны* ад *улáзіць*, пра словаўтваральную мадэль гл. Сцяцко, Афікс. наз., 43.

**Радзíцелі** мн. л. ‘нябожчыкі, родзічы’ (Ян., Нас., Гарэц.), *радзíцелі*, *радзíцельскі дзень* ‘Дзяды’ (Мат. Гом.), *радзíцель* адз. л. ‘родзіч, сваяк’ (ст.-дар., Жыв. сл.). Значэнне ‘памёршыя бацькі’ з’явілася вынікам дыферэнцыяцыі назваў з-за семантычнага пераразмеркавання слоў *бацькí* (мясцовая назва бліжэйшых крэўных) і *радзíцелі* (з рус. *родúтели* ‘бацькі’), што з ц.-слав., ст.-слав. **родитель** ‘тварэц; бацька’ (БЕР, 6, 297). Адносна мн. л. гл. Фасмер, 3, 492.

**Рáдзіць₁** ‘настройваць’: *rádzić krosny* ‘укідаць у ніты і бёрда і затыкаць’ (Варл.), *радзíць* ‘прыбіраць, упрыгожваць’, *радзíцца* ‘прыбірацца, апранацца’ (ТС), ст.-бел. *радити* ‘падрыхтоўваць’ (Аповесць пра Трышчана). Сюды ж *раджаный* ‘падрыхтаваны для ткацтва’, ‘вытканы з узорамі’ (Юрч. СНЛ), рус. *рядúться* ‘святочна апранацца’, укр. *рядúтися* ‘збірацца’, ‘рыхтавацца’. Да прасл. **rędъ* (> бел. *рад₁*), **rediti*, першапачатковым значэннем якога было, відаць, ‘прыводзіць у парадак’, ‘парадкаваць’, параўн. укр. *рядúти* ‘парадкаваць’, ‘прыводзіць у належны выгляд’, в.-луж. *rjadować* ‘ставіць у рад’, ‘прыводзіць у парадак’, серб. *рéдити*, харв. *réditi* ‘тс’, балг. *редя́* ‘тс’. Развіццё семантыкі ішло наступным чынам: ‘ставіць у рад’ > ‘парадкаваць’ > ‘упрыгожваць’.



**Рáдзіць₂** ‘даваць раду’ (ТСБМ, Нас., Бяльк.; навагр., ашм., ваўк., Сл. ПЗБ; Гарэц., Мал., Шпіл., Бес.), ‘рабіць’ (Ян.), *рáдзіцца* ‘прасіць рады’, ‘мець раду, раіцца’ (ТСБМ, Нас., Сл. ПЗБ), *рáдца* ‘той, хто раіць, дарадца’ (ТСБМ, Нас.), ст.-бел. *радити* ‘раіць’, укр. *рáдити* ‘даваць параду’, ‘разам абмяркоўваць пытанні’, ‘шукаць выйсця’, польск. *radzić* ‘раіць, абмяркоўваць’, *radzić się* ‘радзіцца’, в.-луж. *radzić* ‘раіць’, чэш. *řadit’* ‘тс’. Да *рáда* (гл.), якое з’явілася на аснове значэння ‘рабіць’.

**Радзíць₁** ‘нараджаць’, ‘даваць ураджай’ (ТСБМ, Варл.), *родзíць* ‘тс’ (ТС), ‘весціся’ (смарг., Сл. ПЗБ), *радзíць, родзíці, родыты* ‘нарадзіць’, ‘урадзіць’ (калінк., навагр., лід., свісл., віл., в.-дзв., пруж., бяроз., Сл. ПЗБ), *радзíцца* ‘нарадзіцца’, ‘даваць ураджай’ (ТСБМ, Сцяшк. Сл.), рус. *родúть*, укр. *родúти*, польск. *rodzić*, палаб. *rudi să* (3 ас. адз. л. цяп. ч.), в.-луж. *rodźić*, н.-луж. *rożiś*, чэш. *roditi*, славац. *rodit’*, серб. *рòдити*, харв. *ròditi*, славен. *roditi*, макед. *роди*, балг. *родя́*, ст.-слав. **родити**. Прасл. **roditi*, звязана з *род₁* (гл.), параўн. лат. *radît* ‘радзіць, тварыць’, *rads* ‘родзіч, радня, род’, далейшыя сувязі з ст.-інд. *várdhati* ‘памнажацца, павялічвацца, набываць сілу’ (Фасмер, 3, 492; Бязлай, 3, 190; Шустар-Шэўц, 2, 1230; БЕР, 6, 146).

**Радзíць₂** ‘прарэджваць’ (смарг., брасл., Сл. ПЗБ; Юрч. СНЛ), ‘рэдка сеяць’ (Варл.), *радчáны* ‘прарэджаны’(докш., Сл. ПЗБ). Ад *рад₁* (гл.) з пачатковым значэннем ‘фарміраваць рады’ або ад *рэдкі* (гл.), г. зн. ‘рабіць радзей’.

**Радзю́га** ‘посцілка з грубай тоўстай тканіны’ (Ян., Сл. Брэс.), ‘дзяружка’ (Сцяшк.; навагр., Сл. ПЗБ), ‘грубая тканіна (Чач.), *радзю́жка, радзю́шка* ‘дзяружка’ (ТСБМ, Нар. лекс., Сцяшк.; смарг., маст., свісл., ваўк., гарад., Сл. ПЗБ; беласт., ЖНС), ‘посцілка з грубых нітак’ (Юрч. СНЛ), ‘саматканая посцілка’ (Выг., Мат. Гом.), *радзю́жына* ‘грубая, рэдкая тканіна’ (Федар.), ‘гунька’ (гарад., Сл. ПЗБ). Няма дакладнай этымалогіі. Можна меркаваць, што ўварылася ад *раднó* (гл.) пад уплывам слова *дзяру́га* (гл.) або ад *рэ́дкі* (гл.). Паводле Карскага (2–3, 33), – перастаноўкай складоў з *дзяруга* (< *драць*, гл.).

**Радлó** ‘плуг акучваць бульбу’, ‘акучнік’ (Сцяшк., Сцяшк. Сл.), сюды ж *радлавáць, радлíць* ‘акучваць’ (там жа). Адаптаваны па

націску (відаць, па тыпу *вясло́, памяло́*) паланізм. З польск. дыял. *radło* 'саха'. Параўн. *ра́ла₂* (гл.).

**Радне́й** 'раней' (карэліц., Сл. ПЗБ), *ра́дні* 'ранні' (навагр., Сл. ПЗБ). Да *ране́й, ра́нні* з дысімілятыўным *д*.

**Радно́**, *радні́на* 'тоўстае палатно з пяньці або льняной пражы, а таксама выраб з такога палатна' (ТСБМ), 'грубае саматканае палатно' (Арх. Федар.), 'саматканая посцілка з грубай пражы' (Сцяшк.), 'палатно, тканае ў чатыры ніты' (Варл.), 'тканіна з рыззя, посцілка' (гродз., ваўк., беласт., чэрв., Сл. ПЗБ), 'грубае ільняное палатно, рэдка вытканае; прасціна або накрыўка на ложак з такога палатна' (Федар.), 'атрэп'е' (чэрв., Сл. ПЗБ), *родно́* 'тс' (ТС; драг., ЖНС), *радні́на, радны́на* 'грубае, дамотканае палатно' (Сл. ПЗБ, Касп.), *радня́ны* 'зроблены з радна' (ТСБМ), *радня́ны, радніно́вы* 'зроблены з грубага палатна' (пін., паст., Сл. ПЗБ), *радня́ніца* 'ніткі з адходаў ільну' (Сцяшк.), сюды ж, відаць, *радавы́* 'зроблены з грубай ільняной пражы', *радаво́е* 'тканіна, вытканая ў рады' (Сл. Брэс.), *радаво́я* 'пачаскі' (баран., Сл. ПЗБ), ст.-бел. *рядно, редно, радно* 'тоўстае палатно з ільняной або канаплянай пражы', рус. дыял. *редно́, рядно́, редни́на, редови́на, рядови́тина, редчи́на* 'грубае палатно на рэдкай аснове для посцілак, мяшкоў', польск. дыял. *radno* 'тканае ў рады палатно з дрэнных нітак' (з беларускай мовы). Існуе некалькі версій паходжання слова. Даль звязвае назву са словам *рэдкі* (Даль, 3, 1763), гл. Праабражэнскі (2, 230) падае як утварэнне ад *рад* (гл.). Чумакова сцвярджае, што слова з'яўляецца назвай складанага спосаба ткання ўручную, пры якім атрымліваецца тканіна з перапляценнем у выглядзе касых прыступкавых радкоў, параўн.: *рядны́й – тканый нарочито рядами* (Нас., 571). Улічваючы гэта, яна прапануе разглядаць слова *радно* як субстантываваную форму прыметніка *ра́дны*, які быў утвораны на базе назоўніка *рад*, звязанага з абазначэннем асобай тэхнікі ткання і асобай фактуры тканіны. Такое тоўстае і шчыльнае палатно выкарыстоўвалася для гаспадарчых патрэбаў – на посцілкі, мяшкі, і з часам набыло значэнне 'грубая саматканая тканіна для гаспадарчых патрэбаў'. Замацаванню ўтварэння на *-но (радно)* спрыяла тое, што ў групе назваў саматканак ужо былі тэрміны тыпу *сукно, палатно* (Чумакова, Этимология–1968, 171–175). Аднак формы тыпу *радаво́я* 'пачаскі' і асабліва *радно́* 'атрэп'е', параўн.: *як трапаеш – атходзіць радно* (чэрв., Сл. ПЗБ), сведчыць пра



першаснае аднясенне назвы да працэсу апрацоўкі ільну або пянькі для аддзялення матэрыялу больш высокай якасці ад звычайнага, радавога, параўн. ст.-слав. **издрадьнъ** 'надзвычайны', рус. *из ряда (вон)* 'вышэйшай якасці, выдатны'.

**Радня**, да *род₁, родны* (гл.).

**Радны́** 'родны' (брасл., Сл. ПЗБ). Гл. *ро́дны*. Пераход націску адбыўся пад уплывам аднакарэннага рус. *родно́й* 'родны' ці ў выніку характэрнага для паўночна-заходняй зоны беларускіх гаворак зруху націску, параўн. *куры́ца* 'курыца' і пад.

**Радо́вішча** 'месца нараджэння карысных выкапняў' (ТСМБ), *радо́вішчы* 'нетры' (Сцяшк. Сл.). Уведзена ў літаратурную мову стваральнікамі БелСЭ (Каўрус, Мова народа, мова пісьменніка, Мн., 1989, 230) як калька рус. *месторождение* 'тс'; аўтарства прыпісваецца Я. Казеку (Полымя, 1997, 12, 2000; Роднае слова, 1995, 1, 11). Параўн. аднак укр. *родови́ще* 'тс', што побач з рус. *родни́к* 'крыніца' сведчыць аб прадаўніх уяўленнях пра нараджэнне (корань *род-*) усяго існага (Німчук, Давньорус., 14).

**Радо́ста** 'ружа войлачная', 'шыпшына' (гродз., Кіс.). Няясна. Адзінкавая назва, магчыма, звязана з ст.-рус. *радостома* 'настойка ружы', што з с.-грэч. ροδόσταμα < ροδοσ-ταγμα (параўн. Фасмер, 3, 492).

**Радо́ўка₁** 'від грыбоў' (ТСБМ; астрав., смарг., мядз., бярэз., Сл. ПЗБ; ЖНС, Бяльк.). Назва ўтворана ад слова *рад₁* (гл.), таму што гэтыя грыбы растуць радамі (Сярж., Грыбы). Параўн. *мяжо́ўка* 'цімафееўка' – расліна, якая расце па межах дарог (гл.) і пад.

**Радо́ўка₂**, *ратоўка, радо́ўга* 'чарга' (ТСБМ, Гарэц., Яруш.; брасл., чэрв., бярэз., докш., навагр., лід., дзятл., Сл. ПЗБ; Сцяшк., Ян., Юрч.), 'чарга пасвіць кароў, авечак і да г. п.' (Ян., Касп.), 'чарговае ўтрыманне нанятага пастуха' (чэрв., лаг., брасл., Сл. ПЗБ; Сцяшк.). Ад *рад₁* (гл.); параўн. балг. *реди́ца* 'рад, шэраг'.

**Ра́дуга**, *ра́духа* 'вясёлка' (ТСБМ; зэльв., маст., Сл. ПЗБ; Сцяшк.; пруж., ДАБМ, камент.), *радзіха* 'вясёлка' (слонім., ДАБМ, камент.), рус. *ра́дуга*, рус. дыял. *ра́йдуга, ра́вдуга, ра́духа, ра́дута, радуни́ца*, укр. *ра́йдуга, ра́дуга*. Усходнеславянскі лакальны тэрмін. На Беларусі зафіксаваны паўсюдна (ДАБМ, карта № 312). Складаецца з дзвюх частак: *ра- (рай)* і *дуга* (гл.). Галоўную цяжкасць уяўляе тлумачэнне першай часткі слова *ра-*. Па народных уяўленнях *ра́дуга* з'яўляецца добрай прыметай, выражэннем божай ласкі,

параўн. рус. дыял. *божья дуга* 'вясёлка', таму верагодным падаецца збліжэнне яе са словамі *рáды, рáдасць* (гл.). На карысць гэтага сведчыць і назвы рэаліі з коранем **vesel-* – *вясёлка, весялуха* (гл.), а таксама найменні *рáдовіца, рáдавіца, рáдаўніца* (ТС). Па іншай версіі, слова ўтварылася ў выніку гаплалогіі ад спалучэння тыпу **рада-дуга*, як *будні* з **будьни(е) дьни* (Чарных, 2, 95; Талстой, ОЛА, Исследов., 1974, 52). Найбольш верагодным лічаць паходжанне з **radǫga*, вытворнага ад * *rad-* і *dǫg-* (>*дуга*, гл.) (Фасмер, 3, 431; Праабражэнскі 2, 171; Талстой, ОЛА, Исследов., 1974, 52). Палес. *рáдовіца, рáдавіца* ўтворана ад кораня **rad-* як *бліскавіца, зараніца* (Талстой, там жа, 30). Адносна распаўсюджання ў еўрапейскіх назвах вясёлкі матывацыі 'радасць, шчасце, весялосць' гл. ALE, 1, 9. Другі элемент у шмат якіх мовах разумеецца як 'лук', гл. Алінеі, ОЛА, Исследов. 1983, 106–110; Жураўлёў, Язык и миф, 69, 179–180 (з аглядам літ-ры).

**Радулі**, *рададýлі* 'вялікі воз для перавозкі сена і снапоў' (Касп.), рус. смал. *рáдыли* 'высокі воз для перавозкі сена і снапоў'. Балтызм. Параўн. лат. *rēdele* 'воз для перавозкі сена, саломы', *radeles* 'яслі, кармушка' (Блесэ, SB, 9). Не выключана таксама паходжанне з эст. *redel* 'драбіна, прыстасаванне для сушкі сена' (Анікін, Опыт, 264).

**Рáдуніца** 'дзень памінання продкаў' (Скарбы; гом., Талстая, Полес.), *радуніца: да абеда плачуць, а па абедзе скачуць* (Сержп. Казкі), *рáдунішта (рáдашна) нядзеля* 'тыдзень пасля Вялікадня' (Мат. Гом.), *рáданец* 'тс' 'радаўніца' (КЭС), параўн. рус. *рáдуница* 'тс', *радунúца* 'Фаміны тыдзень'. Гл. *радаўніца*. Паводле Анікіна (Опыт, 261), названыя формы з'яўляюцца больш раннімі, чым формы са слядамі дыфтонга *au*, якім прыпісваецца балтыйскае паходжанне (Лаучутэ, Балтизмы, 127–129) і якія могуць адлюстроўваць збліжэнне з *радавацца* (гл.). На гэтай падставе нельга не пагадзіцца з Жураўлёвым (Язык и миф, 393), што з'ява можа мець дахрысціянскія вытокі і славянскія карані, параўн. балг. *редунúца* 'рад, шэраг' (Сб. НУ, 38, 138), *изрéждам* 'прычытаць, пералічаць', *редóвна недéля* 'другі тыдзень перад Сырапустным або трэці перад Вялікім постам', *редовнá недéля* 'тыдзень ад Мясаеда да Сырапустнага тыдня' (узводзіцца да *ред* 'рад', БЕР, 3, 201) і жытом. *рáдовый дэнь* 'радаўніца' (Талстая, Полес., 205).

**Радýты** 'бяседа з частаваннем у суботу ці нядзелю' (навагр., З нар. сл.). Няясна.



**Радýшкі** 'лісічкі' (воран., Сл. ПЗБ). Назва ўтворана ад *рудýшкі* 'тс' (астрав., іўеў., там жа), якое ў сваю чаргу з'яўляецца запазычаннем з літ. *rudùškà* 'лісічка' (там жа).

**Радчýха** 'памылка пры ўвядзенні асновы красён у бёрда' (ганц., Сл. ПЗБ). Утворана ад *рад₁* або *рэ́дкі* (гл.) па той жа словаўтваральнай мадэлі, што і словы *шастýха, сямýха* 'назвы бёрда па колькасці пасмаў асновы'.

**Рáды** 'задаволены, абрадаваны' (ТСБМ; віл., Стан.; Сл. ПЗБ, ТС), *рад* 'тс': *я й сам сабе рад* (Сержп. Прык.), сюды ж памянш. *радзю́сенькі* 'вельмі рады' (Нас.), укр. *рáдий, рад*, рус. *рад*, польск. *rad*, кашуб. *råd*, чэш. *rád*, славац. *rád*, в.-, н.-луж. *rad*, палаб. *rådo* ж. р., славен. *ràd*, серб.-харв. *ра̏д*, балг. дыял. *рад*, макед. дыял. *рад*, ст.-слав. **радъ** 'радасны, вясёлы'. Прасл. **radъ*, параўн. ст.-англ. *rōt* 'вясёлы, бадзёры', ст.-ісл. *rétast* 'абрадавацца'; звязваюць таксама з прасл. **raditi/ *roditi* 'дбаць, старацца' (Шустар-Шэўц, 2, 1200), гл. *рад₂, радзець₂* (ESJSt, 12, 745 з аглядам літ-ры; Глухак, 515; Бязлай, 3, 143; БЕР, 6, 142–143).

**Рады́** 'гадавыя кругі на рагах каровы' (смарг., лудз., Сл. ПЗБ). Да *рад₁* (гл.)

**Рáдыё** 'устройства для прыёму гукаў' (ТСБМ), *рáдзіво, рáдзіва, рáдіво, рáдзія* 'радыё' (Сл. ПЗБ, Жд. 2, Сцяшк., Скарбы, Мат. Маг. 2). Паходзіць з лацінскага *radio* 'выпраменьваю'. У беларускую мову трапіла праз польскае або рускае пасярэдніцтва, параўн. рус. *рáдио*, польск. *radio*. У гаворках набыло беларускае фанетычнае аблічча.

**Радыкулíт** 'хвароба карэньчыкаў спінамазгавых нерваў' (ТСБМ), *радзікулíт, радукулíт* 'тс' (Сл. ПЗБ). Ад лац. *radicula* 'карэньчык', новалац. *radiculitis*. Запазычана праз пасрэдніцтва рускай мовы ў пачатку XX ст., параўн. рус. *радикулúт* 'тс'.

**Раёвáць** 'жыць у шчасці і дастатку' (ТС). Ад *рай₁* (гл.), праз параўнанне 'жыць, як у раі', словаўтварэнне як у *бедавáць, гаравáць*.

**Раёк** у песні: *Ішоў раёк дарогаю,/ дарогаю шырокаю./ Хади раёк, на мой дварок* (Рам. 8), 'пучок нязжатага жыта на полі, убраны кветкамі', 'дажыначная песня' (рас., брасл., красл., Сл. ПЗБ). Памяншальная форма ад уласнага імя міфічнай істоты *Рая* – апякуна ўраджаю і багацця, "жытнага дзеда" (Бел. міф., 422). Гл. *рай₂*.

2 Зак. 2628

**Раёўка** (*rajoйka*) 'густы зростак сучкоў на дрэве' (Варл.). Да *рай₂*, *раіцца* (гл.), параўн. тлумачэнне ў слоўніку: "раёўкі вешаюць у хлевя, каб статак вёўся" (там жа).

**Раёўня**, *раёўня, раяўня, раёўка, райніца* 'посуд, куды аграбаюць рой' (магіл., віц., палес., ЛА, 1), *раéльнік, раёўніца, раёўнік* 'прыстасаванне для лоўлі пчалінага рою' (глыб., в.-дзв., слонім., Сл. ПЗБ; Сцяшк.), *раёк* 'каробка для пчалінага рою' (Нас., Гарэц.), укр. *роíвня*. Ад *рой₁* (гл.).

**Раёшкі**: *у раёшкі* 'поўна , даверху'. З *у краёчкі* (*краёшкі*) 'да краёў', дзе адпала пачатковае *-к-*. Ад *край₁* (гл.).

**Ра́жа** 'дзёран' (Мат. Гом.), *ра́жжа* 'тс' (Ян.). Няясна. Параўн. лат. *raža* 'ураджай', паводле Фасмера (3, 492), апошняе з і.-е. **rodiā*, звязанае з *род₁* (гл.). Параўн. таксама *рэ́жа* 'дзёран', гл. *рэж*.

**Ражада́** 'апельсінавы напітак' (трак., Сл. ПЗБ). З польскага *oranżada* 'тс' з адпадзеннем пачатковага *о-* і пераносам націску, магчыма, пад літоўскім уплывам.

**Ража́йны** 'урадлівы' (Сцяшк. Сл.). Відаць, па паходжанні звязана з ст.-бел. *рожай* 'род, племя; пол, від; пакаленне' (Ст.-бел. лексікон), параўн. *рожай чл҃вчей* (XV ст., Карскі, 1, 221), што суадносіцца з польск. *rodzaj* 'тс'. Да *род₁*, *радзіць* (гл.).

**Ража́нец** 'ружанец' (ашм., Станк.; астрав., Сл. ПЗБ). Ад *ружа́нец* (гл.), які ў сваю чаргу з лац. *rosa* 'ружа'. Мена *у/а* адбылася ў выніку падаўжэння галоснага.

**Ра́жанка** 'брага' (Сцяшк. Сл.), *ра́жанка, ра́жанка* 'паранае малако, запраўленае смятанай' (Сл. Брэс.), *ра́жэнка* 'тс' (ТС), *ражы́нка* 'пена ад масла' (Бяльк.), *ра́жанка, ра́жынка* 'скіслае гатаванае малако, змешанае са смятанай' (Вешт.), польск. дыял. (з бел.) *rażanka* 'адтопленая смятана' (Карл.), рус. *ря́женка* 'квашанае топленае малако', дыял. *ра́женка* 'заквашанае гатаванае малако'. Этымалогія цьмяная. Можна выказаць некалькі версій. Хутчэй за ўсё, да *ра́дзіць₁* 'настройваць, наладжваць' (гл.). На карысць гэтай версіі сведчыць гомельская назва ражанкі – *ро́блянка*, а таксама сінонім *ря́жаная саракваша* (Растарг.) пры *рядный* 'харошы, прыгожы' (там жа). Калі дапусціць запазычанне, то не выключана, што рускае слова магло быць утворана ад *ра́жий* 'гожы, харошы', адносна якога гл. Фасмер, 3, 432; гэта значыць, што *ра́жанка* літаральна 'апрацаванае (палепшанае) малако'.



Менш верагоднае ўзвядзенне да прасл. **ręd-* 'трасці, калыхацца' (> польск. дыял. *rzężowisko* 'балота, дрыгва').

**Ража́ньяйка** *(рожаньяйко)* 'кароткія вілы для перадачы снапоў' (Нар. Гом.). Ад *ражо́н* (гл.).

**Ражаство́**, *раждожаство́* 'каляды' (Нас., Сл. ПЗБ, Бяльк.), *рожество́, роздво́* 'тс' (Талстая, Полес.), *ражство́* 'тс' (Гарэц.), *рождво́* 'тс' (ПСл), *роздво́* 'тс' (ТС), параўн. укр. *різдво́*, рус. *рождество́*, польск. *Boże Narodzenie*, чэш. *Narození Páně*, серб. *рожде̏ство*, харв. *roždastvo, roždestvo*, балг. *рождество́*, ст.-слав. **рождьство, роздьство**. Утворана ад *радзіць₁* (гл.). Ва ўсходніх славян у XI–XII стст. свята мела назву *рожьство*, пазней – *рожество* (Сразн.), ст.-бел. *роство, розтво* (1387 г.), апошняе з *рожьство* (> *росство*, гл. Карскі, 1, 284), што адпавядала зыходнай старaславянскай форме гэтага слова са значэннем 'нараджэнне', 'дзень нараджэння'. Параўн. ст.-бел. *роженье: день роженья его* (Альтбаўэр) як сінанімічнае ўтварэнне ад таго ж кораня, але з іншым суфіксам, сучаснае *раждожэ́нне* 'нараджэнне' (Сл. ПЗБ), *рожэ́нье* 'тс' (ТС) (Фасмер, 3, 493; Чарных, 2, 119–120; БЕР, 6, 304).

**Ражґе́рыць** 'расставіць' (в.-дзв., Сл. ПЗБ). Відаць, прыставачнае ўтварэнне ад літ. *žergti* 'расстаўляць, растапырваць', параўн. *разжыгéрыцца* 'расставіць ногі' (ковен., Карскі); зрэшты, апошняе можа быць "звонкім" варыянтам да *расшчакерыць* 'тс' (глыб., Сл. ПЗБ).

**Ра́жка**, *ра́шка, ря́шка* 'цэбар'; 'драўляная нізкая пасудзіна, у якой замешваюць есці свінням' (докш., в.-дзв., трак., вільн., рас., Сл. ПЗБ; Сл. Брэс.), 'кубелец для сала', 'вялікая міска, цэбар, у якім даюць есці свінням' (Сцяшк. Сл., Бяльк.), 'банны посуд' (Касп.), 'мерка для зерня, бульбы ў 1,5 пуда' (ТС), 'начынне для памыяў' (Бес.), 'цэбрык з адным вухам, перан. морда' (ПСл), 'цэбар', 'галава' (Сцяшк. Сл., Ян., Мат. Гом.), ст.-бел. *ряжка* (1690 г.), *ражка* (1550 г.), сюды таксама *ра́жа* 'кубел' (Мат. Гом.), рус. дыял. *ря́жка, ря́шка* 'памыйны посуд, таз', 'банная шайка, вядзерца, чарпак', *ра́жка* 'рагатка', 'невялікая скаба, якая злучае клёпкі бочкі пры надзяванні абручоў', 'падстаўка ў выглядзе рагаткі, стойкі', 'карыта для кармлення свіней', укр. *ря́жа, ря́жка* 'чан'. Сцяцко (Сцяц. Нар., 93–94) лічыць памяншальна-ласкальным утварэннем ад *ра́га* 'ражка', зафіксаванага беларускімі слоўнікамі

20-х гадоў XX ст., якое, у сваю чаргу, з'яўляецца лексіка-семантычным утварэннем ад *рага* 'струменьчык вады': *рагь-ък-а>ражка*. Няпэўна, хутчэй наадварот. Некаторыя тлумачаць слова як утварэнне ад *рад₁* (гл.), параўн. *абруд* узводзячы яго да **ob-rodъ* (Праабражэнскі, 2, 241; Трубачоў, Слав. языкозн., V, 176; ЭССЯ, 29, 118). Фасмер (3, 537) лічыў такую этымалагізацыю недастаткова аргументаванай. Магчыма, мае сувязь з *рэ́дкі*, параўн. рус. *ре́жа, ря́жа* 'рыбалоўная сетка з рэдкім пляценнем' (< **rědja*, гл. Фасмер, 3, 460), параўн. таксама *ра́жанка* (гл.). Значэнне 'шырокі твар, морда; вялікая галава' хутчэй за ўсё, позняе запазычанне з рускай, параўн. *ра́жесть* 'прыгажосць', 'паўната', 'тлустасць', *ра́жий* 'вялікі, буйны (пра рэчы, прадметы)'.

**Ражкі** 'спарыння' (Гарэц.; круп., Сл. ПЗБ; Выг.). Ад *рог₁* (гл.). Метафарычны перанос па форме, параўн. аналагічныя назвы ў іншых мовах: рус. *ржаны́е рожки́*, славен. *rženi rožiček*, балг. *мо́раво ро́гче*.

**Ражо́н** 'завостраны кій' (ТСБМ), 'вострая палка' (іўеў., воран., паст., трак., Сл. ПЗБ), 'кол' (карэліц., Сл. ПЗБ), 'дзяржанне' (слонім, Сл. ПЗБ), 'стрэмка' (паст., астрав., смарг., ігн., шзянч., Сл. ПЗБ), 'стрыжань пяра птушкі' (гродз., шчуч., Сл. ПЗБ), 'шост' (ваўк., Сл. ПЗБ), 'сцябло' (пух., воран., Сл. ПЗБ), 'галлё, палка' (Сцяшк., Нар. Гом., Др.-Падб., Янк. 2), 'палка, на якую набіваюць жалезную частку вілаў' (Выг.), 'драўляны пруток, на якім смажаць сала' (Нар. словатв.), *рожо́н* 'завостраны кіёк' (ТС), *ро́жан* 'тс' (Мат. Гом.), *ражэ́нь* 'тс' (Юрч. СНЛ), *рожно́* 'тс' (Сл. Брэс.). Сюды ж *ражэ́ннік* 'ламачча' (Юрч. СНЛ). Рус. *рожо́н*, 'кол, вострая жэрдка', *рожны́* 'вілы для гною', укр. *роже́н* 'ражон', польск. *rożen*, в.-луж. *rožeń*, н.-луж. *rožeń, rožon*, чэш. *rožeň*, славац. *ražeň*, славен. *rážènj*, серб.-харв. *ра́жањ* 'ражон', балг. *ръже́н* 'качарга, ражон', ц.-слав. *ражьнъ, раждьнъ* 'кол'. Прасл. **oržьnь/ъ*, параўн. літ. *rãžas* 'сухі прут, сцябло'. Калі лічыць утварэннем ад *рог₁* (Махэк₂, 521–522), тады незразумелымі застаюцца формы на *ра-*, якія дазваляюць дапускаць паходжанне з **oržьn-* або **orznjo-* (Фасмер, 3, 493; Брукнер, 466; Бязлай, 3, 161). Але гэтая версія таксама недастаткова матываваная. З іншага боку, ставіцца пытанне аб паходжанні ад **razъ, *raziti* і зближэнні з **rogъ* (Брант, РФВ 23, 100). Непераканальным падаецца параўнанне з грэч. ὄρχατος 'агароджа', ὄρχάς 'плот' (Лёвенталь, AfslPh, 37, 391).



**Ражо́ўка** 'рыбалоўная сетка' (Мат. Гом., Нар. Гом.), *ра́жаўка, рыжо́ўка* 'тс' (там жа), *рэжо́ўка, рэжу́ха* 'стаўная сетка з двума палотнамі (рэдкім і густым)' (ТС). Да *рэ́дкі*, параўн. *рада́к, рэдзь₂* (гл.), а таксама рус. *реде́ль* 'больш рэдкая сетка', *ре́жа* 'рыбалоўная сетка з рэдкім пляценнем' (< **rědja*, гл. Фасмер, 3, 460).

**Ражы́на** 'кветка ружы' (Нар. Гом.). Слова ўтворана ад *ро́жа* 'ружа' (гл.) з дапамогай суфікса *-ын-а* са значэннем адзінкавасці, як *гарошына, алёшына*.

**Раз-**, *рас-* – прыстаўка, гл. таксама *роз- (рос-)*, рус. *раз- (рас-), рос- (роз-), разо-*, укр. *роз-*, польск. *roz-*, н.- і в.-луж. *roz-*, славац. *raz-, roz-*, чэш. *roz-*, славен. *raz-*, серб.-харв. *раз- (рас-)*, балг. *раз-*, ст.-слав. **раз-, роз-**. Да прасл. **orz-*. Некаторыя збліжаюць прасл. **or(z)-* з літ. *ardýti* 'разлучаць, разбураць', асец. *ærdæg* 'палавіна', ст.-інд. *árdhah* 'палавіна' (Покарны, I, 333). Рэканструяванае *orz-* з **or-* і *-z-* (як у прыназоўніка *без*, гл.); **or-* звязваюць з **oriti*, што ў **orzoriti* (гл. *разарыць*), можа быць роднасным *ar-* у *араць* (гл.), далейшыя сувязі з **rědъkъ* (гл. *рэ́дкі*) (ESSJ, 1, 149). Мяркуецца, што першапачаткова **orzъ* было назоўнікам і прыслоўем. Магчыма рэканструкцыя і.-е. **ordh-/*ardh-*, з якога ў далейшым пры ўзаемадзеянні з пачатковымі зычнымі слоў узнікла прыстаўка (Глухак, 520). Асноўнае яе значэнне ў прыдзеяслоўным ужыванні – 'адлучэнне, адасабленне, разбурэнне' (Сной₂, 604), у прыіменным ужыванні – 'узмацненне' (ESSJ, 1, 148).

**Раз**, *рас* 'абазначае аднакратнасць дзеяння', 'указвае на час дзеяння ў адносінах да раду падобных дзеянняў', 'выражае ступень павелічэння або змяншэння суб'екта дзеяння, уласцівасці і да г. п.' (ТСБМ), 'адзін (ліч.)', 'аднойчы' (ТСБМ, Яруш., Нас.; смарг., в.-дзв., гарад., брасл., віл., гродз., Сл. ПЗБ), 'пра пачатак дзеяння' (Нар. лекс., Бяльк.), ст.-бел. *разъ* 'удар', рус. *раз* 'тс', укр. раз 'тс', польск. *raz* 'раз', в.- і н.-луж. *raz* 'раз', славац. *raz* 'характар', 'удар', чэш. *ráz* 'удар, адбітак', 'чаканка', 'тып, характар', славен. *râz* 'лапатка для адмервання зерня', серб.-харв. *ра̑з* 'лапатка для адмервання зерня', 'акладня плуга'. Першапачатковае **razъ* 'удар' звязана чаргаваннем галосных з *рэ́заць* (гл.), параўн. *раз* 'скіба зямлі' (у слоўніку Каратынскага, гл. Мальдзіс, І ажываюць спадчыны старонкі. Мн., 1994, 71). Роднаснае літ. *rúožas* 'паласа, рыска', *rė̃žti* 'рэзаць, рабіць рысу', лат. *ruôza* 'узвышанасць', 'паласа, рад, сенажаць', грэч. ῥώξ 'расколіна', ῥήγνῦμι

‘рву, праломваю’ (Фасмер, 3, 433; Праабражэнскі, 2, 177; БЕР, 6, 148). Першапачатковае значэнне ‘рэзаць’ (параўн. рус. *разúть*, чэш. *raziti* ‘чаканіць, біць’) развілося ў ‘пачынаць дзеянне’ > ‘рабіць адзін раз, першы раз’ > ‘адзін раз’. Сюды ж злучнікі *раз, рас* ‘калі’ (мядз., паст., Сл. ПЗБ): *раз ня можаш піць, то не трэба табе жыць.*

**Ра́заваць** ‘рабіць адзін раз’ (Янк. 3), *разова́ты* ‘баранаваць (адзін раз)’ (кам., ЖНС). Ад *раз* (гл.)

**Раза́к** ‘разак (трава)’, ‘асака’ (чэрв., воран., лід., трак., паст., іўеў., ганц., барыс., докш., дзятл., Сл. ПЗБ), ‘трыснёг’ (Кіс.). Утворана ад *рэ́заць* (гл.), паколькі расліна мае вострыя краі.

**Раза́ля** ‘страва, прыгатаваная з тоўчанай бульбы і цыбулі’ (шчуч., Сл. ПЗБ). Іранічна да франц. *rossolis* ‘лікёр з духмянасцямі’?

**Ра́зам,** *разо́м* ‘сумесна, адначасова’ (ТСБМ, Мал., Касп., Яруш., Шпіл.; воран., брасл., ігн., смарг., лід., пруж., беласт., Сл. ПЗБ; Бяльк.), ‘то’ (Юрч. СНЛ), рус. дыял. *ра́зом* ‘адным разам’, ‘раптам, імгненна’. Вытворнае ад *раз* (гл.).

**Разá́нік** (*рэза́нік*) ‘звараная неабіраная перарэзаная напалам бульба’ (жытк., Нар. словатв.), *рэ́занік, рэза́нікі* ‘тс’ (ТС). Утворана ад *рэ́заць.*

**Разама́ра** ‘неахайны чалавек; пудзіла’ (Нас., Гарэц. 1). Паводле Насовіча (там жа), ад *размара́ць* (гл. *мара́ць* ‘пэцкаць’), што выклікае словаўтваральныя цяжкасці; хутчэй, да *ма́ра* ‘прывід, страшыдла, пачвара’ (гл. *мара́₁*) з узмацняльнай прыстаўкай *раз(а)-* (гл. *раз-*), параўн. *разне́слух* ‘вялікі неслух’ (Нас.), *раздо́бры* ‘вельмі добры’, *раздаўны́м даўно́* ‘вельмі даўно’. Не вельмі ясныя адносіны да чэш., славац. *rozmar* ‘капрыз, настрой’, што параўноўваецца з польск. *rozmarzony* ‘адданы марам, летуценнік’ (Махэк₂, 520), тады да *mara* ‘летуценне’ (гл. *ма́ра*).

**Разары́ць,** *разара́ць* ‘пазбавіць дастатку, багацця’, ‘давесці да беднасці’ (ТСБМ), *разары́цца* ‘пагоршыцца’ (Ян.), укр. *розори́ти* ‘зруйнаваць; спустошыць’, рус. *разори́ть*, серб.-харв. *разо̀рити*, ст.-слав. **разорити**. Да прасл. **orz-oriti*, гл. *раз-*, другая частка прадстаўлена ў балг. *о́ря* ‘рушыць’, дыял. серб. *о̀рити* ‘тс’, ст.-слав. **орити** ‘казіць, разбураць’, суадносіцца з іншай ступенню рэдукцыі з літ. *irti*, лат. *ĩrt* ‘аддзяліць, адлучыць’, роднаснага з хец. *ḫarra-* ‘ламаць, разбураць, драбіць’ (Фасмер, 3, 435; Глухак, 520; ESJSt, 10, 593). Сюды ж *разура́ць, разу́рываць* ‘разбураць’, ‘штур-



хаць на бушаванне, буянства’, *разура́цца* ‘бушаваць, буяніць’, *разура́нне* ‘бушаванне, буянства’, *разура́ный, разура́тый, разу́рыванный* ‘разбураны’ (Юрч. СНЛ), *разарэ́нне* ‘разбурэнне’, ‘рабаванне’ (ТСБМ), ‘разбурэнне’, ‘бяда, клопаты’, ‘нашэсце ворага’ (Нас.), *разо́р* ‘непрыемнае становішча’ (Нас.), ‘разлад’ (Ян.), ‘разарэнне’ (Гарэц.), *разо́ра* ‘разарэнне’, ‘трывога, непакой’, ‘сварка, разрыў’ (Нас., Гарэц.), ‘няпэўнасць думак’ (Бяльк.), з падобнымі значэннямі укр. *розо́р*, рус. *разоре́ние* ‘разбурэнне, рабаване’, рус. дыял. *разо́ровать* ‘бушаваць, буяніць, біць, ламаць’, серб.-харв. *разу̀рити* ‘разбурыць’ і пад.

**Разатну́ць** (*разотну́ць*) ‘рассекчы адным узмахам’ (Нас.), *расціна́ць* ‘рассякаць папалам’, *разотну́тый* ‘рассечаны напалову адным узмахам’ (Нас.). Ад *раз-* і *тну́ць* ‘ударыць’, ‘укусіць’, гл. *цяць.*

**Разаўрэ́ць** (*разовре́ць*) ‘разапрэць, моцна ўспацець’, *разовре́лый* ‘моцна ўспацелы, разапрэлы’ (Нас.). Да *ўрэць* (гл.), *врець* [*врѣць*] ‘абліваццa потам’, ‘вянуць’ (Нас.), *врэць* ‘кіпець’ (КЭС), рус. дыял. *вреть* ‘моцна пацець’, укр. *врíти* ‘кіпець’, польск. *wrzeć*, чэш. *vříti*, славац. *vriet’*, славен. *vréti*, серб.-харв. *вре̏ти*, балг. *вря*, ст.-рус. *вьрѣти* ‘кіпець’, ст.-слав. **вьрѣти**. Да прасл. **vrěti*, звязанага з **vīrъ* (> *вір₁*, гл.), **variti* (> бел. *вары́ць*). Роднасныя да літ. *vérdu, vìrti* ‘кіпець, бурліць’, *versmē*‘крыніца’, лат. *vȋrt, vȩ̑rdu, virags* ‘вір’ (Фасмер, 1, 362). Да і.-е. **u̯er-/* u̯or-, * u̯r-* ‘гарэць’, ‘паліць’ (ЕСУМ, 1, 433; Махэк₂, 702–703; БЕР 1, 193; Скок 3, 622–624).

**Раза́чка** ‘боль у жываце’ (Сцяшк., Янк. 2, Янк. 3), ‘ліха, халера’ (Нар. словатв.), *раза́нка* ‘дызентэрыя’ (Інстр. 2). Аддзеяслоўныя ўтварэнні, як *гара́чка* ад *гарэ́ць, гуля́нка* ад *гуля́ць*, ад *рэ́заць* (гл.).

***Разбагну́ць,** *розбагну́ць* ‘усвядоміць, зразумець’ (ТС), параўн. укр. *розбага́ть* ‘пажадаць, марыць’, чэш. *rozbahnouti* ‘пажадаць, захацецца’. Гл. *бажаць.*

**Разбазу́ліць,** *разбязу́ліць* ‘распесціць’ (Арх. Федар., Сцяшк. Сл.; ваўк., рагач., Сл. ПЗБ), *разбазу́ліцца* ‘раздурэцца’, ‘панадзіцца, звыкнуцца’ (гродз., ваўк., Сл. ПЗБ; Нас.), *разбазу́лены* ‘распусны, разбэшчаны’ (Сцяшк. Сл.); параўн. рус. смал. *разбезу́литься* ‘разбалавацца, раздурэцца’, што да *базу́лить* ‘балаваць каго-небудзь’, *базу́льнік, базу́ла* ‘сваволнік’. Здавальняючая этымалогія зыходнага **базуліць* адсутнічае, параўн. *бязула* ‘гультай’, (< *без + ул-*),

гл. ЭСБМ, 1, 437. Няпэўна. Магчыма, роднасныя з рус. дыял. *базлúть* 'крычаць', *базлó* 'крыкун', 'злы чалавек, падманшчык', 'горла', этымалогія якіх няясная. Сюды ж і *разбазы́ляць* 'разпесціць, раздурыць' (Янк. Мат.). Магчыма, гэта запазычанне з літ. *bỹzuliotі* 'зыкаць'.

**Разбазы́раць** 'разбэсціцца, зазнацца' (Шат., Скарбы), 'рабіць, што хацець; не падпарадкоўвацца нікому' (навагр., ЖНС), 'разбэсціцца, раздурэць' (Янк. 3), *разбазы́рыцца* 'распусціцца, стаць самавольным' (Варл.), *разбазырэ́ць, разбузурэ́ць* 'раздурыць' (Нас.; в.-дзв., Сл. ПЗБ), 'разбэсціць' (Сцяшк. Сл.), 'разбэсціць, раздурэць' (Янк. 3), *разбазы́рыць* 'разбэсціць', *разбазы́рэць* 'распусціцца: пра свавольнага і непаслухмянага' (Чач.), *розбазу́рыць* 'разбэсціць, распусціць', *розбазу́рыцца* 'разбэсціцца, распусціцца' (ТС). Параўн. рус. дыял. *разбузы́рить, разбузы́нить* 'растраціць, прамантачыць (грошы, маёмасць)'. Гл. *абазу́рыцца, базу́рны*. Іншы пункт погляду на зыходныя формы гл. ЭССЯ, 1, 171, параўн. ЭССЯ, 31, 212 (< **obъzoriti*), 225 (< **obzyriti*). Магчымы ўплыў палаталізаваных формаў, параўн. *бязу́рны* 'свавольны' (Касп.), *бязу́ры* 'тс' (Нік., Оч.), якія могуць мець іншае паходжанне.

**Разбараніць** 'суняць бойку' (Сцяшк.; Гарэц.), *розбороніць* 'тс' (ТС), *разбараніцца* 'разысціся пасля бойкі, спрэчкі' (Гарэц.). Да *раз-* і *бараніць* (гл.).

**Разбася́чыцца** 'разбэсціцца, распусціцца' (Паўл.). Утворана ад *раз-* і *бася́к* 'нягоднік, свавольнік' (< *босы*).

**Разба́чываць** (*разба́чыватсь)* 'разглядваць' (Шпіл.), *разба́ченне* 'разглядванне' (Шпіл.). Ад *раз-* і *ба́чыць* (гл.)

**Разба́яць** 'забаўляць' (Федар.), *разба́іваць* 'займацца пустымі размовамі', 'разносіць звесткі аб чым-небудзь' (Нас.), 'весці размову' (Бяльк.), *разба́іцца* 'разгаварыцца', 'доўга гаварыць' (Нас.), рус. дыял. *разба́ять, разба́ивать* 'балбатаць, размаўляць пра пустое', 'адгаворваць', 'забаўляць', 'расхвальваць', *разба́йка* 'балбатня, пустаслоўе'. Ад *раз-* і *ба́яць* (гл.).

**Разбе́жышча** 'непачцівае расстанне' (Паўл.), *розбе́жышчэ* 'тс': *з велікое любві собаче розбежышчэ* (ТС). Ад *разбяга́цца* 'бегчы ў розныя бакі' (гл. *бе́гчы)*.

**Разбе́рыць** 'адрозніць' (лудз., Сл. ПЗБ), 'разблытаць': *круцялі разберым* (паст., там жа), 'высветліць': *разберыш ты сам* (в.-дзв., там жа). Хутчэй за ўсё ад *разабра́ць, разбіра́ць* (гл.), але прычыны трансфармацыі слова незразумелыя (уплыў літ. *beȓti* 'веяць; сеяць'?).



**Разбіва́нка** 'амлет' (лід., Сл. ПЗБ). Утворана ад *разбіва́ць* (пад увагу ўзяты спосаб прыгатавання ежы) з дапамогай суфікса *-анк-а*, як *се́чанка* 'шаткаваная капуста'.

**Разбіндзюга́цца** 'пачаць ленавацца, свавольнічаць' (Нас.). Параўн. *біндзюга́нне* 'бязмэтнае блуканне', *біндзюга́йнік* 'той, хто бязмэтна блукае' (Юрч.), *біндзюга́йла* 'той, хто швэндаецца, нічым не займаючыся' (гл.), сюды ж *бінды біць* 'швэндацца без справы', што звязваецца з літ. *biñde* 'гультай', *bindza* 'гультай, абібок' (Лаўчутэ, Балтизмы, 59). Сюды ж, магчыма, *розбіндова́ць* 'адлупцаваць' (ТС).

**Разбіра́ць**$_1$ 'разнімаць на састаўныя часткі', 'сартаваць' (ТСБМ), 'парадкаваць мясную тушу' (ТСБМ; трак., дзятл., гарад., Сл. ПЗБ), 'разбураць' (ТСБМ, Сл. ПЗБ), *розбіра́ць* 'разумець, цяміць', 'раздзіраць, расскубваць', 'разнімаць тушу пасля забою' (ТС). Ад *раз-* і *браць* (гл.)

**Разбіра́ць**$_2$ 'слаць пасцель' (ваўк., Сл. ПЗБ), *розбіра́ць* 'распранаць' (ТС), *разбіра́цца* 'распранацца' (Сцяшк.), *разабра́цца* 'распрануцца' (воран., Сл. ПЗБ; Сцяшк. Сл.). З польск. *rozbierać* 'распранаць', 'слаць ложак', *rozbierać się* 'распранацца', *rozebrać się* 'распрануцца'.

**Разбітны́** 'лоўкі' (астрав., Сл. ПЗБ), 'развіты' (Касп.), *розбітны́* 'кемлівы, бойкі' (ТС), рус. *разбитно́й* 'прабіўны, зарадны; прайдошлівы'. Прыставачны аддзеяслоўны прыметнік ад *разбі́ць* (гл.), параўн. прасл. **bitъ(jь)* 'баявы, доблесны, бравы' (ЭССЯ, 2, 102–103), а таксама *біту́н* 'задзірысты чалавек' (КЭС). Да семантыкі параўн. *разбі́цца ў ляпёшку* 'дасягнуць мэты насуперак усяму'.

**Разбі́ць** 'разбіць, разграміць', 'раскалоць, раздзяліць на часткі', 'растрэсці, расцерушыць' (ТСБМ, Бяльк.), 'растрэсці, расцерушыць (пракосы, сена)', 'разлучыць закаханых, сям'ю', 'раскалоць бервяно, палена' (Янк. 2), 'растрэсці', 'размяшаць, разбоўтаць', 'раздзяліць', перан. 'наесці (пра жывот)' (ТСБМ, Сл. ПЗБ), *розбі́ць* 'пабіць', 'павялічыцца ў аб'ёме', 'закласці, пачаць складваць, аснаваць' (ТС). Ад *раз-* і *біць* (гл.). Сюды ж *разбі́ты* 'раз'езджаны' (Сцяшк. Сл.).

**Разбія́ка** 'забіяка, задзіра' (Нар. Гом.), укр. *розбия́ка*. Утворана ад *раз-* і *біць* (гл.) з дапамогай суф. *-як-*, як *здаравя́ка* 'дужы

2a Зак. 2628

чалавек', *спакайняка* 'спакойны чалавек' (пра словаўтваральную мадэль гл. Сцяцко, Афікс. наз., 132).

**Разблёнтаць** 'разблытаць' (шчуч., Сл. ПЗБ). З польск. *rozplątać* 'тс' з азванчэннем карнявога зычнага.

**Разблізніцца** 'расплакацца' (лід., Сл. ПЗБ). Магчыма, утварэнне на аснове *блізна* 'блюзна' (гл.) з няяснай матывацыяй.

**Разбо́й** 'напад з рабаўнічай мэтай' (ТСБМ, Нас.), 'разбой, грабеж' (ТС), 'разбойнік' (Гарэц., Нас., Сержп., Бяльк.), ст.-бел. *разбойникъ, разбой* 'рабаўнік'. Сюды ж *разбо́йства* 'разбой (Гарэц.), 'бандыцкі напад' (Др.-Падб.), *разбо́йнік* 'той, хто займаецца разбоем' (ТСБМ, Бяльк.). Рус. дыял. *разбо́й* 'разбойнік', укр. *розбі́й* 'напад з рабаўнічымі мэтамі'. Назоўнік, утвораны да *разбіць* (гл.) бязафіксным спосабам, як *зажо́н* 'зажынкі' ад *зажына́ць*. Старое значэнне дзеяслова ў народнай мове: «Адзін пачаў таргаваць, а другі – купцоў разбіваць» (Сержп. Казкі, 257). У сувязі з гэтым рэканструкцыя прасл. **orzbojь* (**arzbajь*, БЕР, 6, 149) выглядае праблематычнай.

**Разбо́рчысты** 'разборлівы, выразны' (Юрч.), *разбо́рчысты* 'кемлівы' (Юрч. СНЛ), *розбо́рчывы* (ТС), рус. *разбо́рчивый* 'разборлівы'. Вынік кантамінацыі словаўтваральных тыпаў, параўн. *фанабэ́рысты, плячы́сты*.

**Разбра́джвацца** 'распранацца' (лун., Жыв. сл.), *розбрадзіцца* 'распрануцца' (Сл. Брэс.). Зыходны дзеяслоў *абрадзіцца* 'выстраіцца, апрануцца', на аснове якога ўтварэнне з прыстаўкай *раз-* па тыпу *абу́цца – разбу́цца* (гл.). Гл. *ра́дзіць₁*.

**Разбра́тацца** 'разарваць сваяцкую або сяброўскую сувязь' (Нас.), 'разлічыцца, расправіцца' (Жд. 2), рус. смал. *разбра́таться* 'парваць з кім-небудзь сяброўскія адносіны'. Запазычана з польск. *rozbratać się* 'расстацца, разлучыцца з кім- або чымнебудзь'. Сюды ж *разбра́т* 'разрыў': *поўны разбрат са старым* (Ластоўскі, Выбр., тв., 332).

**Разбро́іць** 'падоўжыць воз' (КЭС). Верагодна, роднаснае да *збруя*, укр. *збру́я* 'збруя, вупраж', рус. *сбру́я*, якія лічацца запазычаннямі з польск. *zbroja* 'зброя, рыштунак' (Фасмер, 3, 568; ЕСУМ, 2, 248). На карысць гэтага сведчыць балг. *збройа* 'прылады для вупражы або пры яздзе на кані'. Рускае і ўкраінскае словы звязваюць з серб. *брôј*, харв. *brȏj* 'лічба, колькасць' (пра яго этымалогію гл. Бернекер, 1, 87).



**Разбруі́ць** 'непамерна павялічыцца' (астрав., Сл. ПЗБ), 'распухнуць' (Юрч. СНЛ). Ад *бруі́цца* 'цячы, ліцца' (гл.). Развіццё семантыкі ад 'нацягнуць вады, набухнуць' да 'павялічыцца, патаўсцець' можна лічыць рэгулярным, параўн. *разбрыня́ць* 'патаўсцець' пры *бры́на* 'вільгаць, вада, цвіль'; *бру́знуць* 'таўсцець', якое да **bręk-* 'гучаць, набухаць, набракаць'.

**Разбры́джаны** 'разбэшчаны, распусны' (Сцяшк. Сл.), параўн. *бры́дзіна* 'нягоднік' (Юрч. СНЛ). Да *бры́дкі* (гл.). Параўнай таксама *брыд₁* 'чад' (гл.).

**Разбры́згацца** 'раскруціцца' (шальч., Сл. ПЗБ). Ад *бры́згаць* 'пырскаць'. Гл. *брызгачэ* 'кутасы'.

**Разбрэ́сца** 'разысціся паволі' (Юрч. СНЛ, Бяльк.). Ад *брысці́* (гл.).

**Разбубоніць** 'разбухнуць' (Касп.), рус. дыял. *разбубо́нить, разбубе́ниться* 'павялічыцца ў памерах', 'растаўсцець (пра чалавека)'. Прыставачнае ўтварэнне ад гукапераймальнай асновы *буб-* (гл.) (< **bǫb-* або **bub-*), параўн. балг. *набъбна* 'набухнуць' і пад. (падрабязней пра яе гл. Саднік – Айцэтмюлер, 3, 163–166).

**Разбудава́ць** 'раскідаць даўно пабудаванае' (Сцяшк. Сл.). Утворана ад *будава́ць* (гл.) з дапамогай прыстаўкі *раз-* (гл.) у яе зыходным значэнні 'разлучыць, раз'яднаць', параўн. *разарыць* (гл.). Сучаснае *разбудава́ць* 'пашырыць будоўлю' (ТСБМ).

**Разбудры́ць** 'разбэсціць' (Сцяшк. Сл.), *разбу́дрыць, разбудра́ць* 'разбэсціць, раздурыць' (Мат. Гом., Янк. 1), *разбыдрэ́ць* 'раздурэць' (мін., Гіл.); а таксама *развідрэ́ць, развядрэ́ць* 'разбэсціць, разбэсціцца' (паст., Сл. ПЗБ). Магчыма, роднаснае *бударажыць, будуражыць* (гл.), укр. *будара́жити*, рус. *будоражить* 'узрушваць', 'узбуджаць', якія, аднак, не маюць пераканаўчай этымалогіі, параўн. Саднік – Айцэтмюлер, 6, 461–462. Відаць, ідэнтычнае *развыдрэ́ць* 'зрабіцца смелым, храбрым, бойкім, дзёрзкім' (Нас.), што да *вы́дрэць* 'тс' ад *выдра* (гл.) у пераносным значэнні 'хто глядзіць, вылупіўшы вочы; дзёрзкі' (Нас.).

**Разбузо́ліць**, *разбурзо́ліць* 'размясіць' (паст., брасл., Сл. ПЗБ). Ад *раз-* і *бузава́ць* (гл.) з экспрэсіўным фармантам *-олі-* (адносна яго гл. Борысь, Leksyka słow., 24–26).

**Разбука́ць** 'разбухаць, насычаючыся вільгаццю' (Нас.), *разбукацёць* 'растаўсцець' (Мат. Гом.), рус. дыял. *разбука́ть*

'разбухаць ад вільгаці', *разбу́клый* 'разбухшы ад вільгаці (пра дровы)', укр. *бука́т* 'кусок, скібка'. Ад *раз-* і *буха́ць*, які, магчыма, узыходзіць да і.-е. **bu-* 'надуваць, раздуваць, пухнуць', 'набрыняць' (> *буяць*, гл.), параўн. лац. *bucca* 'надутая шчака, кусок (у роце)'. Такое ж развіццё семантыкі назіраецца ў слове *разбрыняць* 'патаўсцець', пры *брына* 'вільгаць, вада' (гл.).

***Разбу́таны,** *розбу́таны* 'растрапаны' (ТС), параўн. балг. *розбу́тан* 'расхістаны', славен. *razbutati* 'растаўчы, разбіць', што да прасл. **butati* 'піхаць, біць' (ЭССЯ, 3, 102).

**Разбухіта́ць** 'раскідаць, прывесці ў беспарадак' (Сцяшк. Сл.). Ад *бухаць* (гл.), што ад гукапераймальнага выклічніка **bux!* (ЭССЯ, 3, 79–81) па той жа словаўтваральнай мадэлі, што і *хлюпата́ць, скрыгата́ць*.

**Разбуце́ць** 'растаўсцець' (Нас.), *разбуці́ць* 'распухнуць' (Бяльк.), *разбуцяне́ць* 'празмерна распаўнець, разбухнуць' (Юрч. СНЛ), *разбу́ціваць* 'разбухаць' (Юрч. СНЛ), параўн. рус. дыял. *разботе́ть, разбуте́ть, разбыте́ть* 'разбухнуць ад вільгаці', 'наліцца сокам (пра расліны)', 'растаўсцець', серб.-харв. *razbotjeti* 'растаўсцець'. Розныя асновы (**bat-*, **but-*, **bъt-*) прадстаўлены ў рус. дыял. *буте́ть* 'таўсцець, тлусцець', *ботви́ла* 'таўстун, таўстуха', *боте́ть* 'таўсцець', славен. *naboteti* 'таўсцець, тлусцець'. Гукапераймальны рэгістр выступае ў *разбуце́цца* 'разгудзецца, расшумецца' (ТС), параўн. славен. *razbótati* 'раскрычацца', гл. спецыяльна Саднік – Айцэтмюлер, 2, 70–73. Гл. таксама *батва́*. Параўн. *разбутаны* (гл.).

**Разбу́цца**, 'разуцца', *разбува́цца* 'разувацца' (Сцяшк. Сл.), *разбува́ць* 'разуваць' (Федар.), *разбу́ты* 'босы' (Сцяшк. Сл.). Да **raz-uti*. Каранёвае *-б-* з'явілася ў выніку перараскладання частак слова з **ob-uti*, гл. *абу́ць*.

**Разбырэ́ць** 'стаць разбэшчаным, свавольным, непаслухмяным', 'абыякава адносіцца да справы' (бялын., Янк. 3). Няясна. Магчыма, з *разбыдрэ́ць* 'распесціцца' (глыб., ЖНС), гл. *разбудрыць*, у сувязі з дээтымалагізацыяй зыходнага *развыдрэ́ць* 'зрабіцца смелым, дзёрзкім' (Нас.). Для значэння 'абыякава адносіцца да справы' не выключаны ўплыў *абы́раць* 'прывыкнуць да дрэнных абставін' (гл.).

**Разбэ́хаць** 'разбавіць вадой' (Сцяшк.), *разбэ́хыць* 'разбіць' (Бяльк.), 'раскапаць празмерна' (Юрч. СНЛ), *бэхан* 'удар кулаком' (Юрч. СНЛ). Дзеясловы ўтвораны ад выклічніка *бэх!*, варыянт *бах!*, гл. *бахаць*.



**Разважа́ць** 'абмяркоўваць, узважваць усе аргументы за і супраць' (Нас.), 'рассейваць трывогу, суцяшаць' (Нас., Сержп.). Паводле Насовіча (там жа, 546), ад *вага́* (гл.).

**Разва́жджываць** 'адвязваць лейцы' (Юрч. СНЛ). Утворана ад *во́жджы* 'лейцы' (гл.) з дапамогай прыстаўкі *раз-*, якая надае слову значэнне 'дзеянне, супрацлеглае папярэдняму', як *расвяза́ць, рассупо́ніць*.

**Разва́лісты** 'пышны' (Нар. Гом.). Ад *раз-* і *валіць* (гл.). Утворана па той жа семантыка-словаўтваральнай мадэлі, што і *разло́жысты* (гл.).

**Развалі́цца** 'разбурыцца' (лід., Сл. ПЗБ), 'шырока рассесціся, заняць шмат месца' (Сцяшк. Сл.), *разваліць* 'раскідаць, разбурыць' (Сцяшк.). Ад *раз-* і *валіць* (гл.).

**Разва́лы** 'рама з трох жэрдак, якая кладзецца на сані для большай умяшчальнасці' (ТСБМ), 'нізкія і шырокія сані з такой рамай' (ТСБМ; глыб., Сл. ПЗБ; Сцяшк. Сл.), *разва́лкі* 'сані з разваламі' (ТСМБ; воран., Сл. ПЗБ), *разва́лінкі, разва́ліны* 'развалы' (нясвіж., лях., воран., шчуч., Сл. ПЗБ), 'сані' (Др.-Падб.), *разва́ліны* 'выязныя сані', 'драбіны ў выязных санях' (ганц., шчуч., Сл. ПЗБ), 'воз для перавозкі збожжа' (гарад., Сл. ПЗБ), 'від саней' (Маш.), 'частка саней' (лях., Янк. 1), рус. *ро́звальни* 'шырокія сані', дыял. *развала́, разва́лки* 'нізкія і шырокія сані', *разва́лка* 'падоўжныя брусы саней, градак'. Тлумачыцца як "развалістыя сані" ад *раз-* і *валіць* (гл.) (Фасмер, 3, 495).

**Развару́ха** 'трывожны час' (Сцяшк. Сл.), 'неспакой': *пашла такая разваруха, што нікому жыцця нема* (Сержп. Казкі). Ад *разварушыць* па аналогіі з *завару́ха*, параўн. рус. прастамоўныя *завару́ха* 'складаная, заблытаная справа', *завари́ть* 'пачаць штонебудзь рабіць, не прадбачачы наступствы'. Гл. *варушыць*.

**Развары́ць** 'размясіць гразь, зрабіць гразкай дарогу' (Сцяшк. Сл.). Метафарычны перанос значэння на аснове знешняга падабенства разваранай стравы і гразкай дарогі.

**Развахтава́цца** 'разгайдацца, раскалыхацца для скачка' (мядз., Нар. сл.). Ад *вахта*$_2$ (гл.).

**Развашапру́дзіць,** *развашапру́джываць* 'выклікаць задаванне, вычварэнне', 'пачаць задавацца, вычварацца' (Юрч. СНЛ), *вашапру́д-*

*стваваць, вашапру́дстваваецца* ‘задавацца, вычварацца’. Ад *вашапру́дзіцца* (літаральна ад *вошы* і *прудзіць*, гл.) ‘вычышчаць вашэй’, ‘фанабэрыцца’, *вашапру́д* ‘вашывец’, ‘хвалько, фанабэрысты’ (Нас.).

**Развашэ́ціцца** ‘зазнацца, зафанабэрыцца’ (Касп.). Ад пачцівага звароту *вашэць* (гл.).

**Разваява́ць** *(рузвуюва́ць)* ‘разбурыць, раскідаць, растрэсці, пабіць’ (Юрч.), *развоева́ць* ‘разбіць, раскідаць, растрэсці’, *разваява́ны* ‘сапсуты, парваны’ (Сцяшк.), *развоёваный* ‘разбіты, раскіданы’ (Нас.). Ад *раз-* і *ваява́ць* (гл.).

**Разве́даць** ‘дазнацца пра што-небудзь’, ‘зрабіць абследаванне чаго-небудзь’ (ТСБМ), ‘даведацца’ (лід., Сл. ПЗБ), *разве́даны* ‘выяўлены, знойдзены, распазнаны’ (Сцяшк. Сл.), *разве́дка* ‘здабыванне звестак, абследаванне’ (ТСБМ), ‘першы вылет пчол пасля зімы’ (Сцяшк.). Ад *раз-* і *ве́даць* (гл.).

**Разве́заць** ‘размазаць’, ‘расквэцаць’ (Янк. 1, Мат. Гом.). Прыставачнае ўтварэнне ад **ве́заць* з няяснай этымалогіяй. Магчыма яно з’яўляецца фанетычным варыянтам *вэ́зґаць, вэ́дзгаць* ‘размазваць’, ‘брудзіць’ (гл.).

**Разве́й** ‘жоўты пясок’ (Сцяшк.), ‘пясчаная неўрадлівая глеба’ (шчуч., Нар. лекс.). Утворана ад *разве́яць* (гл.) бязафіксным спосабам, як *гле́й* (гл).

**Развіва́ць** ‘абясшкоджваць прымхі’: *ена раздеецца і бежыць: і на лесі заўе, а то у нас на жыці заўе, а баба наша ўмела развіваць етые завіткі* (Ян.). Ад *віць₂* (гл.).

***Развігну́цца**, *розвігну́цца* ‘выпрастацца’: *не можэ розвігнуцца, ходзіць раком* (ТС). Магчыма, сюды ж і *розвізнуцца* ‘расплюшчыцца (пра вочы)’ (там жа). Няясна; магчыма, ў корані захавалася рэліктавая форма *-віг*, суадносная з серб.-харв. *вигови* ‘сіло’, *виг* ‘пастка’, параўн. Мартынаў, Зб. Крапіве, 211–212.

**Развідла́сты** ‘вілаваты’ (Сцяшк.). Утворана з дапамогай прыстаўкі *раз-* на аснове польск. *widlasty* ‘вілаваты’.

**Развíкацца** ‘пачаць крычаць’ (Юрч. СНЛ). Вытворнае ад *вік* ‘крык, піск’ (Юрч.), якое лічыцца выключна паўднёваславянскім (БЕР, 1, 146), параўн. аднак побач з балг. *вик* ‘крык’, славен. *vík* ‘тс’, рус. дыял. *ви́кот* ‘пранізлівы, рэзкі крык; віск’, *ви́канье* ‘крык, віск жывёл’, *ви́кать* ‘скуголіць, вішчаць, выць’, а таксама серб.-харв. *разви́кати се* ‘раскрычацца’, балг. *ви́кам* ‘крычаць; клікаць, гукаць’, славен. *vikati* ‘тс’, што ўзыходзяць да гукапераймальнага **vy* < і.-е. **ū*, параўн. *выць* (гл.). Роднасныя да літ. *ap-úokas* ‘сава’, лат. *aũka* ‘бура’, *ũkšuot* ‘верашчаць’ (БЕР, 1, 146–147; Сной₂, 820).



**Развіну́цца** (*разьвінуцца*) ‘разгарнуцца’, *разьвіну́ць* ‘разгарнуць, развіць’ (Нас., Др.-Падб., Стан.). Сюды ж запазычанае з польскай мовы *развіне́нты* ‘развіты’ (шальч., Сл. ПЗБ), параўн. польск. *rozwinięty* ‘разматаны, разгорнуты; які распусціўся’, *rozwinąć się* ‘разматацца, развіцца’, ‘раскрыцца, распусціцца’. Меркаванні пра ўжыванне гл. Станкевіч, Зб. тв., 1, 32. Гл. *вінуць*.

**Развіні́чыцца** ‘разбэсціцца’ (в.-дзв., Сл. ПЗБ). Няясна. Магчыма, мае сувязь з *віно́* або з *віна́*.

**Развíньваць** ‘світаць’ (Сцяшк. Сл.). Узнікла як дыялектны варыянт слова *развíднівацъ* ‘світаць’ (гарад., Сл. ПЗБ). Гл. *відне́ць*.

**Разві́цца,** *развіва́цца* ‘раскруціцца, расплесціся, распусціцца’, ‘дасягнуць пэўнай стадыі развіцця’, ‘прыняць шырокі размах’, ‘знаходзіцца ў працэсе росту’ (ТСБМ), ‘натрудзіць’ (лаг., паст., ігн., Сл. ПЗБ), ‘узнікнуць’ (мядз., Сл. ПЗБ), ‘пасталець’ (навагр., Сл. ПЗБ), укр. *розви́тися* ‘развіцца, дасягнуць пэўнай ступені росту’, ‘распусціцца’, рус. *разви́ться* ‘раскруціцца’, ‘стаць больш моцным’, ‘пасталець разумова, духоўна’, дыял. ‘віцца, расці (пра расліны)’, ‘пачаць балець ад моцнага фізічнага напружання’, польск. *rozwijać się* ‘пра расліны: выпускаць лісты, кветкі’, балг. *разви́я се* ‘развіцца, раскруціцца’, ‘развіцца (пра расліны). Ад *раз-* і *віць₂* (гл.).

**Разво́д** ‘калёсы, прыстасаваныя для перавозкі бярвення’ (віл., Сл. ПЗБ), ‘разведзены ў даўжыню воз’, ‘поўны камплект колаў для воза’ (Сцяшк.). Лексіка-семантычнае ўтварэнне; перанос назвы адбыўся на аснове метаніміі: цэлае – воз – атрымала назву ад часткі – жэрдкі, што злучае перадок воза з задком і дазваляе падоўжыць воз: *разво́дка* ‘трайня ў возе’ (гродз., Сл. ПЗБ). Параўн. *драбі́ны, калёсы*.

**Разво́ддзе**, *разво́дзіца* ‘веснавая вада, разліў’, ‘бездараж’ (ТСБМ; докш., шум., лудз., Сл. ПЗБ; Сцяшк.), ‘хуткае таянне снегу і лёду ўвесну’ (Сцяшк.), ‘паводка’ (Гарэц.), *разво́дзі* (брасл., Сл. ПЗБ), *разво́ддзя, разво́дзя* (паст., лід., Сл. ПЗБ) ‘тс’, *разво́ддзя* ‘разводдзе, паводка’ (Бяльк., Нас.), рус. *разво́дье* ‘тс’, укр. *розво́ддя* ‘прастора чыстай вады паміж ільдамі’. Магчыма, прасл. **orz-vod-je* паводле архаічнай мадэлі (Астроўскі, ABSl, 27, 122), гл. *вада*, параўн. *раздарожжа* (гл. *раздарожа*).

**Разво́ды** ‘узоры, часцей у палосы’, ‘пацёкі’ (ТСБМ; Др.-Падб.). Ад *вада́*, параўн. *разводдзе* (гл.)

**Разво́й** ‘свабода, прастор’ (Сцяшк.), ст.-бел. *развой* ‘разгляд, вырашэнне (справы)’ (Ст.-бел. лексікон); рус. дыял. *разво́й* ‘раз-

мотка, раскручванне', польск. *rozwój* 'развіццё' і пад. Ад *развíць* (гл. *развіцца*), як *разбой* (гл.) ад *разбіць*; відаць самастойныя ўтварэнні ў славянскіх мовах.

**Развóліць** (*розвóліць*) 'разняволіць; даць волю' (ТС). Да *воля* (гл.), *раз-* мае значэнне, процілеглае прыстаўцы *не-* ў *няволіць*.

**Развóра**, *развóрка, розвóрка, розвуóрка* 'трайня ў возе' (Сл. ПЗБ), 'жэрдка, якая злучае задок з передком воза' (Сцяшк. Сл., Маслен.), *развóрваць, развóрівать, розворы́ть* 'падоўжыць воз з дапамогай разворы' (Маслен.), чэш. *rozvora* 'жэрдка, якая падаўжае воз', славац. *rázvora*, польск. *rozwora* 'тс'. Да прасл. **orz-vor-* (Махэк$_2$, 521) на базе прасл. **verti* 'вярцець'. Гл. з тым жа коранем *варочаць*.

**Развóрваць** 'араць, раскідваць плугам зямлю' (ТСБМ), 'араць зямлю пад грады' (Сцяшк.). Ад *раз-* і *арáць* (гл.) з прыстаўным *в-*. Сюды ж *развóрак* 'паглыбленне паміж разорамі' (Сцяшк.).

**Развыдрэ́ць** 'стаць дзёрзкім; засвавольнічаць' (Нас., Касп.). Да *выдрэць* (гл.).

**Развылангáцца** 'пачаць вылежвацца' (Юрч. СНЛ). Штучнае ўтварэнне з неарганічнай (экспрэсіўнай?) назалізацыяй, на базе польск. *lęgać* 'лажыцца, класціся', параўн. польск. *wylegiwać, wylegiwać się* 'ляжаць', 'вылежвацца'.

**Развядрэ́ць** 'разбэсціцца' (паст., Сл. ПЗБ). Гл. *разбудрыць*.

**Разгагýлі**: *гýлі-разгагýлі* 'свавольная гульня' (Юрч. СНЛ). Экспрэсіўнае рыфмаванае ўтварэнне на аснове слова *гýлі* (гл. *гуляць*) і гукапераймання *гагу*, параўн. *гугý* 'гул, шум' (Нас.), *гугáць* (гл.).

**Разгáлка** 'месца перакрыжавання дарог, ростань' (Нар. Гом.). Утворана ад дзеяслова *разгалінóўвацца*, з коранем *гол-/гал-* тыпу *разгáівацца*, параўн. *голя́* 'бакавая галіна ў вілападобнай стойцы варот' (ТС) (аналагічна *затóка, пакóша*, гл.) у выніку перанясення назвы па знешнім падабенстве, параўн. аналагічныя *развілка, рагáтка*, чэш. *rosoha*, балг. *разклонение*.

**Разгалявáцца** 'увайсці ў азарт' (Сцяшк. Сл.). Няяснае слова. Магчыма, звязана з *гілявáць* (гл.) або з рус. цвяр. *разгáлиться* 'моцна захацець чаго-небудзь'.

**Разганýць** 'разгадаць' (лях., Сл. ПЗБ), рус. дыял. (сіб., вяц., ярасл.) *разганýть* 'разгадаць'. У выніку спрашчэння групы *дн* > *н*, параўн. *заганýць* 'загадаць (загадку)'; *адганýць* 'адгадаць' (Скарбы), параўн. *адгáніць* 'адгадаць', гл.



**Разгарáчыцца** 'раскірачыцца', *разгарáка* 'раскірака' (слонім., Нар. словатв.), *розґарáґа* 'скрыўлены ад хваробы чалавек' (драг., Нар. лекс.), *разгірáчыцца* 'шырока расставіць ногі' (ваўк., Сл. ПЗБ; Сцяшк. Сл.), 'расхінуцца' (Сцяшк.). Не зусім яснае слова. Хутчэй за ўсё, гэта фанетычны варыянт слова *раскарáчыцца* 'шырока расставіць ногі', *раскарáка* 'чалавек з няўклюдна растаўленымі нагамі', 'нешта няўклюднае, нязграбна выгнутае, растапыранае' (гл.) са зменай *к – г* у інтэрвакальным становішчы. Сюды ж *розґірэ́йда* 'чалавек вуглаваты, няскладны, з крывымі нагамі' (драг., Нар. лекс., пра словаўтваральную мадэль гл. Сцяцко, Афікс. наз., 271), *разґірэ́ка* 'раскірэка' (ваўк., Сл. ПЗБ), *разгірэ́ня* 'разявяка' (Сцяшк.), *разгірэ́к* 'беспарадак' (Юрч. СНЛ). Гл. *разгірака*.

**Разгарáшыванне**, *разгарóшыванне* 'раскрышванне' (Юрч. СНЛ), *разгары́шываць, разгарóшываць* 'крышыць' (там жа). Ад *гарóх* праз параўнанне 'дробны, як гарох'.

**Разгáты** 'разгалісты' (ТСБМ), 'вілаваты' (лях., баран., Сл. ПЗБ; Некр.), *разыгáты* 'галінасты' (чэрв., Сл. ПЗБ). Ад *рóска, рóзга* (гл.), як *расахáты*. Гл. таксама *разгачы́*.

**Разгаўля́цца** 'есці першы раз скаромнае пасля посту' (в.-дзв., паст., Сл. ПЗБ). Вытворнае ад *говéць* 'пасціць' (ТС), параўн. рус. *говéть* 'пасціцца', укр. *говíти* 'пасціцца', чэш. *hověti* 'задавальваць', 'спрыяць, праяўляць дабразычлівасць', серб.-харв. *гȍвети* 'абкружаць увагай', 'дагаджаць', балг. *говéя* 'пасціцца', 'пачціва маўчаць', *говéам* 'пачціва маўчаць перад свёкрам і свякроўю'. Да прасл. **gověti*, этымалагічна тоеснага лац. *faveo, favere* 'спрыяць, быць міласцівым', 'захоўваць маўчанне' (сакральны тэрмін). Лацінскае і славянскія словы лічацца працягам і.-е.**ghou̯-e-* (падрабязней гл. ЭССЯ 7, 72–73).

**Разгачы́** 'галлё' (іўеў., Сл. ПЗБ), *разгáчыкі* 'адросткі (пра пер'е)' (там жа), *разгáціна* 'разгалістае дрэва' (лях., там жа). Ад *рóзга* (гл.).

**Разґвэ́ндзіцца** экспр. 'расхваляваццa' (мін., Сл. ПЗБ). Верагодна, звязана з *гавэ́ндзіць* 'гаварыць' (гл.)

**Разгібáнка** 'від лодкі' (чэрв., Сл. ПЗБ). Утворана ад дзеяслова *разгібáць* 'выпрастаць, распрастаць сагнутае' (ТСБМ). Матывацыяй назве паслужыла форма або спосаб пабудовы (у выдзяўбаную калоду льюць кіпень і ставяць распоркі). Да *гнуць* (гл.).

**Разгільдзя́й** 'нядбайны, безадказны ў працы, справах чалавек' (ТСБМ), *разгільдзяйсты* 'нядбайны, безадказны' (Юрч. СНЛ). Запазычана з рус. *разгильдя́й*, якое, паводле Фасмера (3, 433), утворана аналагічна *растрепа́й* 'абарванец' ад загаднай формы (таксама Праабражэнскі, 2, 175) і, магчыма, звязана з рус. *ги́ль* 'лухта, глупства'. Папоў (Из истории, 35) прапануе версію паходжання ад татарскага ўласнага імя *Уразгильды, Уразгильдей, Разгільдей, Разгільдяй.*

**Разгіра́ка** 'той, хто ходзіць шырока расстаўляючы ногі' (карэліц., З нар. сл.), *разгірэ́ка* 'тс' (дзярж., Нар. сл.). Дэвербатыў ад *разгірэ́чыць* 'стаяць ці сядзець, шырока расставіўшы ногі' (там жа), параўн. *разгара́чыцца* (гл.). Гл. *раскарака.*

**Разгламаздзі́ць** 'разабраць, расплесці' (Юрч. СНЛ), *разгламаздэ́чыць, разгламаздзя́чыць* 'разгрувасціць' (Юрч. СНЛ), *разгломоздзі́ць* 'раструшчыць' (Нас.), *гламза́* 'неакуратная асоба', *гламжэ́нне* 'псаванне, неакуратная работа' (Юрч. СНЛ). Здзіўляе фармальнае падабенства з *гламазда́* 'расцяпа, нехлемяжы і пад.' (гл.), але ў такім выпадку застаюцца незразумелымі семантычныя сувязі. Апошнія формы можна параўнаць з літ. *glamužỹs* 'кіпа', 'стос', *glámžymas* 'камячанне', *glámžyti* 'камячыць'. Фармальнае падабенства прымушае меркаваць і пра сувязь з *гро́мазд (гро́мызд, гро́мыст)* 'вялікія непатрэбныя рэчы, хлам' (Юрч.; мсцісл., Нар. сл.), рус. *гро́мо́зд* 'куча непатрэбных рэчаў, хлам', *громозди́ть* 'бязладна класці', польск. *gromaździć* 'нагрувашчваць', якія звязаны з *грамада́* (гл.), а *-л-* на месцы *-р-* узнікла пад уплывам слова *гламазда.*

**Разгля́блы** 'разлезлы' (ваўк., Сл. ПЗБ). Ад **расхля́блы*, параўн. *хлябы* 'упалыя бакі (у каня, каровы)' у выніку азванчэння *-х-*. Гл. *хля́ба.*

**Разго́гаць** 'разбіць', *разго́гацца* 'разбіцца' (Нас.). Да *го́гаць* 'біць адно аб другое', *го́гнуць* 'стукнуць', *го́ганне* 'удар аднаго звонкага прадмета аб другі' (Нас.), укр. *го́гіт* 'іржанне', 'моцны і працяглы гук, шум'. Гукапераймальныя ўтварэнні, параўн. ЭССЯ, 6, 194–195. Звонкі варыянт у *раско́каць* 'разбіць' (што звязана з *кока* 'яйка', *ко́кнуць*, гл.).

**Разго́ены** 'раскіданы' (чэрв., Сл. ПЗБ). Няясна. Магчыма, звязана з *гайно́* (гл.).

**Разго́йшыць** 'растраціць' (дзятл., люб., ганц., Сл. ПЗБ). Экспрэсіўнае ўтварэнне на базе *го́йсаць* 'бегаць' (гл.). Параўн. літ. *išgaišinti* 'растраціць' (няпоўная калька?).



**Разго́н₁** 'гвалтоўнае рассейванне тлуму', 'рух з паступова нарастаючай скорасцю' (ТСБМ), 'размах' (Касп.), 'разбег' (ашм., Стан.). Ад *раз-* і *гнаць, ганяць* (гл.).

**Разго́н₂** 'пасаг маладой у выглядзе гаспадарчай маёмасці, статак' (Федар.). Магчыма, семантычная інавацыя на базе *разагнаць, разагна́цца*, г. зн. даць асновы і стымул для далейшага развіцця сямейнай гаспадаркі. У песні чаргуецца з *прыгон*, параўн.: *Wyżań swuoj razhòn, wyżań swuoj pryhòn, / katory da minie nahnàła* (там жа). Розныя тыпы пасагу?

**Разгон₃** 'расліна расходнік, Glechoma hederacea L.' (Касп.). Відаць, сінанімічнае ўтварэнне да асноўнай назвы.

**Разго́раць** 'расстарацца' (Мат. Гом.). Да *аго́раць*, гл. *агораны.*

**Разго́ўтацца** 'разагнаць сон, прачнуцца' (Бяльк.; бялын., Янк. 3). Гл. *агоўтацца.*

**Разграшы́ць** 'дазволіць' (чач., ЖНС). Іранічнае асваенне рус. *разреши́ть* 'тс'.

**Разгрэ́біны** 'заканчэнне вяселля' (Янк.). Ад *раз-* і *грэ́баць* (гл.), як *ако́піны* 'заканчэнне капання бульбы' (астрав., Сцяшк.).

**Разгу́жываць** *(разгу́живать)* 'неадабральна адзывацца аб чым-небудзь; адкладваць, адмяняць' (Нас.), *разгу́живанне* 'пярэчанне супраць добрай парады' (Нас. Доп.), *разгуджаць: коли Богъ судзиць, ни якій чортъ не разгудзиць* (Нас. Сб.). Да *гу́дзіць* 'асуджаць, ганіць' (Нас.), што ўзводзіцца да прасл. **gǫditi/*gǫděti*, значэнне 'ганіць' развілося са значэння 'гудзець, выдаваць гук' (Трубачоў, ЭССЯ, 7, 80; Фасмер, 1, 470–471).

**Разгу́ніць** 'моцна зганьбіць' (Юрч. СНЛ), *гу́нены* 'знясслаўлены' (Юрч. СНЛ). Ад *гу́ніць* 'знеслаўляць, ганьбіць' (Юрч.). Апошняе Трубачоў (ЭССЯ, 7, 82) разам з рус. *гуни́ть* 'гаманіць, апавядаць' узводзіць да **gǫgniti* (гл. *гугняць*) – гукапераймання з рэдуплікацыяй спалучэння *gn* і, у нашым выпадку, спрашчэння *gn* > *n.*

**Разгу́рзацца** 'ачуняць, прачнуцца' (іўеў., Сл. ПЗБ). Няясна. Магчыма, балтызм, параўн. літ. *gur̃sti* 'слабець', 'марудзіць', *gur̃stas* 'затрымка'. Параўн. *раздурбаць* (гл.).

**Разгу́тываць** 'гушкаць' (Юрч. СНЛ), што да *гу́таць* 'тс', рус. дыял. *гу́тать* 'гушкаць немаўля', укр. *гу́тати* 'гойдаць', *гута́т* 'калыхаць дзіця', *гу́талка* 'калыска'. Да гукапераймальнага (імітатыўнага) *гу-та-та́* пры падкідванні дзіцяці на руках. Няма патрэбы бачыць у названых словах вынік змянення формы *гойдаць* або

*гушкаць* праз прамежкавае значэнне 'забаўляць, загаворваць' (ЕСУМ, 1, 629) ці ўзводзіць да і.-е. **gou-* з суфіксам *-t-ati* (ЭССЯ, 7, 179).

**Разгы́каць** 'выклікаць крык, сварку' (Юрч. СНЛ), параўн. рус. *гйкать* 'пранізліва ўскрыкваць', *гы́кать* 'крычаць па-лебядзінаму', табол. *разгы́каться* 'разрагатацца', чэш. *hýkati* 'ускрыкваць ад здзіўлення', дыял. *hykati* 'плакаць', славац. дыял. *hykat'* 'усхліпваць, плакаць'. Трубачоў узводзіць да **gykati*, дзеяслоў гукапераймальнага характару (ЭССЯ, 7, 221).

**Разгэ́мзываць**, *разгэ́мзаць, разгамза́ць, разгамзі́ць* 'камячыць, псаваць' (Юрч. СНЛ). Ад *га́мзаць* 'паволі есці, жаваць', *гамзі́ць* 'уплятаць, есці', 'рабіць неакуратна' (гл.)

**Раздаба́рваць** 'размаўляць, балбатаць' (Нас., Сержп. Казкі), *раздабе́рваць* 'балбатаць' (слуц., Бел. дыял.), *раздабы́раваць* 'гаварыць шмат непатрэбнага, лішняга' (Мат. Маг. 2), *раздаба́рыцца* 'разгаварыцца' (Нас.), *раздаба́ра* 'балбатун', *раздаба́ры* 'доўгая размова пра пустое' (Нас., Чач.), у дзіцячай фальклорнай рыфмоўцы: *«Шарыбары-расдабары/ Белы сняжкі выпадалі...»* (Рам. 2), укр. *роздоба́рювати*, рус. дыял. *раздаба́ривать, раздаба́рывать* 'весці пустыя размовы', 'размаўляць', 'спрачацца', 'доўга і нудна гаварыць', *раздоба́ривать, растоба́ривать* 'балбатаць'. Зыходным з'яўляецца ст.-яўр. *daβar (dābhār)* 'слова, звестка', 'рэч, справа', *dibber* 'гаварыць', адкуль яўр.-ням. *dabbern, dibbern* 'гаварыць' (Нас., 548; Фасмер, 3, 434; Горбач, Арго, 18). Трубачоў (Дополн., там жа) лічыць самастойным утварэннем з прыстаўкамі *раз-до-, рас-то-* ад асновы *бар-* у рыфмоўцы *тары-бары*, што падаецца верагодным.

**Раздабрэ́ць** 'пагладчэць, паправіцца' (Некр.). Параўн. рус. *добре́ть, раздобре́ть* 'таўсцець, тлусцець, сыцець', старое польск. *dobrzeć* 'набірацца сілы', што да прасл. **dobrěti* 'быць прыемным, карысным', 'дабрэць' (ЭССЯ, 5, 40–41).

**Разда́гацца** 'пачаць бегчы з тупатам' (Юрч. СНЛ). Утварэнне ад гукапераймальнага выклічніка *даг!*, параўн. з іншай вакалізацыяй рус. *ды́гать* 'гнуцца', 'хістацца', укр. *дигота́ти, диготі́ти* 'дрыжаць', пол. *dygać* 'кланяцца', 'прысядаць', якія звязваюць са ст.-в.-ням. *tūhhan*, с.-в.-ням. *tūchen*, с.-н.-ням. *dûken*, англ. *duck* 'хіліцца ўніз', 'ныраць' (Фасмер, 1, 557). Параўн. таксама тур. *dağdağa* 'шум, гам, крык', *dağdağali* 'шумны'.

**Раздаро́жа** 'бездараж, бездарожжа' (Скарбы), сюды ж таксама *раздаро́жжа* 'ростань', 'месца, дзе сыходзяцца і разыходзяцца да-



рогі' (ТСБМ, Сцяшк.), параўн. рус. дыял. *раздоро́жье* 'ростань', 'скрыжаванне дарог', польск. *rozdroże* 'тс'. Ад *раз-* і *даро́га* (гл.).

**Раздво́** 'першы дзень каляд' (Янк. 2). Гл. *ражаство*.

**Раздзе́л** 'частка ў кнізе' (Гарэц.). Ад *раз-* і *дзялі́ць* (гл.).

**Раздзе́нькаваць**, *раздзя́нькываць* 'гутарыць павольна', 'разносіць чуткі' (Юрч. СНЛ), што да *дзенькаць, дзя́нькаць* 'весці пустыя размовы' (Юрч. СНЛ). Гукапераймальнае ўтварэнне.

**Раздзо́гаць** 'разбіць' (Нас.), *раздзо́ганный* 'выпадкова разбіты' (Нас.). Ад *раз-* і *дзо́гаць* 'стукаць, стукаць нагамі', 'біць, калаціць' (Нас.). Сюды ж укр. *дьо́гнути* 'штурхнуць, кальнуць', чэш. дыял. *džignút* 'кальнуць', літ. *diegti* 'калоць'. Да праславянскага **dьgnǫti* (ЭССЯ, 5, 205); адносна семантыкі параўн. *джгаць* (гл.).

**Раздзяндзю́ліваць**, *раздзяндзю́рываць* 'павольна нудна размаўляць' (Юрч. СНЛ), *дзюндзю́ля, дзюндзю́ра, дзю́ндзя* 'балбатня' (там жа). Гукаперайманне, параўн. укр. *дзидзига́ти, дзиндзига́ти* 'размаўляць па-габрэйску' (Смаль-Стоцкі, Приміт., 155).

**Разднéць** 'развіднець' (Сцяшк.). Ад *раз-* і *днець* (гл.), як *распаго́дзіцца, раздаждажы́цца*.

**Раздо́р** 'драўляныя вілы' (барыс., Сл. ПЗБ), рус. дыял. *раздо́р* 'расшчэпленае дрэва', 'заезд пры аранні', 'стан, калі дзве ліны (у бурлакоў) шырока разыходзяцца ў розныя бакі'. Ад *раз-* і *драць, дзерці* (гл.).

**Раздо́ргнуць** 'разарваць' (Нас.), *раздо́рганы* 'разарваны на часткі' (Нас.). Да *до́ргнуць* 'рэзка таргануць' (Юрч.), параўн. рус. смал. *дарга́ць* 'рваць, раздзіраць', калуж. *до́ргать* 'тузаць', чэш. дыял. *drhat* 'скубаць пёры', серб. *дрга́стити* 'моцна часаць, раздзіраць', што ўзводзяць да прасл. **dьrgati* (ЭССЯ, 5, 221), роднаснага **dьrati* (гл. *драць*).

**Раздражджане́ць** 'набрыняць вадою, размокнуць (пра зямлю)' (Сцяц.), *раздаждажане́ць* 'набухнуць вадою' (слонім., Жыв. НС). Магчыма, ад *дро́жджы* або *дождж* (гл.).

**Раздра́й** 'разгубленасць, неўсталяванасць, нестабільнасць' (ЛіМ, 1994, 25 крас.). Ад *раз-* і *драць* (гл.).

**Раздрахце́ць** 'растаўсцець' (Сцяшк.), *раздрахце́цца* 'распаўнець, растлусцець' (Юрч. СНЛ). Ад незафіксаванага **драхцець*, якое да прасл. **drьgъtěti* (гл. ЭССЯ, 5, 138), параўн. укр. *дригті́ти* 'ператварацца ў жэлепадобнае рэчыва, дрыжаць як студзень'. Гл. *дрыгацець*.

**Раздра́чыць** 'раздражніць' (гродз., Сл. ПЗБ). Ад *драчы́ць* 'дражніць, цвяліць' (< прасл. **dročiti*, ЭССЯ, 5, 122–123), гл. *драчона*.

**Раздруе́ць** 'растаць, раскіснуць' (у адлігу), 'распаўнець' (Юрч. СНЛ), *раздруі́ць* 'выклікаць дрыганне' (Юрч. СНЛ), *раздруі́цца* 'размокнуць, раскіснуць ад вады' (Юрч. СНЛ), *друя* 'распаўнелая асоба' (Юрч. СНЛ). Паходжанне зыходнай формы (**друі́ць*, **друя́ць*?) няяснае, магчыма, да прасл. **drul'ati* (ЭССЯ, 5, 132), параўн. серб.-харв. *друљати* 'хістаць; камячыць, мяць'.

**Раздубальтава́ць** 'растлумачыць', *дубальтава́ць* 'паўтараць адно і тое ж' (Сцяшк. Сл.). Вобразнае ўтварэнне ад польск. *dubelt* 'падвойна, два разы', *dubeltowy* 'падвойны'.

**Раздудо́рыць** 'раздуць; апушыць' (Шымк. Собр). Да *дуць* (гл.) з рэдуплікацыяй каранёвай часткі.

**Разду́жжа** 'пярэдняя і задняя папярочка воза' (Касп.), 'дуга, якая злучае ў санях побачні' (Бяльк.), рус. дыял. *разду́жье* 'сагнутае ў дугу маладое дрэва, прымацаванае да саней'. Ад *дугá* (гл.).

**Раздумá́ць** 'раздзьмухваць', 'раздуваць', *раздумáнне* 'раздзьмухванне' (Юрч. СНЛ), рус. смал. *раздумáць* 'раздуваць агонь'. Ад *дуць* (гл.) пад уплывам *дзьмуць*.

**Разду́мацца** 'падумаць і змяніць ранейшы намер, рашэнне' (Др.-Падб.), рус. смал. *разду́маться* 'перадумаць'. Ад *раз-* і *ду́маць* (гл.) як антонім да *наду́мацца* 'прыняць рашэнне'.

**Разду́рбаць** 'паволі разбудзіць моцна спячага' (ашм., Стан.), *разду́рдаць* 'разбудзіць тармосячы' (смарг., Сл. ПЗБ), 'разбудзіць не ў час' (Сцяшк. Сл.), *розду́рбаць* 'раскатурхаць' (ТС), *разду́рдацца, разду́рбацца* 'ачуняць, прачнуцца' (ашм., смарг., Сл. ПЗБ). Балтызм, параўн. літ. *dùrdyti* 'калоць', 'тыкаць', *durdeti* 'грымець, грукатаць, трашчаць'. Сюды ж, відаць, і дэфармаванае пад уплывам іншых слоў *раздуры́ць* 'раскатурхаць', *раздурáць* 'раскатурхваць', *раздурáцца* 'прачнуцца' (Юрч.). Параўн. *разгурзацца* (гл.).

**Раздыхтава́цца** 'разгаварыцца' (Сл. ПЗБ). Няясна. Магчама, утворана ад *дыхце́ць* 'цяжка дыхаць' ці ад *дыктава́ць* (з польск. *dyktować*), гл.

**Разе́тка** 'сабраныя ў пучок стужка, шнур', 'маленькі спадачак', 'элемент арнаменту', 'прыстасаванне для ўключэння электрычных прыбораў', 'абажур для электрычнай лямпы ў выглядзе раструба', 'кружок з адтулінай у сярэдзіне, каб засцерагчы падсвечнік ад кропель стэарыну, воску' (ТСБМ, Сцяшк.). З ням. *Rosette* 'разетка (упрыгожанне)' або франц. *rosette* 'ружачка' непасрэдна або праз пасрэдніцтва рускай мовы, параўн. рус. *розе́тка* з шэрагам значэнняў.



**Разё́па** 'разява' (Бяльк., Др.-Падб.; асіп., рагач., Сл. ПЗБ), *разе́па* 'тс' (Гарэц.), рус. дыял. *разёпа* 'разява'. Ад *раз-* і *зяпа* (гл.) з экспрэсіўнай менай галоснага.

**Раз'ё́зацьь** 'папэцкаць' (дзятл., Сл. ПЗБ). Прыставачнае ўтварэнне са зрухам семантыкі ад *ёўзацца* 'неспакойна сядзець, рухацца ўвесь час' (гл.).

**Разжану́ць** (*разжену́ць*) 'разагнаць' (Нас.), *жену́ць* 'гнаць' (Нас.). Абагульненне асноў інфінітыва і цяп. ч., параўн. чэш. *hnáti, ženu* 'гнаць', 'прымушаць', серб.-харв. *гна̏ти, жѐнем*, славен. *gnáti, žénem* 'гнаць', ст.-сл. **гънати, женѫ** 'гнаць'. Да прасл. **gъnati*/ **ženǫ*. Падрабязней гл. ЭССЯ, 7, 196–197. Параўн. *жэнуць* (гл.).

**Разжуры́цца** 'распаліцца' (шальч., Сл. ПЗБ). Утворана ад *жу́раць* 'прыгараць, абвугліваццa' (гл.).

**Разжу́хацца** 'пасварыцца' (Янк.). Ад *раз-* і *жу́хаць* 'рэзка кідаць' (гл.).

**Разжы́цца** 'разбагацець' (Сл. ПЗБ, Некр.), 'раздабыць, дастаць, пазычыць' (Бяльк.), *разжыва́цца* 'багацець' (Інстр. 3), *разжыва́нне* 'абжыванне' (Юрч. СНЛ), *разжы́ў* 'разжытак' (Юрч. СНЛ). Ад *раз-* і *жыць* (гл.).

**Раззе́ўрат** (*разьзеўрат*) 'разява, разявака' (Стан.). сюды ж *разяўро́тны* 'няўважлівы' (Сцяшк. Сл.). Ад *разявіць* (гл.) і *рот* (гл.), параўн. Гл. *ратазей, разява*.

**Раззя́піць** 'шырока раскрыць рот' (Касп.), *ръззяпе́ніць* 'шырока расчыніць (дзверы)' (ушац., Нар. лекс.), *раззя́піцца* 'адкрыцца, расчыніцца', 'разінуць рот', 'узняць крык, сварку' (Юрч. СНЛ), рус. дыял. *раззепа́й* 'крыкун, гарлапан' (пск., цвяр.), *раззепа́ться* 'пачаць шмат пазяхаць'. Ад *зяпа* (гл.).

**Разібо́ддзе** (*рызібоддзе*) 'неразбярыха' (Яўс.). Няясна.

**Ра́зік** 'малады парастак, атожылак' (ТС). Ад *рэзаць*, параўн. *раз* 'адзін' (гл.).

**Разі́нуць** 'раскрыць пашчу' (шум., лід., Сл. ПЗБ), *разі́нуцца* 'шырока раскрыцца (пра пашчу)' (ашм., Сл. ПЗБ), 'пачаць лаянку' (Нас.), 'падняць крык, пачаць лаянку' (Юрч. СНЛ), *разі́нуцца* 'раскрыцца (пра зеў у кроснах)' (Сержп. Прык.). З **orz-* і **zinǫti*. Далей роднаснае да *зіянне, зява́ць* (гл.). Сюды ж аддзеяслоўныя

*разі́ня* 'разява' (Бяльк.), *разі́нька* 'тс' (Нас.), *разі́нькі* 'разявацтва' (Нас.), 'разявакі' (Бяльк.). Гл. Фасмер, 3, 434.

**Ра́зіць** 'ударацъ', 'абражаць' (Нас., Гарэц.), *разі́ць* 'паразіць (пра хваробу)' (паст., Сл. ПЗБ), *ра́зіцца* 'трапляць у няёмкае становішча' (Нас., Гарэц.), 'абражацца' (Гарэц.), рус. *рази́ть* 'біць, наносячы ўдары', 'злаваць, крычаць', укр. *рази́ти* 'біць', польск. *razić* 'раніць', 'надразаць', чэш. *raziti* 'біць', славац. *razit'* 'біць', славен. *ráziti* 'драпаць', балг. *сразя́* 'паваліць адным ударам'. Да прасл. **raziti*. Звязана з *раз, рэ́заць* (гл.) (Фасмер, 3, 434; Махэк$_2$, 510).

***Разкярэ́ша** (*розкере́ша*) 'нерастаропны, маруда' (іван., Непакупны, Связи, 194), 'брудны, мурза' (пруж., там жа), укр. палес. *розкере́ша* 'крываногі, клышаногі', 'развілка ў сасне'. Кантамінацыя балт. *keréža* і *разкарака* (*разкоря́ка*) 'разгалінаванае дрэва' (Непакупны, Связи, 195). Гл. *раскярэша*.

**Разка́ты** 'разгорнуты, распрастаны' (напр.: лісце бульбы) (Ян.). Утворана ад *раскатáць*, гл. *катаць*.

**Разка́ч** 'зношаны венік' (Янк. 1). Ад *розга, роска* 'дубец' па мадэлі *дзяркáч*, паколькі такі венік мае вострыя тоўстыя галінкі, параўн. *разгачы* (гл.).

**Разко́м** 'разам, сумесна', 'за адзін раз' (Нас.), 'разам' (ТС), рус. дыял. *разко́м* 'разам, за адзін раз', 'без прамаруджвання', укр. *разко́м* 'разам', 'за адзін прыём'. Ад *раз* (гл.).

**Разла́ты** (*разла́тый*) 'сукаваты' (Юрч. СНЛ), параўн. балг. *разлат (ръзлат)* 'роўны, расшыраны', 'неглыбокі (пра пасудзіну)', рус. дыял. *разла́тый* 'які расшыраецца, паступова павялічваецца ў шырыню'. Мяркулава (Очерки, 29) звязвае апошняе слова з укр. *лататий* 'шырокі', рус. *лата́тый горошек* 'рагаты гарошак, які тырчыць у розныя бакі' і далей з *ла́та, ла́тка* 'кусок матэрыі, латка'. Аднак для этымалогіі слова істотнае значэнне мае дзеяслоўная ізалекса, параўн. рус. *разла́тить* 'шырока растапырыць' (разан.) і серб.-харв. *razlatiti* 'расшырыць, шырока адкрыць', вытворнае ад *latiti* 'схапіць, сціснуць' (Цыхун, БЛ, 5, 49). Апошняе да **latiti*, роднаснае **latati* і, нарэшце, **lětati* (ЭССЯ, 14, 48–49), гл. *лятаць*, *лата*$_3$. Пра адносіны **latiti* і **lātāti* гл. спец. Рыкаў, Зб. Лекаву, 325–327; пра сувязь **latiti* і *letěti* гл. Немец, Slavia, 66, 319–324. Адносна ст.-слав. **разлатын** гл. Геродас, Slavia, 49, 397–398.

**Разлёпа**, *разлёпушка* 'нязграбны чалавек' (астрав., Сл. ПЗБ), укр. *леп* 'ліпкі бруд', *ле́павча* 'бруднае дзіця', славен. *lép* 'клей',



серб.-харв. *лȅп* 'клей, усё, што клеіць', ц.-слав. *лепъ* 'клей, пластыр'. Да прасл. **lерь, *lьръ* 'клей, усё, што ліпне' (ЕСУМ, 3, 222–223). Падрабязней гл. ЭССЯ, 14, 224–225. Параўн. *ляпня́к* 'недапечаны хлеб, які ліпне да зубоў' (гл.).

**Разлётны** 'імклівы, моцны' (Сцяшк.), *разлёт* 'рух з паступова нарастаючай хуткасцю', *разлётацца* 'палётаць' (ТСБМ), рус. дыял. *разлётный* 'які можа, умее лётаць'. Ад *раз-* і *лётаць* (гл.)

**Разлі́вы** 'ашаламляльны' (Нас.). Ад *разі́ць* (гл.).

**Разлі́ў** 'разводдзе' (Сл. ПЗБ), *разлі́ва* 'разводдзе, паводка' (Янк. 1). Ад *разліва́ць, разліва́цца,* да *ліць* (гл.).

**Разло́жысты** 'развесісты, раскідзісты (пра дрэва, крону, галіны)', 'шырокі, адкрыты', 'які далёка чуецца' (ТСБМ), 'разгалісты' (Сл. ПЗБ), 'галінасты' (Сцяшк. Сл.), 'развесісты' (Гарэц., Др.-Падб.), рус. дыял. *разло́жистый* 'які разыходзіцца ў бакі'. Ад *раз-* і *лажы́ць*. Сюды ж *разло́г* 'абшар, адкрытая прастора' (ТСБМ), 'простор, пагоркі, нізіны' (Сцяшк., Др.-Падб.), *разло́г* 'рыхлая глеба' (Касп.).

**Разлу́ка** 'страва з вады і пшанічнай мукі' (Касп.). Няясна. Магчыма, семантычная інавацыя (іранічнае ўтварэнне?) на базе *разлучы́ць* (гл.).

**Разлупа́шываць** 'моцна раздзіраць' (Юрч. СНЛ), *разлупе́чываць* 'тс' (там жа). Утворана ад *разлупі́ць* 'раздзерці' з дапамогай экспрэсіўных суфіксаў *-ашы-, -ечы-*. Гл. *лупі́ць*$_1$.

**Разлуча́ць** 'падзяляць на часткі' (лід., Сл. ПЗБ), *разлуча́цца* 'падзяляцца на часткі', 'адстойвацца (пра малако)' (астрав., лаг., Сл. ПЗБ). Да *лучы́ць*$_1$ (гл.), параўн. ст.-слав. **разлѫчити** 'аддзяліць' і пад. (< **orz-lǫčiti*, аб семантычным развіцці **lǫčiti* ад 'разлучаць' да 'злучаць' гл. ЭССЯ, 16, 132–133).

**Разляле́цца** 'разбалецца' (лід., Сл. ПЗБ). Верагодна, роднаснае з укр. *ле́ле* 'выклічнік для выражэння жалю, страху або здзіўлення', *леле́кати* 'галасіць, стагнаць', *лелі́ти* 'плакаць', балг. *ле́ле* 'выклічнік для выражэння жалю, здзіўлення', серб. *лȅле* 'тс', харв. *lelkati* 'скардзіцца, стагнаць', якія тлумачацца як утварэнні ад клічнай формы назоўніка *ле́ля* 'старэйшая жанчына, цётка, маці'. (ЭССЯ, 4, 103–105; ЕСУМ, 3, 216–217).

**Размаглява́ць** (*размаглева́ць*) 'нарумяніць', 'намасліць' (Нас.), 'размаляваць, упрыгожыць' (Шпіл.), *размаглі́ва́ць* 'размаляваць, нафарбаваць' (Бяльк.), *размаглева́цца* 'прыгожа апранацца, румяніцца' (Нас.), *размаглёванный* 'нарумянены' (Нас.), укр. *маґлюва́ти*

‘дрэнна маляваць’, ст.-польск. *maglować* ‘разгладжваць валасы, скуру’ (XVI–XVII ст.). Лучыц-Федарэц зблiжае з *мáгель* ‘прылада, якой качаюць бялiзну’, *маглявáць* ‘качаць бялiзну’, гл. ЭСБМ, 6, 150, 152. Няпэўна. Па iншай версii, якая падаецца больш верагоднай, лексема ўзнiкла ў вынiку збліжэння *малявáць* (гл.) з фанетычна блiзкiм *маглявáць* ‘качаць бялiзну’ (ЕСУМ, 3, 354).

**Размажджэ́рыць** (*размоджжéрить*) ‘разбiць, растаўчы’ (Нас.), *размазджáрыць, размазджырыць* ‘разбiць’ (Сцяшк. Сл.), што да *можджéрить* ‘таўчы, разбiваць на дробныя часткi’ (Нас.), *мажджэ́рыць* ‘драбiць, таўчы, раздрабляць’ (ТСМБ), *можджéрь* ‘медная або чыгунная ступка’, ‘невялiкая мартыра’ (Нас.), рус. смал. *можжéр, можжúр* ‘ступа’, ‘вялiкая гармата’, укр. *моджéра* ‘мартыра’, ‘тс’, чэш. *moždíř* ‘ступка, мартыра’. Лiчыцца запазычаннем з польск. *moździerz* ‘ступа’, ‘мартыра’, у якую яно трапiла з лац. *mortarium*, магчыма, праз пасрэднiцтва с.-в.-ням. *morsære*, ст.-в.-ням. *morsâri* (Фасмер, 2, 637; Брукнер, 346). Гл. *мажджара*.

**Размазкатáный** ‘разбiты ўшчэнт’ (Юрч. СНЛ), *мазгатáць* ‘бiць, разбiваць’, ‘стукаць’ (Нас.). Узыходзiць да прасл. **moskotati, *mozgotati* (ЭССЯ, 20, 18–19, 92), параўн. *маскатаць* (гл.).

**Размаíты**, *розмаíты* ‘розны, разнастайны’ (астрав., лiд., шальч., трак., вiльн., iгн., гарад., Сл. ПЗБ; Нар. Гом.), *размаíце* ‘па-рознаму’ (астрав., вiльн., Сл. ПЗБ). З польск. *rozmaity* ‘розны, разнастайны’, *rozmaicie* ‘па-рознаму, разнастайна’. Сюды ж форма з устаўным *-в- размавiта* ‘разнастайна’ (гродз., Сцяшк. Сл.).

**Размáй** ‘размарын’ (Мал., Булг., Гарэц., Тур., Кольб.). Ад *размары́н* (гл.) пад уплывам слова *май*, паколькi расліна цвiце ў маi.

**Размандыкваць** ‘пляткарыць’ (навагр., Сл. ПЗБ), *размунды́кываць* ‘балбатаць, спрачацца’ (Юрч.), *размунды́кывацца* ‘балбатаць’ (Юрч. СНЛ). Няясна, параўн. *мандзякаць*, гл.

**Размані́ць** ‘раздражнiць’ (люб., Сл. ПЗБ). Ад *раз-* i *манíць* (гл.), параўн. *манá* ‘азарт’, ‘ахвота, жаданне’.

**Размары́н**₁ ‘вечназялёная духмяная расліна’ (Некр. i Байк.), ст.-бел. *розмаринъ* (1710), рус. *розмарúн*, укр. *розмарúн*, польск. *rozmaryn*, чэш. *rozmarýna*, славац. *rozmarín*, в.-луж. *rósmarja*, н.-луж. *rosmar(i)ja*, славен. *rōžmarin*, харв. *rozma(ri)n*. Праз ням. *Rosmarin* з лац. *rōsmarīnus* ‘тс’ < *rōs marīnus* ‘марская раса’.

**Размары́н**₂ ‘стома’ (КЭС). Назоўнiк, утвораны ад дзеяслова *размары́ць* ‘давесцi да расслабленага, санлiвага стану’, як *мéшань* ад *мяшáць*. Гл. *мáрыць*.



**Размахáй** ‘марнатравец’, *размахáйства* ‘марнатраўства’ (КЭС). Ад *раз-* i *махáць* (гл.).

**Размáхiрыць** (*размáхирить*) ‘змарнатравiць’ (Нас.), *мáхирить* ‘хлусiць, ашукваць’, рус. дыял. *мáхир* ‘падманшчык, ашуканец’. Паводле Фасмера (2, 585) з нова-в.-ням. *Macher* ‘камбiнатар, дзялец’, магчыма, праз iдыш *macher*, параўн. *шахер-махер* (гл.).

**Размахму́дзiць,** *размахмуднiчаць* ‘выклiкаць да незразумелых учынкаў’ (Юрч. СНЛ). Утворана ад уласнага iмя *Махмуд*, якое набыло адмоўнае экспрэсiўнае значэнне. Тое ж адбылося са словам *мýрза₁* ‘гразны чалавек’ (гл.), якое ад перс. *mīrzā*, параўн. *мурзá* (гл.). Семантычны пераход ‘татарын’ > ‘дрэнны чалавек’ тлумачыцца сацыяльна-палiтычнымi фактарамi (Кубанава, Тюркизмы вост.-слав., 199–200).

**Размахру́шчаны** ‘раскудлачаны’ (Сцяшк. Сл.). Ад *махры́* (гл.) праз **махрачыць/махручыць* па ўзору *растру́шчаны*.

**Размашаравáць** ‘выклiкаць актыўнае дзеянне’ (Юрч. СНЛ). Семантычная iнавацыя на базе *маршыравáць*. Гл. *марш*.

**Размáшчываць**, *размóшчываць* ‘разбiраць падлогу’ (Юрч. СНЛ), *размасцíць* ‘разабраць падлогу’ (там жа). Ад *раз-* i *масцíць* (гл.), параўн. *мост* ‘падлога’.

**Размелькавáць** эмац. ‘абдумаць’ (Юрч. СНЛ). Ад *мелькаваць* ‘меркаваць’ (там жа) < *меркавáць* (гл.) з дапамогай прыстаўкi *раз-*; пры гэтым адбылася мена *р//л*.

**Размеркавáць** ‘раздзялiць, падзялiць’ (ТСБМ, Др.-Падб.), ‘вызначыць паслядоўнасць’, ‘падлiчыць, вырашыць’ (ТСБМ). Ад *меркавáць* (гл.). Развiццё семантыкi iшло ад ‘працэс разумовай дзейнасцi’ > ‘вынiк гэтай дзейнасцi’.

**Размéткi** ‘расліна свiнакроп, Spergula’ (Кiс.). Ад рус. *разметáть* ‘раскiдаць’. Матывацыяй паслужыў знешнi выгляд расліны – распасцёртыя па зямлi сцяблы.

**Размóва** ‘гаворка’, ‘мова, вымаўленне’ (ТСБМ), ‘размова’ (швянч., Сл. ПЗБ; Бяльк., Гарэц., Шпiл., Булг., Мал., Др.-Падб.), ‘рознагалоссе’ (Нас., Гарэц.). Сюды ж *размóвка* ‘сварка, спрэчка, нязгода’ (Нас.). Да *мова* (гл.). Хутчэй за ўсё, запазычана з польск. *rozmowa* ‘гаворка; перамова’ (Бел.-рус. iзал., 9).

**Размóзгнуць** ‘разварыцца; разамлець’ (слонiм., Нар. словатв.), рус. *мóзгнуть* ‘гнiць, псавацца, пакрывацца цвiллю’, *мóзглый* ‘гнiлы’, *(про)мóзглая погода* ‘сырое, мокрае надвор’е’. Чарных

(1, 538) звязвае з *мзга* < **мъзга* < прасл. **mъsga* з суф. *-g-a*, сюды ж таксама стараж.-рус. **мȣзгъ** ‘ціна’. Узводзяць да і.-е. кораня **meu-(:*mou-):*mū* ‘сыры’, ‘мокры’, ‘брудны’, ‘гнілаваты’ з пашыральнікам *-s-* (Покарны, 741–742). Іншыя версіі гл.: ЭССЯ, 18, 223–225 (**mězga*), 21, 96–97 (**mozgъ*). Гл. таксама *мазглявы*.

**Размузнéць** ‘стаць мяккім, ператварыцца ў месіва’ (Скарбы). Ад *музá*$_2$ (гл.).

**Размундзéрыць** ‘адкрыць так, каб быў доступ да чаго-небудзь’ (Нар. Гом.). Семантычная інавацыя на базе *мундзíр* (гл.) праз ‘зняць мундзір’ > ‘зняць верхняе покрыва’ > ‘раскрыць’.

**Размунíчыць** ‘разабраць, папсаваць’ (Сцяшк.). Да *амуніцыя*?

**Размэ́нзацца** ‘расплакацца’ (Сцяшк.). Экспрэсіўнае ўтварэнне з няяснай этымалогіяй ад *размáзацца*. Па форме “неапаланізм”.

**Размязжýліць** ‘раструшчыць’ (Нас.), *размяжджýрываць* ‘груба расціскаць’ (Юрч. СНЛ), *мяжджýрыць* ‘расціскваць’, ‘біць, таўчы’, ‘прагна есці’ (там жа), *размяжжурыць* ‘разбіць на дробныя часткі’ (Шымк. Собр.), ‘раздушыць’ (Касп.). Ад *мязгá*$_1$, гл.

**Размякáць** ‘разбухаць’ (мядз., Сл. ПЗБ), ‘размакаць’ (Нас.), *размякчэ́ць* ‘зрабіцца мяккім’ (Юрч. СНЛ). Ад *раз-* і *мя́кнуць* (гл.).

**Рáзна**, *рáзьня, рáзне* ‘па-рознаму’ (брасл., трак., Сл. ПЗБ). З рус. *рáзно*, магчыма, пад уплывам польск. *różnie* ‘тс’.

**Рáзна** (*рáзно*) ‘раўнамерна, аднолькава роўна’, *рáзне, рáзня* ‘заўсёды’ (Сл. Брэс.). Вытворныя ад *раз* (гл.).

**Разнáда** ‘ласунак’ (шчуч., Сл. ПЗБ),. *разнáдзіцца* ‘панадзіцца’, ‘рассмакавацца’ (дзятл., шчуч., пух., Сл. ПЗБ), *разнáдзіць* ‘разахвоціць’ (маст., Сл. ПЗБ), *разнаджаны* ‘разласаваны’ (лід., Сл. ПЗБ). Магчыма, утворана па мадэлі слова *прынáда* (гл.), дзе *пры-* было ўспрынята як прыстаўка. Гл. *надзіць*.

**Разнамёт** ‘living’ ‘рознакаляровасць’ (Юрч. СНЛ). Верагодна, узнікла ў выніку складання слоў *рóзны* і *мéтка, мéціць*.

**Разнарáдка** ‘размеркаванне каго-, чаго-небудзь у планавым парадку’, ‘распараджэнне аб такім размеркаванні’ (ТСБМ). З рус. *разнаря́дка* ‘дакумент, распараджэнне аб выкананні якой-небудзь працы або аб адпраўцы чаго-небудзь’.

**Разнéслух** ‘найвялікшы неслух’ (Нас.). Паводле Карскага (2–3, 90), ад *нéслух* (гл.) з прыслоўем *раз* (гл. *раз-*), што надае ўзмацняльнае значэнне.



**Разнíк** ‘хто забівае жывёлу’ (шальч., Сл. ПЗБ), ‘мяснік’ (Яруш.), укр. *різни́к* ‘разнік’, ‘прадавец мяса’, в.-луж. *rěznik* ‘мяснік’. Ад *рэ́заць* (гл.).

**Разнíца** ‘бойня’ (ТСБМ; зэльв., Сл. ПЗБ), ‘сячкарня’ (брасл., Сл. ПЗБ), ‘бойня’, ‘крама, дзе прадаюць мяса’ (Бяльк., Янк. БП, Яруш., Бір. Дзярж.), в.-луж. *rěznica* ‘бойня’. Ад *рэ́заць* (гл.).

**Разныкаць** ‘вымусіць часта згінацца’ (Юрч. СНЛ). Да *ныкаць*$_1$ (гл.).

**Разнягóдзіцца** ‘устанавіцца негадзі’ (Янк. 2), ‘раздаждыцца’ (Некр.). Ад *нягóда* (гл.) па ўзоры *распагóдзіцца*.

**Разняхáяць** ‘стаць лянівым’ (Ян.). Утворана ад часціцы *няхáй*, як *развóйкацца*.

**Разóк** ‘кавалак зямлі, поля і засценак’ (Бяльк.). Ад *рэ́заць*, *рэз* (гл.).

**Разóнт**: *у разонт прымаць* ‘улічваць, прымаць пад увагу’ (Нар. Гом., Ян.), *разóн* ‘увага’ (Сцяшк. Сл.), ‘упэўненасць, адвага’: *грошы много даюць разону* (Сержп. Казкі). Ад *рэзóн* ‘слушнасць, рацыя’, ‘довад’. Застаецца незразумелым з’яўленне *-т*.

**Разóнцы** ‘бульба, разрэзаная напалам і звараная ў мундзірах’ (пін., Нар. лекс.). Утворана ад *рэ́заць* (гл.) з дапамогай суфікса *-он(е)ц-*, як *ляжáнец* ‘абложная зямля’, *перабірáнец* ‘від посцілкі’. Гл. таксама *рэ́занец*.

**Разóра** ‘баразна’ (ТСБМ), *розóра, рузóра, разóрка, розóрка* ‘разора’ (маст., пух., гродз., лід., нараўл., драг., пруж., шчуч., Сл. ПЗБ), *разóрына* ‘баразна’ (Нас., Сцяшк.), *разóр* ‘разора’ (Нар. лекс., Нар. Гом., Выг., Гарэц., Др.-Падб., Сцяшк., Яруш., Демб.). Утворана ад *раз-* і *араць* (гл.). Сюды ж *разóрваць* ‘выворваць бульбу’ (Сцяшк., Янк. 3), *разóраны, разóраты* ‘узараны’ (Сл. ПЗБ).

**Разóўка** ‘мука грубага памолу’ (Сл. ПЗБ), ‘мука з абдзіранага зерня’ (Сцяшк.), ‘сорт пшанічнай мукі’ (Ян.), *разóвы* ‘буйна змолаты’ (Сл. ПЗБ), укр. *разóвка* ‘груба змолатая мука’, *разóвий* ‘хлеб з мукі грубага памолу’, польск. *razować* ‘малоць збожжа на муку’, *razowy* ‘адзін раз змолатая мука’, ‘хлеб з разовай мукі’. Ад *раз* ‘адзін’, паколькі *разовай* называлі муку, якую малолі толькі адзін раз.

**Разрáдка** ‘частка выплаты падатку, доўгу’ (в.-дзв., Сл. ПЗБ). Ад *рад* ‘чарга’ (гл. *рад*$_1$), магчыма, пад уплывам слова *рата* (гл.).

**Разразíць** ‘растрывожыць’: *пабіў калена і так разразіў рану, што аж гніць пачала* (Сцяшк. Сл.), *розразíць* ‘сапсаваць, атруціць’

(ТС), з іншым трываннем, *разражáць* 'раздражняць' (Ян.), 'узбуджаць' (Юрч.), *разражáцца* 'запаляцца, чырванець' (воран., Сл. ПЗБ). Ад *раз-* і *разіць* (гл.). Паводле Варбат (Зб. Трубачову, 26), сюды ж рус. дыял. *разразúть* 'растрывожыць, растравіць (рану)', 'раздражніць, расстроіць', укр. *разразúти* 'раздражніць, растравіць' (< прасл. **orzraziti*), а таксама стараж.-рус. *раздразити* 'разбіцца', ст.-польск. *rozdrazic się* 'тс', ст.-слав. **роздразити** 'разбіць' з выдзяленнем асновы **draziti* > **dražiti*, гл. *дражніць*.

**Разразніць** (*разразьніць*) 'раздзяліць што-небудзь на часткі', 'прымусова разлучыць некалькі асоб' (Янк. 1). Ад *рóзніца₂* (гл.), магчыма, пад уплывам *рэ́заць*.

**Разрáяць** 'разлучыць, развесці' (Сцяшк. Сл.). Ад *раз-* са значэннем дзеяння, супрацьлеглага папярэдняму, і *рáіць* (гл.), як антонім да *парáіць, нарáіць* (*я* на месцы *і* з'яўляецца вынікам моцнага якання).

**Разры́нуцца** (*разры́нуцьца*) 'разваліцца, седзячы або лежачы' (Нас., Гарэц.), 'растаўсцець' (Нас.). Сюды ж, відаць, *розрунíцца* 'зрабіцца тоўстым, раздацца' (ТС), у такім выпадку, магчыма, да *рунíцца* 'усходзіць, зелянець', што да *рунó* 'густая рунь' (ТС).

**Разры́ўка** 'занятак' (брасл., гарад., Сл. ПЗБ), 'забаўка', 'разрыў' (Нас., Шн. 2), *разрывáць* 'забаўляць' (Нас.). З польскага *rozrywka* 'забаўка, пацеха'. Сюды ж і *разры́ў* 'перапынак у працы' (дзятл., Сл. ПЗБ). Хаця не выключана, што гэта самастойнае ўтварэнне.

**Разры́ўнік** 'жывучка', 'гарлянка' (Касп.), *разры́ў* 'расліна гарлянка, Ajuga reptans L.' 'тс' (Кіс.), рус. дыял. *разрыв-трава*. Ад *рвáць, разрывáць*, паколькі расліна лічылася чароўнай травой, ад якой замкі і запоры распадаюцца і скарбы адмыкаюцца (Бел. міф., 421). Пра паўднёваславянскія адпаведнікі (серб. *расковник* 'тс') гл. Мароевіч, ЗФЛ, 21/1, 220–223.

**Разрэ́піцца** 'распаўнець, патаўсцець' (Сцяшк. Сл.). Ад *рэ́па*, праз параўнанне *стаць тоўстым, як рэ́па*. Не выключана сувязь з *рэпацца* 'трэскацца, лопацца' (гл.) з развіццём значэння 'стаць тоўстым, аж лопацца'.

**Разсóхі** 'сошкі (апоры) на бэльках' (ЛА, 4). Утворана ад *сóхі, сóшкі* (гл.) з дапамогай прыстаўкі *раз-*, якая нясе ў сабе семантыку разгалінавання, раздваення.

**Разстáй** 'скрыжаванне' (Яруш.). Утворана ад *расставáцца*, як *звы́чай* ад *звыкáцца*.



**Разу́мны** 'надзелены розумам' (ТСБМ; астрав., мін., Сл. ПЗБ; Бяльк., Мал.), 'разважлівы, кемлівы, надзелены жыццёвай мудрасцю' (ТСБМ), *разу́мец* 'разумнік' (Янк. 2), 'той, хто хваліцца сваім розумам' (Янк. 1), *разумéц* 'сталы, разважлівы чалавек' (Сцяшк.), *разу́мнік* 'хітры чалавек' (Сцяшк.), 'мудрэц, хітрэц' (Бяльк.), *разумóк* 'дзіця, якое па-даросламу разважае' (Інстр. 3), 'мудрэц, хітрэц' (Юрч.), *разумóчак* 'мудрэц, хітрун' (Юрч. СНЛ), *разуму́та* іран. 'разумніца' (лаг., Гіл.). Ад *рóзум* (гл.).

**Разурáтнічаць,** *разурáтываць, разурáтывацца* 'сваволіць, распуснічаць' (Юрч. СНЛ), сюды ж *разурáтны* 'непаслухмяны', 'бойкі, разбітны', 'распусны' (Ян.). Запазычана з рус. *разврáтничать* 'распуснічаць'. Параўн. *розворáтні, розворáтны* 'бязладны' (ТС) з поўнагалоссем (гл.).

**Разу́ха,** *разу́шка* 'асака' (Сл. ПЗБ, Юрч.), *рэзу́ха* 'тс' (ТС), *разу́чы* 'калючы (пра траву)' (рагач., Сл. ПЗБ), укр. *різу́ха* 'водная расліна Najas L.' польск. *rzeżucha* 'асака, Carex L.'. Ад *рэ́заць* (гл.), параўн. Брукнер, 475–476.

**Разу́ць** 'зняць з каго-небудзь абутак' (ТСБМ; чэрв., Сл. ПЗБ; Сцяшк.), *разувáць* 'знімаць абутак' (ТСБМ; ганц., Сл. ПЗБ; Гарэц.), *разувáлкі* 'прыстасаванне для зняцця абутку з ног' (паст., Сл. ПЗБ), рус. *разу́ть, разувáть*, укр. *роззу́ти, роззувáти*, укр. разм. *розбувáты*, польск. *rozzuwać, rozzuć*, н.-луж. *rozuś*. Гл. *абу́ць*; параўн. і ст.-бел. *вызўватися* 'разувацца' (1616 г., Карскі, 2–3, 96).

**Разыгрá** 'раздолле, прастор, раскоша' (Скарбы). Параўн. *рóзыгры* (гл. *розыйгра*).

**Разы́нкі,** *разíнкі* 'ізюм' (бяроз., лід., Сл. ПЗБ; Нас., Гарэц., Шн. 3, Касп., Др.-Падб., Шпіл.), 'ягады на кусце' (Сл. ПЗБ), *розíнкі* 'ізюм' (ТС), *рызы́нкі* 'разынкі' (Сцяшк.). Запазычана старабеларускай мовай (фіксуецца з 1498 г.) са ст.-польскай, параўн. ст.-бел. *розынки, родзынки, розинки*, польск. *rozynki, rodzynki* < ням. *Rosinen* (Булыка, Лекс. запазыч., 150); мяркуецца пасрэдніцтва яўрэйскай мовы, параўн. ідыш *Rosinkes* 'тс' (Галай, Бел. мова ў другой палове XX ст., Мн., 1998, 103).

**Разэ́ля** 'неахайны чалавек' (Сцяшк. Сл.). Няясна. Магчыма, экспрэсіўнае ўтварэнне ад уласнага імя *Разэ́ля* (ад *Разалія*), зафіксаванага ў творах Л. Калюгі. Нельга выключыць і магчымы ўплыў літ. *rė'zla* 'пузаты, чараваты чалавек', *rėžlinti* 'плесціся, павольна ісці'.

**Раз'юрыцца** 'разгулянца', 'раззлавацца, раз'юшыцца' (Нас.; ашм., іўеў., Сл. ПЗБ), 'раздурэцца', 'разгулянца' (Сцяшк. Сл.), *разъюрытсь* 'раздражніць' (Шпіл.), *раз'юрыцца* 'распаліцца палавой страсцю', *раз'юраны* 'той, каго ахапіў непамерны шал' (слонім., Жыв. НС), *роз'юрыцца* 'раз'юшыцца' (ТС). Ад *раз-* і *юр*, *юрыць* (гл.).

**Раз'юшыцца** 'ўзлавацца' (Інстр. 3), *роз'юшыцца* 'раз'юрыцца' (ТС), *раз'юшывацца* 'гарачыцца' (Нас.), укр. дыял. *раз'юшити* 'раззлаваць, раз'ярыць, усхваляваць каго-небудзь', *роз'юшитися* 'раззлавацца, раз'ярыцца, расхвалявацца', а таксама 'разбіць да крыві (нос, твар)', польск. *rozjuszyć* 'давесці да шаленства, раззлаваць', а таксама 'раскрывавіцца', харв. *razjušit se* 'раззлавацца, разгневацца', 'узмацніцца (пра вецер)'. Узыходзяць да прасл. **jucha* (<**ious-ā*) (ЭССЯ, 8, 193), гл. *юха, юшка*. Мяркуецца, што зыходным было значэнне 'від стравы (поліўкі, супа), прыгатаванай з мяса (або з мяснога адвару) і звярынай крыві'. З гэтага кулінарнага значэння на пэўнай частцы славянскай тэрыторыі развілося другаснае значэнне 'звярыная кроў'. Вытворныя дзеясловы спачатку, верагодна, мелі значэнне 'крывавіць, сцякаць крывёю, залівацца крывёю', што дае падставы для рэканструкцыі прасл. **jušiti (sę)*, гл. *юшыць*. Са значэння 'крывавіць' развілося другаснае, пераноснае значэнне 'адчуваць непакой, раздражняцца/раздражняць, злавацца/злаваць', заснаванае на назіранні за эмацыянальна ўзрушаным чалавекам, які раптам чырванее ад прыліву крыві, вызваннага эмоцыямі, параўн. бел. *наліваўцца крывёю* 'моцна злавацца' (Борысь, Czak. stud., 16–18).

**Разява**, *разявака* 'няўважлівы чалавек' (ТСБМ), *разёва, разёва, розява, раззёва, роззява* 'хто няўважлівы' (віл., шчуч., лід., дзятл., беласт., ваўк., Сл. ПЗБ; Скарбы, Сцяшк. Сл., ТС), *разявёня* 'разява' (Янк. 2), *разявон* 'разява' (Юрч.), *разявяка* 'разява' (брасл., Сл. ПЗБ), *разявёня* 'някемлівы' (Сцяшк. Сл.), *разяваты* 'някемлівы, нецямлівы' (Янк.), *разявонічка* 'разява' (Юрч. СНЛ). Ад *разявіць* (гл.). Звычайна разглядаецца як вытворнае ад *зяваць* (гл.). Непадаўжэнне *-з-* магчыма ў выніку дээтымалагізацыі слова. Або можна меркаваць, што быў нейкі корань **inąti, *jati*. Такім чынам, утворана аналагічна да рус. *разиня*, якое з **orz-* і **zinǫti* (Фасмер, 3, 434).



**Разявіць** 'раскрыць (рот)' (ТСБМ), *раззявіць, роззявіць, разьзявіць* 'разінуць, раскрыць (рот)' (смарг., лях., віл., беласт., маст., шчуч., Сл. ПЗБ; Гарэц., Нас., Мал., Мядзв., Др.-Падб., Мат. Гом.), 'крычаць', перан. 'адчыніць' (Сл. ПЗБ), *розявіць, роззявіць, розевіць* 'шырока адкрыць (рот)' (ТС), *разявіцца, разявіца* 'раскрыць рот', 'крычаць', 'раскрычацца' (шальч., трак., шчуч., даўг., Сл. ПЗБ), *разяўляцца* 'зяваць' (Яруш.). Ад *раз-* і *зяваць* (гл.).

**Разяпіць** 'шырока адкрыць (дзверы)' (Раст.): «Нашто гэта акно разяпілі?» (Полымя, 1970, 2, 134), сюды ж *разепа* 'разява' (Гарэц.), *разяпа* 'тс' (Мат. Маг.). Апошняя форма скіроўвае ў бок *зяпа* 'рот, пашча' (гл.), што выводзіцца з прасл. **zěpati* 'пазяхаць, крычаць; цяжка дыхаць' (Фасмер, 2, 94; БЕР, 1, 671). Аднак укр. *роззяпити* 'адкрываць, раскрываць', серб.-харв. *razjápiti* 'адкрыць рот', чэш. дыял. *rozjapiti*, *rozjapnouti* 'хутка раскрыць (руку)' даюць падставы для рэканструкцыі прасл. **orz-zъjapiti*, дзе **zъja-p-* звязана з ст.-слав. **зьяти** 'адкрываць рот, пазяхаць' (Саднік–Айцэтмюлер, 1, 23). Немец (Этимология–1997–1999, 126) узводзіць чэш. дыял. *rozjapati* (*ovoce*) 'хутка разабраць' да выклічніка *(j)ap*, паралельнага да *chap*, гл. *хапаць*. Інакш адносна ст.-чэш. *japati, jápati* 'назіраць; разумець' і аднакарэнных Махэк$_2$, 216 (< **op-*), Трубачоў, ЭССЯ, 1, 71–72 (< **apati*).

**Раз'ярыцца** 'узлавацца' (Інстр. 3), 'разгулянца' (паст., Сл. ПЗБ), *раз'ярыцца* 'страшэнна зазлаваць' (Варл.), *роз'ярыцца* 'раз'юшыцца' (ТС), серб.-харв. *разјарити се* 'раззлавацца, выйсці з сябе', рус. *разъяриться* 'тс', славен. *razjáriti, razjáriti se* 'узлавацца', 'выйсці з сябе'. Ад *ярыцца* (гл.), што ў сваю чаргу ад **jarъ(jь)* (ЭССЯ 8, 174).

***Раз'ятрыцца**, *роз'ятрыцца* 'моцна раздражніцца, раззлавацца, раз'юшыцца', 'развярэдзіцца, разбалецца' (КСТ), *раз'ядрыцца* 'развярэдзіцца, разбалецца', 'разрасціся' (чэрв., шчуч., Сл. ПЗБ). Ад *ятрыць, ятрыцца* 'запаляцца, чырванець' (гл.).

**Раз'яшчыць** 'расчыніць (пра дзверы)' (Ян.), 'расчыніць насцеж' (Жыв. сл.), *разьяшчыць* 'расчыніць (дзверы, акно)' (З нар. сл.). Экспрэсіўнае ўтварэнне цьмянага паходжання. Магчыма, роднаснае да *яшчык* (гл.), параўн. больш ранняе польск. дыял. *jaszcz* 'пасудзіна, выдзяўбаная з дрэва' (адносна яго гл. Саднік–Айцэтмюлер, 1, 33; Банькоўскі, 1, 577), што, аднак, не тлумачыць семантыку слова. Семантычна бліжэй н.-луж. *jašk* 'адтуліна ў жаку', што ўзводзіцца да прасл. **askъ* (Трубачоў, ЭССЯ, 1, 81), якія таксама не маюць надзейнай этымалогіі.

3 Зак. 2628

**Раі́цца** ‘здавацца, мігцець’: *раіцца ўваччу* (Сержп. Прык.). Метафарычны перанос *раіцца* (пра пчол), гл. *рой*. Гл. таксама *роіцца* ‘раіцца’, ‘здавацца’.

**Ра́іць** ‘радзіць’ (ТСБМ; даўг., паст., Сл. ПЗБ; Бяльк.), *ра́іцца* ‘радзіцца, прасіць парады’ (ТСБМ), *ра́інне* ‘парада’ (Нас., Бяльк.). Аднакарэннае да *ра́дзіць* (гл.). *І* на месцы *д, т* з’яўляецца тыповай фанетычнай асаблівасцю беларускіх і польскіх гаворак, параўн. бел. дыял. *айцец* (рус. *оте́ц*), *во́йчым* (рус. *о́тчим*). Першапачаткова, відаць, у вытворным ст.-бел. *радца* > *райца* ‘член рады’ (Ст.-бел. лексікон).

**Рай**₁ ‘месца, куды накіроўваюцца і дзе знаходзяць шчаслівае існаванне душы праведнікаў пасля смерці’ (ТСБМ, Сл. ПЗБ, ТС, Бел. міф.), *ра́йства* ‘тс’ (Сл. ПЗБ), *ра́йство* ‘збавенне, райскае жыццё’ (ТС), параўн. укр., рус. *рай*, польск., в.-луж., н.-луж. *raj*, чэш. *ráj*, славац. *raj*, славен. *ràj*, серб.-харв. *pâj*, балг. *рай*, макед. *paj*, ст.-слав. **раи**. Слова выключна славянскага моўнага арэалу, не мае іншамоўных адпаведнікаў з такім самым значэннем; літ. *rõjus* ‘тс’, хутчэй за ўсё, запазычанне са славянскіх моў. Перадусім азначаецца як ‘месца, дзе жылі Адам і Ева’, ‘прыгожая краіна’, у тым ліку ‘сад, кветнік, жытло, прытулак прабацькоў’, ‘чароўны край, дзе не бывае зімы’. Этымалогіі прасл. **rajь* пераважна абапіраюцца на асноўныя хрысціянскія ўяўленні пра *рай* як пра сад, параўн.: *кругом сад, бацца у раю* (Сержп.). Прынята, што ў бел. міфалогіі захавалася “класічная, найстаражытная” канцэпцыя *рай* – ‘сад, у якім заўжды шмат усяго, што душа прымае, і заўсёды цёпла, бо стаіць вечнае лета’ (Бел. міф., 421), тое ж адносіць Брукнер (452) да першаснага значэння *рай*, што не зусім правільна. Славянскія ўяўленні пра *рай* не абмяжоўваюцца значэннем ‘сад’, і *рай*, відавочна, з’яўляюцца агульнаславянскім рэлігійным паняццем, якое перш за ўсё мела семантычную сувязь з дахрысціянскім светам памерлых, насуперак меркаванню Борыся (509), што сувязь *рая* з душамі памерлых усталёўваецца з прыняццем хрысціянства. *Рай* як агульнаславянскі хрысцыянскі тэрмін мог замацавацца пазней. Пошукі роднасці слав. **rajь* з ‘сад’, відавочна, падмацоўваюць распаўсюджаныя ў іншых мовах утварэнні з грэч. παράδεισος, што звязана з паняццем ‘сад, парк, агароджанае месца’ ці ‘прыемнае прыгожае месца’. Фармаванне рэлігійнай семантыкі формы *рай* не мае адназначнага тлумачэння. Прызнаецца роднасць слав. **rajь* з авест.



*rāy* ‘багацце, шчасце’, ст.-інд. *rāy-*, *rās* ‘маёнтак, скарб, багацце’, *rayís* ‘падарунак, уласнасць’ (Младэнаў, 556; Мацэнаўэр, Cizí sl., 16, 163; Фасмер, 3, 435; Глухак, 516; БЕР, 6, 163; ESJSt, 12, 746; Борысь, 509 і інш.). Адсюль выводзіцца першасная семантыка *рай* ‘край багацця’ (Сной, 521), ‘край, дзе пануе багацце і шчасце’ (Борысь, 509). Трубачоў (Этногенез$_2$, 189–190, 417, 421, 424) выказвае сумненні адносна сувязі слав. **rajь* з інд.-іран. *rāy-* ‘багацце’ паколькі названыя формы не з’яўляюцца сакральнымі. Менавіта вывядзенне *рай* з апафанічнага шэрагу **rei-/*roi-* з шырокай семантыкай дае новы накірунак этымалагічным даследаванням. Найбольш імавернае вывядзенне *рай* з дахрысціянскіх уяўленняў пра свет памерлых праз паняцці воднай прасторы, параўн. **raj* < **roj*, як свет памерлых, што знаходзіўся пад вадой, плынню (Голуб–Копечны, 309) **rajь* < і.-е. *roi̯-* з першапачатковым значэннем ‘зарэчны’ ў сувязі з **rěka* (дыскусію гл. Этимология–1994–1996, 13–14; 23–24; Этногенез 173–175; Этногенез$_2$, 190), гл. *рака*. Аднак у дахрысціянскіх славянскіх вераваннях не існуе адназначнай сувязі паміж раем і менавіта ракой, параўн. сведчанні даследчыка славенскай міфалогіі З. Шмітака, што ў славенскай абраднасці вандроўны на той свет павінен перайсці шмат водаў, паколькі воды аддзяляюць гэты свет ад таго, а ў старажытнай карынційскай малітве памерламу жадаюць, каб на моры яму дзьмуў добры вецер (Шмітак, Mit., 42). Бязлай (Onomastica Jugoslavica, 6, 57–70) лічыць, што слав. *рай* суадносіцца з паняццем не толькі воднай прасторы, але і паветранай, можа азначаць ‘мора’ і ‘неба’, ‘край мора’ і ‘край гарызонта’, што пацвярджаюць і іншыя вераванні (скандынаўскія, сірыйскія – Бязлай, там жа), параўн. таксама авест. *źrayas-* ‘мора, сусветны акіян’, ст.-інд. *jrayas* ‘мора, прастора’. Паводле Трубачова (Этногенез$_2$, 417, 421), *рай* у славян не з’яўляўся супрацьлеглым паняццем да *пекла* (гл.), як гэта прадстаўлена ў хрысціянскіх уяўленнях, ▪ мог азначаць “потусторонний мир вообще”, куды “переселяются все умершие”, гэта проста “тот свет”, месца, “связанное с/или находящееся за водой”. Сной (521), як варыянтнае, разглядае першаснае значэнне *рай* як ‘тое, што звязана з патокам, цячэннем, адносіцца да воднай ці падводнай сферы’. Вывядзенне *рай* з прасл. **iroi-* (параўн. і.-е. **erei-* ‘цячы, рухацца’) дазваляе параўноўваць *рай* з *вір* (гл.; пра гэтую сувязь згадвалася ў літ-ры, гл. Жураўлёў, Язык и миф, 920) і *вырай* (гл.), а таксама з іх

славянскімі варыянтамі: *вырай* 'далёкі, чароўны, цёплы край, куды адлятаюць на зімоўе птушкі' і 'старажытная назва раю', укр. *вир, вірій, ірій* 'край, куды адлятаюць увосень птушкі і дзе жывуць памёрлыя', укр. *обрій* 'гарызонт', рус. дыял. *ирей, вырей, ирий* 'далёкі, чароўны, цёплы край, куды адлятаюць на зімоўе птушкі', ст.-рус. *ірій* 'далёкі казачны край, магчыма, рай', польск. *wyraj* 'тс', польск. *iść na wyraj* 'пачаць лепей жыць, адысці на пакой'. Істотна для параўнання *рай, вырай* з *вір*. Параўн. бел. *вір* 'вір, вадаварот', рус. *вир, выр* 'тс', славен. *ir, virij, izvir* 'вір'. Параўн. да гэтага славен. *rajanje* 'завіванне і адвіванне ўдзельнікаў абраднага танца на могілках' (Шмітак, Mit., 45–46). *Rajanje* сімвалічна павязвала жыццё і смерць, як бы заключаючы ў лабірынт нячыстую сілу, у тым ліку душа памерлага праходзіла праз вадаварот, кола, лабірынт забыцця ў краіну мёртвых (там жа). Параўн. рус. дыял. *вырей* 'рачны вядзьмак, вадзянік' і славенскую міфалагічную постаць вадзяніка, што праз вір уцягвае ахвяры ў свет памерлых. Роднасць *рай*, рус. дыял. *райдуга* 'вясёлка', *вір* і *вырай* можа пацвярджаць імавернасць міфалагічнага ўяўлення, што *райдуга* ўцягвае ў сябе дождж, ваду, з'яўляецца нябесным *вірам* (Даль, 3; Талстой, ОЛА, Исследов., 1974, 22–76), насуперак меркаванню Талстога, што *райдуга* (падае Даль, 4, 56) мае народна-этымалагічнае паходжанне (Талстой, тамжа, 29). Адсюль *рай-дуга* можа азначаць 'мяжу свету памерлых', 'акрай, браму рая', 'нябеснае акно' (Талстой, там жа, 56), а сам *рай*, роднасны да *вір* і *вырай*, магчыма, даўней азначаў не столькі 'свет памерлых', колькі 'праход у свет памерлых', так званы "апошні шлях", вадзяны ці паветраны *вір*, праз які душы трапляюць на той свет, параўн. да гэтага ўстойлівае рус. *проводить в последний путь*, рус. дыял. *птичья дорога* 'назва Млечнага шляху', славен. *večna pot, bogova cesta* 'назва Млечнага шляху', што звязвала душы з богам (Шмітак, Mit., 38), славенскае міфалагічнае ўяўленне пра тое, што па *mavrici* 'вясёлцы' нябожчыкі, як па нябесным мосце, пераходзілі ў *рай*. Адносна сувязі *рай* і *рака*, адпаведна *вырай* і *райдуга*, параўн. с.-ірл. *rīan* 'рака, дарога', ням. *Rain* 'мяжа', швед. *ren-* 'мяжа' і 'край канавы'. Да таго ж у беларусаў – змеі ідуць у *вырай* у норы (Чарвонцава, Куфэрак Віленшчыны, 3, 142), што адначасова пераносіць *(вы)рай* не толькі да нябеснай, але і да падземнай прасторы і можа азначаць, што *(вы)рай* мог звязваць неба і пад-



земны свет як сферы незямныя. Сумніўна параўнанне *рай* з *рад-* і прасл. **radъ* як 'край радасці' (Бязлай, 3, 145; Сной, 521), а таксама з *рости/ расти* (Страхаў, Palaeoslavica, 11, 2, 115). Агляд праблематыкі і літ-ры гл. Жураўлёў, Язык и миф, 920–921.

**Рай₂** 'дажыначная песня', 'пучок нязжатага жыта, прыбраны кветкамі' (глыб., віл., Сл. ПЗБ): *нада рай убраць* (ЛА, 3), 'міфічная істота, што дапамагае жнейкам жаць жыта, клапоціцца пра зжатае збожжа', адсюль заклік *Рай, Рай, хадзі да нас!* (Пятк., 2), гл. *раёк*. Як назва абраду лексема вядомая на ўсходзе Украіны, параўн. харк. *ходи́ти в рай* 'звычай абмывання рук парадзіхі і інш. на другі дзень хрэсбінаў, пасля чаго ўдзельнікі (апрача парадзіхі) ідуць у шынок частавацца за кошт бабкі', а таксама ў рэдукаваным выглядзе на паўднёва-рускай тэрыторыі, параўн. тыпалагічна блізкае стаўрап. *рай* 'абрад, які здзяйсняецца на другі дзень пасля хрэсбінаў, калі гасцей абвязваюць стужкай'. Не зусім ясна. Магчыма незалежнае развіццё ад формы і семантыкі *рай₁* (гл.). Відавочна, вынікае з язычніцкай абраднасці славян і ад міфалагічнай істоты ці назвы міфалагічнай прасторы, напрыклад, вялікага лесу, ад чаго пазней, магчыма, адбыўся перанос на песню, на сноп жыта ці каравай. Параўн. таксама рус. паўдн. *райна* 'пірамідальная таполя', *рай-дерево* 'бэз', *райник* 'вялікі лес', што звязанае з уяўленнямі пра *рай* як пра міфалагічнае рытуальнае дрэва ў славян (Іванаў – Тапароў, Слав. яз. мод. системы, 247; Іванаў – Тапароў, Зб. Крапіве, 163–175). Таксама Глухак (Глухак, 516) апісвае святое дрэва **rajь* як паганскі пантэон. Праз семантычную сувязь з багаццем, дастаткам, урадлівасцю не выключана блізкасць да інд.-іран. *rāy-* 'багацце, шчасце (гл. *рай₁*). Меней верагодна сувязь з *рад-*, што да *ра́дасць* (гл.), аднак параўн. пачатак дажыначнай песні: "Рада, рада баба, што лета даждала, што жыта пажала" (Сл. ПЗБ).

**Рай₃** у фразеалагізме *з добрага раю* 'дабравольна, з хацення'; 'нізавошта, без прычыны' (Янк. БФ, Сержп. Прык.). У пэўнай ступені супрацьлеглыя ў адносінах адно да аднаго значэнні ўстойлівага выразу сведчаць на карысць існавання незафіксаванага **рай* 'парада' < *ра́іць* (гл.). Але у адносінах семантыкі параўн. яшчэ рус. уладз., раз. *рай* у значэнні выказніка 'удача, шчасце', 'аб чым-небудзь прыемным, лёгкім', што, безумоўна, звязана са стрыжнёвай семантыкай *рай₁*.

**Ра́йба** 'дарадчык' (Сцяцко, Афікс. наз., 33). Ад *раіць* пры дапамозе суф. *-ба*. Значэнне асобы паводле дзеяння (там жа). Гл. *ра́йца, ра́йка₂*.

**Райба́** 'раенне' (Байк. і Некр.), ст.-бел. *ройба* 'тс'. Параўн. рус. дыял. *ройба* 'адлёт маладых пчаліных роеў', польск. *rójba / rójka* 'шуканне пчоламі новага месца пасялення, рою'. Вытворнае ад прасл. **roj* < і.-е. **roi- / *rei-* 'ток, бег, імкненне, хуткасць', што развіваецца ў **rějati* 'віцца, лятаць' (спачатку пра птушак, насякомых) – параўн. далейшае развіццё семантыкі ў бел. *рэяць* 'лятаць плаўна і лёгка, лунаць, развівацца', рус. *реять* 'тс'. Форма *райба́* прадстаўляе сабой аддзеяслоўнае ўтварэнне па мадэлі: *пасці – пасьба, рэзаць – разьба*, адпаведна *рэяць – райба*. Булыка (Лекс. запаз., 16) сцвярджае, што варыянт *ройба* (сустракаецца ў ст.-бел. помніках з 1540 г.) з'яўляецца запазычаннем з польскай.

**Райграс**, *райграс англійскі* 'расліна Llolium perenne L.' (Кіс.). Запазычанне, хутчэй за ўсё, праз рускую або польскую мову (гл. Нававейскі, Zapożyczenia, 84 < ням. *rejgras*) з англійскага словазлучэння *rye grass* 'іржавая трава'.

**Райда́к** 'балбатун' (лід., Сл. ПЗБ). Асабовы назоўнік з семантыкай 'схільны да пэўнага дзеяння', параўн. *спявак*. Гл. *рэйдаць, райдоліць*.

**Райдо́ліць** 'гаварыць недарэчнае', 'гаварыць лухту, бязглуздзіцу' (Сл. ПЗБ), *рэ́йдаць* 'тс' (Сл. ПЗБ; шчуч., Нар. сл.): *баба рэйдае* (Сл. ПЗБ). Параўн. укр. *райдати* 'пляткарыць', польск. экспр. *rajdać* 'доўга размаўляць з добра знаёмым, пляткарыць', польск. жарг. *rajdać* 'раіць'. Курцова выводзіць польскія формы, якія могуць мець сувязь з адпаведнымі ўкраінскімі, з ням. *reden* 'гаварыць, размаўляць' (Курцова, Polszczyzna, 223). Гл. *рэйдаць*.

**Райду́н** 'той, хто гаворыць інакш, з суседняй вёскі', *райдуны́* 'назва жыхароў суседняй вёскі, якія гавораць інакш' (Сл. ПЗБ), *райду́нка* 'жанчына з іншай вёскі з іншай гаворкай' (мсцісл., пух., Нар. сл.). Параўн. польск. жарг. *rajdak, rajder, rajdyn, rajdowiec* 'валацуга'. Магчыма, сувязь з ням. *Rede* 'маўленне, размова', *reden* 'гаварыць, размаўляць' (гл. *райдоліць*) і адсюль развіццё семантыкі ад 'гаварыць', 'гаварыць інакш' > 'той, хто інакш размаўляе' > 'прыхадзень, іншы, немясцовы' > 'вандроўнік, валацуга'. Менш верагодна першаснае 'чужак, прыхадзень', што ў беларускую мову магло трапіць праз сучаснае польск. *rajd* 'паход' і звязана з англ. *raid* 'набег, налёт, напад'.



**Ра́йка₁** 'садавіна накшталт яблыкаў', 'дрэва з пладамі накшталт яблыкаў' (Мат. Гом., Юрч.). Вытворнае ад *рай₁* (гл.) > *райскі яблычак*, што вынікае з біблейскай фразеалогіі, і з'яўляецца сцяжэннем гэтага выразу. Не з'яўляецца пераносам ад назвы дрэва да назвы плоду, а наадварот, спачатку азначала назву плоду, перанос на назву дрэва пазнейшы. У іншых славянскіх мовах падобная назва можа азначаць 'памідор', а не 'яблык'. Параўн. чэш. *rajské jablíčko > rajče* 'памідор', *rajský* 'таматны', пры гэтым чэш. *rajka* 'райская птушка'. Адначасова развіваецца паралельная да форм з каранёвым *рай-* асобная назва з іншым коранем як, напрыклад, у харв. *rajčica* і *paradajz* 'памідор' ці славен. *paradižnik* 'тс', што з'яўляецца сцяжэннем выразу, калькаванага з ням. *Paradiesapfel* 'памідор' (Глухак, 516).

**Ра́йка₂** 'дарадца' (Бяльк.), *ра́дзька* 'тс' (Гарэц.), *райко́* 'жанаты ўдзельнік вяселля з боку маладога, маршалак' (бельск., Зяленін, Описание, 1). Форма ад *раіць*, азначае даслоўна 'той, хто раіць'. Утворана пры дапамозе суф. *-к(а)*, прадуктыўнага ў бел. народнай мове, які ставарае асабовыя формы па дзеянні, агульнага роду, часта з экспрэсіяй непахвальнасці, параўн. *стыдзька* ад *стыдзіцца, марудзька* ад *марудзіць, ныцька* ад *ныць, будзька* ад *будзіць, проська* ад *прасіць* і інш. (Сцяцко, Афікс. наз., 46, 47), адпаведна, *райка* ад *раіць*, як і *радзька* ад *радзіць*. Гл. *ра́йца*.

**Ра́йкаць** 'квакаць' (кобр., ДАБМ, камент., 895): *жабы ра́йкаюць*, сюды ж *райкаце́ць* 'тс' (малар., там жа: *райко́тять – вечарам*). Дзеясловы на гукапераймальна-выклічнікавай базе *(р)ай* з адпаведным словаўтваральным афармленнем, параўн. адвыклічнікавыя рус. дыял. *рай* 'шумны, доўгі ці аддалены гул, грукат; водгалас, водгук, рэха' і больш далёкае ц.-слав. **раръ** 'гук'. Першапачатковая семантыка дзеяслова была, відаць, менш спецыялізаванай, аб чым сведчаць рус. дыял. *ра́йкий* 'гучны, гулкі, з водгаласам', *ра́йкое место* 'дзе голас гучыць і аддаецца рэхам', *ра́йко* 'рэха, водгулле', прысл. 'гулка, гучна, з рэхам', ярасл. 'шумна'. Параўн. яшчэ *ра́ўкаць* (гл.). Гл. таксама Фасмер, 3, 436 (прапанова звязаць рус. дыял. *рай* з назвамі драпежных птушак, якія працягваюць прасл. **rarogъ*, не пераконвае).

**Райло́**, *ро́йла* 'непарадак' (Бяльк.). Створана пры дапамозе суф. *-л(о)* з экспрэсіяй зніжанасці па мадэлі: *пухнуць – пухло*

'дрыгва, патапеча', *раўці – раўло* 'крыкун' (Сцяцко, Афікс. наз., 49). Падобным чынам утворана *ніць – нойла*. Імаверна, роднаснае да *рыць*, асюль магчыма, *рыць – ройла*, што вынікае з развіцця фарманта *rou- / roi- / rū- з рэгулярнымі чаргаваннямі ў славянскіх мовах. Адпаведна *райло / ройла* 'тое, што перарыта, перакопана, кінута ў непарадку'.

**Райля́** 'ралля (звычайна веснавое ворыва)' (астрав., навагр., ЛА, 2). Вынік нерэгулярнай дысіміляцыі доўгага *л'*, успрынятага як каранёвая група зычных, у *ралля́*$_1$ (гл.): *л'л' > jл'*.

**Райнік**, *райніца* 'прыстасаванне для лоўлі пчалінага рою' (ТСБМ, Сл. ПЗБ) *ро́йнік* 'тс' (ЛА, 1; Сл. ПЗБ), *рае́льнік* 'тс' (Сл. ПЗБ), *раяўніца, раёўня* 'тс' (ЛА, 1). Параўн. укр. *ройни́ця* 'тс', польск. (з XVI ст.) *rojownik* 'тс'. Імаверна, семантычная кандэнсацыя састаўной назвы *ройны вулей* (падобныя мадэлі – Сцяцко, Афікс. наз., 103). Да *рой, раіцца* (гл.).

**Райсоры** фальк. 'рысора' (Ант.: *Як я ехаў да яе, – // Брычка на райсорах*). Дыялектная трансфармацыя франц. *ressort* 'спружына, рысора', магчыма, праз рус. *рессо́ры* 'тс', дзе *-йс-* на месцы *-сс-*. Гл. Фасмер, 3, 474.

**Райставіна** 'зарослае балота' (Сцяшк.). Утворана пры дапамозе суф. *-ін(а)* ад *ройст / ро́йста* (гл.).

**Ра́йства**, *ра́йство* 'шчасце, прыемнасць, вельмі добрыя адносіны з кім-небудзь', 'рай', 'райскае жыццё; збавенне' (віл., Сл. ПЗБ; ТС). Адсубстантыўнае утварэнне са значэннем стану: *рай-* + *-ства*. Гл. *рай*$_1$.

**Райсто́к** 'зарослае балота, звычайна ў лесе' (Сл. ПЗБ). Утворана ад *ро́йста* (гл.) пры дапамозе суф. *-ок* са значэннем зборнасці, а не памяншальнасці, параўн. *асавок* 'асіннік, асінавы лес'.

**Райсто́пы** мн. 'калготы', *расто́пы* 'тс' (Сл. ПЗБ, Сцяшк. Сл.), *растро́пы* 'тс' (Сл. рэг. лекс.). Відавочна, запазычанне з польск. *rajstopy* 'тс', дзе, магчыма, на народны манер была адаптавана англійская канструкцыя *rayon stockings*, што азначае 'калготы ці шкарпэткі са штучнага шоўку'. Менавіта гэтае значэнне сведчыць аб нядаўнім запазычанні як у польскую, так і ў беларускую мовы. Бел. *растопы, растропы*, магчыма, пад уплывам *растаптаць* 'разнасіць', *растрапаць* 'тс' (магчыма, іранічныя ўтварэнні).

**Ра́йткі** *рэ́йткі, рэ́ткі* 'прылады для навівання нітак' (бераст., Сцяшк. Сл.; Сл. рэг. лекс.). Параўн. польск. *rytki, retki*, што, паводле Мацэнаўэра (Cizí sl., 408), азначае 'частку драўляных бёр-



даў у ткачоў' і выводзіцца з ням. *Reit* < *Riet-kamm* 'ткацкі грэбень' (гл. *рыткі, рэйткі*). Параўн. таксама беласт. *reitka* 'тс', якое праз польск. *ra̯itka, re̯itka* 'тс' выводзіцца з той жа крыніцы (Глінка, Бел.-польск. ізал., 29).

**Райту́зы** 'шаравары, жаўнерскія штаны, дзіцячыя цёплыя штаны' (Нас.), рус. *рейту́зы* 'тс', польск. *rajtuzy* 'штаны для язды на кані'. Запазычанае ў першай палове XIX ст. праз польскую з ням. *Reithosen* 'штаны для язды на кані' < *reiten* 'ездзіць (верхам)' + *Hosen* 'штаны' (Брукнер, 453; Фасмер, 3, 464; Праабражэнскі, 2, 195). Сюды ж *райту́знік* 'басяк' (Шат.).

**Райту́ззе** 'лахмоцце, патрапаны край адзення' (Касп.). Да *райтузы* (гл.) з пашырэннем семантыкі, абумоўленым зборнасцю.

**Ра́йца** 'дарадца, дарадчык' (Бяльк., Нас.), сюды ж *ра́йчы* 'тс' (Нас.), ст.-бел. *раица* побач з *радца* 'правіцель, кіраўнік' (Сл. Скар.), 'член рады' (Ст.-бел. лексікон). Ст.-бел. формы адзначаюцца з XV ст. і лічацца запазычанымі са ст.-польск. *radca, rajca* (Булыка, Запазыч., 273; Брукнер, 452). Паводле Карскага (2–3, 32) ст.-бел. *раица* з *радьца. Сцяцко (Афікс. наз., 74) сучаснае *райца* выводзіць ад *раіць* (гл.), паралельна з *радзіць > (да)-радца*, паводле старажытнай, зараз непрадуктыўнай мадэлі тыпу *збаўца, выхаваўца, забойца, прапойца*, у тым ліку і старое аддзеяслоўнае ўтварэнне *райчы*. Борысь (509) тлумачыць адпаведныя польскія формы распадабненнем *radźca* > *raćca > *rajca*, як польск. *oćciec > *ojciec*. Важна, што як у ст.-бел., так і ст.-польск. помніках назіралася паралельнае выкарыстанне дзвюх форм: *райца / радца, rajca / radźca*, а іх з'яўленне ў старажытных тэкстах адносіцца да аднаго перыяду, што дае падставы лічыць іх супольным дзяржаўна-палітычным тэрмінам. Да *рада, раіць* (гл.).

**Райці́ннікі** 'выхавацелі і пастухі коней' (Карскі, Труды, 320), ст.-бел. *ройтиник* (з 1510 г.) 'шляхціч ('путный боярин') вялікага князя', 'даглядчык коней, конюх, канявод'. Лічыцца запазычаннем з літ. *raĩtininkas* 'вершнік' (Лаўчутэ, Балтизмы, 94). Трэба думаць, што літ. *raĩtininkas* утворана паводле мадэлі *dainininkas* 'спявак, песняр' (< *daina* 'песня'), *mokslininkas* 'вучоны' ( < *mokslas* 'навука') і інш., адсюль *raĩtininkas*, магчыма, ад літ. *raitija* 'конніца, кавалерыя', што, імаверна, звязана з ням. *reiten* 'ехаць', *Reiten* 'язда на кані'. Такім чынам, у якасці здагадкі, паколькі бел. *райціннік* мае іншую афіксацыю, можна дапусціць самастойнае яго

3а  Зак. 2628

ўтварэнне пры дапамозе суф. *-нік* непасрэдна з ням. **reiten-nik*, магчыма, з прамежкавай аддзеяслоўнай формай **райцінне* 'язда на коні'. Падобна, як і ст.-польск. *rojčnicki* (1561 г.) створана з уласнай патранімічнай суфіксацыяй < **rejtьn-icki*. Гл. таксама *ройтаннік*.

**Райшу́ля** 'нейкая пабудова' (Бес.). Пранікненне ў беларускую гаворку гэтага рэгіёна (б. Сядлецкі павет) позняга польскага запазычання з нямецкай мовы *rajtszula* 'школа (верхавой, коннай) язды' < *Reitschuhle* 'тс' (Брукнер, 453), што цалкам магчыма, калі ўлічыць арэальны фактар. Сярод польскіх назваў фігуруе і *rajszula* 'тс' (Нававейскі, Zapożyczenia, 313).

**Рак$_1$** 'беспазваночная, пакрытая панцырам прэснаводная жывёліна' (ТСБМ, Сл. ПЗБ, ТС), параўн. рус. *рак*, польск. *rak* 'тс', в.-луж., н.-луж., чэш. *rak* 'тс', славен. *rak* 'тс', серб. *рак*, балг. *рак* 'тс', макед. *рак*. Не мае здавальняючай этымалогіі. Прынята формаўтварэнне з прасл. метатэзай **rakъ* < **orkъ*. Існуючыя этымалогіі *рак* пераважна абапіраюцца на семантыку 'апрануты ў шкарлупінне', 'шурпаты' або 'той, што капае, рые, коле'. Ільінскі (РФВ, 74, 126) параўноўвае *рак* з літ. *ràkti, rankù* 'калоць, калупацца, капаць', лат. *rakt* 'тс'. Длугаш-Курчабова (427–428) аднаўляе першаснае значэнне *рак* як 'тое, што зануараецца, упіваецца, угрызаецца ў нешта' на падставе параўнання з літ. *erkẽ* 'клешч', лат. *ērcêt* 'выклікаць рэзкі боль', параўн. таксама лат. *ērce* 'клешч буйной рагатай жывёлы, тып жука'. Распаўсюджана супастаўленне *рак* са ст.-інд. *karkaṭas* 'рак', *karkaras* 'шурпаты', грэч. καρκίνος 'рак', лац. *cancer* 'тс' < і.-е. **karkro-* 'тс'. У рэканструкцыі Сноя (521) мяркуецца і.-е. **karkro-* > **krākrъ* з наступным выпадзеннем пачатковага *k* і саната *r*. Значэнне 'апрануты ў шкарлупу' набліжае слова да форм *ра́ка* (гл.) 'дамавіна', *ра́кавіна, раку́шка* (гл.) 'шкарлупінне малюска', што лічацца роднаснымі да лац. *arceō* 'зачыняю', *arca* 'скрыня', гот. *arka* 'тс' (Якабсон, IJSLP, 1, 267; Фасмер, 3, 437–439). Дадаткова Сной (521), абапіраючыся на кельц. рэфлексы і.-е. **karkro-* 'рак', **krako-* 'цвёрды, шкарлупінне, абалонка', рэканструюе слова з семантыкай 'цвёрды, апрануты ў панцыр, з цвёрдай скурай' і параўноўвае рэдуплікаваны ст.-інд. *karkara* 'цвёрды' з вал. *crach* 'кара, шкарлупінне, абалонка', *craig* 'скала', с.-ірл. *crach* 'цвёрды'. Не выключана, што назва рэалізуе і развівае паняцце раздвоенасці ці выгнутасці з зыходным фармантам **ra- / rak-*, што ўзыходзіць да і.-е. **er- / or- / ar-* з шырокай семантыкай 'раздзяляць, распорваць, рваць, драпаць'. Семантыка 'раздвоенасці' ці 'выгнутасці' рэалізавана ў тым ліку ў *ра́кам* 'стаяць сагнуўшыся' (гл.), *ра́кі* 'лапці' (гл.), *рак* 'шпянёк, канал для выхаду мукі ў жорнах '(Мат. Гом.), *рачо́к* 'палка з раздвоеным канцом', *ра́кавіна* 'раздвоены капыт' (гл.). Сюды ж і літ. *erkẽ* са значэннем 'драўляныя козлы', 'прыстасаванне для распілоўкі дроў, што мае скрыжаваную форму'. Параўн. таксама рус. дыял. *раковина* 'клюшня ў рака'. Параўнанне з лац. *arcuare* 'выгінацца', *arcus* 'дуга, выгін, крывізна', дазваляе меркаваць, што *рак* названы па выгнутых клюшнях (Борысь, 509–510), хаця да гэтай этымалогіі можна прывязываць форму рака наогул.



**Рак$_2$** 'хвароба cancer' (ТСБМ, Сл. ПЗБ, ТС). Прынята тлумачэнне, што назва хваробы непасрэдна капіруе назву жывёліны *рак*, бо існавалі ўяўленні, што ў чалавека пасяліўся *рак* (гл. *рак$_1$*), ці ракавая пухліна нагадвае рака, ці, паводле Борыся (510), наватвор, як *рак* пажырае сваю ахвяру, што ў сукупнасці трэба аднесці да народнай этымалогіі. Магчыма, назва з'явілася ў еўрапейскіх мовах пасля непасрэднага перакладу з грэч. καρκίνος 'рак' ці καρκίνωμα 'рак, ракавае ўтварэнне' – азначэнне хваробы, ужытае пры яе апісанні Гіпакратам (Фрыск, I, 789). Параўн. лац. *cancer* ці ням. *Krebs*, якія таксама могуць азначаць назву жывёлы і хваробу. Заўважым, што ў Даля – *рак* 'хвароба, вонкавай прыкметай каторай з'яўляецца зацвярдзелая язва асаблівага выгляду'. Адсюль, магчыма, *рак* першапачаткова не хвароба, а менавіта нарост, з пакрываючымі яго прадольнымі баразнамі ці язвамі. Параўн. з бел. *ра́кавіна$_3$* (гл.) 'нарост, гуз, звязаны з ранай на дрэве' (ТС), рус. дыял. *раковистый камень* 'камень з выбоінамі', *раковистый* 'з неглыбокімі шчарбінамі, зломамі' (Даль).

**Рак$_3$** 'расліна скрыпень балотны, Epilobium angustifolium L.' (бяроз., Нар. лекс.). Метафарычны перанос з *рак$_1$* (гл.) з-за знешняга падабенства раслiннай мяцёлкі да клюшні рака, параўн. аналагічнае рус. варонеж., а таксама дан. *рак* 'кактус'.

**Ра́ка** 'труна для мошчаў святых' (ТСБМ), 'дамавіна' (Ласт.). Параўн. рус. *ра́ка* 'склеп, каўчэг, куфэрак', ст.-рус. *рака* 'куфэрак з мошчамі святых', палаб. *rakål/råt'åi* 'каробачка, скрыня', чэш. *rakev* 'труна', славац. *rakev* 'скрыня', славен. *raka* 'магіла, склеп', *rakev* 'труна', серб. *ра̏ка* 'пахавальны склеп', 'выкапаная магіла', балг. *ра́ка* 'куфэрак з мошчамі святых', ст.-слав. **рака**

‘тс’. У беларускую мову трапіла, імаверна, з ц.-слав. мовы. Як і *ракавіна₂* (гл.), узыходзіць да **raky* з метатэзай **ork - > *rak-*, што можа ўспрымацца як пранікненне з германскіх, параўн. гот. *arka*, ст.-в.-ням. *arahna / archa*, звязаныя з семантыкай ‘зачыняць’ і роднасныя да лац. *arco* ‘каўчэг’, *arca* ‘скрыня, склеп’ < *arceō* ‘зачыняю, затрымліваю’ (Праабражэнскі, 178; Фасмер 3, 437–439; БЕР, 6, 169–170; ESJSt, 12, 746). Гл. таксама Жураўлёў, Язык и миф, 204 (з літ-рай).

**Раќа** ‘прыродны вадаем, які пастаянна цячэ’ (ТСБМ, Бяльк.), *рэќа* (ашм., Сл. ПЗБ; ТС), параўн. укр. *ріќа*, рус. *реќа*, польск. *rzeka*, в.-луж. *rěka*, палаб. *r'éka*, чэш. *řeka*, славац. *rieka*, славен. *reka*, серб. *ре́ка*, харв. *rijéka*, балг. *реќа*, ст.-слав. **рѣка**. Большасць этымалогій адносіць прасл. **rěka* да і.-е. **erei-* ‘цячы’, параўн. ст.-інд. *rayah / rávas* ‘струмень’, *rīyatē* ‘рухаецца, пачынае цячы’, *ri-* ‘даць цячы’, *rī-* ‘цячы’, *rīti-* ‘рака’, *rītis* ‘рух, бег’, *retas* ‘цячэнне’, *rīnas* ‘той, што цячэ’, с.-ірл. *rīan* ‘рака, дарога’, с.-н.-ням. *rīn* ‘ток вады’, гальск. *Renos* ‘рака Рэйн’, венг. *Rajna* ‘тс’. Традыцыйна звязваецца з прасл. **rěj-ati* ‘цячы’, **rei- / *roi- > *roi-ka > *rěka* (Фасмер, 3, 464 з аглядам папярэдняй літ-ры). Рэшткі дыфтангічнага вымаўлення **rej- / *roj-* у некаторых слав. мовах, напрыклад, харв. *rijeka*, яшчэ больш пацвярджаюць гэту тэорыю. Брукнер (461) параўноўвае польск. *rzeka* з польск. *zdrój* ‘крыніца’ < **roj-* ‘усё, што выцякае, пырскае’. Параўн. таксама *прарóй* ‘праліўны дождж’ (бяроз., Шатал.), рус. дыял. *заройный дождь* ‘залева’, ст.-рус. *нарои* ‘раз’юшанасць, імкненне’. Адсюль *рака* можа азначаць не проста тое, што цячэ, а што цячэ бурліва, імкнецца, рве (Этимология–1978, 98), таму звязана з *рынуць, рынуцца* ‘імкліва кінуцца’, рус. *рвение* ‘імкненне’, *нарыв* ‘тое, што імкнецца прарвацца’, *рьяный* ‘імклівы’, што таксама ад прасл. **roj- / *rьj- / *rьu-*. Параўноўваючы лац. *rīvūs* ‘паток, струмень’ з прасл. **rěka* следам за Марцінэ (Word 12, I, 3), Мартынаў (БЛ, 5, 64–65) узнаўляе развіццё: прасл. **rěka < *roi–u-ka* < і.-е. **roi-u-/*rei-u* > лац. *rīvūs*. Важна, што лац. *rīvūs* адначасова азначае і ‘канал’, параўн. ням. *rinnen* ‘цячы, працякаць’, *Rinnen* ‘жолаб, канава’. У гаворках сустракаецца атаясамліванне назвы *ракі* і *рэчышча*: *рэчанне* ‘рака і рэчышча’, *за рэчаннем* ‘за ракой’, параўн. таксама *рачáліна* ‘месца стоку талай і дажджавой вады’ (навагр., Нар. словатв.), гл. Можна меркаваць, што *рака*, як і *ручай*, азначалі роў, а не паток вады, і належалі да этымалагічнага гнязда з каранямі **rъv- / *rū- > *ryti / *rъvati* ‘рваць’; тады **ryti < *rūti < *routi / *roiti* ‘рыць’, а не ад **rějati* ‘цячы’. Адсюль **rěka < *roi-ka* ‘тое, што прарывае зямлю’, а не ‘тое, што цячэ па зямлі’, параўн. рус. маск. *рýтина* ‘глыбокае месца ў рацэ’. Лявіцкі (2, 88) мяркуе, што герм. *rain* з семай ‘мяжа, край леса, край канавы’ з’яўляецца пашырэннем і.-е. **rei- / *roi-* ‘драпаць, рэзаць, секчы’, што абвастрае ў **roi-ka > *rěka* семантыку ‘мяжа’, а гэта функцыя спрадвечна была ёй уласціва. Пры розных версіях слова ўзыходзіць да адной і.-е. базы **rei- / roi-*, што магло азначаць ‘рваць, рыць’ і ‘цячы, імкнуцца’.



**Ракавáць** ‘жыць на працягу года’ (Нас., ЛП). Ад *рок* ‘год’ па мадэлі *век > векаваць*. Сюды ж *ракавы́* ‘гадавы’ (Нас., Сл. рэг. лекс.).

**Рáкавіна₁** ‘прамежак паміж капытоў у жывёлін’, ‘раздвоены капыт (каровы, свінні, казы)’ (ганц., Сл. ПЗБ; ЛА, 1), *ракавáціна* (ганц., Сл. ПЗБ), *ракóўня* (чаш., ЛА, 1), *рáкавішкі* мн. л. (круп., Лекс. ландш. 56), *рáкавіца* (добр.). Істотна, што назва азначае менавіта раздвоены капыт парнакапытных (каровы, свінні, казы). Па існуючай этымалогіі выводзіцца ад **raky, *rakъve* ‘абалонка’ (Фасмер, 3, 439). Аднак для акрэслення першаснага значэння трэба звярнуць увагу на ўласна ‘прамежак’, адсюль *рáкавіна* развівае старажытную семантыку раздвоенасці ці выгнутасці (гл. *рак₁,₃, ракі*).

**Рáкавіна₂** ‘ракавіна малюска’ (ТСБМ, Мат. Гом.), з-за адзінкавасці фіксацыі ў народнай мове, хутчэй за ўсё, запазычана з рус. *рáковина* ‘тс’.

***Рáкавіна₃**, *рáковіна* ‘нарост, гуз на дрэве’ (ТС). Імаверна, звязана з *рак₂* (гл.) ‘хвароба, вонкавай прыкметай каторай з’яўляецца зацвярдзелая язва асаблівага выгляду’.

**Ракавíны** ‘гадавіна па нябожчыку’ (Растарг.). Параўн. укр. *роковúни* ‘тс’. Да *рок* (гл.).

**Ракавы́** ‘гадавы’ (зэльв., Сл. рэг. лекс.; Нас.). Ад *рок* у значэнні ‘год’, параўн. польск. *rok* ‘год’, *roczny* ‘гадавы’. Гл. *ракавáць, рок*.

**Ракáза** (*rakáza*) ‘струменьчык вады з дробных капак на шыбе’, ‘пацёкі на твары ад слёз’ (Варл.). Варыянт лексемы *рагáза* (гл.) з аглушэннем *г* (відаць, выбухнога). Параўн. *рагі* ‘тс’ (гл.).

**Рáкам**, *рáком* ‘паўзці ці стаяць, абапіраючыся на ногі і рукі’, ‘на карачках’ (ТСБМ, Сл. ПЗБ, ТС), *ракачóм* (ТСБМ), *рáкачам* (лід., Сл. ПЗБ), *рáкача* (шчуч., Нар. словатв.), *рáка* (ТС), *рáчкі, рачкóм* (ТСБМ, Ян., ТС), *ідзе рáком, стаў рáка* ‘зáдам; як рак’ (ТС). Сюды ж *рачковáць* ‘поўзаць ракам, стаяць на карачках’ (ТС), параўн. польск. *raczkować* (пра дзяцей) (з XVIII ст.). Адыменнае прыслоўе спосабу дзеяння, што ўяўляе застылы склон назоўніка або ўтваранае па гэтай мадэлі (параўн. Карскі, 2–3, 75).

**Ракамáту** (*rakamátu*) ‘нібы, быццам, лікам’ (Варл.). Відаць, у аснове слова прыслоўе ад *рэкці* ‘сказаць’ (гл. *рэ́кнуць*) – **ракамá* ‘кажучы’, параўн. *ракóмсе* ‘быццам’ (гл.), ст.-бел. *ркомо* ‘як быццам, нібы’ (Ст.-бел. лексікон), у той жа функцыі *маўляў* (гл.), ст.-рус. *рьци*, польск. *rzekomo* ‘моў, маўляў’; канец слова ўзыходзіць да ўказальнага займенніка **tъ* (гл. *тут*).

***Рáкапыціна**, *рáкопуціна, ракопýціна* ‘капыт у свінні, авечкі, каровы’ (ТС). Кантамінацыя *рáкотка, ракóтка* (гл. *ракацень*) і *копыт* ‘капыт’ (гл.).

**Рáкар** ‘скуралуп; хто займаецца зніманнем скур са здохлай жывёлы’, ‘мярзотнік, паскуднік’ (беласт., Кольб., Ласт.). Сюды ж, відаць, і *rakarawać* ‘лаяць, зневажаць, рабіць закіды’ (Варл.). Запазычанне з польск. *rakarz* ‘тс’, якое, у сваю чаргу, са старога ням. *Racker* ‘тс’ (Брукнер, 453). Гл. таксама Длугаш–Курчабова, 428.

**Ракатáць** ‘адзывацца дробным раскацістым гулам’ (ТСБМ). Магчыма, русізм, параўн. рус. *рокотáть, рокочý* ‘гучаць’, дыял. *рекотáть* ‘у голас смяяцца’.

**Ракатóрхацца** ‘разварушыцца, расшавяліцца’ (Ласт.: рус. *разбодриться*). Дээтымалагізацыя ў выніку страты словаўтваральнай структуры, звязанай з гутарковым “паглынаннем” фіналі прэфікса, параўн. *раскатýрхаць* (гл.).

**Ракáты**: *ракáтэ дэрэво* ‘вілаваты (пра дрэва)’ (малар., ЛА, 5). Дээтымылагізацыя ў выніку пераасэнсавання *рагáты* (*рагáтэ*), гл. *рог*; магчыма, таксама да *рак$_1$* (‘вузлаватае дрэва’?).

**Рáкаўка** ‘ракаўстойлівы гатунак бульбы’ (брагін., Мат. Гом.), *ракóўка* (ПСл), *рáкавы* ‘акрэсленне да гатунку бульбы’ (Мат. Гом.). Імаверна, назва створана ад *ракаўстойлівы гатунак* (бульбы) шляхам сцяжэння ў адно слова пры дапамозе суф. *-оўка / -аўка*, як *паштоўка* < *паштовая картка*, або з-за вузлаватасці клубняў.

**Рáкаўнік$_1$** ‘шабельнік, расліна падобная да бабоўніку’ (вілен., Кіс.; ЭПБ). Няясна. Магчыма, названа так з-за вузлаватых каранёў, параўн. іншыя народныя назвы – *грэбнік, бацянавы ножкі*. Параўн. тлумачэнне, якое датычыць бабоўніку: *бобоўнік крэстамі росце* (ТС). Да *рак$_1$* (гл.).



**Рáкаўнік$_2$** ‘хмызняковы від вярбы’ (ТС): *крушнáя корá на рáкоўніку*. Магчыма, да *рáкавіна$_3$* (гл.).

**Ракаўшчы́ны** мн. л. ‘збожжа, якое збіраецца з кожнага сялянскага двара для царкоўнікаў’ (зах.-бранск., Кос.). Параўн. укр. *роківщúна* ‘гадавы збор, які збіраецца з парафіян святаром’. Да *рок* (гл.).

**Рáкацень**, мн. л. *рáкці* ‘капытцы ў свінні’ (мазыр., Цыхун, вусн. павед.), *рáкот* ‘капыт у свінні, авечкі, каровы’ (ТС), *рáкотка* ‘тс’ (там жа). Да *рак$_1$*, *ракавіна$_1$*, *ракапыціна* (гл.).

**Рáкаць**, *рáкатэ* ‘кракаць’ (драг., ЖНС: “*Качкэ́ рáкають табэ жабэ́*”). Верагодна, усечаная форма зыходнага дзеяслова *крáкаць* (гл.). Нельга, аднак, выключыць і магчымасць незалежнага гукапераймальнага ўтварэння, як, напрыклад, у назвах сіваваронкі Coracias garrulus L.: рус. *рáкша*, н.-луж. *rakajca*; параўн. адпаведнае, на наш погляд, серб. *žaba rakara*, якое Скок (3, 101) звязвае, аднак, з *rak* (гл. *рак$_1$*), што ўяўляецца, па меншай меры, не відавочным.

**Ракáч** ‘фарбаванае палатно’ (навагр., Сл. рэг. лекс.). Няясна.

**Ракашэ́ды** мн. л. ‘байкі, балбатня’ (?): “Старыя ракашэды, – думаў ён пра Пракопаву гаворку” (Калюга). Няясна. Улічваючы кантэкст (параўн. рус. *рóссказни*), магчыма прапанаваць дээтымылагізацыю верагоднага **раскашэ́ды* (< *расказы*), параўн. аднак фармальна блізкае *ракашэ́ты* ‘козлы для пілавання дроў’ (Сцяшк. Сл.), тады да *рак$_1$* (гл.).

**Рáквіца** ‘расліна крынічнік лекавы, Veronica officinalis L.’. Расліна, падобная на бабоўнік, відаць, названа як *ракаўнік$_1$* (гл.).

**Ракéта** ‘напоўнены піратэхнічнай сумессю снарад’, ‘лятальны апарат з рэактыўным рухавіком’ (ТСБМ). Запазычанне праз ням. *Rakete* (хаця пасрэдніцтва рускай ці польскай моў уяўляецца ў такой жа ступені магчымым, параўн. польск. *rakety* “do grania”, XVIII ст.) з італ. *roccetta*/ *rochetto* (< *rocca* ‘верацяно’); гл. таксама Фасмер, 3, 438; Чарных, 2, 97; Скок, 3, 102; Махэк$_2$, 507.

**Ракéша** (*рэкéша*) ‘тоўстая, неахайна апранутая жанчына’ (смарг., Непакупны, Связи). Гл. *рагеша*.

**Рáкі** мн. л. ‘лапці’ (Бяльк.). Магчыма, з-за “растапыранасці” па знешняму выгляду, да *рак$_1$* (гл.).

**Ракі́** мн. л. 'прыстасаванне для ўмацавання вясла' (іўеў., Сл. ПЗБ). Відавочна, дадзенае прыстасаванне мае форму развілкі, у якую ўкладаецца вясло. Параўн. да гэтага *рак₁* (гл.). Акцэнтуацыя характэрна для літоўска-беларускага моўнага сумежжа, дзе назіраецца зрух націску на адзін склад (параўн. *выдра́, курыца* і інш.).

**Ракі́та** 'дрэва або вялікі куст сямейства вярбовых' (ТСБМ, Бяльк., Сл. ПЗБ, Ласт., Кіс.), 'вербалоз' (Бяльк.), 'нарост на дрэве, гуз' (шарк., Цыхун, вусн. павед.), *ракі́ціна* 'лазіна' (Сл. ПЗБ, Мат. Гом., Шатал.), 'від бярозы з вельмі цвёрдай драўнінай' (в.-дзв., Сл. ПЗБ), *рокі́та* 'дробналістная лаза з тонкімі галінкамі' (ТС; беласт., Сл. ПЗБ), *ракі́тавае дзерава* 'карэльскя бяроза' (?) (шарк., Цыхун, вусн. павед.), *ракі́тнік* 'зараслі ракіты' (чэрв., Сл. ПЗБ). Параўн. укр. *рокíта* 'гатунак вербы', рус. *ракúта* 'вербалоз', 'тып, гатунак вербы, што расце па берагах ракі, ў нізінах', польск. *rokita, rokicina*, в.-луж. *rokot*, н.-луж. *rokit, rokita*, палаб. *rükåita*, прым. *rühtjeitna (= rokitna)*, чэш., славац. *rokyta, rakyta*, славен. *rakȋta*, серб. *ра̀кита*, харв. *ràkita*, балг. *ракúта*, макед. *ракита*, ст.-слав. **ракыта**. Прасл. **orkyta*. У слав. мовах метатэза з рэфлексамі *ro- / ra-*. Значэнне 'гібкасць' і 'цвёрдасць', магчыма тлумачаць фармальную блізкасць з лат. *ērcis, ērcetis* 'ядловец', грэч. ἀρκευθος 'тс' (Фасмер, 3, 438; Бязлай, 3, 148; Шустар-Шэўц, 2, 1233; БЕР, 6, 168). Абсалютызацыя значэння 'гібкі' схіляе да параўнання са ст.-інд. *arkáḥ* 'лук', лац. *arcus* 'лук, дуга, скляпенне', *arka* 'куфэрак, сундучок', гоц. *arhwazna* 'страла', што звычайна не прымаецца этымолагамі (гл. Фасмер, там жа, з літ-рай; параўн. аднак Глухак, 517; Сной₂, 601). Адмаўляецца таксама сувязь з чэш. *rakos, rokos* 'трыснёг' (гл. *рагоз*).

**Ракішэ́тнік** 'грыб рашэтнік' (пруж., Сярж.-Яшк.; Нар. словатв.): "*Ракішэтнік* адзначана ў мове старэйшага пакалення, маладыя замест яго кажуць *рашэтнік*" (Нар. словатв.), што, аднак, не дае падстаў лічыць *ракішэтнік* першаснай формай.

**Ракло́** 'занядбалы чалавек' (зах.-бранск., Растарг.). Сярод адпаведнікаў параўнальна тэрытарыяльна блізкія рус. дан. *ракло́* 'прайдзісвет, нягоднік', *ра́клый* 'жулікаваты, прайдошысты' і ўкр. харк. (Грынч., 3, 4, у прыкладзе падае менавіта Харкаў) *ракло́* 'басяк', *ра́кляцький* 'басяцкі', што, як быццам, асабліва з улікам фактычна аднолькавай семантыкі, паказвае на адзіную крыніцу – імаверна, запазычання з цыганскай мовы, параўн. Горбач, Арго, 30.



**Рако́мсе** 'быццам, як быццам' (Сержп. Грам.), *ракама́сь* 'таксяк, абы-як' (Касп.), параўн. ст.-бел. *ркомо* 'як быццам, нібы' (Ст.-бел. лексікон), польск. *rzekomo* 'маўляў; як быццам'. Дзеепрыслоўе ад *ракці́* 'сказаць' (гл. *рэ́кнуць*); элемент *се (сь)* паходзіць са зваротнай формы займенніка **sę* (сѧ), параўн. *мов-ся ён и прав* 'як быццам бы' (Нас.), або з указальнага займенніка **sь*, параўн. *вось* (< *о-сь*), гл. Карскі, 2–3, 71. Гл. таксама *ракама́ту*.

**Раку́шка** 'маленькая ракавіна' (ТСБМ), 'чарупка, шчарупка' (Ласт., Мат. Гом.), *рэту́шка* 'тс' (Ян.). Магчыма, з рус. *ракушка*. Гл. *ра́кавіна₂*.

**Ракяце́нь** 'калатоўка', 'прылада ў выглядзе палачкі з сучкамі на ніжнім канцы для збівання масла' (паст., Сл. ПЗБ), *раке́т* 'мяшалка, зробленая з вяршыні маладой елкі' (Зданцэвіч, LP, 1960, 347). У апошняй форме, відавочна, літуанізм, ад літ. *rekẽtis* 'рагуля, разгалістая галіна', параўн. літ. *reketùkas* 'вешалка, зробленая з вяршыні маладой елкі, сасны', але звязана з агульнаслав. *rak* (гл. *рак₁*, *ра́кавіна₁*, *рала₁*). Далейшае ўтварэнне па рэгіянальнай прадуктыўнай мадэлі са значэннем прадмета дзеяння, напрыклад, *кляпень* 'малаток', *падавень* 'вілы' і пад. (Сцяцко, Афікс. наз., 38).

**Рал** 'сплеценая з саломы скрынка вялікага памеру для ссыпання збожжа' (Сл. Брэс.). Вынік метатэзы *лар* 'скрынка, сусек' (гл.).

**Ра́ла₁** 'адгалінаванне ствала дрэва', 'тоўсты сук', 'вілападобны ствол дрэва', 'дрэва з адным коранем і двума ствaламі' (ТСБМ, Сл. ПЗБ, Мат. Гом.), *ра́ло* 'адгалінаванне, пасынак (у дрэве і інш.)' (ТС), 'раздвоены ствол дрэва' (ПСл, ТС, ЛА, 1; пін., лунін., Шатал.), *ра́ла* мн. л. 'калкі для падвешвання калыскі ў полі', 'раздвоены ўверсе слуп у студні з жоравам' (ганц., лях., Сл. ПЗБ), 'рагаціна, рагуліна' (Нар. Гом.), *ралі́на* 'галіна, сук' (Сцяшк. Сл.), *ра́лья* 'тоўстыя разгалістыя сукі' (капыл., Сл. ПЗБ), *ра́лы* мн. л. 'вілкі ў рагатцы' (ПСл), *рала́чыкі* 'тс' (пін., Сл. ПЗБ). Насуперак прынятай этымалогіі, як і для *рала₂* (гл.), **ra* + *dlo* < **or* + *dlo*, хутчэй за ўсё да **ork-* > **rak-* > **raklo*, параўн. славен. *rakla / rahla* 'апорны кіёк для фасолі на агародзе', серб. *ра̏кље* 'вілы', 'зубцы', серб., харв. *ра̏кља* 'развілка', 'вілы', *ра̏кљаст* 'раздвоены, з развілі-

най, вілападобны’, балг. *ра́кля* ‘сукаватая дзеравіна, уторкнутая ў зямлю, на якую вешаюць сякеры’ (большасць без надзейнай этымалогіі, гл. Бязлай, 3, 148; БЕР, 6, 171; Скок, 3, 103; апошні адносіць сюды *rȁšlje* ‘вілкі, якімі ставяць гаршчок у печ’, якое разам з *rȁklja* узводзіць да *rak* ‘рак’ або да *крак* ‘нага’ (гл. там жа, 94), параўн. таксама літ. *arklas* ‘рала, саха, плуг’, лат. *arkls* ‘тс’, якія разглядаюцца як аддзеяслоўныя ўтварэнні з суфіксам *-*tlo* (гл. БЕР, 6, 173, з літ-рай). Узыходзіць да і.-е. асновы **er- /*or-/*ar-*, прадстаўленай у прасл. **oriti* (гл. *разарыць*), з шырокай семантыкай ‘раздзяляць, распорваць, рваць, драпаць’, і захоўвае першасную семантыку ‘нешта раздвоенае’. Гл. таксама *рак$_1$*; хутчэй за ўсё пераформленае пад уплывам *рала$_2$* (гл.) або у выніку атаясамлівання фіналі *-klo* з *-tlo*.

**Ра́ла$_2$** ‘частка прыстасавання для арання, што вырабляецца з хвойных дрэў, на яе накладаецца сашнік’ (Выг., Шатал.), *ра́ло* ‘старажытная саха’: *рало ораць землю было ўсе дзерэўянэ* (ТС), сюды ж ‘калок, якім утрымліваюць плыт з берага’ (там жа), ст.-бел. *радлица* ‘сашнік, лямеш’ (Сл. Скар.). Параўн. укр., рус. *ра́ло* ‘саха і лямеш’, ст.-рус. *орало* ‘тс’, польск. *radło* ‘плуг’, палабск. *rådlü* ‘тс’, в.-, н.-луж. *radło*, чэш. *rádlo* ‘плуг’, славац. *radlo*, славен. *rálo*, харв. *rȁlo*, серб. *ра̏ло* ‘тс’, балг. *ра́ло* ‘сошка’, макед. *рало* ‘тс’, ст.-слав. ралО ‘плуг’. Традыцыйна ўзводзіцца да прасл. **ordlo* (з суфіксам *-dlo* ад **orati* ‘араць’ (гл. *араць*) і значыла ‘прылада для арання’, што да і.-е. **ar-* ‘апрацоўваць зямлю’, роднаснае літ. *árklas* ‘саха’ (< і.-е. **arə-tlo-m*, параўн. **arə-dlo-m* > прасл. **ordlo* > *рала*) (Фасмер, 3, 439; Бязлай, 3, 149; БЕР, 6, 173; Глухак, 456; Шустар-Шэўц, 2, 1201). Адзначаецца, што *рала* ў выглядзе раздвоенай галіны было балта-славяна-германскім прыстасаваннем для апрацоўкі зямлі (Бенвяніст, Словарь, 13). Па назіраннях Смулковай, беларускія гаворкі рэдка захоўваюць *рала* ў значэнні ‘плуг’, яно часцей выступае ў значэнні ‘тоўсты расахаты кій’ ці як сінонім слова ‘саха’ ў яго першасным значэнні (Смул.). Можна казаць пра захаванне ў беларускіх гаворках старэйшай семантыкі *рала* ‘раздвоеная галіна’, што магла выконваць функцыю не толькі прыстасавання для арання, але і іншай гаспадарчай прылады, параўн. *ра́ла$_4$* ‘ткацкі станок’ (гл.), польск. жарг. *rodło / radło* ‘вілы’. Адсюль у першасным значэнні *рала* – ‘раздвоеная галіна’, што пазней развіваецца ў ‘прылада, зробленная з раздвоенай галіны’, і толькі варыятыўна як ‘прылада для апрацоўкі зямлі, арання’.



У якасці версіі, што тлумачыць такое развіццё, можна дапусціць рэканструкцыю прасл. **ork-*, параўн. літ. *arklas* ‘плуг, саха’, лат. *arkls* ‘тс’, імаверна, з варыянтам **ort-*, што магло азванчыцца да **ord-*, параўн. літ. *ardýti* ‘раздзяляць’. Тады роднаснае з *рак$_1$* (гл.). Прынятая і.-е. база: **ar-* ‘араць’ суадносіцца з і.-е. **er-/*or-/*ar-* з шырокай семантыкай ‘раздзяляць, распорваць, рваць, драпаць, прарэзваць’.

**Ра́ла$_3$** ‘прамежнасць між капытоў каровы’ (Сл. ПЗБ, ЛА, 1). Форма пацвярджае: *рала* нясе перш за ўсё семантыку ‘пэўнай рэчы раздвоенага кшталту’ і магло ўтварыцца ад **raklo / *ratlo* – з зыходным корнем **rak-*, (гл.) *рак$_1$*, параўн. *рала$_1$* (гл.), што не пярэчыць роднасці з *араць* ‘праразаць зямлю пад засеў’. Тут *рала* даслоўна азначае ‘прарэз ‘.

***Ра́ла$_4$**, *ра́ло* ‘ткацкі станок’, ‘прымітыўныя кросны’: *колісь поўкотваюць у хаты ра́ла, а ето ўжэ цепер <...> поробілі ста́ва* (ПСл). Не зусім ясна. Відавочна, дадзенае выкарыстанне слова пацвярджае, што з вілападобнай галіны рабіліся розныя гаспадарчыя прыстасаванні. Гл. *рала$_1$*.

***Ра́ла$_5$**, *ра́ло* ‘прамежнасць, ніжняя частка тулава’: *угразнеш [у балоце] по рала* (пін., Сл. ПЗБ). Выкарыстанне слова пацвярджае, што слова *рала* ў асноўнай семантыцы мела семантыку ‘раздвоенасці’. Раздвоенае *рала*, ў дадзеным выпадку, уяўляюць сабой дзве нагі чалавека і прамежнасць. Гл. *рала$_1$*.

**Ралава́ты** ‘разгалісты, развілісты, галінасты, з раламі’ (ТСБМ, Мат. Гом.), *ралова́ты* ‘сукаваты, са шматлікімі разгалінаваннямі’ (ТС; лунін., Шатал.; пін., Сл. ПЗБ), *ра́лісты* ‘разгалісты, развілісты, маючы форму вілаў’: *ралiста ліпа* (ТСБМ, Сл. ПЗБ), *раля́сты* ‘кусцісты, шматпарасткавы’ (ТС). Параўн. серб. *ра̏кљаст* ‘развілісты’. Ад *рала$_1$* (гл.).

**Рале́йнік** ‘земляроб’ (Варл.), ‘араты’, лаянк. ‘нявыхаваны’ (Нас.). Вытворнае ад *ралейны* (гл.) ‘што мае адносіны да раллі’ пры дапамозе суф. *-ік* як назва паводле прафесіі (Сцяцко, Афікс. наз., 103, 104). Зневажальнае значэнне развіваецца з уяўлення пра малую адукаванасць сельскага насельніцтва.

**Рале́йны** ‘прызначаны для ворыва’: *ралейны хамут* (Нас., Юрч.), *рале́мый* ‘тс’ (гарад., Нар. лекс.), *рале́йны* ‘галоўны ў парнай запрэжцы (пра валоў)’ (слуц., глыб., лід., лях., трак., Сл. ПЗБ), *рале́нны (конь)* ‘карэнны, каранні́к’ (Ян.), ст.-бел. *ролейный* ‘прызначаны

для ворыва’: *три места ролейная* (XIV ст., Карскі, 1, 55), рус. дыял. *роле́йный (хомут)* ‘тс’, старaж.-рус. *ролейный* ‘тс’: *а иже у господина ролейный закупъ будет* (Руская Праўда). Параўн. балг. *ра́лен хомо́т* ‘хамут для валоў, які дазваляў ім хадзіць па раллі’. Сюды ж *раляны́* ‘земляны’: *раляныя чэрві* (шчуч., Сл. ПЗБ), *раллявы́* ‘галоўны ў запрэжцы валоў’ (ст.-дар., Сл. ПЗБ). Ад *ралля́* (гл.).

**Ралец** ‘частка сахі’ (Гарб.). Да *рала*$_2$ (гл.).

**Рале́шнік** ‘валачобнік’ (Сцяшк. Сл.). Ад выклічніка *ралё!*, што спяваюць валачобнікі, параўн. літ. *ralio!*, характэрных для “ралявання” (велічання), гл. Грэймас, Этн., 143. Менш верагодная сувязь з рус. *раёшник* ад *раёк* ‘батлейка’, іншая назва – *ку́кольник*. Параўн. *лалоўнікі* (гл.).

**Ralі́ць** ‘араць’, ‘рабіць паўторнае папярэчнае аранне’ (Мат. Гом., Сцяшк. Сл., Лексика Пол.), *ра́ліць* (Лексика Пол.). Вытворнае ад *рала*$_2$ (гл.), параўн. польск. *radło > radlić / redlić* ‘тс’ (Брукнер, 452). Другаснае, больш позняе ўтварэнне ў параўнанні да *араць* (гл.).

**Раллё**$_1$ ‘узаранае поле, ворыва; аранне’ (Нас., Мат. Гом., Бяльк., Мат. Маг.), параўн. славен. *(o)ralje* ‘узаранае поле, ніва’, старое чэш. *rolí* ‘поле, ніва’, што да зборн. прасл. **orlьje* (< прасл. **ōrlь*, параўн. ст.-рус. *раль* ‘ворыва, поле’, серб.-харв. *rȁl, rāl* ‘мера зямлі, ворыва’, славен. *rāl* ‘аранне; узараная зямля’), гл. Бязлай, 3, 148. Параўн. *ралля* (гл.).

**Раллё**$_2$ ‘бязладдзе, нагрувашчванне’, ‘няўмека, неакуратны чалавек’ (Юрч. Фраз. 1), ‘нязгрэба, неахайны чалавек’ (мсцісл., Нар. сл.). Імаверна, ад *рала*$_1$ (гл.), у тым ліку *ра́лья* ‘тоўстыя разгалістыя сукі’, магчыма, пад уплывам *галлё*. Параўн. таксама з *райло* (гл.).

**Ралля́** ‘узаранае поле, узараная глеба, ворыва’, ‘аранне, земляробства’ (ТСБМ, Мат. Гом., Яшк., Сл. ПЗБ), ‘зямля, узараная другі раз’ (Смул.), *ролья́* ‘узаранае поле’ (ТС), *райля́* ‘ворыва’ (астрав., Сл. ПЗБ), *ро́ля* ‘тс’ (Нас.), ст.-бел. *ролья* ‘ніва, поле’ (Ст.-бел. лексікон). Параўн. укр. *ріллі́* ‘узаранае поле’, рус. дыял. *ро́ля, ро́лья* ‘ворная зямля, поле’, польск. *rola* ‘свежаўзараная зямля, поле’, в.-луж. *rola*, н.-луж. *rola* ‘тс’, ‘палаб. *rühljaa*, *rül’ă*, чэш. *role* ‘поле’, славац. *rol’a* ‘узаранае поле, ніва’, славен. *(o)ralje* ‘аранне, узаранае поле’, харв. дыял. *ràla*, серб. *рађа* ‘тс’. Мяркуецца праславянская семантыка ‘зямля прызначаная пад ворыва і засеў’ і адпаведна ўтварэнне ад **o-ra-ti* пры дапамозе суф. *–lьja > *orlьja* (Слаўскі, SP, I, 106; Сэндзік, Prasł., 74–75), хаця больш імаверна значэнне выніку дзеяння, г. зн. ‘зямля, якую ўжо ўзаралі’. Гл. Брукнер, 462; Фасмер, 3, 498; Бязлай, 3, 148; Шустар-Шэўц, 2, 1233; Куркіна, Этимология–1998–1999, 82.



**Ра́лнік** (*ра́лнык*) ‘расліна капытнік’, ‘бабоўнік’ (пін., ЛА, 1; Лексика Пол.), ‘чыстацел’ (ТС). Назва *капытнік* наводзіць на параўнанне з *рала*$_3$ (гл.) ‘прамежнасць паміж капытоў парнакапытных’ або на магчымасць шматлікіх разгалінаванняў, параўн. *ралаваты* (гл.). Іншая назва на Тураўшчыне – *раннік* ‘чыстацел’ (гл.) дапускае магчымасць распадабнення *нн > лн*.

**Ра́лца**$_1$ ‘галінка, вілападобнае разгалінаванне’ (капыл., Сл. ПЗБ), *ра́лцэ*, *ра́льцэ* ‘сук, разгалінаванне’ (ТС), *ра́льца* мн. л. ‘рожкі ў калаўроце’ (там жа), ‘рожкі для шпулькі ў кроснах’ (Лексика Пол.). Памяншальнае ад *рала*$_1$ (гл.) пры дапамозе суф. *-ц(а)*, з магчымым варыянтам *-ц(ы)*, а таксама варыянтнай мяккасцю асновы, як *кола – колца / кольца, рыла – рылца / рыльца* і пад.

**Ра́лца**$_2$ (*rałce*): *do dworu przynoszą w darze jaja farbowane, zwane tu rałce* (пін., Кольб.), адз. л. *rałec* ‘велікоднае яйка чырвонага колеру’ (там жа). Відаць, да *ралца*$_1$, першапачаткова гэта было абрадавае ўпрыгожанае дрэўца (параўн. *рагаценька*, гл.), т. зв. **рало* (дрэва жыцця?), пазней замененае велікодным яйкам, параўн. укр. *рале́ць* ‘віншавальны падарунак’.

**Ральба́** ‘ворыва’ (Выг.), ‘узаранае поле’ (слаўг., Яшк.). Ад *ralі́ць* (гл.) пры дапамозе суф. *-ба*, што стварае назоўнік з характарыстыкай пэўнага дзеяння, параўн. *пасьба, сяўба*.

**Ра́льнік** ‘араты’ (смарг., Шатал.). Утворана ад *ралі́ць* (гл.) пры дапамозе суф. *-нік*, што стварае назву асобы па занятку, параўн. *пільнік* ‘той, хто пілуе’, *жа́тнік* ‘той, хто жне’ (Сцяцко, Афікс. наз., 54), параўн. польск. *rolnik* ‘сельскагаспадарчы рабочы’.

**Ральні́цтва** ‘паляводства, земляробства’ (Байк. і Некр.). Хутчэй за ўсё, запазычанне з польск. *rolnictwo*, што створана як кандэнсат з семантыкай ‘палявая праца’, ‘праца земляроба’ ад *rolny* ‘сельскагаспадарчы’.

**Ра́льца** ‘вілкі для шпулькі ў ткацкім станку’ (Лексика Пол). Гл. *ра́лца*$_1$.

**Ралю́х** ‘загон’ (Сл. Брэс., Лексика Пол.), ‘частка ўзаранага поля’ (Лексика Пол.), ‘склад пры аранні’ (пін., Нар. лекс.). Імаверна,

створана ад *ралля₁/ роля* (гл.), што азначае прадмет паводле прызначэння, падобна як *свінюх* 'свінарнік' (Сцяцко, Афікс. наз., 175).

**Рам** 'падстольнік' (ПСл). Не выключана запазычанне з нямецкіх дыялектных форм, параўн. ст.-в.-ням. *ram* 'падпора, калона', ням.-аўстр. *Rahm* 'рама', улічыўшы нямецкія пасяленні на Палессі. Гл. *ра́ма₁, трам.*

**Ра́ма₁** 'драўляны прамавугольнік для розных патрэб і мэт', 'перакладзіна' (ТСБМ, Бяльк., Сл. ПЗБ), 'рама (акна і інш.)' (ТС). Распаўсюджана вывядзенне з ням. *Rahmen* 'устойлівая апора, абрамленне, рама, рамка' (у тым ліку Брукнер, 453). У беларускіх помніках сустракаецца з пачатку XVII ст. і разглядаецца як запазычанае праз польск. *rama* з ням. *Rahmen* (Булыка, Запазыч., 273; параўн. Фасмер, 3, 440). Нельга выключаць запазычанне праз дыялектныя формы, параўн. ст.-в.-ням. *rama* 'падпора, калона, абрамленне', с.-в.-ням. *rame* 'тс', ням.-аўстр. *Rahm* 'рама', параўн. нідэрландскае *raam* 'рама, акно' (параўн. Лявіцкі, 2, 93; Сной, 544).

**Ра́ма₂** 'пра́сла', 'частка ткацкага станка, дзе ёсць ніты' (Ласт.). Гл. *ра́ма₁*.

**Ра́ма₃** 'машына для падоўжнага распілоўвання бярвення', 'прыстасаванне з вертыкальнай рамай, у якой рухаюцца пілы' (ТСБМ). Гл. *ра́ма₁*.

**Ра́ма₄** 'прыстасаванне з жэрдак для сушкі траў' (Сл. ПЗБ). Гл. *ра́ма₁*.

**Ра́ма₅** 'дзве жэрдкі, замацаваныя папярочнай планкай, якія кладуцца на сані' (рас., Шатал.). Гл. *ра́ма₁*.

**Рама́н₁** 'суп з гароху' (докш., Янк. Мат.). Няясна. Магчыма, праз рознага кшталту метафарычныя пераносы звязана з гукапераймальным комплексам *рам-*, гл. *раманіць*. Параўн. аналагічнае, рус. дыял. (Латвія) *роман* 'нейкая страва' (СРНГ).

**Рама́н₂** (*rаmán*) 'рамонак' (Федар.), *рамо́н* 'дзікі рамонак' (Нас.), *рома́н, ромо́н* 'тс' (ТС). Гл. *рамонак.*

**Раманэ́нт** 'прагул' (Касп.), *рэманэ́нт (реманэ́нтъ)* 'незаплачаны доўг, што застаецца па-за разлікам' (Нас.), сюды ж *рамарэ́нт* 'штраф, няўстойка' (Касп.), *ramarént* 'задоўжанасць у сэнсе помсты' (Варл.). Паводле Насовіча (там жа), слова "запазычана ад польскіх памешчыкаў", ад лац. *remanens* 'што застаўся ў наяўнасці, астаткавы', параўн. сучаснае польск. *remanent* 'пераўлік, інвентарызацыя'.



**Раманíць** 'ціха стукаць (пра дождж)' (Растарг.), *ра́маць* 'стукаць' (Мат. Гом.). Чэш. *romoniti* 'шалясцець, цурчаць; громка гучаць', славац. *romonit'* 'грымець, трашчаць', параўн. славен. разьян. *romoniti* 'размаўляць, гаварыць', серб.-харв. *ромо̀нити* 'балбатаць, мармытаць, шаптаць', балг. *ромо́ня* 'цурчэць; ціха гаварыць, гаманіць', макед. *ромо́ни* 'шалясцець, цурчаць'. На аснове аддзеяслоўных назоўнікаў Бязлай (3, 195) рэканструюе прасл. **romonъ* 'шум, шалясценне, цурчанне, гоман' (< і.-е. **rē(i̯)-* 'крычаць, раўці, стукаць, грукацець', параўн. ст.-сканд. *rōmr* 'голас', італ. *rumore* 'шум', лац. *rumor* 'віск'), а таксама дзеяслоў **romoniti* (**ramaniti*, гл. БЕР, 6, 319). Гл. таксама Скок, 3, 158. Словаўтваральнай асновай мог быць гукапераймальны корань **rom-/*ram-*, параўн. славен. *rompотрот* 'гукаперайманне грукату', *rompljati* 'грукаць, стукаць', славен. *romon* 'шум, мармытанне', харв. *romon* 'тс', *romoriti* 'гучаць, шумець'. Борысь у экспрэсіўным славін.-каш. *x-ram-ota-ć* 'бразгатаць, грукаць, брахаць (пра сабак)', *xramot* 'брацанне, лязганне, грукат, брэх' адзначае паралельнае выкарыстанне суф. *-ota- / -oni-* з семантыкай узмацнення дзеяння ў анаматапеічных дзеясловах, напрыклад, кашуб. *fafrotać / fafronić* 'балбатаць, вярзці' (Борысь, Leksyka słow., 26). Іншыя экспрэсіўныя дзеясловы з элементам *ram-*: польск. дыял. *chrampać* 'прасоўвацца і шэлестам', *chramastać* 'есці з храбусценнем', падляш. *chramać* 'есці, грызці'. Першаснае значэнне элемента *-ram-* (варыянт *–chram-*) магло быць менавіта 'шалясценне, хрусценне' (Борысь, там жа).

**Рама́тус** 'хвароба рэўматызм' (ТСБМ, Сл. ПЗБ, Станк.), таксама *рама́тыз, раматызма, рамацізма, рамацізна* (Сл. ПЗБ), *рамацізнасць* (Юрч.), *ромацíз* (ТС), сюды ж *рамацíжнік* 'лекавая трава для лячэння раматусу' (Юрч.), *рамацізнік* 'хворы на раматус' (Юрч.). Асвоенае ў народнай мове запазычанне з лац. *rheumatismus*, магчыма, праз ням. *Reumatismus*. Першасна з грэч. ρευματισμός 'струмень, цячэнне', бо старажытныя грэкі ўяўлялі сабе, што ўзбуджальнік хваробы расцякаецца па целе. Відавочна, з'яўляецца народнай адаптацыяй замежнай словаформы, што абумовіла варыятыўнасць гучання; паводле Фасмера (3, 455) рус. *рамати́с* пад уплывам народнай этымалогіі (*рама* 'плячо' і *тискать* 'ціснуць').

**Ра́мачнік** 'рамачны вулей' (ТСБМ), *рамо́ўка* 'тс' (Касп.), *ра́мавік* 'тс' (Мат. Гом.), *рамаві́к* 'тс' (брасл., Сл. ПЗБ), *рамо́-*

*вачнік, рамчáк* 'тс' (Мат. Гом., Касп.), *рамкóвік* 'тс' (докш., Сл. ПЗБ). Ад *рама₁* (гл.), што звязана з новай канструкцыяй вулля: не калодачны ці борцавы вулей, а вулей з рамкамі, дзе пчолы робяць соты.

**Рамáшка** 'рамонак' (Сл. ПЗБ; краснап., мсцісл., Бяльк.), Matricaria chamomilla альбо Anthemis romana – аптэчны рамонак. Адзначаецца, што старыя людзі гавораць *рамонак*, а не *рамашка* (навагр., Сл. ПЗБ). Хутчэй за ўсё, русізм, параўн. рус. *ромáшка*, якое вядома з XVIII ст. Відаць, з'яўляецца сцяжэннем выразу, што сустракаўся ў стражытных рускіх друкаваных слоўніках – рус. *романова трава*, як даслоўны пераклад з лац. *Anthemis romana* (Чарных, 2, 122).

**Рамашóк** м. р. 'рамонак' (маладз., Жд. 2). Перанос рода са звычайнага *рамонак* (гл.) на запазычанне з рускай, гл. папярэдняе слова.

**Рамбíна** 'ягада з рабіны' (Ян.). Частковая дээтымалагізацыя ў выніку пераносу з назвы дрэва на плод гэтага дрэва, дадаткова афармленага эпентэтычным *-м-* у корані слова (штучнае "акультурванне" слова шляхам назалізацыі?), параўн. польск. *jarzębina* 'рабіна'.

**Рамдáр** '?' (Шымк. Собр.). Хаця аўтар і не падае значэння слова, трэба думаць, што тут, хутчэй за ўсё, яшчэ далей зайшоўшая трансфармацыя запазычання, параўн. *рандáр, рандáтар, рандáтарыха*, гл. *ранда*.

**Рáме** 'плячо' (Нас., Сл. ПЗБ), *рáмя* 'тс' (Байк. і Некр.), *рамянó* 'тс' (Сл. ПЗБ), *рамёнак* 'плечавая костка' (Стан., Байк. і Некр.), ст.-бел. *раме* (XVII ст., Карскі, 2–3, 18), *рамо* 'тс' (Сл. Скар.), *рáмя* 'рукаў ракі' (Байк. і Некр.), *рáм'я* 'тс' (мазыр., Яшк.); параўн. укр. *рáм'я / рáмено* 'тс', рус. дыял. *рáмо, рамена́* 'плячо, плечы', польск. *ramię* 'тс', в.-луж. *ramjo/ ramje*, н.-луж. *rаḿe* 'тс', палаб. *råmą* 'тс', чэш. *rámě / rameno* 'плячо', славац. *ramä* 'тс', славен. *rama / rame* 'адгалінаванне, парэнча', *ramska kost* 'плечавая костка', серб. *ра̏ме / ра̏мо / рамѐница* 'плячо', *рамѐњача* 'плечавая костка', балг. *рáмо* 'тс', ст.-слав. рамо 'тс'. Праслав. **ramę* (< **ormę*), роднаснае ст.-прус. *irmo* 'рука, плячо', авяст. *arəma* 'рука, плячо', асяц. *arm* 'далонь, жменя', гоц. *arms*, ням. *Arm* 'рука', англ. *arm* 'рука вышэй запясця'. Фанетычная форма *раме* падаецца запазычаннем з польскай, развіццё насавога ў беларускай дае *рамя*.



***Рамéза**, *ромéза* 'луска верхняга слоя кары сасны' (петрык., Шатал.). Параўн. *ръмузініна* 'вузкая палоска матэрыі' (міёр., Нар. словатв.) і, гледзячы па ўсім, роднаснае, але семантычна больш далёкае *рамізкі* 'прыстасаванне з нітак або шнурочкаў, цераз якія перацягваюць ніткі асновы' (Інстр. 2). Блізкая семантыка і наяўнасць рускай дыялектнай (вяц., арханг., уладз.) формы *ремезéнь* 'скураны пояс, рамень' даюць падставы лічыць корань гэтага рэдкага слова роднасным кораню, які вылучаецца ў *рамéнь* (гл.), г. зн. **rem-*. Фасмер (3, 469) і Чарных (2, 110), паводле Даля (2-е і 3-е выд.), звяртаюць увагу і на іншасуфіксальныя формы – рус. дыял. *ремóк, ремьё, ремóха, ремýха, ремýга* 'акравак; лахмоцце; рыззё', да якіх можна дадаць яшчэ шэраг з аналагічнымі ці блізкімі значэннямі: *ремóния, ремóница, ремýзия, ремýзы, рёмуз, рёмух, ремгú* і г. д., а таксама укр. *рáм'я* 'лахманы; рыззё'. Паводле Куркінай (Этимология–1997–1999, 85), "назва вузкай палоскі скуры, тканіны, зямлі і да т. п. матывавана дзеяслоўнай семантыкай 'ірваць, здзерці' ". Між тым, падобна на тое, што арыгінальнае значэнне лексемы, зусім не абавязкова звязанага з семантычным абагульненнем 'ірваць, здзіраць', з'яўляецца не менш старажытным, а гэта, у сваю чаргу, дазваляе прапанаваць тэрытарыяльна абмежаваны познепраславянскі дублет **remenь/*remene* (< **remy*), менавіта **remezъ/ *remeza*, і таксама з цыркумфлекснай інтанацыяй.

**Рáмена** 'тып вышыванага ўзору' (Лексика Пол.). Відавочна, гэты ўзор рабіўся па краі кавалка тканіны. Больш за тое не ясна. Гл. *рáмень*.

**Раме́ннік** 'зараснік бабоўніку' (жытк., Яшк.), 'шабельнік, расліна падобная на бабоўнік', 'нейкая вадзяная расліна' (ТС). Магчыма, звязана з высаджваннем расліны па краі, вакол зямельнага надзелу. Больш за тое не ясна. Гл. *рáмень*.

**Рáмень** 'вялікі балотны лес' (Яшк.). Параўн. з рус. дыял. *рáмень* 'суседні з ворнай зямлёй лес', 'лес, які акаймляе поле', *рáменье* 'густы лес, што прымыкае да палеткаў', *рáменка / обрáменье* 'край, акраіна поля, абрамленне', 'клін, паласа аднароднага лесу', *рям* 'ельнік вакол балота', *рама* 'акраінная вобласць', ст.-рус. *рама* 'мяжа', 'поле, што прымыкае да лесу', *рамение* 'лес па краі ворнай зямлі, ускраек лесу'. Відаць, не звязана з *рамя́ный* 'вялізны,

моцны, багаты’, як падае Фасмер (3, 440 з ранейшай літ-рай). Аткупшчыкоў (Из истории₂, 193–194) звязвае рус. дыял. *ра́менье* з **orati* ‘араць’, вызначаючы архаічную семантыку **orati* як ‘раздзяляць’. Адсюль першаснае значэнне не было звязана з лесам, і зыходнай базай з’яўляецца і.-е. **orə-* ‘араць, **er-* ‘зямля’, што ўзыходзіць да і.-е. **er- / *or- / *ar-* з шырокай семантыкай ‘раздзяляць, распорваць, рваць, драпаць’ з набыццём значэння ‘пракопваць разоры’, параўн. літ. *arti* ‘араць’, *ardýti* ‘раздзяляць’ (Куркіна, Этимология–1997–1999, 82; там жа, 84–85, пра магчымую сувязь з *раме́нь/ рэ́мень*, гл.) Паводле Аткупшчыкова (Из истории₂, 194) форма чляніцца на *ра-мень* і стаіць у адным шэрагу з *ра-ло, ра-тай* (гл.), структурна падобная да рус. *зна-мень, ка-мень* і *пла-мень*. Адсюль *рамень* < **ar-mōn* з семантыкай ‘адараны ад лесу’ альбо ‘узараны кавалак зямлі, пазбаўлены лесу’. Сной (гл. Бязлай, 3, 149) звязвае з славен. *ramica* ‘мыта з тавару, пасланага праз мяжу’ і рэканструюе прасл. **ormy, *orma* ‘мяжа’ (= поле або лес) < і.-е. **orH-men-, *órH-mā*, да якіх узыходзіць прасл. **oriti* (гл. *разарыць*). Беларускі матэрыял узяты з “другіх рук” (гл. Яшкін, Слоўнік, 573) і на фоне пераважна паўночнарускага ўжывання слова падаецца маланадзейным.

**Раме́нь** ‘паласа вырабленай скуры’, ‘скураны пояс, папруга’, *рэ́мень* ‘тс’ (ТСБМ, Бяльк., Сл. ПЗБ, Ян.), *ра́мень* ‘тс’ (ПСл), *раму́шак* ‘папружка’ (свісл., Сл. рэг. лекс.), *рэмушо́к* ‘тс’ (ТС), *рэме́нь* ‘тс’ (ТС), *ралі́нык* ‘тс’ (Сл. Брэс.), *раме́нны, раме́ны* ‘зроблены з рэменя, скураны’ (ТСБМ, Бяльк.; астрав., Сл. рэг. лекс.), параўн. укр. *ремі́нь, ре́мінь*, ст.-рус. *ремык*, рус. *реме́нь* ‘тс’, польск. *rzemień / rzemyk* ‘тс’, чэш. *řemen* ‘рамень’, славац. *remeň*, в.-луж., н.-луж. *rjemjeń*, серб. *ре̏мен*, харв. *rȅmēn*, славен. *jérmen, rēmen*, балг. *ре́мък, ре́мен* ‘тс’, ст.-слав. **ремень**. Прасл. **remy*, Р. скл. **remene*. Далейшае паходжанне цьмянае. Мяркуецца, што першаснае значэнне ‘папруга да ярма’ ўзыходзіць да і.-е. **or(ə)men-* (гл. *ярмо, яром*). Малаверагодна запазычанне з ням. *Riemen* ‘рэмень’ (Брукнер, 475). Шустар-Шэўц (2, 1226) лічыць іх роднаснымі. Лявіцкі (2, 89) вызначае германскую лексічную базу **rium-* з семантыкай ‘звязваць’ < і.-е. *reum* ‘тс’, ст.-в.-ням. *riomo* ‘скураная павязка, пояс, рэмень’. Гл. таксама Фасмер, 3, 468; Махэк₂, 530; Сной₂, 240; Глухак, 524.



***Рамеслівы**, *рэме́сліві* ‘зласлівы, непрыхільны, злапамятлівы’ (ТС). Няясна; хутчэй за ўсё да *рэмстваваць* ‘злоснічаць, абгаворваць, ганіць’ (гл.).

**Раме́снік** ‘саматужнік’ (ТСБМ, Нас.), *рамясні́к* ‘тс’ (Сл. ПЗБ), *ramiéśnik* ‘чалавек, што мае нейкі талент у руках’ (Варл.). Параўн. ст.-польск. *rzemięślnik* ‘тс’, дзе насавы лічыцца гіперправільным (Фасмер, 3, 469). Імаверна, першасная форма **remes- / *remest- / *remęs-*, параўн. ст.-літ. *remẽsas* ‘рамеснік’, *remẽstas* ‘рамяство’, лат. *remesis* ‘цясляр’, што дало вытворныя *рамеснік* і *рамяство* (гл.). Меркаванне Аткупшчыкова (Лекс. балтызмы, 31–35) пра балтыйскую аснову, параўн. ст.-літ. *remẽsas* ‘рамеснік’, лат. *remesis* ‘цясляр’, паводле Лаўчутэ (Балтизмы, 147), недастаткова аргументаванае. Паводле Віткоўскага (Зб. Русэку, 237) – паланізм (< польск. *rzemieślnik*), які выцясніў з XIII ст. вядомы яшчэ з часоў “Рускай Праўды” царкоўнаславянізм *ремьствьник/ ремественик* ‘рамеснік’.

**Раме́ха** (*рэме́ха*) ‘грубае самаробнае палатно, зрэб’е’ (ТС). Разам з рус. *рему́ха* ‘старое парванае адзенне’ звязваецца з *рэ́мень* (гл.), параўн. *рамушо́к, раму́шак* ‘папружка, раменьчык’, і ўзыходзіць да ‘вузкая палоска матэрыі; абтрапаны край матэрыі’, гл. *рамузі́ніна, ра́мец*.

**Ра́мец** ‘неахайны, брудны чалавек’ (свісл., Сл. рэг. лекс.). Відаць, звязана з *раму́лле* (гл.), укр. *рам’я́* ‘лахманы, рыззё’, рус. *ремьё* ‘тс’, якія Бадуэн дэ Куртэнэ (Даль₃, 1677) збліжаў з *реме́нь*, гл. *раме́нь/рэ́мень* (Фасмер, 3, 469). Куркіна (Этимология–1997–1999, 85) рэканструюе значэнне ‘вузкая палоска’, што да зыходнага ‘рваць, драць’. Тады асноўнае значэнне – ‘абарванец’.

**Рамза́ць** ‘груба смяяцца, іржаць’ (Мат. Гом.), *рэмза́ці* ‘надакучваць размовай’ (івац., Жыв. сл.). Гл. *рэ́мзаць*.

**Рамі́знік** ‘фурман наёмнага экіпажу’ (ТСБМ), ‘лёгкая фурманка для перавозкі пасажыраў’ (Варл.). Відаць, ад ням. *Remise*, якое можа азначаць ‘сховішча для пэўнага транспарту’, што з франц. *remise* ‘тс’ < *re-mettre* ‘адкладаць, захоўваць’, звязанае з лац. *mitto / mittere* ‘кідаць’ і ‘пасылаць’. Хутчэй за ўсё праз польск. *remiza* ‘вазоўня’, параўн. чэш. *remiz* ‘карэтня’, ‘месца, дзе стаяць вазы’. Адсюль *рамізнік* – ‘той, хто працаваў у вазоўні, абслугоўваў экіпажы’. Больш позняе ўтварэнне *рамі́знік* ‘чалавек, які званіў

у час пажару' ад польск. *remiza* 'пажарнае дэпо': *былі такія рамізіі... рамізнік быў напагатове і званіў* (чэрв., Жд. 3).

**Рамнóўка** 'гатунак бульбы' (Жд. 1). Магчыма, у выніку распадабнення ад **ранноўка* 'ранняя бульба, скараспелка'.

**Рамóнак** 'расліна з кветкамі з белымі пялёсткамі і жоўтай сярэдзінай', 'кветка гэтай расліны' (ТСБМ, Бяльк., Сл. ПЗБ). Гл. *рамóн* 'расліна Matricaria chamomilla L.' і шматлікія трансфармацыі: *рамóнька, рамýль, рымóнак* (Сл. ПЗБ), *румéнка* (Стан.), *ромóн, рóман, ромóнок, раменок* (ТС), *румя́нок, румнéнок* (Сл. Брэс.). Параўн. укр. *ромáн, ромéн, рум'янок* 'рамонак', рус. дыял. *рамéн, ромéн, ромáнник* 'тс', польск. *rumianek* 'тс' (але *romanek* 'малачай'), чэш. *rmen* 'рамонак', славац. *ruman, rumanček* 'тс', славен. *rmān, roman* 'тысячалістнік, Achillea millefolium L.', серб. *ра̏менак, ра̀ман* 'рамонак', харв. *román, ráman*, балг. *рамóн*, макед. *рамон*. Прынятая этымалогія ад лац. *Anthemis rōmāna, Chamaemēlum rōmānum* з непасрэднай перадачай у кожнай з моў другой часткі лацінскай назвы без адэкватнай перадачы значэння 'рымская трава', параўн. да гэтага ням. *römische Kamille*, што даслоўна 'рымскі рамонак'. Зыходнай назвай для семантычнай кандэнсацыі магла быць назва тыпу рус. *романова трава* ці няправільнае *рамонова трава* 'рамонак', што фіксуецца ў рускіх аптэкарскіх даведніках (з 1782 г.). Іншыя змяненні ў карнявой марфеме могуць быць выкліканы падабенствам з *румяны*, што ў шэрагу славянскіх моў азначае 'жоўты', напрыклад, славен. *rumen* 'жоўты', альбо звужэннем *о*, як польск. *rumianek*. Гл. Фасмер, 3, 500 (мяркуе пра польскае пасярэдніцтва для ўсходнеславянскіх назваў), БЕР, 6, 178; Бязлай, 3, 187.

**Рамóнт** 'ліквідацыя пашкоджанняў, паломак' (ТСБМ), *рамантавáць* 'папраўляць, аднаўляць' (там жа). Параўн. рус. *ремонт* 'тс', болг. *ремонт* 'тс'. З франц. *remonte* 'тс'.

**Рамс**: *у рáмса* 'від гульні ў карты' (Машара). З польск. *ramsz* 'гульня ў карты, у якой прайграе той, у каго застаецца больш ачкоў' (< ням. *Ramsch* або франц. *ramas* 'куча, хлам').

**Рамузíніна** (*ръмузíніна*) 'вузкая палоска матэрыі' (міёр., Нар. словатв.). Разам з рус. *ремузúна, ремýзье* 'лахманы' звязаны з *рэ́мень, рамéнь* (гл.) на базе развіцця значэння 'вузкая палоска' – 'разадраная тканіна' (Куркіна, Этимология–1997–1999, 85).



**Рамýль** 'рамонак', *рамулі; рамулькí* мн. л. (ігн., шванч., паст., Сл. ПЗБ). Па лінгвагеаграфічных характарыстыках, хутчэй за ўсё з літ. *ramùliai* 'тс', аднак не выключана самастойнае ўтварэнне, параўн. Сцяцко, Афікс. наз., 173, які адзначае формы на *-уль* як малапрадуктыўны словаўтваральны тып, што выкарыстоўваецца на Віцебшчыне, Гродзеншчыне і Магілёўшчыне, напрыклад: *горб – гарбуль* 'нарасць', *бык – бычуль* 'гультай', *шып – шыпуль* 'тонкая трэска'. Адсюль, магчыма, *рамон → рамуль* як экспрэсіўная форма з адсячэннем карнявой фіналі *-он*, параўн. *рамýнкі* 'рамонкі' (Сл. ПЗБ).

**Рамýлле** зборн. 'старыя рэчы' (беласт., Сл. ПЗБ). Блізкае да шматлікіх утварэнняў у рускай мове з варыянтным коранем *ром- / рем-*, параўн. *ремýга* 'акравак, рызман', *рóмух* 'тс' і пад. Фасмер (3, 469) рус. зборн. *ремьё* 'шмаццё' са спасылкай на Бадуэна дэ Куртэнэ адносіць да *рéмень*, гл. *рамень, рэмень*.

**Рáмцік** 'кант' (Ласт.). У выніку мены *н* > *м* ад *рант* (гл.).

**Рамштýк**, *рамчýк* 'палачка на раму' (Сл. ПЗБ). Вельмі падобна на германізм, параўн. ням. *Rahmen*, ням.-аўстр. *Rahm* 'рама', ст.-в.-ням. *ram* 'падпора' і ням. *Stock* 'палка'. *Рамчук* магло б разглядацца як адаптацыя замежнай словаформы з выкарыстаннем малапрадуктыўнага, але блізкага па гучанні суф. *-чук*, што тут не нясе памяншальнай семантыкі, уласцівай гэтаму элементу. Цяжка пагадзіцца з Лаўчутэ (Балтизмы, 129), што гэта літуанізм і дэмінутыўнае ўтварэнне ад *рама* (гл.) з элементам *-амшт-* балтыйскага паходжання, параўн. літ. *ramstùkas* 'тс' < *ramstis* 'папярочная планка, падпорка, апора', *remti* 'падпіраць'.

**Рáмы** мн. л. 'прыстасаванне (дуга з пераплеценымі вяроўкамі), у якім носяць сена' (полац., ДАБМ, камент.). Да *рама₁* (гл.).

***Рамяна**, ст.-бел. *рамяно* 'вельмі, моцна' (Ст.-бел. лексікон), параўн. старое рус. *рамя́но* 'вельмі', ц.-слав. **рамѣно** 'тс', славен. *rámeno* 'моцна, вельмі, далёка', славац. *ramenito* 'моцна'. Звязваюць з ст.-ісл. *rammr* 'моцны, востры', ст.-в.-ням. *irmin* 'моцны', алб. *jerm* 'шаленства', літ. *er̃mas* 'пачвара, жах', *ę̃rms, ę̃rms* 'малпа; незвычайная з'ява', арм. *arman* 'цуд' (Міклашыч, 273; Фасмер, 3, 441; Бязлай, 3, 149).

**Рамянéц** 'стужачны чарвяк' (ТСБМ); 'змеі?': *"у гэтых камянях і шчуры, і рамянцы"* (Дзядзька Квас, Роздум на калёсах, Беласток, 1995, 17). Відавочна, форма чарвяка або змяі нагадвае

*рамень* (гл.), адсюль дэмінутыўнае ўтварэнне, параўн. *рамянéц* 'раменьчык' (слуц., Шн. 2), *рамянцы́* мн. л. 'прывязкі ў лыжах' (Мат. Гом.).

**Рамя́нка** 'раменная вяроўка, пераплецены доўгі і вузкі рамень' (Мат. Гом.). Гл. *рамéнь*.

**Рамянó** 'плячо', 'частка адзежы, што на плячо надзяецца' (воран., іўеў., астрав., Сл. ПЗБ). Праўн. рус. *плечики* 'тс'. Перанос ад *рáме* (гл.) і выраўноўванне асноў з Н. скл. мн. л. *рамёны*.

**Рамяствó** 'вытворчасць вырабаў ручным саматужным спосабам; саматужніцтва' (ТСБМ, Нас., Гарэц., Касп.), *рамясло́* 'тс', *рэмясло́* 'ручное майстэрства, умельства' (Ласт., Сл. ПЗБ), *рэмесло́* 'рамяство, занятак' (ТС), *рамéсніцтва* 'занятак рамяством' (Байк. і Некр.). Параўн. укр. *ремесло́, ремéство* 'тс', рус. *ремесло́*, дыял. *ремествó*, польск. *rzemiosło*, в.-луж. *rjemjesło*, н.-луж. *řemesło* 'тс', чэш. *řemeslo*, славац. *remeslo*, ст.-серб. *ремезьство*, ст.-слав. **ремьство**. Параўн. таксама ст.-літ. *remēsas* 'раменік', *remēstas* 'рамяство', лат. *remêsis* 'цясляр', *ramtýti* 'секчы сякерай', лат. *ram̃stît* 'секчы тупой сякерай, пілаваць тупой пілой', ст.-прус. *romestue* 'сякера', англ.-сакс. *rèmian* 'напраўляць, аднаўляць'. Фасмер (3, 469) мяркуе пра сувязь са ст.-рус. *ремезъ* (адзіная фіксацыя XIV ст.), рус. цвяр. *ремезá* 'спраўны, дзелавы чалавек', што няпэўна. Паводле Віткоўскага (Зб. Русэку, 237), форма *ремесло* з'яўляецца з XVI ст. паланізмам ва ўсходнеславянскіх мовах, які ў пачатку XIX ст. канчаткова выцясніў з ужывання ў рускай мове формы на *-ство* (*ремьство, ремество*).

**Рáна₁** 'пашкоджанне тканак жывога арганізму' (ТСБМ, Бяльк., Шат., Сл. ПЗБ, Варл., ТС), ст.-бел. *рана* 'тс' (Сл. Скар.), 'кара, катаванне' (Карскі, Труды, 339). Параўн. укр., рус. *рáна* 'адкрытае пашкоджанае цела', польск., н.-луж., в.-луж. *rana* 'тс', палаб. *råno* 'тс', чэш. *rána* 'тс', 'удар, няшчасце', славац., *rana* 'адкрытае пашкоджанне цела', славен. *rána* 'тс', серб.-харв. *ра̏на* 'тс', балг. *рáна* 'тс', макед. *рана*, ст.-слав. **рана** 'тс'. Прасл. **rana*, параўн. літ. *ronà* 'тс', *rõnyti* 'раніць', *ronótas* 'з ранамі, ранены' (запазычанні са славянскіх моў). Роднаснае да ст.-інд. *vraṇá-* 'рана, шчыліна, драпіна', алб. *varrë* 'рана', *vras* 'забіваю' (Фасмер, 3, 441; Бязлай, 3, 150). Узыходзіць да і.-е. **u̯er –* 'раскрыць, разарваць, раздраць', адлюстраванага ў рус. *ворóнка* 'лейка', польск. *wrona*



'адтуліна, дзіра' і інш., гл. ESJSt, 12, 748; БЕР, 6, 181 (звяртаецца ўвага на фармальныя цяжкасці пры рэканструкцыі); Глухак, 518; Шустар-Шэўц, 2, 1205.

**Рáна₂** 'раніцай, ранкам, уранні, ранні́м часам, раней пэўнага часу, загадзя' (ТСБМ, Бяльк., Шат.; ашм., Станк.; Сл. ПЗБ, Ян.), 'ранні час' (Варл.), *рáно* 'тс' (ТС), ст.-бел. *рано* 'тс' (Сл. Скар., Альтбаўэр). Параўн. укр. *рáно*, рус. *рáно*, ст.-польск. *rano* 'раннім часам', польск. *rano* 'ранкам' і 'ранак', палаб. *ronü / rånă* 'тс', в.-луж., н.-луж. *rano*, чэш., славац. *ráno* 'раніцай, дачасна', серб.-харв. *ра̏но*, славен. *ráno*, балг. *рáно*, макед. *рано*, ст.-слав. **рано** 'раней пэўнага часу' і 'ранак'. Слова не мае канкрэтнай этымалогіі. Прынятае тлумачэнне **rano* < **radno* < з **ordno / *vordno* < і.-е. **urōdhno-* 'час нараджэння сонца', што мае тую ж аснову, што і **rodъ*, адсюль *рана* 'час нараджэння дня', параўн. грэч. ὄρθρος 'раніцай', да гэтага ж літ. *ritas* 'раніца' (ESJSt, 12, 748 з аглядам версій). Длугаш-Курчабова (429) адзначае, што форма **rano* з'яўляецца рэліктавай нячленнай формай прыметніка н. р. адз. л., які субстантывізаваўся, а не адвербіялізаваўся, параўн. прысутнасць склонавых форм яшчэ ў ст.-польск. *z rana, po ranu* (XVI ст.), а прыкладам далейшай субстантывізацыі польск. *rano* можна лічыць адсубстантыўнае суфіксальнае ўтварэнне *ranek*, параўн. бел. *рáнак, раніца* (гл.). Паводле заўваг Брукнера (453), польск. *z rana* ўзнікла па аналогіі са скланеннем назоўніка *zaranie* (н. р.) альбо *zarań* (ж. р.), адсюль польск. *z rana* памылковае, замест *z rania*. Параўн. да гэтага *рань* 'раніца' (Растарг.), *рáнне* 'пачатак дня, раніца, ранак' (Нас., Байк. і Некр., Растарг., Бяльк., Сл. ПЗБ), *рáне* (Сл. ПЗБ, ТС)., *з рáння̂* 'з раніцы' (Шат., Гарэц.), *да рáння* 'да ўсходу сонца' (Шат.), параўн. ст.-бел. *лежи до ранья* (Альтбаўэр), *зарáнне, зрáнне* 'зранку, вельмі рана' (Растарг.). Рэйзак (527) лічыць, што **rana* з'яўляецца прыслоўем і утворана ад прыметніка **ranъ*.

**Рáнак** 'пачатак дня, раніца' (ТСБМ, Нас., Сл. ПЗБ), *рáнкі* мн. л. 'тс' (Нас., Бяльк., ТС), 'самым ранкам' (Растарг.). Параўн. укр. *рáнок*, рус. дыял. *рáнок*, польск. *ranek* 'тс'. Суфіксальнае ўтварэнне ад *рана*, магчыма, дэмінутыўнае. Гл. *рáна₂*.

***Ранаць,** *ронáць* 'перамяшчацца зверху ўніз (пра ніты)': *ніт ронае і получаецца зево* (петрык., Шатал.). Фанематычны варыянт *раня́ць* (гл.).

**Ранг** 'становішча ў іерархіі' (ТСБМ), *ранга* 'тс' (Гарэц.). Відаць, праз рускую ці польскую з ням. *Rang* 'чын', якое з франц. *rang* 'ярус, рад, чын, становішча', першапачаткова 'месца абвінавачанага ў судзе', гл. і роднаснае *рынг* (першапачаткова 'абруч'), што праз ням. *Ring* 'круг, абруч' суадносіцца з прасл. **krǫgъ*, гл. *круг* (Фасмер, 3, 442; Снойₓ, 622).

**Рангавіска** 'ручка ў вілах', *ранкавічка, ранкаяска* (навагр., Сл. рэг. лекс.), *ранкавіско* 'ручка ад лапаты' (Сцяшк. Сл.). З польск. *rękowisko* 'тс'. Форма *ранкаяска* ўяўляе сабой кантамінацыю польск. *rękowisko* і *rękojeść* 'тс', *ранкавічка*, відаць, асацыятыўная форма.

**Ра́нда** і *рандá* 'арэнда' (Нас, Байк. і Некр., Гарэц.), *рэ́нда* 'тс' (Бяльк.), 'шынок' (Нас., Касп.), сюды ж *рандавáць* 'арандаваць' (Нас.), *рандáр, рандáтар* 'наймальнік, арандатар; карчмар' (Нас., Байк. і Некр., Сержп. Прык., Юрч.). Праз польск. *arenda, arendować* (у сучаснай польскай мове часцей *dzierżawa, dzierżawić, dzierżawca*) з с.-лац. *ar(r)endare* < лац. *reddō / reddere* 'атрыманае аддаць' > *arrenda* 'плата за год' (Брукнер, 6; Саднік–Айцэтмюлер, 1, 25). У беларускай мове вядомы таксама варыянт *ландáр* (Сержп. Казкі) з распадабненнем зычных. Значэне 'шынок', параўн. да гэтага укр. *орáнда* 'тракцір', рус. смал. *рáнда / рáндо* 'кабак', вынікае са спосабу ўтрымання такіх месц праз арэндаванне (Фасмер, 3, 442). Барысава (Бел.-рус. ізал., 10–12) рэгіянальнае (бел.-смал.) *ранда* 'шынок, карчма' лічыць семантычнай інавацыяй на базе літ. *randá/ rendá* 'арэнда', што цяжка давесці. Сюды ж *рандóўля* 'стан арэнды; здача ў арэнду', *рандоўства* 'ўтрыманне арэнды', *рандóўшчык, рандóўшчыца* 'арандатар, арандатарка' (Нас.).

**Рандаву́с** фальк. 'каханак, палюбоўнік': "Паехаў мой міленькі да млына/ А я рандавуса наняла" (БНТ, Жарт. песні). Запазычанне (праз польскую?) з ням. *Randezvous* 'спатканне', якое з франц. *rendez-vous* 'спатканне, сустрэча, свіданак' (< *se rendre* 'накіравацца, адазвацца на запрашэнне, сабрацца'), што служыла ў якасці загаду вайскоўцам для збору (Антропаў, БЛ, 45, 25; Фасмер, 3, 442; Снойₓ, 602). Не выключана семантычнае зблiжэнне з фармальна падобным *рандáр* 'арандатар; карчмар', гл. *ранда*.

**Ранда́к** 'саматканая суконная ў клетачкі спадніца' (пух., Мат. дыял. канф.). Значэнне слова адназначна сведчыць пра зыходнае *андарак* (гл.), трансфармаванае ў выніку дээтымалагізацыі, магчыма, пад уплывам *рабак₂* (гл.).

**Ранджу́га** 'дзяруга' (Бяльк.). Відавочна ад **раджуга*, што варыянтна да *радзюга* (гл.); штучная назалізацыя, характэрная для некаторых гаворак усходу Беларусі, магчыма звязана з жаданнем зрабіць больш "культурнымі" некаторыя вясковыя словы, параўн. *рамбіна* (гл.).

**Ране́т** 'сорт яблыні ці яблыкаў' (ТСБМ), *ранэ́та* 'гатунак яблыкаў' (Сл. рэг. лекс., Нар. словатв.). Параўн. рус. дыял. *ранéт, ранéта, ранéтка*, польск. *renetka*, чэш. *reneta*. З франц. *rainette / reinette* 'тс' (Мацэнаўэр, Cizí sl., 293), што звязана са значэннем 'каралева, каралеўскі'. Параўн. варыянтнае ням. *Reinette*, што з французскай, і *Königsapfel* 'тс'.

**Ра́ніца** 'першыя гадзіны дня, самы пачатак дня' (ТСБМ, Бяльк., Шат., Сл. ПЗБ, Станк.), *рáнніца* 'ранні час, ранак', параўн. ст.-бел. *ранина* 'ранак' (XVI ст.; Карскі, 2–3, 28). Арэальнае ўтварэнне ад *рана* (гл.), параўн. у іншых славянскіх мовах: серб. *ранѝца* 'ранняя чарэшня', славен. *ranica* 'ранняя расліна ці плод', *ranina* 'ранні вінаград' і інш.

**Ра́ніць₁** 'параніць' (ТСБМ, Стан., Сл. ПЗБ), *рáніцца* 'атрымаць раненне' (ТС), ст.-бел. *ранити* 'раніць'. Гл. *рана₁*.

**Ра́ніць₂** 'сцвярджаць, што яшчэ рана' (Нас.), *рáніцца* 'прыходзіць, рабіць раней вызначанага часу' (Нас., Касп.; ашм., Стан.), сюды ж, магчыма, *ранíць* 'не ў тэрмін нарадзіць' (Сл. ПЗБ), *раніцца* 'рана што-небудзь рабіць' (там жа). Гл. *рана₂*.

**Ранко́р** 'абурэнне' (Новы час, 2004, № 10). Са ст.-бел. *ранкоръ, ренкоръ* 'гнеў, злосць, абурэнне' (Ст.-бел. лексікон), якое, у сваю чаргу, са ст.-польск. *rankor* 'гнеў', згодна з Брукнерам (453), з лац. *rancor* < *rancidius* 'аб ёлкім смаку' няяснага паходжання.

**Ра́ннік** 'чыстацел' (ТС), 'расліна паўночнік, Knautia arvensis L.' (Кіс., Мат. Гом.), 'трыпутнік, Plantago lanceolata L.' (Сл. ПЗБ), *рáнік* 'расліна лопух вялікі, Arctium lappa L.' (лун., ЛА, 1). Розныя расліны з лекавымі ўласцівасцямі, ад *рана₁* (гл.), параўн. адносна апошняй: *лісця тáўком і залівáям сокам раны* (жлоб., ЛА, 1). Параўн. таксама рус. *ранник* 'расліна Salvia aethiopis', што Даль (4, 59) адносіць да ўтварэння ад *рана₂* (гл.). Магчыма пераасэнсаванне першаснай назвы пад уплывам другаснай матывацыі, параўн. *ралнік* (гл.).

**Рано́м** выкл. у віншавальнай песні: “Da, czyjaż swecza jaśniej horyt? Ranom, ranom!” (пін., Кольб.). Паводле Р. Зянкевіча, які запісваў песню, “выклічнік гэты... з апошняй доўгай галоснай, паўтараюць і ў іншых вясельных і паслявясельных песнях, але не могуць растлумачыць”; ён спрабуе звязаць яго з назвай бажка Porenutis'а ў старажытных славянскіх жыхароў Ругіі (цяпер востраў Руген) ці з племяннoй назвай *Ranów*, што сумніўна. Хутчэй за ўсё, ад **рало́м* ‘тс’, параўн. *ралешнікі* (гл.), якое можа паходзіць ад песеннага рэфрэну тыпу каш. *rolol*, што ўзыходзяць да першасных інтэр’екцый, параўн. SEK, 4, 202.

**Рант** ‘вузкая палоска скуры па краях абутку’ (ТСБМ; дзятл., Сл. ПЗБ; Лексіка Пол., ТС), *ра́нец* ‘тс’ (ТС), ‘вузкая палоска скуры для сшывання кажуха’ (Лексіка Пол.), параўн. рус. *рант*, польск. *rant* ‘палоска скуры, да якой мацуецца падэшва’. Запазычанне з ням. *Rand* ‘кайма, рант’, ‘край леса’, ‘палі кнігі’, параўн. ст.-в.-ням. *Rant, Ranft* ‘акрайчык хлеба’, англ. *rand* ‘край, кромка’, ст.-англ. *rand* ‘край, шчыт’, ст.-ісл. *rǫnd* ‘тс’ (Лявіцкі, 2, 93). Развіццё семантыкі ад ‘край’ да ‘акантоўка’.

**Ра́нтка** ‘загадзя ўмоўленае спатканне’ (Сцяшк. Сл.). З польск. *randka* ‘тс’, гл. *рандавус*.

**Рантух**, ст.-бел. *рантух* ‘палатняная хустка, упрыгожаная вышыўкамі, карункамі’ (Ст.-бел. лексікон). Праз польск. *rańtuch, ramtuch* ‘хустка, кавалак палатна’ з ням. *Randtuch* альбо *Regentuch* (Нававейскі, Zapożyczenia, 261).

**Ранцавальнікі** ‘валачобнікі’ (баран., пруж., Бел. фальк. у суч. зап. (Брэс.), 57). Хутчэй за ўсё з **ралцавальнікі* (гл. *ра́лца*$_2$). Сумніўна вывядзенне дзеяслова *ранцаваць* ‘віншаваць песняй’ з *ра́нец* ‘заплечная торба’ (“chodit z rancem, určeným pro dary”, гл. Slavia, 43, 1, 54). Не выключана аднак запазычанне, параўн. каш. *ramcowac* ‘стукацца ў дзверы; крычаць’, в.-луж. *rancować* ‘валачыцца’ (< ням. *ranzen* ‘спарвацца (пра сабак)’), гл. SEK, 4, 172, 220; Шустар-Шэўц, 2, 1206.

**Ранця́к** ‘рубец, трэшчына (на целе)’, *ранцякі́* мн. л. (воран., Сл. ПЗБ). Паводле аўтараў слоўніка ўтворана за пасрэдніцтвам літ. *rėñčiai* мн. ‘тс’. Параўн. таксама венг. *ránc* ‘складка матэрыі, зморшчына’.

**Ра́нчык,** *рэдчык* ‘бінт, павязка’ (Мат. Гом.). Імаверна, вытворнае ад *рана*$_1$ (гл.), як ‘тое, што прыкладаецца да раны’. Варыянт



*рэдчык* (гл. *рэдчык*$_1$), звязаны, відавочна, з рэдкай структурай тканіны, што выкарыстоўваецца для перавязкі. Народная назва.

**Рань** ‘вельмі ранні час’ (ТСБМ). Утварэнне з суфіксам *-jь* ад *ра́на*$_2$.

**Ра́ный** ‘ранні’ (Бяльк.), *ра́ні* (Сл. ПЗБ). Гл. *ра́на*$_2$; відаць, адназоўнікавы прыметнік ад *ра́на* ‘раніца’, *рань* ‘вельмі ранні час’.

**Раня́ць** ‘даваць магчымасць упасці, упускаць; скідаць (пра лісце)’ (ТСБМ), *слёзкі раняе* (Сержп. Прык.), *сьлёзкі роніць* (Касп.), *раніць*, ‘выкідваць, аддаваць’ *раніла дзіця, раніць душу* (ашм., мядз., Сл. ПЗБ), ‘губляць, траціць, не шкадаваць’: *здоровье своё роню на васъ* (Нас.), сюды ж *роны́тыся* ‘абліванца слязамі’ (Доўн.-Зап., Пін.). Параўн. рус. дыял. *рони́ть* ‘кінуць, даць магчымасць упасці’, укр. *рони́ти* ‘даваць упасці; скідаць’, польск. *ronić* ‘траціць, выкідваць; звяргаць’, ‘ліць слёзы’, ‘губляць пер’е, рогі, зубы’, ‘лускаць зерне’, чэш. *roniti* (пра слёзы) ‘праліваць’, славац. *ronit’* ‘цячы, ліцца’, в.-луж. *ronić* ‘губляць, праліваць (слёзы)’, н.-луж. *roniś* ‘тс’, серб. *рѐнити* ‘даваць нырца’, балг. *ро́ня* ‘аддзяляць, абрываць; праліваць (слёзы)’, макед. *рони* ‘тс’. Імаверна, першасным значэннем прасл. **roniti* з’яўлялася ‘даць, дазволіць, даць магчымасць упасці’; параўноўваюць з гоц. *urrannjan* ‘паказвацца; узыходзіць (пра сонца)’, ст.-в.-ням. *rennan* ‘прымушаць цячы, хутка бегчы’, грэч. ῥαίνω ‘акрапляю, абсыпаю’ (Фасмер, 3, 501; Шустар-Шэўц, 2, 1235; БЕР, 6, 322).

**Ра́па** ‘парог, камяністы выступ на дне ракі’ (Скарбы), ‘груды замёрзлай на дарозе гразі’ (Сцяшк. Сл.), *рапы* (*rappy*) мн. л. ‘рачныя парогі ў гаворцы плытнікаў’ (Кольб.), *ра́па*, *рапа́* ‘чырвоная неўрадлівая глеба’ (драг., Нар. лекс.), *рапы́на* ‘жвір’ (кам., ЛА, 2), *ра́пісты* ‘няроўны’ (Сцяшк. Сл.), *рапова́тый* ‘камяністы (пра зямлю)’ (кам., Жыв. НС). Няясна; магчыма тут аб’яднаны, незалежна ад фармальнай і семантычнай блізкасці, розныя па паходжанні лексемы. Параўн. славен. *rápa* ‘складка на скуры, маршчына’, *rapína* ‘няроўнае месца’, *rapȋnje* ‘складчатая зямная паверхня’, н.-луж. *ropa* ‘складка, маршчына’, для якіх Сной (гл. Бязлай, 3, 151) прапануе вывядзенне з прасл. **korpa* ‘няроўная паверхня’ (параўн. *курапа* ‘рапуха’, гл.), што дапускала варыянтнасць пачатку слова з **xr-* (гл. *хра́па* ‘замерзлая гразь на дарозе’, параўн. Астроўскі, ABSl, 29, 152), **vr-* (гл. *варо́паўка* ‘зялёная жаба’), **gr-* (параўн. балг. *грапа* ‘няроўнасць; воспіна’),

**r*- (параўн. укр. *ра́павий, рапа́тий* 'няроўны, нягладкі'). Махэк$_2$ (698) і Шустар-Шэўц (2, 1236) за зыходнае прымаюць прасл. **vorpa* (гл. *варапаха* 'жаба'). Хутчэй за зыходную трэба прыняць форму з **r*- з першасным значэннем 'нешта няроўнае, зацвярдзелае', што можа ўзыходзіць да і.-е. **rap-/ *rep-/ *rop-* са значэннем 'хватаць', параўн. рус. *схватиться* 'застыць, зацвярдзець', да якіх Варбат (Этимология–1986–1987, 58) адносіць польск. дыял. *rapa, rapka* 'лапа ў птушак і дробных жывёл з кіпцямі', *rapeć* 'лапа, капыт', гл. таксама *ра́піна, рапо́тка*. З іншых паралеляў можна прывесці макед. *рапа* 'паглыбленне з вадой, ямка', да якога Відоескі (Геогр. терм., 132) далучае тапонімы *Ра́па* 'поле ў гарах', *Ра́пата* 'камяністы ўзгорак', а таксама балг. *ра́па*, серб.-харв. *ра̏па*, рум. *rîpa*, арум. *arîpa* 'нізінка ў гарах' і інш. Няясныя адносіны да польск. *rapa, rafa* 'падводны камень' (< ням. *Riff*, Брукнер, 452) і рус. *ропа́к* 'заледзянелыя каменні на беразе мора, ледзяныя таросы', *ро́пас, ро́паса́* 'куча каменняў; таросы; нагрувашчанне льдзін на беразе' (з саамскай і фінскай моў, гл. Фасмер, 3, 501–502; Мызнікаў, Рус. гов. Обон., 332–334), а таксама балг. *ро́па* ("з няясным *о*", гл. БЕР, 6, 322), серб.-харв. *ру̏па* 'яма, вір', якія Скок (3, 173) параўноўвае з літ. *raupýti, rūõpti* 'калупаць' і лічыць кантамінаванымі балтаславянска-ілірафракійскімі формамі.

**Рапа́** 'вада з высокай канцэнтрацыяй солей, што выкарыстоўваецца ў лячэбных мэтах' (ТСБМ), 'салёная вада' (ПСл), *ропа́* 'расол (у мясе); выдзяленні з раны' (Мат. Гом., Сл. Брэс.), *ра́па* (Сл. ПЗБ). Гл. *ро́па*.

**Рапай** 'расліна лопух вялікі, Arctium lappa L.' (навагр., Дзмітр.; тут падаецца значэнне 'рапей', што ўяўляецца вельмі сумніўным, параўн. кантэкст, на які спасылаецца збіральнік: *Пашла дзеўка да гаю / Зеленъ рапай капаци)*, *рапу́й* 'тс' (нараўл., ЛА, 1), сюды ж з тым самым значэннем *рапні́к*, *рапе́шнік*, *рапі́шнік*, *рапя́шнік* (іўеў., ЛА, 1; мазыр., ГЧ; ельск., Жыв. сл.; Мат. Гом., Ян.), а таксама з пераносам націску на корань і заменай галоснага *рэ́пнік* 'тс' (валож., ЛА, 1), імаверна, пад уплывам *рэ́па* (гл.): абедзве расліны падобныя адна на адну ліставой часткай. Да *рапей* (гл.).

**Рапа́к** 'лопух' (ваўк., Сл. ПЗБ): *цісну́лі алей з рапаку* (Сцяшк.), *ропа́к* 'алейная расліна падобная на свірэпку' (ТС). Магчыма з польск. *rzepak* 'рапс', што спачатку адносілася да *свірэпы* (гл.), якая як і ўкр. *свирі́па* 'гарчыца', рус. *суре́пка* 'расліна Barbarea



Beck.' звязана з назвамі *рэпы* (гл.), параўн. *rzepa, rzepka* (Брукнер, 475), відаць, з-за падабенства лістоў. Гл. *рапай, рапей*.

**Рапарава́ць** 'папраўляць, рамантаваць' (ТСБМ, Сержп. Казкі), *рэпарава́ць* 'тс' (воран., Сл. ПЗБ). З польск. *reperować* 'тс' (< лац. *reparo* 'аднавіць, удасканаліць').

**Рапе́й**, *рапе́нь* 'лопух', 'лісце лопуху, Lappa tomentosa' (Сцяшк.; шчуч., воран., Сл. ПЗБ), *рапе́й, рапе́йнік* 'шышка лопуху і расліна' (Скарбы), *рапе́шнік* (Мат. Гом.), *рапяшнік* (Ян.), *рапо́ўнік* (Сл. ПЗБ), параўн. укр. дыял. *репі́й* 'тс', ст.-укр. *рѣпѣи* 'асот', рус. *репе́й* 'лопух', ст.-рус. *рѣпьи* 'рапей, калючка', ст.-чэш. *řěpí* 'плод лопуху', славен. *repje* зборн. 'лопух', балг. *ре́пей* 'назва розных раслін, калючыя плады якіх чапляюцца за воўну і адзенне'. Прасл. **rěpъjь*, вытворнае ад **rěpъ* 'тс', параўн. польск. *rzep* 'расліна Arctium lappa', харв. *rijep* 'расліны Arctium lappa, Petasites officinalis і інш.', што выводзяць з прасл. **rěpiti* 'схапіць, учапіцца', захаванага ў польск. дыял. *rzepić się* 'зліпацца', славац. дыял. *repit' sa* 'схопліваць, прычапляцца', што суадносяцца з літ. *ap-rẽpti* 'схапіць' (Брукнер, 475; Шустар-Шэўц, 2, 1215; БЕР, 6, 226; Бязлай, 3, 172). У беларускай мове названая форма захавалася пераважна ў прыставачных утварэннях, параўн. *зрэ́піцца* 'счапіцца, схапіцца' (Скарбы), *урэ́піцца* 'учапіцца' (гл.).

**Рап'ём** 'неадчэпна, назойліва' (ТСБМ), 'дакучліва, неадчэпна': *рап'ём лезеш у вочы* (Сцяшк.). Да *рапей* (гл.).

**Рапетава́ць** 'крычаць, лямантаваць' (Ян.). Гл. *рэпетаваць*.

***Рапе́ха**, *рэпе́ха* 'маруда' (пін., Нар. лекс.), *рэпэ́ха* 'неахайная жанчына' (івац., Жыв. сл.). Няясна; магчыма, экспрэсіўны фанематычны варыянт *рапу́ха* лаянк. 'рабая альбо брыдкая жанчына, асабліва злая' (Нас.), разм. 'марудная, гультаяватая жанчына', якое, у сваю чаргу, з'яўляецца метафарычным пераносам з *рапуха* 'палявая жаба' (гл.), аднак у гэтым выпадку ў палескіх гаворках было б іншае фанетычнае афармленне пачатку слова (з *ро-*). Параўн. рус. разан. *рапо́ха* 'подлы, нізкі чалавек'.

**Ра́піна** 'адліўка (?)': "выплаўляюць тол… заліваюць яго, расплаўлены, у форму, і атрымліваюць рапіну, – тую ж самую міну, толькі без дэтанатара" (Дамашэвіч). Відаць, 'нешта застылае, зацвярдзелае', гл. *рапа*.

**Ра́піца** 'прамежнасць між капытоў каровы', *ра́поціна* 'прамежнасць у капытах жывёлы' (івац., Нар. лекс.), *ра́патькі, ра́паціцы* мн. л. 'тс' (ЛА, 1), *ра́потыця* 'казырок' (Лексика Пол.). Звя-

зана з коранем **rap-*, прадстаўленым у прасл. **rapati* 'браць, хапаць, сцягваць' < і.-е. **rep-* 'хапаць, сцягваць', лац. *rapere* 'хапаць', літ. *rėpti* 'ахопліваць', параўн. таксама польск. дыял. *rapa, rapka* 'лапа з кіпцем (у птушак і дробных жывёлін)', *rapeć* 'лапа, рука, капыт'. Магчыма змяшэнне з утварэннямі з **rak-*, параўн. *ракавіца* 'прамежнасць між капытоў у парнакапытных' (Мат. Маг., 2).

**Ра́плы** мн. л. 'клюшні рака' (ігн., Сл. ПЗБ). Аўтары слоўніка выводзяць з літ. *rẽplės* 'тс'.

**Раплю́к** 'птушка пеначка, Phylloscopus' (Ласт.). Экспрэсіўнае ўтварэнне на базе кораня *рап-* (< *рапт-*, гл. *рапт*, *раптам*), аформленага частотным у назвах птушак суфіксам (гл. Антропаў, Назв. птиц, 85–86 і інш.), г. зн. птушка атрымала назву па ўласцівасцях руху, прычым адзінкавая фіксацыя сведчыць, хутчэй, на карысць уласнай словатворчасці аўтара. Не выключана, аднак, утварэнне на базе гукапераймання, параўн. н.-луж. *wrona rapa*, чэш. дыял. *straka rapoce* і найменні тыпу ўкр. *рапа́к, рапа́ч, рапча́к* 'птушка драч. Crex crex L.', в.-луж. *rapak* 'птушка крумкач, груган, Corvus corax L.', гл. Шустар-Шэўц, 2, 1207.

**Ра́пма** прысл. 'неабдумана' (лельч., Нар. лекс.). Вынік дэтымалагізацыі зыходнага *раптам* (гл.), аформленага прыслоўным суфіксам *-ма* па тыпу *па́рма* 'парай (коней)' (гл. Карскі, 2–3, 67): **ра́птма* са спрашчэннем збегу зычных і далейшым семантычным развіццём, параўн. *раптамі* 'нечакана' (ТС).

**Рапо́тка₁** 'капыт' (ТС). Гл. *рапіца*.

**Рапо́тка₂** 'расліна скочка дахавая, Sempervivum tectorum L.' (лельч., Бейл.). Няясна; магчыма, да папярэдняга слова з-за падабенства частак расліны з капытом.

**Рапс** 'сорт бручкі, свірэпка, Brassica (Rapa) oleifera, Brassicca napus Brassica asperifolia' (ТСБМ, Сл. ПЗБ). З польск. *raps* 'тс', позняга запазычання з ням. *Raps* 'тс' (< лац. *rapicium*), гл. Наваweйскі, Zapożyczenia, 313.

**Рапт** 'парыванне, імпэт' (Нас., Байк. і Некр.), *ра́птам* 'знянацку, нечакана, імкліва' (ТСБМ, Нас., Ласт., Бяльк., Варл., Растарг., Сл. ПЗБ), *ра́птом* 'нечакана, адразу; усяго толькі' (ТС), параўн. укр. *ра́птом* 'ураз, неспадзеўна', рус. смал. *рапт* 'парыў, імгненне', *ра́птом* 'нечакана, адразу'. Запазычана з польск. *rapt* 'крадзеж, захоп' з лац. *raptus* 'рабунак' шляхам адсячэння назоўнікавага канчатка *-us*, *raptem* 'знянацку' з лац. *raptim* 'спешна', што выводзяцца з лац. *raptō* 'хапаць, красці', гл. Брукнер, 454; Фасмер, 3, 443. Сюды ж *раптоўна, раптова* 'знянацку, нечакана, неспадзявана' (ТСБМ, Бяльк., Сл. ПЗБ), *рапто́ўно, рапто́во* 'тс' (Сл. ПЗБ, ТС, Сл. Брэс.), *рапто́я* 'тс' (чэрв., Сл. ПЗБ), *рапта́мі* 'тс' (ТС), *раптаві́цай* 'знянацку', *рапто́чня* 'нечакана', *рапто́ўе* 'нечаканасць' (Сцяшк. Сл.).



**Рапта́ць,** *рапта́ці* 'наракаць, выказваць незадаволеннасць, крыўду': *рэпча ён на міне* (Сл. ПЗБ), *рапча́ць* 'злаваць' (Сцяшк. Сл.), параўн. укр. *ропта́ти* 'бурчэць пад нос; гаварыць усім разам; цурчаць', рус. *ропта́ть* 'выказваць незадаволенасць', ст.-польск. *reptać* 'шабуршаць; выказваць незадавальненне', славен. дыял. *roptati* 'тс', харв. *ròptati* 'бурчэць, гудзець, наракаць', балг. *ропта́я* 'крычаць, выказваць незадаволенасць', макед. *роптае* 'бурчэць, наракаць', ст.-слав. **ръпътати** 'тс'. Прасл. **ropъtati*, варыянт **rъpъtati*, параўн. дац. *rappe* 'гагатаць' (Фасмер, 3, 502; Шустар-Шэўц, 2, 1236: мяркуе пра анаматапеічныя варыянты **rep-, *rap-, *rъp-;* Бязлай, 3, 197).

**Ра́птуг** 'залп' (Ласт.). Відавочна, штучнае аўтарскае ўтварэнне на базе кораня *рапт-* (гл. *рапт*, *раптам*), аформленага экпрэсіўным суфіксам.

**Рапту́х** 'вераўчаны мяшок для сена (каню ў дарогу)' (Арх. Федар., Варл., Жд. 3, Сцяшк. Сл., Сл. ПЗБ), *рыпцю́х* 'тс' (драг., Нар. лекс.), *рэпцю́х* 'аброчная торба' (івац., Жыв. сл.), *рапцю́х* 'сетка з вяровак для сена каню' (докш., Янк. Мат.). Гл. *рэ́птух*.

**Рапу́ха** 'вялікая палявая жаба з бугрыстай скурай шэрага або зялёнага колеру' (ТСБМ, Нас., Сл. ПЗБ, Бяльк., Мат. Гом., Сцяшк., ЛА, 1), 'жаба, Bufo vulgaris' (Касп.), *рапу́га* 'земляная жаба' (Сл. ПЗБ, ЛА, 1), *рыпу́га, рапо́ха* 'тс' (Сл. ПЗБ), *ро́пуха* 'жаба з жоўтым падбрушшам' (ТС), *рабу́ха, храпу́ха* 'тс' (ЛА, 1.), *рапэ́ся* 'жаба' (круп., Макар.); у большасці гаворак выступае ў значэннях 'неахайная жанчына', 'жанчына, што мае пачварны твар пасля воспы'. Параўн. укр. *ро́пуха, ряпу́ха, ропа́вка* 'жаба', рус. дыял. *ропу́ха*, польск. *ropucha, chropucha* 'тс', каш. *ropucha* 'авечая вош', чэш. *ropucha* 'жаба' (з польск.), славац. *ropucha, repucha* 'тс', в.-луж. *ropucha* 'вадзяны хрэн'. Старажытная арэальная назва, метафарычна перанесеная пазней на іншыя асобы, прадметы або з'явы на вобразнай аснове (з-за няроўнай барадаўчатай скуры, непрыемнага выгляду, надутасці і пад.), параўн. ESSJ, Ukaz. čislo, 89–92 (з аглядам версій). Насовіч адзначае, што *рапуха* гукаперай-

мальнае ад крыку жаб, што нельга выключыць, улічыўшы пастаянны прызнак, што вылучаецца ў народнай мове, параўн. *скверэцца як рапуха* (Сержп. Прык.), і наяўнасць анаматапеічнай варыянтнай базы **rep-*, **rop-* (гл. Шустар-Шэўц, 2, 1236). Брукнер (463, гл. таксама Трубачоў у Фасмера, 3, 503; ЭССЯ, 8, 82; 11, 90) узводзіць да **chropucha* ад шурпатай, "храпаватай" скуры, да гэтага польск. дыял. *rapaty* 'шурпаты, шорсткі' і *rupić* 'рабіцца няроўным, шурпатым, (пра твар) бугрыстым, васпаватым', серб. *рапав, храпав* 'бугрысты, шурпаты', што суадносяць з літ. *rùpti* 'рабіцца шурпатым'. Фасмер (3, 503) схіляецца да сувязі з *рапа́* 'бруд, падобны на гной' (гл.), што суадносіцца з іншай назвай *земляная жаба, рапейная жаба* 'жаба, што сядзіць у зямлі, глеі, рапе'. Адносіны славянскіх назваў да літ. *rùpuže* 'жаба' застаюцца няяснымі, аднак пераважае думка пра незалежныя ўтварэнні, параўн. Анікін, Опыт, 263, дзе запазычанне дапускаецца толькі для формы рус., бел. *рапу́га* (< літ. *rapū̃ga* 'жаба'). Беларускі ўплыў мяркуецца для літ. *rapùkas* 'жаба з чырвоным жыватом'. Элемент *-пуга* ў складзе назвы можа звязвацца са значэннем 'дуць, надувацца', параўн. харв. *žaba puhača* 'рапуха' (= *žaba krastača*), якое Скок (3, 69, 77) атаясамлівае з іншай назвай – *pugȁča* 'тс', што яшчэ раз сведчыць пра магчымасць розных уплываў і асацыяцый, выкліканых яркім вобразам аб'екта намінацыі, у тым ліку з **korsta* 'кароста' (*каростaвая жаба*, Сл. ПЗБ), **kora* 'кара' (*каравая жаба*, ЛА, 1), **korpa* 'рубец, барадаўка', **korpavъjь* 'бугрысты, выспаваты' (*каропавая жаба*, Сл. ПЗБ), гл. ЭССЯ, 11, 90, 96.

**Ра́пушка** 'невялікая прэснаводная рыба сямейства ласасёвых' (ТСБМ), *ра́пушка, ря́пушка* 'сялява, Coregonus albula L.' (Жук.). Параўн. рус. *ря́пушка* 'тс'. Паводле Усачовай (Зб. Бернштэйну, 1971, 467 і карта), назва характэрна пераважна для паўночна-заходняй Расіі і суадносіцца з вепс. *ŕäpus*, фін. *rääpus*, эст. *räabus*, *rääbis* 'тс', ад якіх узніклі рус. *ря́пуша, ря́пуха*, адкуль з суфіксам *-к(а)* утворана назва, гл. Фасмер, 3, 538, які адмаўляе сувязь з лат. *rempans* 'кароткі і тоўсты' і ням. *Raupe* 'вусень', а таксама з *рабы*, гл. Праабражэнскі, 2, 242; Усачова, Слав. ихт. терм., 88. Не звязана з польск. *rapa* 'назва рачной рыбы' (< ням. *Rapfen*, гл. Брукнер, 454) і н.-луж. *rapa* 'карп' (< с.-н.-ням. *rape* 'тс', гл. Шустар-Шэўц, 2, 1207). Гл. таксама Мызнікаў, Рус. гов. Обон., 187–189.



**Рапэ́та** 'страва з сумесі агародніны і круп' (лід., Сл. ПЗБ). Няясна. Параўн. польск. жарг. *repeta* 'баланда', 'суп', а таксама 'дадатковая порцыя ежы, дабаўка', якія Каня (Słownik, 189) узводзіць да лац. *repeto* 'паўтараю'. Магчыма, праз французскае пасрэдніцтва, параўн. Сной, 534, які адзначае, што славен. *repete* 'яшчэ раз, яшчэ адну порцыю' выкарыстоўваецца як выклічнік і паходзіць з франц. *répété* 'паўтораны', што з'яўляецца пасіўным дзеепрыметнікам прош. ч. ад дзеяслова *répéter* 'паўтараць, паўтарыць'; больш верагодна ад франц. *répétez* 'паўтарыце' ў Кліч. скл. (< лац. *repetere* 'тс'). У гаворку магло трапіць з турэмнага або салдацкага жаргону.

**Рапярці́ць** 'вучыць, як рабіць; настаўляць, павучаць', сюды ж зваротныя з істотным зрухам семантыкі *рапярці́цца*, *нарапярці́цца* 'збірацца пайсці, паехаць куды-небудзь' (віл., Жыв. сл.), *рапярці́ць* (*рiпярці́ць*) 'рыхтавацца, збіраць', *рапярці́цца* 'рыхтавацца, збірацца' (Юрч.). Параўн. рус. дыял. (урал.) *ререрти́ться* 'харахорыцца, задзірацца', у якім Куркіна (Этим. иссл., 6, 29) хоча бачыць словаскладанне прыслоўя **jarě* (гл. *я́ры*) і дзеяслова **pertiti*, вытворнага ад **perti* (гл. *перці$_1$*), што можа патлумачыць значэнне 'павучаць, настаўляць'. Што датычыць значэння 'збірацца, рыхтавацца', то тут магчыма супастаўленне з рус. дыял. (урал.) *подрепети́ть* 'падрыхтаваць', *подрепети́ться* 'навесці парадак, прыбраць', якія Куркіна (там жа) збліжае з балг. дыял. *ерепе́тим се* 'харахорыцца, важнічаць, надувацца', рус. дыял. *ерепеси́ть* 'дасягаць, дабівацца чаго-небудзь неадчэпнымі просьбамі, прыстасаваннямі', *ере́пестить* 'з лаянкай, пануканнямі прымушаць працаваць', для якіх узнаўляецца прасл. дыял. **jarěpętiti sę*, што з прыслоўя **jarě* 'р'яна, з запалам' і дзеяслова **pętiti* (гл. *пяць$_2$, пну*), гл. Трубачоў, Этимология–1970, 371; ЭССЯ, 8, 172. Для апошніх нельга выключыць сувязь з *рэпетава́ць* 'злавацца; крычаць' (гл.).

**Рапяхі́** мн. л. 'адходы пры прадзенні кудзелі' (жлоб., Шатал.). Відаць, да *рэ́пех* 'лопух' (гл.), вобразны перанос учэпістых калючак лопуху або дзядоўніку на рэшткі кастрыцы, што трапляюцца ў недастаткова вычасаным ільне.

**Рара́ты** (*рора́ты*) 'служба ў каталікоў пасля паўночы перад Раством': *пошли в косцёл на рораты* (Нас.). Паводле аўтара слоўніка, з лац. *aurorata* '?' – відаць, народнаэтымалагічнае аднясен-

не да *aurōra* 'ранняя зорка'. Паводле Брукнера (463), польск. *roraty* 'першая ранняя імша ў перыяд адвенту ў каталікоў' ад першых слоў псалма *rorate coeli* (= спусціце росы, нябёсы).

**Рарог** 'парода сокала Falco L.', ст.-бел. *рарогъ* 'тс' (Ст.-бел. лексікон). Лічыцца запазычаннем са ст.-польск. *rarog* 'балабан, Falco cherrug Gray' (Булыка, Лекс. запаз., 143), якое ўзыходзіць да лексічнага дыялектызма познепраславянскай эпохі **rarogъ*, параўн. укр. *раріг* (з зах.-слав.), польск. *raróg*, каш. *rårog* 'тс' і 'капрызны, распешчаны чалавек', чэш. *raroh*, славац. *rároh*, в.-луж. *raroh* 'тс'; сюды ж адносяць таксама харв. *ràrog, rȁrog* 'лангуст, Palinurus vulgaris', славац. *rárohy, rárož* 'сухія (якія тырчаць) галіны', чэш. мар. *rároh, rárohy* 'стары хлам, барахло, старая мэбля'. Паводле Краўчука (БЛ, 9, 23–26), утворана ад прасл. **rogъ* (гл. *рог*) шляхам рэдуплікацыі і падаўжэння першага складу, значыла 'нешта зубчастае, тырчачае', адносна сокала і марскога рака 'з зубцамі (на дзюбе, на клешнях)' пэўную паралель ўяўляе славен. *rācar* і іншыя назвы ястрабаў, што выводзяцца з харв. *rȁčve* 'рогі, рагулькі', гл. Бязлай, 3, 142. Адносна праславянскай лексемы выказваліся і іншыя версіі. Міклашыч (271) прапанаваў звязаць з ц.-слав. **раръ** 'sonitus; шум, крык', і гэта думка пераважае ў большасці слоўнікаў, гл. Бязлай, 3, 152; Сной₂, 523; Борысь (510) прапануе разглядаць **rarogъ* як вытворнае ад дзеяслова **rarati* 'утвараць гучныя, рэзкія гукі' (з апеляцыяй да польск. дыял. *rarać* 'спяваць, аб жаваранку'), якое далей да **rarъ* 'шум'. Радзей разглядаецца версія пра запазычанне з іран. **varaŋga* (з асіміляцыяй на славянскай глебе *v-r > r-r*), гл. Махэк₂, 508. Гл. таксама Антропаў, Назв. птиц, 339–340.

**Рары́тус** 'асалода' (воран., Сл. рэг. лекс.). З акцэнтаваннем значэння 'надзвычайны, якасны', праз польск. *rarytas* 'рэдкая рэч' ці непасрэдна з лац. *rāritās* 'рэдкасць, малая колькасць', *rārus* 'рэдкі, дасканалы, гатунковы, надзвычайны', у адрозненні ад *рарытэт*, што праз ням. *Rarität* 'рэдкасць'.

**Рас-**, *рóс-*, фанематычны варыянт прыстаўкі *раз-* (гл.).

**Рас** 'нераст у рыбы' (нясвіж., ЛА, 1), таксама звязаны з ім (і, што паказальна, зафіксаваны там жа) дзеяслоў *расýе* 'рыба нерастуе', пры якім прывабна, але наўрад ці магчыма актуалізаваць інфінітыўную форму накшталт **расавáць*. Аддалены вынік словаўтваральна-семантычнага пераасэнсавання лексемы *нéрас* (< *нéраст*, гл.), якая магла ўспрыняцца як адмоўная форма *рас* і, такім чынам, дээтымалагізавацца. У сувязі з гэтым на карце № 327 (ЛА, 1) звяртае на сябе ўвагу заходняя мікраізаглоса субстантыўных і дзеяслоўных форм без фінальнага *-т*.



**Ра́са₁** 'верхняе доўгае адзенне праваслаўнага духавенства' (ТСБМ), сюды ж *рáсішча* (*ря́сище*) 'падранае адзенне, лахманы', *рáссе, ря́ссе* 'транты, рыззё, зношанае адзенне' (Нас., Мат. Маг., Юрч., ЛА, 5, Растарг.), *ря́ска* 'неахайная жанчына ў падранай вопратцы' (хоцім., Янк. 2), 'зношаная адзежына' (Юрч.); ст.-бел. *расы*: *расы золотыи оучинимъ тобѣ* (Альтбаўэр). Запазычана праз стараж.-рус. і ц.-слав. *раса* 'тс' з с.-грэч. ῥάσον 'манашаскія шаты, убор', н.-грэч. ρασο 'тс'; выходнай формай лічыцца лац. *rāsum* (Фасмер, 3, 443–444, 538; БЕР, 6, 185). Формы з *–я-* (*-а-*) другасныя, параўн. рус. *ря́са* 'убор святара, манаха', укр. *ря́са* 'тс', паводле Брукнера (6) з ням. *Rasch* 'грубая тканіна, камлот'; усходнебеларускія формы, магчыма, з'яўляюцца гіперычнымі (у мяккаэрых гаворках) або ўзніклі пад уплывам **ręsa* 'махры; вісюлькі' (гл. *расá₂*).

**Ра́са₂** 'групоўка людзей аднаго фізічнага тыпу', 'парода' (Некр. і Байк., ТСБМ). З ням. *Rasse* (праз польскую або рускую); выходнай можа быць італ. *razza* 'тс' і араб. *ra's* 'галава, выток' (Брукнер, 454; Фасмер, 3, 444; Сной₂, 602). Сюды ж *расóвы* 'пародзісты, надзелены якасцямі добрай пароды' (Скарбы), што з'яўляецца запазычаннем з польск. *rasowy* 'тс'.

**Раса́₁** 'вадзяныя кроплі на паверхні раслін' (ТСБМ, Стан., Ласт., Сл. ПЗБ), *росá* 'тс' (ТС), *расíна* 'капля расы; вельмі малая колькасць якой-небудзь вадкасці' (Нас., Байк. і Некр., Ян.), *расíца* памянш. 'раса' (Нас.), *рóска* 'капля вадкасці, якая выступае на саску ў каровы незадоўга перад цяленнем' (ТС), параўн. ст.-бел. *роса* 'тс' (Альтбаўэр), укр. *росá* 'раса', рус. *росá* 'тс', польск. *rosa* 'тс', в.-луж., н.-луж. *rosa* 'тс', чэш., славац. *rosa* 'тс', 'пот', 'сляза', славен. *rósa* 'раса', 'пот, сляза', серб., харв. *ròsa* 'раса', балг. *росá* 'раса', 'кропля поту', макед. *роса* 'тс', ст.-слав. **роса** 'тс'. Прасл. *rosa*, параўн. літ. *rasa*, лат. *rasa* 'тс', 'дробны дождж', грэч. δρόσος 'кропля расы', 'вільгаць', ст.-інд. *rasā-* 'сок раслінаў', 'вільгаць'. Імаверна, аддзеяслоўная форма ад і.-е. асновы **res-* 'цячы' < **eres-* 'тс', параўн. хец. *aršzi*, ст.-інд. *ársati* 'тс' (Міклашыч, 283; Фасмер, 3, 503; Скок, 3, 158; Бязлай, 3, 197; Шустар-Шэўц, 2,

1237; Глухак, 531; Сной, 545). Сюды ж *расá, росá* 'пацёкі на вокнах' (Сл. ПЗБ; чач., хойн., лельч., ЛА, 4) – метафарычны перанос, параўн. рус. пск. *росá* 'тс', літ. *rasóti* 'пакрывацца расой' і 'запацяваць (пра акно)'. Параўн. таксама *як расá вісіць* 'пра вялікую колькасць' (Ян.).

**Расá₂** 'жытняя кветка' (Арх. Федар.): *расуе жыта, што раса, калмаценька* (дзятл., Сл. ПЗБ), 'цвіценне, красаванне': *расуе жыта, пускае расочкі – гэта раса* (воран., Сл. ПЗБ), *рéсы* 'парасткі на клубнях бульбы' (драг., ЖНС), *рáсы* 'махры, растрапаныя канцы, акраўкі' (ТС), сюды ж *расóчка* 'пылок кветкі жыта' (Сл. ПЗБ), параўн. укр. *ря́са* 'каласок жыта ці аўса', рус. дыял. *рясá, ря́са* 'махры, кутасік', польск. *rzęsa* 'вейка', ст.-польск. *rzęsa* 'усялякія вісячыя ўпрыгожванні', *rząsa* 'коцікі ляшчыны і альхі', чэш. *řasa* 'вейка; складка (у тканіне)', славац. *riasa* 'тс', н.-луж. *rěsa* 'мужчынскія кветкі на вярбе, альсе, бярозе, што маюць форму завушніцы', славен. *resa* 'асцюк; ніці, што вісяць па краі адзення', серб.-харв. *рéса* 'кіціца; махры, кутасік', балг. *ресà* 'тычынка, суквецце арэха, ляшчыны, вярбы; фрэнзлік, кутасік', макед. *реси* мн. л. 'водарасці (у Охрыдскім возеры)'. Ад прасл. **ręsa*, што хутчэй за ўсё з **ręd-sa* < **ręd-* (Фасмер, 3, 538; Бязлай, 3, 173; Сной, 534; Глухак, 525), роднаснага да **rędití* 'упрыгожваць', 'нанізваць', параўн. рус. *наряжать, наряд, рядить*. Іншыя версіі гл. Махэк₂, 529 (< **rępsáti* ад кораня **ręp-* 'драць, трапаць, згібаць'), Скок, 3, 131 (няпэўнае параўнанне з ст.-інд. *raçana* 'папружка, рэмень', прапанаванага раней Младэнавым, 560). Няяснымі застаюцца адносіны да *краса, красаванне* 'цвіценне злакавых раслін' (гл.). Спробы вытлумачыць семантычную эвалюцыю ад **krasa* 'росквіт жыцця' да **krasa* > *rasa* 'кветка раслін' не ўлічваюць розную якасць **r-* (непалаталізаваны / палаталізаваны). Параўнанне *краса* 'ўпрыгожванне, паляпшэнне свайго выгляду, выстаўленне сябе на агляд' і *красá, расá* 'квітненне злакавых', што супастаўляюцца з паралельнымі формамі з семантыкай 'выхваленне, праслаўленне, хвальба' – ісл. *hrosa* 'хваліць, хваліцца', *hroesni* 'хвальба, ліслівасць', нарв. *rose* 'тс', нарв. дыял. *rösen* 'статны, заўважны, відны', швед. *rosa* 'праслаўляць' (Общ. лекс., 144–146), не пераконваюць. Можна канстатаваць адваротнае развіццё *раска* > *краска*, падобна як сустракаецца пераасэнсаванне *ветка* > *кветка* і наадварот (Станкевіч, Зб. тв. 1, 442–443):



арш. *кветка аўсу, вяцісты авёс*/ гродз. *ветка аўсу, вяцісты авёс*, параўн. *адарві кветку кляновую* (Нас.). Гл. *расаваць*.

**Расá₃** 'абрадавы выхад (святкаванне з рытуальнымі дзеяннямі і пачастункам) у поле на веснавога Юр'я' (мін., Доўн.-Зап. 1), *расý таптаць* (Шлюб.), *хадзіць на рóсу* (лях., Архіў БЭЛА), *росу трусыты/тэрусіць/гнать* 'тс' (пін., Агапкіна, Основы), *Rasa* 'Купалле' (Федар. 1). Семантычная кандэнсацыя словазлучэнняў тыпу (*ісці, пайсці, выйсці, хадзіць* і пад.) *на/у расý* з далейшым пераасэнсаваннем назоўніка як каляндарнага тэрміна сферы традыцыйнай культуры. Параўн. рус. зах. *росá* 'свята Івана Купалы' (Даль), калін. *рóсы* мн. л. 'касьба раніцой або ўвечары', уладз. *на рóсу пойти* 'пайсці на сенакос'. Да *раса₁* (гл.). Гл. Бел. міф., 424–426; Агапкіна, Основы, 417–418.

**Расá₄**: *расы́ няма на яго* 'пажаданне няшчасця' (Ян.). Верагодна, аддалена звязана з народнымі ўяўленнямі аб расе як шкоднай вадкасці (амбівалентнымі звычайным пазітыўным, жыццядайным), якая набывае такія ўласцівасці пад чароўным уздзеяннем. Таксама імавернай падаецца метафарычная замена: (хваробны, смяротны) пот → раса. Параўн. рус. дыял. *медвяная росá* 'хвароба раслін, пры якой яны пакрываюцца саладкаватай жыжкай', варонеж. *рóсный* 'заражаны мучністай расой ці грыбковымі хваробамі (аб раслінах)', а таксама укр. *перегнáти на рóсу* (каго) 'даць каму-небудзь; выцяць'. Да *раса₁* (гл.). Гл. Бел. міф., 424. Параўн. *росісць* 'нешта дрэннае': *шоб вас поела росісць* (ТС), гл.

**Расавáльнік,** *расавáннік* 'ранні баравік' (лід., дзятл., Сл. ПЗБ; навагр., З нар. сл.), *расавік* 'тс' (беласт., Жыв. сл.), 'падбярозавік' (баран., Нар. словатв.). Ад *расавáць* (гл.), бо грыбы з'яўляюцца ў час, калі красуе (расуе) жыта. Іншая матывацыя ў *расавік* 'дажджавы чарвяк' (Скарбы) – да *раса₁* (гл.).

**Расавáць** 'цвісці, красаваць (пра злакавыя)' (Скарбы, Сцяшк., Сл. ПЗБ), *rasavác* 'тс' (Арх. Федар., Смул.), *росовáты* (зах.-палес., Выг.), *расавáцца* 'тс' (Сцяшк. Сл.), 'выпускаць вусікі, коцікі (пра вярбу)' (шчуч., Сл. ПЗБ). Станкевіч (Зб. тв. 1, 442–443) падкрэслівае, што побач з літаратурнай формай *красýе* існуе дыялектная форма *расýе*. Арэальнае ўтварэнне, што памылкова выводзіцца з *красаваць* (гл.), параўн. польск. дыял. *rosować* 'цвісці, красаваць (пра збожжа)'. Першаснае значэнне магло быць не толькі 'цвісці',

але і ‘натапырвацца, шчацініцца’, што вынікала з рознай семантыкі *расá*$_2$ (гл.) – ‘вусік калосся’ і ‘шорсткая поўсць’, параўн. славен. *pšenica se resi* ‘пшаніца выпускае вусікі’, *resíniti se* ‘мець натапыраную поўсць’, гл. *расіцца*. Смулкова (Białoruś, 165) мяркуе, што *расаваць* узнікла шляхам народнаэтымалагічнага спрашчэння з *красаваць* праз збліжэнне з *расá*$_1$, гл. (“żyto pokrywa się pyłkowatym kwiatem jak rosą”) і з’яўляецца інавацыяй, што малаверагодна. Па гістарычных і лінгвагеаграфічных прычынах хутчэй архаізм, захаваны ў міфалагічных уяўленнях, параўн. *расá*$_4$, *расавáтначка* (*rasawátnaczka*) ‘патронка, апякунка квітнеючага збожжа’ (Тур.), магчыма і *расáўка* ‘русалка’ (ТС), гл. *расаўка*.

***Рáсавы**, *рáсову* ‘светла-шэрай з жаўцізной масці (аб кані)’ (ТС). Няясна; магчыма ідэнтычна *расóвы* ‘пародзісты’ (гл. *páca*$_2$).

**Расáда** ‘маладыя расліны, што вырасцілі для перасадкі’ (ТСБМ, Касп., Байк. і Некр., Сл. ПЗБ), *рысáда*, *рассáда* (Бяльк.), *расáдзіна* ‘каліва расады’ (Ян.). Параўн. рус. *рассáда* ‘тс’, польск. *rosada* ‘тс’, ст.-польск. *rozsada* ‘тс’, славен. *razsad, rošada* ‘тс’, літ. *rasoda* ‘расліна’. Ад агульнаслав. *-сад-* у значэнні ‘працэс пасадкі раслін’ > **roz-sad(a)* > * *rossad(a)* > *rosad(a)*, адсюль зборнае значэнне *расáда* для маладых раслін, для таго, што рассаджваюць. Для адзначэння асобнай расліны з *расады* назіраюцца розныя фармаўтваральныя мадэлі, у тым ліку беспрыставачныя: параўн. польск. *sadzonka*, чэш. *sadno*, славен. *sadika*, серб. *sádno* ‘тс’. Сюды ж вытворныя *расáднік* ‘скрынка з зямлёй для вырошчвання расады’, ‘гадавальнік’ (ТСБМ, Ласт., Сл. ПЗБ), ‘гародчык’ (Бяльк.), *рассáднік* ‘крыніца з’яўлення, размнажэння чаго-небудзь’ (ТСБМ). Відаць, другаснае ўтварэнне *расáднік* ‘зруб у 3–4 вянцы – аснова печы’ (Нік., Очерки), дзе фіксуецца і першаснае *расáднік* ‘парнік’.

**Расáк** ‘конь рысак’ (лудз., Сл. ПЗБ). Варыянтнае да *рысáк* ‘тс’, параўн. рус. дыял. *рыскливый* ‘прыткі, хуткі’. Вымаўленне з карнявым *-а-*, імаверна, абумоўлена другаснай рэдкай вакалізацыяй рэдукаванага ў пераднаціскной пазіцыі **rъsak* > **rasak*. Гл. *рысь*$_1$.

**Расакіля** ‘гусялапка востравугольная, Alchemilla acutangula’ (ігн., Сл. ПЗБ). Літуанізм; паводле аўтараў слоўніка з літ. *rasaki-*



*là* ‘тс’, што з *rasá* ‘раса’ і *kìlti* ‘узнімацца, уздымацца, расці, павялічвацца’. Параўн. *расíчка* (гл.).

**Расалéня,** *расалёнік* ‘страва з квашаных буракоў’ (трак., Сл. ПЗБ). Паводле аўтараў слоўніка, з літ. *rasaliẽnė* ‘тс’ (там жа), параўн. *расóльнік*.

**Расамáты** ‘лаx́маты, касматы, калматы’, ‘з мноствам каранёў (пра буракі, моркву)’ (Янк. 3), ‘лахматы’ (Мат. Гом.). Прыметнік ад *расá*$_2$ (гл.) з суфіксам *-ма-*, параўн. *таўсматы* (ад *тóўсты*), гл. У аснове семантыкі прызнак ‘махрыстасць, растрапанасць’. Параўн. балг. дыял. *ресáт* ‘з абтрапанымі краямі’.

**Расамáха**$_1$ ‘драпежная млекакормячая жывёла сямейства куніц, Gulo borealis’ (ТСБМ), ‘звер расамаха, Chiromis’ (Байк. і Некр.), ‘звер ласка, Mustela gulo’ (Некр. і Байк.), ‘звер’ (Янк. 1; з заўвагай: “гэты звер тут не водзіцца”), ‘звер’ (гом., ГЧ), ‘хіжы звер у Сібіры’, ‘воўк-канятнік’ (Ласт.), *росомáха* ‘драпежная жывёліна, расамаха(?)’ (ТС), параўн. укр. *росомáк, росомáх, росомáха* ‘звер Gulo gulo з сямейства куніц’, рус. *росомáха* ‘тс’, польск. *rosomak* ‘тс’. Хутчэй за ўсё, старажытная назва; паводле Трубачова (ВСЯ, 3, 123), з больш ранняга **соромáха* (< прасл. **sormaxa*, параўн. літ. *šarmuõ, šermuõ* ‘гарнастай, ласка, дзікі кот’), што спарадычна адзначалася ва ўкраінскіх і беларускіх дыялектах (Трубачоў у Фасмера, 3, 505, параўн. тураў. *саромáха*, гл.), з якога шляхам метатэзы складоў утворана сучасная назва. Бяднарчук (ABSl, 9, 46) схіляецца да балтаславянскага запазычання з ўграфінскіх моў, параўн. марыйск. *sõrmõ, šurmaŋšõ* ‘рысь’, саамск. *čoŕma, čierma* ‘воўк’, вацяцк. *śor* ‘куніца’ і інш. Ранняя фіксацыя ў наўгародскай берасцяной грамаце канца XIV ст. (Залізняк, Древненовг., 523) у форме *росомуха* (*бѣла росомуха*) ‘нейкі пушны звер’ (гл. Чарных, 2, 123), як быццам, сведчыць пра такі шлях запазычання, аднак, у сувязі з гэтым, метатэза складоў павінна была адбыцца вельмі рана. Нельга выключыць, што на гэта магла паўплываць старая славянская міфалагічная назва са значэннем ‘злы дух, страшыдла’, гл. *расамаха*$_2$. Сляды рэальных ведаў пра нейкага драпежнага звера ўсё ж прысутнічаюць у гаворках, параўн.: *росомáха нападае на худобіну і задніцу вуесць; а ека та росомаха, то не ведаем* (ТС); *rosomácha, rysamácha* ‘расамаха’ (Арх. Федар. з заўвагай: “Вынішчана ў слонімскіх лясах у 1831 г.”). Табуізацыя першапачатковай назвы і яе сувязь з **sorom* (< і.-е.

*k'ormos*, гл. *сорам*, што звязваецца з старой назвай куніцы і.-е. *k'or-mōn*), на якой настойвае Трубачоў (ВСЯ, 3, 120–124), таксама можа тлумачыцца ўплывам міфалагічнага персанажа. Меркаванні аб шляхах пранікнення назвы ў іншыя еўрапейскія мовы з усходу, а таксама аб магчымых крыніцах запазычання, гл. Брукнер, 463; Кіпарскі, ZfslPh, 20, 359 і наст.; Фасмер, 3, 504–505; SEK, 4, 209.

**Расамáха₂** фальк. 'страшыдла ў вобразе жанчыны, у якой распушчаныя валасы і стальныя грудзі, ёю страшаць малых дзяцей' (Янк. 1), 'злы дух у постаці чалавека з звярынай галавой і лапамі, жыве ў каноплях' (Ласт.), 'персанаж з дэманалогіі' (Сержп. Грам.), 'нечысць, ёй становіцца маці, забіўшая сваё дзіця і ўталіўшаяся' (гом., ГЧ), *расамáка*: *расамака жыве ў каноплях, а русалка ў вадзе* (валож., Жд. 2), перан. 'неахайная жанчына' (барыс., там жа), 'няўклюда' (пухав., Жыв. сл.), 'непрычэсаная, неахайная жанчына' (Мат. Маг.), *росомáха* 'жанчына з распушчанымі, непрыбранымі валасамі', 'пра неахайную жанчыну (у параўнанні)': *ідзе бі росомаха; роспейсаласа, як росомаха* (ТС), *расамáха* 'неахайная жанчына' (смарг., Сл. рэг. лекс.), *рáсумак* 'непрычэсаны чалавек': *ходзіш, як расумак* (Мат. Маг. 2), *русумáка* 'нямыты, мурза, няхлюя', *русумáчка* 'мурза, смаркачка' (Нас.). Параўн. укр. *росомáк, росомáх, росомáха*, рус. дыял. *росомáха* 'міфічная істота з доўгімі распушчанымі валасамі', 'неакуратная, неахайная жанчына; лахудра'; магчыма, сюды таксама літ. *razumùkas, razimùkas* 'пачвара, страшыдла, што сядзіць на гарышчы', ням. прус. *Rosemòck, Rosumòck, Rasumùck* 'страшыдла, прывід; неспакойны, благі, неахайна апрануты чалавек', ням. дыял. *Rosemock* 'дэман, якім страшылі дзяцей; вялізны чалавек, волат' (Кіпарскі, ZfslPh, 20, 365; SEK, 4, 209). Няясна. Звычайна выводзяць з *расамаха₁* на падставе пераносу назвы паводле знешняга вобліку звера, які, аднак, на большасці тэрыторый, дзе ўжываецца слова ў дэманалагічным і пеяратыўным значэнні, застаецца невядомым. Звяртае на сябе ўвагу характаралагічны прызнак – наяўнасць растрапаных валасоў ці краёў адзення, што дазваляе звязаць названыя формы з варыянтнай асновай **ręs-* (параўн. *расаматы, расá₂*, гл.), **ros-/ *rus-* (параўн. *росáўка, русáўка*: *у русáўкі жэлезные цыцкі і косы роспушчэны*; *рýсавы дзед*, гл.), **ras-* (*рáся* 'неахайная жанчына', гл.). Страхаў (Paleoslavica, 13, 1, 6–8)



першасным значэннем лічыць 'непрычасаная, растропа' і праз рус. дыял. (іванаўск.) *россомáха* 'развілістае дрэва' з устаўным экспрэсіўным суфіксам *-(о)ма-* (параўн. рус. *костомáха* 'вялікая костка') збліжае з *рассóха* (гл. *расоха, расахатае дрэва*), якое можа мець другаснае значэнне 'неахайная, непрычэсаная', параўн. каш. *rosoxa* 'жанчына з заблытанымі валасамі', *rosoxati* 'лахматы, калматы', гл. *расахаты* 'раскудлачаны': *расахатая галава* (Сл. ПЗБ). У такім выпадку *расамаха₂* < *расоха* ("з пашыранай асновай", там жа), а *расамаха₁* ў выніку пераносу назвы на Gulo borealis па табуістычных меркаваннях. Аднак трактоўку пачатку слова як прыстаўкі *рос-* (< **orz-*) у святле існуючых варыянтных форм нельга прызнаць пераканаўчай. Па тых жа меркаваннях нельга прыняць этымалогію Чарных (2, 123) з **розсъмокъ* (параўн. старыя напісанні *разсамака, рассамак, розсомахи*, XVII ст.), што да *смок* (< *съмок*) 'змей, цмок' і далей да *смактаць* (гл.).

**Расаніца** 'расада, капусныя насенныя ўсходы' (Мал.). Дээтымалагізацыя незафіксаванага, але цалкам магчымага **расáдніца* (гл. *расада*) у выніку асіміляцыі групы *-дн-* на стыку марфем, ускладненая пераносам націску. Параўн. серб. *сáдница* 'сажанец'.

**Расáнкі** толькі мн. л. 'расліна святаяннік звычайны, Hypericum perforatum L.' (Ласт., Кіс.). Фанематычны варыянт *расянкі* (гл. *расянка*), верагодна, пад уплывам *раса₁* ў сувязі са звычайным распаўсюджаннем расліны ў "расістых" месцах, у тым ліку на лугах, па берагах рэк і азёр.

***Расáўка**, *росáўка* 'жытні дэман, якім палохалі дзяцей, русалка' (ТС), *росáлка* 'тс' (Выг.): *росáлка лякала дытэй, шоб жыта ны мялы; страшная, з роспýшчаными косáмы* (брэсц., Леванц.). Палескі варыянт традыцыйнай назвы *русáлка* 'тс' (гл.) у выніку збліжэння з *раса₁* (гл.). Аднак параўн. *расаватначка* 'тс' (гл. *расаваць*), што хутчэй сведчыць пра сувязь з *раса₂* (< **ręsa*) або *раса₃* (гл.).

**Расахавілы** 'драўляныя вілы, акаваныя жалезам' (валож., ЛА, 2), *рассахавілы* 'драўляныя вілы на два зубы' (Жд. 3). Відаць, кантамінацыя *расóха* (гл.) і *вілы*, параўн. *сахавілы* 'тс' (гл.). Цікавы выпадак спалучэння ў адным слове праславянскіх сінонімаў рознага паходжання, параўн. Мартынаў, Балто-слав.-итал. изогл., 35.

**Расахáты** 'з раздвоеным ствалом, вілаваты (пра дрэва, сук)', 'рагаты, з галіністымі рагамі (напрыклад, пра лася)' (ТСБМ, Сл. ПЗБ), *рассахáты, россохáты, росóховаты* 'галінасты, раскідзі-

сты' (ашм., Стан.; ЛА, 5), *расахáты* 'раскудлачаны' (астрав., Сл. ПЗБ), *росоховáты* 'з разгалінаваннем' (ТС). Утварэнне ад **rozsoxa* (гл. *расóха*).

**Расахéт,** *расахéта* 'азярод' (ашм., Сл. ПЗБ). Суфіксальнае ўтварэнне ад *расóха* (гл.) з рэдкай суфіксацыяй *-ет(а);* магчыма, ад *расахáты* (гл.), параўн. *рассахáткі* мн. л. 'азярод' (Сл. ПЗБ), збліжанае да *хата* (з-за наяўнасці стрэшкі?).

**Расéя** 'Расія, Вялікаросія' (Байк. і Некр.); сюды ж *Расейшчына* 'тс', *расéйскі* 'расійскі, рускі' (Байк. і Некр.), *росéйка* 'прыежджая з Расіі' (ТС). Параўн. рус. дыял. *Росéя*, сіб. *росéец, росéйцы* 'людзі, прышлыя з цэнтральнай Расіі'. Магчыма, запазычана з рускіх дыялектаў, а не праз пісьмовыя крыніцы, бо ў апошніх амаль не сустракаецца, не выключана і самастойнае ўтварэнне. Не нясе абражальнай семантыкі. Лічылася на Русі першасным, "народным" словам у адрозненні ад штучнай назвы *Расія (Россия)*, што распаўсюджваецца ў Масковіі з пачатку XVI ст. як слова высокага стылю непасрэдна пад уплывам грэч. Ρῶς, Ρωσσία ў асяроддзі, дзе валодалі грэчаскай мовай, з патрыяршай канцылярыі ў Канстанцінопалі (Фасмер, 3, 505). Чаргаванне *е / і*, імаверна, залежыла ад націску і адпавядала фанетычнаму чаргаванню, пазней знікламу, параўн. *Еўлáмпія – Лампéя*, рус. *лúлия* – бел. *лілéя*; падобна, як *Індыя – індзеец*, маглі ўтварыцца асабовыя формы *Расія – расéец, расéйка;* параўн. таксама *варажыць – варажэя, варажэйка, падарыць – падарэйка* 'жабрак' і інш. (Сцяцко, Афікс. наз., 36, 37). Пэўнай мадэллю маглі паслужыць жаночыя імёны тыпу *Саламея, Пелагея, Надзея,* суадносныя з мужчынскімі імёнамі на *-ей*, накшталт *Цімафей, Аляксей*. Гл. падрабязней Кур'ян, Роднае слова, 2005, 4, 24.

**Рáсінскі** 'вышэйшага гатунку' (Юрч.). Ад *рáса₂* 'парода', гл.

**Расісты₁** 'пакрыты расой' (ТСБМ). Звычайна *рóсны* 'тс', гл. *расá₁*.

**Расісты₂** 'мяцёлчаты (авёс)' (мсцісл., З нар. сл.). Параўн. польск. *rzęsisty* 'багаты', балг. *ресúст* 'што мае махры ці падобны да махроў', славен. *resast* 'злакавы', 'маючы вусікі'. Гл. *расá₂*.

**Расіцца₁** 'памалу есці', звычайна ў прош. ч. з адмоўем *не*: *не расілася* 'і расінкі ў рот не брала' (Сцяц.), *росіцца* 'браць у рот, перакусваць' (ТС), *rasiś* 'пажаданне з'есці, дакрануцца вуснамі' (Варл.). Да *расá₁* (гл.) са зразумелым метафарычным пераносам.

***Расіцца₂** (*r'es'itys'a*) 'цвісці, квітнець (пра жыта)' (палес., Выг., Смул.). Параўн. укр. *рясúти* 'быць пакрытым лістамі, пладамі', серб.-харв. *рéсити се* 'прыгажэць', *ресати* 'цвісці, распускацца', балг. *рясам* 'цвісці, пакрывацца пупышкамі', *ресá* 3 ас. адз. л. 'выпускаць вусікі, распушвацца, цвісці (пра расліны)'. Гл. з іншым вакалізмам *расаваць*, укр. *росúти* 'цвісці (пра жыта)' і пад., усё да **ręsa* (Смулкова, Białoruś, 229), гл. *расá₂*.



**Расіць₁** 'мачыць расою, кроплямі слёз, крыві' (ТСБМ, Байк. і Некр.). Параўн. рус. *росúть* 'пакрывацца расою', польск. *rosić* 'мачыць расою'. Гл. *расá₁*.

***Расіць₂**, *расыты* 'прарошчваць' (Клім.). Да *расá₂* (гл.).

**Расíчка** (*росúчка*) 'гусялапка, Alchemilla vulgaris L.' (Нас., Касп.; смарг., Сл. ПЗБ), сюды ж *расянка* 'тс' (гл.), *расá* 'тс' (ТСБМ), *расакіля* 'тс' (Сл. ПЗБ), рус. *роснúца* 'тс'. Паводле павер'яў, расліну можна знайсці, пакуль не абсохла расá (Нас.). Гл. *расакіля, расá₁*.

**Рáска₁** 'дробная водная расліна сямейства раскавых, Lemna L.' (ТСБМ, Байк. і Некр., Бяльк., Сл. ПЗБ, ТС), *ряска* 'тс' (Сл. ПЗБ), сюды ж *расá (ръсá)* 'водарасці' (Сл. ПЗБ; бялын., Нар. сл.). Да *расá₂* (гл.), параўн. чэш. *řasa* 'водарасць', славац. *riasa* 'тс', таксама тлумачэнне: *раса – трава ў рэчцы, як аборы* (віл., Сл. ПЗБ) і макед. *реси* 'падводныя расліны даўжынёй да пяці метраў'; для дробных водных раслін характэрна махрыстасць карэньчыкаў. Параўн. укр. *ряска* 'расліна Lemna L.', в.-луж. *rjasa* 'тс', каш. *řąsa, řąs* 'тс'. Фасмер (3, 539) рус. *ряска* 'балотная расліна' звязвае з рус. *рясá* 'забалочанае месца, вільгаць' і, няўпэўнена, з **ręsa*, гл. *расá₂*. Гл. таксама Шустар-Шэўц, 2, 1221; SEK, 4, 227.

**Рáска₂** 'столка' (дзісн., Нар. сл.). Да *расá₂* (гл.), што можа мець значэнне 'зборка, складка'; параўн. укр. *рясúця* 'складка', славац. *riasa* 'тс' і інш.

**Рáска₃** 'парастак, расток' (Клім.). Гл. *рáса₂*.

**Раскабóіна** 'свавольнік, гарэза' (Юрч.). Няясна. Магчыма звязана з прасл. **kobь, *kobiti, *koběniti (sę)* 'быць упартым, супраціўляцца', параўн. рус. дыял. *кóбый* 'чалавек з дрэнным характарам, наравісты', *кóбиться* 'паводзіць сябе неспакойна', *кóбень* 'той, хто ўпарціцца, не слухаецца', гл. ЭССЯ, 10, 88, 92, 101. Прыстаўка можа мець узмацняльнае значэнне.

**Раскабызіць** 'пацягнуць на капрызы', *раскабызіцца* 'пачаць капрызнічаць' (Юрч. Вытв.). Безумоўна, да **кабызіць, кабызіцца,*

параўн. *кóбза*$_2$ (гл.) і тэрытарыяльна блізкія рус. смал. *кобызá* ‘капрызны чалавек’, *кобызúться* ‘паводзіць сябе фанабэрыста, ганарыста; упарціцца; ламацца’, што, магчыма, у выніку інтэрвакальнага азванчэння *-п-*, гл. *капыза, капызіцца, капыжыцца*. Адносна іншых этымалагічных магчымасцей гл. Брукнер, 240–241, Банькоўскі, 1, 737 (у сувязі з польск. *skobuzieć* ‘насупіцца’), ЭССЯ, 10, 92 (пра суфіксы *-*изъ/ *-ъзъ*). Пры дапушчэнні прыстаўкі **ko-* ўзнікае магчымасць гукапераймальнага паходжання, параўн. *бы́зкаць* (< *быз-з-з*), параўн. *бзыкаць* (гл.).

**Раскабы́ліцца** ‘разбурыцца’ (Юрч.). Няясна. Магчыма да *капыл*$_1$ (гл.), параўн. рус. дыял. *на копыл* ‘тырчком’, *поднять всё вверх копылом* ‘узбудзіць, падняць’.

**Раскабы́рдзіць** ‘увесці ў злосць’ (Юрч.), сюды ж *раскабырдзіцца, раскабырджаны*. Параўн. *скапýрыцца, скапы́рдзіцца* ‘памерці’ (Сцяшк. Сл.), рус. дыял. *закопýрдиться* ‘тс’, якія Гарачава звязвае з рус. *копурять* ‘капаць, калупаць’, серб. і харв. *kopòrati, kopirati, kopàrati* ‘рухацца, капашыцца, калупацца, рыцца’ < прасл. **kop-* з *r*-пашырэннем (Гарачава, Этимология–1985, 63), пры гэтым, аднак, застаюцца семантычныя цяжкасці.

**Раскавáны** ‘вызвалены ад акоў’, ‘вольны, нічым не абмежаваны’ (ТСБМ), *раскýты* (Байк. і Некр.). Утворана з пераносным значэннем ад *раскавáць* < *кавáць*, што магло без прыстаўкі азначаць ‘закоўваць у ланцугі’. Цікава, што ў гэтым значэнні вядома укр. *кувáти* ‘тс’, ст.-рус. *ковати* ‘закоўваць у аковы’ (сустракаецца ў Наўгародскім летапісе 1228 г.), ст.-польск. *kować* ‘закоўваць у ланцугі’. Можна меркаваць яшчэ пра больш раннюю семантыку *каваць* ‘абіваць каваным металам’, напрыклад, ст.-рус. *ковати* ‘тс’ (сустракаецца ў Іпацьеўскім летапісе 1175 г.) < прасл. **kovati* ‘біць’, параўн. *каваны жалезам* ‘абіты жалезам’. Варыянт *раскýты*, як *кýты, куць* ‘каваць’ (Байк. і Некр.), імаверна, з польск. *kuć* ‘каваць’, што з’яўляецца вынікам выраўнования дзеяслоўных асноў польск. дыял. *kować* > *kuje* > *kuć*. Гл. *кавáць*.

**Раскавéзіць** ‘разбіць ды крыві’ (дзятл., Жыв. сл.), сюды ж, відаць, *росковíзыты: росковíзыты губы* ‘распусціць губы’ (Клім.) Звязана з *раскавéсіць* (гл.) з экспрэсіўным азванчэннем *с* → *з* і працягам семантыкі, які тлумачыцца праз магчымую рэдукцыю зафіксаванага значэння: ‘разбіць ды крыві [губы]’.



**Раскавéркаць** ‘парыць, раскапаць’ (Мат. Гом.), *раскавéрчыць, раскавярáчыць* ‘раскалупаць, разбурыць’ (Юрч.). Гл. *каверт*.

**Раскавéсіць** ‘развесіць (губы)’ (слон., Жыв. НС), *росковéсіць* ‘тс’: *губу росковесіў* (ТС). Імаверна, ад *развесіць* з экспрэсіўнай устаўкай *-ка-/ -ко-*, асабліва ўласцівай для палескіх гаворак (Ніканчук, Этимология–1977, 123). Параўн. *накувéсіцца* (гл.), што да **věsiti*, гл. *весіць*$_1$.

***Раскавы́раць**, *росковы́рати* ‘раздурэцца; сапсавацца’ (Бес.). Да незафіксаваных **кавы́раць*, **кавы́рыць*, роднасных *кавéрыць* (гл.) – з метафарычным пераносам; адносна фанетычнай субстытуцыі параўн. таксама *кавырáць* (гл.).

**Раскавялíць** ‘рассячы, разваліць, глыбока параніць’ (ТСБМ). Няясна.

**Раскакацíцца** ‘буйна разрасціся’ (Юрч.), *раскакацíць* ‘выклікаць бурны рост’ (там жа). Сюды ж *раскакацíсты* ‘сукаваты, развесісты’ (Юрч. Фраз. 1). Гл. *кокат*.

**Раскалавáты** ‘разбэшчаны’ (іўеў., Сл. ПЗБ). Вытворнае ад *раскóл* ‘гарэза, свавольнік’, што ўтварае сінанімічнае *раскóльнік* ‘тс’. Утворана з суф. *-ава-*, што нясе значэнне вялікай ступені праявы якасці, параўн. *дуракавáты* і інш. Гл. *раскóл*.

**Раскаламсáць,** *раскаламсíць* ‘размясіць’ (Юрч.). Параўн. з *каламеса, каламесіца* ‘блытаніна, мешаніна’, *каламесны* ‘блытаны, мяшаны’ (Байк. і Некр.). Роднаснае да *раскалле* (гл.), што ад прасл. **kalь* ‘гразь’. Імаверна, утворана складаннем *кал* і *мясíць* ‘змешваць, замешваць’ > *-каламясíць* з далейшай дээтымалагізацыяй. Гл. *куламеса, куламесіцца*.

**Раскалбатáць** ‘размяшаць’ (Сл. ПЗБ). Да *калбатаць* (гл.).

**Раскáлле** ‘зімовы час, калі дарогі пакрываюцца лёдам’, *раскáліна* ‘бездарожжа’ (Ян.), *роскáлле* ‘слата, хлюпота’ (Клім., Сл. Брэс.), стараж.-рус. *роскалье* ‘адліга, бездарожжа’. Утварэнне з прыстаўкай **roz-* і суф. *-*je*, як вынік дзеяння ад **orz-kal-iti* < **kal-iti* < **kalь*, сюды ж *розкáлы* ‘разводдзе’ (івац., ЛА, 2) і укр. *рóзкаль* ‘бездарожжа’; параўн. Фасмер, 3, 503. Німчук (Давньорус., 158) лічыць лексему паўдзёным рэгіяналізмам старажытнарускай мовы. Гл. *кал*.

**Раскалтунáцца** ‘раскалмаціцца’ (брасл., Сл. ПЗБ), *раскалтунýцца* ‘тс’ (валож., Стан.). Да *каўтýн* (гл.).

**Раскалу́жыцца** 'разварушыцца': *пакуль ён раскалужыцца з хворай нагой, дык я буду ўжо аш на балоця* (віл., Нар. сл.). Няясна. Да незафіксаванага **калу́жыцца*, параўн. *калю́жыцца* 'пэцкацца ў гразі, у калюзе' (ТС), далей гл. *калу́жа*. Семантычнае развіццё невыразнае: 'пэцкацца ў гразь у калюзе' → 'ісці па гразі' → 'ледзь варушыцца, паволі ідучы'.

**Раскалясіцца** 'разгалінавацца': *клён раскалясіўся* (пух., Сл. ПЗБ), 'пашырыцца, разрасціся на ўсе бакі' (Сцяшк. Сл.). Фанематычны варыянт *раскаласіцца*, якое да *колас* (гл.), з празрыстым семантычным развіццём.

**Раскама́рыцкі** 'танец камарынская' (Мядзв.). Экспрэсіўнае ўтварэнне, параўн. *растуды́ яе туды́* 'каб ёй пуста было!' (Мат. Маг. 2), ад *кама́рыцкі*, прастамоўнай трансфармацыі *кама́рынскі/кама́рынская*, якое ідэнтычна рус. *камари́нская* 'народная песня для скокаў; танец пад гэтую песню' (паводле некаторых аўтараў, кампазітар Глінка выкарыстаў беларускую народную мелодыю). Параўн. аналагічнае рус. асташ. *раскамари́нская*.

**Раскапіць** 'расшчапіць' (віл., Сл. ПЗБ). Ад **рассkапіць* < **-skop- / -*skep-*, параўн. *раскеп* (гл.).

**Раскапу́сціцца** 'празмерна шырока рассесціся' (ТСБМ, Нас., Мат. Гом., Ян.), 'расшырыцца, заняць шмат месца' (Варл.), 'разрасціся' (Мат. Гом.), укр. *роскапу́ститися* 'тс', рус. смол. *раскапуститься* 'тс'. Яшчэ Насовіч тлумачыў 'сесці шырока, падобна да капусты, што займае сваімі лістамі вялікую прастору наградзе' (Нас.), гл. таксама Фасмер, 2, 188. Сюды ж *раскапу́сціцца* 'апусціцца, пасці духам' (Касп.), відаць, пад уплывам *раскіснуць* (гл.) або *капу́ціцца* 'канаць, здыхаць' (Нас.), гл. *капут*. Параўн. рус. разм. і дыял. *раскапу́ститься* з падобнай семантыкай.

**Раскапэ́нда** 'няскладны, нязграбны чалавек' (лаг., Гіл.). Магчыма, ад *раскапіць* 'расшчапіць' (гл.) з экспрэсіўнай суфіксацыяй.

**Раскара́ка** – пра чалавека з шырока пастаўленымі нагамі (ТСБМ, Сл. ПЗБ), *роскора́ка* 'нешта раздвоенае, растапыранае': *роскорака ў граблях* (ТС). Сюды ж *роскараку́н* 'крываногі чалавек', *ро́скарач* 'расставіўшы ногі' (там жа). Параўн. таксама *раскірэ́ка* 'той, што мае крывыя ногі' (ТБСМ, Нас., Байк. і Некр.), *раскіра́ка* 'тс' (Сл. ПЗБ, Бяльк.), *разгіра́ка* 'тс' (карэліц., Нар. сл.; ваўк., Сл. ПЗБ). Укр. *роскаря́ка* 'дрэва з раздвоеным ствалом; чалавек, што ходзіць расставіўшы ногі', *раскоряка* 'тс'. Відаць, аддзеяслоўнае ўтварэнне ад *раскара́чыць* 'шырока расставіць ногі', параўн. таксама укр. *роскаря́чити* 'тс', славен. *razkoračiti* 'раскарачыцца', *razkorak* 'шырока пастаўленыя ногі', што ўзыходзяць да прасл. **korakъ*, параўн. *кора́к* 'крывы корань, корч' (ТС), роднаснага да **korkъ*, гл. *крок* (параўн. Сной₂, 308). Формы з коранем *-кір-* (варыянт *–гір-*, гл. Карскі, 2–3, 39) маглі ўзнікнуць пад уплывам літ. *kereti, keróti* 'разрастацца ўшыркі, разгаліноўвацца', параўн., аднак, і польск. *kierz* 'куст', чэш. *keř* 'тс', славен. *razkrečiti* 'стаць уразкрок, пашырыць, расставіць ногі', што сведчаць пра чаргаванне **kor- / *ker- / *kьr-*. Параўн. падобныя адносіны: *кірна́ч* 'крываногі мужчына' (Скарбы), гл. *кірнаты*, літ. *kìrna* 'корч'. Сюды ж *раскара́кі* мн. л. 'штаны (у загадцы)', што ўяўляе дэвербатыў ад *раскара́чыць* са спецыялізаваным звужэннем семантыкі, абумоўленым энігматычным ужываннем.



**Раскараніцца** 'абзавесціся сям'ёй' (Сл. ПЗБ). Відаць, ад *караніцца* 'разрастацца, укараняцца', параўн. ст.-бел. *корень*, якое акрамя значэння 'корань', мела таксама значэнне 'племя, род' (Ст.-бел. лексікон). Важна адзначыць, што роднасная форма літ. **keróti* значыць не толькі 'пускаць карані', але і 'разрастацца ўшыркі', 'выпускаць новыя галіны (пра наземную частку дрэва, куста)'. Гл. *ко́рань*.

**Раскара́ч** 'кусок палатна з махрамі, ручнік для нашэння гаршчкоў (з ежай) у поле' (Гарэц., Касп.), *рыскыра́ч* 'тс' (талач., Шатал.; дубр., Нар. словатв.), *раскара́ч*, *ръскъра́ч* 'трапкач, прыстасаванне з канцоў недатканага палатна, у якое ўвязвалі пасуду з ядой' (кругл., дубр., горац., ЛА, 5), *раскара́ч* 'ручнік (для посуду)' (кругл., ЛА, 4; Стан.). Дээтымалагізацыя ў выніку сцяжэння падвойнага зычнага на стыку прыстаўкі і кораня ў зыходным прэфіксальным утварэнні *рас-скара́ч*, гл. *скарач*. Можна дапусціць кантамінацыю славянскай (тыпу *раскара́ка*, гл.) і балтыйскай па паходжанні лексем аналагічна да *раскярэ́ша*, гл. (*раскарака*, *керайша*, параўн. Непакупны, Связи, 195).

***Раскарбава́ць**, *роскарбова́ць* 'размеціць зарубкамі, памеціць' (ТС). З *рас-* і *карбаваць* (гл.).

**Раскаркалі́цца** ‘разрасціся’ (Сл. ПЗБ). Да *каркаліна, каркалісты* (гл.).

**Раскарпа́ць,** *раско́рпаць* ‘павялічыць паглыбленне, адтуліну ў чым-небудзь’ (ТСБМ), *роско́рпаць* ‘раскатурхаць’ (ТС). З *рас-* і *карпа́ць, ко́рпаць* (гл.).

***Раскатруба́чыць**, *роскотруба́чыць* ‘раскудлаціць’ (ПСл). Няясна; магчыма да **каструба́чыць*, што ўзыходзіць да **kostrъba, kostroba, kostrǫba* ‘лахманы, раскудлачаная галава’, звязанае з прасл. **kostra* ‘кастрыца, ачосы’ (Махэк$_2$, 283; ЭССЯ, 11, 163). Гл. *каструбаваты*.

**Раскату́рхаць** ‘растармашыць’ (Касп., Байк. і Некр., Сцяшк., Сл. ПЗБ), *роскату́рхаць* ‘разбудзіць штуршкамі’ (ТС). Да *катурхаць* (гл.). Параўн. *растурхаць*, гл.

**Раска́ты** мн. л. ‘двухкалёсны воз для вывазу лесу’ (Касп.), ‘калёсы (воз) для возкі бярвенняў’ (Бяльк., Мат. Маг.). Ад *раскаці́ць* ‘расцягнуць, развесці’, першапачаткова ‘расцягнуць пярэднюю і заднюю частку воза, каб павялічыць яго даўжыню’, гл. *каціць*.

**Раска́хліваць** ‘напальваць празмерна’ (мсціел., Юрч. Вытв.). Прэфіксальна-суфіксальнае ўтварэнне ад *ка́хля*, звычайнай дыялектнай рэалізацыі *ка́фля* (гл.). Семантычны ланцужок можа выглядаць наступным чынам: ‘кафля’ → ‘печка з кафлі’ → ‘празмерна напальваць (печку) ’.

**Раскаці́на** ‘адна з дзвюх крывых палак, якія надзяваюцца на заднюю вось у раскатах і пярэднімі канцамі звязваюцца на бервяне’ (Юрч.). Сінгулярызацыя пры дапамозе адпаведнага суфікса формы мн. л. *раскаты* (гл.).

**Раска́ч** ‘трапкач, прыстасаванне з канцоў недатканага палатна, у якое ўвязвалі посуд з ядой’, ‘ручнік (для посуду)’ (пін., ЛА, 4, 5). Дээтымалагізацыя ў выніку размоўнага сцяжэння формы *раскарач* (гл.). Паводле Непакупнага (Связи, 195), у выніку метатэзы балтызма *скарач* (гл.), што малаверагодна. Хутчэй да *раскі* ‘завязкі ў фартуху’ (гл.).

***Раскаштро́біць** ‘растрапаць’, *роскоштро́бъяны* ‘растрапаны (аб валасах)’ (Клім.). Да *коштро́ба* ‘непрычасаны, непрычасаная’ (драг., Клімчук, вусн. паведамл.), якое, у сваю чаргу, звязана з *каструбаваты* (гл.) і пад. Змену зычнага ў корані слова (*с* → *ш*) трэба тлумачыць экспрэсіўным ужываннем. Параўн. *раскатрубачыць* (гл.).



**Раскна́кліваць** ‘размазваць’ (мсціел., Юрч. Вытв.). Да незафіксаваных **ква́кліваць* < **ква́кліць* (// *ква́чыць*), вытворнага ад *квач* (гл.) з узнаўленнем у корані псеўдаэтымалагічнага *-к-*, які лагічна спалучаецца з эпентэтычным плаўным. Гл. таксама *квэкаць* ‘абрабляць, пэцкаць’ (< *квэцаць*, гл. *квецаць*). Той жа корань, відаць, і ў *квакаціць*: *гразь пад нагамі квакаціць* (Варл.), гл. У апошнім выпадку ўсё зводзіцца да гукапераймання, параўн. *квакаць*, *квактаць* (гл.) і балг. *ква́ча* ‘кудахтаць, выседжваць куранят’.

***Раскв́аліць**, *росква́ліць* ‘разбіць, расквасіць’: *росквалію ему голову* (ТС). Няясна, магчыма, звязана з *кволы* (гл.).

**Раскв́асіць$_1$** ‘размягчыць, зрабіць мяккім, гразкім’ (ТСБМ, Мат. Гом.), *росква́снуць* ‘размокнуць ад залішняй вільгаці, стаць гразкім, размякнуць’, *ро́сквась* ‘бездараж’ (ТС). Гл. *ква́сіць*.

**Раскв́асіць$_2$** ‘разбіць; разбіць да крыві (нос, твар); рассячы’ (Нас., ТСБМ, Бяльк., Ян.): *misku raskvasić* (Варл.), *расквасіў ён зьмею ўсе дванаццаць галоў* (Сержп. Казкі). Параўн. польск. *rozkwasić* ‘разбіць, растаўчы, моцна параніць (да частак цела)’. Непасрэдна звязанае з *раскв́асіць$_1$* (гл.), у пераносным выкарыстанні значэння ‘ўвільгатніць’ ці ‘размякчыць’, ‘размясіць (як цеста)’, значэнне ‘рассячы’ вынікае з ‘разбіць да крыві’. Паводле Запрудскага (дыс., 34), значэнні ‘выдзеліць кроў’ і ‘выдзеліць кіслую вадкасць’ звязаны наўпрост. Малаверагодная версія пра семінарызм ад лац. *quatiō, quassus* ‘разбіваю’, хаця Фасмер (3, 444) пасля Патабні звяртае ўвагу на рус. *квас*.

**Расквахта́цца** ‘наракаць, прычытаць, прыгаворваць’ (ТСБМ, Бяльк.), *расквакта́цца* ‘наракаць, стагнаць’ (ТСБМ, Байк. і Некр., Растарг.). Гл. *квахта́ць, квактаць*.

**Расквялі́ць**, *росквелі́ть* ‘раздражняць (рану)’, таксама з далейшым фанетычным развіццём *кв-* → *цв-*: *расцвялі́ць, расцвелі́ць, расцвілі́ць, росцвілі́ць* ‘тс’ (мазыр., лельч., лях., петрык., валож., стол., ЛА, 3). Параўн. рус. *раскзели́ть* – ‘давесці дзіця да плачу’. Да *квялі́ць, цвялі́ць* (гл.), але прыведзеныя тут значэнні ‘дражніць, крыўдзіць’ з’яўляюцца, як падаецца, другаснымі. Сюды ж *расквя́ліць* ‘разжаліць’ (Сцяшк. Сл.).

**Раске́ліна** ‘язва, рана’ (Ласт.). Хутчэй за ўсё, фанематычны варыянт *раско́ліна* ‘шчыліна ад расколу’ (Бяльк.), аднак нельга выключыць сувязь з магчымым, але не зафіксаваным слоўнікамі **расшчы́ліна* < *шчы́ліна* (гл.) пры захаванні вядомага гаворкам

гістарычнага спалучэння *-ск-* (адносна фаналагічнай праблематыкі прабеларускага *sk-* перад *ě* гл. Векслер, Гіст., 91–92). Адзінкавая фіксацыя з вельмі спецыялізаванай семантыкай можа сведчыць у аднолькавай ступені як аб экспрэсіўным характары націскнога, так і на карысць штучнага ўтварэння. Параўн. наступнае слова.

**Раске́п** 'раскол, шчыліна' (Нас., ТСБМ). Сюды ж *раске́п, роске́п* 'раздвоены дышаль у вупражы валоў' (ПСл, Лексика Пол.). Зыходнай формай лічыцца **расскеп*, параўн. рус. дыял. *расскеп* 'тс', што, паводле Фасмера (3, 445), ад *скепать* 'расшчапляць, калоць'. Ад *раске́піць*, гл.; паводле Карскага (1, 368), вядомае і ў старабеларускі перыяд, пры звычайным *рашчэп* (*ращеп*). Захаванне першасных спалучэнняў *ске-* (< прасл. *$sk_o$aip-*) Векслер (Гіст., 92) звязвае са старажытным падзелам славянскіх моў, параўн. макед. *расцеп* 'разлом, шчыліна ў скале'. Меркаванне пра запазычанасць гл. Цвяткоў, Запіскі, 2, 72.

**Раске́па** 'расцяпа, някемлівы, рассеяны, няўважлівы чалавек' (карэл., З нар. сл.; дзярж., Нар. сл.; Сл. рэг. лекс.). Непалаталізаваны варыянт да *расцяпа*, які, паводле Векслера (Гіст., 92), рэалізаваўся на поўдні Беларусі на месцы спалучэння *sk* у *sk'* у пачатку і сярэдзіне слова. Пра сувязь з *кеп* 'дурань; блазан' (гл.) спецыяльна Слаўскі, 2, 151. Сюды ж і *раске́па* 'раздвоены дышаль у вупражы валоў' (Лексика Пол.), *раске́паць* 'зразумець, здагадацца' (Жд. 2), магчыма, пад уплывам *кепова́ць*, гл.

**Раске́піць** 'расшчапіць' (Касп.), *раскяпі́ць* 'раскалоць, расшчапіць' (Нас., Гарэц., Др.-Падб., Жд. 3, Юрч.), *раскяпі́цца* 'расшчапіцца' (Касп.), *раскёпка* 'расшчапленне, расколванне', сюды ж з метафарычным працягам семантычнага развіцця *раскепіцца* 'рассесціся' (рагач., Наша Ніва, 2004, 16 крас.). Да *ске́піць* (гл.) са спрашчэннем падвойнага *-с-* на стыку прыстаўкі і кораня; гл. таксама *скапа́ць*. Параўн. рус. смал. *раскепи́ть* 'раскалоць (бервяно, дровы)'. Параўн. *раскеп* (гл.).

**Раскі** 'завязкі ў фартуху' (малар., Помнікі гіст. і культуры Беларусі, 1971, 3, 42). Да *раса́*$_2$ (< прасл. *ręsa* 'акравак, кутасік, фрэнзлік').

**Раскідо́н** 'небераждлівы чалавек; мот' (Гарэц., Юрч. Вытв.). Да *раскіда́ць, раскідваць* (гл. *кідаць*) з метафарычным пераносам, які фармальна рэалізуецца ў экспрэсіўным суфіксе, параўн. такога ж кшталту *раскіду́ха* 'тс' (Мат. Гом, Юрч. Вытв.); сюды ж таксама *раскіда* 'тс' (Юрч. Вытв.), *раскідлівы* 'марнатраўны' (Гарэц.). Параўн. суч. рус. *раскидо́н* 'дарэмная трата грошай', *закидо́н* 'дзівацтва', *расслабо́н* (ад *расслабіцца* 'зняць стрэс') з жарганізацыяй суфікса *-он* (Земская і інш., Слав. языкозн., XII, 301).



**Ра́скілі** 'прыстасаванне, у якім носяць сена' (драг., ДАБМ, камент.). Дээтымалагізацыя ў выніку трансфармацыі пры засваенні ў гаворцы балтыйскага запазычання, адлюстраванага ў літаратурнай мове як *рэ́згіны* (гл.), а ў дыялектах вядомага ў вялікай колькасці варыянтаў, гл. ЛА, 2, 104; Лаўчутэ, Балтизмы, 21–22; Анікін, Опыт, 265. Магчымы ўплыў тэрытарыяльна і семантычна блізкага *раскі* (гл.).

**Раскірэ́ка** (*раскире́ка*) 'крываногі' (Нас., Касп., ТСБМ), *раскіра́ка* (*рыськіра́ка*) 'тс' (Бяльк., Сл. ПЗБ). Дыялектна абмежаваны фаналагічны карэлят, магчыма, пад балтыйскім уплывам, параўн. *раскірэ́йда* 'тс' (Варл.), да *раскара́ка* (гл.). Дэвербатыў ад *раскірэ́чыць* 'шырока расставіць ногі' (Нас.), *раскіра́чыцца* 'тс' (Ян.) і пад.

**Раско́л** 'збойца, разбойнік', 'гарэза, свавольнік', 'вісус, шыбенік' (Бяльк., Мат. Гом.; дзярж., Нар. сл.; Жд. 3, ТС, Янк. Мат.), 'злы, нялітасцівы чалавек' (Сцяшк. Сл.), *раско́ла* 'хуліган' (Сл. Брэс.), *роско́л, роско́льнік* 'шыбенік, свавольнік' (ТС). Як здаецца, няма падстаў ідэнтыфікаваць з рус. *роско́л, раско́льник*, якія Фасмер (3, 444) выводзіць ад *рас-* і *колоть* у значэнні 'разбіваць, ламаць'; мяркуецца, што яны ўвайшлі ў мову пасля расколу ў праваслаўі пры патрыярху Нікане ў 1654 г., адсюль маглі набыць значэнне 'разбойнік'. Параўн. *накольнік*, гл.; развіццё семантыкі аналагічна да сэнсава блізкіх *вісус, шыбенік* (гл.), і, відавочна, азначала злачынцу, што павінен быў быць пасаджаны на *кол* (гл.), але змог застацца непакараным. *Раско́л* у значэнні 'сектант' (Сержп. Казкі), відаць, запазычана з рускай мовы.

**Раско́ль** 'стары, зношаны венік' (ст.-дар., Бел. дыял.). Няясна; магчыма, да *ро́ска* 'дубец, розга', гл. *розга*$_1$.

**Раско́хацца** 'развохкацца, развойкацца', 'расквахтацца' (Ян.). Ад гукапераймальнага *кох* (гл.).

**Раско́ша**, *ро́скаш* 'празмерны дастатак, пышнасць, велічнае хараство', 'прастор, свабода, пачуццё свабоды, волі', 'спакой' (ТСБМ, Сл. ПЗБ, Ян.), 'воля, прыволле, прастор' (Касп., Байк. і Некр.), 'багацце' (Байк. і Некр.), *роско́ша* 'дадатак' (ТС). Параўн. укр. *ро́скіш* 'празмерны дастатак, задавальненне, асалода', рус.

*ро́скошь* ‘прыемнасць, раскоша’, польск. *rozkosz* ‘роскаш, багацце’, чэш., славац. *rozkoš* ‘радасць, асалода’, славен. *razkošje* ‘роскаш, багацце, радасць’, серб.-харв. *ра̀скош* ‘раскоша’, балг. *разко́ш* ‘асалода’. Звычайна рэканструюецца як **orzkošь* (< **orzkoxj-*) і звязваецца з **koxati* (гл. *кахаць*). Гл. Фасмер, 3, 504; Брукнер, 242; Бязлай, 3, 159; БЕР, 6, 155.

**Раскрыжава́ць**, *раскрыжо́ўваць* ‘распілаваць хлыст на часткі патрэбнай даўжыні’ (навагр., Нар. лекс.; Мат. Гом.). Да **крыжава́ць* ‘рэзаць, пілаваць’ < **križati*, параўн. рус. дыял. *крыжева́ть* ‘рубаць на часткі дрэва’, серб.-харв. *кри̏жати* ‘рэзаць, разразаць (на кавалкі)’, выводзіцца ад **(s)križ-* < і.-е. *skrei-* ‘рэзаць’ (ЭССЯ, 12, 178).

***Раскрышчэ́ння**, *роскрышчэ́нье* ‘скрыжаванне дарог’ (лун., Шатал.). Да *крыж₁* (гл.) з заканамернымі фанетычнымі зменамі на стыку марфем; параўн. аналагічныя, але з захаваннем этымалагічнага кораня *раскрыжаванне*, *крыжавыя дарогі* і пад.

**Раскрэ́сы** ‘скрыжаванне, перакрыжаванне дарог, развілка’ (Мат. Гом.; чач., Жыв. НС), *роскрэ́сны* ‘перакрыжаваны, скрыжаваны’: *роскрэсные дорогі* (ТС). Прыставачнае ўтварэнне ад *крэст* ‘крыж’, параўн. *перакрэст*, *перакрэ́сніца* (гл.).

**Раскудзе́ліцца** ‘рассваволіцца’ (івац., ЖНС). Відаць, да *кудзеля* (гл.) з няясным метафарычным пераносам, магчыма, праз сінанімічнае *распусціцца*, параўн. рус. арханг. *раскудели́ть* ‘распускаць ніткі’ і пск. *раскудели́ться* ‘раззлавацца’. Не выключана сувязь з *праку́дзіць* ‘гарэзнічаць, вычвараць’, *праку́да* ‘ахвотнік да свавольстваў, гарэза’ (гл.).

**Раску́лтацца** ‘раскалмаціцца’ (ашм., Стан.). Паводле аўтара слоўніка, да *гу́лта* ‘логава свінні ва ўскалмачанай саломе’ (там жа), няяснага паходжання.

**Раскура́т** (*рыскура́т*) ‘распуста’ (слаўг., Нар. словатв.). Няясна. Магчыма, з *пракура́т* ‘прайдзісвет’ (гл.), з заменай атаясамленага з прыстаўкай пачатковага *пра-* прыстаўкай *рас-*.

**Раску́рстаць** (*раску́рштаць*, *раску́страць*) ‘разбудзіць, раскатурхаць’ (Сл. ПЗБ), *раску́рстацца* ‘прыйсці да памяці’ (Варл., Сл. ПЗБ). Да *ку́рстацца₂* ‘корпацца, церабіцца’ (гл.), для якога прапануецца крыніца ў літ. *kùrstytis* ‘спяшацца’, што цяжка вытлумачыць у семантычным плане. Магчыма ўзыходзіць да прасл. **kustrati*, параўн. славен. *razkuštrati* ‘узбіць, разлахмаціць валасы’, славац. *kustrit’*, *kúštrit’* ‘трапаць, растрапаць’ і інш. (гл. ЭССЯ, 13, 136).



**Раскярэ́тацца** ‘шырока расставіць ногі’ (швянч., Сл. ПЗБ). Паводле аўтараў слоўніка, фармальна звязана з літ. *išsi-kerė́ti* ‘тс’. Параўн. *раскірэ́ка*, гл.

***Раскярэ́ша**, *розкере́ша* ‘няхлюя, мурза’ (пруж., Непакупны, Связи, 194–195), ‘маруда’ (іван., там жа), укр. дыял. ‘крываногі’, ‘развілка на сасне’. Параўноўваецца (там жа) з літ. *kerė̃ža* ‘разгалістае дрэва, куст’, прэфіксальная форма ў выніку кантамінацыі названай формы з славянскай лексемай тыпу укр. *розкоря́ка*, гл. *раскарака*. У якасці зыходнай формы фанетычна бліжэй літ. *kereišà* ‘няўклюда, нязграбны чалавек’, гл. *керайша*. Параўн. Лаўчутэ, Балтизмы, 67.

**Раслі́на** ‘прадстаўнік раслiннага свету’ (Нас., Касп., ТСБМ), *рослі́на* ‘культурная расліна’ (ТС). Параўн. укр. *росли́на*, польск. *roślina*, чэш. *rostlina*, славен. *rastlina* ‘тс’, рус. дыял. *раслина́* ‘рослaсць’. Ад **росль*, *росля* (гл.) пры дапамозе суф. *-ін(а)*, параўн. рус. *поросль*, *заросли*, польск. *narośl*. Сюды ж *расле́нны* ‘надта ўрадлівы’ (светлаг., SOr, 34, 357).

**Ра́сны₁** ‘ураджайны’ (браг., З нар. сл.; жытк., ЖНС), ‘урадлівы, пышны, разгалісты’ (ПСл), ‘кусцісты; пышны’ (Мат. Гом.), ‘буйны, ураджайны; пышны, густы’ (Ян.). Магчыма, сюды ж *ро́сны* ‘урадлівы, ураджайны’: *росные яблокі* (ТС). Параўн. укр. *рясни́й* ‘густы, пышны, ураджайны (пра плады)’, рус. дыял. *ря́сный* ‘буйны, урадлівы, вялікі памерам’: *рясная вишня*, *рясные звёзды*, *ресно́й* ‘густа пакрыты ягадай’, балг. дыял. *рьо́сан* ‘багаты, урадлівы’. Трэба думаць, форма *ро́сны* зблiжана з *роса́* ‘раса’ (гл. *раса́₁*), параўн. *ро́сно* ‘росна’ (ТС), а *ра́сны* прадстаўляе форму з зацвярдзелым *р-* ад прасл. **ręs-*. Паводле Альшанскага (ЭИРЯ, 9, 139), у выніку зліцця суфікса *-ьn(ъ)* з **ręsa* ‘вісюлька’, параўн. ст.-слав. ръсьнъ, што дало *resьn-yj* ‘густы’. Гл. Фасмер, 3, 474. Відавочна, звязана з *раса́₂* (гл.), што выводзіць значэнне ‘ўрадлівы’ ад першаснага ‘буйна квітнеючы’, ‘маючы вялікую колькасць кветак, парасткаў’, ‘густа абсыпаны квеццем’, з чым звязваліся спадзяванні на добры ўраджай. Гл. таксама *расаваць*.

**Ра́сны₂**, ‘пышны (пра спадніцу)’ (Мат. Гом.), *ра́сный* ‘рознакаляровы’: *пашый мне спадніцу, каб булі расныя брыжы* (брагін.,

Шатал.), *ря́сны* 'густы, багаты, з мноствам складак' (Растарг.), параўн. укр. *ря́сний* 'пра адзенне: з мноствам зборак; шырокі'. Да *ра́сны*$_1$ (гл.).

**Расо́вы** 'рыжы' (Сцяшк.), 'пародзісты' (Скарбы). З польск. *rasowy* 'пародзісты', што ад *ра́са*$_2$ (гл.). Параўн. *ра́савы* (гл.).

**Расо́л** 'салёная вада для засолкі; вадкасць з салёных агуркоў, буракоў, капусты' (ТСБМ, Нас., Касп.; ашм., Стан.; Шат., Сл. ПЗБ, Ян.), *росо́л* 'тс' (ПСл, ТС), 'расольнік' (Ян.), *расо́л* 'страва з адвару' (Варл.), 'кроў; вадкасць з носа' (Нас.). Параўн. укр. *росі́л* 'від ежы', рус. *розсол, росо́л, россо́л* 'тс', польск. *rosół*, чэш. *rosol* 'студзень', славац. *rôsol* 'тс', славен. *razsol* 'сок з квашанай гародніны', серб.-харв. *ра̏сол* 'тс', балг. *разсо́л* 'тс'. Утворана ад **roz-sol-*, што ад **orz-sol-* з далейшай асіміляцыяй *-z-* і спрашчэннем групы *-ss-* > **ros-sol-* > *rosol-* у значэнні 'вада, дзе *рас*пусцілі *соль*'. Значэнне 'кроў' хутчэй за ўсё пад уплывам *ю́шка* 'вадкае ў страве; кроў'. Паводле Віткоўскага (Зб. Русэку, 240), слова са значэннем 'страва' запазычана ва ўсходнеславянскія мовы з польскай, параўн. аднак сцвярджэнне Конюш (ABSl, 29, 120): "tylko na Litwie 'zupa z mięsa z krupami' nazywa się rosołem".

**Расо́ха** 'дрэва з раздвоеным ствалом, развіліна', 'два дрэвы з аднаго кораня', 'спарыш', 'дэталь у ткацкім станку' (ТСБМ; калінк., люб., Сл. ПЗБ; Мат. Гом.), 'разгалінаванне дрэва; месца, дзе зліваюцца ці разыходзяцца дзве пратокі, рэчкі', 'крываногае дзіця', *росо́ха, рассо́ха* (ТС), *ро́суха* 'разгалінаванае дрэва' (Сл. ПЗБ), *расо́шка* 'вілы, любы прадмет з рожкамі' (ТС). Параўн. укр. *розсо́ха* 'вілкі', 'ручкі ў сахі', рус. *рассо́ха* 'тс', рус. дыял. *россо́ха* 'тс', *разсоха* 'разгалінаванне', польск. *rosocha* 'саха', в.-луж., н.-луж., чэш. *rozsocha* 'вілкі', славац. *rozsocha, razsocha* 'тс', серб.-ц.-слав. *рассоха* 'разгалінаванне', славен. *rázsoha* 'вілы', 'дрэва з абрубанымі сукамі', *razsohe* 'вілы для сена', серб.-харв. *ра̏сохе* 'вілкі', балг. *ра́зсоха* 'развілістае дрэва; вілкі'. Утворана як **roz-sox(a)* з асіміляцыяй *-z-* і спрашчэннем групы *-ss-*: **ros-sox(a)* > *rosox(a)*. Сумніўна ўтварэнне непасрэдна ад *саха́* < прасл. **soxa*, з магчымым дыялектным націскам на першы склад, як звычайна ўказваецца (Фасмер, 3, 445; Махек$_2$, 521; Бязлай, 3, 160), паколькі *саха, расоха, посах* або ст.-слав. **посоха**, з аднаго боку, захоўваюць у сабе агульнае значэнне 'палка, галіна з раздвоеным канцом', з другога ж боку развіваюць значэнне канкрэтнай прыла-



ды. Напрыклад, *саха* азначае перад усім 'рала', 'прылада для араня', *расоха* – 'развілісты сук, галіна' і 'вілкі', *посах* – 'падпора, палка'. Імаверна, зыходнае значэнне для названых форм – 'палка, галіна з раздвоеным канцом', параўн. літ. *šakà* 'тс', лат. *saka* 'тс', але і гэта значэнне другаснае да 'тое, што адсечана, расечана, разрэзана'. Прыставачныя формы назоўнікаў, верагодна, утварыліся самастойна, як аддзеяслоўныя, ці то назвы дзеяння ад блізкіх дзеяслоўных форм, што абапіраліся на і.-е. базу **sek-* 'секчы, рассякаць, рэзаць' (Брукнер, 506; Страхаў, Palaeoslavica, 13, 1, 6). Далей **orz-sekti* > **orz-soksa* > **orz-soxa*. Параўн. ст.-в.-ням. *seh* 'нож, меч'. Гл. таксама *расаха́ты, расахе́т, саха.*

**Распаго́дзіцца** 'палепшыцца (пра надвор'е), праясніцца' (Бяльк.; смарг., Сл. ПЗБ; Байк. і Некр.), *роспого́дзіцца* 'тс' (ТС). Параўн. з супрацьлеглым значэннем *рознегодзіцца* ад *нягода* (гл.), *паго́да* 'яснае сонечнае надвор'е', *паго́длівы* 'добры, ясны (пра надвор'е). Гл. *год, паго́да.*

**Распада́цца** 'разрывацца, выбівацца з сіл' (лаг., Жд. 3); *роспа́даны* 'гнілы, сапсаваны (пра грыбы)', *роспа́сціса* 'разарвацца': *душа роспадзецца, як старые запоюць* (ТС). Сюды ж, магчыма, і рэдкае *распа́дак* 'глухое месца': *зблудзіў, зайшоў у нейкія распаткі* (Сцяшк.), параўн. фармальна ідэнтычнае, але семантычнае далёкае рус. *распа́док* 'вузкая даліна ў гарах, лагчына'. Да *па́даць* (гл.), у тым ліку ад стомы. Параўн. *роспадзень, роспаднік* (гл.).

**Распа́зіць** 'разабраць, разняць, ускрыць' (чавус., Ласт.), *роспазова́ць* 'разняць, рассячы ці распілаваць калоду ўдоўж' (ТС). Да *паз* (гл.), параўн. рус. пск., асташ. *распази́ть* 'разабраць, распластаць (рыбу)', смал. 'падзяліць на часткі, палавіны', што, відаць, сведчыць аб агульнай усходнеславянскай дыялектнай інавацыі.

**Распа́куляць** 'раскалмаціць' (іўеў., Сл. ПЗБ). Параўн. *па́кулле* 'пакля' (гл.), польск. зніж. *pakuły* мн. л. 'валасы', літ. *pãkulos*, лат. *pakulas* 'тс', што Лаўчутэ (Балтызмы, 18–19) лічыць запазычаннем у літоўскія гаворкі з ням. *Pakullas* 'вяроўка з рэштак лёну'.

**Распаласава́ць** 'разрэзаць' (Цых.), параўн. чэш. *rozplasati* (obuv) 'разарваць, разадраць'. Да *паласа* (гл.), *паласаваць* 'разрываць, разразаць на палоскі'.

**Распало́г** *(рыспалог)* 'растэрміноўка' (Бяльк.). Ад *распалажыць* 'разнесці па часе', што да *лажыць*, гл.

**Распалта́ць** 'разабраць (напр., кабана)', 'анатаміраваць (труп)', *распалта́ч* 'той, хто разбірае кабана', сюды ж *ро́спалаць* (гл.),

*роспаласць* 'разразанне; анатаміраванне' (Ласт.). У выніку метатэзы ад *расплатáць* (гл.). Магчыма, пад уплывам *полць* (гл.).

**Распанáхтаць** 'разарваць' (Ян.). Гл. *пáнах*.

**Распанóшыцца** 'разрасціся, раздацца' (Ядвігін Ш.). Відаць, ад *паноша* (гл.) ці з польск. *rozpanoszyć się* 'разбагацець', гл. Длугаш-Курчабова, 392.

**Распарóшыць** 'пусціць на вецер; растраціць' (Варл.), параўн. ст.-бел. *роспорóшѣт* (1616 г., Карскі, 1, 441). Да *порах$_1$* (гл.).

**Распарэ́х** 'прарэха' (ганц., Сл. ПЗБ; Ян.) і 'разрэз на адзенні' (Наша Ніва, 2005, 4 лістап.), 'распорка, дзірка' (Сцяшк. Сл., Мат. Гом.), *роспорэ́х, роспорэ́ха* 'разрэз, прарэх' (ТС). Ад *распароць*, гл. *парóць;* параўн. серб.-харв. *рáспор* 'разрэз'. Незвычайная суфіксацыя прымушае дапусціць кантамінацыю *распорак* (гл.), *прарэх* (гл.), параўн. кантамінаваную форму *распрарэ́х* (ганц., Сл. ПЗБ).

**Распасáжыць** 'праматаць, прагуляць', *распасóжыць* 'дарэмна растраціць' (віл., Нар. сл.), *распасáчыць* 'расходаваць' (Касп.), *распасáдзіць* (*рыспысáдзіць*) 'растраціць, растранжырыць' (Юрч.). Няясна; сувязь з *пасаг* (гл.) невыразная ('растраціць усё, уключна з жончыным пасагам'?). Магчыма, звязана з польск. *pasożyt* (**pasorzyt*) 'паразіт, дармаед', адносна якога гл. Брукнер, 399, 478.

**Распасóрыць,** *распашóрыць* 'растраціць' (Варл.; пух., віл., астрав., Сл. ПЗБ), *распасэ́рыцца* 'раздурыцца' (Жд. 2). Гл. *пасóрыць*.

**Распасцéрціся** 'раздацца, раздзьмуцца, раскрыцца, заняць сабой шырокі абшар, шырока сесці або легчы', 'натапырыцца' (ТСБМ; шчуч., Сл. ПЗБ; Бяльк.), *распасцірáцца* 'гаварыць многа' (Растарг.), фіксуецца ў XVI ст. ст.-бел. *розъпостри* (Карскі, 1, 95). Параўн. польск. *rozpostrzeć, rospościerać* 'сцяліць', славен. *razprostirati, razprostreti* 'тс', 'распасціраць'. Паводле Брукнера (522), каранёвая частка ў славянскіх мовах часцей за ўсё ў спалучэнні з прыстаўкай **pro-*, параўн. *прастора, прасцерці* (гл.), з чаргаваннем галосных асновы (< **stre-, *ster-, *stor-, *stьr-* і інш.), сюды ж *распастырыць* 'распасцерці' (Сцяц.), *распастрыць* 'разаслаць, разгладзіць' (Сцяшк. Сл.).

**Распатвóрыць** 'распусціць пры патуранні, раздурыць' (Янк. 3, Жд. 1), 'разбэсціць' (Мат. Гом.), 'распесціць' (маг., Наша слова, 2002, 16 кастр.), *распотворыць* 'распусціць, даць волю' (ельск., Жыв. НС). Гл. *патвараць, патвор*.



**Распатлáны** 'раскудлачаны, растрапаны' (ТСБМ), 'шчыры, самаадданы' (Сцяшк. Сл.), *распэ́тланы* 'кудлаты, непрычасаны' (там жа). Гл. *патлáты*. Развіццё значэння 'шчыры' незразумелае.

**Распатóрыць** 'патраціць на пустое' (Сцяшк. Сл.). Звязана з *пратóрыць, працéрці* (Ласт.), гл. *протар$_2$*.

**Распаткырыцца** 'пільна паглядзець, угледзецца' (Сцяшк.). Да *пáтрыць* 'шукаць, выглядаць' (гл.).

**Распаўсю́дзіць** 'пашырыць сферу дзеяння на каго-небудзь, што-небудзь', 'раздаць, прадаць многім' (ТСБМ), *распаўсюджыць* 'тс' (Байк. і Некр.). Гл. *паўсюдна*.

**Распáх** 'разора' (касцюк., ЛА, 2). Нульсуфіксальнае ўтварэнне ад рэдкага *распахáць* 'узараць'; параўн. *распахáць, распáхваць* 'абганяць бульбу' (ЛА, 2), сюды ж *распахáць* 'разарваць': *распахала прарэз у рубашцы* (Жд. 3) з метафарычным пераносам. Страхаў (Palaeoslavica, 13, 1, 9) лічыць значэнне 'араць' у **paxati* (гл. *пахаць*) другасным, узнікшым на базе сакральнага абвормання ў паўночназаходніх рускіх гаворках.

**Распаця́ківаць** 'марудзіць, доўга разважаць услых, перш чым зрабіць што-небудзь' (ветк., Ск. нар. мовы). Няясна; магчыма, да *цякáць, цікáць* 'высочваць, шукаць' (гл.).

**Распашэ́ндзіць** 'растраціць' (паст., Сл. ПЗБ). Да *расшэ́ндзіць* 'тс' (гл.) з "інтэнсіўным" *-па-* (гл. папярэдняе слова).

**Распераза́ць,** *распераза́цца* 'зняць (з сябе), развязаць пояс, дзягу' (Нас., ТСБМ, Сержп. Казкі, Растарг.), *росперэзáцца* 'тс' (ТС), сюды ж вытворныя *расперя́зка* 'пояс', *расперя́з* 'самая дробная мурашка, якая балюча кусаецца, вымушаючы тым самым распярэзвацца' (Нас.), *разперя́за* 'непадпаясаны, без пояса' (Растрарг.). Да *перазáць* (гл.), параўн. укр. *росперезáти, роспері́зуватися* 'тс'.

**Распёр** 'рыба жэрах' (в.-дзв., Сл. ПЗБ). Скарочаная назва *жэраспéр, шэраспéр* 'тс' (Лекс. ландш., 110), параўн. польск. *rozpiór* 'тс'. Гл. *жэрах*.

**Распіры́ндзіць** 'разбалбатаць' (віл., Жыв. сл.), *распі́рындаваць* 'прастарэкаваць' (Сл. рэг. лекс.), *распіры́нджываць* экспр. 'разважаць пра нешта' (полац., Нар. лекс.), *распіры́нджвацца* 'распараджацца' (лаг., Гіл.). Гл. *пірындзіць*.

**Расплата́ць** 'разарваць' (іўеў., Сл. ПЗБ), *росплата́ць* 'распластаць, разгарнуць, разрэзаўшы ўздоўж' (ТС), *расплата́цца* 'паваліцца і выцягнуцца' (Варл.), 'расцягнуцца' (люб., ЖНС). Гл. *плата́ць₂*.

**Расплаша́цца** 'распасцерціся, распластацца' (Ян.). Відаць, да *плоскі* (гл.).

**Распло́кнуць** 'расшпіліць (аплік, гузік, запанку)' (ТСБМ), *расплікну́цца* 'расшпіліцца' (віл., Сл. ПЗБ). Гл. *плік, плікнуць*, параўн. *заплікнуць* 'зашпіліць'. Няяснымі застаюцца адносіны да літ. *pliknė́ti* 'хадзіць расхрыстаным', літ. *plikà, plikóji* 'голая', з якім аўтары апошняга слоўніка параўноўваюць слова. Гл. таксама Лаўчутэ, Балтизмы, 90.

**Расплінтава́ць** 'разраўняць, ачысціць паверхню зямлі, балота і пад.' (ТСБМ). Да *плінтаваць, плянтаваць* (гл.).

**Расплыта́ць** 'распластаць', 'расцягнуць', 'распляскаць, распляжыць, расцягнуць у бакі' (Байк. і Некр.). Сюды ж *расплыту́ха* 'тоўстая, сытая жанчына' (Сцяц., Сцяшк. Сл.) і, магчыма, *расплутуха́цца* 'распластацца' (Нас., Юрч.). Ад *плытаць*, гл. *плытанка*. Параўн. літ. *plytė́ti* 'рассцілацца, разлягацца'.

**Распо́ра** 'папярочка' (Мат. Гом.), *роспо́ра* 'папярочка паміж слупамі ў калодзяжы', мн. л. *распо́ры* 'апорныя слупы для бэлек у гаспадарчых будынках' (ст.-дар., ЛА, 4), таксама суфіксальныя *распо́рычы* 'тс' (там жа), *роспо́рыч* 'ачэп на папярочнай сцяне' (Мат. Гом.; жыт., Нар. сл.), *распо́рына* 'палка, якая замацоўвае "вобжы" сахі' (віц., Касп.). Да *распіраць* < *перці* (гл.).

**Распо́рак** 'разрэз, выраз у адзенні' (Сцяшк., Сл. ПЗБ), *распо́рка* 'тс' (Сл. ПЗБ). Параўн. польск. *rozporek* 'разрэз у адзенні', славен. *razporek* 'тс'. Да *пароць* (гл.). Для славенскага слова Сной₂ (606) рэканструюе першаснае значэнне – 'месца, дзе адзенне распоратае'.

**Распрана́цца** 'знімаць з сябе верхняе адзенне' (ТСБМ, Бяльк., Сл. ПЗБ), *роспрана́цца* 'скідаць верхнюю вопратку' (ТС), 'раскрывацца' (Сл. ПЗБ). Роднаснае да *вопратка, апра́нуты, распра́таваць* (гл.). Параўн. тыпалагічную паралель *абувацца – разувацца*.

**Распраста́ць** 'зрабіць простым, роўным; разагнуць; выцягнуць' (Нас.; ашм., Стан.; ТСБМ), *распраста́ць, ріспря́стыць* 'распутаць, зняць путы з коней, разпрэгчы каня', *рыспрыста́ць* 'распасцерці, распластаць' (Бяльк.), *роспро́статы* 'вызваліць ад чаго-небудзь, разлучыць, пазбавіць чаго-небудзь' (Лексика Пол.), *роспро́статыся* 'вызваліцца ад чаго-небудзь', 'разлучыцца з кім-небудзь' (Сл. Брэс.), 'вызваліць ад путаў' (Байк. і Некр.). Параўн. укр. *роспро́стати* 'выраўняць, расправіць', рус. дыял. *распроста́ть* 'апустошыць', і асабліва славен. *pròst* 'вызвалены, вольны'. Гл. *просты*.



**Распра́таваць** 'распранаць' (валож., пруж., Сл. ПЗБ), *распра́таць, распра́тацi* 'распрануць', *распра́тацца* 'распранущца', *распра́твацца* 'распранацца' (Сцяшк.). Гл. *апратаць, вопратка*.

**Распра́чыць** 'раскідаць' (шчуч., Сл. ПЗБ). Да *пратаць₁* 'прыбіраць'.

**Распрыва́ць** 'размякаць, разбухаць' (Сцяшк.). Ад *прэць* (гл.).

**Распры́жыцца** 'узнервавацца, раззлавацца' (Сцяшк.). Як пераноснае хутчэй за ўсё звязана з *пры́жыць* 'падскокваць, спружыніць', гл. *прыжкі*.

**Распры́ндзіць** (*расрыньдзіць*) 'разбухнуць' (Касп.). Гл. *апрындзіцца, прындзіцца*, экспрэсіўная аснова якіх дапускае пэўную расплывістасць значэння.

***Распрыхну́цца**, *роспрыхну́цца* 'разарвацца, аддзяліцца' (ТС). Да *пры́хнуць* 'пыхнуць, дзьмухнуць' (ТС), гл. *прыхаць*.

**Распрэ́гчы** 'вызваліць каня ад вупражы' (ТСБМ), *разпрагчы́* 'тс' (Ласт.). Параўн. рус. *распря́чь* 'тс', славен. *razpreči* 'тс', балг. *разпре́гна* 'тс' і інш. Прасл. **orz-pręgti*, гл. *упрэгці*.

**Распурзо́ліць** 'размазаць' (астрав., Сл. ПЗБ). Гл. *разбузоліць, разбурзо́ліць*.

**Распу́ста** 'свавольны, раздураны, разбэшчаны, амаральны спосаб жыцця' (ТСБМ, Нас., Бяльк., Шат., Варл., Сл. ПЗБ), 'той, хто распусціўся, свавольнік' (ТСБМ, Нас., Бяльк.), *роспу́ста* 'тс' (ТС); *распу́ства* 'распусны спосаб жыцця' (смарг., Сл. ПЗБ), сюды ж *распу́ставаць* 'сваволіць' (Сцяшк. Сл.), *разпуставацца* 'рассвавоціцца' (Растарг.). Дэвербатыў ад *распусціцца* 'паводзіць сябе непрыстойна, разбэсціцца' (Бяльк.), што са спалучэнняў тыпу *пусціцца ў блуд* 'пайсці ў блуд', *пусціцца сарама́* 'згубіць сорам' і пад. Гл. *пусціць*, першаснае значэнне якога 'зрабіць вольным, вызваліць' захавалася ў ст.-бел. *распусты* 'адпушчаныя або збеглыя сяляне' (Гарб.).

**Распу́т₁** 'дарога падчас ранняй вясны': *Белы сняжкі разойдуцца, / Быстры рэчкі разальюцца, / Сам к табе прыбуду / Па вялікаму распуту* (Кос.). Да *распу́цце* (гл.) з маскулінізацыяй лексемы (не выключана, што толькі ў песенным ужы-

ванні для захавання рытма і рыфмы) і ўзнаўленнем у сувязі з гэтым гістарычнага *-т* у корані. Параўн. рус. дыял. *распу́та* 'час, калі дарогі становяцца малапраезнымі; становішча дарог у такі час'.

**Распу́т**$_2$ 'распуста, разбэшчанасць' (Растарг.). Нульсуфіксальны субстантыў ад *распу́тный* 'разбэшчаны' (Бяльк.), якое ўтворана ад *распу́цін* 'сваволькік, лайдак' (Ян.), *роспу́ціца* 'распуснік' (ТС), *распу́ціцца* 'згінуць (?)' (Яшк. Мясц.).

**Распу́цце**$_1$ 'вясеннае бездарожжа, распуціца' (Нас.), *роспу́ціца, роспу́цье* 'тс' (ТС). Ад *пуць* 'шлях, дарога' (гл.). Параўн. рус. дыял. *распу́титься* 'стать няпутным (пра бездарожжа)'.

**Распу́цце**$_2$ 'месца, дзе дарога раздвойваецца, развілка' (Яшк.), *роспу́тнік дорогі* 'раздарожжа, развілка дарог' (ТС). Параўн. славен. *razpotje* 'тс'. Да *пуць* (гл.).

**Распшы́каць** 'зрасходаваць, патраціць' (карэліц., Жыв. НС). Да *пшык*, гл.

**Распэ́йкаць** 'распусціць, растраціць' (пух., Жд. 3; карэліц., Жыв. сл.). Няясна. Магчыма, да *пэкаць* (гл.) з экспрэсіўным інфіксам у корані і далейшым развіццём семантыкі.

**Распя́ць** 'расправіўшы, туга нацягнуць', 'расцягнуць, расправіць (напрыклад, шацёр)' (ТСБМ, Растарг., Бяльк.), *росп'я́ць* 'тс' (ТС); сюды ж *распя́ць* 'прыбіць цвікамі да крыжа рукі і ногі', *распя́цце* 'раскрыжаванне' (ТСБМ), запазычаныя са старраславянскага **распѧтие** 'тс' і 'крыж', гл. Сэндзік, Зб. Русэку, 174. Да *пяць*$_2$.

**Расса́** 'густыя зараснікі розных водных траў' (Касп.). Гл. *раса́*$_2$.

**Рассама́ты** 'вілаваты (пра дрэва)' (асіп., ЛА, 5). Вынік "узнаўлення" словаўтваральнай структуры – з прыстаўкай, параўн. *расама́ты* (гл.).

**Рассасу́льваць** 'разважаць, доўга абмяркоўваць' (Касп.), *рассасу́ля* 'які шмат гаворыць, разважае' (міёр., Нар. Сл.). Гл. *рассусолівць*.

**Рассаха́ткі** мн. л. 'азярод' (Сл. ПЗБ). Гл. *расахе́т*.

**Рассахо́ра** 'неахайная жанчына, распусцёха' (Бяльк.). Няясна. Параўн. *расоха* (гл.) і *сахор* 'вілы на ўгнаенне', гл.

**Ра́ссе**, *ря́ссе, ря́сьсе, ра́ссё, ра́сьё, рассё, ра́сся* зборн. 'старое адзенне; рвань, лахманы, транты' (Нас., Касп., Гарэц., Растарг., Бяльк., Юрч., Янк. 2; слаўг., клім., чэрык., лельч., ЛА, 5), сюды ж



таксама *ря́сище* 'падранае адзенне; рыззё' (Нас.) з узмацняльным суфіксам. Формы характэрныя для беларуска-рускага сумежжа і ўтвараюць адзіны арэал, параўн. рус. бран. (трубч.) і смал. *ря́сье, рясьё* 'адзенне, парванае ў лахманы'. Да *раса́*$_2$, параўн. польск. дыял. *rzęsa* 'парванае адзенне', *rząski* 'лахманы, транты', якія Борысь (SEK, 4, 227) разглядае як другасныя, што праз стадыю 'акраўкі, растрапаныя ніткі на краях адзення' асацыююцца з вейкамі (rzęsami) на павеках.

**Расста́йны** 'звязаны з расставаннем'; 'той, што разыходзіцца (шлях, дарога)' (ТСБМ), 'развітальны' (Сцяшк.), *раста́йная даро́га* 'ростані' (бераст., ЛА, 2), *раста́йныя даро́гі* 'тс' (Сл. ПЗБ). Параўн. польск. *droga rozstajna*. Гл. *ростань, растанкі*.

**Расста́нне** 'расставанне' (ТСБМ), *раста́не*, у выразе *нет раста́ня* 'вельмі прыемна' (брасл., Сл. ПЗБ) семантыка, імаверна, іншая, менавіта 'развітанне', г. зн. *нет раста́ня* 'не хочацца развітвацца'; такім чынам, да *ростань* (гл.), параўн. і *растанкі* (гл.).

**Рассто́яцца** 'распагодзіцца' (лаг., Жд. 2). Да *стаяць* (гл.) з семантычным развіццём, абумоўленым наяўнасцю (і значэннем) словаспалучэння *стаіць* (добрая, -е) *пагода/надвор'е*. Параўн. рус. пск., смал. *расстоя́ться* 'тс'. Асноўнае значэнне ў *россто́іцца* 'спыніцца, застаяцца' (ТС).

**Расстрэ́цца,** *растрэ́цца* 'расстацца пасля сустрэчы' (Кос., Стан.), *росстрэ́цца* 'размінуцца, разысціся' (ТС), *растрэ́цца* 'расстацца' (Пал.), сюды ж *расстра́цца* 'тс' (Ян., Юрч. Вытв.) са зменай націскнога пад уплывам *расста́цца*. Да *стрэцца* (гл.) з семантычным развіццём, абумоўленым адным са значэнняў прэфікса *раз-/рас-*, параўн. таксама *расстрава́цца* 'развітвацца' (чач., ЖНС), *растрава́цца* 'расставацца' (Ян.).

**Рассу́рываць** 'раскідваць, выдаваць, траціць' (Нас.). Да *сур* 'смецце' (гл.), параўн. *распасо́рыць* (гл.).

**Рассусо́ліваць** 'доўга разважаць, гаварыць, траціць час на размовы', 'расцягваць, доўга рабіць' (ТСБМ), *рассусу́ліваць* 'гаварыць не па справе' (Бяльк.); сюды ж *рассусу́ліць* 'зразумець, уцяміць' (жлоб., Жыв. сл.). Гл. таксама *рассасуліваць, рассасу́ля.* Да *су́сла, сусо́лка* (гл.).

**Рассы́пацца** 'разрадзіцца' (Нас., Байк. і Некр., Касп., Сержп. Прык., ТСБМ; ваўк., Стан.). Эўфемізм, да *рассы́пацца* 'упасці, раз-

ляцецца', якое да *сыпацца, сыпаць* (гл.). Параўн. *роскідацца* 'разрадзіцца' (ТС).

**Ра́сся** 'рыззё' (Бяльк.). Гл. *рассе*.

**Раст**, мн. л. *расты́*, 'парастак' (астрав., Жд. 1). Нульсуфіксальнае ўтварэнне ад *расты́*, параўн. *расток, храсток* (гл.). Сюды ж (калі гэта не запазычанне з украінскай) *раст* – "маленькія-маленькія, з галоўку шпількі, сінія, іншым часам белыя кветкі, вылазяць амаль адразу, як сыдзе снег" (Караткевіч, Маладосць, 1987, 1, 159). Параўн. укр. *раст* 'ключыкі, Primula veris L.; курaслеп, Anemona nemorosa L.', макед. *рас* 'куст', балг. *раст* 'дубчык', *ра́сте* 'галінкі для тутавага шаўкапрада'. Параўн. таксама аналагічныя, але аддзеяслоўныя рус. дыял. *раст* 'лепшы час для росту зеляніны і пад.; для сенакосу, збору малака (на масла) і пад.', 'маладая трава (на пашы)', што, паводле БЕР, 6, 186, запазычаны са старaславянскай; а таксама славен. *rȃst* 'рост, расліннасць', серб.-харв. *ра̑ст* 'расліна', макед. *раст* 'рост', ст.-слав. растъ 'рост, вырастанне', якія з'яўляюцца рэгулярнымі адпаведнікамі прасл. **orstъ* < *orsti*, гл. *рост, расці*.

***Растаба́рваць**, *ростаба́рваць* 'весці пустыя размовы, доўга разважаць' (ТС). Да незафіксаванага, але цалакам верагоднага **таба́рыць*, калі ўзяць пад увагу рус. ніжагар. *таба́рить* пры рус. літар. і дыял. *растаба́ривать, растаба́рывать, растаба́ровать* 'размаўляць; балбатаць; жартаваць; выхваляцца'. Бяспрэфіксны дзеяслоў Фасмер (4, 6) схільны звязваць са ст.-яўр. *dibbēr* 'гаварыць' і *dāβār* 'слова, вестка', адкуль яўр.-ням. *dibbern, döbern* 'гаварыць' (там жа, 3, 434), што, зразумела, вельмі няпэўна. Трубачоў (там жа) прапанаваў бачыць тут прэфіксальныя вытворныя ад асновы *бар-*, рыфмаванага варыянта *тар-*, параўн. *тарыбары* (гл.). Гл. таксама *раздабарваць*.

**Растані́** мн. л. 'перакрыжаванне дарог', 'развілка, месца, дзе дарога раздвойваецца, разыходжанне дарог, раздарожжа' (Байк. і Некр., Яшк.), *растанькі́* 'тс' (Ян., Мат. Гом.), *растанцы́* 'тс' (Мат. Гом., Янк. 1), *расстанцы́* 'тс' (Сцяшк.). Гл. *ро́стань*.

**Раста́нкі** мн. л. 'разыход, расстанне' (Байк. і Некр.). Параўн. з рус. *ро́зстáни* 'развітанне' і 'пачастунак, перад доўгім развітаннем', а таксама 'развілка дарог'. Сцвярджаецца (Даль$_3$, 1564), што таго, хто адпраўляўся ў дарогу, традыцыйна праводзілі да скрыжавання і развітваліся там. Адсюль *растайна дарога* (гл. *расстайны*), дзе трэба расстацца. Гл. *расстание*.



**Растанчы́ца** 'якая расстаецца з кім-небудзь' (Кос.). Субстантыў ад *раста́нне* < *расста́нне*, гл.

**Растапша́** 'разява' (Бяльк.), 'няўмелы, нязграбны' (віл., Сл. ПЗБ). Гл. *растóпа*$_2$.

**Растапы́рыць** 'няўклюдна расставіць, развесці, рассунуць у бакі' (ТСБМ, Сл. ПЗБ), *ростопу́рыць* 'расставіць, разявіць, распусціць' (ТС). Параўн. рус. дыял. *растопы́рить* 'тс'. Апошняе ўтворана з экспрэсіўным *-то-* ад *распырить* (гл. *пырыць*), што, паводле Фасмера (3, 446) азначае 'расправіць, распушыць пер'е'.

**Растапу́цце** 'разводдзе' (Юрч. Вытв.). Кантамінацыя *распу́цце*$_1$ (гл.) і *растапіць* (пра лёд), гл. *тапіць*.

**Растара́цца** 'набыць, прыдбаць, знайсці (пераважна пазычыць што-небудзь)' (бялын., Янк. 3). Дээтымалагізацыя ў выніку скарачэння доўгага зычнага на стыку прыстаўкі і кораня ў *расстарацца*. Да *старацца* (гл.).

**Растаргну́цца** 'развесціся (пра мужа і жонку)' (рэч., Нар. сл.). Нягледзячы на наяўнасць зыходнага дзеяслова *торгаць* (гл.), хутчэй за ўсё размоўнае (іранічнае?) засваенне рус. *растóргнуть* (шлюб), параўн. таксама рус. дыял. *расторг* 'развод, скасаванне шлюбу'.

**Растармáха** 'нехлямяжы, нязграбны чалавек' (Ласт.), *растармаха́ны* 'раскудлачаны' (Сл. ПЗБ), *растармо́ха* 'неахайны чалавек' (Сцяшк. Сл., Сл. рэг. лекс.), *растармо́ханы* 'неахайны', *растармасíць* 'разарваць, тузаючы' (Нас.). Гл. *тармасіць*.

**Растаро́п**$_1$ (*рістаро́п, рыстаро́п*) 'разуменне, развага', 'чалавек цямкі, растропны, разумны' (Бяльк.), *растаро́па* 'кемлівасць', 'кемлівы' (Юрч.), 'кемлівая, дасціпная, прабіўная асоба' (капыл., Жыв. сл.), сюды ж *растаро́пны* 'кемлівы ў справах, упраўны' (ТСБМ); параўн. укр. *росторо́па* 'цямкі, здагадлівы, кемлівы', *розторо́пний* 'тс', рус. *росторо́пный* 'кемлівы', польск. *roztropny* 'кемны'. Узводзяць да прасл. **torp-*, першапачаткова 'паваротлівы, шустры', параўн. грэч. τρέπω 'паварочваю', лац. *trepit* 'вярцець', ст.-інд. *trápatē* 'саромецца; адварочвацца', *tṛpás* 'неспакойны', гл. Фасмер, 3, 446 (з літ-рай). Брант (РФВ, 25, 30) лічыць роднаснымі літ. *tar̃pti* 'мець поспех, працвітаць', *tarpà* 'працвітан-

не'. Згодна з Махэкам$_2$, 649, можа быць звязана з літ. *stropė́ti* 'быць старанным', параўн. літ. *stropà* 'стараннасць, руплівасць'. Гл. *тарóпіцца* 'старанна ўглядацца'. Сувязь з *торап* 'пуд, страх' (гл.) магчыма праз прасл. **torpiti* 'рабіць цвёрдым, акачанелым' (параўн. *атарапець*, гл.) < **torpa* 'зацвярдзенне, акачанеласць' (гл. Сной у Бязлай, 4, 213). У такім выпадку прыстаўка *рас-* надае слову супрацьлеглае значэнне.

**Растарóп$_2$** 'бездараж, распуцце' (Нас., Мат. Гом., Бяльк.), 'расталая дарога' (мазыр., ГЧ), 'разводдзе' (навагр., капыл., З нар. сл.; Мат. Маг.), 'гразкасць' (Нас.), 'многа гразі; слата; бездараж' (Янк. 3), *растарóпа* 'грязь (вясною, восенню)' (Нас.), 'слата' (Сл. ПЗБ), *растарóп'е* 'гразь, слата, бездараж' (Янк. 3), *растарóпіца* 'слата' (Сл. ПЗБ), 'бездарожжа' (Нас., Яруш., Гарэц., Бяльк., Варл.); сюды ж *растарóпіць* (*ръстарóпіць*) 'растаць, набракнуць вадой, развесці (пра снег)' (гарад., Нар. лекс.), *растарапíць* 'прыгатаваць': *зелле свінням растарапіла* (Мат. Гом.), да апошняга параўн. рус. дыял. (комі, сіб.) *расторóпить* 'разбавіць вадой ці інш.', *растарóпило* 'развязло (пра снег)'. Няясна. Зыходны дзеяслоў тыпу **тарапіць* 'распускаць' захаваўся ў вытворных, параўн. *тарапя́нка* 'страціўшая раўнавагу' (гл.). Параўн. *распýціца, роспуск$_2$* (гл.). Не выключана сувязь з літ. *strópti* 'зацвярдзець, падсохнуць', тады зыходны дзеяслоў мог мець форму **рас-(с)тарапіць* з супрацьлеглым значэннем, параўн. папярэдняе слова. Гл. таксама *ростарапень*.

**Растарóпліваацца** (*растарóплюваца*) 'развідняць' (Ян.). Магчыма, да папярэдняга слова.

**Растарóпша** 'расліна Silybum marianum Gaertn.' (Кіс.). Народная назва *калючкі*; відаць, запазычана з рус. *расторóпша* 'тс' ці укр. *росторóпша* 'тс', 'расліна мардоўнік'.

**Растарэ́кваць** 'шмат гаварыць' (чэрв., Гіл.; Сцяшк. Сл.). Да гукапераймальнага *тáры*, гл. *тары-бары, тараторыць*, параўн. рус. *тарáкать* 'балбатаць', славен. *tarę́kati* 'тс' і інш. Параўн. *прастарэка* (гл.). Сюды ж, відаць, *растарэк* 'нязгода, сварка' (Гарб.).

**Растатóха** 'расхрыстаны, неахайна апрануты чалавек' (гродз., Жыв. НС), *растатóханы* 'расхрыстаны, неахайны' (Сцяшк.), *растатóхацца* 'раскрычацца' (Сцяшк. Сл.). Утварэнне на базе займенніка *то* 'тое' (гл.), параўн. *тóта* (гл.), *тата́ (тата́)* (ТС),



які з'яўляецца "замяшчальнікам" іншых элементаў з адмоўным значэннем, параўн. *ён тае́* 'не зусім нармальны, здаровы і інш.'. Параўн. рус. *растотó* 'асаблівы спосаб завязваць хустку на галаве' (Фасмер, 3, 446).

**Растáць** 'перайсці ў вадкі стан пад уздзеяннем цяпла', 'знікнуць, рассеяцца' (ТСБМ, Сцяц.), *ростáць* 'распусціцца; адтаяць' (ТС). Гл. *таяць*.

***Растванíць**, *ростванíць* 'развесці, размачыць' (ТС). Гл. *рóстваць, твань*.

**Раствó** 'свята нараджэння Хрыста, каляды' (ПСл), ст.-бел. *розтво* (1387, "этимологическое написание вм. *с* из *-сс-*", Карскі, 1, 284). Карскі (там жа) выводзіць праз стадыю асіміляцыі **росство* з *рожьство* 'тс', гл. *раздво, ражаство*.

**Раствóр** 'аднародная вадкасць, атрыманая растварэннем якоганебудзь рэчыва' (ТСБМ, Нас., Сцяшк.), 'рэдкая гразь' (Касп., Нас.), *роствóр* 'непраходная гразь' (ТС). Вытворныя ад *растварыць* 'разбавіць, замяшаць, рашчыніць' (Сл. ПЗБ), што да *тварыць* (гл.); параўн. заўвагу Жураўлёва (Язык и миф, 553) аб тым, што значэнне 'рэдкі, няцвёрды' ўзнікае ў рус. *раствор* дзякуючы ўзаемадзеянню семантыкі кораня са значэннем прыстаўкі *раз-/ рас-*, што дае агульнае значэнне 'ліквідаваць вынік дзеяння, названага матывуючым дзеясловам', для якога пастулюецца ідэя 'згушчэння, зацвярдзення', параўн. *тварог* (гл.).

**Растóк** 'парастак, маладое сцябло расліны' (ТСБМ, Сл. ПЗБ), *ростóк* 'вырастак клубня, семені расліны' (ТС, Сл. ПЗБ), *расткí* 'карэнні' (Сл. ПЗБ). Ад *расці* (гл.), параўн. *храсток* (гл.).

**Растóка** 'рытвіна, размытая веснавой вадой' (Ласт.), 'паводка' (Сцяшк. Сл.), 'месца, у якім шырыня ракі значна павялічваецца' (Ластоўскі, Выбр. тв., 422), 'адліга' (Сл. ПЗБ). Параўн. польск. *roztoka* 'вузкая даліна; ручай', старое таксама 'адліга, разводдзе', чэш., славац. *ráztoka* 'зліццё малых ручайкоў у большую плынь', в.-луж. *rostoka (roztoka)* 'роў, па якім вада збіраецца ў плынь ці азярцо', макед. *растока* 'разгаліноўванне ракі', *расток* 'разліў'. Прасл. **orztoka*, што з **orz-* (гл. *рас-*) і **tekti* (гл. *цячы, ток*), гл. Шустар-Шэўц, 2, 1243. Махэк$_2$ (510) бачыць у чэшскай і славацкай назвах адлюстраванне погляду знізу, што прысутнічае ў славен. *ráztoka* 'кол з развілкай у плоце', славац. *ráztok* 'развілістая

5а Зак. 2628

галіна', паводле Фурлан (Бязлай, 3, 160), у выніку змены nomen actionis > nomen acti з *(orz)točiti 'раздзяліць, развесці'.

**Растóкі** мн. л. 'развілка, перакрыжаванне дарог' (Мат. Гом.). Гл. папярэдняе слова.

**Растóмляць** 'здымаць стомленасць' (валож., Жыв. сл.). Дээтымалагізацыя ў выніку скарачэння доўгага зычнага на стыку прыстаўкі і кораня ў *рас-стомляць*. Да *стома* (гл.). Семантычнае развіццё – пад уплывам аднаго са значэнняў прэфікса.

**Растóпа**$_1$ 'паводка; разводдзе' (Ласт.), *растóп, растóпіца* 'тс', 'распуціца, паводка' (Яшк.), параўн. рус. *рóстополь, рóстопель* 'вясеннее таянне снегу і разводдзе', што ад *растапіць*, гл. *тапіць*. Гл. Фасмер, 3, 506.

**Растóпа**$_2$ 'вельмі тоўстая і нехлямяжная жанчына', *растапшня́* (*ръстъпшня́*), *растапча́* (*ръстъпча́*) 'тс' (міёр., З нар. сл.), *растапша́* 'разява' (Бяльк.), 'хто няўмелы, нязграбны' (Сл. ПЗБ), параўн. укр. *ростопша́* 'нялоўкая, непаваротлівая жанчына'. Відаць, ад *растаптáць* 'наступіць зверху, прыціснуць; раздушыць', гл. *таптаць*. Сюды ж *растóпак* 'зношаны лапаць (наогул абутак)' (Касп., Стан.).

***Растóпша**, *ростóпша* 'дуброўка серабрыстая, Potentilla argentea L.' (лельч., Нар. лекс.), параўн. укр. *ростопша́* 'растаропша, Silybum marianum L.'. Няясна; магчыма, звязана з папярэднім словам з-за разложыстасці расліны.

**Растóржка** 'несабранасць': *расторжка мыслей;* 'разрыў дамовы': *расторжка вѣнца* (Нас.), што сведчыць пра непасрэдную сувязь з *тóргаць* (гл.). Параўн. таксама *рóстыржка* 'тс', што выводзіцца з *таргáцца* 'тузацца' (Ласт.), гл. *торгацца*. Параўн. *растаргнуцца* (гл.).

**Растóркаць** 'распіхаць, разварушыць, абудзіць, растармасіць' (Нас., ТСБМ), 'раздаць пакрыху' (Жд. 3). Да *тóркаць* (гл.).

**Растóрыч** 'інструмент накшталт цыркуля, якім вырэзваюцца дны (у бандарстве)' (Серб.). Да *затóрыч* 'тс' (гл., значэнне пададзена недакладна, пра што сведчыць суфікс nomina instrumenti *-ыч*) у выніку дыферэнцыяцыі прыставак *раз-/ рас-* і *за-*, параўн. *запрагаць* і *распрагаць*.

**Растóў** 'востраў сярод балота, на якім расце высокі лес' (віц., Яшк.). Слова няяснага паходжання запісана Раманавым у Веліж-



скім павеце, параўн. рус. дыял. *ростовóй* 'жывы, на корані (пра лес)'. Да *расці* (?), гл.

**Растравáцца** 'расставацца', *растрáцца* 'развітацца' (Ян.). Гл. *расстрэцца*.

**Растравíць** 'моцна раздражніць, развярэдзіць' (ТСБМ, Сл. ПЗБ), *растраўля́цца* 'расстройвацца, быць у тузе' (Ян.), сюды ж *растрáўка* (*растрáвка*) 'развярэджанне', *растрáўца* (*растрáвца*) 'хто расстройвае, разладжвае' (Нас.), да апошняга параўн. ст.-бел. *роствавца* 'растратчык' (Ст.-бел. лексікон). Да *травіць* (гл.).

**Растрáга** 'перашкода' (лях., Сл. ПЗБ). Ад *страгнуць* (гл.).

**Растрапэ́йла** 'неахайная жанчына', (Сл. рэг. лекс.), *рострэ́па* 'неахайная і бесклапотная жанчына' (ТС), *растрэ́паніца* 'неахайніца' (Сцяшк. Сл.). Ад *растрапáць* 'разарваць, раскудлаціць' (гл. *трапаць*) з экспрэсіўнай фанетыкай і суфіксацыяй. Сюды ж *растрóпа* 'расцяпа' (ганц., Сл. Брэс.).

**Растрóп** 'чартапалох, Carduus L.' (Нас., Гарэц.), 'дурнап'ян, Datura L.' (Гарэц., Касп.), параўн. укр. *рострóпша* 'мардоўнік, Echinops sphaerocephalus L.'. Магчыма, да *трапаць* 'біць' (гл.), паколькі расліна выкарыстоўваецца для магічных дзеянняў (гл. Мяркулава, Очерки, 96).

**Растрóпны** 'ўвішны, умелы' (Жд. 2), ст.-бел. *ростропный* 'разважлівы, разумны', сюды ж *ростропъ* 'разважлівасць, прадбачлівасць' (Ст.-бел. лексікон), *розтропность* 'тс': *розтропность рѣчи* (Альтбаўэр). Запазычана з польск. *roztropny* 'разумны, кемлівы, хуткі' (Цвяткоў, Запіскі, 2, 60; Булыка, Лекс. запазыч., 131). Параўн. *растаропны* (гл. *растароп*$_1$).

***Растрóханы**, *ростóханы* 'разгублены' (ТС). Няясна.

**Растрýены** 'развярэджаны' (Байк. і Некр.). Ад *растрýіваць* 'развярэджваць' (Нас.), што да *труіць* (гл.), аналагічна да *растравіць* (гл.).

**Растрýмкацца** 'разныцца, разрумзацца' (ТС). Вобразнае ўтварэнне ад гукапераймальнага *трумкаць* 'трынкаць' (гл.).

**Растрýха** 'садовая астра кітайская, Callistephus chinensis Cass.' (Кіс.). Няясна. Магчыма да наступнага слова з-за махрыстасці кветак расліны.

**Раструхáнка** 'растрапаная жанчына' (Жд. 2), *раструхонка* 'тс': *раструхонка кудлы развесіла* (Сержп. Прык.), *раструхáйла* (*ръструхáйла*) 'разявака, расцяпа' (ушац., Нар. лекс.). Параўн.

*раструхнýцца* ‘разыйсціся, раз’ехацца’ (Ян.), *раструхівацца, растрýсываць* ‘растрасаць’ (Мат. Гом.), што да *трух, трус* (гл.), сюды ж *растýрханы, раструханы* ‘раскудлачаны’ (Сцяшк. Сл.). Параўн. таксама *раструхан* ‘неахайна адзеты’ (Колас), *растурхáн* ‘тс’ (карэліц., Жыв. НС), што, магчыма, звязана з наступным словам.

**Раструхáр** ‘кастратар’ (Сл. ПЗБ). Запазычана з польск. *rostrucharz* ‘гандляр, пасярэднік у гандлі коньмі’, ст.-польск. *rostuszar, rostucharz* ‘тс’ з с.-в.-ням. *rostūscher*, нова-в.-ням. *Rosstauscher* ‘тс’ (Брукнер, 463; Нававейскі, Zapożyczenia, 261), якое ў польскіх гаворках мае таксама значэнне ‘нешта калматае, недарослае, неабсохлае’ (Куцала, Słownik).

**Растрýчаны** ‘развярэджаны’ (Бяльк.). Да *труціць* (гл.), аналагічна да *растравіць* (гл.).

**Растрýшчыць** ‘раздушыць, раздрабіць’ (ТСБМ, Бяльк.). Гл. *трушчыць*.

**Растрыбушы́ць** ‘распароць, спустошыць, растрэсці ўнутранасці’ (ТСБМ, Бяльк., Байк. і Некр.), *росторбушы́ць* ‘тс’ (ТС). Гл. *трыбушыць, трыбух*.

**Растры́сціць** (*растры́сціць*) ‘раскрышыць на дробныя часткі’ (Нас.). Да *трысціць* (гл.).

**Растурхаць** ‘разбудзіць, раскатурхаць’ (Сцяшк. Сл.): *растурхаў сярод ночы* (Сержп. Казкі), *растýркаць, рістурькáць* ‘разварушыць, растармашыць’ (Бяльк., Ян., Юрч., Жд. 3). Вытворныя ад *турхаць, туркаць* (гл.).

**Расты́** мн. л., *расткі* ‘карэнне’, ‘адросткі, храсткі на бульбе’ (Сл. ПЗБ, Сцяшк.). Гл. *раст, расток*.

***Растыльбушы́ць**, *ростыльбушы́ты* ‘раскідаць, растрыбушыць’ (Лексика Пол.). Утворана ад *тэльбух* ‘чэрава’ (гл.) аналагічна да *растрыбушы́ць* (гл.).

**Расты́рка** ‘звадка, сварка’ (Нас.), ст.-бел. *ростырка, ростыркъ* ‘нязгода, нелады, спрэчка, сварка, рознагалоссе’ (Ст.-бел. лексікон). Запазычана з ст.-польск. *roztyrk*, польск. *rozterka* ‘душэўны разлад, няўпэўненасць’ (Цвяткоў, Запіскі, 2, 55; Булыка, Лекс. запазыч., 38).

**Расфуфы́ра** ‘краля, модная, модніца’ (ТСБМ; міёр., З нар. сл.). Да *фуфырыцца* ‘надувацца’, магчыма, запазычанага з рус. *фыриться* ‘тс’, паводле Фасмера (3, 212), анаматапеічнага паходжання, якое перакладаецца як *надымáцца* (Ласт.).



**Расхаля́піць** ‘шырока расчыніць (дзверы, вароты, акно)’ (Варл.). Вакалізаваны варыянт да *хля́паць* (гл.), параўн. гукаперайманне *хляп* (пра рэзкае расчыненне ці закрыццё дзвярэй, варот і інш.).

***Расхарáтаць**, *росхорáтаты* ‘разбурыць, раскідаць’ (бяроз., Шатал.). Ад *харатаць* (гл.).

***Расхéўрыс**, *росхéўрыс* ‘разыходжанне’ (ТС). Іранічнае ўтварэнне на базе *хéўра* ‘кампанія’ (гл. *хэўра*) або *хаўрýс* ‘супольнасць, суполка’ (гл.).

**Расхістаны** (*рісхістаный*) ‘расшпілены, расхрыстаны’ (Бяльк.). Да *хістаць* (гл.), параўн. з іншай асновай укр. *хисти́ти* ‘прыкрываць, захінаць, абараняць’ (< **xystati*, гл. ЭССЯ, 8, 159), прадстаўленага ў *хісьць* ‘прыхільнасць’ (Нас., Бяльк.), гл.

**Расхіхлáць** ‘зняць з маладой захіхланне і надзець жаночы чапец, пасля чаго маладая пераходзіць з дзявочага стану ў жаночы’ (Некр.). Да *хіхол* (гл.).

**Расхлебястáцца** экспр. ‘расхістацца’ (дзятл., Сл. ПЗБ). Паводле аўтараў слоўніка, адпавядае літ. *išsi-klebetúoti* ‘тс’, што нсабавязкова, бо выводзіцца з *st*-інтэнсіва *хлебястаць* (< **xlębati* ‘хістацца’, гл. ЭССЯ, 8, 32).

**Расхлéйдацца** ‘расшпіліцца’ (іўеў., LKK, 16, 187). Грынавяцкене і інш. (там жа) параўноўваюць з літ. *(išsi)skleĩsti* ‘разгортвацца, распускацца’. Сюды ж *расхлéйстаны* ‘расхрыстаны’, *расхілéйстрыць* ‘шырока раскрыць’ (Сцяшк. Сл.).

**Расхлі́стацца** ‘расшпіліцца; расхрыстацца’ (Сл. ПЗБ). Відаць, вытворнае ад *хлыстаць* ‘сцябаць’ (< *xlystati, гл. ЭССЯ, 8, 42), параўн. гукаперайманне *хлісь* ‘хуткі ўдар’ (Нас.), гл.

**Расхлябáстаць** ‘разбіць’ (Жд. 3). Да *хлябастаць*, што ўяўляе інтэнсіў да *хля́баць, хля́паць* ‘стукаць’ (гл.).

**Расхля́біць** ‘развезці (пра дарогу)’ (лаг., Гіл.), ‘парасчыняць; расхрыстаць’ (Юрч.), сюды ж *расхля́бнуць* ‘сапсавацца (пра дарогу)’, *расхля́біца* ‘бездарожжа’ (Мат. Гом.), *расхля́біцца* ‘расчыніцца (пра вароты)’ (Сцяшк. Сл.). Да *хляба* (гл.); Трубачоў (ЭССЯ, 8, 33) прапануе размяжоўваць утварэнні ад гукапераймальнага **xlębati*, што абазначаюць *хлябанне, хлюпанне* і пад., і вытворныя ад **xlębъ* ‘запор, плаціна’ (параўн. ст.-слав. **хлѧбь**

'вадапад', гл. Фасмер, 4, 248), што аднак цяжка ажыццявіць у сувязі з дыфузным характарам значэнняў.

**Расхлябастáцца** 'разрагатацца' (Сл. рэг. лекс.). Да экспрэсіўнага дзеяслова з шырокай семантыкай *хлябястаць* (гл.), параўн. выраянт з "іканнем" *хлібістаць* (*chlibistać*) 'хлюпаць (пра ваду); рагатаць' (Варл.), варыянт *хлябаць, хлябтаць* (гл.).

**Расхля́шчыць** 'адчыніць насцеж (дзверы, вокны)' (навагр., Жыв. сл.), *расхлéшчыць* 'адчыніць, раскрыць' (мазыр., Жыв. НС), *расхлéсціць* 'шырока раскрыць' (Сцяшк. Сл.). Гл. *хляшчом* 'аткрыта'.

**Расхóднік** 'расліна Sticta pulmonacea, ужываецца простымі людзьмі замест груднога чаю' (Нас.), 'расліна зайцава капуста', 'падалешнік, лугавая расліна' (ТСБМ, Сцяшк.), 'блюшчык, Glechoma hederacea L.' (Кіс.), *разхóднік* 'тс' (Ласт.), *росхóднік* 'тс' (ТС), укр. *росхíдник* 'зайцава капуста, Sedum acre L.', рус. *росхóдник* 'тс', польск. *rozchodnik* 'тс', харв. *razhodnik* 'паслён, Solanum dulcamara L.', славен. *razhōdnik* 'тс'. Тлумачыцца тым, што яго адросткі "расходзяцца па зямлі" (Махэк, Jmena, 95; Мяркулава, Очерки, 110). Гл. *ход, хадзіць*.

**Расхры́даны** (*разхры́даны*) 'з незашпіленым каўнерам; з незакрытай шыяй і грудзямі' (Растарг.), сюды ж *разхры́дацца* 'не зашпіліць сукенку, каўнер; быць з незакрытай шыяй і грудзямі', *разхры́да* 'неахайны, з незашпіленым каўнерам' (там жа). Гл. *хрыда*.

**Расхры́станы** 'расшпілены, расхлістаны' (ТСБМ, Сл. ПЗБ, Бяльк., Ян.), *расхрэ́станы* 'тс' (Скарбы), *расхрыстáны* 'тс' (Янк. Мат.). Дзеепрыметнік ад *расхрыстáцца* 'агаліць грудзі' (Нас.), 'расшпіліцца і расхінуць адзенне' (Варл.), *расхрэ́стацца* 'тс' (Сцяц.). Параўн. укр. *росхрúстаний* 'з адкрытымі грудзямі, незашпілены', рус. экспр. *расхрúстанный* 'у расшпіленай, разарванай на грудзях вопратцы', што ўтворана ад *расхристать* < **христать* 'рваць', гл. Мяркулава, Этимология–1970, 194, дзе прыводзіцца толькі рус. дыял. *хрыстáть* 'скабліць, стругаць'. У сувязі з гэтым дапускаецца выводзенне з *расхрыданы* (гл.) з распадабненнем зычных: **xrydti* > **xrysti* > **христать* 'рваць' (там жа). Гл. аднак *хры́ста* (*хрúста*) 'той, хто ходзіць незашпілены' (Нас.), *хрысцéнь* (*хрисцéнь*) 'хто ходзіць з голымі грудзямі; прастак' (Нас.), што не выключае ўтварэнне ад экспрэсіўнага *хрысцíць* 'біць, лупцаваць' (гл.) аналагічна да *расхлістацца* (гл.) ці на аснове апошняга; да фанетыкі параўн. укр. *росхрúстя* 'хто ходзіць з расшпіленай сарочкай'.



***Расхэйдус**, *росхэ́йдус* 'развод' (ТС). Параўн. з *расхéўрыс* (гл.). Іранічнае ўтварэнне ад *расхадзíцца, разыйсцíся* 'скасаваць шлюб'.

**Расцві́ць** 'развярэдзіць': *рану расцвіў* (валож., Сл. ПЗБ). Няясна, відаць, звязана з *цвяліць* (гл.).

**Расці́** 'станавіцца большым, павялічвацца, развівацца' (ТСБМ), *росцí* 'тс' (ТС), *росць* 'тс' (Бяльк.). Параўн. укр. *ростú*, рус. *растú*, ст.-польск. *róść* 'тс', чэш. *růsti*, славац. *rásť*, в.-луж., н.-луж. *rosć*, палаб. *rüst*, серб.-харв. *рáсти*, славен. *rasti* 'тс', балг. *растá*, макед. *расте* 'тс'. Прасл. **orsti* выводзіцца з прасл. **red- / *rod-* > **rodt-*, параўн. славен. *rediti* 'карміць, рабіць тоўстым, расціць, расці', *redivo* 'сілкуючы элемент'.

**Расці́на** 'расліна' (Ласт.), параўн. укр. *ростúна* 'тс', славен. *rastlina* 'тс'. Ад *рост* (< **orstъ*) 'працэс росту' з суфіксам *-іна*, што надае слову прадметнае значэнне. Паводле Німчука (Давньорус., 234), у аснове слова аддзеяслоўныя ўтварэнні з фіналямі *-т, -ть*, у тым ліку *рость* 'расліннасць' (гл. *росць₂*), з суфіксам адзінкавасці, параўн. ст.-слав. **растити** 'вырошчваць'.

***Расцялéпа**, *розтэлéпа* 'чалавек, які робіць усё абыякава' (беласт., Ніва, 1979, 24 чэрв.). Да *целяпáць* (гл.).

**Расцяцёха** (*растетёха*) 'тоўстая непаваротлівая жанчына' (Растарг.). Вытворнае ад *тетёхать* 'няньчыць' (гл. *цяцёхаць*), што да гукапераймальнага *цёх* (гл.).

***Расчахну́ць**, *росчахну́ць* 'расхапаць; разарваць' (ТС), *русчахну́ты* 'разадраць, раскалоць удоўж (два ствалы, дзве галіны)', *русчахну́тысь* 'разадрацца' (брэсц.), *расчахну́цца* (*рошчэхну́цца*) 'разбіцца' (хойн., ГЧ). Вытворнае ад *чахаць* (гл.), што да гукапераймання *чах*, гл.

**Расшабуня́ць** (*рышшыбуня́ць*) 'раскідаць' (чавус., Нар. сл.), *расшабуня́цца* 'паводзіць сябе больш развольнена, бессаромна' (Нас.). Да *шабуняць* (гл.).

**Расшадóбаць** 'уразумець, дайсці да сэнсу' (слонім., Жыв. НС). Ад *шадобаць* (гл.).

**Расшалóпаць** 'зразумець, раскумекаць, разабрацца' (ТСБМ, Байк. і Некр.), *рысшалóпіцца* 'разабрацца' (Бяльк.). Ад *шалопаць* (гл.).

**Расшвóрка**, *расшавóрка, рашвóрка* 'доўгі брусок, што злучае заднюю вось з перадком', 'від калёс для перавозкі доўгіх дроў' (Сцяц.; в.-дзв., Шатал.). Да *рашворка* (гл.).

**Расшóрыць** ‘распусціць, растраціць’ (Варл.), ‘разбурыць’ (віл., Сл. ПЗБ). Параўн. *распасорыць* (гл.). Значэнне ‘разбурыць’ аўтары апошняга слоўніка тлумачаць уплывам літ. *šorà* ‘шум, хваляванне, мітусня’, *šorúoti* ‘бегаць, хутка рабіць, спяшацца’.

**Расшýпіць** ‘зразумець’ (Касп., Мядзв.). Да *шупіць* (гл.).

**Расшы́каць** ‘распусціць (грошы)’ (Скарбы). Параўн. *распшыкаць* (гл.), зменёнае, магчыма, пад уплывам *шык, шыкаваць* (гл.).

**Расшышэ́ць** ‘разбагацець і заганарыцца’ (лаг., Гіл.), *рашшышэ́ць* ‘распусціцца’ (віл., Нар. сл.), ‘раздурэцца’ (леп., ЖНС). Няясна; параўн. *шы́шланне* ‘маёмасць’ (Касп.), гл.

**Расшэ́ндзіць** ‘неэканомна растраціць’ (Сцяшк. Сл.), *росшэндзіць, росшэ́ндрыць, росшэндзе́рыць* ‘растраціць, разматаць’ (ТС). Відаць, на аснове імітатыва хуткага руху, параўн. *шэ́нды* (гл): *шэнды-брэнды* ‘туды-сюды’, параўн. *распшы́каць* ‘растраціць, разматаць (грошы)’ (гл.).

**Ра́ся** (*ря́ся*) ‘неахайны чалавек’ (Шымк. Собр.), ‘апранутая ў рыззё жанчына’ (Рам. 8), *ра́ся* ‘неахайная жанчына’ (маладз., Жд. 2); сюды ж, магчыма, і *ра́ся, ро́ся* ‘персанаж у гульні, падобнай да гульні ў квача’ (ТС). Хутчэй за ўсё, звязана з *ра́сы* ‘махры, рыззё’ (лельч., Нар. лекс.), *ра́ссе* (*ря́ссе*) ‘лахманы’, гл. *ра́са₁*, аднак для апошніх слоў не выключана сувязь з *раса́₂,₃* (гл.).

**Рася́нка** ‘трава расянка’ (ТСБМ), *расіца* (Байк. і Некр.), *раса́* ‘тс’ (лельч., Жыв. сл.). Гл. *расічка*.

**Ра́та** ‘адна з частак агульнай платы, доўгу і пад.’ (ТСБМ, Сл. ПЗБ), ‘тэрмін нейкай аплаты’ (Варл.), ‘чарговая павіннасць, павіннасць па чарзе’ (ТС), ‘чарга’ (Сл. ПЗБ), ‘чарга пасці жывёлу’ (Сцяшк. Сл., З нар. сл.). Параўн. польск. *rata* ‘тс’< ням. *Rate* ‘частка, доля, частковы плацёж’ < лац. *ratus* ‘аблічаны, вызначаны’, *rata pars* ‘вызначаная частка’. Адзначаецца з XVI ст., запазычана з лацінскай праз польскую (Булыка, Лекс. запазыч., 84).

**Ра́таваць** (*ра́товаць*) ‘ваяваць за нешта; шумець, буйстваваць’ (Нас.). Параўн. рус. *ра́товать* ‘змагацца, адстойваць’, дыял. ‘біцца’, серб. *ра̏товати* ‘ваяваць’. Да *раць* (гл.).

**Ратава́ць** ‘пазбаўляць ад небяспекі, пагрозы, гібелі; берагчы’ (ТСБМ, Касп., Шат., Стан., Сл. ПЗБ), *ратава́ць, рытыва́ць, рютува́ць, рятува́ть* ‘тс’ (Бяльк.), *ратава́ць* (*ratavać*) ‘дапамагаць’ (Варл., Сл. ПЗБ), *ратова́ць, рэтова́ць* ‘даваць паратунак’ (ТС), *ретова́ць* ‘спяшацца дапамагчы ў бядзе’ (Нас.), ст.-бел. *ретовати, ратовати* ‘тс’. Запазычана праз польск. *ratować* з ням. *retten* ‘тс’, фанетычна і марфалагічна адаптаванае яшчэ ў сярэдне-польскі перыяд (Нававейскі, Zapożyczenia, 83). Формы з каранёвым *-е- (-э-)*, упершыню зафіксаваныя ў 1514 г. (паводле Карскага, 1, 107: “*е* на месте *а* не после мягкого согласного”), больш набліжаныя да зыходнай нямецкай формы, што не выключае прамога запазычання. Ад *ретовати* магчыма развіццё рус. *рятóвать* з яканнем, што Фасмер (3, 447) вызначае, як “гіперграматычнае *я*”. Гл. таксама Булыка, Лекс. запазыч., 41. Сюды ж, відаць, смал. *рята́* ‘дапамога, ратаванне’ (Дабр., Этн., 4), што суадносіцца з польск. *rata!, raty!* ‘крык дапамогі’.

**Ратазе́й** ‘разявака’ (в.-дзв., Сл. ПЗБ), *ротазе́й, ратазі́ня* ‘тс’ (Нас.), *ратазе́іна* ‘тс’ (міёр., Нар. словатв.), *ратазе́ў* ‘тс’ (Юрч. Вытв.). Параўн. рус. *ротозе́й* ‘тс’, дыял. *ротозёва* ‘тс’. Складанае слова з *рот* (гл.) і аддзеяслоўнага *-зей* (з варыянтамі) ад *зяваць* (гл.). Параўн. *разява* (гл.). Параўн. кампазіт з адваротным парадкам кампанентаў *раззеўрат* (гл.).

**Рата́й** ‘араты’ (ТСБМ), ‘араты, земляроб’ (Сл. ПЗБ, Кольб., ПСл; стол., Нар. лекс.; З нар. сл., Мат. Гом.; івац., Жыв. сл.; Сл. Брэс., ТС, Лексика Пол.), *рітáй* ‘тс’ (Бяльк.), *оратáй* ‘тс’ (Лексика Пол.); *аратáй* ‘тс’ (Ян.), параўн. укр. *ратáй*, рус. *рáтай* ‘араты’, польск., н.-луж. *rataj* ‘парабак, падзёншчык; земляроб’, палаб. *råtoj*, чэш., славац. *rataj* ‘араты, парабак’, славен. *rátaj*, серб. *ра̀тај* ‘тс’, балг. *ратáй* ‘парабак’, макед. *ратај, ратеј* ‘хто цяжка працуе’, ст.-слав. ратаи ‘араты’. Праслав. **ra + tajь* < **or-tajь*, ад прасл. дзеяслова **orti* ‘араць’. Параўн. літ. *artojas* ‘тс’, ст.-пруск. *artoys* ‘тс’; у аснове якіх зыходнае і.-е. **er- / *or- / *ar-* з шырокай семантыкай ‘раздзяляць, распорваць, рваць, драпаць’, параўн. *разараць* (гл. *разарыць*). Старажытная мадэль з суф. *-тай* сустракаецца ў назвах выканаўцаў дзеяння, напрыклад, *гультай*, рус. *ходатай, глашатай* (Фасмер, 3, 447; Бязлай, 3, 155; БЕР, 6, 190). Мартынаў (Лекс. балтызмы, 25) лічыць лексічным пранікненнем прыбалтыйскага **artojis* > прасл. **ortajь*, паколькі суфікс *-ta-* з нарашчэннем *-io* не сустракаецца ў іншых індаеўрапейскіх мовах, акрамя балтыйскіх і славянскіх. Паводле Шустэра-Шэўца (2, 1208) гутарка ідзе пра суфікс **-ajь*, а *-t-* адносіцца да асновы

*ar(t)- 'араць', як у рус. *ра́тай* 'воін' (гл. *раць, ратнік*), аналагічна літ. *árti* 'араць' > *artójis* 'араты', што не пераконвае. Гл. таксама *араты.*

**Рата́р** 'земляроб, араты' (Ласт.). Параўн. славац. дыял. *ratár* 'араты', в.-луж. *ratar* 'селянін; араты', славен. *rátar, arátar* 'араты', серб.-харв. *ра̏тар*, балг. *ратар* (< серб., гл. БЕР, 6, 190), рус. фальк. *ратарь* 'араты, земляроб' (СРНГ). Прасл. **ortarь* лічыцца другаснай формай, узнікшай шляхам замены суф. *-*ajь* больш жывым суф. *-*arь* з першаснага **ortajь* (гл. *ратай*) (Шустар-Шэўц, 2, 1208), параўн. аднак паралельныя грэч. ἀροτήρ, лац. *arator* 'араты', для якіх рэканструюецца і.-е. **arH-ter/ tor-* як nomen agentis да **arH-* 'араць' (Сной, гл. Бязлай, 3, 155). Адзінкавасць фіксацыі не дае ўпэўненасці ў народным характары слова, гл. таксама з іншай суфіксацыяй *аратнік, аратня́к* 'араты' (Лексика Пол.).

**Ратато́нда** 'няўдалы чалавек' (Сл. рэг. лекс.). Магчыма, экспрэсіўнае пашырэнне *ратонда* (гл.).

**Рата́тус** 'смак' (лаг., Сл. ПЗБ). Няясна. Параўн. каш. *rututú* 'бульбяны суп', якое Борысь (SEK, 4, 221) параўноўвае з гукаперайманнем – польск. дыял. *ru-tu-tu* 'гук бубна' і адпаведнымі фізіялагічнымі рэакцыямі. Магчыма, сюды ж рус. ярасл. *рататуй* 'суп без мяса'. Іранічнае ўтварэнне?

**Ратаўё** (*рытуўё*) 'чаранок рыдлёўкі' (Бяльк.), *ра́туўя, ръатаўё, рутаўё* 'тс' (віц., чашн., лёзн., мсцісл., ЛА, 2), *ра́тва* 'дзяржанне ў лапаце' (лёзн., ЛА, 2), а таксама *ратліска* (*ратлиско*) 'ручка ў вілах' (Сл. рэг. лекс.), *ра́тлішчо* 'дзяржанне ў качарзе' (карэліц., ЛА, 4). Параўн. укр. *ра́тище* 'дзіда', *ратови́ще* 'дрэўка дзіды', рус. *ратови́ще* 'тс', якія адносяць да *ратны, раць* (гл.), параўн. Фасмер, 3, 448.

**Ра́тва** 'карункі' (Сл. Брэс.). Няясна. Памылкова расшыфраваны запіс *ро́шва* 'тс' (гл.)?

**Ра́тман**$_1$ гіст. ст.-бел. 'член магістрата старажытнай Рыгі' (Ст.-бел. лексікон; Карскі, 1, 204), упершыню фіксуецца ў 1300 г. (Булыка, Запазыч.). Непасрэднае запазычанне з с.-н.-ням. *râtman* 'тс', параўн. Фасмер, 3, 447.

**Ра́тман**$_2$ 'старшы над плытагонамі, які кіруе праводкай плытоў праз небяспечныя месцы' (зах.-палес., Кольб.). Гл. *ротман.*



**Ра́тнік**$_1$ 'воін, баец, салдат' (ТСБМ), 'ваяўнік' (Нас.). Да *ратны*$_1$, *раць* (гл.).

**Ра́тнік**$_2$ 'вялікі, звычайны селядзец' (Нас.). Няясна. Магчыма, ад *ратнік*$_1$, параўн. рус. *бе́шеная сельдь, бе́шенка, весёлая рыба* (гл. Ліндберг–Герд, Словарь, 69–70), што называюць розныя віды селядцоў, відаць, з-за іх баявога ("ваяўнічага") характару. Параўн. і наступнае слова.

**Ра́тны**$_1$ 'ваенны, баявы' (ТСБМ, Нас.): *ратны чарвяк* 'лічынка грыбнога камара', паходжанне назвы тлумачыцца яе паводзінамі: "Лічынкі гэтага насякомага збіраюцца ў вялікую групу і пачынаюць "падарожнічаць". Яны белага колеру і паўзуць суцэльнай лентай, шырынёю да двух сантыметраў і даўжынёю да чатырох–шасці метраў, за што і атрымалі сваю народную назву" (Кахманюк, Родная прырода, 1978, 6, 13). Гл. *раць.*

**Ра́тны**$_2$ 'арэндны': *ратные грошы* (Нас.). Ад *ра́та* (гл.).

**Рато́нда**$_1$ 'круглая пабудова' (ТСБМ), 'тоўстая жанчына' (Сл. ПЗБ), параўн. польск. жарг. *rotunda* 'таўсцяк'. Праз польскую з лац. *rotundus* 'круглы'.

**Рато́нда**$_2$ 'жаночая доўгая накідка без рукавоў' (ТСБМ), *ратэ́нда* 'шырокае адзенне' (Сл. рэг. лекс.), параўн. рус. *рото́нда* 'жаночы плашч без рукавоў'. Праз польск. *rotunda* 'тып пелерыны ці спадніцы' (Віткоўскі, Słownik, 166) з франц. *rotonde* 'тс', што да лац. *rotundus* 'круглы'.

**Рато́рда** 'спецыяльная печ на смалакурным заводзе' (Скарбы). Параўн. *рэто́рта* 'хімічны посуд з выгнутым горлам' (ТСБМ), што, відаць, запазычана з рус. *рето́рта* 'тс'. Тэхнічны тэрмін запазычаны, хутчэй за ўсё, вусным шляхам (азванчэнне *т* у інтэрвакальным становішчы) з ням. *Retorte* 'тс', што з франц. *retorte* з лац. *retortus* 'загнуты назад, выгнуты' (< *retorqueō, -ēre*), гл. Фасмер, 3, 475.

**Рату́нак** 'ратаванне, дапамога' (ТСБМ, Бяльк.), *рату́нок, рêту́нок* 'дапамога ў бядзе' (Нас., ТС), *ряту́нак* 'тс' (шум., рас., Сл. ПЗБ), 'плач' (?) (Жд. 2). Ст.-бел. *ратунок, рятунок , ретунок* (1514 г.; Булыка, Лекс. запазыч., 41), што з ням. *Rettung* 'тс' праз ст.-польск., параўн. польск. *ratunek* 'тс'. Фанетычная і марфалагічная адаптацыя, у тым ліку элемента *-ung* (ж. р.) > *-ек/ -ок/-ак* (м. р.), верагодна, праз стадыю **retunk*, як адзначае Брук-

нер (454), з далейшым развіццём галоснага паміж збегам зычных. Гл. *ратаваць*.

**Ра́туша** ‘орган гарадскога самакіравання ў Заходняй Еўропе і будынак, дзе ён размяшчаўся’ (ТСБМ, Шымк. Собр.), ст.-бел. *ратуша, ратушъ* ‘будынак магістрата’ (Ст.-бел. лексікон). Праз адаптаванае польск. *ratusz* ‘ратуша’, а ў польскай, магчыма, праз чэш. з с.-в.-ням. *râthûs* ‘будынак паседжанняў гарадской рады’ < *rât* ‘рада’ + *hûs* ‘будынак’ (XIII–XIV стст.). У старабеларускай адзначаецца з 1445 г. (Булыка, Запазыч., 274). Гл. таксама Галай, Роднае слова, 1997, 5, 58.

**Рат́эльны** ‘спагадлівы, чулы’ (смарг., Сл. ПЗБ), *рат́эльны, рахт́эльны* ‘знаходлівы, дасціпны’ (Скарбы), ст.-бел. *ретельный* ‘пабуджальны, руплівы, добрасумленны’ (Ст.-бел. лексікон). Параўн. польск. *rzetelny* ‘зарадны, шчыры, добрасумленны’, якое Брукнер (476) выводзіць з *źrzetelny* ‘празрысты, відочны’; далейшае развіццё, магчыма, пад уплывам чэш. *zřetelný* ‘зразумелы, уважлівы’, параўн. *míti na zřeteli* ‘мець на ўвазе’.

**Рат́энты** ‘справы (гаворыцца з дакорам)’ (Нас.), ст.-бел. *ретент* ‘вылічэнне’ (Ст.-бел. лексікон). Праз польск. *retenta* ‘рэшта запазычанасці’ з лац. *retentus* ‘затрыманы’.

**Раўга́н** ‘струмень поту’ (Сцяшк. Сл.). Гл. *рага*.

**Раўга́ч** ‘плакса’ (Мат. Маг. 2; Сцяц.). Да *раўці* (гл.) з няяснай суфіксацыяй, магчыма, пад уплывам наступнага слова (гл.).

**Раўге́ня** ‘запараная страва ці напітак з заквашанага цеста з жытняй мукі, саладуха’ (Сл. ПЗБ; докш., Янук.); сюды ж, магчыма, з метафарычным пераносам *раўге́ша* ‘кулага’, ‘няўклюдны чалавек; разявака’ (Касп.). Літуанізм з тыповым балтыйскім суф. *-еня* (літ. *-iẽnė*), ад літ. *ráugas* ‘закваска’, *ráugti* ‘квасіць’, параўн. *rauginė* / *raugiẽnė* ‘гарох з кіслым цестам’, ‘гатунак квасу’, ‘каша на соладзе’. Падобнымі па ўтварэнні з’яўляюцца *расаленя, крупеня, таўкеня* (гл.). Гл. Лаўчутэ, Лекс. балтызмы, 20; Лаўчутэ, Балтизмы, 32; Анікін, Опыт, 261.

**Рауда́нь**, *раўдо́нь* ‘нізкі, роўны і шырокі бераг ракі, абалонь’ (Ласт.). Няясна; магчыма ў выніку перастаноўкі зычных з *раўнадзь* ‘раўніна’. Гл. *раўнядзь, роўнядзь*.

**Раўдо́нік** ‘грыб падасінавік’ (воран., Сцяшк.; Сл. ПЗБ). Адаптаваны балтызм, параўн. літ. *raudonikis* ‘тс’ ад *raudónas* ‘чырвоны’ (Цыхун, Лекс. балтызмы, 53; Лаўчутэ, Балтизмы, 72), параўн. *чырвонагаловік* ‘тс’ (гл.).



**Раўка́ты** ‘васпаваты, рабы’ (Сл. ПЗБ). Аўтары слоўніка параўноўваюць з літ. *raukúotas* ‘маршчыністы’, што да літ. *raukaĩ* ‘складкі, маршчыны’.

**Ра́ўкаць** ‘квакаць’: *жабы раўкаюць* (шчуч., ДАБМ, камент.). Параўн. рус. *ря́вкать* ‘гаркаць’. Гукапераймальнае.

**Раўнава́га** ‘ўстойлівае становішча, спакой’ (ТСБМ, Нас.). Лічыцца запазычаннем з польск. *równowaga* ‘тс’ або калькай з ням. *Gleichgewicht* ‘тс’, што ў сваю чаргу калькуе лац. *aequilibrium* ‘тс’, параўн. укр. *рівнова́га* ‘тс’, рус. *равнове́сие* ‘тс’ (Фасмер, 3, 428).

**Раўна́ць** (*ровна́ць*) ‘раўняць, параўноўваць; даваць пароўну’ (Нас.), ‘раўняць, параўноўваць’ (Ян.), стараж.-рус. *ровнати* ‘тс’ (Смаленская грамата 1229 г.), параўн. укр. *рівня́ти, рімна́ти* ‘раўняць; параўноўваць’, польск. *równać* ‘тс’, чэш. *rovnati* ‘тс’, славен. *ravnáti* ‘раўняць; рабіць роўным’. Сюды ж ітэратыў *раўнава́ць* ‘раўняць; параўноўваць’ (ТСБМ, Нас., Арх. Федар.), *роўнова́ць* ‘тс’ (ТС). Ад *ро́ўны* (< **orvьnъ*), гл. Параўн. *раўняць* (гл.).

**Раўні́вы** ‘ахоплены зайздрасцю, недаверам, нявер’ем у каханні’ (ТСБМ, Сл. ПЗБ), сюды ж *раўні́ць* ‘раўнаваць’: *раўніў ка ўсім* (Ян.); *рэўні́вы* ‘тс’ (ТС), ст.-бел. *ревн҃икъ* ‘раўнівы’ (XVI ст., Карскі, 2–3, 36). Параўн. укр. *ревни́вий*, рус. *ревни́вый* ‘хто сумняваецца ў адданасці, шчырасці пачуццяў’, польск. *rzewniwy* ‘расчулены, усхваляваны’, чэш. *řevnivý*, серб.-харв. *ревнив, ревњив* (з рускай, Глухак, 526), балг. *ревни́в*, ст.-слав. **рьвьнивъ, ревнивъ** ‘хто падазрае ў нявернасці’. Прасл. **rъvьnivъ(jь)* утворанае ад **rъvьnъ* ‘старанны, імклівы’, параўн. серб.-харв. *ре́ван* ‘сумны’, славен. *réven* ‘бедны, жалюгодны’, польск. *rzewny* ‘чулы, чуллівы; шчыры, адданы’, якое звязваюць з *раўці* (гл. *раўсці*), гл. Фасмер, 3, 455; БЕР, 6, 199. У народнай мове звязваецца з дзеясловам *раўнава́ць* ‘прыраўноўваць, супастаўляць’, параўн. *раўнаваць* (*ровнова́ць*) ‘зраўноўваць; параўноўваць; даваць правільны кірунак, прымяняць; не давяраць у каханні’ (Нас.); *роўнова́ць* ‘пытаць (?)’: *До крыніцы побежала/ Гей ліце свое роўновала* (Доўн.-Зап., Пін.), што да *роўны* (гл.). Гл. таксама *рэўнасць*.

**Раўні́на** ‘роўная, без гор, пагоркаў і паніжэнняў зямная паверхня’, ‘роўнае месца, роўнядзь, роўнае поле’ (ТСБМ, Ласт., Сл. ПЗБ, Сцяшк.), *раўніна́* ‘тс’ (ваўкав., Сл. ПЗБ; ашм., Стан.), *роўніна́* ‘нешта выключна роўнае; роўная мясцовасць, роўнядзь’ (ТС);

ст.-бел. *ровнина* (1616 г., Карскі, 1, 415). Параўн. укр. *рівни́на* 'тс', рус. *равни́на* (з ц.-слав.) 'тс', польск. *równina* 'тс', серб.-харв. *равни̏на* 'тс', славен. *ravnína* 'тс', балг. *равнина́*, ц.-слав. *равьнина* 'тс'. Дэрыват ад прасл. **orvьnъ* са значэннем 'роўны' (гл. *роўны*) з далейшым утварэннем пры дапамозе суф. *-in(a)* са значэннем 'месца, прастора', падобна як *цесны – цясніна* і інш. (БЕР, 6, 140). Меркаванні пра запазычанне гл. Кохман, Зб. Бархудараву, 160.

**Раўно́шчы** 'рэўнасць' (Сцяшк. Сл.). Абстрактны назоўнік на *-ошчы*, якім прыпісваецца ўкраінскае паходжанне, параўн. *любошчы*, *радашча* (гл.). Да *рэўнасць* (гл.).

**Раўня́дзь** 'роўнае месца, раўніна' (Нік. Очерки, Касп., Гарэц.), *раўня́дзь* 'раўніна; роўная паверхня' (леп., Стан.), *ро́ўнядзь* 'роўнае месца' (Бяльк.). Вытворныя ад *роўны* (гл.) пры дапамозе суф. *-ядзь* (< *-en-dь- > *-ędь > *-ядзь*, гл. Мее, Etudes, 322, 323; Аткупшчыкоў, Из истории$_2$, 149, 150).

**Раўня́ць** 'выроўніваць; параўноўваць між сабой' (Нас., Бяльк., Сл. ПЗБ), ітэратыў *роўнёва́ць* 'тс' (ТС), параўн. укр. *рівня́ти*, рус. *ровня́ть*, ст.-рус. *ровняти*, балг. *равня́*. Суадноснае з *раўнаць* (гл.); паводле Карскага (1, 323), гэта асобныя марфалагічныя ўтварэнні, што магчыма, узыходзяць да розных зыходных форм, параўн. *ро́вень*: *я ровень ёму* (ТС) (< **orvьnь*?). Гл. *роўны* (*роўня*), *ровень*.

**Раўпа́ты** 'васпаваты, пакрыты струпамі' (трак., ігн., Сл. ПЗБ). Аўтары слоўніка параўноўваюць з літ. *raupúotas* 'тс', сюды ж *раўпы́* 'струпы', параўн. літ. *raupaĩ* 'воспа'.

**Раўці** 'рыкаць'; 'моцна гаварыць, спяваць, крычаць', 'моцна ўголас плакаць' (ТСБМ, Ян., Сл. ПЗБ), *роўці́* 'тс' (Мат.), *рэ́ўці* 'тс' (Нас., Стан., Ян., Мат. Гом.), *рэўці́* 'тс' (ТС), *раўсці́* (Сл. ПЗБ, Стан.). Параўн. укр. *ревти́* 'тс'. Прасл. **reuti*, у большасці славянскіх моў інфінітыў выраўнены па асабовых формах **revǫ*, **revetь*, параўн. рус. *реве́ть*, серб.-харв. *рѐвати*, славац. *revat'* 'тс'. Роднасныя ст.-інд. *rávati, rāuti, ruvati* 'раве, крычыць', грэч. ὠ-ρῦμαι 'раву', с.-н.-ням. *rüien* 'раўці' (Фасмер, 3, 456; Глухак, 526; БЕР, 6, 196). Гл. *русць, русці*.

***Раўча́ць**, *роўча́ць* 'мяўкаць': *коты роўча́ць* (Мат. Гом.). Гукапераймальнага паходжання, параўн. в.-луж. *rjawčeć* 'тс', утварэнне на базе анаматапеі (Шустар-Шэўц, 2, 1221).



**Раўчу́к,** *раўча́к* 'невялікі ручай', 'неглыбокі роў з вадой', 'калдобіна, выбоіна, далок' (ТСБМ, Сл. ПЗБ, Яшк., Ян.), 'канаўка пад капяжом хаты для сцёку вады' (Яшк.), 'рэчка' (Ян.), *раўча́г* (слаўг., Яшк.), *раўчо́к* (Сл. ПЗБ, Бяльк.), *ро́ўчак* (Сл. ПЗБ). Утворана з выкарыстаннем суф. *-(ч)ак/-(ч)ук* з агульнай семантыкай 'нешта малое ад пэўнай назвы', параўн. *ваўчак, ваўчук, хлапчук* і пад. Адсюль *роў-* + *-чук* ці *равок* + *-ук* / *-ак* > *раўчу́к, раўча́к, ро́ўчак* 'малы роў'. Гл. *роў$_1$*.

**Ра́ха** 'неахайніца': *раха ходзіць без спадніцы* (латг., Новы час, 2003, 23, 7), параўн. укр. *ря́ха* 'чапуруха'. Паводле Горбача (Арго, 30) сувязь апошняга з укр. *ра́ха* 'маладзіца, жанчына' другасная, зыходная форма з цыганскага *раклі* 'дзеўка (не цыганка)', што не пераконвае. Супрацьлеглае значэнне ў выніку атаясамлівання *ня-* (*не-*) у *няраха* (гл.) з адпаведнай узмацняльнай часціцай (гл. *не-*). Гл. *атраха*.

**Раха́ва** 'замарашка, гразнуля' (Бяльк.). Гл. папярэдняе слова, словаўтварэнне як у *разява* (гл.).

**Рахава́ць** 'рабіць разлікі, падлікі' (ТСБМ, Сержп. Прык., Сл. ПЗБ), *рахава́цца* 'раіцца, меркаваць' (слуц., Гіл.; Сл. ПЗБ), *рахова́ць* 'улічваць, браць пад увагу', *рахова́цца* 'раіцца, меркаваць' (ТС), ст.-бел. *раховати* 'лічыць' (Ст.-бел. лексікон; 1388, Булыка, Запазыч.). Параўн. рус. дыял. *раховать*, укр. *рахувати* 'тс'. Праз польск. *rachować* (Булыка, Лекс. запазыч., 81), што ад ням. *rechnen* 'рабіць падлікі, лічыць' (Брукнер, 451). Борысь (507) дадаткова падае ад с.-в.-ням. *rechen* 'лічыць, падлічваць'. Адаптацыя карнявога ненаціскнога *e* > *a* пасля зацвярдзелага *p*, што было ўласціва для фанетыкі польскай мовы і праяўляецца ў іншых запазычаннях з нямецкай мовы (параўн. *ратаваць*, гл.).

**Рахаві́ты** 'рухавы' (Мат. Гом.). Звязана з *рахацца* (гл.).

**Рахамо́цце**, *рахамо́цье, рахамо́сцье* 'хлам, анучы, барахло' (ТС), сюды ж, магчыма, *рахаму́д* 'абарванец' (Яўс.). Параўн. укр. палес. *рахомо̂т'je* 'хлам, барахло' (Лексика Пол.). Няясна. Відаць, складанае слова, першая частка якога *рах(а)* – можа быць звязана з *раха* 'неахайніца' (гл.) ці *рахацца* 'корпацца' (гл.), а другая з *матаць* (гл.) ці *му́дзіць* (гл.). Параўн. таксама *рахапе́цце* 'манаткі' (гл.), *рахлю́ддзе* 'рыззё' (гл.) і пад. Апошняе слова дапускае сувязь з рус. *ру́хлядь* 'рухомая маёмасць, пажыткі', што звязана з *рух* (гл.), параўн. Фасмер, 3, 524. Варыянтнасць першай часткі

адзначаных слоў дазваляе звязаць іх з *рухамо́уце*, *рухмаццё* ‘манаткі’ і ўрэшце з *рухомасць* ‘рухомая маёмасць’, гл. Да фанетыкі параўн. *рахавіты* ‘рухавы’ (гл.), *рыхмазка* ‘неахайная жанчына’ (гл.), не выключаны ўплыў формы *рахмачы* (гл. *рахмач*).

**Рахапе́цце** (*ръхапе́цьця*) ‘дробныя рэчы, манаткі’ (дзісн., Нар. сл.). Складанае слова, дзе першая частка *рах(а)* – хутчэй за ўсё звязана з *раха* (гл.) ці *рахацца* (гл.), а другая з *пяць* ‘напінаць’ (гл.). Параўн. папярэдняе слова.

**Ра́хацца** ‘збірацца, рыхтавацца, поркацца, капацца, шавяліцца’ (ТС), *ря́хацца* ‘паціху, марудна збірацца’ (Растарг.). Параўн. укр. *ра́хатися*, *ря́хатися* ‘збірацца, рухацца’, рус. дыял. *ря́хнуться* ‘крануцца, сыйсці з месца’. Паводле Мяркулавай (Этимология–1986–1987, 148), да прасл. **raxati*, **rexnǫti*, дзе *x* < *sk* (> **resk-* з першасным значэннем ‘драць’ – ‘плясці’), у аснове семантыкі – рэзкі рывок, штуршок як пачатак руху. Параўн. таксама Фасмер, 3, 449 (рус. *раха́ть*, *рахну́ть* ‘кідаць; гнаць’, мяркуецца, узыходзяць да гукапераймання); SEK, 4, 189, 193 (фармальна блізкія каш. *rakovać są* ‘выпраўляцца, збірацца ў дарогу’, *rëknǫc* ‘крануцца, скіравацца’ выводзяцца з ням. *regen* ‘кранаць, рухаць’, *rücken* ‘крануцца, пасунуць’).

**Ра́хаць₁** ‘рохкаць’ (Гарэц.), *ря́хаць* ‘тс’ (Нас.). Фанематычны варыянт гукапераймальнага *рохаць* (гл.).

**Ра́хаць₂** (*ря́хаць*) ‘мець надзвычайную прыхільнасць да каго-, чаго-небудзь’ (Нас.). Фанематычны варыянт *ро́хаць* (гл.) ‘мець моцную прыхільнасць да каго-небудзь, якая праяўляецца ва ўздыхах’ (Нас.) у выніку метафарычнага пераноса з *ро́хаць* ‘рохкаць’ (гл. папярэдняе слова).

**Ра́хва,** *ріхва*, *ря́хва* ‘жалезны абруч на калясе воза’, ‘прыстасаванне для ўмацавання спіц у колах’ (Лексика Пол., Сл. Брэс.), *ра́фа* ‘тс’ (Лексика Пол.). Гл. *рэхва*.

**Рахле́й** ‘вельмі неахайны і нязграбны чалавек’ (мсцісл., З нар. сл.). Гл. *рохля*.

**Ра́хліска**, *рахлі́ско* ‘ручка ў вілах’ (навагр., З нар. сл.; Мат. Гом.). Дэфармаванае *ратлі́ско* ‘тс’ (Сл. рэг. лекс.), гл. *ратаўё*.

**Рахлю́ддзе** (*рахлю́дзьдзя*, *ряхлюдзьдзя*) ‘старое парванае адзенне, старызна, рыззё’ (Бяльк.). Параўн. рус. *ру́хлядь* ‘тс’, што да *рухло* ‘рухомая маёмасць’ (Фасмер, 3, 524), параўн. *рухлявы* ‘рухавы’ (гл.). Аналагічна да *рухомы* ‘тс’ і *рухомасць* ‘рухомая маёмасць’ (гл.). Да *рахацца* (гл.)?



**Рахма́ніца** ‘сываратка’ (Мат. Гом.). Відаць, да наступнага слова, аднак матывацыя няясная.

**Рахма́ны** ‘спакойны, нязлосны (пра звяроў, жывёл)’, ‘памяркоўны, згаворлівы, дабрадушны, лагодны, ласкавы (пра чалавека)’ (ТСБМ, Нас., Касп., Шат., Растарг., Бяльк., Сл. ПЗБ, ТС), ‘ціхі, сумленны’ (Ян.), *рохма́ны* ‘вялы, хваравіты’ (Мат. Гом.), ст.-бел. *рахманый*, *рохманый* ‘тс’. Параўн. укр. *рахма́нний* ‘смірны, ціхі’, рус. *рахма́нный* ‘ціхі, смірны; дзівакаваты; лянівы; вясёлы’, польск. *rochmanny* ‘пра ручнога звера ў параўнанні з дзікім’ (з усходнеславянскіх моў, Брукнер, 459). Хутчэй за ўсё з габр. *raḥămānī* ‘спачувальны, літасцівы’ (Пятровіч, РС, 2005, 103), ці тат. праз тур. *rachman* ‘лагодны’ < араб. *rahmān* ‘тс’ (Булыка, Лекс. запазыч., 196). Пра іншыя шляхі і крыніцу запазычання гл. Фасмер, 3, 450; Жураўлёў, Язык и миф, 451–452.

**Рахматка** ‘арыфметыка’ (Шымк. Собр.). Семінарызм? Магчыма, іранічная кантамінацыя *рахаваць* (гл.) і *матэматыка* (гл.).

**Рахма́ч** ‘ручнік, у якім носяць палудзень на поле, махрач’ (Бяльк.), *рахмачы́* ‘канцы асновы, якія адразаюцца пасля датыкання кроснаў; трапкач’ (чач., Жыв. сл.; ЛА, 4). Відавочна, вынік перастаноўкі гукаў у *махрач*, *махрачы́* (гл.).

**Ра́хнуць** ‘мець выключную прыхільнасць’ (Нас.). Да *рахаць₂* (гл.).

**Рахо́тка** ‘лазневая мачалка’ (Касп.). Няясна. Магчыма, да *раха* (гл.) ці аднаго паходжання з *рахава* (гл.).

**Рахта́ць** ‘рагатаць або квакаць з характэрным гукам’ (слуц., Жыв. НС), ‘смяяцца, рагатаць’ (Сл. ПЗБ, Жд. 2), сюды ж *рахата́ць*: *жабы рахочуць* (астрав., Сл. ПЗБ), параўн. укр. *ра́хкати* ‘квакаць’. Гукапераймальнага паходжання, параўн. *рахце́ць* (гл.).

**Раху́ба** ‘разлік, падлік; карысць, выгада’ (ТСБМ, Нас., Варл.; парыц., Янк. Мат.; Мат. Гом.), ‘рухомая маёмасць; канец, квіт’ (Бяльк.), ‘калатня, клопат, складаная справа’ (Растарг., Рам. 4), ‘меркаванне, разлік’ (ТС), ст.-бел. *рахуба* ‘разлік’ (Ст.-бел. лексікон). З польск. *rachuba* ‘лік, падлік’, ‘разлік, спадзяванне’ (адзначана з XV ст., Борысь, 507) запазычана ў XVI ст. (Булыка, Лекс. запазыч., 81). Брукнер (451) мяркуе, што польскае слова ўтворана па мадэлі *liczba* з суф. *-ba* ад *rachować* ‘лічыць’; паводле Карскага (2–3, 29), галосны *и* (*у*) усталяваўся ў польскім слове пад уплывам дзеяслоўнай асновы да яго запазычання ўсходнімі славянамі. Гл. *раху́нак*, *рахава́ць*.

**Раху́масць** (*раху́мосць*) ‘кожная рэч, якая знаходзіцца на ўліку’ (Нас.), сюды ж *рахо́мы* ‘які мае каштоўнасць, вартасць; які знаходзіцца на ўліку’ (Нас.). Мясцовае ўтварэнне ад *рахаваць* (гл.) па ўзору *рухо́мы, рухо́масць* (гл.), да якіх была набліжана і фанетыка.

**Раху́нак** ‘дакумент, падлік, аперацыя, звязаныя з грашыма’ (ТСБМ, Нас., Сл. ПЗБ), ‘парадак’ (Мат. Гом.), *раху́нкі* мн. л. ‘падлікі, рашэнне задач (урокі)’ (Сл. Брэс.), ст.-бел. *раху́нокъ* ‘падлік, разлік’, сюды ж *рахункава́ць* ‘мерыць’ (Сл. рэг. лекс.). Праз польск. *rachunek* < ням. *Rechnung* < ням. *rechnen* ‘лічыць’ з адаптацыяй *суф. -ung > -unek > -унак* (Брукнер, 451; Нававейскі, Zapożyczenia, 111). Запазычана ў XVI ст. (Булыка, Лекс. запазыч., 81).

**Рахце́ць** ‘кіпець, гатавацца’ (Сцяшк. Сл.), *рахце́ць* ‘тарахцець’ (Бяльк.). Утварэнне гукапераймальнага паходжання, параўн. *рахтаць* (гл.), параўн. таксама імітатыўнае ўкр. *ряхтіти* ‘бліскаць, мігцець’. Сюды ж таксама *рахце́ць* ‘вельмі хацець’ (слонім., Жыв. НС), параўн. выраз *аж дрыжыць* – пра моцнае жаданне.

**Рахэ́ля** экспр. ‘неахайная жанчына’ (Сл. рэг. лекс.). Гл. *ро́хля*.

**Ра́ца** ‘пажаданне, віншавальная прамова’ (валож., Жыв. сл.; Стан.). Гл. *рацэя*.

**Рацí́вы** (*рацивый*) ‘стаpанны’ (Шымк. Собр.), ‘шкодны, заўзяты’ (Ян.), рус. *рети́вый* ‘заўзяты, гарлівы’. Выводзяць са ст.-слав. ретити сѧ ‘спаборнічаць’, параўн. укр. *рети́тися*, старaж.-рус. *реть* ‘старанне, стараннасць, спаборніцтва’, што звязаны чаргаваннем галосных з *раць* (гл.) (Фасмер, 3, 475). Сюды ж балг. *ретя се* ‘буйстваваць’, *ретя* ‘ўзбуджаць, раздражняць’ (< прасл. **retiti (se)*, гл. Рачава, Studia Etym. Brun. 2, 165–166).

**Ра́цішча** ‘сетка для лоўлі звяроў і рыбы’ (Гарб.). Няясна; магчыма, звязана з польск. дыял. *racica* ‘сіта для прасейвання пяску’, славац. *raca, racka* ‘сетка (для вышыўкі)’, славен. *ráča* ‘сетка для лоўлі ракаў’, для якіх Фурлан (Бязлай, 3, 142) рэканструюе зыходнае **rat'a* ‘сетка’, роднаснае лат. *rēte, rētia* ‘сетка для ловаў’, літ. *rẽtis* ‘тс’.

**Рацу́бал** ‘халаднік, прыгатаваны з капуснага расолу і цыбулі’ (Сцяшк. Сл.). Няясна; канец слова набліжаны па форме да *цыбуля*, гл.

**Рацымо́нія** ‘цырымонія’, сюды ж вытворнае з пашырэннем семантыкі *рацымо́ніцьца* ‘прадстаўляць рацыі’, жарт. ‘цырымоніцца’ (Нас.). Трансфармацыя *цырымонія* (гл.) пад уплывам *рацыя, рацэя* (гл.).



**Ра́цыя** ‘падстава, сэнс, аснова, слушнасць’ (ТСБМ, Нас., ТС), ‘прычына, прэтэнзія’ (Нас., Шат.), *ра́ца* ў выразе *без дай рацы* ‘без прычыны, адвольна’ (Шат.), ст.-бел. *рация* ‘аргумент, довад’ (Ст.-бел. лексікон). Праз польск. *racja* ‘тс’, што з лац. *ratiō* ‘разлічаная пазіцыя; доказ, довад, меркаванне’ (Булыка, Лекс. запазыч., 192).

**Раць** ‘войска, ваенны атрад; бітва, вайна’ (ТСБМ, Сержп. Казкі). Параўн. рус. *рать*, укр. *рать* ‘бітва, змаганне; войска’, серб.-харв. *ра̏т* ‘вайна’, балг. *рат* ‘вайна; войска’, ст.-слав. **рать** ‘бітва, бой, барацьба, вайна’. Прасл. **ratь* выводзіцца з і.-е. **rō-ti-s* (Глухак, 519), параўн. ст.-інд. *ṛtis* ‘напад’, авест. *ərətiš* ‘энергія’, грэч. ἔρις ‘спрэчка, спаборніцтва’, ст.-в.-ням. *ernust*, с.-в.-ням. *ernest* ‘барацьба, сур'ёзнасць’, лат. *erroties* ‘злавацца’. Гл. таксама *ра́таваць, ратны*.

**Ра́цэя** ‘святочная віншавальная прамова, арацыя’ (валож., Жыв. сл.), *ра́цыя* ‘тс’ (Нас.), *ра́ца* ‘пажаданне (у валачобнікаў)’ (Стан.), ст.-бел. *орация, орацея* ‘ўрачыстая прамова’. Параўн. укр. *ра́ція* ‘тс’, рус. дыял. *раце́я* ‘павучальная прамова’. Запазычана праз ст.-польск. *oracyja* з лац. *ōrātio* ‘прамова, красамоўства, дар слова’ (Булыка, Лекс. запазыч., 162; Фасмер, 3, 450).

**Рача́дзь** ‘рэчышча’ (Стан.), ‘старое рэчышча ракі’ (Касп.), *річа́дзь* ‘месца ля вытокаў ракі, якое заліваецца вадой у час паводкі’ (дубр., Нар. словатв.), рус. смал. *реча́ть* ‘рэчышча’. Да *рака* (гл.), параўн. іншую назву *рэ́чанне* ‘тс’ (навагр., З нар. сл.), імаверна, сцяжэнне *рачное месца > рачадзь*, параўн. *роўнае месца > роўнядзь* (гл. *роўны*), адпаведна *мокрадзь* і інш. Сцяцко падае як суфіксальнае ўтварэнне непасрэдна ад *рака* (**rěkedjь*), з чаргаваннем *к / ч* (Сцяцко, Афікс. наз., 130, 179). Параўн. Фасмер, 3, 478, дзе смаленскае слова выводзіцца з **рѣчѧ*, Род. скл. *-ѧте* ад *рака*, па ўзору *дзяўчата* ад *дзеўка*, што на фоне прыведзеных фактаў малаверагодна.

**Рача́ла** ‘саха ў студні з жураўлём’ (брэсц., ДАБМ, камент.). Параўн. серб.-харв. *ра̏чва* ‘вілападобная галіна, расоха’, што, паводле Скока (3, 94), звязана з *рачок, рак* (гл.).

**Рача́ліна** ‘балотная рэчка’ (Яшк.), ‘месца стоку талай і дажджавой вады, ручаіна’ (мядз., Нар. словатв.), сюды ж *рача́льнік*

'затока каля рэчкі' (віл., Сл. ПЗБ). Утварэнне з падвойнай суфіксацыяй *рака + ал + іна*. Накшталт *балаціна* 'забалочаная мясціна'.

**Рачане́ц** 'гадавіна' (Арх. Федар.), 'падарунак на свята, святочны гасцінец' (маладз., Гіл.), *рача́нец* (*račánic*) 'устаноўлены час' (Варл.), 'рэжым' (Сцяшк. Сл.), 'тэрмін' (пух., рагач., Сл. ПЗБ), 'гадавое свята' (Сцяц.), 'вялікае свята, якое святкуецца праз год' (ваўк., віл., Сл. ПЗБ), часцей у мн. л. *рачанцы́* 'тэрмін ачышчэння пасля родаў' (Гарэц.), 'дванаццацідзённы тэрмін пасля нараджэння (жывёлы)' (Касп.), 'пэўная колькасць дзён ад нараджэння, да заканчэння якіх за грэх лічылася ўжываць у ежу маладых жывёл' (Нас., Янк. Мат.), *рычанцы́* 'тэрміны, прызначаныя для выканання чаго-небудзь' (Растарг.), сюды ж *рачанца́* 'зрэдку, несістэматычна (пра ўжыванне ежы)' (Янк. Мат.). Параўн. укр. *реченéць* 'тэрмін'. Насовіч праз форму *роченцы́* (Нас., 567) выводзіць з *рок₁* 'год; устаноўлены тэрмін' (гл.); першапачаткова, відаць, ад **рэчаны* 'сказаны, абумоўлены', што да *ракці* 'сказаць', гл. *рэкнуць*.

**Ра́чка** 'расліна свінакроп' (ТС), сюды ж, відаць, і *рачыкі* 'драсён, Polygonum bistorta L.' (Мядзв., Гарэц., Кіс.). Названы з-за знешняга падабенства ("членістасці") да рака, параўн. іншую назву апошняй расліны *ракавыя шыйкі* (Гарэц.).

**Рачкава́ць** 'працаваць, стоячы ракам' (Некр.), 'нахіліўшыся, выконваць якую-небудзь работу' (бярэз., Сл. ПЗБ), 'рабіць, не разгінаючыся доўгі час' (Жд. 1), 'цяжка працаваць' (Мат. Гом.), *рачкова́ць* 'рабіць сагнуўшыся; поўзаць ракам, стаяць на карачках' (ТС), параўн. укр. *рачкува́ти* 'поўзаць на карачках', польск. *raczkować* 'тс', *рачко́м* 'поўзаючы як рак, на карачках' (Нас.), *ра́чкі* 'тс' (Ян.), гл. *рак₁*, *ракам*.

**Рачка́ты** 'вірлавокі' (Мат. Гом.), сюды *рачкова́ты, рачковéнь* 'зіркаты, з вялікімі вачыма' (ТС). Да *рак₁* (гл.) з-за выпучаных вачэй, параўн. *вырачыць*, *вырачка* (гл.).

**Рачны́** 'самаўпэўнены' (Сцяшк. Сл.), 'самаўладны': *ot bez panoŭ nasz akonam jak raczny staŭ* (Арх. Федар.), 'нахабны': *які ты рачны, слова ні дасі сказаць* (Сцяц.) *рэчны́* 'ганарлівы' (тс). Відаць да **rekti* 'сказаць' (гл. *рэкнуць*), магчыма, пад уплывам польск. *rzeczny* 'істотны, сапраўдны', параўн. *rzecznik* 'выканаўца, патрон, пракурор' (гл. Длугаш-Курчабова, 451), укр. *речни́к* 'аратар'.



**Ра́чыць** 'жадаць, спрыяць, быць ласкавым' (Нас., Мат. Гом., Сл. рэг. лекс.), 'раіць', 'зрабіць ласку, уважыць просьбу' (Варл.), *рачы́ць* 'ласкава запрашаць' (Ласт.), *ра́чыты* 'жадаць' (кобр., Жыв. сл.), ст.-бел. *рачити* 'любіць, турбавацца; рабіць ласку, згаджацца' (Ст.-бел. лексікон). Сюды ж *рачы́цца* 'адгаворвацца, адракацца' (маладз., Жыв. сл.), а таксама ў спалучэнні *бажыцца-рачыцца: бо́жыцца-ро́чыцца, што не ён* (Янк. 3), магчыма і *рачо́н* 'рады, задаволены': *рачон быў куску хлеба* (Сл. ПЗБ). Традыцыйна разглядаецца як запазычанае з польск. *raczyć* 'хацець, жадаць' (Кохман, Polonica, 71; Булыка, Запазыч., 275), што цяжка давесці ў сувязі з ужываннем у народнай мове і шырокай вядомасцю ў славянскіх мовах, параўн. укр. *ра́чити* 'дазваляць, рабіць ласку', рус. *ра́чить* 'жадаць, садзейнічаць, клапаціцца, старацца', польск. *raczyć*, чэш. *račiti*, славац. *ráčiť*, славен. *ráčiti* 'хацець, рабіць ласку', серб.-харв. *ра́чити* 'жадаць', балг. *ра́ча* 'хацець, жадаць', ст.-слав. **рачити** 'тс'. Прасл. **račiti*, хутчэй за ўсё, да **rekti* 'сказаць, заявіць' (гл. *рэкнуць*), каранёвае *а* адлюстроўвае ступень падаўжэння (**rōk-*), звычайную для ітэратываў (Фасмер, 3, 451; ESJSt, 12, 744, з аглядам версій і літ-ры); лічыцца роднасным ст.-в.-ням. *ruohhen* 'клапаціцца', ням. *geruhen* 'рабіць ласку' (Бязлай, 3, 143; БЕР, 6, 193).

**Рачы́шнік** 'божая кароўка' (Сцяшк. Сл.; шчуч., ЛА, 1). Няясна; магчыма ад *грачы́ха* 'грэчка' з адпадзеннем пачатковага *г*, параўн. *рачы́шнік* 'грачанішча' (Сцяшк. Сл.); матывацыя – рабізна грэчкі (= як пасыпаная грэчкай?).

**Рашаце́нь** 'слупы ў азяродзе' (Станк., Сл. ПЗБ), *рашо́тка* 'тс' (Сл. ПЗБ). Гл. *рашо́тка₁*.

**Рашво́рка** 'воз, калёсы без драбін, каб вазіць доўгія бярвенні' (Сцяц., ПСл). У выніку дээтымалагізацыі ад *разворка, развора* (гл.).

**Рашке́пліваць** 'расчэпліваць' (Сл. ПЗБ). Імаверна, зыходнае **рас-скепліваць* ці нават **рас-кепліваць*, што да *скепаць*, гл. *раскéп*.

**Ра́шка** (*rászka*) 'птушка драч' (Тур.). Магчыма, ад зафіксаванага там жа *drászki*, што можа паходзіць ад *драч* 'тс' з адпадзеннем пачатковага *д (d)*.

***Рашо́та,** *рэшо́то* 'рэшата', 'прылада для лоўлі рыбы' (ПСл). Гл. *рэшата₂*.

**Рашо́тка₁** 'загарадка, агароджа з пераплеценых пруткоў, планак' (ТСБМ), сюды ж 'сані з задком, спінкаю' (Бяльк.), 'грэбень

для часання', 'частка грабляў з зубамі', 'зазубень'. Параўн. рус. *решётка* 'тс', укр. *решітка, решóтка* 'арнамент', 'грабёнка для збору чарніц', 'паліца з планак', славен. *rešetka* 'клетка, загон для жывёлы', балг. *решéтка* 'агароджа, рашотка'. Да *рэшата₁* (гл.). Сюды ж *рашóтка* 'сузор'е Плеяды' (Касп.), іншая назва *сітца* (гл.).

**Рашóтка₂** 'ядомы грыб, казляк' (дзятл., Сл. ПЗБ). Да *рашэтнік* (гл.).

**Рáшпіль** 'напільнік для дрэва' (ТСБМ), *рáшпуль* 'тс' (ТС). Запазычанне з ням. *Raspel*, магчыма праз польск. *raszpel, raspel* 'тс', што ад ням. *raspeln* 'пілаваць, габляваць'.

**Рашпóр** 'падоўжаная бэлька, якая падтрымлівае папярочныя' (Мат. Маг.). З польск. *rostwork* (< ням. *Rostwerk*, гл. *рошт*)?

**Рáшты**, *рíшты*, *ры́шты*, *рэ́шты* толькі мн. л. 'прыстасаванне ў возе для пашырэння яго пагрузачнай пляцоўкі' (малар., Нар. словатв.). Гл. *рошт*.

**Рашчаліць** 'расчапіць (рукі)' (Сл. ПЗБ). Магчыма, зыходнае **рас-шчаліць*, што да *шчыліна*, *шчэлка* (гл.).

**Рашчэ́п**, *рашчэ́піна* 'ракавіна капыта' (брасл., беш., ЛА, 1), параўн. ст.-бел. *рошчепина* 'расколіна': *въ рошчепинахъ скалы* (Альтбаўэр). Ад *расшчэп* 'разрэз, раздвоенасць' (ТСБМ), гл. *шчапаць*.

**Рашы́ць,** *рэшы́ць* 'прыйсці да заключэння; вырашыць, надумаць' (ТСБМ, Сл. ПЗБ, ТС), 'развязаць, вырашыць (задачу)' (Янк. 3), 'патраціць, ліквідаваць, зрасходаваць, знішчыць' (Янк. 3, Мат. Маг., ТС), *рэшы́цца* 'пазбавіцца, страціць' (Растарг.). Параўн. рус. *реши́ть* 'вырашыць', укр. *ріши́ти* 'вырашаць, пазбаўляць, губляць', каш. *řešëc* 'вязаць', чэш. *řešit*, славац. *riešit'*, харв. *riješiti*, серб. *ре́шити* 'тс', славен. *rešiti* 'развязаць, выратаваць', балг. *решá* 'вызначыць, вырашыць', ст.-слав. ρѣшити 'вызваліць, вырашыць'. Прасл. **rěšiti* з *š*, перанесеным з ітэратыва **resjati*, параўн. балг. *реся́* 'рашаць', в.-луж. *rozrisać, rozrěsać* 'вырашаць', гл. Махэк₂, 531; БЕР, 6, 233, 239. У славянскіх мовах прасочваецца сумяшчэнне семантыкі 'выратаваць' і 'пазбавіць', параўн. славен. *nas reši od zlega*, што, магчыма, звязана са ст.-інд. *reşáyati* 'ён робіць шкоду, карае', *rişyati, reşati* 'пацярпелы, пашкоджаны'. У гэтым выпадку семантыка слав. **rěšiti* развівалася ад 'пакараць, пазбавіць чагосьці' да 'пазбавіць, страціць'. Другое значэнне 'прыходзіць да выніку, развязваць праблему' прасочваецца ў балтыйскіх мовах: літ. *raišýti* 'прывязаць', лат. *ràisît* 'вырашаць; развязваць', гл. Сной, 618; Бязлай 3, 174; гл. таксама Фасмер, 3, 479; SEK, 4, 230–231 (Борысь значэнне 'развязваць' выводзіць з 'вязаць' у выніку дэпрэфіксацыі першаснага прэфіксальнага **orz-rěšiti* 'развязаць' > **rěšiti* 'развязваць').



**Рашэ́тнік** 'ядомы грыб казляк, махавік' (ТСБМ; лід., гродз., беласт., Сл. ПЗБ; Мат. Гом.), *рашóтнік* 'тс' (Сл. ПЗБ, Мат. Гом.), *рашóцік* 'тс', *рашацю́к* (Мат. Гом.), *рэшэцю́га* (Нар. словатв.), *рэшóцік* 'тс' (ПСл), *падрашэ́тнік* (Мат. Гом.). Ад *рэшата₁* (гл.) на падставе знешняга падабенства (*з дзірачкамі пад шапкай*, Мат. Гом.), параўн. іншыя назвы: *сітнік, сітавік* (гл.).

**Раявáць** 'жыць вельмі добра без турбот, безклапотна' (ТСБМ, Ян., Янк. Мат.). Ад *рай₁* (гл.).

**Рваць** 'вырываць, разрываць, тузаць, драць' (ТСБМ, Ласт., Бяльк., Сл. ПЗБ, ТС), 'цягнуць на ваніты, ванітаваць' (Сл. ПЗБ, ТС), сюды ж *рвáкі* мн. л. 'ірвота; ваніты' (Нас., Гарэц., Др.-Падб., Растарг.), таксама з іншым суфіксальным афармленнем *рвáны* мн. л. 'тс' і *рваннё* 'ваніты' (Нас.). Гл. *ірваць*.

**Рдза** 'маланка без грому' (брасл., ДАБМ, камент.; даўг., Сл. ПЗБ). Паланізаваная форма да *ржа* (гл.), параўн. польск. (у Летуве) *rdza* 'маланка без грому', якое ў фразеалагізме *rdza trzęsi*, г. зн. *rdzą trzęsi* 'трасе іржу' (Буга, Rinkt., 3, 431), з'яўляецца калькай з літ. *rūda krečia* 'трэсці іржу', 'іржа трасе' (Анікін, Из истории рус. сл. 165–166). Параўн. лат. *rūsa* 'іржа' і 'бліскавіца, зарніца'. Аднак лінгвагеаграфія, параўн. рус. уладз. *ржа* 'зіхаценне, ззянне маланкі ноччу, калі, паводле павер'я, налліваецца жыта', пярэчыць гэтаму. Хутчэй за ўсё, супольнае балтаславянскае ўтварэнне на базе міфалагічных уяўленняў аб тым, што маланка без грому спальвае (робіць чорнымі, іржавымі) плады і жыта, параўн. *іржа* 'галаўня (чорнае зерне ў коласе)', а таксама палес. *аріхава маланка* 'маланка без грому', якая паводле вераванняў, выпальвае ядра арэхаў і робіць іх чорнымі або пустымі; аналагічная сувязь 'маланка' – 'арэх' вядомая ва ўсіх славянскіх традыцыях, параўн. Слав. др., 2, 281–282.

**Рдзець** 'чырванець' (ТСБМ), 'свярбець', *рдзéцца* 'чырванець (пра рану)' (ТС), 'выклікаць злаванне' (Юрч. СНЛ), *рдзель* 'чырванашчокі мужчына', 'чырванашчокая жанчына' (Нас.), *рдзіцца* 'злавацца' (Юрч. СНЛ). Да *ірдзець* (гл.).

**Рдзест** ‘урэчнік, Potamogeton’ (ТСБМ). Да *ірдзест* (гл.).

**Ржа** ‘іржа’ (ТСБМ, Сцяшк.; карэліц., Нар. лекс.; ТС; віл., Сл. ПЗБ), ‘іржа на лёне’ (віц., Шн. 3); ‘ржавая вада (на балоце)’ (ветк., Мат. Гом.; барыс., Сл. ПЗБ), ‘балота з жалезнай рудой’ (жытк., нясвіж., слаўг., стол., Яшк.), *ржа, іржá, аржá* ‘рудая вада на балоце’ (ЛА, 2), ‘галаўня’ (шуміл., Сл. ПЗБ), ‘ношка на лапках пчалы’ (бабр., ЛА, 1). Да *іржа*$_1$ (гл.).

**Ржáва** ‘гразкае, іржавае балота з вокісам жалеза ў вадзе; балота з жалезнай рудой’ (віц., слаўг., Яшк.). Утворана пры дапамозе суф. *-a* ад прасл. прыметніка **rъdja-v-ъ* ‘іржавы’ (Махэк$_2$, 513), як і іншае з гэтай асновы: *ржáвінь, аржáвінь, ржáвінне, іржáвінне, аржáвінне, ржáўка, іржáўка, аржáўка, ржáўчына, іржáўчына, аржáўчына* ‘рудая вада на балоце’ (ЛА, 2), *ржáвец, рыжáвец, ржáвіна* ‘тс’ (Яшк.; в.-дзв., Сл. ПЗБ).

**Ржáвень** ‘крыніца на багністым глыбокім балоце’ (глыб., ДАБМ, камент., 42). Да *ржáва* (гл.). Суфікс *-ень*, як у *крывень* ‘крывое поле’, *прасцень* ‘простая дарога’ і інш. са значэннем адпаведнай прыметы (Сцяцко, Афікс. наз., 100).

**Ржавéц** ‘ржэўнік ?’ магчыма ‘жыцік, Lolium L.’: *вельмі багато ржаўцу расце па лёну* (лельч., Мат. Гом.), параўн. укр. *ржанéць* ‘жыцец лугавы, Phleum pratense L.’, рус. цвяр. *ржанéц* ‘тс’, алан. *ржанéц* ‘пустазелле на льняным полі’. Відаць, узыходзіць да *ржанец*, якое з *іржá*$_2$ ‘жыта’. Параўн. таксама рус. перм. *ржанúк* ‘пустазелле каласоўнік палявы, Bromus arvensis L.’, якое расце ў жыце і лёне, падобнае да жыта.

**Ржавíнне**, *іржáвінне, аржáвінне* ‘рудая вада на балоце’ (Сцяшк. Сл., ЛА, 2), праз ступень *ржáвінь* з *іржа*$_1$ (гл.).

**Ржанец** ‘жыцік, Lolium L.’ (Інстр. 2). Параўн. *ржавец* (гл.).

**Ржáнік** ‘жытні хлеб’ (нараўл., Мат. Гом.) – у выніку намінацыі з *ржаны хлеб*. Да *іржа*$_2$ (гл.).

**Ржáніца** ‘іржаная салома’ (расон., Шатал.). Да *іржа*$_2$ (гл.). Утворана пры дапамозе суф. *-іц-а* ад *(а)ржаны*, як *аўсяніца, прасяніца, ячніца* (Сцяцко, Афікс. наз., 110).

**Ржáнішча** ‘іржышча’ (слаўг., смаляв., бабр., гом., слуц., ДАБМ, к. 271). Ад *ржаны* > прасл. **rъž-апъ(jь)*. Да *іржа*$_2$ (гл.).

**Ржаны́,** *аржáны, іржаны* ‘іржаны, жытні’ (ТСБМ, ТС, ЛА, 4), навагр. і *рóжны*; укр. *іржанúй*, рус. *ржанóй,* н.-луж. *ržуnу*, в.-луж. *ržany*, славац. *ražný*, славен. *ržén*, серб. *ра̏жан, ра̏жен* і харв. *ra̋žan, ražan, ražni*, балг. *ръ̀жен*. Прасл. **rъž-ьnъ(jь)*, а для ўсх.-слав. **rъž-апъ(jь)*. Да *іржа*$_2$ (гл.).



**Ржаць** ‘іржаць’ (ТСБМ, Сцяшк.), *рэжаць/рзаць* ‘тс’, ‘гучна смяяцца’ (ТС). Да *іржáць* (гл.).

**Ржóнне** ‘іржышча’ (Сцяшк. Сл., Жд. 3; лаг., Шатал.; смаляв., лаг., маладз., ДАБМ), утварылася ад прыметніка **rъž-ь-пъ* ‘жытні’, у якім *-ь-* перайшло (пасля страты рэдукаваных) у *-е-*, а апошняе пад націскам і перад наступным цвёрдым зычным змянілася ў *-ó-* (як *дзень* > *дзённы*), – пры дапамозе суф. *-ьje*, які спарадычна сустракаецца ў назве поля пасля сабраных раслін: *ячанне, ячменне* (ДАБМ), *гуркоўе, маркоўе, буракоўе, бручкоўе, бабоўе* і *бабаўё* (ЛА, 2). Аналагічную мену *-ь-* > *-о-* можна бачыць у маладз. *аржóнка* ‘іржышча’, *аржóнішча* (паўн.-гродз., івян., дзярж., мін., ДАБМ, камент., 852) пры наяўнасці ў гаворках *ржáнішча* і *ржы́нішча* (там жа), а таксама ў слуц., бабр. *ржоўнік* (там жа; жлоб., светлаг., Мат. Гом.) ‘тс’ *з *rъž-ьv-ь-пъ* ‘жытні’. Да *іржá*$_2$ (гл.).

**Ржы́ска**, *ржы́ско*, ‘зжатае поле; пожня пасля жыта, іржышча’ (ДАБМ, Сцяшк.; свісл., варан., Шатал.; іван., Жыв. сл.). Паланізм (наяўнасць зах.-слав. суф. *-*sko*, якому ва ўсх.- і паўд.-слав. мовах адпавядае *-*išče*) і пачатковае *рз-* (трак. *рзы́ска*, Сл. ПЗБ) замест *рж-*. Гэтаксама Мацкевіч (Сл. ПЗБ, 4, 298).

**Ржы́шча**, *рыжы́шчо, ржы́шчо* ‘іржышча, поле на якім зжата жыта’ (ТСБМ, Чуд., Бяльк., Выг.; віл., Сл. ПЗБ; паўсюдна, ДАБМ), ‘зжатае поле’ (карэліц., Нар. лекс. і ДАБМ, камент., 852; Сцяшк.), ‘сцелішча’ (стаўбц., ЛА, 4), *ржы́шчыка* ‘іржэўнік’ (Юрч. СНЛ). Да *іржышча* (гл.). Сюды ж *жы́ршча* ‘іржышча’ (Сл. ПЗБ) у выніку перастаноўкі пачатковых *ржы-* ў *жыр-*.

**Ржэўнік** ‘іржэўнік’ (ТСБМ, ДАБМ, Шатал.), ‘сцелішча’ (ЛА, 4). Утворана ад прыметніка **rъž-av-пъ* > **rъž-ev-пъ*, які ўзыходзіць да **rъža*. Да *іржа*$_2$ (гл.).

**Рзаць** ‘іржаць’ (Шат., Некр., Бяльк., Растарг.; маг., Шн. 2; гом., Рам. 8), ‘рагатаць’ (Мат. Гом.), ‘дурэць, свавоаліць, мітусіцца, балавацца, шумець, крычаць’ (Юрч., Сцяшк., Сцяшк. Сл.). Да *ірзы, іржаць* (гл.).

**Рзéнце**, *рзéньця* ‘рэзкі боль у жываце’ (варан., шальч., Сл. ПЗБ). Паводле Мацкевіч (там жа, 4, 331), з польск. *rznięcie* ‘тс’.

**Рлава́ць** ‘крычаць па-арлінаму’ (Гарэц., Нас.). З *+арлава́ць*, да *арол* (гл.).

**Рмаць** ‘надрывацца’, ‘раззлавацца, выйсці з сябе’: *не рміся!* (паўн.-усх., КЭС). Паводле Дабравольскага (Дабр. Этн., 4, 677), з *рваць*. Аднак гэта можна дапусціць толькі ў адносінах да лексемы з першым значэннем ‘надрывацца’. Што ж тычыцца другога – да рус. *рни́ться* ‘быць злым, злавацца’, ст.-рус. *рняти* ‘злавацца, крыўдаваць’ (1539), *рнитися* ‘тс’ (1517). Да *рынуцца* (гл.).

**Ро́ба** ‘грубае рабочае адзенне (звычайна парусінавае або брызентавае)’ (ТСБМ). Відаць, з рус. *роба* ‘тс’, якое ўзыходзіць да франц. *robe*, італ. *roba* ‘адзенне’ < ст.-в.-ням. *roub* ‘абрабаванне, здабыча’ (Фасмер, 3, 487).

**Ро́бак** ‘стракатая тканіна для саяноў’ (жытк., Мат. Гом.). Гл. *рабак*$_2$.

**Ро́бат** ‘аўтамат, які выконвае складаныя дзеянні, падобныя да дзеянняў чалавека’ (ТСБМ). Праз рус. *ро́бот* з чэш. *robot* ‘штучны, механічны рабочы’, створанага Карлам Чапекам у драме «R.U.R.» (1920 г.). Узыходзіць да раннепрасл. **orbъ* > прасл. **robъ/ *rabъ* ‘раб’ < і.-е. **orbhos*.

**Ро́беркі**, *рёбірцы* ‘рэбры’ (Юрч. СНЛ). Да *рабро* (гл.).

**Ро́біць** ‘працаваць, рабіць’ (Нас., Бяльк, Жд. 2, Сцяшк.; міёр., З нар. сл.; Байк. і Некр.; віц., валож., іўеў., лун., калінк., ЛА, 2) *ро́біць сена* ‘касіць сена’ (калінк., ЛА, 1), ст.-бел. *робити*. Да *рабіць* (гл.) у выніку абагульнення асабовых формаў (*ро́біш, ро́біць, ро́бім* і інш.).

**Ро́бкі** ‘пужлівы’ (Ян.). З рус. *робкий* ‘тс’, *ро́бок* ад *роб* < прасл. **orbъ* > **robъ/ *rabъ* ‘раб’ < і.-е. **orbhos*: ст.-інд. *arbhakás*, *árbhagas* ‘маленькі, слабы, малады’, *árbhas* ‘тс’ (Уленбек, 14; Фасмер, 3, 487).

**Ро́бля**, *рабе́ба, рабе́ля* ‘работа, дзеянне’ (слаўг., Яшк.). Экспрэсіўныя ўтварэнні: *робля* ад *робіць* ‘рабіць’, як *купля*; *рабе́ба* – відаць, калька з балтыйскіх моў, параўн. лат. *darbība* ‘дзеянне’, *iedarbība* ‘уплыў’; *рабе́бля* – утварылася ў выніку кантамінацыі папярэдніх лексем.

***Ро́бур**, ст.-бел. *робуръ* ‘дзяржава; магутнасць’ (1653 г.) < лац. *rōbur* ‘тс’, *роборовати* ‘падмацоўваць’, якое са ст.-польск. *roborować* ‘зацвярджаць юрыдычна, завяраць’ < лац. *rōborāre* ‘узмацняць’ (Булыка, Лекс. запазыч., 33).



***Ро́бушак**, *ро́бушок* ‘верабей’ (Сл. Брэс.). З *⁺воро́бушок* шляхам усячэння пачатковых *в-*, потым *-о-* як прыстаўных.

**Ро́вал** ‘веласіпед’ (докш., Сл. ПЗБ; докш., ЛА, 2) – у выніку распадабнення *р... р* > *р... л*. Да *ровар* (гл.).

**Ро́вам** *рэўці, роўма раўці* ‘не сціхаючы, моцна крычаць’ (ТСБМ, Шуба, Прыслоўе, 57; калінк., З нар. сл.), параўн. славац. *revem revat’* ‘тс’. Творны склон назоўніка *роў*$_2$ (гл.).

**Ро́вар**, *ро́вэр, ро́выр, ро́вер* ‘веласіпед’ (ТСБМ, Сцяшк., Сцяшк. Сл., Сцяц.; лун., свісл., Шатал.; Скарбы, Сл. Брэс., Мат. Гом.; карэліц., гродз., З нар. сл.; беласт., Жыв. НС.; зах.-бел., ЛА, 2). Праз польск. *rower* ‘тс’ з англ. *rover* ‘вандроўнік’, ‘бадзяга, валацуга’.

**Ро́вень**$_1$ ‘ватэрпас, грунтвага’ (ТСБМ, Бяльк., Байк. і Некр.), афармілася пад уплывам рус. *у́ровень* ‘тс’. Да *ро́ўны* (гл.).

**Ро́вень**$_2$ ‘раўня’ (ТС). Гл. *ра́ўняць*.

**Рог**$_1$ ‘цвёрды выраст з касцявога рэчыва на галаве ў некаторых жывёл’, ‘востры, загнуты канец чаго-небудзь’, ‘зуб у вілах’, ‘музычны або сігнальны інструмент’ (ТСБМ, Нас., Шат., Бяльк., Сцяшк., Ян., Сл. ПЗБ, ТС, Выг.), ‘пастухова труба’ (ТС), укр. *ріг*, рус. *рог*, польск. *róg*, н.-луж. *rog*, в.-луж. *roh*, палаб. *rüg*, чэш., славац. *roh*, славен. *rǫ̂g, rîx, rîəx*, серб. *рôг* і харв. *rȏg*, макед. *рог*, балг. *рог, ро́гът, рогъ́т*, ст.-слав. **рогъ**. Прасл. **rogъ*. Роднаснымі з’яўляюцца літ. *rãgas* ‘рог’, ‘мыс’, ‘шышка’, лат. *rags* ‘рог’, *raguolis* ‘ручка плуга’, ст.-прус. *ragis* ‘рог’, *ragìngis* ‘алень’ (Міклашыч, 280) ‘рог’, *rãgės, rãgos, rãgutės*, лат. *ragavas*, *ragus*, *raguteles* ‘простыя сані’ (Буга, Rinkt., 2, 533; Траўтман, 235; Мюленбах–Эндзелін, 3, 465). Далей не зусім ясна. Міклашыч (RHSJ, 14, 122) выводзіць яго з **krogъ*. Сной (Бязлай, 3, 191) услед за Фрэнкелем (684), Праабражэнскім, 2, 207, Махэкам$_2$ (515) мяркуе, што першасным было **rógo-* ‘вытыркацца’, параўн. літ. *regė̀ti*, лат. *redzêt* ‘спаглядаць з вышыні’, літ. *ragáuti, rãginti, r(i)ogsóti* ‘узвышацца’, *rógas, ruogùs* ‘куча, груда зямлі, тарпа сена, жыта’. Сумніўнае сцвярджэнне Младэнава (562) пра паходжанне **rogъ* з і.-е.**rogh-* (Фасмер, 3, 489). Гл. таксама БЕР, 6, 288; ESJSt, 13, 775. Сюды ж: *рожкі* ‘матавіла’ (калінк., Мат. Гом.), ‘відэлец’ (Мат. Гом.), ‘матыка з зубцамі’, ‘мач, прылада, якою скідаюць гной з воза’ (ст.-дар., ЛА, 2), ‘прылада ля касы для збірання пад-

рэзаных сцяблоў' (ПСл), і, магчыма, *рожкі* 'спарыння' (калінк., Сл. ПЗБ), *рôжкі, ражкі* 'тс' (стол., в.-дз., ЛА, 5).

**Рог₂** 'месца, дзе сутыкаюцца два знешнія бакі аднаго прадмета', 'вугал', 'вугал дома знадворку', 'месца, дзе збягаюцца перпендыкулярныя вуліцы' (ТСБМ, Нас., Байк. і Некр., Гарэц., Шат., ТС, Растарг.), 'вугал воза' (чэрв., лід., Сл. ПЗБ), 'вугал у страсе, стозе' (ТС), 'клінападобная частка балота, клін поля, лесу, лугу, вёскі; лука, паварот ракі' (Яшк., ТС, Выг.), 'кут' (Бяльк.), 'кут, край' (Ян.), 'канец сяла', 'куток у садзе' (Жд. 1), *рóгі* 'перасячэнне схілаў страхі з бакоў' (палес., Нар. сл.), 'канец у хустцы' (Ян.), *рóжкі* 'канцы хусткі на галаве ў жанчыны' (Растарг.) – у выніку пераносу значэння паводле падабенства з *рог₁* (гл.).

**Рóгак** 'хвароба злакавых раслін, сажа' (ПСл). З *рог₁* у выніку пераносу значэння паводле падабенства. Параўн. *рог* 'спарыння, чорныя рожкі альбо матачныя рожкі' (ТС).

**Рóгач** 'дзяржанне, ручка ў касе', 'дышаль у возе для валоў' (ПСл) – адсубстантыўны назоўнік з суф. *-ačь* (Слаўскі, SP, 102). Параўн. балг. *рогàче* 'ручкі ў плузе'. Да *рог₁* (гл.).

**Рóгаль** 'няўдалы хлеб' (ПСл.). Відаць, з польск. *rogal* 'рагалік', успрынятага з адмоўным значэннем. Параўн. мар. *rohél*, чэш. *rohlík*, названыя паводле падабенства з рогам; тое ж славац. *rožek*, а таксама ням. *Hörnel, Hörnchek* (Махэк₂, 515).

**Рóгат** 'гучны, нястрымны смех' (ТСБМ, Шат., Байк. і Некр., ТС; пух., Сл. ПЗБ), *рёгат* 'тс' (Растарг.), 'празмерны рогат', 'іржанне' (Нас.), *рóгаткі* 'смех' (Сцяшк. Сл.). Укр. *рéгіт*, рус. *рёгот* 'тс', польск. *rzegot* 'кваканне', н.-луж. *rjagot* 'бразганне, звон, трэск, шум, кваканне, краканне, гогат', в.-луж. *rjehot* 'іржанне', чэш. *řehot, řeht* 'іржанне, смех', славац. *rehot* 'тс' – аддзеяслоўныя ўтварэнні з суф. *-ot-/-ъt-* са значэннем 'грукат'. Да *рагатаць* (гл.).

**Рóгаць** 'утвараць спакойныя гукі (пра свіней)', *рóхкаць, рóхаць, рýхаць, рýхкаць, крýхаць, крóхаць* (віц., маг., брэсц., гом., ЛА, 1). Гукаперайманні.

**Рóгель** 'пояс, які злучае дзве крокви паміж сабой' (кам., Нар. сл.). З польск., параўн. вялікапольск. *rygle* 'тс', якое з ням. *Riegel* з тым жа значэннем (Басара, Terminol., 2, 51); *-о-* ў першым складзе пад уплывам *рог, рогі* 'перасячэнне схілаў страхі' (ц.-палес., усх.-палес., Нар. сл.).



**Род₁**, *руод, рôд, рід* 'рад пакаленняў, якія паходзяць ад аднаго продка', 'асноўная арганізацыя першабытна-абшчыннага ладу', 'родзічы, сваякі, радня', 'сям'я', 'паходжанне, прыналежнасць да пэўнага саслоўя', 'разнавіднасць, сорт, тып', 'спосаб, характар, напрамак' (ТСБМ, Федар. 6, Мат., ТС, Др.-Падб., Бяльк., Ян., Бір., Стан., Бес., Байк. і Некр., ПСл; мін., Шн.; калінк., воран., ЛА, 3; Яшк., Сцяшк., Сл. ПЗБ), 'пол' (Байк. і Некр.), 'парода (пра жывёлу)' (ПСл). Укр. *рід*, рус. *род*, польск. *ród*, н.-луж. *rod*, в.-луж. *ród*, чэш., славац. *rod*, славен. *rôd*, серб. *рôд* і харв. *rȏd*, макед. *род*, балг. *род(ът)*, ст.-слав. **родъ**. Прасл. **rodъ*, звязанае чаргаваннем у корані з ц.-слав. *редъ* 'ежа', 'з'яданне, паглынанне', славен. *rediti* 'карміць, гадаваць, вырошчваць', роднаснае лат. *rads* 'родзіч', 'пол', 'крыніца, пачатак, паходжанне', 'радня', *raža* 'багаты, шчодры ўраджай', 'поспех', 'вялікая сям'я', літ. *rasmẽ* 'ураджай', лат. *rasma* 'росквіт, урадлівасць' (Міклашыч, 280, Махэк₂, 514; Фрэнкель, 683), ст.-інд. *vrādhant-* 'які паднімаецца', *várdhati* 'расце, множыцца, узмацняецца', *vṛddhás-* 'які вырас, вялікі, стары', авест. *vərədaiti* 'расце', ст.-грэч. ὀρυός, дар. βορυός 'прамы, правільны, сапраўдны' (Фасмер, 3, 490–491). З гэтых форм выводзяць назоўнік дзеючай асобы і.-е. *u̯ródhos-*, якое з асновы цяпер. часу *u̯rédhe/o* (Траўтман, 234; Фасмер, 3, 491; Бязлай, 3, 190; Покарны, 1167; Младэнаў, 562; БЕР, 6, 296; ESJSt, 13, 771–3). Трубачоў (Дополн., 3, 491), супастаўляе слав. **rodъ* з арм. *ordi* 'сын', хец. *ḫardu-* 'праўнук' і ўзводзіць іх да і.-е. **əordh-* 'высокі', 'які вырас'. Ондруш (JČ, 9, 1958, 150) услед за Трубачовым шукае сувязь паміж **rodъ* і **orsti* 'расці'.

**Род₂** 'роды' (віл., Сл. ПЗБ), н.-луж. *rod*, в.-луж. *ród* 'нараджэнне'. Да *радзіць* (гл.). Сюды ж *рóды* 'фізіялагічны працэс выхаду плода з цела маці' (ТСБМ, ТС).

**Род₃** 'ураджай' у выразе: *дай, Божа, на жытычко род* (маг., Шн.; Жд. 2, Ян., Юрч. Вытв.), серб. *рôд* і харв. *rȏd*, макед. *род* 'тс', рус. маск. *родúвый* 'які дае багаты ўраджай', укр. *родúти*, бел. *радзíць* 'даваць багаты ўраджай'. Старажытнае балтаславянскае ўтварэнне, параўн. лат. *raža* 'багаты ўраджай' (з **radi̯ā*), а таксама славен. *rodina*, серб. *родùна*, харв. *rodìna* 'ўрадлівасць', серб. *рóдац* 'пладовае, пладаноснае дрэва'. Сюды ж *рóдный* 'урадлівы' (Юрч. Фраз. 2, Юрч., СНС), *рóдны* 'пладавіты, ураджайны' (Нас., Стан.), 'буйны, высокага росту' (Нас.).

**Ро́джаны** 'народжаны' (Янк. 2, Жд. 3, Мат. Гом.) – з прасл. дзеепрыметніка **ordjenъ*, які з **orditi* > *радзíць* (гл.).

**Ро́дзіць** 'радзіць (пра зямлю)' (Ян.). Да *радзíць* (гл.).

***Ро́дзіва**, *родзіво*: *вон з родзіва малы́* 'змаленства', першапачаткова 'роды' (ТС), параўн. з укр. *ро́диво* 'роды', якое з прасл. **orditi* і суф. *-i-vo* (Вондрак, Vergl. gr., 411).

**Ро́дзімка** 'ружовыя месцы на шчацэ' (мазыр., ЛА, 3), *ро́дзінка* 'тс' (брэсц., там жа) – у выніку субстантывацыі дзеепрыметніка **rod-imъ* < **roditi* > *радзíць* (гл.). Мена *-м-* > *-н-*, відаць, пад уплывам рус. *ро́динка* 'радзімы знак, радзімка'.

**Ро́дзіна₁** 'радня' (Нас., Касп.; ганц., лун., ЛА, 3), *ро́дзінка* 'тс' (віц., Хрэст. бел. дыял.). Да *радзíна, род* (гл.).

**Ро́дзіна₂** 'сям'я, род' (Жд. 3; беласт., віл., воран., Сл. ПЗБ) – пад уплывам польск. *rodzina* 'сям'я'.

**Ро́дзіна₃** 'радзіма, бацькаўшчына, роднае месца' (в.-дзв., Сл. ПЗБ; ТС). Відавочна з рускай мовы, у якой *ро́дина* 'родная старонка' ўпершыню сустракаецца ў Дзяржавіна. Параўн. *радзíма* (гл.).

***Ро́дзінкі**, *ро́дінкі* 'імяніны' (лун., Шатал.). Да *радзíны* (гл.).

**Ро́дзіч₁**, *ро́діч, ро́дзічка, ро́дічка* 'член роду', 'сваяк, чалавек, блізкі паводле паходжання' (ТСБМ, Гарэц., Бес., Нас., Стан., Ян., Байк. і Некр., Мат. Гом., Растарг., ТС), *суро́дзічы* 'радня' (Нас.; касцюк., клім., ЛА, 3), *ро́дічі, ро́дычі, ро́дычэ, ро́дычы* 'тс' палес. (там жа), (далёкія) *ро́дзічы* 'продкі' (лоеў., ЛА, 3), *ро́дічы* 'дзяды' (Растарг.), *ро́дзічы* 'дзяды (абрад)' (ветк., Мат. Гом.). Укр. *ро́дич* 'сваяк', 'бацька', польск. старое *rodzic* 'бацька', *rodzice* 'бацькі', чэш. *rodiče* 'тс', славац. *rodič* 'бацька', *rodičia* 'бацькі', серб. *родић*, харв. *rodić* (з XVIII ст.) 'сям'я'. З прасл. **rodičь* < **rod-i-kъ+jь*. Да *радзíць₁* (гл.).

**Ро́дніца** 'архегоний' (Байк. і Некр.) – беларускі навуковы тэрмін для жаночага ограна размнажэння ў мохавідных, папарацевідных і голанасенных раслін – архегонія. За аснову была ўзята калька з другой часткі слова: ст.-грэч. γονή 'нараджэнне; роды; паходжанне', 'плод, патомства; род', 'тое, што нараджае'. Узорам утварэння пры гэтым было польск. *rodnia* 'архегоній', 'пакаленне'.

**Ро́дны** 'які знаходзіцца ў кроўнай роднасці па прамой лініі', 'звязаны з месцам нараджэння (пра горад, вёску)', 'дарагі, блізкі сэрцу' (ТСБМ, Гарэц., Нас., Шат., Стан., Байк. і Некр., Растарг., ТС, Сл. ПЗБ; слуц., Жыв. НС), 'айчынны' (Байк. і Некр.), *родный* 'родны' (Бяльк.). Укр. *рі́дний*, рус. *родно́й, ро́дный* 'тс', польск. *rodny* толькі ў словазлучэнні *narządy rodne* 'палавыя органы'; н.-луж. *rodny* 'родны па крыві', 'які датычыць паходжання', чэш., славац. *rodný* 'родны', славен. *rôden*, серб. *ро̏дан* і харв. *rȍdan* 'родны (месца нараджэння, родная старонка)', макед. *роден*, балг. *рождѐн* 'родны'. Прасл. **ordьnъ*. Да *род₁* (гл.). Сюды ж *ро́дныя* 'сваякі', *ро́днасны* 'звязаны агульным паходжаннем', *ро́днасць* 'блізкасць, падабенства' (ТСБМ, ЛА, 3), *радню́сенькі* 'самы родны' (Нас.).



**Ро́дства**, *ро́дство* 'радня, сваякі' (брасл., Сл. ПЗБ; ЛА, 3; ТС), рус. *родство́* 'роднасць', 'блізкасць, падабенства', дыял. (вяц., сіб.) *ро́дство* 'тс', в.-луж. *ródstwo* 'сваяцтва, роднасць па крыві'; славен. *soródstvo* 'радня', *rôjstvo* 'нараджэнне', 'роды', 'паходжанне', серб. *ро̏ђаштво* і харв. *rođaštvo* 'роднасць, роднаснасць', *сро̀дство* 'радня', 'падабенства', макед. *родство* 'роднасць, блізкасць', балг. *ро́дство* 'тс'. Да прасл. **ordьstvo*, у якім адцягнены суф. *-ьstv-o* называе дзеянне, блізкае да паняцця стану (Вступ, 150).

**Ро́енне** 'мроіва' (Юрч. Вытв.). Да *рой, раíцца* (гл.).

**Рож** ж. р. 'жыта' (в.-дзв., лудз., Сл. ПЗБ; ПСл), укр. *рож*, рус. *рожь*, стараж.-рус. *ръжь*, польск. *reż, rża* 'тс', н.-луж. *rež*, в.-луж. *rož*, палаб. *raz*, чэш. *rež*, мар. *rýž* 'тс', славац. *raž*, славен. *rež, r̂ž*, серб. *ра̑ж, р̑ж*, харв. дыял. *rôž*, макед. *'рж*, балг. *ръж, ръжта́*. Прасл. **rъžь*, роднаснае літ. *rugỹs* 'жыта', лат. *rudzis*, ст.-прус. *rug(g)is*, ст.-ісл. *rugr*, ст.-н.-ням. *roggo*, ст.-англ. *ruge*, англ. *rye*, ням. *Roggen*. Паводле Дзечава (Thrak. Sprachreste, 87), а яшчэ раней Маера (BB, 20, 121) і Фіка (BB, 29, 241) сюды ж фрак.-макед. βρίζα 'жыта', (параўн. балг. *бри́ца* 'тс', гл. *брыца*) – у гэтым сумняваецца Фасмер (3, 494); і.-е. **u̯rugh̯io* 'жыта' (Бязлай, 3, 211; Рэйзэк, 541); **rughjo-* (Міклашыч, 285; Голуб–Копечны, 312; Младенов, 565; БЕР, 6, 363; з і.-е. **ru-gh-* 'рваць' (Трубачоў, Этногенез, 213).

**Ро́жа₁** 'ружа' (ТСБМ, Нас., Гарэц., Бес., Мал., Шат., Бяльк., Стан., Байк. і Некр., Растарг., Нар. Гом., ТС), 'шток-ружа, сляс, Alcea rosea L.', 'мальва пагрэбаваная, Malva neglecta Wallr.', *ро́жа лясная* 'лясная мальва, зінзівер, Malva silvestris L.' (Кіс.), *ро́жа садо́вая* 'ружа (з песні)' (Ян.), *ро́жа* 'мальва' (Нас., Растарг., Мат. Гом.), 'шыпшына' (ПСл), 'вяргіня' (Сл. Брэс.), 'від кветкі, ружа' (зэльв., Нар. словатв.), 'дэкаратыўная расліна з вялікімі яркімі

кветкамі' (Скарбы), *ро́жавы* 'светла-чырвоны, ружовы' (Гарэц., Стан., Др.-Падб., Байк. і Некр.). З польск. *róża* < ст.-чэш. *ruože, róže* ці с.-в.-ням. *rôse*, якія з лац. *rōsa* 'ружа'. У сярэднявеччы была вельмі пашыраная ў манастырскіх садах. Першакрыніцай лац. *rōsa* і ст.-грэч. ῥόδον былі, відаць, іранскія мовы (Фасмер, 3, 493), параўн. ст.-іран. **u̯rda*, з якога развілося перс. *gul* 'ружа' (Сной у Бязлай, 3, 202). Фрыск (3, 661) у якасці роднаснага слова прыводзіць араб. *warada* 'цвісці, распускацца'. Гл. таксама ESJSt, 13,779.

**Ро́жа₂** 'інфекцыйная хвароба Erysipelas – вострае запаленне скуры і лімфатычнай сеткі скуры' (ТСБМ, Сцяшк., Бір. Дзярж., Бяльк., Касп., Шат.; нараўл., Арх. ГУ; ашм., Стан.; Байк. і Некр., Мат. Гом., ТС, Сл. ПЗБ), 'хвароба ў свіней' (ЛА, 1). З польск. *róża* 'тс' < *róża* 'ружа' з прычыны чырвона-ружовага колеру скуры пры гэтай хваробе (Праабражэнскі, 2, 209; Фасмер, 3, 493; Голуб–Ліер, 427). Дарэчы, лац. назва ўзыходзіць да ст.-грэч. ἐρυσιπέλας 'рожа', якое з ἐρυθρός 'чырвоны' і πελ- 'шкура, скура' (Голуб–Ліер, 153).

**Ро́жа₃** абразл. 'морда' (беласт., Сл. ПЗБ). Відаць, з рус. *ро́жа* 'фізіяномія, морда, твар, выгляд', якое з прасл. **rodja* < **rodъ* > *род₁* (гл.). Параўн. стараж.-рус. *рожаи* 'выгляд, твар', *рожаистъ* 'прыгожы', лат. *raža* 'вялікая сям'я', 'ураджай' (Фасмер, 3, 492).

**Ро́жай** ст.-бел. 'від, гатунак', 'род', 'пол' (1457 г.) з ст.-польск. *rodzaj* 'від, гатунак'. Мена *-dz-* > *-ж-*, як у *радзіць* – дыял. *ражáць*. Апрача таго, прасл. **dj*, якое пераходзіла ў бел. **дж*, у помніках пісьменства абазначаецца праз *ж*: *промежу, прежe, гражане, хожене* (Карскі, 1, 381).

**Ро́жан** 'ражон' (ветк., Мат. Гом.). Да *ражон* (гл.). Націск на *ро́-*, магчыма, пад уплывам паўн.-рус. мовы старавераў. Параўн. арханг. *ро́жен* 'адзін з кіёчкаў у прыстасаванні для сушэння траскі', алан. *ро́жень* 'палка, на якую насаджваецца рыбалоўная сетка', валаг. 'завостраны калок, вожаг, якім перамешваюць галавешкі, жар у печы асеці'. Сюды ж *рожно́* 'драўляны пруцік, на якім смажаць сала на агні' (Сл. Брэс.; мазыр., З нар. сл.), *ро́жны* 'качарэжнік' (ЛА, 4), *рожны́* 'вілкі, якімі ставяць у печ і дастаюць з печы чыгуны' (Сл. Брэс.).



**Ро́жаніца** 'парадзіха' (Нас.; в.-дзв., Шатал.; Мат. Гом.). Да прасл. **rodjen-ic-a* < **rodъ* > *род₁* (гл.). Адносна праблемных стараж.-рус. *рожаница*, мн. л. *рожаницы* гл. Жураўлёў, Язык и миф, 796 (з літ-рай).

**Ро́жаны** 'родны' (Нас.). Магчыма, уплыў польск. *rodzony* 'тс', звычайна з прыстаўкамі *-ро́джаны* (напр., *наро́джаны*). Да *род₁*, *радзіць* (гл.).

**Ро́жны** 'розны, разнастайны' (Др.-Падб.) – у выніку кантамінацыі бел. *розны* (гл.) і польск. *różny* 'тс'.

**Ро́з** – прыстаўка, адпавядае *раз-* (гл.) у націскной пазіцыі, ст.-бел. *роз* – ужывалася не толькі пад націскам, але і не пад націскам: *роздѣлохъ* (1432), *розсказуемъ* (1497), *розумети* (1588). Паводле Карскага (1, 95), гэта супадае «с показаниями тех памятников древнерусского языка, на которых менее заметно церковнославянское влияние».

**Ро́за** 'ружа, Rosa L.' (міёр., Жыв. сл.; Сл. ПЗБ), 'куст кветак' (ТС), *ро́зіна* 'куст ружы, кветка ружы' (міёр., Нар. словатв.), *ро́за, ру́жа, дзікая ро́за* 'шыпшына' (віц., ЛА, 1). З рус. *ро́за*, якое праз ням. *Rose* з лац. *rōsa* (Фасмер, 3, 494). Сюды ж *ро́зовый васылёк* 'зязюльчын светнік, Coronaria flos cuculi L.' (бяроз., Нар. лекс.), *ро́зова воло́шка* 'васілёк лугавы, Centaurea jacea L.' (ТС), *ро́завы* 'ружовы' (Сл. ПЗБ, ЛА, 4).

**Ро́зачкі** 'дзве тонкія дошчачкі ў кроснах, якія служаць для таго, каб не блыталіся ніткі асновы' (воран., Шатал.), *ро́зачкі* 'дзве палачкі, што дзержаць чыны' (швянч., Сл. ПЗБ). Няясна.

**Ро́залка** 'паглыбленне (равок) паміж загонамі пры ворыве ў роскідку' (слуц., Лекс. і грам., 15). З *ро́звалка*, якое з *раз-* і *валіць* (гл.). Семантычна *ро́звалка* – тое ж, што і *ро́скідка* (гл. *роскід*).

**Ро́зваль** (у Насовіча *ро́зволь*, відаць, пад уплывам *уво́лю*) 'задавальненне, раскоша', параўн. выраз: *наеўся ў розволь* 'уволю, удосталь' (Нас.). Да *раз-вал-іцца* 'раскінуцца' (гл.). Утворана ад асновы (з прэфіксам) і суфікса -ь з адцягненым значэннем, як *удосталь, уроссып*, рус. *вдоль, вдоволь* і інш. Параўн. з гэтым жа коранем рус. пск. *ро́звалень* 'мяла, цяльпук', *ро́зваль* 'нядбайны, без парадку'.

**Ро́звальні₁**, *разва́льні* 'сані-развалы, развалкі' (ТСБМ; круп., Жыв. сл.; Сцяшк.), 'шырокія сані' (в.-дзв., Шатал.; брасл., в.-дзв.,

Сл. ПЗБ), ‘вялікія сані’ (Байк. і Некр.); ‘прыстасаванне да саней для расшырэння іх плошчы’ (глус., Янк. Мат.; Юрч.); ‘крывіны з бакоў саней (каб накласці многа грузу)’ (Бяльк.); ‘дзве крывуліны, што насаджваюцца на канцы задняй восі, калі возяць бярвенні’ (там жа). Да *развалы* (гл.). Суфікс *-н-і*, як у *сані* (гл.).

**Ро́звальні**$_2$ ‘прыстасаванне, у якім носяць сена’ (арш., чач., ДАБМ, камент., 826; Рам. 8) – у выніку кантамінацыі лексем *розвіны, рэзвілі, рэзвіны* ‘тс’ (гл. *рэзгіны*) і *розвальні* ‘сані-развалы’ паводле падабенства.

**Ро́зведзень** ‘развора, доўгі брус, які злучае пярэднюю і заднюю часткі воза’ (ПСл). Да *раз-ве́сці* (гл. *развод*) – “разводзіліся” перадок з задняй часткай воза, калі перавозілі доўгія бярвенні. Аналагічна *развора* (гл.) < прасл. **orz-vor-a* < прасл. **vьr-/ *ver-/ *vor-* (гл. *вярцець*).

**Ро́зведы** разм. ‘разведка’ (ТСБМ), звычайна *разве́дкі* ‘тс’ (Ласт.). Да *разведаць* (гл.).

**Ро́зверць** (*розьверць*) ‘раструб’, ‘архідэя’ (Байк. і Некр.). Фармальна да *раз-* і *вярце́ць* (гл.). Сема ‘труба, што пашыраецца на канцы, альбо нешта, што пашыраецца да канца’ прысутнічае ў рус. вяц., маск. *ро́зверть* ‘развілак дарог, ростані’, польск. *rozwiertak*, харв. *razvr̀tač* ‘рассвідроўванне’. Архідэя названа паводле падабенства кветкі да раструба.

**Ро́звільны** *(ро́зьвільны)* ‘сані-развалкі’ (Бяльк.) – у выніку кантамінацыі лексем *розвальні* ‘тс’ і *развілкі* (гл.).

**Ро́звіны** (*розьвіны*) ‘рэзгіны – прылада для нашэння сена, саломы’ (Касп.; ушац., Нар. сл.; талач., Шатал.; шум., Сл. ПЗБ; ДАБМ, камент., 826). Да *рэзгіны* (гл.). Не выключаны ўплыў лексемы *розвальні*$_1$ (гл.). Параўн. таксама *ро́звальні*$_2$, *розвы* (гл.).

**Ро́звы** ‘прыстасаванне, у якім носяць сена’ (пух., чэрв., ДАБМ, камент., 826), *рэ́зьвы, рэ́зьвівы, рэзьвілі, ро́зьвіны, рэзьвіны, рэ́зьзіны* ‘тс’ (там жа) – балтызмы, параўн. *rẽzgynės, rezgĩs* ‘пляцёнка, кошык’, ‘сетка’ (Карскі, РФВ, 49, 20; Фасмер, 3, 461).

**Ро́зга**$_1$, *ро́ска, ро́зга, ро́зка, ро́жга* ‘тонкая гнуткая галінка, дубчык, дубец’, (ТСБМ, Др.-Падб., Гарэц., Нас., Шат., Бяльк., Стан., Нар. Гом., ТС, ПСл; пін., Шатал.; Байк. і Некр., Мат. Гом., Жд. 1, Сл. ПЗБ), *ро́ска, ро́скі* ‘вітка (на калках плота)’ (чэрв., ЛА, 4). Укр. *рі́зка* ‘галінка’, ‘дубец для пакарання’, рус. *ро́зга* ‘тс’, ‘парастак, атожылак’, стараж.-рус. *розга*, польск. *rózga* ‘тс’, н.-луж. *rozga* ‘сухая галіна’, палаб. *rözgă, rözgo* ‘галіна’, ‘сук’, ‘шост, палка’, ‘куст’; чэш. *růzha*, ст.-чэш. *rózka* ‘аднагадовая галінка’, славац. *rázga* ‘дубец’, славен. *rǫ̂zga* ‘малады парастак вярбы’, *rǫ̂zgva, ròzga* ‘тс’, серб. *ро̏зга* і харв. *rȍzga* ‘малады парастак вінаграднай лазы’, ‘калок, што падтрымлівае вінаградную лазу’, ‘палка, дубіна; дубец, розга; вецце, сухое галлё’, балг. *розга́* ‘кол, палка, жэрдка’, ст.-слав. **розга** ‘маладая галінка, парастак’, **рождиѥ** ‘сухое галлё, фашына’. Этымалагічна няясна. Звычайна параўноўваюць з літ. *règzti, rezgù* ‘плесці, вязаць’, *rẽzgis* ‘кошык, пляцёнка’, ст.-інд. *rájju-* ‘вяроўка, ліна’, лац. *restis* ‘тс’ (Мее–Ваян, 131; Мікала, Berühr., 158; Шэфталявіц, IF, 33, 134; Вальдэ–Гофман, 2, 431). Не пераконвае супастаўленне лексемы *розга* з лат. *razga, razda* ‘дзяркач, старая мятла’, літ. *rãžas* ‘пень’ (Мюленбах–Эндзелін, 3, 492). Гл. таксама ESJSt, 13, 778 з аглядам версій і літ-рай.

**Ро́зга**$_2$ ‘сумнік звычайны, Solidago virga-aurea L.’ (Кіс.), польск. *rózga złota* ‘тс’, славен. *rǫ̂zga* ‘тс’. Да *розга*$_1$ (гл.) у выніку пераносу значэння паводле падабенства.

**Ро́згавіны** ‘першы скаромны дзень пасля Вялікага Посту’ (Др.-Падб.), *ро́згаўкі* ‘тс’ (ТС), *разгаве́нне* ‘тс’ (ТСБМ). Да *разгавецца* ‘паесці першы раз пасля Посту’, якое з *роз-/раз-* са значэннем ‘ажыццяўленне дзеяння ў адваротным напрамку’ і *гаве́ць* ‘пасціць і хадзіць у царкву, рыхтуючыся да споведзі’, якое са ст.-слав. **говѣти** ‘быць набожным, богабаязным’, роднаснага лац. *favēre, faveō* ‘ставіцца з прыхільнасцю, мець ласку’, умбр. *fonēr* ‘прыемна абдуваць’, ст.-ісл. *gá (< *gawiðō)* ‘шанаваць, быць набожным’ < і.-е. **ghau̯-ēi̯ō* (Бернекер, 1, 338; Фасмер, 1, 432–434; Махэк$_2$, 181; Голуб–Ліер, 197; Младэнаў, 104; Скок, 1, 597).

**Ро́згалас** ‘рэха, адгалоскі’ (ТСБМ, Шат.), *розгалас* ‘водгук, адгалоскі’ (Яруш.). Укр. *ро́зголос* ‘погалас, чутка, гавэнда’; рус. *разгла́ска* ‘рознагалоссе, супярэчлівасць’ – пазнейшае ад *разгласи́ть* ‘зрабіць вядомым’, ‘разнесці чутку’; ‘вядомасць, папулярнасць’, польск. *rozgłos*, н.-луж. *rozgłos*, в.-луж. *rozhłos*, чэш., славац. *rozhlas* ‘радыё’, чэш. *rozhlásiti* ‘выдаць таямніцу’, ‘да-

весці да ведама публікі'; славен. *razglàs* 'апавяшчэнне'; у іншых паўд.-слав. мовах (серб. *разгласити*, харв. *rázglas, razglásiti*, славен. *razglasiti*, макед. *разгласи*, балг. *разглася́*) дзеяслоў абазначае 'аб'яўляць, паведамляць, рабіць вядомым'. Беларуская ж лексема паводле семантыкі займае асобнае месца (значэнне 'рэха'). Да прасл. _*orz-golsiti_ і _*orz-golsъ_ > *раз-* і *голас, галасіць* (гл.). *Розгалас* 'слава, папулярнасць' (Др.-Падб.) і *розглас* 'пагалоска' (Сцяшк. Сл.) узыходзяць да польск. *rozgłos* 'вядомасць, папулярнасць'.

**Ро́згары** 'свята, якое адзначаецца ў наступны пасля Тройцы тыдзень' (палес., Кольб.; пух., Сл. ПЗБ). Да *ро́зыйгра* (гл.).

**Ро́згляды** 'звычай знаёміцца з нявестай і яе маёмасцю' (Юрч. Вытв., Сцяшк.; пух., Сл. ПЗБ; Растарг.). Укр. *ро́зглядини* 'агледзіны', валынск. *розгля́дини* 'заручыны'. Беларуска-ўкраінская ізалекса. Да *разглядаць* < *раз- (роз-)* і *глядзе́ць* (гл.). Такую ж прэфіксацыю маюць н.-луж. *rozglěd*, в.-луж. *rozhlad*, чэш. *rozhled*, славац. *rozhľad* 'агляд', 'від', 'перспектыва'.

__*Розган,__ *ро́згын* 'баразна, што раздзяляе значныя ўчасткі поля' (палес., Выг.). Да *разгон, разганя́ць* < *раз- (роз-)* і *гнаць* (гл.).

**Ро́здараж** 'ростань, месца, дзе сходзяцца і разыходзяцца дарогі' (Байк. і Некр. – з Коласа). Укр. *ро́здорож, роздорі́жжя* 'тс'. Беларуска-ўкраінская ізалекса, якая да прасл. _*orz-dorg-ь_ > *раз- (роз-)* і *дарога* (гл.) параўн. *раздарожжа* (гл.).

**Ро́здум** 'паглыбленасць у свае думкі' (ТСБМ). Укр. *ро́здум* 'тс'. Беларуска-ўкраінская ізалекса. Да *разду́мваць* < *раз- (роз-)* і *ду́маць* (гл.). Сюды ж *ро́здумны* 'схільны да роздуму', 'роздум' (ТСБМ).

**Ро́здур** 'раздуранасць', 'раздураны' (Янк. 3), 'распушчаны чалавек' (клец., Нар. лекс.), 'неслух, свавольнік' (жаб., Нар. лекс.). Ад *раздуры́ць* < *раз- (роз-)* і *дуры́ць* (гл.).

**Ро́здых** 'адпачынак' (Бяльк.). Утворана паводле прасл. _*ot-dъxъ_, _*ot-духъ_ (рус. *отдых*, чэш., славац. *oddech*, *oddych*, славен. *oddih* 'тс') з *раз-* (*роз-*) і *дыха́ць* (гл.).

**Ро́ззе** (*розьзя*) 'дробныя галінкі бярозы' (пін., Шатал.). З _*rozgьje_, як і славен. *rõžje*, ст.-слав. **рождиѥ**, **раждиѥ**: апошняя форма – пазнейшая: *ра-* – пад уплывам форм на *раз-* (< _*orz-_). Да прасл. _*rozga_ (рэканструкцыя паводле Вондрака, Vergl. gr., 1, 501; Фасмера, 3, 495). Да *розга*$_1$ (гл.).



**Ро́зляг** у выразе: *розляг ідзе* 'разносіцца, пашырацца (пра шум, крык і інш.)' (навагр., Жыв. НС). Ад *разляга́цца* 'тс', якое з прасл. _*orz-lęgati sę_ 'тс' (параўн. укр. *розляга́тися*, польск. *rozlegać się*, н.-луж. *rozlěgaś se*, чэш. *rozléhati se*, славац. *rozliehať sa*, славен. *razlégati se*, серб. *разлѐгати се* 'тс', харв. *razlèći se*). Да *раз-* (*роз-*) і *ле́гчы* (гл.).

**Ро́змах** 'размах' (ТС). Націск на *ро́* пад уплывам укр. *ро́змах* 'тс'. Да *разма́х, разма́хваць* 'махаць чым-небудзь то ў адзін, то ў другі бок', *размаха́ць* 'расхістаць, разгайдаць' < прасл. _*orz-maxъ_ < прасл. _*orz-maxati/ mavati/ majati_ (рус. *размах*, польск. *rozmach*, н.-луж. і в.-луж. *rozmach*, чэш., славац. *rozmah*, славен. *razmàh*, балг. *разма́х*) > *раз-* (*роз-*) і *маха́ць* (гл.).

**Ро́змін**, *разьмін* 'раз'езд на дарозе' (Шат., Касп.), 'мінанне сустрэчных адзін каля аднаго' (Стан.). Да *размі́нуцца, міна́ць* (гл.).

**Ро́змінка** 'тварог, перамешаны са смятанай ці малаком' (Сл. Брэс.). Да *раз-* (*роз-*) і *мяць, мну* (гл.).

**Ро́знасць**$_1$ 'розніца', 'вынік адымання (у матэматыцы)' (ТСБМ, Гарэц.) – калька з рус. *ра́зность* 'тс'.

**Ро́знасць**$_2$ 'неаднолькавасць' (Нас.), 'адрозненне' (Байк. і Некр.), ст.-рус. *розность*, польск. *różność*, чэш. *různost* 'тс'. Да *розны* (гл.).

**Ро́зніца**$_1$, *розьніца* 'непадабенства, адрозненне ў чым-небудзь', 'велічыня, сума, якая з'яўляецца рознасцю паміж дзвюма велічынямі, сумамі' (ТСБМ, Гарэц., Нас., Бяльк., Касп., Байк. і Некр., ТС). Укр. *різни́ця*, рус. *ра́зница* (ц.-славянізм), польск. *różnica* 'адрозненне', чэш. *různice* 'разлад, спрэчка', ст.-польск. *różnica* 'тс', ст.-рус. *розница* 'спрэчка, нязгода' (XVII ст.). Да *розны* (гл.).

**Ро́зніца**$_2$ 'продаж паштучна або невялікімі колькасцямі' (ТСБМ). З рус. *розница* 'тс' < ст.-рус. *розница* 'тс' (1407 г.). Сюды ж *розні́чны* 'звязаны з гандлем у розніцу' (ТСБМ). Параўн. *ураздроб* (гл.).

**Ро́зніцца** 'мець рысы, асаблівасці, якія адрозніваюць адно ад аднаго' (ТСБМ, Гарэц., Др.-Падб.), 'аддзяляцца' (Нас.), 'адрознівацца' (Байк. і Некр.), 'разрастацца з аднаго кораня парасткам' (слуц., Жыв. НС). Укр. *різни́тися* 'адрознівацца', 'аддзяляцца, разлучацца', ст.-рус. *рознитися* 'адрознівацца', 'разыходзіцца ў чым-небудзь' (XVI ст.), польск. *różnić się* 'тс', 'сварыцца', чэш. *různiti se* 'адрознівацца'. Паўночна-славянскае. Утворана ад *розны* (гл.) < прасл. _*orz-ьnъ_ альбо ад _*orzьnъ_ (параўн. *рознь* 'адрозненне', 'сварка', рус. *рознь* 'розніца'). Сюды ж *розні́ць* 'быць

асаблівасцю, якая адрознівае' (ТСБМ, Касп., Стан.), 'аддзяляць адно ад парнага' (Нас.), *вы́разніцца* 'вылучыцца' (з польск. *wyróżnić się* 'тс', 'адрознівацца'), *паро́зніцца* 'аддзяліцца', 'адрознівацца, не супадаць', 'пасварыцца' (Стан.).

**Ро́зны** (*розный*) 'неаднолькавы, непадобны', 'другі, іншы, не той самы', 'разнастайны' (ТСБМ, Нас., Гарэц., Стан., Байк. і Некр., Бяльк.), *розна* 'па-рознаму', 'паасобку', 'чотка, разборліва' (Гарэц., Нас., Касп., Растарг.). Укр. *різний*, рус. зах. *ро́зный* 'неаднолькавы, розны', смал. 'дзіравы (пра мяшок)'; паўн. 'парваны, дзіравы, паношаны', 'стары, разбіты, паламаны'; польск. *różny* 'розны', в.-луж. *rózno* 'асобна', чэш. *různý*, славац. *rôzny*, славен. *rázen*, серб. *ра́зан, ра̂зни*, харв. *rázan, rȃznī*, макед. *разен*, балг. *разен*, ст.-слав. **разьнъ**. Прасл. **orzьnъ*, якое з **orz- > раз-/ роз-* (гл.) і суф. *-ьnъ-* (ESJSt, 13, 758).

**Ро́зрух**, *руозрух* 'разруха, поўнае расстройства, развал у гаспадарцы' (ТСБМ), 'разгром, беспарадак, клопаты' (Гарэц., Мал., Байк. і Некр.). Укр. *ро́зрух, ро́здрух* 'бунт, смута, трывога, замяшанне, пярэпалах', рус. *разру́х* 'распад, разбурэнне', 'разрыў, канец згодзе, дружбе', 'вайна', польск. *rozruch* 'запуск (рухавіка)', *rozruchy* 'хваляванні, беспарадкі', чэш., славац. *rozruch* 'хваляванне, замяшанне, трывога', славац. 'пярэпалах'. Аддзеяслоўнае (найпраўдападобней), праслявянскае, ад асновы **rux* утварэнне з суф. *-ъ. Да *раз-/роз-* (прасл. **orz-* < і.-е. **ordh-/ *ardh-+s*) і *ру́хаць* (гл.). Параўн. экспрэсіўнае *рэ́зрух* (гл.).

**Ро́зрыў** 'нязгода (паміж братамі)', 'перарванне, перапынак (хваробы, смутку)' (Нас.), балг. *ра́зрив* 'разрыў (сэрца)', 'разладжанне, расстройванне планаў' – інтанацыйны варыянт аддзеяслоўнай лексемы *разрыў*. Да *раз-/ роз-* і *рваць* (гл.).

**Ро́звет** 'досвітак, світанне, золак' (Нас.). Укр. *ро́звіт*, славен. *(raz)svit* 'тс', серб., чарнаг. *ра̏свит*. Фармальна ўтворана пры дапамозе прыстаўкі *раз-* (< прасл. **orz-*) і назоўніка *свет-* (< прасл. **světъ* 'святло' < і.-е. **svoit-*) > *свяціць* 'асвятляць' (гл.). Тут дзеяслоўная прыстаўка надае назоўніку значэнне 'пашырацца, распаўсюджвацца'. Аналагічна польск. *rozbrzask* і *brzask*, чэш. *rozbřesk* і *břesk*, ст.-чэш. *břězk*, славац. *rozbresk* 'світанак'.

**Ро́зум** 'здольнасць мысліць, разумець', 'разумовыя здольнасці чалавека, інтэлект' (ТСБМ, Нас., Шат., Бяльк., Касп., Стан., Растарг., ТС, Сл. ПЗБ), *розымъ* 'тс' (шымк. Собр.), ст.-бел. *розум* 'тс'.



Укр. *ро́зум*, рус. *ра́зум* (< ц.-слав. *разумъ*), дыял. *ро́зум*, польск. *rozum*, н.-луж. *rozym*, в.-луж. *rozum, rozom, rozym*, чэш., славац. *rozum*, славен. *razȗm, rezum*, серб. *ра̏зум*, харв. *rȁzum*, макед. *разум*, балг. *ра́зум*, ст.-слав. **разоумъ**. Прасл. **orzumъ*, утворанае з прыстаўкі **orz-* > бел. *раз-/роз-* (гл.), якая тут выражае адрознівальную здольнасць мыслення (Рэйзак, 548) і **umъ > ум > умець* (гл.) < і.-е. *(H)au̯-mó-* (Міклашыч, 372; Покарны, 78; Фасмер, 3, 435; Шустар-Шэўц, 2, 1244; Бязлай, 3, 160; БЕР, 6, 161–162). Сюды ж *разумны, разумовы* (гл.).

**Ро́зыгрыш** 'нічыйны вынік гульні' (ТСБМ). З рус. *ро́зыгрыш*, якое ўтворана ад *разыгра́ть* пры дапамозе суф. з экспрэсіўным значэннем *-ыш* (< прасл. **-yšь*).

**Ро́зыйгра** 'розыгрыш' (Нас., Бяльк., Байк. і Некр.), *ро́зыгра* 'тс' (Стан.), *ро́зыгры* 'апошні дзень свята Тройцы' (Маш.), 'свята праз тыдзень пасля Тройцы' (ТС), *русо́ўчыны ро́зыгры* 'апошні дзень русальнага тыдня' (ТС): *у гэты дзень русаўкі іграюць* (Маш., 219); укр. *ро́зигри* 'розыгрыш', 'першы дзень Пятроўкі пасля за́гавін', рус. курск. *ро́зыгры* 'тс'. Да *раз-* і *ігра* (гл.) < прасл. **jьgra*. Параўн. балг. *руса́лски игри* ў час *русаля* 'свята святога духа, Русальны тыдзень, гл. *русаллі*.

**Ро́зыйд** 'адыход' (Байк. і Некр.), 'адыход наведвальнікаў' (Нас.). Утворана пры дапамозе прыстаўкі *роз-/раз-* (гл.) і кораня дзеяслова *ісці* ў форме *-ід* (< прасл. **id-ti* 'ісці'), параўн. 1 ас. адз. л. цяпер. часу *ід-у < ісці* (гл.). Аб пераходзе *і > й* пасля галосных гл. Карскі (1, 229). Не выключана, што *-д* магло ўзнікнуць у выніку ад'ідэацыі формы *-ход-* (як у *прыход – прыйсці*).

**Ро́зыйск** 'росшук' (Нас., Юрч. Вытв.). Утворана ад *іск* 'пошук' (вымаўлялася [йіск]) з далучэннем прыстаўкі *роз-/раз-* (гл.). Ва ўтваральным **розйіск* адбылася перастаноўка гукаў у групе *йі > ій*, а пры цвёрдай зычнай *-з* (у *роз-*) *і* перайшло ў *ы*. У іншых гаворках *-й-* выпала: *ро́зыск* (стол., валож., талач., ЛА, 1), але пасля прыстаўкі на галосны гук гэты *-й-* застаўся: *по́іск* [по́йіск], *по́іска* [по́йіска].

**Розь** 'адрозненне', 'нязгода, сварка', 'рознагалоссе, супярэчнасць' (Нас.). З *⁺розьнь*, параўн. ст.-рус. *рознь* 'адрозненне, розніца', 'варожасць', сюды ж *розь* 'асобна' (Юрч. СНЛ) у прыкладзеілюстрацыі: *ні дываў ёй грошы, розь елі,* паходзіць з *въ розьнь*. Параўн. рус. дыял. *розь* 'розніца', 'нязгода, сварка'. Да *розны* (гл.).

**Ро́іла** ‘беспарадак, хаос’ (ТСБМ, Юрч., Стан.), *ро́ілам* ‘у бязладдзі, беспарадку’ (Гарэц.), *ро́йла* ‘непарадак’ (Бяльк., Мат. Маг., Растарг.; чавус., Нар. сл.; навазыбк., Пал.). Да *ро́іць, раі́цца* (гл.). Гэтае ўтварэнне з суф. *-л-* адрозніваецца ад шэрагу іншых (гл. Сцяцко, Афікс. наз., 48–49) сваім адцягненым значэннем. Аналагічна ўтворана славен. *rojílo* ‘рой’, ‘чарада, зграя’, ‘натоўп’. Не выключана генетычная сувязь з *ройка$_3$, ройла* (гл.).

**Ро́іцца** ‘раіцца (пра пчол)’ (брасл., ваўк., Сл. ПЗБ), *ро́іцца, роі́цца* ‘тс’, ‘мітусіцца, мільгаць’ (ТС); укр. *рої́тися* ‘раіцца (пра пчол)’, *рої́тися в голові* ‘успамінацца’, рус. *рои́ться*, польск. *roić się* ‘тс’, *roić* ‘марыць, летуцець’, ‘мроіць’, н.-луж. *rojś se* ‘тс’, ‘у мітусні імкнуцца наперад’, в.-луж. *rojić so* ‘раіцца’, ‘кішэць’, ‘багацець’, чэш. *rojiti se* ‘раіцца (пра пчол)’, ‘таўчыся (пра машкару)’, ‘тоўпіцца (пра людзей на вуліцы’, славац. *rojit’ sa* ‘тс’, ‘раіцца (пра думкі чалавека ў галаве)’, славен. *rojíti* ‘тс’, ‘бадзяцца’, ‘марыць’, серб. *ро̀јити се*, харв. *ròjiti*, макед. *рои се*, балг. *роя́* ‘сабраць у рой’, *роя́ се* ‘раіцца’. Прасл. **rojiti sę*, утворанае ад назоўніка **rojь* > *рой* (гл.). Гл. таксама *раі́цца*. Сюды ж: *ро́іцца* ‘здавацца, з’яўляцца, прыходзіць у галаву’ (Юрч.; бялын., Янк. Мат.; іўеў., Сцяшк. Сл.), ‘трызніцца’ (Жд. 3), ‘мроіцца, здавацца’, ‘думацца’ (ТС), у выніку семантычнага пераносу ‘роіцца’ > ‘мітусіцца, кішэць’ > ‘прыходзіць у галаву і да таго пад.’, а таксама *ро́іць* ‘ляцець, валіць’ (ТС), семантыку якога можна знайсці яшчэ ў прасл. **rojiti, *rojь* ці нават у і.-е. адпаведніках **roi(H)o-*, напрыклад, лац. *rīvus* ‘ручай, струмень’ і інш. (гл. *рой$_1$*).

**Рой$_1$** ‘сям’я пчол або інш. насякомых, якія ўтвараюць адасобленую групу на чале з маткай’, ‘мноства, вялікая колькасць насякомых, птушак, якія носяцца ў паветры’, *ро́ем* ‘чарадой, гуртам, у вялікай колькасці’ (ТСБМ, Бяльк., Стан., ТС, Сцяшк., Сл. ПЗБ; воран., ашм., віл., З нар. сл.). Укр. *рі́й*, рус. *рой*, польск. *rój*, н.-луж. *roj*, в.-луж. *rój*, чэш., славац. *roj*, славен. *rȍj*, серб. *ро̑ј*, харв. *rȏj*, чак. *rȏj*, макед. *рој*, балг. *рой, ро́ят* ‘рой’, ц.-слав. *рои* ‘замяшанне, мітусня, беганіна, узбуджэнне, непарадак’; ‘бунт, сварка’; ‘натоўп’; ‘чарада, куча’. Сюды далучаюць славац. *zdroj*, польск. *zdrój* ‘крыніца’. Прасл. **rojь* – першапачаткова ‘плынь, струмень, паток’, потым – ‘вылятанне пчол з мацярынскай сям’і’, – якому адпавядае ст.-інд. *ráyas* ‘плынь, імкненне, бег, паспешнасць, раз’юшанасць’, *riṇā́ti* ‘выпускае на волю’, лац. *rīvus*



‘паток’ < і.-е. **$h^3$roi̯Ho-* ‘цячэнне, струмень, плынь; бег, ход’ (Траўтман, 243; Уленбек, 245; Фасмер, 3, 496; Брукнер, 461; Махэк$_2$, 515; Шустар-Шэўц, 2, 1232; Скок, 155–156; Бязлай, 3, 193; Сной$_2$, 627–628; БЕР, 6, 311–312; ESJSt, 13, 775–776). Роднаснымі да прасл. **rojь* з’яўляюцца прасл. **rějati* ‘цячы’, **rěka* ‘рака’, **ristati* ‘спаборнічаць’, **riskati* ‘бегчы, імкнуцца хутка’, ‘шныраць’, ‘гойсаць’, **rinǫti* ‘рынуцца’. Сюды ж: *ро́йніца, раёўня, ро́йнік* ‘посуд, у які збіраюць рой пчол’, *рої́льня, ройні́ця* ‘тс’ (Жыв. НС, Сл. Брэс., З нар. сл., Сцяшк. Сл., ЛА, 1). Гл. таксама *райні́к*.

**Рой$_2$** ‘запаленне малочнай залозы’ (шальч., Сл. ПЗБ). Няясна.

**Рой$_3$** ‘гайня ваўкоў’ (глыб., ЛА, 1; астрав., лельч., ЛА, 5) – пад уплывам народнай этымалогіі нібыта адносіцца да *рой$_1$* ‘мноства, стада, стая’, таму і знешняе падабенства. Аднак лексема ўзыходзіць да *руя́* ‘тс’, ‘зграя, стада ваўкоў у перыяд цечкі’ (Сл. ПЗБ), гл., магчыма, з польск. *ruja* ‘цечка, гон’ < ст.-чэш. *řújě, řijě* ‘перыяд цечкі ў аленяў’, суч. *říje* < прасл. **reuti/*rou-ti* ‘раўці, рыкаць’ > бел. *раўці́* (гл.). Параўн. лат. *raunas laiks* ‘марцаванне катоў’. Не выключаецца ад’ідэацыя лексем *юр*, *юра́* ‘гайня ваўкоў’ (ЛА, 5).

**Ро́йба**, ст.-бел. **ройба**: ручъниковъ осмъсотъ жомойтъскихъ ройбъ чотырыста (Булыка, Запаз., 286). Гутшміт (ZfSl, 23, 675) прывязвае гэтае слова да літ. *ráibas* ‘каляровы, плямісты, з рабаціннем’. Руце-Дравіня (ZfSl, 26, 555–557) мяркуе, аднак, што слова ўзыходзіць да лат. *raîba* або *raibe* ‘каляровая накідка, каляровая хустка’, якое было пашырана па ўсёй Латвіі і пазней распаўсюдзілася ў Летуве.

**Ро́йка$_1$** (*ру͡ойка*) ‘мядзведка, Gryllotalpa gryllotalpa’ (Сержп., Грам.). Да *рыць* ‘капаць’ (гл.). Гэтае насякомае рые ў глебе норы да падземных частак раслін.

**Ро́йка$_2$** ‘рамонак, Matricaria L.’ (дзятл., Сцяшк. Сл.). Відаць, узыходзіць да польск. *rojnik* ‘багун, Ledum palustre’, або да *rojownik* ‘меліса, Melissa’. Названа паводле падабенства прыемнага паху, які прываблівае пчол.

**Ро́йка$_3$** асудж. ‘жанчына з непрыбранымі, распушчанымі валасамі, проставалосая’ (міёр., З нар. сл.). Генетычна звязана з смал., зах.-бранск. *ро́йда* ‘непарадак у хаце, з адзеннем’, ‘бязладны, неахайны чалавек’, якое, відаць, узыходзіць да ўграфінскай крыніцы, параўн. вепс. *roida* ‘капаць, рыць, раскопваць’, ‘зносіць (будынак)’, ‘раскідваць’.

**Ро́йла** ‘нязграбны, неакуратны чалавек’ (Юрч.), укр. дыял *ро́йло* ‘вялізны, тоўсты, сыты, тлусты чалавек ці жывёла’ (Нікан.). Да папярэдняга слова *ройка*$_3$ (гл.). Параўн. і *ро́ila* (гл.), усх.-бел. *ро́йла* ‘непарадак’ (Яўс.).

**Ро́йма** ‘беспарадак’ (Жд. 3). Да *рой*$_1$ (гл.). Утворана ад дзеяслова *раіцца* (гл.) пры дапамозе суф. *-ма*, як *крычма, сідзьма* і інш., які ўяўляе сабой канчатак Тв. скл. парнага ліку (Карскі, 2–3, 67).

**Ро́ймя** ‘разам’ (карэліц., Сцяшк. Сл.) З формы $^{+}$*ройня* < *ройне* (з канчаткам *-не*, як у польскіх прыслоўях на *-nie*). Параўн. Звычайнае *ройна* (гл.).

**Ро́йна** ‘разам’ (карэліц., Сцяшк. Сл.), *ро́йны* ‘густы’ (Яруш.). Да *рой*$_1$ у выніку пераносу семантыкі.

**Ройст** ‘мокрая забалочаная сенажаць’ (воран., астрав., ЛА, 2), *ро́йста* ‘тс’ (смарг., ЛА, 2); ‘балота’, ‘зарослае балота, звычайна ў лесе’ (воран., Яшк., Сл. ПЗБ), *ро́йста, ро́йсце* ‘нізкае, вільготнае месца ў лесе’ *ро́йстра, ро́йсцвіны* ‘тс’ (воран., шчуч., лід., смарг., Сл. ПЗБ); *ро́йставіна, ро́йстра* ‘непрыгодная, неўрадлівая зямля’ (гродз., КЭС; Жд. 1, Сцяшк.), ‘поле на раскарчаваным лесе ці балоце’ (гродз., Сцяшк. Сл.); *ро́йсты* ‘лясны зараснік’; *ро́йстра ў ле́се – бярэзніку і моху шмат, пні гніюць* (Жд. 1), *ро́йстачка* ‘невялікі вадаём’ (маст., смарг., Сл. ПЗБ), *ройства* ‘выпас для жывёлы’ (нясв., там жа); *ро́йста, ро́йсты* ‘раздарожжа, скрыжаванні дарог’ (вілен., Яшк.). Ст.-бел. *ройстъ, ройстро, ройство, ройсто* ‘забалочанае месца, пакрытае хмызняком’ (1501). Балтызм. Параўн. літ. *raĩstas, reĩsta* ‘балоцісты лес, кустарнік’ (Буга, Rinkt, 2, 539; Лаўчутэ, Балтизмы, 33; Булыка, Лекс. запазыч., 139; Анікін, Опыт, 268).

**Ро́йтаннік** ‘конюх, канавод’ (Гарб.), ст.-бел. *ройтиникъ, ройтыникъ* ‘конюх’ (1526 г.) < літ. *raitininkas* (Булыка, Лекс. запазыч., 91). Гл. таксама *райцiннiкi*.

**Рок**$_1$, *руок, рык, рік* ‘год’ (Нас., Мал., Бес., Сцяшк., Сцяц., Нар. Гом., Байк. і Некр., Скарбы, Сл. ПЗБ; гродз., З нар. сл.), ‘тэрмін’ (Стан.) ‘тэрмін пасяджэння земскага суда’ (Гарб.). Укр. *рік*, рус. дыял. *рок* ‘тс’, рус. разан. ‘непазбежнае няшчасце, лёс, доля’, стараж.-рус. *рокъ* ‘тэрмін, год, узрост; правіла; лёс’; польск., н.-луж., чэш., славац. *rok* ‘год’, славен. *rȍk* ‘тэрмін’, ‘прадвесце’, серб. *pȏк*, харв. *rȍk, rȍk*, ст.-слав. **рокъ** ‘устаноўлены, дамоўлены тэрмін’. Прасл. *rokъ* ‘дамоўлены час, тэрмін’, утворанае ад **rekti* ‘сказаць’ (гл. *рэкнуць*), першапачаткова азначала ‘нешта дамоўленае’, напрыклад, чэш. валаш. *byl na istém roku* ‘быў, каб пачуць дакладны тэрмін вяселля’, альбо дамоўленасць у прававых адносінах, якая, як правіла, вызначалася тэрмінам на 12 месяцаў – такім парадкам слова **rokъ* атрымала значэнне ‘год’, параўн. ст.-бел. *рокъ замероный* ‘вызначаны тэрмін для разгляду справы ў судзе’ (Статут 1529 г.), *рокъ завитый* ‘канчатковы тэрмін яўкі ў суд’ (Ст.-бел. лексікон), *роки статутовые* ‘тэрмін грашовай выплаты ад выйгранага працэсу’, *роки судовые* ‘тэрмін судаводства земскага суда’ (Гарб.), *зложыць рокъ* ‘вызначыць тэрмін’ (Стан.). Таму неабавязкова выходзіць з меркавання аб запазычанні ст.-бел. *рокъ* з польск. *rok* (гл. Булыка, Лекс. запазыч., 186). Гл. таксама *рочкі*$_1$. Прасл. **rokъ* генетычна звязваецца з ст.-інд. *racanam* ‘распарадак’, гоц. *ragin* ‘думка’, ‘розум’, *rahnjan* ‘разлічваць’, тахар. *A rake, B reki* ‘слова’, алб. *rok* ‘тэрмін’, ‘рашэнне’ (Міклашыч, 247; Фрэнкель, 693; Фасмер, 3, 497; Махэк$_2$, 515; Бязлай, 3, 193; Сной$_2$, 628; БЕР, 6, 312; ESJSt, 13, 761).

**Рок**$_2$ ‘поліўка з цёртага канаплянага семя’, ‘расол’ (бярэз., в.-дзв., Сл. ПЗБ), ‘лёк, селядзечы расол’ (гарад., ЛА, 4). Уграфінізм. Параўн. фін., карэльск. *rokka* ‘гарохавы суп, поліўка’, эст. *rokk* ‘зацірка’, комі *rok* ‘каша’. Адсюль і рус. пячорск. *рок* ‘поліўка з крупамі’, арханг. *рокка* ‘поліўка з жытняй мукі з рыбай’ (Фасмер, 3, 497).

**Ро́кат** ‘раскацістыя гукі, якія зліваюцца ў манатонны гул’ (ТСБМ), укр. *ро́кіт*, рус. *ро́кот* ‘тс’, *рокота́ть* ‘грукацець, грукатаць’, рус. карэл. ‘моцна спяваць; крычаць’, стараж.-рус. *рокотати* ‘гучаць’. Усходнеславянскае. Зах.-слав. і паўд.-слав. адпаведнікі маюць *-е-* у корані і *-г-* замест *-к-*, набліжаючыся да *рагатаць, рогат* (гл.). Гукапераймальнае (Праабражэнскі, 2, 212; Фасмер, 3, 497; SEK, 4, 201).

**Ро́каш**, ст.-бел. *рокошъ* ‘бунт, мяцеж’ (XVI ст.). Відаць, праз ст.-польск. *rokosz* ‘нарада, перамовы’, ‘сейм, з’езд’, ‘бунт’, якое з венг. *Rákos* ‘поле ў Венгрыі, дзе адбываліся сходы сойму’ > ‘(у Рэчы Паспалітай) узброенае выступленне, паўстанне шляхты супраць караля пад лозунгам абароны вольнасцей’, ‘бунт, мяцеж’, ‘шляхецкі з’езд, сеймік’ (SWO, 1980, 653).

**Ро́кі** ‘сесія’ (Стан., Статут 1529 г.) – да *рок*$_1$ ‘тэрмін’ (гл.).

**Рок-н-рол** ‘дынамічны парны танец амерыканскага паходжання’ (ТСБМ). З амерыканскаангл. *rock'n'-roll* ‘хістайся і ка-

чайся' < *rock* 'калывацца,ківацца', *'n* < *and* 'і', *roll* 'качацца', якое стала сімвалам новага віду музыкі. Увёў у карыстанне на пач. 50-х гадоў XX ст. папулярны кліўлендскі дыскжакей А. Фрыд (Рэйзак, 543).

**Рол** 'цыліндр, вал, каток, які круціцца', *ро́лік* 'невялікае металічнае колца (на ножках мэблі, раяля)', 'фарфоравы ізалятар для замацавання электрычных правадоў', *рол* 'машына для размолу валакністых матэрыялаў, якія служаць для вырабу паперы, кардону', 'скрутак цыліндрычнай формы з лістоў або суцэльнай паласы якога-небудзь матэрыялу', (ТСБМ), – усе з ням. *Rolle* 'тс', *rollen* 'качаць', якія з франц. *rôle* 'ролік, скрутак, катушка', а апошняе – з лац. *rotula* 'колца' (< *rota* 'кола'), а таксама раманск. *rotulus* 'папяровы скрутак з тэкстам для аднаго акцёра)' > франц. *rôle* 'роля (акцёра)' (Клюге, 604; Праабражэнскі, 2, 212; Фасмер, 3, 498; Сной$_2$, 628; Махэк$_2$, 515; Рэйзак, 543).

**Ро́ле** 'загон велічынёй у 10 метраў' (малар., Выг.), *ролля́* 'ворыва', 'узаранае поле' (палес., Выг.; Федар., 6), *ро́ля* 'ворыва' (Булг., Сцяшк.). Да *ралля́* (гл.).

**Ро́лкі,** *рёўкі, рёлкі,* 'насціл для сушэння снапоў', 'жэрдкі ў ёўні' (рэч., петрык., акц., светлаг., рэч., Нар. сл.; Мат. Гом.). Да *рэлкі* (гл.). Параўн. таксама *арэлі* (гл.).

**Ро́льба** 'ворыва' (палес., Выг.). Да *ро́ля* 'ралля' < *ралля́* (гл.). Суфікс *-ба*, як у назвах іншых сельскагаспадарчых працэсаў: *малацьба, касьба* і інш. Гл. *ральба.*

**Ро́лька** 'рулон (паперы)' (беласт., Сл. ПЗБ). З польск. *rolka* 'ролік' (Мацкевіч, там жа).

**Ро́льнік** 'земляроб' (Нас., Сцяц., Байк. і Некр.), 'араты' (астрав., баран., лід., шальч., ігн., Сл. ПЗБ; астрав., гродз., баран., іўеў., ЛА, 3). З польск. *rolnik* (Мацкевіч, Сл. ПЗБ). Сюды ж *ро́льніцтва* і *ральніцтва* 'землясробства', *ро́льнічы* 'земляробчы' (Нас., Байк. і Некр.) Параўн. *ральнік*, гл.

**Ро́льня**$_1$ 'памяшканне на папяровай фабрыцы, дзе ўстаноўлена машына для размолу валакністых матэрыялаў' (ТСБМ). Да *рол* (гл.).

**Ро́льня**$_2$ 'соткі ў полі' (Жд. 1) 'большая палова прысядзібнага ўчастка калгасніка ў полі, які кожны год даецца на новым месцы' (стаўб., шчуч., Яшк.) – у выніку кантамінацыі слоў *роля* 'ралля' і *рольнік* 'земляроб', альбо ў выніку распадабнення *-л'* > *-н'-*: *ро́льля (з ралля́)* > *ро́льня*.



**Ро́ля**$_1$ 'драматычны вобраз акцёра', 'поўны тэкст з п'есы слоў адной дзеючай асобы', 'работа, занятак', 'значэнне, ступень удзелу, мера ўплыву' (ТСБМ, Байк. і Некр.). З польск. *rola* 'тс', якое (праз ням. *Rolle*) з франц. *rôle* 'роль', 'спіс' < лац. *rotulus* 'папяровы скрутак з тэкстам акцёра' (Праабражэнскі, 2, 212; Фасмер, 3, 498; Брукнер, 462; БЕР, 6, 315).

**Ро́ля**$_2$ 'земляробства', 'ралля', 'узаранае поле' (Нас.), (*весня́на*) *ро́ля* 'ралля, веснавое ворыва' (івац., ЛА, 2), ст.-бел. *рольѧ* 'тс' (Альтбаўэр). Укр. *рілля́* 'узаранае поле, ралля', рус. паўд. *ро́лия, ро́лья, ро́ля* 'ралля, час ворыва' (Даль), стараж.-рус. *ролия* 'ралля, ворыва, земляробства'; польск. *rola* 'апрацоўваемая зямля', палаб. *rül'ă* 'узаранае поле', н.-луж., в.-луж. *rola* 'ралля', паўд.-чэш., ходск. *roli,* мар. *rol'a* 'ворная зямля', славац. *rol'a* 'поле', *ral'a* 'сялянская сядзіба, участак', славен. *rál* 'ралля', *râl* 'ворыва', 'час ворыва', 'узараная зямля', 'мера плошчы'; харв. *rȁl* 'мера зямлі 0,73 га' і *orál* 'мера зямлі 2519 м$^2$', 'узаранае поле'; стараж.-рус. *раль* 'поле'. Прасл. **or-lja* (Брукнер, 462), **orlьji* < **orə-vl-iə* < **orə-vr-iə* (Махэк$_2$, 516), **orlьja* (Рэйзак, 543), якое з дзеепрым. *órlъ*; Фурлан (Бязлай, 3, 148–149) выводзіць прасл. **orlь* з *órlъ*, якое да прасл. **orti > orati > араць* (гл.). З і.-е. **arH-*: лац. *arvum* 'узаранае поле', 'луг', 'дзёран, мурава', ст.-грэч. ἄρουρα 'ралля' (Покарны, 63; Фрыск, 2, 147; Вальдэ (1906), 47). З прасл. **orlь* утварыўся зборны назоўнік **orlьje* > славен. *(o)rálje, orolje* 'узараная плошча, поле', 'мера плошчы', бел. *раллё* 'ўзаранае поле', 'ворыва' (гл. *раллё*$_1$), чэш. *rolí* 'поле', а бел. *ралля* (гл. *ралля*$_1$), ц.-слав., стараж.-рус. *ролия*, укр. *рілля́,* польск. *rola* і г. д. – з прасл. **orljьa.*

**Ром**$_1$, *ро̂м* 'месца, куды звозяць бярвенне для сплаву, ці з якога сплаўлялі лес, вязалі плыты' (Бір.; чырв., З нар. сл.; капыл., Сл. ПЗБ), 'прастор, свабоднае месца', 'абшар' (Др.-Падб.); ст.-бел. *румъ* 'тс', 'месца пагрузкі', 'будматэрыял', 'руіны' (XVI ст.) запазычана са ст.-польск. *rum*, якое з с.-в.-ням. *rūm* (Булыка, Лекс. запазыч., 189; SEK, 4, 216), < і.-е. **reu̯os*: авест. *ravah-* 'даль, прастора, даўжыня', лац. *rūs* 'зямля па-за горадам', ст.-ірл. *rōi* 'раўніна', тахар. *rū-* 'адкрываць'. Гл. *рум.*

**Ром**$_2$ 'моцны спіртны напой з перабродажанага соку або з патакі цукровага трыснягу' (ТСБМ) – з рус. *ром* 'тс' (упершыню ўжыта ў перакладзе «Рабінзон Круза» 1762 г. у форме *рум*), якое з англ.

*rum* – вымаўляецца як [rʌm], таму [у] > [о] – а гэтае з'яўляецца скарочаным *rumbullion* 'шум, вэрхал, галас (пры распіцці гарэлкі)' (Рэйзак, 550; Сной₂, 633); яго запазычылі англійскія пасяленцы на в. Барбадас (у XVII ст.). Пальмер (Neuweltwörter im Deutschen. Heidelberg, 1933, 117) выводзіць лексему з малайскага *brum* 'цукровая гарэлка' (Фасмер, 3, 499). Гл. таксама *рум₅*.

**Ро́ма** 'плячо' (Гарэц. 1). Няясна. Гл. *раме, рамяно*.

**Ро́ман** і *ру́ман* 'лясная трава з белымі кветкамі з сямейства складанакветкавых' (Растарг.), укр. *ромáн, ромéн-зілля* 'рамонак, Matricaria Chamomilla', рус. дан. *рóман* 'тс'. Да *рамонак* (гл.).

**Ромб** 'паралелаграм з роўнымі і непрамымі вугламі', 'знакі адрознення вышэйшых камандзіраў у Савецкай Арміі да 1943 г.' (ТСБМ) – праз рус. ці польск. мовы з франц. *rhombe* 'тс', якое з ст.-грэч. ῥόμβος 'усялякае круглае цела, якое абарачаецца'.

**Рон** 'мякіна (дробная), вотрыны – буйныя каласы' (шум., Сл. ПЗБ), рус. наўг., валаг. *рон* 'вялікія камякі снегу, якія куніца збівае з галін', паляўнічае *рон*, альбо верхавы след 'збітыя звярком у час ходу па дрэвах часцінкі кары, ігліца, лістота, снег'. Да *раняць* (гл.).

**Ро́нгель** 'гаршчок (вялікі)' (ельск., Мат. Гом.). З *рондаль* (гл.).

**Ронд** 'парадак, кіраванне' (Варл.). З польск. *rząd* 'парадак; урад'. Гл. *рондзіць*.

**Ро́нда** 'форма інструментальнай музыкі са шматразовым паўтарэннем галоўнай тэмы ў чаргаванні з пабочнымі' (ТСБМ). Праз польскую ці рускую мову з італ. *rondo* 'сярэдневяковая форма танцавальнай песні', што з лац. *rotundus* 'круглы'.

**Ро́ндаль**, *рондлік, рандэляк, рондэлёк, рондэлек, рондэль, рондзель, ро́ндзяль* 'каструля (звычайна медная) з доўгай ручкай' (ТСБМ, Сцяшк., Шат., Стан., Жд. 3, Шпіл., ТС; карэліц., Янк. Мат.; брэсц., гом., З нар. сл.; Байк. і Некр.; паст., Сл. ПЗБ), 'патэльня' (Сл. Брэс.). З польск. *rondel* 'тс', што з ням. *reindel, rindel* 'трохногі гаршчок' < с.-в.-ням. *rain* 'гліняная патэльня на трох ножках', ням. *Rein* 'мядніца, тыгель' (Трубачоў, Ремесл. терм., 297).

**Ро́ндзіць** 'правіць, наводзіць парадкі' (Нар. Гом.), 'кіраваць, распараджацца' (Скарбы), 'камандаваць' (паст., Сл. ПЗБ) – збеларушанае польск. *rządzić* 'тс'.

**Ронтмэ́йсар** 'спецыяльная шавецкая прылада для апрацоўкі рантаў па краях абутку' (Скарбы) – з ням. *Rand* 'край, шлячок, аблямоўка' і *Meißel* ці *Messer* 'разец, зубіла, нож', магчыма, праз ідыш.



**Ро́нца** 'асоба ў панскім маёнтку, якая кіравала гаспадарчымі справамі' (Скарбы) – збеларушанае польск. *rządca* 'тс'.

**Ро́па₁** 'гнойныя выдзяленні' (ТСБМ, Др.-Падб., Юрч. СНЛ), 'сукравіца, гнілая кроў, што ідзе з рота, носа або з вушэй у нябожчыкаў' (Мядзв., Гарэц., Нас., Байк. і Некр., ТС), 'крываністае выдзяленне з раны' (Сл. Брэс.), 'гной з раны, з вачэй' (смарг., Шатал.), *ропá* 'расол з пасоленага мяса, рыбы' (Сл. Брэс.), *рóпа, рáпа* 'лёк' (лельч., б.-каш., ЛА, 4), *рóпа, ропá* 'канцэнтраваны раствор солі' (ТС). Укр. *ропá* 'сукравіца', 'расол', рус. *ропá* 'сукравіца, гной', 'расол', польск. *ropa* 'гной', 'нафта', *ropić się* 'гнаіцца', славен. *ropa* 'торф', на падставе чаго прасл. **ropa* 'густая вадкасць' (SEK, 4, 203). Не зусім яснае слова. Мацэнаўэр (LF, 17, 174) параўноўвае яго з ст.-інд. *rápas* 'раненне, цялеснае пашкоджанне'. Брукнер (462) прыводзіць у якасці роднаснага літ. *rapstýti*, якое, аднак, з'яўляецца памылкай друку (Трубачоў, Дополн. – Фасмер, 3, 501).З другога боку, мяркуюць, што існавала старое польск. *rob*, якое, нібыта, абазначала 'нейкае варэнне з зёлак' і – праз ням. *Robb*, франц., ісп. *rob* 'тс', італ. *rob*, *robbo*, партуг. *robe* 'фруктовы мёд' было запазычана з араб. *robb* 'тс' (Мацэнаўэр, Cizí sl.). Іншыя версіі гл. ɛssj, Ukáz. 85–89; Бязлай, 3, 196; Махэк₂, 516. Гл. *рапá*.

**Ро́па₂** 'газа' (навагр., Сцяшк. Сл.). З польск. *ropa naftowa* 'нафта' – семантычны пераход адбыўся ўжо ў польск. мове: *nafta* 'азначае 'газа' і 'нафта'.

**Ро́пуха**, *рóпушка* 'невялічкая рыбка, падобная на мянька (галец?)', 'жаба з жоўтым падбрушшам' (ТС). Відаць, не звязана з *рáпушка* (гл.); хутчэй да *рапуха* (гл.).

**Ро́сачка** 'расінка, макавае зерне', 'вельмі малая колькасць' (Нас., Юрч. Вытв., Растарг.). Да *расі́начка, расá₁* (гл.). Параўн. выраз: *макавай расінкі ў роце не было* (ТСБМ, 4, 641), а таксама *росíцца* 'перакусваць, браць у рот': *ходжу голодны, шчэ й не росíўся нічым* (ТС), гл. *расіцца₁*.

**Ро́сісць** 'нешта дрэннае' ў праклёне: *Есьце, шоб вас паела росісць!* (ТС). Да *рось* 'імгла, туман' (гл.). Вакалізм суфікса **-ostь* пад уплывам украінскай мовы, параўн. укр. *лютість, чемність*, гл. таксама Карскі, 1, 160 (пра *–ісць* у гаворках). Гл. *раса₄*.

**Ро́ска$_1$** ‘раска, Lemna L.’ (гом., Мат. Гом.). Да *ра́ска* (гл.). Мена *-а-* > *-о-* (пад націскам), як у *садзіць* – (ён) *содзіць*.

**Ро́ска$_2$** ‘капля вадкасці, якая выступае на саску ў каровы незадоўга перад цяленнем’ (ТС). Да *раса́$_1$* (гл.).

**Ро́ска$_3$** ‘лотаць, Caltha palustris L.’ (гом., ЛА, 1). Да *роска$_1$* (гл.).

**Роска$_4$** ‘дубчык’ (Сержп. Прык.). Гл. *розга$_1$*.

**Ро́сказ** і *раска́з* ‘загад’ (Нас., Касп., Байк. і Некр., Стан. (Кітаб)). З польск. *rozkaz* ‘тс’.

**Ро́сказні** ‘несур’ёзныя расказы, якім не трэба давяраць’ (Растарг.). З рус. *ро́ссказни* ‘небыль, байкі, выдумкі’, параўн. урал. *расказня́* ‘тс’.

**Ро́скаш** ‘раскоша’ (ТСБМ, Сл. ПЗБ), ‘дастатак’, ‘прасторнае памяшканне’ (Нас.), ‘свабода, воля (для курэй)’ (брасл., Сл. ПЗБ), ‘прыдоба, удоба, выгада, прыволле’ (светлаг., лельч., ЛА, 5). Укр. *ро́скіш* ‘раскоша, багацце, дастатак’, рус. зах. *роскошь* з польск. *roskosz* (Махэк$_2$, 267); в.-луж. *rozkošnik* ‘чалавек, ахвочы на пацехі’, чэш., славац. *rozkoš* ‘асалода, раскоша, шчасце’, ‘прывабнасць, краса, хараство’, ‘юрлівасць’, славен. *razkȏš* ‘радасць, ахвота, жаданне’, серб. *ра́скош* ‘раскоша’, макед. *раскош* ‘тс’, балг. *разко́ш*, ц.-слав. *раскошь* ‘асалода, радасць, задавальненне’. Прасл. _*orz-košь_ < _*(orz-)koxati_ (Бязлай, 3, 159; Бернекер, 1, 538; Брукнер, 242; Чарных, 2, 123), параўн. ст.-чэш. *rozkochati* ‘развесяліць’, ‘распагоджвацца’, – да *раз-* і *кахаць* (гл.). Гл. таксама *раскоша*.

**Ро́скваль** ‘бездарожжа’ (лун., Шатал.); *роскве́лле* ‘разводдзе’ (жабін., ЛА, 2) – у выніку кантамінацыі лексем *росквась* і *роскалле* ‘тс’.

**Ро́сквась** ‘слота, хлюпота’ (Нар. Гом.), ‘разводдзе’ (маст., Сл. ПЗБ). Да прасл. _*orz-kvasiti_, якое з _*orz-_ і _*kvasъ_ з далейшай менай суф. -ъ у -ь (з адцягненым значэннем). Гл. *расквасіць$_1$*.

**Ро́сквіт** ‘з’яўленне кветак на раслінах, цвіценне’, ‘найвышэйшая ступень развіцця, уздыму, найлепшая пара’ (ТСБМ). З укр. *ро́сквіт* ‘тс’, ‘першая кветка на жыце’, якое з прасл. _*orz-_ ‘раз-’ і _*květъ_ > *кве́тка* (гл.). Параўн. бел. *расквеці́ць, расквяці́ць* з правільным бел. рэфлексам *-ě-*.

**Ро́скеп** ‘дышаль у возе для валоў’ (ПСл) як транспартны тэрмін, відаць, прымыкае да ўкр. моўнай тэрыторыі, – параўн. укр. *ро́скіп* ‘разгалінаванне (у граблях, у дышле)’. Аднак з асноўным значэннем ‘раскол, расшчэп’ лексема распаўсюджана на



ўсходнеславянскай тэрыторыі: бел. *раске́п* ‘раскол (у ночвах)’, *раске́піць* ‘расколваць’, *раскяпа́ць* ‘шчапаць, расколваць (дор, лучыну)’, (Нас., Гарэц.), рус. смал. *раскепи́ть* ‘раскалоць бервяно, дровы’, пск., цвяр. *раске́пина*, цвяр. *раске́пица* ‘расколіна, трэшчына’, укр. *ро́скіп* ‘раскол, расшчэп’, стараж.-рус. *скѣпати* ‘калоць’, *поскѣпани* ‘расколатыя’ (Слова аб паходзе Ігара), *оскѣпъ* ‘дрэўка (сцяга)’ (XIII ст.). Узыходзіць да прасл. _*orz-_ > *раз-* (гл.) і +*скѣпати*, якое Сабалеўскі (РФВ, 53, 8), Брандт (РФВ, 24, 174), Шахматаў (Очерки, 176) і інш. выводзяць з *щѣпати*; Якабсон (IJSLP, 1959, 1/2, 270) мяркуе, што ў *скѣпати ск-* – правільнае перад *ѣ*, якое з _*-oi̯-_; пазней з *ск-* утварылася *щѣ-* (напр. *шчапа́*) (Трубачоў, Дополн., 3, 638). Гл. таксама *раскеп, раскепіць*.

**Ро́скід** ‘від ворыва, калі глеба адвальваецца ў розныя бакі’ (Сцяц.; міёр., Шатал.; ТСБМ), *роскідка* ‘тс’ (петрык., Шатал.; шальч., вільн., Сл. ПЗБ), ‘баразна’ (вільн., Сл. ПЗБ); *ро́скідзь* ‘разора, паглыбленне паміж градамі’ (карм., Мат. Гом.; Інстр. 2); *ро́скідка* ‘мяжа на сярэдзіне загона’ (Янк. 3, Шат., ПСл), *на ро́скідку* ‘спосаб ворыва’ (ТС); *араць у ро́скідку* – ‘ворыва, пры якім барозны кладуцца ў напрамку краёў загона’ (карэліц., Жыв. сл.); ‘узаранае поле з разорай пасярэдзіне загона’ (нясв., смаляв., сміл., стол., Яшк.); *роскідзь, роскідка, раскід* ‘ворыва ўроскідку’ (быx., кам., сен., ЛА, 2). Да *кідаць* (гл.).

**Ро́слік** ‘парастак’ (рэч., Мат. Гом.), ‘парасткі бульбы’ (лід., Сл. ПЗБ), *ро́слі, рослікі, ро́слік* ‘парасткі прарошчанага жыта’ (воран., пін., рэч., ЛА, 2), *рослі́* ‘парасткі бульбы’ (навагр., З нар. сл., Жыв. сл.), *ро́сьля* ‘тс’ (Нар. словатв.), *ро́слі* ‘тс’ (Сцяшк. Сл.), *ро́сьля* ‘тс’ (чаш., Касп.), ‘парастак з насення, карэнішча, клубня, цыбуліны’ (Стан.). Узыходзіць да прасл. _*orslь_, якое з _*ors-lъ_ ‘рослы, які вырас’ < _*orsti_ (Слаўскі, SP, 1, 103 і 106) < *orst-ti* (Махэк$_2$, 525) > *расці* (гл.). Суфікс *-ль* з *-l-jь*. Формы на *-ля* пад уплывам другаснага *росля* (гл.).

**Ро́слены** ‘прарослы’ (Нас.) – дзеепрыметнік з суф. _*-ěn-_ ад дзеяслова *расліць* ‘дапускаць збожжа да прарошчвання (у калоссях), зерне – на солад’ (там жа), які з назоўніка *рослік, росля* (гл.).

**Ро́слы** ‘чалавек высокага росту’ (ТСБМ, Сл. ПЗБ), ‘які хутка расце’ (Шат.), ‘які прарастае (аб зярнятах)’, ‘пахрошчаны’ (Янк. 3, Юрч. Вытв., Нас.; свісл., Сл. рэг. лекс.), ‘прарослы ў снапах’ (Шат.), ‘мажны’ (Байк. і Некр.). Укр. валын. *ро́слий*, міргар. *ро́славий*

‘рослы’; рус. арханг., перм. *ро́слый* ‘прарослы’, ‘парослы лесам’, ‘дарослы’, варон. *ро́сливый* ‘прарослы’, валаг. *росля́к* ‘рослы чалавек’. Усходнеславянскае – былы дзеепрыметнік на *-l-* ад прасл. **orsti* > *расці* (гл.) – **ors-l-ъ(jь)*. Сюды ж *росласць* ‘мажнасць’ (Байк. і Некр.).

**Ро́сля** ‘рост як працэс’ (карэліц., Марц.; Янк. 3; лун., Шатал.; ганц., ст.-дар., ігн., Сл. ПЗБ). Другаснае ўтварэнне (Слаўскі, SP, 1, 106). Утворана ад дзеепрыметніка **orsl-ъ* ‘які вырас, рослы’ і суф. **-ja* > **rosl'a*.

**Ро́сны**$_1$ ‘пакрыты расой’ (ТСБМ, Гарэц., Шат., Байк. і Некр.; крэўск., Стан.; Сл. ПЗБ, ЛА, 5), *ро́сна* ‘мокра ад расы’ (Шат., Стан., Ян., ТС), *ро́сна, ро́сно, расно́* ‘росна’ (Сл. ПЗБ). З прасл. **ros-ьnъ* (рус. *росной, росный*, чэш. *rosný*, славен. *rôsen*, серб. *р̏осан* і харв. *ȑosan*, макед. *росен*, балг. *ро́сен*) ‘росны’. Да *раса́* (гл.).

**Росны**$_2$ ‘ураджайны, урадлівы’ (ТС). Гл. *расны*$_1$.

**Ро́спадзень** ‘сапсаваны, гнілы грыб’ (ТС), *ро́спаднік* ‘тс’ (там жа). Да *распада́цца, па́даць* (гл.).

**Ро́спал** ‘падпал’ (гродз., Сцяшк. Сл.), ‘лучына’ (івац., ЖНС). Да *распальваць* (гл.).

**Ро́спалаць** ‘анатаміраванне трупа’ (Байк. і Некр.). Да *раз-/рос-* і *поць* (гл.), якое з прасл. **polъtь* > укр. *півть, пілть*, рус. *по́лоть, полть* ‘палавіна тушы свінні ці барана’. Гл. *распалтаць*.

**Ро́спарка**, *ро́спурка, роспо́рке, роспірка, распо́рак* ‘прарэх у споднiках’ (драг., кобр., стол., ЛА, 4), відаць з польск. *rozporek* ‘тс’ < *rozpruć* ‘распароць’. Параўн. бел. *распо́рак* ‘фасонны разрэз у адзенні, распорка’ (ТСБМ), гл.

**Ро́спаркі**, *ро́споркы* – частка кроснаў (Сл. Брэс.), *ро́спыркі, роспіркі, распо́ры* ‘гарызантальныя папярочныя планкі, што змацоўваюць раму ткацкага станка’, ‘пругі пры тканні’ (Уладз.). Да *распіра́ць* (гл.). Аналагічна рус. *распорка*, польск. *rozporka, rozpora, rozpornica*, чэш. *rozpora, rozpěra, rozporek* ‘перакладзіна’, ‘распорка’, ‘распорная бэлька’.

**Ро́спач** ‘стан, пачуццё крайняй безнадзейнасці, упадку’ (ТСБМ, Яруш., Байк. і Некр.), ‘адчай’ (ваўк., Сл. ПЗБ), *роспачлівы, роспачны* ‘поўны роспачы’ (ТСБМ). З польск. *rozpacz* ‘тс’, якое Брукнер (465) узводзіць да *opak* ‘наадварот’. На іншую магчымасць паказвае ст.-рус. *розначь* «щель земная» («Алфавит иностранных речей» XVII ст.), гл. Кохман, Polonica, 49.



**Ро́спіл** ‘рэз’ (ПСл) – аддзеяслоўнае ўтварэнне ад *рас-пілiць* (гл.).

**Ро́спіс** ‘мастацкае ўпрыгожанне каляровымі фарбамі сцен, столі і да таго пад., насценны жывапіс’, ‘подпіс’ (ТСБМ). Да *распісваць* < *піса́ць* (гл.), якое з рус. *писа́ть* ‘маляваць ікону, карціну’.

**Ро́спісь** ‘рэгістрацыя шлюбу’ (мсцісл., Юрч. СНЛ). Ад *распісацца* (гл.) пры ад’ідэацыі рус. *подпись*.

**Ро́спуга** ‘разора паміж градкамі’, *ро́спурга, ро́спруга, роспру́га* ‘глыбокая баразна паміж градамі’ (Сл. Брэс., Шатал., Сл. ПЗБ, ЛА, 2). Утворана з прыстаўкі *раз-/ рос-* (< прасл. **orz-*) са значэннем ‘рух у розныя бакі, раз’яднанне’ і **пуга*, якое можна генетычна супаставіць з лат. *paũgurs* ‘узгорак’, ‘бугор’, – разам ‘разараная зямля ў два бакі з разорай’.

**Ро́спуск**$_1$ і *ро́спуст* ‘развод, скасаванне шлюбу’ (Гарэц., Др.-Падб., Бяльк., Байк і Некр.), ‘нястрыманы чалавек’ (іўеў., Сцяшк. Сл.), ‘распушчаны чалавек’ (клец., Нар. лекс.). Укр. *ро́спуск* ‘роспуск, канікулы’, *роспу́ста* ‘свавольства, непадпарадкаванне’, рус. старое *ро́спуск* і *ро́спуст* ‘развод’, ст.-рус. *роспускъ* ‘тс’ (XV ст.), стараж.-рус. *роспустъ* ‘тс’ (1150 г.), *рос-/ распускатися* ‘разводзіцца’ (1156 г.); польск. *rozpustny, rozpusta,* ‘незвязаны, вызвалены’, ст.-польск. *rozpust* ‘распуста, разбэшчанасць’, н.-луж. *rozpušćeńc*, в.-луж. *rozpušćenc* ‘распуснік’, ст.-чэш. *rozpuščenie* ‘гарэзлівасць, свавольства, развязнасць’, чэш. дыял. *v rozpust (jísti, píti)* ‘вельмі многа (есці, піць)’, ‘без межаў’, чэш. *rozpust(i)lý, rozpustilec*, славац. *rozpustený* ‘гарэзлівы, свавольны’, славен. *ráspuṭni* ‘распушчаны’, *razpuščati* ‘распускаць’, серб. *ра́спустан, распу̀стити се* ‘распусціць’ (на канікулы), ‘развесціся (аб сужэнстве)’, харв. *ráspust* ‘роспуск’, ‘канікулы’, *ràspusta* ‘распуста’, *raspuštènik* ‘разведзены’, макед. *распуштеник* ‘тс’, балг. *разпуштам* ‘разводзіць сужэнцаў’, ст.-слав. **кънигы распоустьны** ‘ліст аб скасаванні шлюбу’. Прасл. **orz-pustъ*, утворанае ад **orz-* ‘раз-/ рас-’ і **pustъ* > *пусты*. Гэтыя формы трэба разумець як “свабодны”, “вызвалены”, “не абавязаны”. Формы з *-sk-* узніклі ў выніку адваротнай аналогіі з формаў, якія маюць *-šč-* (Махэк$_2$, 501). Гл. таксама *распуста*.

**Ро́спуск**$_2$ ‘вясенняе бездарожжа’ (ТС), рус. арханг. *ро́спуск* ‘адліга, бездараж’. Утвораны ад *роспуст* (гл.) пад уплывам паралельна новага (Махэк$_2$, 501) дзеяслова *распускаць* ‘аслабляць’. Фанетычная блізкасць з *роспуст* прывяла да змешвання лексічнага значэння.

**Ро́спускі** 'мажары' (Бяльк.), 'драбіны, сані без кузава вазіць бярвенне і дошкі' (Касп.), 'падсанкі' (добр., ЛА, 2), 'развалкі' (Мат. Гом.), 'воз, калёсы для вывазкі лесу' (Ян.), рус. дыял. *ро́спуска, роспускі* 'воз', 'развалы', 'верхняя частка саней', 'воз для перавозу леса'. Усходнебеларуска-паўночнаруская ізалекса. Да *распуска́ць*, ад *раз-/ рас-* і *пускаць* (гл.).

**Ро́спуст** 'вясновае бездарожжа', *ро́спусць* у выразе *на роспусці/ на роспусцях* 'ранняю вясной, у час раставання снегу' (ТС), параўн. яшчэ рус. *на дворе распустило*, ст.-рус. *распуститися* 'растаць' (XVI ст.). Да *распусці́ць* 'растапіць, зрабіць вадкім'. Праславянскі рэгіяналізм, які першапачаткова меў форму *orz-pustъ/ *orz-pustь.

**Ро́спушка** 'карніз у грубцы' (жытк., Мат. Гом.). Да *раз-/ рос-* (са значэннем 'пашырэнне ў аб'ёме') і *пушы́ць* 'рабіць пушыстым' < *пух* (гл.).

**Ро́спыт** 'выпытванне ў каго-небудзь чаго-небудзь', *роспыты* 'пытанні з мэтай выведаць, выпытаць што-небудзь' (ТСБМ, Др.-Падб., Бяльк.). Да *раз-/ рос-* (са значэннем 'працэс дзеяння') і *пыта́ць* (гл.).

**Ро́ссе** 'чарот' (бяроз., Шатал.). Няясна. Магчыма, да *ра́ссе* (гл.).

**Ро́ссып**, *россыпам* 'лес, які сплаўляецца асобнымі бярвеннямі, а не плытамі; неўпарадкаваны плыт', 'што-небудзь рассыпанае ў вялікай колькасці', 'каменныя глыбы з выветранымі горнымі пародамі' (ТСБМ; віц., Нар. лекс.; светлаг., Мат. Гом.). Да *раз-/ рос-* (са значэннем 'перамяшчэнне ў розныя пункты з аднаго') і *сыпаць* (гл.). Апошняе 'каменныя глыбы' запазычана з рус. *россыпь* 'кучы камянёў'.

**Рост** 'павелічэнне колькасці, прырост', 'фігура, вышыня чалавека або жывёлы', 'росля раслін' (ТСБМ, Бяльк., ТС, Сл. ПЗБ), *роставы* 'вегетатыўны' (Байк. і Некр.). Укр. *ріст*, рус. *рост*, польск. *wzrost* 'рост', н.-луж. *zrost* 'вышыня чалавека', *zrostność* 'росля', в.-луж. *róst* 'рост чалавека', 'нарасць', чэш. *růst* 'рост, развіццё', *vzrůst* 'рост, прырост, павелічэнне', славац. *rast, rastenie, vzrastanie* 'рост', *vzrast* 'фігура', славен. *râst* 'рост, развіццё; расліннасць', серб. *ра̑ст* 'рост, фігура', харв. *rȃst* 'тс', 'развод шлюбу', макед. *раст* 'рост, удасканаленне', *растеж* 'тс', балг. *ръст* 'рост, вышыня', *растѐж* 'росля' (хаця БЕР, 6, 378 балг. *ръст* адносіць да *връст* 'узрост'), ст.-слав. **растъ**



'рост'. Прасл. *orstъ, якое з і.-е. *ord-tŏ-, роднаснае лац. *arduus* 'высокі', гальск. *ardu̯o-* 'Ардэны', ірл. *ard* 'высокі, вялікі', алб. *rit* 'расту', авест. *ərəδva-* 'прамы, высокі' (Фасмер, 3, 505).

**Ро́стань**, *ро́станькі, ро́стынькі, ростанкі, растанé, ростані* 'месца скрыжавання дзвюх або некалькіх дарог' (ТСБМ, Стан., Касп., БРС, Гарэц., Нік., Бяльк., Нар. Гом., Нас., Яшк., Байк. і Некр., Мат. Гом., Сл. ПЗБ, Кос., Мікуц.; полац., Янк. 2), *ростань* 'дарога на бязлеснай мясцовасці' (віц., Рам.); *ро́стыні, растанькі* 'скрыжаванне дарог' (гарад., рэч., ЛА, 2); *растанькі, растанькé, рыстанкі, растанцы́, растанцэ́, ро́станькі, ро́станкі, ро́стункі, растані, ро́станкі, растайнé, растáнішча* 'месца, дзе дарогі разыходзяцца, ростані' (ЛА, 2); *на ро́станях* 'у стане вагання пры выбары далейшага шляху'; *ро́стань* 'час, праведзены далёка ад блізкіх' (ТСБМ). Ст.-рус. *росстани, ростани* 'скрыжаванне дарог, ростані' (1524 г.), рус. дыял. *росста́нка* 'скрыжаванне дарог, ростань', *ро́сстань, роста́нь* 'разгалінаванне дарог', *росстани* 'месца за вясковымі весніцамі, дзе развітваліся з нябожчыкам'; польск. *rozstaj, rozstajne drogi*, ст.-польск. *drogi rozstanne*; славен. *razstânek* 'раставанне', *razstáti se, razstâjati se*, серб. *ра̀станак* і харв. *rȁstanak* 'расстанне, разлука', *ра̀стајати се* 'разлучацца'. Можна дапусціць першаснае прасл. *orz-stajь 'перакрыжаванне дарог'; на гэтую лексему пазней паўплывала аддзеяслоўнае ўтварэнне *prz-stanьje 'расстанне', і ў частцы дыялектаў у выніку кантамінацыі ўтварылася *orz-stanjь > *ростань*. Сюды ж пазнейшае *ростань* 'расстанне, разлука' (Гарэц.), 'усялякае расстанне' (Мядзв.). Параўн. *расстанне*, гл.

***Ро́старапень**, *ро́сторопень* 'разводдзе', *растаро́п, растаропіца* 'тс' (петрык., акц., люб., нараўл., хойн., лоеў., браг., калінк., ЛА, 2; Мат. Гом.), рус. арханг. *росторо́пь* 'дарога, непраездная ў час разводдзя'. Усходнебеларуска-руская ізалекса з экспрэсіўным інфіксам *-ро-* ад *растапі́ць* 'растаць'. Параўн. рус. цвяр., пск. *ро́стопелица, ростопо́лье* 'вясенняя паводка', *ро́стопель* 'адліга', калуж. *ро́стополь* 'тс', якія Фасмер (3, 506) выводзіць з прасл. *orz-toplь > *топи́ть, тёплый*. Гл. *растопа*$_1$.

**Ро́стаўкі** 'устаўныя карункі ў навалачках' (ашм., Сл. рэг. лекс.). У выніку кантамінацыі лексем *расшыўка* і *ўстаўка* (гл.).

**Ро́стбіф** 'ялавічына, засмажаная вялікім кавалкам' (ТСБМ). Запазычана праз рус. мову (*ро́стбиф*) з англ. *roastbeef* 'смажанае мяса' (Фасмер, 3, 494).

**Ро́ствань** ‘непраходная гразь, бездарожжа’ (ТС). Да *раз-/роз-* і *твань* (гл.). Сюды ж *роства́ніць* ‘размачыць, развезці (аб дарозе)’ (ТС).

**Ростр** ‘таран у выглядзе галавы якой-небудзь жывёлы на насавой частцы стараж.-рымскага ваеннага карабля’ (ТСБМ). Праз рус. мову з лац. *rostrum* ‘нос карабля’.

**Ро́стра** ‘трыбуна на форуме старажытнага Рыма, упрыгожаная насамі караблёў, захопленых у непрыяцеля’, ‘упрыгожанні калон у выглядзе насавой часткі старажытнага судна’ (ТСБМ) – праз польскую ці рускую мову з лац. *rostra* мн. л. ‘насы караблёў’.

***Ро́страсень**, *ро́страсэнь* ‘неахайна апрануты чалавек’ (пін., ЖНС). Да *раз-/рос-* і *трэсці* (лахманамі) ‘быць вельмі бедна апранутым’ (гл.).

**Ро́стул** ‘вугал, атрыманы ў выніку расхілення ножак цыркуля’, ‘адтуліна, шчыліна пры расчыненым вакне, дзвярах, росчын’ (ТСБМ). Да *растуліць, туліць* (гл.).

**Ро́ступ** ‘расступанне, пропуск праз натоўп, скаціну’ (Нас., Касп., Байк. і Некр.). Да *расступа́цца*, гл. *ступаць*.

**Ро́стырка** ‘сварка’ (навагр., Сл. рэг. лекс.). З польск. старога *rozterka* ‘тс’, ‘разлад’. Гл. *растырка*. Сюды ж штучна ўтворанае *ростырга* ‘разлад, нязгода’ (Ласт.), відаць, да *торгаць* (гл.).

**Ро́суха** ‘расахатае дрэва’ (драг., Сіг.), ‘памост пад вулей на дрэве’ (драг., ЛА, 1). Да *расоха* ‘дрэва з раздвоеным ствалом (гл.).

**Ро́схап** у выразе: *на росхап* ‘нарасхват’ (ТС). Да *раз-/рос-* і *хапа́ць* ‘хватаць’ (гл.).

**Ро́схрыст** ‘месца, дзе расхрыстваецца ці расхрысталася адзежа’ (ТСБМ, Нар. Гом.), укр. *росхри́стя* ‘які ходзіць з непакрытымі адзежай грудзьмі’. Да *расхрыста́ць, расхрыста́цца* (гл.).

**Ро́сцік** ‘рослік, расток (бульбы)’ (в.-дзв., красл., Сл. ПЗБ). Да *рост* (гл.).

**Росць**[1] ‘расці’, ‘атрымліваць задавальненне’ (Бяльк., Юрч. Фраз. 1, Юрч. Сін.), *росць, рэсть* ‘расці’ (Растарг.), *ро́сціць* ‘гадаваць, вырошчваць’ (астрав., пух., Сл. ПЗБ). Да *расці́* (гл.). Аб скарочаным суфіксе *-*ti* гл. Карскі, 2–3, 279.

**Росць**[2] ‘рост’, ‘расток, парастак’ (іўеў., Сцяшк. Сл.; ТС). З прасл. **orstь* пры дапамозе суф. *-ь* з адцягненым значэннем **-orst-ь*. Іншы суфікс *-jь* у *рошч* (гл.).

**Ро́счын** ‘ростул’ (ТСБМ). Да *расчыня́ць* (гл.), дзе *-чыняць/чыніць* семантычна звязана з паняццем ‘рабіць’ – як у балтыйскіх мовах (параўн. літ. *atidarýti*, лат. *atdarīt*). Аналагічна ўкр. *розчини́ти* і н.-луж. *rozcyniś* ‘расчыніць’ ‘тс’, в.-луж. *rozčinić* ‘раз’ядноўваць, раздзяляць’. Такім чынам, семантычны пераход ‘рабіць’ > ‘зачыняць/ расчыняць’, прадстаўлены на беларуска-украінскім арэале, тэрытарыяльна звязаны з балтыйскімі мовамі, а сербалужыцкі – з германскімі дыялектамі (параўн. ням. *aufmachen/ zumachen* ‘тс’, гал. *dichtmaken* ‘зачыняць’) (Непакупны, Связи, 86–89).



**Ро́счынак** (*росчынок*) ‘рашчына’ (хойн., Мат. Гом.). Можна дапусціць уплыў польск. мовы (*rozczyn* ‘тс’ з суф. *-ъkъ > -ok*). Аднак вядома і польск. *rozczyna* ‘тс’. Да *раз-/рос-* (< прасл. **orz-*) і *чыніць* < прасл. **činiti* ‘рабіць’ (гл.). Параўн. укр. *ро́зчин* ‘раствор’.

**Ро́счырк** ‘завітушка на пісьме, звычайна ў канцы слова або чыйго-небудзь подпісу’, ‘след бліскавіцы, рэактыўнага самалёта’ (ТСБМ). З рус. *росчерк*, якое з *раз-/рос-* і *черкну́ть/ черкать* < *черта́* (Гараеў, 413; Фасмер, 4, 344).

**Ро́сшук**, *росшукі* ‘следчыя і аператыўныя дзеянні з мэтай выявіць злачынца, украдзеную маёмасць і да т. п.’ (ТСБМ). Калька з рус. *розыск* (< *роз-* + *иска́ть* = *шука́ць*) пры ад’ідэацыі польск. *poszukiwania* ‘пошукі’.

***Ро́сшыўка**, *ро́сшэўка, росшэ́ўка* ‘расшыўка, прошва’ (Мат. Гом.; ТС, ПСл), *рашэ́ўка* ‘тс’ (Мат. Гом.), *ро́сшыўка* ‘прошва’ (навагр., ЖНС). Да *расшыва́ць* < *раз-/ рас* і *шыць* (гл.). Параўн. укр. *розши́вка*, рус. *расши́вка* ‘расшыўка, расшыванне’.

**Рось** ‘малы, драбнюткі дождж, імгла, туман, імжа’ (Нас., Гарэц., Бяльк., Юрч. Вытв., Мат. Маг., Байк. і Некр.; рагач. Мат. Гом.; ПСл, ЛА, 2), ‘раса’ (ПСл). Рус. паўд. *рось* ‘імжа, імгла’, ‘раса’. Утворана пры дапамозе суф. *-ь (з адцягненым значэннем) ад *раса́* (гл.), магчыма, пры ад’ідэацыі *морась* (гл.). Сюды ж *ёлкыя рось* ‘імгла’ (чавус., ЛА, 2).

**Ро́сьпіска** ‘распіска (дакумент)’ (Бяльк., Нар. Гом.) – у выніку кантамінацыі *роспісь* і рус. *расписка*. Да *піса́ць* (гл.).

**Рот**, *рôт* ‘поласць паміж сківіцамі і шчокамі да глоткі’ (ТСБМ, Нас., Бес., Шат., Сл. ПЗБ, ТС, Бяльк., Стан., Юрч. Сін., Ян.), ‘губы (нутро губы)’ (Дразд., Ян.), ‘ляпа, пашча звера’ (Дразд.; паўд.-бел., ЛА, 1), ‘паз у кароткіх бярвеннях, што кладуцца ў прасценкі’, ‘зеў паміж верхнімі і ніжнімі ніткамі асновы’ (ТС). Укр. *рот, ріт* ‘рот’, ‘горла буча ці венцера’, рус. *рот* ‘тс’, тул. *рты* ‘губы’, стараж.-рус. *ротъ* ‘вастрыё’, ‘дзюба’; каш. *retk* ‘мыс; каса, гак на возеры’, ‘рукаў пяску’, ‘яма на дне’, ‘заліў’, ‘лужа’ з

незахаванага каш. *ret* (Борысь, SEK, 3, 179), палаб. *råt* ‘морда, пашча, зяпа’, ‘дзюба’, ‘мурло’, в.-луж. *rót, rot*, *ert* ‘рот’, чэш. *ret* ‘губа’, славац. *ret, rty* ‘вусны’, славен. *r̂t* ‘вастрыё нажа’, ‘вяршыня гары’, ‘нос карабля’, серб. *р̂т*, харв. *rât*, *r̂t* ‘мыс’, ‘кончык нажа’, ‘вяршыня’, ‘верх чаго-небудзь’, макед. *'рт* ‘мыс’, балг. *рът* ‘узгорак, узвышша’, ц.-слав. *рътъ* ‘нос (абутку, карабля)’, ‘дзюба’, ‘морда’. Прасл. **rъtъ* ‘нешта высунутае наперад ці ўверх; вострае заканчэнне, вяршыня чаго-небудзь’, якое з’яўляецца субстантывізаваным першасным дзеепрыметнікам **rŭ-to-*, звычайна звязваецца з **ryti* ‘рыць’, **rъvati* ‘ірваць’ < і.-е. **reu̯-* ‘капа́ць, рыць’ (Міклашыч, 285; Праабражэнскі, 2, 217; Фасмер, 3, 506–507; Мюленбах–Эндзелін, 3, 565 дадаюць сюды яшчэ лат. *rutulis* ‘драўляны кругляк, цурбалак’. Сной$_2$ (632) выводзіць прасл. **rъtъ* з і.-е. **h₃er-* ‘паднімацца, узвышацца, рухацца наперад’, якое захавалася ў ст.-грэч. ὄρνυμι, ὀρνύω ‘паднімаю, хвалюю, пачынаю’, ст.-інд. *ṛṇóti* ‘рухацца, перамяшчацца’. Махэк$_2$ (513) без сумневу адносіць прасл. **rъtъ* да роднасных ням. *Rüssel* ‘рыла’, с.-в.-ням. *rüezel* < ст.-в.-ням. *ruozzan* ‘капаць зямлю’, англ. *root* ‘рыць зямлю, падрываць карані (пра свіней)’, англ.-сакс. *wrōt* ‘рыць рылам (пра свінню)’, лац. *rōstrum* ‘нос’, ‘дзюба’ < *rādo, -ere* ‘рыць, капаць, скрэбці’. Сюды ж *рота́ты* ‘з вялікім ротам’, ‘крыклівы, гарлапан’ (ТС).

**Ро́та** ‘вайсковае падраздзяленне ў складзе батальёна’ (ТСБМ), ст.-бел. *рота* ‘рота, атрад войска’ (1516 г.) – са ст.-польск. *rota* ‘атрад войска’, якое з ст.-в.-ням. *rote, rotte* ‘натоўп, рота’; апошняе – з ст.-франц. *rote* < народналац. *rupta (cohors)* ‘частка, часцінка кагорты’, ‘усхваляванае, разбітае войска’ < дзеепрым. *ruptus* < *rumpere* ‘разрываць, парушаць, прыпыняць’. Трэба адрозніваць ад ст.-слав. **рота** ‘прысяга’ (гл. ESJSt, 13, 777).

**Ро́тар** ‘вярчальная частка машыны (электрычнага генератара, турбіны і пад.)’ (ТСБМ). З рус. *ро́тор*, якое з англ. *rotor* ці ням. *Rotor* ‘тс’.

**Ро́тман** ‘старшы над плытнікамі, які падае каманды тарнавым, адказны за плытагонаў і стан плытоў’ (гродз., Нар. сл.; маст., Нар. лекс.; Скарбы). З польск. *rotman*, часцей *retman* ‘тс’, якія з ням. *Rotte* ‘рад’, ‘натоўп’, ‘банда, шайка’, ‘атрад’ і *mann* ‘чалавек’, ‘мужчына’.



**Ро́тмістр** ‘афіцэрскі чын у кавалерыі, які адпавядае капітану ў пяхоце’, ‘асоба ў гэтым чыне’ (ТСБМ), ст.-бел. *ротмистръ* ‘камандзір роты’ (1507 г.) < ст.-польск. *rotmistrz* < ст.-в.-ням. *rotemeister* (Булыка, Лекс. запаз., 62) альбо з с.-н.-ням. *rotmester* ‘правадыр, верхавод, завадатар’ (Праабражэнскі, 2, 217; Фасмер, 3, 507).

**Роў$_1$** ‘доўгае паглыбленне ў зямлі, канава’ (ТСБМ, Гарэц., Нас., Шат., Бяльк., Стан., ТС, Сл. ПЗБ), ‘яр, лагчына’ (Байк. і Некр.), ‘баразна’ (Куч.), ‘трэшчыны на пятах’ (паст., ігн., Сл. ПЗБ), *рове́ц* ‘раўчак’, ‘разора’, ‘паз у вушаку’, ‘прабор у валасах’ (ТС), *ро́вам, рава́мі* ‘моцным струменем’ (шум., навагр., Сл. ПЗБ), *роў* ‘невялікі прыродны вадаём’ (ганц., ЛА, 2), *рів* ‘мачулішча’ (драг., кобр., ЛА, 4), *ров, роў, рüв* ‘ручай, прамыіна, мелкае месца на рацэ’ (зах.-палес., ЛА, 5), ‘доўгі, мелкі капец бульбы’ (кобр., Нар. сл.), ‘круглая яма на высокім месцы для захоўвання бульбы зімою’ (віл., ст.-дар., Яшк.). Укр. *рів* ‘роў, канава’, рус. *ров* ‘канава’, карэл. ‘баразна паміж градамі’, пск. ‘палонка’, *ро́вы* ‘ямы’; польск. *rów* ‘канава’, ‘акоп’, ‘западзіна’, в.-луж., н.-луж. *row* ‘магіла’, чэш. *row* ‘тс’, славен. *rȍv, ròv, rovíšče* ‘роў, канава’, ‘акоп’, ‘капальня, яма’, серб. *ро̏в, ро̂в* ‘роў, глыбокая канава’, ‘акоп’, харв. *rōv* ‘тс’, макед. *ров* ‘роў’, балг. *ров*, дыял. *ро́вът* ‘тс’, ст.-слав. **ровъ** ‘яма’, ‘роў’, ‘магіла’. Прасл. **rovъ* – утварэнне з суф. *-vъ* (як **kovъ* < **kovati*) ад **rovati* < *ryti* (Міклашыч, 285; ESJSt, 13, 778) < **reu̯o-* < і.-е. **reuH-* ‘рыць, капаць, вырываць, дзерці’ (Сной–Бязлай, 3, 199–200), з якога выйшлі: ст.-грэч. οὐρός ‘роў’ (Фасмер, 3, 488), лац. *ob-ruere* ‘засыпаць, закопваць’, *ē-ruere* ‘выкопваць, вырываць, выграбаць’ (Махэк$_2$, 520).

**Роў$_2$** ‘моцны працяглы крык некаторых жывёл’, ‘гукі, што напамінаюць такі крык’, ‘моцны плач’ (ТСБМ). Да *раўці* (гл.).

**Ро́ўба** ‘дзяўчынка-плакса’ (кіраў., Нар. сл.; мазыр., Мат. Гом.). Да *раўці* (гл.). Суфікс *-ба* ў беларускіх гаворках у адрозненне ад іншых славянскіх і балтыйскіх моў, дзе ён утварае адцягненыя назоўнікі, тут утварае асабовыя назоўнікі агульнага роду, абазначаючы асоб паводле ўласцівага ім дзеяння (Слаўскі, SP, 1, 61–62; Атрэмбскі, Gramatyka, 2, 230–233; Сцяцко, Афікс. наз., 33).

**Ро́ўгала**, *ро́ўгало, раўга́ч* ‘плакса’ (Сцяц.), *ро́ўгаць* ‘моцна плакаць’ (смарг., Сл. ПЗБ), якое Грынавяцкене супастаўляе з літ. *raudóti* ‘тс’ (там жа, 4, 306). Можна згадзіцца з такім меркаваннем, дапускаючы мену літ. *-d-* > бел. *-г-* пад уздзеяннем *раті* ‘па-

7 Зак. 2628

цёкі на вокнах'. Лаўчутэ (Балтизмы, 129) у якасці балтыйскага адпаведніка падае літ. *raudãlius* 'плакса', тлумачачы мену *-d-* > *-g-* у балт. мовах як заканамерную.

**Роўка** 'доўгае тонкае бервяно, абодва канцы якога ўкладваюцца ў рашэціну (азярод)' (Некр.), 'жэрдка ў азяродзе' (Янк. 2), 'жэрдка (праз раку, на пераходзе)' (Сцяшк. Сл.), 'роўная жэрдка' (Мат. Гом.). З *рэль, рэлі* (гл.). Утворана, як, напрыклад, рус. *щель* – *щёлка*, з менай *-ў-* < *-л-*. Найбольш верагодна, што з прасл. **rьdlь*, роднаснага літ. *ar̃das* 'шост', *ardaĩ* 'каласнікі' (гл. Фасмер, 3, 466). Параўн. бел. *арэлі* (гл.), *арэльскія гвазды* 'тэблі, якімі змацоўваліся плыты' (Чэрн.).

**Роўнава́га** 'стан спакою', 'устойлівасць' (Байк. і Некр.; Бяльк.). З польск. *równowaga* 'тс', якое з'яўляецца калькай з ням. *Gleichgewicht* 'тс', а апошняе паводле лац. *aequilibrium* (Санфельд, Зб. Томсэну, 170; Фасмер, 3, 428).

**Роўнадзе́ньне** 'раўнадзенства' (Байк. і Некр.) – неалагізм, утвораны накшталт польск. *równonoc* 'тс', а суфікс з канчаткам – калька з адпаведнага рус. *-ствие*.

**Роўнале́жнабочнік** 'паралелепіпед' (Байк. і Некр.) – з польск. *równoleglobok* 'паралелаграм' і суф. **-ьnikъ*.

**Роўнале́жнік** 'паралель' (Байк. і Некр.). З польск. *równoleżnik* 'тс'. Ад яго – *роўнале́жны* 'паралельны' (бо польск. *równoległy* – з іншым суфіксам) і *роўнале́жнасць* 'паралельнасць' (параўн. польск. *równoległość* 'тс').

**Роўнасечная** 'бісектрыса' (Байк. і Некр.) – паўкалька з польск. *dwusieczna* 'тс'.

**Ро́ўнік** 'экватар' (Байк. і Некр.) – з польск. *równik* 'тс'.

**Ро́ўніца** 'равеснік, раўня' (ТСБМ; маладз., Янк. Мат; ушац., Нар. лекс.), 'злёгку скручаная пасма валакна, з якой вырабляецца пража' (ТСБМ), 'плоскасць, роўнасць, пласкаватасць' (Байк. і Некр.), *ро́ўніца/ ру́ніца* 'раўніна' (дзятл., Жыв. сл.). Рус. алан., смал., варон. *ро́вница* 'аднагодак'. Бел.-рус. ізалекса. Да *роўны* (гл.).

**Роўны** 'просты, прамы, без выгібаў', 'гладкі, без упадзін і ўзгоркаў', 'аднолькавы, пастаянны', 'ураўнаважаны', 'які аднолькава з кім-небудзь вырастае', 'які мае аднолькавыя правы, становішча, значэнне' (ТСБМ, Шат., Байк. і Некр., Бяльк., ТС, Сл. ПЗБ), 'палогі (пра бераг ракі, возера)', *раўністы* 'тс' (жлоб., рэч., глус., ЛА, 2), *рíмны* 'роўны' (драг., Лучыц-Федарэц, вусн. паведамл.). Укр. *рíвний*, рус. *ро́вный, ро́вен*, стараж.-рус. *ровьнъ*; польск. *równy*, н.-луж. *rowny*, в.-луж. *runy*, палаб. *ruovnė*, чэш., славац. *rovný*, славен. *ráven*, серб. *ра́ван, ра̂вни* 'тс', харв. *rávan* 'роўны', *rȃvan* 'раўніна' чак. *ravȃn, rȏvan*, шток. *ràvan*, ж. р. *rámna*, н. р. *râmno*, макед. *рамен*, балг. *ра̀вен*, ст.-слав. **равьнъ.** Прасл. **orvьnъ(jь)* – прыметнік, утвораны ад асновы **orvo-es-*, роднаснай ст.-прус. *arwis* 'сапраўдны', якое Смачынскі (IF, 94, 307) лічыць калькай-запазычаннем з ням. мовы; хецк. *aruna-* 'мора', авест. *ravah-/raunah* 'свабодная, адкрытая прастора', ірл. *róe, rói* 'роўнае поле', лац. *rūs* 'зямля, поле, вёска', ст.-в.-ням. *rûm* 'памяшканне', англ. *room* 'пакой', ням. *Raum* 'прастора' < і.-е. **réu̯H₁-es-* 'адчыняць' (Фурлан–Бязлай, 3, 155–156; Фасмер, 3, 489; Махэк₂, 520; Сной₂, 604; ESJSt, 13, 754–755). Сюды ж: *ро́ўніцца* 'раўняцца' (ст.-дар., Сл. ПЗБ), *ро́ўна* 'адначасова' (браг., Мат. Гом.), *ро́ўня* 'раўня' (ТСБМ, ТС; слуц., Чуд.), 'узровень' (Гарэц.), 'раўніна' (слонім., Сцяшк. Сл.) і *ро́ўнядзь* 'раўніна, роўнае месца' (ТСБМ, ТС, Бяльк., Касп., Байк. і Некр.), 'плошча (паверхні)' (Стан.), 'гладкая паверхня вады' (БРС).

**Ро́хаць** 'рохкаць' (Нас., Др.-Падб., Юрч., Сцяшк., Сл. ПЗБ, Ян., Гарэц., Скарбы; мядз., Нар. сл.; Мат. Гом.), *ро́хкаты* 'тс' (стол. Нар. лекс.), *ро́хкаць* 'утвараць гукі «рох-рох» (пра парасят, свіней)' (ТСБМ, Шат., Др.-Падб., Сцяшк., Гарэц., Бес., Клім., ТС, Сл. ПЗБ), 'ціха рохкаць' (паўн.-, паўд.- і крайні ўсход Беларусі, ЛА, 1), *рёхыцца, рёхыць* 'рохкаць' (Юрч.), *ро́хнуць* 'буркнуць' (мядз., астрав., Сл. ПЗБ), *ро́хканне, рёхыньня* 'рохканне' (Байк. і Некр.; Юрч.), *ро́хот* 'тс' (ТС), *рёх!* – пра рохканне (мсцісл., Нар. лекс.), *ро́хля* 'свіння' (ПСл.). Укр. *рох!* – пра рохканне, *ро́ха* 'свіння', *ро́хкати* 'рохкаць', рус. зах. і паўд. *ро́хать, ро́хкать* 'рохкаць', 'моцна храпець' (Даль); у заходніх і паўднёваславянскіх мовах – з пачатковым *г/ х/ к*: польск. *chrząkać* 'рохкаць', 'пакашліваць', н.-луж. *chrjochaś* 'рохкаць', 'храпці', 'сапці', в.-луж. *chrjachać* 'кашляць', чэш. *chrochtat, hrochati* 'рохкаць', славац. *krochkat'* 'тс', славен. *gróhati* 'тс', харв. *gróktati, hr̀cati*, серб. *гро̀ктати, ро́ктати,* 'рохкаць', балг. *грухтя́* 'тс'. Гукапераймальнае слова. Параўн. таксама ням. *grunzen* 'рохкаць', 'бурчэць сабе пад нос' (Праабражэнскі, 2, 217). Гл. таксама прасл.**groxati* (ЭССЯ, 7, 134).

**Рóхля** ‘неахайны’ (Нас.), ‘чалавек, неакуратны наогул і ў быце’ (шкл., КЭС), ‘неахайны, брудны’ (маладз., КЭС; Мат. Маг.), ‘вялы, неахайны’ (Байк. і Некр.), ‘неахайная жанчына’ (мазыр., Мат. Гом.), ‘неахайная гультаяватая жанчына’ (Сцяшк. Сл.; в.-дзв., Шатал.), ‘неахайная, нязграбная і дзікаватая жанчына’ (мсцісл., 3 нар. сл.), *рахлéй* ‘вельмі неахайны і нязграбны чалавек’ (там жа), *рóхля, рóхліна, рóхлішча* ‘неахайная асоба’, *рóхліца* ‘рабіць неакуратна’, *рóхленне* ‘неакуратная работа’ (Юрч., СНЛ), *рóхля* ‘тоўстая непаваротлівая жанчына’ (ТС), ‘празмерна тоўстая разлезлая баба’ (слонім., Жыв. НС), *рахэ́ля* ‘неахайная жанчына’ (Сл. рэг. лекс.). Рус. *рóхля* ‘разява’, ‘тупіца’; ‘неахайны чалавек’, калуж. ‘гультаяватая і тоўстая жанчына’, балг. *рóхла* ‘кабета або жанчына з непрычэсанымі валасамі’. Звычайна звязваюць з роднаснымі лексемамі *рыхлы, рýшыць* (Праабражэнскі, 2, 218); апошняе (*рýшыць*) лічаць ітэратывам ад незафіксаванага ў слав. мовах **rusti* ‘рыць’, ад асновы якога **roųs-* утварыўся дзеепрыметнік **ruxlъ, *ruxl'a* > польск. дыял. *ruchla* ‘свіння’ (Фурлан у Бязлай, 3, 209), параўн. літ. *raũsti, ràust* ‘рыць, капаць’, лат. *rušināt* ‘разрыхляць’, ‘перамешваць жар’, чэш. *ruchati* ‘араць’ (Махэк$_2$, 525). З семай ‘свіння’ звязана этымалогія Якабсона (IJSLP, 1, 268): *рóхля* < *рóха* ‘свіння’, *рóхкать* ‘рохкаць’ (Фасмер, 3, 508). Мацэнаўэр (LF, 17, 199) параўноўвае лексему з славен. *ráhel* ‘рыхлы’, ‘кволы’. Аднак можна сумнявацца наконт адпаведнасці вакалізма *ra-* і **ry*. Сной$_2$ (599) выводзіць яго з дзеепрыметніка **raxlъ*< **rа̃sti* ‘рыць, грэбці, штурхаць’ > славен. *rášiti* ‘тс’, макед. *рошка* ‘рыцца, корпацца, кешкацца’, балг. *рóхав, рохкав* ‘рыхлы, мяккі, пяшчотны’, *рéша* ‘часаць, прычэсваць’. Гл таксама Бярнар (Бълг. изсл., 248–249), які выводзіць балг. *рóхла* з *рóхав, рóхлест* ‘непрычэсаны, ускудлачаны’, што звязаны чаргаваннем з *рéхав* ‘калматы, рыхлы’, апошняе да *рядък* ‘рэдкі’. Неславянскае паходжанне прапануе Масковіч (Зб. Талстому, 355), ад яўрэйскага ўласнага імя *Rokhl/Rukhl*.

**Рóхманы** ‘хваравіты’ (ветк., Мат. Гом.) – у выніку семантычных зменаў да *рахмáны* (гл.).

**Рóхнуцца** ‘зваліцца’ (нясв., Сл. ПЗБ) – з *⁺грохнуцца*, якое з прасл. **groxnǫti* – інхаатыў, суадносны з **groxati*, апошняе мае гукапераймальнае паходжанне (Махэк$_2$, 185; ЭССЯ, 7, 135).



**Рóхтачка** ‘адзнака’: *у Тамарінага мальца дайжа рохтачкі ўсе твае* (Юрч. СНЛ). Узыходзіць да *рыхт, рыхты* ‘такі ж, падобны’, *рыхтык, рыхцік* ‘якраз, дакладна’ < польск. *rychtyk, rychtyg* < ням. *richtig* ‘правільны’, ‘сапраўдны’, ‘адпаведны’.

***Рóцезка**, *рóтэзка* ‘вузкая палоска матэрыялу, якой завязваюць хвартух’ (пін., Шатал.). Супастаўляецца з ст.-рус. *ретязь*, укр. *рéтяз*, польск. *wrzeciądz*, ст.-польск. *rzeciądz*, н.-луж. *rješaz*, в.-луж. *rječaz*, чэш. *řetěz*, славац. *ret'az* ‘ланцуг’. Кіпарскі (Gemeinslav., 263) дапускае старое слав. **retędzь, *retęgъ*, якія, магчыма з герм. моў: ст.-ісл. *rèkendi, rèkendr*, ст.-англ. *racente* ‘ланцуг’, ст.-в.-ням. *rahhinza* ‘тс’. Дапускаецца ў якасці зыходнага герм. **reking*, параўн. ст.-ісл. *rekk* ‘путы, кайданы’ (гл. Фасмер, 3, 476), аднак сумнiўна, каб герм. *k* дало слав. *t*. Махэк$_2$ (531) звяртае ўвагу на ст.-чэш. *vrtoviez* ‘вяроўка, што звязвае вярхі ручак у возе’, якое з **vьrto-vęzь* і, абапіраючыся на гэтае слова, для *retędzь* выводзіць **vert-ęz-ь*, а з гэтага – *vřě-* [на пісьме перадавалася як *rzye-*]. Параўн. і ўкр. *веретя́з* (у Брукнера, 633). Форма з суф. *-ка*, як укр. гуц. *перíзка* ‘пасак’.

**Рóцік** ‘адтуліна ў лямпе для кнота’ (добр., Мат. Гом.). Да *рот* (гл.). Утворана ў выніку пераносу семантыкі паводле падабенства рэаліі з паўадкрытым ротам.

**Рóцька** ‘разява’ (Касп.), ‘няўважлівы чалавек’ (Жд. 2), ‘дурань’ (міёр., 3 нар. сл.). Да *рот* (гл.). Суфікс *-к-а* – з экспрэсіяй непахвальнасці.

**Рóчкі$_1$** ‘тэрміны судаводства ў гродскіх судах’ (Гарб.). З польск. *roki* (*sądowe*) ‘тэрмін паўнамоцтва судоў’, ст.-польск. *poroczki* ‘земскія, павятовыя суды’. Да *рок$_1$* (гл.).

**Рóчкі$_2$** ‘верхавіны дрэў’ (іўеў., Сцяшк. Сл.). Няясна. Магчыма, з ‘атожылкі на галінах, якія выраслі за адзін год’, гл. *рок$_1$*.

**Рóчнік** ‘аднагодак’ (Жд. 3; маст., шальч., смарг., Сл. ПЗБ), ‘аднагадовае жарабя’ (бяроз., Шатал.). З польск. *rocznik* ‘аднагодак’. ст.-польск. *roczeń* ‘аднагадовая жывёла’, якія з *roczny* ‘гадавы, аднагадовы’ < *rok* – *рок$_1$* (гл.). Мацкевіч (у Сл. ПЗБ, 4, 307) падае яшчэ польск. *rocznik* ‘штогодні кантынгент прызыўнікоў’.

**Рóчніца** ‘гадавіна’ (Нас.), ‘памінкі па нябожчыку праз год пасля смерці’ (Нас., Некр. і Байк., Сцяшк. Сл.; смарг., Шатал.). Да *рачнíца* (гл.), якая з польск. *rocznica* ‘тс’.

**Рóшаны** ‘вырашаны’ (Жд. 3). Да *рашáць* (гл.). Мена *а* > *о* (пад націскам), як *плацíць – аплóчаны*.

**Рошва** 'карункі, якія ўшываюцца ў навалачкі ці ў настольнікі' (лях., Янк. Мат.; шкл., КЭС; Жд. 1; капыл., Жыв. сл.; Бяльк., Мат. Маг.). Праславянскі (?) рэгіяналізм **orz-šьva*, утвораны, як **podъ-šьva* 'тое, што падшыта'. Да *шыць* (гл.). Першапачаткова абазначала 'распоратае ўздоўж шва', параўн. серб. *рàшити*, харв. *ràšiti* 'распароць, расшыць уздоўж шва', укр. *розшивати* 'распорваць', польск. *rozszywać* 'ушываць устаўку'. Сюды ж *рóшаўка* 'расшэўка, карункі, ушытыя ў сярэдзіну абруса, ручніка, прасціны' (Жд. 1, Сл. ПЗБ), *рóшшыўка* 'карункі ў навалачках' (навагр., Нар. сл.), якія больш позняга ўтварэння.

***Рошкап**, ст.-бел. *рошкопъ, розкопъ, рошкофъ* 'упрыгожанне на галаве каня' (1577) са ст.-польск. *roskop* < с.-в.-ням. *roskop* (Булыка, Лекс. запаз., 120), якое з *Roß* 'конь' і *Kopf* 'галава'.

**Рошт** 'рыштаванне', 'вышкі, насціл', 'рашотка, часовая падлога', 'кладкі на высокіх калках, калодках, па якіх ходзяць у паводку', 'памост на дрэве для борці', 'падмосткі з яловых галін для спання на зямлі' (ТС, ПСл), *роштоваць* 'падымаць на памосткі, падмошчваць' (ТС). Ст.-бел. *роштъ* 'каласнік' (1593 г.) – са ст.-польск. *roszt* < ням. *Rost* (Булыка, Лекс. запазыч., 93).

**Рошч** 'рост, росля' (іўеў., Сл. ПЗБ). З прасл. **orst-jь < orsti > расці* (гл.).

**Рóшча** 'гай' (стаўб., Прышч. дыс.), 'малады бярэзнік' (крыч., Яшк.), 'расліннасць' (Гарэц., Стан.), 'гадаваны ўчастак лісцёвага лесу каля населенага пункта', 'гарадскі парк' (рэч., слаўг., Яшк.), 'могілкі' (маг., Яшк.); 'гародніна' (Жыв. НС); 'працэс росту, рост, развіццё' (Клім., Сцяц., Ян.; кобр., Нар. лекс.; брэсц., Жыв. сл.; Сл. Брэс, ТС), 'рост у вышыню' (Скарбы), 'прарослае збожжа' (Ян.). З прасл. **orst-ja < *orsti > расці* (гл.).

**Рóшчы**: жарт. *рóшчый-сýшчый* 'існы, святы' (мсцісл., Юрч. Вытв.). Не зусім ясна. Відаць, да *расці, рошчы* 'які вырас' і існуе.

**Рóшчына**, *рашчына, рошчына, рошчэна* 'рошчына для хлеба, негустое цеста на дрожджах або з закваскай, якое пасля замешваюць', 'цэментны, будаўнічы раствор' (ТСБМ, Сержп., Рам. 8, ТС; ЛА, 4; Сл. Брэс., Байк. і Некр.), 'маладое цеста' (Сцяшк.), 'кулага (страва)' (Сл. Брэс.). Аддзеяслоўнае ўтварэнне з суф. *-ін-а* са значэннем 'прадмет – вынік дзеяння'. Да *расчыняць* (< прасл. **orz-činjati < *činiti* > бел. *чыніць* (гл.).

**Рóшшыўка** 'карункі ў навалачках' (навагр., Нар. сл.). Ад *расшываць* (гл.) як *вышыўка < вышываць*.



**Рóшына** 'крошка': *да абеду нават рошыны ня было ў роця.* (навагр., Нар. словатв.). Утварэнне з суф. адзінкавасці *-ін-а* ад *крош-к-а* як *дзярніна* 'кавалак дзёрну', *вераўчына* 'кавалак вяроўкі', дзе ў якасці ўтваральнага выступае рэчыўны назоўнік, які абазначае цэласную масу, што можа распадацца на асобныя кавалкі. Страта пачатковага *к-*, магчыма, пад уплывам *расá*, параўн. *расінкі ў роце не было*. Гл. *крошка*.

**Ртуць** 'хімічны элемент, вадкі цяжкі метал' (ТСБМ), народная назва – *жывóе серабрó* (Ласт.). Рус., укр. *ртуть*, чэш. *rtuť*, славац. *ortuť*, польск. *rtęć*. Стараж.-рус. *рътуть* (Сразн., 3, 206) – разглядаецца як праславянскі дзеепрыметнік цяперашняга часу незалежнага стану **rьtǫtь* (як *могуть, словуть*), звязаны з літ. *risti*, 1 ас. адз. л. *ristù* 'каціць, качаць', лат. *rist*, 1 ас. адз. л. *ritu* 'каціць, каціцца', а таксама літ. *rіẽsti* 'гнуць; скручваць; скурчваць; згортваць', *rietė́ti* 'каціцца', лат. *riest* 'адпадаць, аддзяляцца', што ўзыходзяць, магчыма, да і.-е. **ret(h)-* 'бегчы, каціцца' (Фасмер, 3, 509; Чарных, 2, 124–125). Паводле больш ранняй версіі Міклашыча (285) якая, аднак, сутыкаецца з цяжкасцямі ў фанетычных адносінах, назва элемента паходзіць з араб. *\`utārid* 'ртуць' пры пасрэдніцтве тур. *utaryd* 'тс'. Першапачаткова араб. *\`utārid* – назва планеты Меркурый, якая перайшла на хімічны элемент дзякуючы яго "лятучасці", рухомасці. Параўн. франц. *mercure*, іт., ісп. *mercurio*, англ. *mercury* 'ртуць'. Назва планеты – паводле імені старажытнага рымскага бога гандлю і абаронцы вандроўнікаў Меркурыя – *Mercurius* (Чарных, 2, 124–125).

**Руб** 'вузкі край або вузкі бок якога-небудзь прадмета' (ТСБМ), 'кант, брыж, край', 'зарубка, выступ', 'шво, рубец' (ТС), *рубовáты* 'зубчаты, з выступамі' (ТС), ст.-бел. *рубъ* 'абрывак тканіны', 'хустка', 'вопратка', 'рыззё' (Ст.-бел. лексікон). Укр. *руб* 'рубец', рус. дыял. *руб* 'грубае адзенне, лахманы', польск. *rąb* 'рубец', *ręby* 'кант, край, левы бок тканіны', в.-луж. *rub* 'удар; кавалак палатна; палатняная хустка', в.-луж., н.-луж. *rub* 'грубая тканіна, саван, адзенне', чэш. *rub* 'адваротны, левы бок', славен. *rȏb* 'тс', серб.-харв. *рȳб* 'край; кант; рубец (на сукенцы)', балг. *рьб* 'рубец (на вопратцы)'. Стараж.-рус. *рубъ* 'кавалак, абрывак тканіны'. Прасл. **rǫbъ*, як і **rǫbiti* 'сячы', з і.-е. **remb-/*romb-/*r̥mb-* 'сячы; рабіць зарубку, насечку, рубец, шрам'. Роднаснае да літ.

*rum̃bas* ‘рубец, шрам’, лат. *rùobs* ‘зарубка, насечка’ (Фасмер, 3, 510; Глухак, 532; Брукнер, 455; Чарных, 2, 125). Далей збліжаюць са ст.-в.-ням. *rant(t)* ‘край шчыта’, ст.-ісл. *rǫnd* ‘край, рабро, край шчыта’, с.-в.-ням. *ranft* ‘рамка, край’ (Траўтман, 236; Мюленбах–Эндзелін, 3, 557; Торп, 339; Фасмер, 3, 510).

**Руба́ка** ‘адважны чалавек, які выдатна валодае халоднай зброяй’ (ТСБМ), ‘хто робіць сходу, не задумваючыся’ (Нас.). Аддзеяслоўны нульсуфіксальны назоўнік ад *рубаць, рубацца* (гл.) як *застyna* ‘абаронца’, *балака, пралаза* і інш. У першым значэнні, магчыма, русізм, параўн. *руба́ч* ‘тс’ (Некр. і Байк.).

**Ру́бам** ‘вертыкальна, вузкім бокам або краем уверх’ (ТСБМ), *ру́бом* ‘горда, з пыхай’: *багаты рубом ходзіць* (Сержп. Прык.). Гл. *руб*.

**Руба́нак** ‘сталярны інструмент з лязом для стругання драўніны’ (ТСБМ, Шат.). Укр., рус. *руба́нок* ‘тс’. З н.-ням. *rûbank*, нова-в.-ням. *Raubank* ‘вялікі рубанак’, ням. *Rauhbank* ‘рубанак’ (Фасмер, 3, 510, Чарных, 2, 326). Позняе запазычанне з рускай мовы, народнае *зо́бель* (гл.).

**Ру́банец** ‘гатунак моцнага самасаду’, *ру́банка* ‘гатунак прывазнога тытуню’ (ТС). Ад *рубаць* ‘сячы’ < **rǫbati* ‘тс’ (гл. *руб*). Параўн. *ляжанец* ‘абложная зямля’, *перебіранец* ‘від посцілкі’; *нюханка* ‘від табакі’, *сечанка* ‘сечка’.

**Рубасе́к** ‘вырубка’ (Сл. рэг. лекс.). Слова з дзвюх блізказначных асноў – *руб-* < *рубаць* ‘сячы’ (гл. *руб*) і *сек-* < *секчы* (гл.) са злучальным галосным *-а-*, параўн. у песні: *Сталі явар сеч – рубаць.*

**Руба́цца** ‘біцца сякерай’ (ТС), *руба́ць* ‘сячы, цяць’ (Ласт.). Укр. *руба́ти, руба́тися* ‘сячы, сячыся, рубацца’, польск. *rąbać* ‘сячы’, чэш. *rubati*, славац. *rubat’* ‘сячы’. З прасл. **rǫbati (sę)* з тым жа коранем **rǫb-*, што і ў *руб, рубіць* (гл.).

**Руба́ць** ‘есці вельмі энергічна’ (Юрч. Сін.). Амонім да *рубаць* ‘сячы’ (гл. *рубацца*) у выніку пераносу значэння ‘сячы’ на працэс ежы, параўн. *малоць* ‘тс’.

**Руба́шка** ‘кашуля’, ‘верхні слой чаго-небудзь’ (ТСБМ), ‘менструацыя’ (ТС), *руба́ха* ‘сарочка, кашуля’ (ТС), *рубашно́* ‘пагард. да рубашка’ (Клім.). Рус. *руба́шка* ‘кашуля, сарочка’, *руба́ха* ‘тс’. Лічыцца запазычаннем з рус. *рубашка* < *рубаха* < ст.-рус. *рубъ* ‘кавалак, абрывак тканіны; дрэннае адзенне’ < прасл. **rǫbъ/*rǫba*



‘кавалак, адрэз тканіны’ (гл. *руб*). Параўн. аднак *рубацёнка* ‘кашуліна’ (Юрч.), славен. дыял. *robača* ‘сарочка’ (Зб. Логару, 92).

**Рубе́ж** ‘мяжа чаго-небудзь або паміж чым-небудзь’, ‘дзяржаўная мяжа’, ‘лінія абаронных збудаванняў’ (ТСБМ), ‘кант, грань’ (Гарэц.), *рубѣжъ* ‘граніца’ (Шымк. Собр.). Укр. *рубіж* ‘край, мяжа; засечка’, рус. *рубе́ж* ‘рубеж’, балг. *ръбе́ж* ‘мяжа, мяжа паміж палямі’. Стараж.-рус. *рубежъ* ‘засечка; знак мяжы’ (Сразн., 3, 179). З прасл. **rǫbežь* ‘метка, засечка’, вытворнага з суфіксам *-ežь* ад **rǫbati*, **rǫbiti* ‘сячы’ (гл. *рубаць, рубіць*) (БЕР, 6, 361; Чарных, 2, 125). Паводле Якабсона, *рубеж* ёсць царкоўнаславянская форма ў адносінах да *рубёж* ‘высяканне лесу’ (Трубачоў–Фасмер, 3, 510).

**Рубе́ль**$_1$ ‘грашовая адзінка, роўная 100 капейкам’, ‘банкнот і манета такой вартасці’ (ТСБМ), ст.-бел. *рубель* ‘грашовая адзінка, роўная 100 грошам’ (Ст.-бел. лексікон), сюды ж *рублёвы* ‘які каштуе адзін рубель’ (ТСБМ), *рублёўка* ‘манета або казначэйскі білет вартасцю ў адзін рубель’ (ТСБМ). Як назва грашовай адзінкі ва ўсіх славянскіх мовах з рус. *рубль* ‘рубель’, якое ад *рубить* ‘сячы’ (гл. *руб*), паводле Фасмера (3, 511), “абрубак грыўны”. Параўн. укр. *карбо́ванець* пры *карб* ‘засечка; рубец’, *карбува́ти* ‘рабіць нарэзы; рэзаць; сячы’, *карбо́ваний* ‘пакрыты разьбой; парэзаны’ (ЕСУМ, 2, 388). Гл. таксама *рубель*$_2$.

**Рубе́ль**$_2$ ‘тоўстая жэрдка, якой уціскаюць на возе сена, снапы і пад.’ (ТСБМ), ‘жордка, да якой прымацоўваюць бярвёны пры складанні плытоў сплаўнога лесу’ (стол., лельч., петр., Маслен.), ‘тоўстая рухомая жэрдка, на якой стаяць, крыючы страху саломай’, ‘кладзь, якая агароджвае застаронкі ў станку (курэні)’ (ТС), *рубэ́ль* ‘жэрдка ў нажной ступе’ (Клім.), ‘прылада для ўціскання сена ці саломы на возе або машыне’ (пін., стол., Сл. Брэс.). Ст.-рус. *рубль* ‘кляп, адсечаны кавалак’ (Сразн., 3, 182). Але, магчыма, новы беларускі аддзеяслоўны назоўнік з суф. *-ель* ад *рубіць* (гл.) са значэннем выніку дзеяння як *бурдзе́ль* ‘пракіслая страва’ ад *бурдзе́ць* ‘пракісаць’, *круце́ль* ‘перавясла’ і ‘падобныя’. Параўн. балг. *ръ́бел* ‘адбітая частка прылады для рэзання, сячэння; зазубрына на вастрыі прылады’, н.-луж. *rubjel* ‘абрубак палкі’ (< прасл. **robьlь* ‘адсечаны кавалак’, Шустар-Шэўц, 2, 1249).

**Рубе́ль**$_3$ ‘драўлянае прыстасаванне для разгладжвання бялізны’ (Сл. рэг. лекс.). Рус. дыял. *рубе́ль* ‘тс’, ‘жэрдка з зарубкамі па

краях, якой прыціскаюць сена'. Фасмер (3, 511) выводзіць ад *рубить* (гл.). Відаць, да папярэдняга слова.

**Рубероі́д** 'матэрыял для пакрыцця даху або для ізаляцыі' (ТСБМ). З лац. *ruber* 'чырвоны' і грэч. εἶδος 'выгляд'.

**Рубе́ц₁** 'падоўжанае паглыбленне, зробленае кім-небудзь на гладкай паверхні', 'след на целе пасля загоенай раны або ад пабояў', 'шво пры сшыванні двух кавалкаў тканіны, скуры і пад.', 'руб' (ТСБМ), 'выступ, край' (ТС), *рубцава́ты* 'з рубцамі', *рубцава́цца* 'гаіцца, утвараючы рубцы (пра раны, язвы і пад.)' (ТСБМ). Укр. *рубе́ць*, рус. *рубе́ц* 'рубец', серб.-харв. *ру̑б* 'рубец (на адзенні)', славен. *rob* 'тс', польск. *rąbek* 'рубчык'. Стараж.-рус. *рубьць* 'рубец'. Гл. *руб*.

**Рубе́ц₂** 'самы вялікі аддзел страўніка жвачных жывёл; ежа, прыгатаваная з гэтай часткі страўніка' (ТСБМ). Да папярэдняга слова, у аснове значэння – знешняе падабенства.

**Рубе́ц₃** 'спінка ложка' (вілейск., Нар. сл.). Да *руб* (гл.), значэнне 'кант; цвёрды край прадмета'.

**Рубі́ж** 'вастрыё касы' (драг., Нар. словатв.). Дыялектны фанетычны варыянт да *рубеж* (гл.). Варыянты з суфіксамі *-еж/-іж* назіраюцца, аднак, у адад'ектыўных назоўніках: *глыбе́ж/глыбі́ж* 'глыбокае месца ў рацэ; бездань', *гусце́ж/гусці́ж* 'гушчар'.

**Рубі́льнік** 'ручны выключальнік якіх-небудзь электрычных установак' (ТСБМ). З рус. *руби́льник* 'тс', якое з'яўляецца калькай з англ. *chopper-switch*, дзе *chop* 'сячы, высякаць' (рус. *руби́ть*) і *switch* 'выключаць (электрычнасць)' (Шанскі–Баброва, 276).

**Рубі́н₁** 'каштоўны камень чырвонага колеру' (ТСБМ). Рус. *руби́н*, польск. *rubin*, чэш. *rubín*, серб.-харв. *ру̏би̑н*, балг. *руби́н*. Ст.-бел. *рубинъ* са ст.-польск. *rubin* < ням. *Rubin* < познелац. *rubinus* 'рубін' < *ruber* або *rubeus* 'чырвоны' < і.-е. **reudh-*, роднаснага да *руды*, гл. (Брукнер, 466; Фасмер, 3, 511; Булыка, Запазыч., 288).

**Рубі́н₂**, **рубі́ха** 'драўляны брусок з насечкамі для качання бялізны' (Касп.). Ад *рубіць* 'сячы' (гл.) са словаўтваральным значэннем 'прадмет – вынік дзеяння'. Падобныя ўтварэнні з суфіксам *-ін-* (аднак, жаночага роду): *лупіна, адбоіна* 'адбіты кавалак' і інш., з суфіксам *-іх-а (-ых-а): жаць (жмуць) – жмыха* (магілёўскі рэгіянальны, нерэгулярны тып).

**Рубі́на** 'адна штука адзення' (Ст.-дар., Нар. сл.; ТС). Назоўнік з суфіксам адзінкавасці *-ін-а* ад *рубы* 'адзенне' (гл.).



**Рубі́ць** 'падшываць край чаго-небудзь; рабіць рубец', 'будаваць што-небудзь з дрэва, бярвення', 'здабываць (руду, вугаль)' (ТСБМ), у выразе *рубіць хату/хлеў* 'часова без моху складаць сцены будынка з новых бярвенняў' (капыл., салігорск., клец., слуц., З нар. сл.); сюды ж *рубну́ць* 'секануць' (ТС). Укр. *руби́ти* 'падрубаць, падшываць', рус. *руби́ть* 'сячы', н.-луж. *rubnuś* 'секануць', в.-луж. *rubnuć* 'секануць', чэш. *roubiti* 'будаваць; рабіць прышчэпку', славен. *róbiti* 'падрубаць, падшываць', серб.-харв. *ру̏бити* 'тс', балг. *ръ́бя* 'абрубаць; рабіць зазубрыны; падрубаць'. Ст.-слав. **рѫбити**, стараж.-рус. *рѫбити* 'будаваць з дрэва; рыхтаваць (ваяра)' (Сразн., 3, 181–182). Прасл. **rǫbiti, *rǫbati* на базе і.-е. **remb-/*romb-/*r̥mb-* 'сячы, рабіць насечку, рубец, шрам', параўн. літ. *rémbėti* 'пакрывацца рубцамі; рубцавацца'. Старэйшае значэнне – 'рабіць засечку; рубцаваць' < 'будаваць' < 'сячы' (Чарных, 2, 125). Паводле Трубачова (Ремесл. терм., 149), значэнне 'будаваць з дрэва' другаснае на базе прасл. **rǫbъ* 'край, абрэзаны кавалак'. Гл. *руб*.

**Рубле́** зборн. 'тонкія жэрдкі': *рубля́ ды гольа́ накладзе* (ТС). Слова са значэннем 'прадмет – вынік дзеяння' з суфіксам *-j-е* ад дзеяслова *рубіць* 'сячы', як *атрэп'е, акор'е*. Гл. *руб*.

**Рубле́й** 'ненажэрны чалавек' (ТС). Экспрэсіўны назоўнік ад *рубаць* 'есці' (гл.) як *мане́й* 'хлус', *целяпе́й* 'маруда'; *-л-* магло з'явіцца ў выніку кантамінацыі *рубаю* і **рублю*.

**Рублёва́ты** 'які ільсніцца, адкормлены', параўн. *конь у рублёх*, г.зн. *рублёва́ты* (ТС). Да *рубель₁* (гл.), параўн. рус. *в яблоках* (пра масць каня).

**Ру́блік** 'папярочка на плыце, да якой прывязваюцца калоды' (ТС). Памяншальна-ласкальнае ад *рубель₂* (гл.)

**Ру́брыка** 'загаловак раздзела ў газеце, часопісе і пад.', 'раздзел; графа' (ТСБМ). Праз польск. *rubryka* або рус. *ру́брика* запазычана з лац. *rubrīca* < *ruber* 'чырвоны'. Назва тлумачыцца тым, што надпісы і загалоўкі зводаў законаў пісаліся чырвоным чарнілам (Сной₂, 632).

**Рубцы́** 'адзенне старое, рванае' (мсцісл., Юрч. Сін.). Магчыма, кантамінацыя *рубы* 'добрае адзенне' (гл.) і *рубцы, рубец* 'шво пры сшыванні двух кавалкаў тканіны' (гл.).

**Рубы** толькі мн. л., экспр. 'добрае, святочнае адзенне' (драг., 3 нар. сл.), параўн. ст.-бел. *роубие альбо хоусты* (XV ст., Карскі, 2–3, 23). Рус. *руб, руба* 'грубае адзенне, лахманы', н.-луж. *rub* 'адзенне, саван', серб.-харв. *рȕба* 'адзенне', балг. *руба* 'тс'. Усходне- і заходнеславянскія словы традыцыйна ўзводзяць да прасл. **rǫbъ, rǫbiti* (Фасмер, 3, 510; Чарных, 2, 125), гл. *руб*. Балгарскае слова лічаць запазычаннем праз тур. *ruba* 'адзенне' з іт. *roba* 'тс', якое са ст.-в.-ням. і ст.-н.-ням. *roub* 'здабыча', ням. *Raub* 'грабеж'. Адтуль жа і серб.-харв. *рȕба* 'адзенне', рум. *rubă* 'лахман', алб. *rub* 'ручнік' (БЕР, 6, 331–332).

***Рубяжы́,** *рубыжі́* 'тое, што і *граблі* – трава, што застаецца паміж пракосамі', 'знакі на скуры няроўна абстрыжанай авечкі' (драг., Нар. словатв.). Магчыма, архаізм, параўн. ст.-рус. *рубежъ* 'засечка; знак мяжы' (гл. *рубеж*).

**Ру́га** 'паша для жывёлы' (Нік. Очерки), ст.-бел. *руга* 'царкоўнае ўгоддзе' (Станг, Urkundensprache, 145). Стараж.-рус. *руга* 'плата; царкоўная маёмасць', укр. *ру́га* 'царкоўная зямля, прызначаная на ўтрыманне святарства'. Запазычана з с.-грэч. ῥόγα 'salarium', вытворнага ад лац. *rogāre* (Міклашыч, 282; Фасмер, 3, 512).

**Ругава́ць** 'турбаваць, крануць, паварушыць (саркастычна)' (маладз., Янк. Мат.). З польск. *rugować* 'высылаць, караць вінаватых' < *rug* 'высылка, пакаранне вінаватых', запазычана з гарадскога нямецкага права, дзе *Rüge* 'вымова', *rügen* 'вымаўляць, рабіць вымову' (Брукнер, 468). У якасці зыходных формаў падаюць с.-в.-ням. *rüggen, rucken, rücken* (Нававейскі, Zapożyczenia, 261). Сюды ж ст.-бел. *рукгованье* 'высяленне' (Ст.-бел. лексікон).

**Ругну́цца** 'вылаяцца', *ругену́ць* 'аблаяць', *руга́нье* 'лаянка, непрыстойны выраз' (ТС), *руганіна* 'лаянка, лаянне' (міёр., Нар. словатв.), *руга́нне* 'сварка з грубасцю', *ру́гань, ругня́* 'тс' (Юрч. Сін.). Укр. *поруга́тися* 'насміхацца', рус. *руга́ть* 'сварыцца', *ругну́ться* 'вылаяцца', польск. *urągać* 'насміхацца', каш. *rǫgac* 'насміхацца, кпіць', чэш. *rouhati* 'гнявіць бога', славен. *rógati se, rógam se* 'высмейваць', серб.-харв. *ру̑г, ру́га* 'насмешка', *ру̏гати се, ру̑га̑м се* 'насміхацца', балг. *ръгая* 'сварыцца, лаяцца'; ст.-слав. **ржгъ, ржгати сѧ**, ст.-рус. *ругъ* 'насмешка', *ругати ся* 'насміхацца'. З прасл. **rǫgati (sę), *rǫgnǫti (sę)*. (Бязлай, 3, 191; Глухак, 533; SEK, 4, 212; ESJSt, 13, 780). З інш. ступенню вакалізму славен. *regati, regniti* 'лопнуць', *režati, režim* 'зеўраць, быць раскрытым, бурчаць, злавацца', серб.-харв. *рега* 'бурчанне, гырканне сабакі', *рѐгнути, рêгнêм* 'бурчаць', ст.-слав. **рѧгнѫти** 'зеўраць'. Родасныя да ст.-прус. *rānctwei* 'красці', лац. *ringor, -ī, rīnctus sum* 'разяўляю рот, выскаляю зубы, злуюся'. (Фасмер, 3, 512).

**Руда́₁** 'прыродная мінеральная сыравіна з металамі або іх злучэннямі' (ТСБМ). У тым жа значэнні ўкр., рус. *руда́*, польск., в.-луж. *ruda*, чэш, славац. *ruda*, славен. *rúda*, серб.-харв. *ру́да*, балг. *ру́да́*. Прасл. **ruda* ад і.-е. кораня **reudh-(*roudh-/*rudh-)* 'чырвоны, руды, рыжы'. Суадносіцца з прасл. **rudъjь* 'руды, чырвоны, рыжы', гл. *руды* (Трубачоў, Этимология – 1988–1990; ESJSt, 13, 781). Адносна сувязі з і.-е. **r(e)udh-* 'медзь' гл. Глухак, 533; Нов. в. рус. этим., 1, 199.

**Руда́₂** 'красільнае рэчыва, што змяшчаецца ў ільняным палатне, выводзіцца з палатна вымочваннем і адбельваннем' (Сл. Брэс.). Ад *руды* (гл.) як *чэрня* 'чорная фарба, чорнае адзенне' < *чорны, голя* 'голае месца' і пад.

**Руда́₃** 'рудая вада на балоце' (навагр., Нар. сл.; Сл.ПЗБ), 'іржа, іржавы налёт' (ТС), 'гразь' (Нас., Мат. Маг., Касп.). Гл. *руда₂, руды*.

**Руда́₄** 'кроў' (Нас., Гарэц.). Укр., рус. *руда́* 'тс'. Выводзяць з *руда₃*, магчыма, у выніку табуізацыі слова *кроў* (Фасмер, 3, 513 з літ-рай), або з першаснага значэння 'штосьці чырвонае' (Борысь, SEK, 4, 188), параўн. ст.-інд. *rudhirám* 'кроў' (< і.-е. **roudh-* 'чырвоны, руды').

**Рудак** 'рыжавалосы'; тое ж *рудзіла* м. і ж., *руду́ха* ж., *ружо́ня* ж. (міёр., 3 нар. сл.). Ад *руды* (гл.).

**Руда́ўка** 'балотная рыжая вада' (ТСБМ). Ад *руды* (гл.) як *сіняўка* 'сіняк; грыб паганка', *кісляўка* 'яблыня з кіслымі пладамі'.

**Ру́дзік** 'рыжык' (узд., Нар. словатв.). Ад *руды* як *рыжык* ад *рыжы*, *палявік* ад *палявы* (грыб) і пад.

**Рудзя́га** 'парыжэлае ад дажджу сена' (ТС). Ад *руды* (гл.).

**Рудзяне́ц** 'травяністая лекавая расліна з бледна-жоўтымі кветкамі, барадаўнік' (ТСБМ, Кіс.). У якасці лекаў ужываюць

карэнне, лісце і насенне расліны, так што назва можа быць матываваная рудым колерам адвару. Не выключана таксама, што Lapsana, якая ў народзе яшчэ называецца *барадаўнік*, утрымлівае аранжава-жоўты сок, як і падтыннік Chelidonium majus.

**Рудзя́ны** 'брудны': *рудзяная авечка – мыць трэба* (Касп.), *рудзя́ный* 'брудны да чарнаты' (мсціcл., Юрч. Сін.). Да *руда₃* (гл.).

**Рудля́** 'узаранае поле' (Сл. Брэс.). Спаланізаванае *ралля* (гл.).

**Рудні́к** 'сістэма збудаванняў для здабывання карысных выкапняў' (ТСБМ). Укр., рус. *рудни́к*, славен. *rudnik*, серб.-харв. *ру̏дни̑к*, балг. *ру́дник*. Утварэнне з суфіксам *-нік* ад *руда* (гл.), характэрнае пераважна для ўсходне- і паўднёваславянскіх моў. У заходнеславянскіх мовах назвы з тым жа коранем, але іншымі суфіксамі: польск. *rudnia*, в.-луж. *rudnica*, чэш. *rudný dôl* (Чарных, 2, 126).

**Ру́дня** 'прамысловае прадпрыемства, дзе здабывалі або плавілі руду' (ТСБМ, Нас.), 'месца выплаўкі жалеза' (ТС), *рудня́*, *ру́дніца* 'тс' (Ласт.), *рудніκі* 'жыхары вёскі Рудня' (ТС). Ад *руда* (гл.) як *судня* 'месца, дзе быў суд', *пчольня*, *кветня* 'кветнік'.

**Руды́** 'ружова-карычневы' (ТСБМ), 'карычневы' (докш., Янк. Мат.), *рудава́ты* 'трохі руды, не зусім руды' (ТСБМ), *рудова́ты* 'карычневы, рыжаваты' (ТС), *руды́* 'рыжы' (мазырск., З нар. сл.), *руды́й* 'нябелены' (Сл. Брэс.), 'колер нябеленага палатна, загарэлага цела, светла-русы колер валасоў, поўсці' (Клім.). Укр. *руди́й* 'руды', рус. дыял. *ру́дый* 'крывава-чырвоны', польск. *rudy* 'рыжы', в.-луж. *rudy* 'буры', чэш. *rudý* 'чырвоны, рыжы', славен. *rûd* 'чырвоны, карычневы', серб.-харв. *ру̑д* 'рыжаваты', балг., макед. *руд* 'буры'. Прасл. **rudъ(jь)* 'рыжы; чырвоны' роднаснае да літ. *raudónas* 'чырвоны', *raũdas* 'чырвоны, буланы', *rùdas* 'буры', лат. *raũds* 'чырвоны, рыжаваты, карычневы', гоцк. *rauþs* 'чырвоны, рыжы', ст.-в.-ням. *rōt* (сучаснае ням. *rot*), ст.-інд. *rṓhitas* 'чырвоны, рыжаваты', лац. *rūfus* 'чырвоны', *ruber* 'тс', грэч. ἐρυθρός 'чырвоны', якія выводзяць з і.-е. **roudh-o-s* 'чырвоны' (Фасмер, 3, 513; Глухак, 532).

**Руж₁** 'румянец': *руж на шчоках* (Гартны). Гл. *ружовы*.

**Руж₂** 'румяны' (Ласт.). Праз польск. *róż* 'тс' з франц. *rouge* 'чырвоны' (Брукнер, 470).



**Ру́жа₁** 'дэкаратыўная расліна Rosa L.' (ТСБМ; Ласт.), 'шыпшына' (Кіс.), 'лілія' (Сл. ПЗБ, ТС). Укр. дыял. *ру́жа*, польск. *róża*, чэш. *růže*, славац. *ruža*, серб.-харв. *ру́жа*, макед. *роза*, *ружа*. Запазычанне, параўн. ст.-польск. *róża*, *rúża* < ст.-чэш. *ruože* < лац. *rose* або с.-в.-ням *rôse* (Фасмер, 3, 493). Гл. таксама *рожа₁*.

**Ру́жа₂** 'суша' (Касп.). Паводле Анікіна, роднаснымі да гэтага слова з'яўляюцца рус. *ру́жа* 'сухое галлё, галіна высахлага дрэва', *ружь* 'знешнасць; вобраз; выгляд; аблічча', *ру́жа* 'прасвет; вонкавы бок', славен. *rûž* 'шалупінне; стручок', *rúžiti* 'чысціць; абіраць, здымаць шалупінне; лушчыць'. Прасл. **ruža* (< **rugja*) 'суша, сцягнутая тугая, моцная, цвёрдая зямля' < і.-е. **reu-g-* 'рваць, драць, цягнуць'. З індаеўрапейскіх параляў прыводзяцца літ. *ráugti* 'квасіць', лат. *raûgt* 'заквашваць', *raûdzēt* 'квасіць', літ. *ráugas* 'закваска', лат. *raũgs* 'тс', прус. *raugus* 'кіндзюк', літ. *rūgti* 'кіснуць', лат. *rûgt* 'брадзіць' і інш. Прычым значэнне 'кіслы' асэнсоўваецца, з аднаго боку, як 'які сцягвае, зводзіць рот (непрыемным смакам)', параўн. лат. *tik skābs, ka savęlk muti* 'такі кіслы, што зводзіць рот', *savilktiês* 'збягацца, скісаць', грэч. στύφω 'сцягваць; мець даўкі смак'. З іншага боку, 'кіслы' асэнсоўваюць як 'які сцягнуўся; які загусцеў', параўн. ст.-ісл. *þēttr* 'густы', ісл. *þētti* 'кіслае малако', сяр.-ісл. *tēcht* 'кіслы' – усе яны з і.-е. **ten-k-* 'збягацца, скісаць'. Такім чынам, значэнне 'суша' матывуецца тым, што суша часта называецца па прыкмеце 'цвёрды; моцны' (у адрозненне ад балота), параўн. ням. *Festland* 'мацярык, кантынент, суша' з *festes Land* 'цвёрдая зямля'. (Анікін, Этимология – 1982, 70–78). Гл. таксама Макоўскі, Мир сл. и знач., 104 (дапускаецца сувязь з літ. *reñgti* 'рыхтаваць, уладкоўваць').

**Ружа́нец** 'у некаторых хрысціян – шнурок з нанізанымі на ім пацеркамі для адлічэння прачытаных малітваў або паклонаў у часе малітвы' (ТСБМ). З польск. *różaniec* 'ружанец', якое, паводле Фасмера (3, 493), з'яўляецца калькай з с.-лац. *rosārium* 'тс' < *rosa* 'ружа'. Паводле Брукнера (466), польск. *różaniec* утворана ад прыметніка *różany* (у спалучэнні *różany wianek* < ням. *Rosenkranz* 'вянок з ружаў; ружанец'). Польск. *różaniec* першапачаткова называлі 'малітоўнік дзевы Марыі са 150 малітвамі, які быў пераплецены пацеркамі для падліку малітваў', а потым – і самі пацеркі.

**Ружжó** 'стрэльба' (ТСБМ), *руж'ё* 'тс' (Сл. ПЗБ), *руж'é* 'тс' (ТС), *ружэ́йны* 'які мае адносіны да ружжа', 'які праводзіцца з ружжом' (ТСБМ). З рус. *ружьё*, якое першапачаткова ўжывалася ў зборным значэнні 'зброя ўвогуле', як і *оружьé*, ад якога паходзіць. *Оружьé/оружие* 'гармата; зброя' < прасл. **orǫžьje* (дзе *ž* < *g*) з тым жа коранем **rǫg*-, што і ў **rǫgati* (гл. *ругнуцца*). Разглядаецца адначасова як вынік кантамінацыі з прасл. **orǫdьje* 'гармата' (Чарных, 2, 606) насуперак Фасмеру. Апошні, акрамя таго, лічыць, што *оружье* – царкоўнаславянізм пры спрадвечнай форме *ружьё* (Фасмер, 3, 154). Паводле Адзінцова (Этимология–1985, 123), адпадзенне пачатковага галоснага адбылося па-за межамі Расіі, што сумнеўна.

**Ружóвы** 'светла-чырвоны', 'з румяным, здаровым выразам твару', 'нічым не азмрочаны, радасны, светлы' (ТСБМ), *ружóві* 'ружовы' (ТС). Ад *ружа* (гл.), параўн. *бэзавы* < *бэз, ліловы* < *лілея*.

**Руíна**₁ 'рэшткі разбуранага збудавання, паселішча'; перан. 'слабы, хворы ад старасці чалавек' (ТСБМ), 'вайна' (Шымк. Собр.), 'сумяціца' (Ласт.). Укр. *руїна, руїни* 'развалiны', рус. *руи́на, руи́ны* 'тс', польск. *ruina* 'разарэнне, заняпад', *ruiny* 'развалiны', чэш. *ruina, ruiny* 'тс'. Ст.-бел. *руина* 'руіна' са ст.-польск. *ruina* < лац. *ruina* (Булыка, Запазыч., 288). Магчыма, паўторнае запазычанне з заходнееўрапейскіх моў: ням. *Ruine*, франц. *ruine* 'падзенне; распад; заняпад; развалiны' < лац. *ruīna* 'падзенне; абвал; бедства' < *ruō* 'абвальваюся; разбураюся' (Чарных, 2, 126–127).

**Руíна**₂ 'зграя ваўкоў у час цечкі, руя, гайня' (шчуч., З нар. сл.; ТС). Гл. *руйка, руя*.

**Рýіць**, *руéць* 'голасна плакаць наўзрыд' (Ласт.), *руíць* 'кішэць, гудзець', *руíцца* 'табуніцца, збірацца ў зграі ў перыяд цечкі (пра ваўкоў, ласёў)' (ТС, Сл. ПЗБ). Дзеясловы гукапераймальнага паходжання. Гл. *руйка, руя*.

**Рýйка** 'гон, цечка' (ТС). Гл. *руя*.

**Руйнавáць** 'ператвараць у руіны, разбураць' (ТСБМ). Да *руíна* (гл.).

**Рукá** 'верхняя канечнасць чалавека або малпы' (ТСБМ). Укр., рус. *рукá*, польск. *ręka*, палаб. *rǫkă*, чэш., славац. *ruka*, славен. *roka*, серб.-харв. *ру́ка*, макед. *рака*, балг. *ръкá*. Прасл. **rǫka* і.-е. адпаведнікі: літ. *rankà* 'рука', лат. *rùoka*, ст.-прус. *rancko* 'рука', а таксама літ. *riñkti* 'збіраць; набіраць; выбіраць', *paranka* 'збор, збіранне' (параўн. грэч. паралель ἀγοστός 'далонь, кісць рукі, рука' і ἀγείρω 'збіраць') сведчаць пра тое, што на і.-е. узроўні **uronkā (*wronkā)* мела першапачатковае значэнне 'тое, чым збіраюць, зграбаюць, хапаюць' < і.-е. **u̯er*- 'браць, хапаць' (Фасмер, 3, 515; Чарных, 2, 127; Глухак, 534; ESJSt, 13, 781; Рэйзак, 549,). Выказаныя раней меркаванні пра магчымае запазычанне з балтыйскіх моў у праславянскую (Развадоўскі, RS, 5, 35; Бернштэйн, Фонетика, 91–92) з-за адсутнасці ў апошняй зыходнага дзеяслова не прымаюцца большасцю даследчыкаў, гл. Анікін, Опыт, 18 (з літ-рай); Жураўлёў, Язык и миф, 580.



**Рукавáць** 'мяшок у выглядзе клінка для прыгатавання сыру' (Сл. Брэс.). Гл. *рукаяць, рукаятка*.

**Рукавíцы** 'адзенне на кісці рук' (ТСБМ, Сл. ПЗБ), *руковíца, руковíцы* 'тс' (ТС). Рус., укр. *рукави́ца*, польск. *rękavica*, н.-луж. і в.-луж. *rukajca*, чэш. *rukavice*, славац. *rukavica*, славен. *rokavica*, серб.-харв. *рукȁвица*, балг. *ръкави́ца*. Прасл. **rǫkavica* 'рукавіца' < **rǫkavъ* 'рукаў' (гл. *рукаў*).

**Рукадзéлле** 'шыццё, вязанне і падобныя віды ручной працы', 'рэч, выкананая шыццём, вязаннем і пад.' (ТСБМ, Сл. ПЗБ), ст.-бел. *рукодѣлье* 'справа рук' (Альтбаўэр), сюды ж *рукадзéльнічаць* 'займацца рукадзеллем', *рукадзéльніца* 'жанчына, якая займаецца рукадзеллем, майстар гэтай справы' (ТСБМ). Складаны назоўнік ад *рука* (гл.) і **дзелаць* 'рабіць' < прасл. **dělati* 'рабіць; працаваць; дзейнічаць; абчосваць'.

**Рукапáшны** 'які ажыццяўляецца без зброі або халоднай зброяй (пра бой, сутычку)', *рукапáшная* 'бой, сутычка без прымянення зброі або з халоднай зброяй' (ТСБМ), *рукопáшны* 'ручной работы, самаробны', *рукóпаш* 'уручную' (ТС). Ц.-слав. і стараж.-рус. *рукопашь*. Ад **rǫka* (гл. *рука*) і **paxati* (гл. *пахаць*) (Фасмер, 3, 220, 515).

**Рýкапіс** 'тэкст, напісаны ад рукі або на друкавальнай машынцы', 'рукапісны помнік старажытнай пісьменнасці' (ТСБМ). Складаны назоўнік ад *рука* (гл.) і *пісаць* (гл.).

**Рукáты** 'рукасты' (ТСБМ), 'здольны, майстэрскі' (ТС), 'умелы' (Сл. ПЗБ). Ад. *рука* (гл.).

**Рука́ў** 'частка адзення, якая пакрывае руку', 'адгалінаванне ад галоўнага вусця ракі', 'труба ці кішка для адводу вадкасцей, газаў, сыпучых целаў' (ТСБМ), 'частка адзення' (Сл. ПЗБ, ТС), *рукаво́* 'рукаў' (ТСБМ, Сл. ПЗБ), сюды ж *рука́ўніна* 'вузкае самаробнае палатно для рукавоў сарочак' (гродз., Нар. сл.), *рукоўя́нка* 'камбінаваная сарочка' (ТС), *рука́ўчык* 'невялікая торбачка', *руковéц* 'нарукаўнік' (там жа). Укр. *рука́в*, рус. *рука́в*, польск. *rękaw*, н.-луж. і в.-луж. *rukaw*, чэш. і славац. *rukáv*, славен. *rokáv*, серб.-харв. *ру̀ка̑в*, балг. *ръка́в*. Вытворныя ад *рука* (гл.), Фасмер, 3, 515.

**Рука́ўка** 'рукавіца' (Касп.), *руко́ўка* 'тс' (Сл. ПЗБ). Параўн. польск. гіст. *rękawka* 'магіла – капец з пяску, што прыносяць у рукавах' (Віл. сл.). Гл. *рука*.

**Рука́цца** 'вітацца, паціскаючы адзін аднаму руку' (ТСБМ), *руча́цца* 'вітацца за руку' (Касп.). Ад *рука* (гл.).

**Рукая́тка** 'частка прылады, за якую трымаюцца пры карыстанні', 'частка машыны, прыбора, за якую бяруцца рукою для перамяшчэння, павароту і пад.', *рукая́ць* 'рукаятка' (ТСБМ); *рукавя́тка* 'тс' (Касп.), *рукавя́тка, рукава́тка* 'кассё', *рукавя́тка, рукава́дка, рукая́тка* 'ручайка' (Сл. ПЗБ), *рукая́тка* 'ручка ў маталіве', 'жменя лёну' (міёр., Ск. нар. мовы), *рукъвя́тка* 'ручайка' (круп., Нар. сл.). Укр. *рукоя́тка, рукі́в'я*, рус. *рукоя́ть*, дыял. *рукоя́тка*, польск. *rękojeść*, чэш. *rukojeť* (і *rukověť* 'кіраўніцтва'), славац. *rukoväť* 'рукаятка' і 'кіраўніцтва', славен. *rokovet* 'пучок, жменя', серб.-харв. *ру̏ковēт* 'тс', балг. *ръкова́дка* 'тс', макед. *раковатка* 'тс', ст.-слав. **рѫкоѣть, рѫковѣть** 'жменя, ахапак'. Прасл. *rǫkojětь, *rǫkovětь 'тое, што ахопіць рука' – складаныя словы з *rǫkou̯ (дэрыват ад *rǫka, гл. *рука*) і *jęti 'браць' (параўн. стараж.-рус. *яти* 'браць', гл. *яць, няць*). Падрабязней гл. ESJSt, 13, 781 (з літ-рай); Фасмер, 3, 515.

**Рукза́к** 'заплечны рэчавы мяшок' (ТСБМ). З ням. *Rucksack* (з альпійскіх дыялектаў), якое ад ням. *Rücken* 'спіна' і *Sack* 'мяшок' (Рэйзак, 550).

**Руко́паш** 'уручную', *руко́пашны* 'ручной работы, самаробны' (ТС). Гл. *рукапашны*.



**Рукць**, *ру́каць* 'драсён, Polygonum L.' (Сл. ПЗБ), *рука́ць* 'трава цвінтарэй' (Сцяшк. Сл.). З літ. *rū̃gtis* 'тс' (Сл. ПЗБ).

**Руле́т** 'кумпяк, з якога вынята костка і якому нададзена форма каўбасы', 'ежа з сечанага мяса ці бульбы з якой-небудзь начынкай, запечаная ў выглядзе прадаўгаватага кавалка, звычайна акруглай формы', 'пірог з цеста, згорнутага ў некалькі слаёў з салодкай начынкай' (ТСБМ). Рус., укр. *руле́т*, балг. *руле́т, ру́ло, рулад*. З заходнееўрапейскіх моў, крыніца распаўсюджання – франц. *roulette* 'колца; ролік; рулетка' < *rouler* 'каціць; катаць; скочваць'. Чаму ў пералічаных славянскіх мовах значэнне 'рулет' атрымала франц. *roulette* 'кольца', а не *roulade* 'рулет' (> ням. *Roulade* 'рулет') – невядома, магчыма, таму, што скрылёк рулета нагадвае кола (Чарных, 2, 127).

**Руле́тка** 'вузкая стужка (пераважна стальная) з дзяленнямі, якая накручваецца на валік', 'прыстасаванне для азартнай гульні' (ТСБМ). З франц. *roulette* 'колца'< *roul* 'кола' праз рус. *руле́тка*, у Расію слова трапіла ў XIX ст. (Фасмер, 3, 518).

**Руле́я** 'ліра (музычны інструмент)' (ТС). Магчыма, з *ліра* (гл.) у выніку метатэзы плаўных пад уплывам літ. *rylà* 'шарманка'.

**Рулі́**$_1$ 'страва, прыгатаваная з накрышанага хлеба ў малако ці падсоленую (з алеем) або падсалоджаную ваду' (ТСБМ, Нас., ТС, Сл. ПЗБ; парыц., Янк. Мат.; докш., Янук.); *ру́лі* 'малако з пакрышаным хлебам, булкай (дзяціная ежа)' (мядз., Нар. словатв.; петрык., Яшк. Мясц.). Паводле Краўчука (пісьм. павед.), праз польск. *lura* 'дрэнны напой' шляхам метатэзы плаўных з с.-в.-ням. *lūre*, ням. *Lauer*, што з лац. *lōra* 'віно, разрэджанае вадой' (Брукнер, 304; Махэк$_2$, 342). Гл. таксама Анікін, Опыт, 269 (адводзіцца параўнанне з смал. *жу́ли* 'талакно, разбоўтанае ў вадзе').

**Рулі́**$_2$ адз. л. *руль* 'бульба, якая зімуе на полі', 'цвёрдыя кавалкі бульбы ў кашы' (Сл. ПЗБ), 'бліны, аладкі, спечаныя з *рулёў*' (докш., Янк. Мат.). Няясна, магчыма, да папярэдняга слова. Параўн. таксама *рульба* (гл.).

**Руло́н** 'скручаная ў трубку папера, тканіна, цэлафан і пад.' (ТСБМ). З франц. *rouleau* 'звітак, трубка' праз рус. *рулон* 'тс'.

**Руль**$_1$ 'прыстасаванне для кіравання рухам' (ТСБМ). Праз рус. *руль* 'тс' з нідэрл. *roër* [rur] 'руль'. У выніку міжскладовай дысіміляцыі плаўных *р>л* у рускай мове, як у рус. *февраль* 'люты' < *феврарь* < лац. *februārius* 'тс' (Чарных, 2, 127). Не выключаны таксама ўплыў польск. *rudel* 'стырно' (з нова-в.-ням. *Ruder*,

гл. Нававейскі, Zapożyczenia, 143, 261), дзе, асабліва ва ўскосных склонах, спалучэнне *-dl-* магло быць заменена беларускім *л'*.

**Руль₂** 'крывулька, кіёчак з сучком, на які вешаюць пасудзіну над агнём' (ТС). Няясна. Магчыма, звязана з наступным словам.

**Ру́льба**, *ру́льбіна* 'тоўстая трэска', сюды ж *рульбава́ць* 'шчапаць, рэзацьб на кавалкі' (Сл. ПЗБ). Аўтары слоўніка выводзяць з літ. *liùrba* 'тоўстая трэска' (вынік метатэзы плаўных).

**Ру́ля** 'дула' (ТСБМ, Ласт., Стан., Шымк. Собр.), *ру́лька* 'тс' (ТС). Відаць, з *ру́ра* 'труба' (гл.), параўн. ст.-бел. *рура, рула, руля* 'труба' з ст.-польск. *rura*, што ў сваю чаргу з с.-в.-ням. *roere, rōre*, с.-ням. *rūre* 'тс' (Булыка, Запазыч., 289; Лекс. запаз., 93; Нававейскі, Zapożyczenia, 261). Сюды ж *ру́ля* 'трубка вытканага палатна' (чэрв., Гіл.), 'труба (вадаправодная і інш.)' (ашм., Стан.).

**Рум₁** выкл. 'шасць, шух, бах': *госьці рум на двор* (ЭШ), *агледзеліся паны да рум назад* (Сержп. Казкі). Укр. *рум* 'тс', польск. *rum* 'шасць, скрып, бух'. Гукапераймальнага паходжання (Брукнер, 468; Смаль-Стоцкі, Приміт., 97). Сюды ж таксама *ру́мнуць* 'нечакана зайсці, ускочыць' (ТС), польск. *rumać* 'грукаць, стукацца ў дзверы', каш. *rumac* 'моцна кашляць', якое Борысь (SEK, 4, 219) параўноўвае з блізкім па значэнні і фанетыцы ням. *rummeln* 'шумець, крычаць, ляскатаць'. Гл. таксама *румзаць*, *румза*. Мяркулава (Этим. иссл., 6, 24–25) адносіць сюды і рус. *ру́ма* 'непрытомнасць', стараж.-рус. *рюма* 'эпілепсія', узводзіць апошнія да прасл. **ruti*, **r'uti* 'рухацца' + суфікс **ma*, паступлюючы для ўкр. *рум* 'шасць, шух' першаснае значэнне руху.

**Рум₂** 'месца на беразе ракі, куды звозяць бярвенне для сплаву і дзе вяжуць плыты' (ТСБМ, Касп., Шат., Сержп. Казкі, ТС), *рум, ром* 'тс' і 'штабель бярвенняў, дроў', 'вялікая па плошчы прастора' (Сл. ПЗБ), *рюм* 'месца на беразе ракі, куды звозяць сплаўны лес' (віц., Нар. сл.). Ст.-бел. *румъ* 'руіны', 'вольнае месца', 'месца пагрузкі', што з ст.-польск. *rum* 'вольнае месца', 'вольны праход, дарога', якое ўзыходзіць да с.-в.-ням. *rūm*, сучаснае ням. *Raum* 'прастора', гл. Булыка, Лекс. запазыч., 189; БЛ, 29, 45–46; SEK, 4, 218.

**Рум₃** 'уся будоўля' (Сцяшк. Сл.), 'агульная страха жылога будынка і гаспадарчых пабудоў', 'зруб' (Сл. ПЗБ), ст.-бел. *румъ* 'будаўнічы матэрыял', 'вольнае месца'. Параўн. польск. дыял. *rum* 'вялікі пакой у жылым памяшканні', в.-луж. *rum* 'прастора, абшар', 'пакой', што выводзяцца з ням. дыял. *rūm* 'прастора', 'частка будынка, абмежаваная сценамі, пакой', н.-ням. *Rūm*, *Rüm* 'прастора', 'памяшканне', параўн. Борысь, SEK, 4, 218. Гл. *рум₂*.



**Рум₄** 'сена з першага ўкосу' (хойн., Арх. ГУ). Няясна.

**Рум₅** 'ром': "Подмовивши да красную девку, румом напоили" (гом., Рам. 1, 135). Гл. *ром*.

**Ру́мза** 'плакса', *ру́мзаць* 'перарывіста і надакучліва плакаць' (ТСБМ); *ру́мзы* 'вочы заплаканыя', *румзы распускаць* 'плакаць беспрычынна' (мсцісл., Юрч. Сін.), *ру́мза, рю́мза* 'плакса' (Бяльк.), *ру́мало* 'тс' (ТС), *ру́маць* 'румзаць' (ТС). Параўн. таксама *рю́мать* 'плакаць, хныкаць' (Растарг.), укр. *рю́мати* 'няўцешна плакаць'. Гл. *рум₁*; нарашчэнне *-з-* (*-с-*) характарызуе інтэнсіўнасць дзеяння.

**Румя́нак** 'адзін з відаў рамонку, які выкарыстоўваецца як лекі; лекавы настой на кветках гэтага рамонку' (Сл. ПЗБ, Сл. рэг. лекс., Касп.), *румя́нок* 'рамонак' (ТС), *румя́нок, руме́нок* 'тс' (Сл. Брэс.). Польск. *rumianek* 'рамонак, рамон, расліна Matricaria chamomilla', параўн. таксама чэш. *rmen*, *rmenek*, *heřmánek*, славац. *rumanček*, *harmanček*, славен. *rmân*. У ст.-польск. з XV ст. *rumienek/rumionek* і *rumien/rumion/romien* 'тс', 'пупок, Anthemis', у XVI ст. *rumienek*. У польскую мову запазычана з чэшскай са зменамі пад уплывам прыметніка *rumiany* (Борысь, 527). Гл. *рамонак*.

**Румя́нец** 'ружовы ці ярка-чырвоны колер твару', 'ружовая ці ярка-чырвоная афарбоўка неба пры ўзыходзе сонца' (ТСБМ). Да *румяны* (гл.).

**Румя́нка** 'роўная, без пад'ёмаў і спускаў дарога' (беласт., Ніва, 1980, 9 сакав.). Параўн. польск. дыял. *rum* 'праход, вольны шлях'. Гл. *рум₂*.

**Румя́ны₁** 'з румянцам на твары', 'ярка-чырвоны, ружовы', 'чырванаваты, з залаціста-карычневым адценнем (пра выпечку)' (ТСБМ, Ласт., Сл. ПЗБ), *рум'я́ны* 'румяны, чырвоны' (ТС), ст.-бел. *румянъ* 'тс' (Альтбаўэр). Укр. *рум'я́ний* 'румяны', рус. *румя́ный* 'тс', польск. *rumiany* 'тс', чэш. *ruměný* 'тс', славен. *rumèn* 'жоўты, чырвоны', серб.-харв. *ру̀мен* 'чырвоны', балг. *ру́мен* 'тс', макед. *румен* 'тс', ст.-слав. роумѣнъ. Прасл. **ruměnъ* < **rudměnъ* < **ruda*, **rudъ*, **rudъjь* (гл. *руда, руды*). Індаеўрапейскія адпаведнікі – літ. *raumũ*, род. *-eñs*, він. адз. л. *raũmenį* 'мышца', лат. *raũmins* 'вэнджаныя мышачныя часткі' (Фасмер, 3, 517; ESJSt, 13, 783 з літ-рай).

**Румя́ны**$_2$ ‘ружовая ці чырвоная касметычная фарба для твару’ (ТСБМ). З рус. _румяна_ ‘тс’.

**Руна** ст.-бел. ‘валасяное покрыва ў чалавека’: _были ч(и)сты руна ее_ (Альтбаўэр), параўн. балг. дыял. _ру́на, ру́ни_ ‘густыя кучаравыя валасы на целе чалавека’. Роднаснае да _руно_$_1$ (гл.), параўн. ст.-інд. _róman-, lóman_ ‘валасяное покрыва на целе’, што дае падставы для рэканструкцыі і.-е. _*roumn-_ > прасл. _*roumno_ (Мікала, Ursl. Gr., 1, 66; Фасмер, 3, 518; Махэк$_2$, 519; Бязлай, 3, 208; БЕР, 6, 345).

**Ру́нда** ст.-бел. ‘дазор, каравул’ (Ст.-бел. лексікон). З ням. _Runde_ ‘кола, круг; абход’, відаць, праз польскую, параўн. Фасмер, 3, 517.

**Рунду́к** ‘невялікая крамка на рынку’, ‘куфар для прыпасаў’ (Бяльк.), ‘куфар’, ‘турбіна’ (Касп.). Параўн. укр. _рунду́к_ ‘ганак, прылавак’, рус. _рунду́к_ ‘узвышэнне’, ‘прылавак з скрынкамі’. З цюрк. _orunduk_ ‘падушка, сядзенне’, тат. _urunduk_ ‘сядзенне’ (Фасмер, 3, 517).

**Руне́ць** ‘узыходзячы, зелянець (звычайна пра азімыя пасевы)’ (ТСБМ), ‘цвісці (пра дрэва)’ (ст.-дар., Нар. сл.), _руні́цца_ ‘усходзіць, зелянець’ (ТС). Адсубстантыўны дзеяслоў ад _рунь_ (гл.). Сюды ж, відаць, _руно́_ ‘хвароба жывёлы’, параўн.: “калі вясной рунела елка і сасна, дабытак западаў на асаблівую хваробу, “руно”, ад якой не было ратунку” (беласт., Ніва, 1975, 19 кастр.).

**Рункавіско** ‘ручка ў рыдлёўцы’ (Сл. рэг. лекс.). Мясцовае ўтварэнне на базе польск. _ręka_ ‘рука’ і суфікса _-іск-о_, магчыма, да польск. _rękojeść_ ‘рукаятка’.

**Ру́нклі** ‘кармавыя буракі’ (Сцяшк. Сл., Сл. ПЗБ). Паводле Грынавяцкене (LKK, 30, 116), з літ. _ruñkeliai_ ‘тс’; для рус. прыбалт. _ру́нкаль, ру́нкуль_ ‘бурак’, што з ням. _Runkel_ ‘тс’, мяркуецца пасрэдніцтва лат. _ruñkulis_, _runkuls_ ‘тс’, гл. Лаўчутэ, Балтызмы, 129; Анікін, Опыт, 269.

**Руно́**$_1$ ‘шэрсць авечкі’ (ТСБМ), ‘воўна з адной авечкі’ (Бяльк., Сл. ПЗБ, Сл. Брэс., ТС), ‘воўна з ягнят і маладых авечак’ (малар., Сл. Брэс.), ‘неразабраная воўна з авечкі’, ‘пух у качкі’ (ТС), _ру́на_ ‘шэрсць’ (Касп.), ‘воўна з адной авечкі’, ‘скрутак воўны’ (Сл. ПЗБ, Нас.), ст.-бел. _руно_ ‘адзінка колькасці воўны’ (Ст.-бел. лексікон). Укр. _ру́но_, рус. _руно́_, польск. _runo_, чэш. _rouno_, славац. _rúno_, славен. _rúno_, серб.-харв. _ру̏но_, балг. _ру́но_, макед. _руно_, ст.-слав. **роуно**. Прасл. _*runo_ [<_*roṷ-no_] ‘воўна на целе авечкі; скура



авечкі з воўнай’ – вытворнае з суфіксам _-no_ ад таго ж кораня, што і _рваць_ < прасл. _*rъvati_ з карнявым вакалізмам, як у літ. _ráuti_ ‘рваць, вырываць, скубці’, лат. _raût_ ‘вырываць, дзерці’. Прасл. _*runo_ першасна – ‘тое, што вырвана, выскубана’ > ‘воўна, выскубаная з авечкі’, бо калісьці воўну бралі, выскубаючы яе з авечкі. Параўн. лац. _vellus_ ‘авечая воўна’ ад _vellō_ ‘рву, вырываю, скубу’ (Борысь, 527–528; Міклашыч, 284; ESJSt, 13, 783; Глухак, 534).

**Руно́**$_2$ ‘густая рунь’ (ТС), _ру́на_ (_ру́но_) ‘пушыстая зелень на засеяным полі’ (Нас.), укр. _ру́но_ ‘усходы’, рус. _руно́_ ‘пучок хмелю з карэннямі’. Гл. _рунь_.

**Ру́нуцца** ‘упасці (ад знямогі)’ (Мат. Маг.), польск. _runąć_ ‘упасці, грымнуцца’, рус. _руни́ть_ ‘хутка рабіць, есці’, серб. _ру̏нути_ ‘моцна ўдарыць’, славен. _rúniti_ ‘піхнуць, стукнуць’. Апошняе Бязлай (3, 207) выводзіць з прасл. _*ruti_ ‘піхаць, стукаць’, параўноўваючы з літ. _ráuti_ ‘вырываць, шчыпаць’, лат. _raût_ ‘тс’. Паводле Брукнера (468), да _*ruхъ_ (гл. _рух_), параўн. _рухнуць_ ‘упасці’ (гл.). Скок (3, 172) атаясамлівае з _rúniti_ (_se_) ‘лушчыць, крышыць, зрываць (кветкі, лісты)’. Няясна.

**Ру́ны** ‘старажытныя пісьмёны, якімі карысталіся пераважна скандынавы і якія захаваліся ў надпісах на камянях і інш. прадметах’ (ТСБМ). Ад ст.-герм. _*rūnō_ ‘таямніца’, ‘шаптаць’, сучаснае ням. _raunen_ ‘нашэптваць’, ст.-ісл. _ryna_ ‘чараваць’.

**Рунь** ‘усходы, пасевы азімых культур’ (ТСБМ), рус. _рунь_ ‘усходы азімых восенню’, харв. _run_ ‘пасевы’ (_njiva pod runom_), польск. _ruń_ ‘рунь, усходы, збожжа’, якія лічацца другаснымі ад _*runo_ (гл. _руно_$_2$). Параўн. пераноснае значэнне польскага _runo_ ‘сукупнасць невялікіх кустоў, траў, зёлак, што пакрываюць глебу ў лесе’. (Борысь, 527–528; Скок, 3, 171). Іншыя версіі: сувязь з польск. _runąć_ ‘упасці, грымнуцца’ (Фасмер, 3, 518), гл. _ру́нуцца_; Мартынаў (Бел. лекс., 101) выводзіць з _*rudnь_ у супастаўленні з літ. _ruduõ_ ‘восень’.

**Ру́пар** ‘труба канічнай формы, якая служыць для ўзмацнення гуку’, ‘рэпрадуктар у выглядзе такой трубы’ (ТСБМ). Укр., рус., балг. _ру́пор_ ‘тс’, у іншых мовах адсутнічае. Праз рускую, у якой з XVIII ст., з нідэрл. _rouper_ (вымаўляецца [rúper]) < _rapen_ ‘крычаць клікаць’ (Чарных, 2, 128).

**Ру́піцца** 'старацца, клапаціцца, турбавацца пра каго-небудзь', 'хацецца' (ТСБМ), *ру́піць* 'трывожыць, выклікаць неспакой', 'цягнуць, прыцягваць' (дзярж., Нар. сл.), 'турбаваць неадвязна' (мсцісл., Юрч. Сін.). Укр. *ру́пити* 'быць жаданым', рус. дыял. *ру́па* 'туга па радзіме', *ру́пить* 'цягнуць, хацецца', 'трывожыць', польск. *rupić się* 'старацца', кашуб. *rupic* 'цягнуць, спакушаць, вабіць; мецць апетыт', чэш. *rupati*, *rupěti* 'хрумсцець, шчоўкаць', балг. дыял. *рупа́я* 'патрабаваць сілай, мучыць, турбаваць' Прынята лічыць роднасным да літ. *rūpė'ti* 'трывожыць', лат. *rūpêt* 'засмучаць', літ. *raupýti* 'тс', 'рыць', англ.-сакс. *réofan* 'ламаць, рваць', ст.-інд. *rōpayati* 'адчуваць ламоту' (Фасмер, 3, 519). Паводле іншага меркавання, чэшскія *rupati*, *rupěti* стаяць асобна, а ўсходнеславянскія словы з'яўляюцца балтызмамі, параўн. літ. *rūpė'ti* 'трывожыць, заклапочваць', *rūpinti* 'клапаціць', гл. спецыяльна Анікін, Опыт, 270–271 з літ-рай; аднак балгарскія факты (гл. БЕР, 347) сведчаць хутчэй пра генетычную сувязь. Борысь (SEK, 4, 221) следам за Слаўскім (SP, 1, 81) рэканструюе прасл. **rupiti* 'грызці, кусаць, гнясці'.

**Ру́ра** 'труба' (Цых.), *ру́рка* 'цыліндрычная трубка' (Нас.), 'трубка, люлька' (Сцяшк.). Запазычана з польск. *rura*, *rurka*, што адпавядаюць сучаснаму нямецкаму *Rohr* або *Röhre* 'труба' (Брукнер, 469). Сюды ж *руцэ́нті* 'разнавіднасць абцугоў': *руцэнтамі можна трупку закруціць* (нясвіж., Нар. словатв.).

**Ру́савы дзед** 'дух жытняга поля' (гродз. Цых.). Звязана з чэш. *rousy* 'доўгія ўскудлачаныя валасы', балг. *ру́си* 'валасы', славен. *rûse* 'вусы', *Rusa* 'міфічная істота', серб.-харв. *beli Rus* 'метэаралагічны дэман', харв. *rus̏ina* 'коцікі (на бярозе, вярбе); махры' з няясным, паводле Скока (3, 130) *и*, у аснове якіх прасл. **rus-* са значэннем 'бухматы, махровы', што адлюстроўвае прадуктыўную магію (Цыхун, БЛ, 57, 120–122). Махэк$_2$ (519), Бязлай (Eseji, 152) далучаюць сюды славац. *obrus*, чэш. *ubrus*, славен. *obrus*, *ubrũs*, серб.-харв. *у̏брус*, балг. дыял. *убру́с*, укр. *убру́с*, бел. *абру́с* 'настольнік, рушнік з махрамі' якія лічаць вытворнымі ад **rusati* 'рабіць махры на палатне'. Магчыма, звязана з палес. *руса́ўка* 'жанчына з непрыбранымі валасамі', гл. наступнае слова.



**Руса́лка$_1$** 'міфалагічны вобраз усходнеславянскіх народаў у выглядзе жанчыны з доўгімі распушчанымі валасамі, якая жыве ў вадзе або жыце' (ТСБМ), 'жанчына, што ходзіць з непрыбранымі валасамі', *руса́ўка* 'тс' (ТС). Укр. *руса́лка* (і *ма́вка*), рус. *руса́лка*, польск. *rusalka*, чэш., славац. *rusalka*, славен. *rusalka* (і *vila*), серб.-харв. *ру̏са̄лка* (і *вила*), балг. *руса́лка* (і *ви́ла*, *самоди́ва*). Этымалогія цьмяная ў сувязі з налажэннем розных паняццяў і семантычнымі зменамі. Першаснай формай трэба прызнаць *руса́ўка* і значэнне 'жанчына, што ходзіць з непрыбранымі валасамі', якія суадносяцца з *ру́савы дзед* (гл.). Форма *руса́лка* другасная, узнікла пры дапамозе субстантывуючага суфікса *-ка* ад *руса́льны* (дзень, тыдзень), параўн.: *Русалка – дэнь такый* (драг., Талстая, Полес., 214), прыметніка, утворанага ад *русаллі* (гл.). У далейшым назва міфалагізавалася і была перанесена на паганскія персанажы, што сімвалізавалі ахоўную функцыю (*Той русаўкой пужалі дзецей, шчоб не ходзілі по жыці*, ТС, 4, 336). Гл. Цыхун, БЛ, 57, 120.

**Руса́лка$_2$** 'страказа' (гом., Арх. ГУ), параўн. балг. *руса́лка* 'матылёк падзёнка, Ephemera vulgata'. Перанос назвы *русалка$_1$* на насякомых, звязаных з вадой, па знешняму выгляду ("бухматасць") і перыяду з'яўлення, блізкім да свята Тройцы. Мяркуецца, што яны сімвалізавалі душы памерлых продкаў, гл. Пічхадзэ, Новое в рус. этим., 201.

**Руса́ллі** 'у старажытных славян – вясеннія язычніцкія святкаванні, звязаныя з культам продкаў' (ТСБМ); *руса́льны* 'які мае адносіны да русалляў', *руса́льны ты́ждзень (ты́здзень)* 'першы тыдзень пасля сёмухі, калі спраўлялі русальныя абрады' (ТС), *руса́льніца* 'тыдзень пасля сёмухі' (Ласт.). Стараж.-рус. *по ржасалиях(ъ)* М. скл. мн. л. 'свята Тройцы' (XI ст.), укр. *руса́ля* 'Тройца', балг. *Руса́ля*, *Руса́лска неделя* 'нядзеля пасля Спасу', серб.-харв. дыял. *ру̏са̄ље* 'тройца', славен. *risâle* 'тс', чэш. *rusadla* 'вясеннія язычніцкія святкаванні', славац. *rusadlá* 'тс', ст.-слав. **роусалиꙗ** 'тс'. Слова, вядомае з XI ст. як назва паганскага свята ўваскрэслай прыроды і памінання нябожчыкаў. З лац. *rosālia* < *rosaria* (*dies rosae* 'дні ружы' ад лац. *rosa* 'ружа') – назвы вясновага свята ружаў, падчас якога прыносілі ружы на магілы. Параўн. іт. *pasqua rosata* 'пяцідзесятніца'. Кантамінацыяй з рус. *русло* тлумачылі *о* > *у* і змену ў семантыцы, калі русалка з лясной і палявой істоты ператварылася ў вадзяную, што няпэўна, хутчэй

гэта ўплыў народных слоў, што ўзыходзяць да **rus-*, гл. *русавы дзед*. Гл. таксама Фасмер, 3, 520; Махэк$_2$, 525; БЕР, 6, 349–351; Чарных, 2, 128; Пічхадзэ, Новое в рус. этим., 200–201; ESJSt, 13, 783–784; Жураўлёў, Язык и миф, 499.

**Русіны** 'назва ўкраінцаў заходнеўкраінскіх зямель, найбольш распаўсюджаная ў час іх знаходжання пад аўстра-венгерскім гнётам' (ТСБМ). Укр. *ру́син*, рус. *руси́н*, польск. *rusin*. Вытворнае ад *Русь* (гл. *рускі*) (Фасмер, 3, 520; Дулічэнка, Язык культуры, 439–453).

**Ру́скі** 'які мае адносіны да Русі, Расіі', 'які мае адносіны да рускіх' (ТСБМ), старое 'у Беларусі хрысціянін усходняга абраду', 'украінец' (Стан.), *рускій, руській* 'рускі' (Бяльк.), ст.-бел. *руськии* (1440 г.), *рускии* 'тс' (Карскі, 1, 199), сюды ж *ру́скі ме́сяц* 'пра нешта вельмі доўгае ў часе' (ТС), *ру́ськый мі́сяць, ру́ськый рык* 'цэлы, біты, добры месяц, год' (Клім.), *ру́скі по́яс (rúski pojis)* 'вузкая і доўгая тканіна' (Варл.). Прыметнік вядомы ўсім славянскім мовам у сучасным значэнні, параўн. аднак польск. *ruski* 'усходнеславянскі', ст.-слав. **рѹсьскъ** (у адносінах да князя Святаполка, гл. ESJSt, 13, 784). Часцей за ўсё звязваюць са ст.-фін. азначэннем германскага племені **Rōtsi* 'варагі, шведы, што нападалі на фінскія землі', сучаснае фін. *Ruotsi* 'Швецыя', што ідэнтыфікуецца з першай часткай ст.-ісл. *róþsmenn* або *róþskarlar* 'грабцы, мараходы'. Ст.-ісл. *Rróþsmenn* або *Róþskarlar* у сваю чаргу паходзяць са швед. *Roslagen* – назвы ўзбярэжжа Упланда. У якасці аналагічных выпадкаў перанясення назвы заваёўнікаў на заваяванае насельніцтва прыводзяцца франкі (Францыя), нарманы (Нармандыя), навагрэкі (Ῥωμαῖοι) лангабарды (Ламбардыя), балгары (Фасмер, 3, 522; з разглядам версій – ESJSt, 13, 784–785; Трубачоў, Слав. языкозн., XII, 23). Значэнне 'надта доўгі', параўн. і польск. *ruski miesiąc*, магчыма адлюстроўвае разыходжанні і ў сістэме мер Вялікага княства Літоўскага, параўн. Скурат., Меры, 34.

**Русло́** 'вясло' (Сл. рэг. лекс.). Магчыма, з таго ж праславянскага **ruslo*, што і ўкр. *русло́* 'рэчышча', руск. *ру́сло* 'тс'. Прасл. **rus-* з і.-е. **reu-s- (*rou-s-)*, дзе корань **reu-(*rou-)* мае значэнне 'разрываць, рыць'. Параўн. літ. *raũsti* 'рыць', лат. **raust* 'рыць, зграбаць'. Такім чынам, **ruslo* магло значыць 'тое, чым разрываюць, рыюць', 'струмень, які вырыў рэчышча'. Калі рус. *ру́сло*



'рэчышча' з *рух, рушыць* (гл.), то слова можна патлумачыць як назву прылады руху, параўн. Фасмер, 3, 521; Чарных, 2, 128.

**Русува́ць** 'зглаваць, шалець, лаяцца' (Бяльк.). Няясна.

**Ру́сы** 'светла-карычневы з шэраватым ці жаўтаватым адценнем (пра валасы)' (ТСБМ). Укр. *ру́сий* 'русы', рус. *ру́сый* 'тс', польск. *rusy*, чэш. *rusý* 'светлавалосы, цялеснага колеру', славац. *rusý* 'тс', славен. *rûs* 'чырвоны, жоўты', серб.-харв. *ру̏с* 'тс', балг., макед. *рус* 'светлавалосы'. З прасл. **rusъ*, **rudsъ*, роднаснага да *руда, руды, рыжы* (гл.). Індаеўрапейскія паралелі – літ. *raũsvas* 'чырванаваты', *rùsvas* 'цёмна-карычневы', *rusė́ti* 'тлець', *ruslės* 'прысак', лат. *rusls* 'карычневы', *rûsa* 'іржа', лац. *russus* 'чырвоны, рыжы' і інш. (Фасмер, 3, 521–522; Бязлай, 3, 208; ESJSt, 13, 781).

**Русьня́** 'сноп ільну' (бешанк., Нар. сл.). Гл. *руцня́*.

**Русьць**, *рюсьсць* 'раўці, плакаць' (Бяльк.), *рюсть* 'голасна плакаць' (Растарг.), *рюсь* 'тс' (віц., Мат.), параўн. укр. гуц. *рю́сти* 'рычаць, крычаць ад болю', стараж.-рус. *рюти* 'раўці', славен. *rjúti*, чэш. *řúti*, польск. *rzuć* 'тс', ст.-слав. **рютн**. Першаснае прасл. **r'uti*, **rovǫ* яшчэ ў праславянскую эпоху трансфармавалася ў **reuti*, **revǫ*, гл. *раўці* (Сной$_2$, 625; ESJSt, 13, 771, 785 з літ-рай). Гл. таксама Карскі, 1, 182; 2–3, 58 (звяртае ўвагу на паралельныя формы *раве́ць, раўсці, раўці, рюсь* у беларускай мове).

**Ру́та** 'від шматгадовых травяністых раслін і паўкустоў сямейства рутавых з жоўтымі кветкамі і лісцямі, у якіх змяшчаецца эфірнае масла' (ТСБМ), 'рута, Ruta graveolens L.' (Кіс., Стан.), 'нешта вельмі зялёнае (у параўнанні)' (ТС), 'пакаёвая расліна, вазон' (маладз., Янк. Мат.), *ру́та, ру́та-мя́та* 'травяністая расліна' (Кос., Растарг.). Укр. і рус. *ру́та*. Праз польск. *ruta* з с.-в.-ням. *rûte* 'рута' < лац. *ruta* 'нейкая горкая трава' (Фасмер, 3, 523).

**Рутаўё** 'доўгі чаранок у прыладах (лапаце, вілах і інш.)' (мсцісл., З нар. сл.), 'ручка мятлы' (ЭШ). Гл. *ратаўё*.

**Ру́твіца** 'род адна- і шматгадовых травяністых раслін і паўкустоў сямейства матылькoвых' (ТСБМ), 'расліна Lotus L.' (Кіс.). Ад *рута* (гл.).

**Рух** 'перамяшчэнне', перан. 'грамадская дзейнасць, масавыя выступленні', 'рост, развіццё', 'перамяшчэнне, рухавасць', 'шум'

(Сл. ПЗБ), 'перамяшчэнне, рухавасць' (ТС), 'перамяшчэнне', 'трывога' (Нас.). Борысь (Борысь, 526) тлумачыць прасл. дыял. **ruxъ* 'рух' як назву дзеяння ад вытворнага прасл. **rusti* 'рыць, капаць, пераварочваць (напрыклад, зямлю)' < **rušiti* 'надаваць рух, піхаць, штурхаць, пераварочваць, звальваць' (гл. *рушыцца, рушыць*). Паводле Фасмера (3, 524), наадварот – дзеяслоў рус. *рýшить* вывадзіцца ад *рух*.

**Рýхаць**₁ 'перамяшчаць', 'прыводзіць у рух, прымушаць дзейнічаць', 'кранаць' (ТСБМ). Параўн. укр. *рýхати* 'перамяшчаць', польск. *ruchać* 'тс', славен. *rúhati* 'перамяшчаць, трасці'. Прасл. **ruxati*, суадноснае з **rušiti*, гл. *рушыць*. Той жа праславянскі корань, што і ў *рух* (гл.). Сюды ж *рухáвы* 'хуткі, жывы', *рухлівы* 'тс'.

**Рýхаць**₂ 'рохкаць' (Сл. ПЗБ), *рýхкаць* 'тс' (ТС), *рю́хать* 'тс' (Растарг.). Гукапераймальнае.

**Рухля́вы** 'рухавы' (саліг., Нар. словатв.; Сл. Брэс.), *рухля́вый* 'рухавы' (Сл. Брэс.). Магчыма, кантамінацыя *рухавы* і *рухлівы*, гл. *рухаць*.

**Рýхнуць**₁ 'абваліцца, упасці пад дзеяннем уласнага цяжару'; перан. 'перастаць існаваць, знікнуць' (ТСБМ). Рус. *рýхнуть*, польск. *runąć* 'упасці, зваліцца, распасціся; раптоўна рушыць з месца, рынуцца', ст.-польск. 'грукнуць, загрымець, зарыкаць, зараўці', ст.-чэш. *runúti* 'упасці, зваліцца', балг. *рýхна* 'упасці з шумам, разваліцца'. З прасл. **ruxnǫti* < **ruxati*, **rušiti* 'прымушаць рухацца, надаваць рух, піхаць, штурхаць, варушыць, перакульваць, звальваць' (Борысь, 527), гл. *рушыць*.

**Рýхнуць**₂ 'сказаць невыразна і зняважліва' (мсцісл., Юрч. Сін.). Магчыма, ад *рух* (гл.), параўн. *бýхнуць* 'сказаць нечакана і неабдумана', *брáзнуць* 'сказаць неасцярожна' (Юрч. Сін., 189–190), аднак, больш верагодна з *рухаць₂* (гл.).

**Рýхнуць**₃ 'кінуцца': *рухнулі свіньня* (саліг., Нар. словатв.), 'крануць, зрушыць', 'хутка пайсці, рынуцца', *рухнýць* 'тс' (ТС); *рухнýцца* 'рушыцца, кранууцца' (там жа). Да *рухнуць₁* (гл.). Версія пра сувязь не з *рухаць*, *рушыць*, а з гукапераймальным *рухаць* (*рюхаць*) 'падаваць гукі (пра свіней)' (гл. *рухаць₂*, *рохаць*) (Нар. словатв., 112) непераканаўчая.

**Рýхнуць**₄ 'прапасці (пра зімовую дарогу)' (круп., Нар. сл.; ТС), *рухнýць* 'тс' (ТС). Канкрэтызацыя значэння 'перастаць існаваць, знікнуць' слова *рухнуць₁* (гл.).



**Рухо** ст.-бел. 'вопратка' (Ст.-бел. лексікон). Стараж.-рус. *рухо* 'скарб, манаткі', рус. *рýхо* 'адзенне', польск. *rucho* 'тс', кашуб. *rëxë* 'старое адзенне', чэш. *roucho* 'святочнае адзенне, строй', славац. *rúcho* 'тс', серб.-харв. *рȗхо* 'вопратка', славен. *rúho* 'палатно, прасціна', балг. *рýхо* 'адзенне, вопратка', макед. *рувo* 'тс'. Прасл. **ruxo* 'рухомая маёмасць, у прыватнасці, адзенне', утворана ад **rušiti* (гл. *рушыцца, рухаць*), звязана таксама з **rъvati* (гл. *рваць*), гл. Брукнер, 467; Фасмер, 3, 524; Скок, 3, 167; Шустар-Шэўц, 2, 1254; SEK, 4, 190. Сюды ж *рухамоцце*, *рухмаццё* 'рухомая маёмасць, манаткі', *рухматló* 'тс' (Ласт.).

**Рухóмы** 'здольны рухацца; які можна перамяшчаць' (ТСБМ, Нас.), *рухóмый* 'тс' (Бяльк.), *рухóму* 'жвавы, дзелавы' (ТС), сюды ж *рухóмасць* 'уласцівасць і стан рухомага', 'рухомая маёмасць' (ТСБМ). Польск. *ruchomy* 'які можа рухацца; перамяшчальны'. Прасл. **ruxomъ* – дзеепрыметнік залежнага стану цяперашняга часу ад незахаванага прасл. **rusti* 'рыць, капаць, пераварочваць (зямлю)', 'перамяшчаць' (гл. *рушыць*), утвораны як *вядомы* ад *ведаць* (Борысь, 526; Фурлан, Бязлай, 3, 205).

**Руціна** 'боязь змен, застой, кансерватыўнасць, адсутнасць пачуцця новага' (ТСБМ). З заходнееўрапейскіх моў, крыніцай для якіх было франц. *routine* 'спрыт; уменне; руціна; коснасць' < *route* 'дарога, шлях, напрамак, наезджаны шлях' (Чарных, 2, 128–129).

**Руцня́** 'жменя вытрапанай і ачышчанай пянькі', *рýцня* 'жменя ільнянога валакна' (Сл. ПЗБ), *руцэ́нька* 'жменя ачышчанага і вычасанага лёну' (Нас.). Да *рука* (гл.), параўн. *рýчка* 'мера вытрапанага лёну ў адну жменю' (Сцяшк. Сл.), відаць, пад уплывам цокання.

**Руцьмя́ны** 'рутавы, упрыгожаны рутай' (Кліх.; маладз., Гіл.), *руцьвя́ны* 'тс' (Стан.). Ад *рýта* (гл.) з рэдкім суфіксам *-мян-*, паводле Карскага (2–3, 43).

**Руч** (*ручь*) 'выгода', 'парука', сюды ж *рукá* 'выгода, зручнасць': *тобе рука тыды ѣхаць* (Нас.), 'у самы раз, спадручна' (ТС). Прыслоўнае ўтварэнне ад *рука* (гл.) па тыпу *аберуч* 'дзвюма рукамі', *насустрач* і пад. (гл. Карскі, 2–3, 71).

**Ручáй** 'невялікі вадзяны паток' (ТСБМ, ТС), *ручáй*, *ручэ́й* 'тс' (Нас., Сл. ПЗБ, Бяльк.). Сюды ж *ручаіна* 'невялікі ручай' (ТСБМ), ст.-бел. *ручавина* 'невялікі ручай, раўчук' (Ст.-бел. лексікон). Укр. *ручáй* 'ручай', рус. *ручéй* 'тс', польск. *ruczaj* 'тс', чэш. паэтычнае *ručej* 'горная ручаіна, ручай' (пры звычайным *potok*

‘ручай’), славац. *ručej*, *ručaj* ‘ручай’, в.-луж. *ručej* ‘тс’, балг. *ру́чей* ‘тс’. Стараж.-рус. *ручаи* (Аповесць мінулых гадоў), *ручии*, *ручьи* > *ручей* (Сразн., 3, 199–200). Прасл. **ručajь* < **rukējь*, дзе *-ēj(ь)* – суфікс (як у **lišajь*, **obyčajь* і інш.) і той жа корань, што ў прасл. **rykati*/**ryčati* ‘рыкаць’. Параўн. славен. *rukati* (пра аленя) ‘раўці ў час цечкі’; славац. *ručat'* ‘мычаць’, в.-луж. *ryčeć* ‘рыкаць’ (Чарных, 2, 129) і асабліва балг. *руча́* ‘бурчаць, булькатаць’, *ру́квам* ‘раптоўна пацячы’ < прасл. **ruk-* (гл. БЕР, 6, 341, 357; Фасмер, 3, 524).

**Руча́йка** ‘верацяно з наматанымі на яго ніткамі’; ‘жменя лёну (валакна)’ (ТСБМ), *ручэ́йка* ‘пачынак, пража на адно верацяно’ (бялын., Нар. сл.; лаг., Гіл.), ‘скрутак ачышчанага валакна’ (маладз., Янк. Мат.). Магчыма, з першаснага значэння ‘жменя’, ‘рука’ развіліся астатнія. Да *рука* (гл.), параўн. балг. *ръко́йка* ‘жменя калоссяў, якую можна захапіць адной рукой’.

**Руча́йнік**, *руча́сьцік* ‘збан з двума дзяржаннямі’ (Касп.). Да *рука* (гл.).

**Ручанцы́** ‘дванаццаць дзён пасля з'яўлення на свет (пра маладняк свойскай жывёлы)’ (Юрч. Фраз.). Гл. *рачанцы*.

**Ручаны́** ‘апоры для драбін у возе’ (Сл. рэг. лекс.). Да *ручка*, *рука*.

**Руча́цца**$_1$ ‘запэўніваць, гарантаваць, прымаць на сябе адказнасць’ (ТСБМ, Ласт., Некр. і Байк.), *руча́ць* ‘запэўніваць у чым-небудзь, як бы даючы руку ў знак вернасці’ (Нас., Бяльк.), параўн. народны выраз гарантыі або праўдзівасці: *даю руку на адсячэнне*. Да *рука* (гл.), параўн. *даручы́ць*, *заручы́цца* і іншыя вытворныя, літаральна ‘падаючы руку, пацвердзіць праўдзівасць (дамову, заданне і пад.)’, гл. Шустар-Шэўц, 2, 1251; Бязлай, 3, 189. Паводле іншай версіі (параўн. Глухак, 532), для паўднёваславянскага арэала рэканструюецца прасл. дыял. **ručati*, запазычанае з прагерманскага **rōkjan* ‘забяспечыць, даставіць’ (> ст.-в.-ням. *ruohhjan*, *ruochen* ‘тс’), што на фоне шматлікіх фактаў, якія тлумачаць першую версію, падаецца малаверагодным.

**Руча́цца**$_2$ ‘вітацца за руку’ (Касп. Віц.). Гл. *рукацца*.

**Ручво́** ‘самае глыбокае цячэнне ракі’ (Ластоўскі, Выбр. тв., 421), ‘вадацёк па ўпадзіне, жолабу’ (Ласт.). Таго ж паходжання, што і *ручай* (гл.). Магчыма, штучна створаны адпаведнік для называння фарватару, параўн. *ручво́* ‘кассё’: *узяў яе* [касу] *на плячо ручвом* (Воранаў, Полымя, 1971, 5, 120).



**Ру́чка**$_1$ памянш.-ласк. ‘рука’, ‘дзяржанне’, ‘пісьмовая прылада’ (ТСБМ), сюды ж *ру́чку звяза́ць* ‘павянчаць, абручыць’ (брасл., Нар. сл.), *ру́чкі* ‘драбіны ў возе’ (міёр., Нар. сл.; Маслен.), *ру́чыца* ‘ручка, дзяржанне’ (ТС). Усё з метанімічным пераносам да *рука* (гл.).

**Ру́чка**$_2$ ‘ручайка’ (Сл. Брэс.). Да *рука*, гл.

**Ручні́к** ‘вузкі прадаўгаваты кавалак тканіны, спецыяльна прызначаны для выцірання твару, рук, цела ці посуду’ (ТСБМ), *рушнік* ‘тс’ (ТС, Касп.), ‘ручнік для ўпрыгожвання хаты’ (капыл., саліг., клец., слуц., З нар. сл.). Уласнае ўтварэнне ад *ручны* ‘для рук’ або з польск. *ręcznik* ‘ручнік’. Гл. *рука*.

**Ручні́ца** ‘памінкі па нябожчыку праз год пасля смерці’ (Сл. рэг. лекс.). З польск. *rocznica* ‘гадавіна’.

**Ру́чно** ‘з рук у рукі, асабіста’ (драгіч., З нар. сл.), ‘уручную’ (ТС). Гл. *рука*.

**Ру́чы** ‘дарослы, працаздольны, які можа на сябе зарабіць’, ‘моцны, спрытны чалавек’ (бялын., Янк. Мат.), укр. *ру́чий* ‘спрытны, лоўкі’, польск. *rączy* ‘хуткі, жвавы; пільны’, чэш. *ručí* ‘хуткі’, славац. *rúči* ‘здольны, спрытны’, славен. *róčen* ‘хуткі, спрытны’. Прасл. **ročьjь*, роднаснае ст.-інд. *ṛ́jyati*, *ṛñjati* ‘напружвацца, спяшацца’, грэч. *αργός* ‘хуткі (пра сабаку)’. Адносяць да **roka* (Праабражэнскі, 2, 228; Махэк$_2$, 522), або пастулюецца народнаэтымалагічная сувязь з назоўнікам (Бязлай, 3, 189). Параўн. *рука́ты* (гл.); Брукнер (455), Шустар-Шэўц (2, 1249) звязваюць з **ručьjь*, гл. *ручай*.

**Ручы́цца** ‘весціся; добра гадавацца, пладзіцца’; (звычайна з адмоўем) ‘удавацца, шанцаваць; надарацца’ (ТСБМ), *ручы́ць* ‘ідзе ў руку, шанцуе (у жывёлагадоўлі)’ (маладз., Янк. Мат.). Да *рука* (гл.), параўн. папярэдняе слова.

**Ручэ́йнік** ‘маленькі чарвячок, які будуе вакол сябе домік-трубачку’ (Сл. рэг. лекс.). Звычайна адносяць да *ручай*, *ручэй* (гл.). Аднак не выключана сувязь з *ручэйка*, *ручайка* (гл.), паколькі можа асацыявацца з навітай на верацяно ніткай.

**Руш** ‘палоска лёгкай тканіны, сабранай у зборкі, для абшыўкі чаго-небудзь’ (ТСБМ). Праз рускае *рюш* ‘тс’ або непасрэдна з ням. *Rüsche* ‘фальбона на сукенцы’ < франц. *ruche*. (Фасмер, 3, 534).

**Руша́ць** ‘зварочваць з поўні, пачынаць змяншацца (пра месяц)’, рушыць ‘звярнуць з поўні, пачаць змяншацца (пра месяц)’ (ТС), ‘чапаць, рушыць’ (Касп.). Гл. *рушыцца*.

**Рушні́ца** ‘стрэльба’ (Гарэц., Мат. Гом., ТС), ‘вінтоўка, ружжо’ (Сл. Брэс.). Запазычана праз польск. *rusznica* ‘тс’ з чэшскай, дзе значыла ‘ручная агнястрэльная зброя’ (Брукнер, 469).

**Ру́шыцца** ‘скрануцца з месца, пачаць рух’, ‘накіравацца’, ‘абвальвацца’, ‘разбурацца’ (ТСБМ), ‘пачаць рух’, *рушыць* (ТСБМ), *рушэнне* ‘паход’ (Гарэц. 1). Укр. *ру́шити*, *руша́ти* ‘рухаць, варушыць’, рус. *ру́шить* ‘разбураць’, польск. *ruszyć* ‘рушыць, крануцца’, н.-луж. *rušowaś* ‘бушаваць, шумець’, чэш. *rušiti* ‘турбаваць (каго-небудзь), парушаць (цішыню)’, славац. *rušit’* ‘крануцца, рушыць’, славен. *rúšiti* ‘трэсці, калаціць, зносіць’, серб.-харв. *ру̏шити* ‘разбураць’, балг. *ру́ша* ‘тс’, ст.-слав. **роушити** ‘тс’. Звязваюць з *рух* (гл.) і ў якасці індаеўрапейскіх адпаведнікаў прыводзяць літ. *raũsti, rausiù, rausiaũ* ‘рыць, капацца’, лат. *ràust, -šu, -su* ‘разграбаць, месці’, літ. *rausis* ‘пячора’, *rū̃ys, rūsas* ‘пограб’, ст.-ісл. *rúst* ‘руіны, разбураная сцяна’ і інш. (Фасмер, 3, 525). Борысь (528) узводзіць да **rušiti* [< **ruchi-* <**rou̯s-ī-*] ‘надаваць рух, папіхаць, рушыць, парушаць’, вытворнае ад незахаванага прасл. **rusti* ‘рыць, капаць, пераварочваць, парушаць (напрыклад, зямлю)’.

**Руя́** ‘зграя (ваўкоў, сабак) у перыяд цечкі; гайня’ (ТСБМ). Польск. *ruja* ‘час цечкі ў аленяў’ разглядаецца Брукнерам (468) разам з лат. *raunas laikas* ‘час марцавання ў катоў’ – утварэнне ад кораня *ru-*, прадстаўленага ў польск. *rukać* – пра падобны крык свіней, чэш. *ruchati*, рус. *хрю́кать* ‘рохкаць’ і, верагодна, у бел. *ро́хкаць*. Але параўн. балг. дыял. *ру́йва, ру́йне* ‘праступіць, пацячы, хлынуць’, рус. *струя́* ‘струмень’. Тут і.-е. **rou-/*reu-* (з пашырэннем *-k-*, адсюль жа прасл. **ruk-* у балг. *ру́квам* ‘пацячы раптоўна і моцна, хлынуць (пра вадкасць); шугануць (пра агонь)’; з чаргаваннем галоснага ў корані гл. таксама *рой, рака*. Перанос з ‘цечка’ на ‘зграя ў час цечкі’, параўн. балг. *рой* і рус. *рой* (БЕР, 6, 340–341).

**Ры́ба**$_1$ ‘рыба’ (ТСБМ; Бяльк.; Сцяшк. МГ), *ры́біна* ‘рыбіна’ (ТСБМ; брасл., в.-дзв., Сл. ПЗБ). Укр. *ри́ба*, рус. *ры́ба*, польск. *ryba*, палаб. *roibó*, н.-луж. *ryba*, в.-луж. *ryba*, чэш. *ryba*, славац. *ryba*, славен. *riba*, серб., харв. *ри̑ба*, макед. *риба*, балг. *ри́ба*. Наконт паходжання слова аднадушнага меркавання няма. Мікала (Ursl. Gr., 1, 124; РФВ, 48, 279) супастаўляе з ням. *Aalraupe* (радзей *Raubaal*) ‘налім; рыба з сямейства вугроў; рыба са змеепадобным целам’, дзе *Aal* ‘вугор’, а *-raupe* < *ruppo* (ст.-в.-ням. *rūppa, rūpa* ‘налім’). Ваян (RES, 9, 123 і наст.) звязвае прасл. **ryba* і **ryti* з і.-е. коранем **reu-/*rou-/*rŭ-* і суфіксам *-(ъ)b-a* (як **strělьba*) і першасным значэннем ‘спосаб лоўлі рыбы шляхам узрывання дна’, але гэтая спроба крытыкуецца. Паводле Тапарова (ЭИРЯ, 1, 5–10), звязана з *рабы́* ‘стракаты’. Агляд іншых версій і літ-ры гл. ESJSt, 13, 786; Жураўлёў, Язык и миф, 457–458.



**Ры́ба**$_2$ ‘нявроўнасці на палатне касы пры няўмелым кляпанні’ (Сл. Брэс.). Можа, да **ryti* з суфіксам *-(ъ)b-a*?

**Ры́ба**$_3$, *у ры́бу* ‘гульня хлопчыкаў’ (гродз., Нар. словатв.). Да *рыба*$_1$ з прычыны таго, што гульня імітуе лоўлю рыбы.

**Рыба́к**$_1$ ‘рыбалоў’ (ТСБМ; шальч., пух., Сл. ПЗБ; Сцяшк., ТС), ‘рачная чайка’ (ТС), руск. дыял. *рыбак* ‘тс’. Ад *ры́ба* (гл.)

**Рыба́к**$_2$ ‘рабак’ (астрав., Сл. ПЗБ), ‘дажджавы чарвяк’ (кар., Шат.), ‘гліст’ (ПСл). Ад *раба́к* (народнаэтымалагічнае асэнсаванне).

**Рыба́ліць** ‘рыбачыць’ (Ян.; рэч., Нар. сл.). Ад *рыба́лка* (гл.), прычым *л* быў успрыняты як каранёвы зычны.

**Рыба́лка**$_1$ ‘рыбная лоўля’ (ТСБМ). Ад *ры́ба* (гл.)

**Рыба́лка**$_2$ ‘рыбак’ (Нас., Ян., Бяльк.; гом., Нар. словатв.; КЭС), ‘чайка’ (хойн.), ‘крачка балотная’ (Байк. і Некр.). Ад *рыба́лка*$_1$ (гл.). Перанос назвы працэсу на ўтваральніка дзеяння.

**Рыбало́ў** ‘крычка малая’ (Інстр.). Вынік сцяжэння слоў *ры́ба* (гл.) і *лаві́ць* (гл.)

**Рыбачо́к** ‘светлячок’ (вор., Шат.). Ад *рабачо́к* < *раба́к* (гл.) са сцяжэннем ненаціскной галоснай.

**Рыбе́ль** ‘маленькая рыбка’ (Ян.). Ад *ры́ба* (гл.) як *макрэ́ль, фарэ́ль*.

**Рыбе́ц** ‘прамысловая рыба сямейства карпавых, Abramis vimba’ (ТСБМ, Інстр. 2, 57), рус. *рыбе́ц*, укр. *рибе́ць, рибе́ц*, польск. *rybiec*, балг. *рибе́ц*. Прасл. **rybec* (Усачова, Этимология, 1978, 92).

**Рыбі́тва** ‘чайка’ (брасл., Сл. ПЗБ). З польск. *rybitwa* ‘тс’.

**Ры́бка** ‘вытачка ў адзенні’ (Сцяшк. Сл.). Ад *ры́бка* (памяншальнае ад *ры́ба* (гл.). Метафарычны перанос па знешнім падабенстве.

**Рыбоі́д** ‘вадзяны жук’ (Сл. Брэс.). Фанетычны варыянт слова *рыбаед*. Назва ўзнікла ў выніку народных уяўленняў аб тым, што жук харчуецца рыбай.

8 Зак. 2628

**Рывáлка** 'сяброўка' (Сцяшк. Сл.). З польск. *rywałka* 'супер-ніца'. Змена семантыкі на супрацьлеглую можна, магчыма, рас-тлумачыць экспрэсіўнасцю слова.

**Рыга** 'князь, 'начальнік', 'ваявода' (Гарб.), ст.-руск. *рига* 'кароль'. З грэч. ῥῆγας 'кароль' ад лац. *rex*, *regis* 'тс' (Фасмер, 3, 481).

**Рыгавáнка** 'гафрыраваная спадніца' (Сцяшк. Сл.). Верагод-ней за ўсё, лексема ўзнікла на беларускай дыялектнай глебе пад уплывам польск. *ryga* 'трафарэт', 'лінія, рад', *rygować* 'прышы-ваць падкладку, вату', якія разам з чэш. *rýha* 'жалабок, выемка, бараздка', *rýhovati* 'рабіць жалабкі, бараздкі' лічацца запазы-чаннямі са ст.-в.-ням. *rihe* 'рад', 'лінія', 'рыска', ням. *Reihe* 'рад', 'шарэнга' (Махэк₂, 526). Балг. *риги* 'рыскі', 'лініі на тканіне' і серб.-харв. *рига* 'лінія' запазычаны з іт. *riga* 'лінія, рад' (БЕР, 6, 248; Скок, 3, 124).

**Рыгавáння**, *рэгавáнне, рыгóўка* 'матэрыял, якім пакрываецца вата пры пашыве ватняга адзення' (іўеў., валож., шальч., астрав., Сл. ПЗБ), *рыгавáне* 'вацін' (Сцяшк. Сл.). Звязана з польск. *ryga* 'лінія', 'рад', *rygować* 'прышываць падкладку, вату', якія з'яў-ляюцца запазычаннямі са ст.-в.-ням. *rihe* 'рад', 'лінія', 'рыска', ням. *Reihe* 'рад', 'шарэнга'.

**Ры́галь** 'падваліна пад падлогай' (бяроз., Нар. сл.). Няясна. Верагодней за ўсё гэта запазычанне з ням. *Riegel* 'засаўка, запор, замок', як і некаторыя іншыя будаўнічыя тэрміны.

**Рыгáць**, *рыгаці* 'ванітаваць' (ТСБМ; астрав., чэрв., шчуч., шальч., гродз., Сл. ПЗБ), 'адрыгацца пасля яды' (Нас.), *ры́гі* 'ваніты' (шчуч., Сл. ПЗБ), *рыгнýць душóю* 'памерці' (Гарэц.) рус. дыял. *рыгáть* 'рыгаць', 'ванітаваць', 'плакаць', укр. *ригáти*, польск. *rzygać* 'ванітаваць, рыгаць', *ryhać* 'рыгаць', 'кашляць', в.-луж. *rihać* 'адрыгвацца', н.-луж. *rygaś* 'адрыгвацца', чэш. *říhati* 'ванітаваць', славен. *rígati* 'ванітаваць, рыгаць', *rîga* 'адрыгван-не', 'частка выступаючай зямлі', серб.-харв. *ри̏гати* 'рыгаць', *ри̏гавица* 'ікота', 'адрыжка', балг. *ри́гам*, макед. *рига* 'рыгаць', ст.-слав. **рыгати сѧ**. Прасл. **rygati:*rigati* 'рыгаць, адрыгваць' (Копечны, 313). Да і.-е. **rug*, з іншай ступенню вакалізму **reu-g* 'рваць', 'цягнуць', параўн. грэч. ἐρυγή побач з ἐρεύγομαι 'плюю', 'рыгаю' у той час, як у балтыйскай групе побач з літ. *rúgti* 'кіснуць', 'адрыгваць кіслым', лат. *rûgt* 'брадзіць', ёсць і перага-ласоўка перфекта, параўн. літ. *ráugeti* 'кіснуць', лат. *raûgtiês* 'ры-



гаць' (Фасмер, 3, 526 з літ-рай; Скок, 3, 140; БЕР, 6, 248; Ани-кин, Этимология–1982, 75–77; Куркіна, ОЛА, Исследов. 278–280).

**Ры́гаць** 'плакаць наўзрыд' (Нас., Бяльк., Гарэц., Юрч.), 'ры-пець, скрыпець', 'мурлыкаць' (ТС), 'адрыгвацца' (Гарэц.), 'скры-пець' (Юрч.), *ры́гнуць* 'скрыпнуць, рыпнуць' (ТС), *ры́ганне* 'плач наўзрыд; крывадушная прысяга' (Нас.), 'скрып, рыданне' (Юрч.). Гукапераймальнае слова. Семантычны настатвор на аснове *рыгáць* (гл.), параўн. рус. *рыгáть* 'плакаць'. Але ў гэтым выпадку застаец-ца незразумелым перанос націску. Магчыма, такім чынам размя-жоўваецца семантыка.

**Рыгвá** 'дрыгва' (чэрв., ЛА, 2), *рыга, рыгвá* 'горла, рачныя рукавы, на якія рака падзяляецца пры ўліванні ў вусце' (Ласт.). Утворана ад *дрыгвá* (гл.) у выніку адпадзення пачатковага зыч-нага, як *дрыжвá* ад *дрыжáць*, *брахвá* ад *брахáць* (Пра словаўтва-ральную мадэль гл. Сцяцко, Афікс. наз., 34, 85). З іншага боку, не выключана магчымасць утварэння ад *рыгáць* (гл.), параўн. *рыгвó* 'горла'.

**Рыгвó** 'горла' (Сл. Гродз.). Утворана ад *рыгáць* (гл.), як *лятвó* 'лятак' ад *лятáць*, *мыцьвó* 'бялізна' ад *мыць* (Пра словаўтвараль-ную мадэль гл. Сцяцко, Афікс. наз., 34).

**Ры́гер** 'кроква' (бяроз., Нар. сл). Няясна, магчыма, праз польск. *ryg* звязана з ням. *Riegel* 'засаўка'.

**Ры́гель** 'жалезная засаўка' (В. В. 116), ст.-бел. *рыгель* 'засаўка' (1653). З ням. *Riegel* 'засаўка', магчыма, праз польскую, параўн. польск. *rygiel* 'тс'.

**Ры́глі** 'вілы для гною' (Сл. Брэс.). Ад *ры́длі* (гл.).

**Рыдáць** 'голасна, сутаргава плакаць' (ТСБМ), ст.-бел. *ры-дати, рыдание*, рус. *рыдáть*, укр. *ридáти*, чэш. *rydati*, славац. *rydat'*, серб.-харв. *ри̏дати*, 'стагнаць', балг. *ридáя*, ст.-слав. **рыдати**. Чаргаваннем галосных звязана са ст.-чэш. *ruditi* 'засмучаць, азмрочваць', в.-луж. *wurudzić, zrudzić* 'пакрыўдзіць', *zrudny* 'сум-ны', н.-луж. *zrużiś* 'засмучаць, азмрочваць'. Прасл. **rydati* 'стаг-наць', 'крычаць', 'плакаць', 'лямантаваць', корань **ryd* (ад **ruditi*, дзе *u>y*). Корань **ry-* знаходзім у **rykati* (>бел. *ры́каць*). Далей звязана з прасл. **revati* (>бел. *раўсці*). Ва ўсіх трох выпадках гаворка ідзе аб і.-е. гукапераймальным корані **reu:*ru*, які па-шыраны фармантам *-d-* у **rydati*, у іншых выпадках *-qo-* (**rykati*), або без фармантаў у **rjuti, *ruti* (Покарны, 1, 867; Махэк₂, 526;

Скок, 3, 138; БЕР, 6, 251; Чарных, 2, 130). Роднаснае да літ. *raudà* 'плач, аплакванне', *raudóti* 'плакаць, наракаць', лат. *raũda* 'стогы, плач', *raûdât* 'плакаць' (Фасмер, 3, 526-527 з літ-рай). Прасл. **rydati* 'плакаць' не трэба блытаць з аманімічным **rytati* 'чырванець', які ўзыходзіць да і.-е. **reudh-* 'чырвоны' (Горячева, Этимология 1971, 206–207).

**Ры́даць** 'пра пачатак дзеяння': *авёс тут і ня рыдаў расьці* (Шат.). Ужываецца толькі з адмоўем. Можна супастаўляць са славац. дыял. *rydat' sa*, серб.-харв. *ridati* 'рухаць', 'цягнуць, падымаць', балг. *ри́да се* 'разблытвацца, распаўзацца' і лічыць працягам прасл. **ridati* 'рухацца', роднаснага да лат. *raidît* 'гнаць', *raiditiês* 'варушыцца', ням. *reiten* 'ездзіць верхам', герм. **ridan* (і.-е. **reidh: *ridh* 'рухацца') (Махэк₁,430; БЕР, 6, 250–251). Сюды ж можна дадаць яшчэ і славац. 'рухацца, непакоіцца'. Сюды, ж, магчыма, адносіцца і серб.-харв. *rìdati* 'рухаць, цягнуць, падсоўваць', *ridati se* 'рухацца'. Скок лічыць слова няясным (Скок, 2, 138). Фіксуецца балгарскі прыметнік *риди́й*: *рида вода, поройна вода* 'бурная, ліўневая вада'. Падаецца магчымым мяркаваць сувязь гэтага прыметніка з прасл. **ridati* 'рухацца'. Аднак балг. *риди́й* указвае на зыходнае і.-е. **erei-, reiə, ri* 'цячы', параўн. прасл. **izroj*; ст.-слав. **вырин҄ѫти, рин҄ѫтисѧ**. Гэта супярэчнасць магла б быць ліквідавана, калі прыняць пад увагу пункт гледжання Вальдэ, які лічыў, што і.-е. **reidh* 'ехаць', 'буць у руху' з'яўляецца, магчыма, расшырэннем і.-е. **erei-, *eroi*, параўн. польск. *rzewnić* 'рабіць рухомым', якое ўзыходзіць да гэтай і.-е. праформы (Покарны, 1, 330–331; Горячева, Этимология–1986–1987, 157).

**Рыдва́н** 'вялікая дарожная карэта' (ТСБМ), 'дужы чалавек' (Сцяц., Сцяшк. Сл.), *ридва́нъ, ридва́нчикъ* 'адкрытая лёгкая каляска' (Нас.), ст.-бел. *рыдванъ* 'крыты воз' (1582), рус. дыял. *рыдва́н* 'воз для снапоў', 'калымага', укр. *ридва́н*. Слова прыйшло праз польскую мову, параўн. польск. *rydwan* 'карэта', 'воз, валёсы', з с.-в.-ням. *reitwagen* , нова-в.-ням. *Reitwagen* 'калёсы, воз' (Булыка, Запаз., 290; Фасмер, 3, 527; Брукнер, 471).

**Ры́дзель**, *рыдзіль, рыдзяль* 'драўляная лапата, акутая металам' (слонім, віл., шуміл., брасл., докш., Сл. ПЗБ; вілейск., маладз., шчуч., ЛА, 2), 'здаровы, крэпкі чалавек' (віл., брасл., Сл. ПЗБ), *ры́даль, ры́дзель* 'рыдлёўка' (Сцяшк.; маладз., Янк. Мат.; Цых., ТС; маст., ЛА 2; Выг.), '*ры́дель, ры́дэль* 'рыдлёўка' (Сл. Брэс.; бяроз., кобр., ЛА 2), *рыдзе́ль* рыдлёўка (акц.), *ры́длі* 'рыдлёўка' (ашм., ЛА 2), ст.-бел. *рыдель: рыдель купили до резаня дерну* (1685), *рыдль* 'жалезная лапата' (1507). Запазычана са ст-польск. *rydl, rydel* 'лапата' (Булыка, Запаз., 290), якое ў сваю чаргу лічыцца ўтварэннем ад *рыць* (польск. *ryć*) 'капаць' (Брукнер, 471). Што да значэння 'здаровы, крэпкі чалавек', то тут адбылася метафарызацыя на аснове пераносу назвы прадмета на чалавека паводле пэўнай унутранай уласцівасці.



**Ры́дка** 'мурашка' (калінк.). Няясна. Магчыма, ад *рыць* (гл.), паколькі мурашкі капошацца, "рыюцца" ў зямлі, або, калі прыняць, што ў аснову намінацыі быў пакладзены колер, ад *руды>*рыды>рыдка.*

**Рыдлёўка**, *рыдля́ўка* 'лапата' (ТСБМ, ТС, Сцяшк.; смарг., лід., маст., вільн., нараўл., шчуч., дзятл., Сл. ПЗБ; Бяльк., Сцяц.), 'заступ' (Гарэц.), *рыдлёўнік* 'дзяржанне ў лапаце' (паст., Сл. ПЗБ), *ры́для* 'рыдлёўка' (Сл. Гродз.). Сюды ж *рыллёўка* 'лапата' (чэрв., Сл. ПЗБ). Ад *рыць, ры́ла* (гл.).

**Ры́длі** 'вілы з двума рагамі для гною' (Сл. Гродз.). Да папярэдняга слова.

**Ры́для** 'драўляны каркас (дыяганальна перакрыжаваныя бярвенні) у цаглянай сцяне' (брэсц., Нар. сл.). Гэта лексема этымалагічна звязваецца з ням. *Riegelbau* 'фахверк', якой даўней, у XV–XVII стст., на Беларусі называлі "прускі мур" (Лучыц-Федарэц, Бел. лінг., 17, 65–66).

**Рыдлява́ць** 'счышчаць бруд з паверхні чаго-небудзь' (глыб., Сл. ПЗБ), *рыдлава́ць* 'капаць зямлю рыдлёўкай' (Сл. Гродз.). Да *рыдлёўка* (гл.).

**Рыдня**, *рыдзіонка* 'хата' (Дмитриев, 241), *рэдня́, рыдня́* 'тс' (Доўн.-Зап., Пін., 23, 191), *рыделька* 'тс' (Дэмб.), *рыдзелька* (свянц., лепел.), *рыдзелка* (арш.), *грэдзенька* (віц.), *рыдля* (Шн.). Нікольскі сцвярджае, гэта месца жыцця святых, суадносячы лексему з дзеясловам *рыць*, ад якога і паходзіць *ры́для* 'будыніна, ніжнія вянкі якой знаходзяцца ў зямлі'. Разам з тым ён дапускае, што *рыдля* – 'гумно', у якім ток выраўноўваецца рыдлёўкай. Апошняе здаецца непраўдападобным. Хутчэй за ўсё тут маецца семантычны перанос: 'жыллё' – 'гаспадарчы будынак'. Але гэту лексему не трэба атаясамліваць з брэсц. *рыдля* 'драўляны

каркас у цаглянай сцяне' (гл.). Бел. *рыдня* нельга аддзяліць ад віц. *грыдня* 'дом, хата', 'гумно, дзе складалі збожжа', ці ад *грыня*, у якім *-дн-* перайшло ў *-нн-*, а апошняе ў *-н-*. Калі ўлічыць, што пачатковае *г-* у бел гаворках магло перад зычнымі знікаць, можна сцвярджаць, што ўсе вышэй пададзеныя варыянты ўзыходзяць да ст.-бел. *гридня* 'прыбудова да княжацкага палаца, дзе знаходзілася варта або слугі', 'зала для гасцей', 'турма', якое з'яўляецца працягам стараж.-рус. *гридня* 'памяшканне для целаахоўнікаў'. Апошняе паходзіць ад *гридь* 'грыдзь' < ст.-сканд. *gridi* 'целаахоўнік' (Фасмер,1,458; Лучыц-Федарэц, БЛ, 17, 65–66).

**Рыдыкю́ль** 'ручная жаночая сумачка' (ТСБМ). У беларускую трапіла праз польскую або рускую з фр. *ridicule*, ням. *Ridikül*, у якія прыйшло з лац. *reticulum*.

**Рыдэлак** 'металічная прылада для акучвання бульбы' (Інстр. 1, 40). Памяншальнае ад *ры́дзель* (гл.).

**Рыжа́** 'іржа' (Сцяшк. Сл., Сцяц., Жд. 3), 'рудая вада на балоце' (зэльв., ЛА 2). Ад *іржа́* (гл.) у выніку метатэзы, параўн. славац. *rzavka* 'іржавая вада на балоце'.

**Рыжава́ньe** 'бадзяга, травяністая расліна' (ПСл). Ад *ры́жы* (гл.) па колеры расліны.

**Рыжаві́ца** 'назва хваробы па колеры хворага месца' (Нар. Гом.). Ад *ры́жы* (гл.).

**Рыжак** 'падобная на лён расліна' (Кіс.), *рыжу́ха* (беласт., Сл. ПЗБ), *лён рыжы* (Кіс.). Ад *ры́жы* (гл.) па колеры расліны.

**Ры́жанка** 'бручка' (БДА, 859). Ад *ры́жы* (гл.) па колеры карняплода.

**Рыжа́ць** 'іржаць' (Сцяшк.). Ад *іржа́ць* (гл.) у выніку метатэзы.

**Рыжмé́ль** 'рыжы чалавек' (Янк. Мат.). Ад *ры́жы* (гл.) з дапамогай экспрэсіўнага суфікса *-мель*, як *глушмéль* 'глухі', *брухмéль* 'пузаты' (Сцяцко, Афікс. наз., 116).

**Рыжо́віна** 'праслойка мяса ў сале' (ст.-дар., Сл. ПЗБ). Ад *ры́жы* (гл.)

**Рыжо́та** 'рыжавалосы' (Сл. ПЗБ). Ад *ры́жы* (гл.) з дапамогай суф. *-ота*, як *брыдо́та, дурно́та, басо́та, мяко́та* (Сцяцко, Афікс. наз., 120–121).

**Рыжо́ўка**$_1$ 'гатунак бульбы з ружовым колерам скуркі' (пух., З Нар. Сл.). Ад *ры́жы* (гл.) з дапамогай суф. *-оўк-а* як *красо́ўка* ад *кра́сны*, *сінёўка* ад *сі́ні* (Сцяцко, Афікс. наз., 121).



**Рыжо́ўка**$_2$, *ра́жаўка* рыбалоўная сетка (жытк., маз., Мат. Гом.). Да *рэ́жа*$_1$ (*гл.*).

**Рыжо́ццe** 'вельмі рыжы чалавек' (Нар. Гом.). Ад *ры́жы* (гл.) з дапамогай суф. *-оцц-е*, як *страхо́ццe, брыдо́ццe* (Пра словаўтваральную мадэль гл. Сцяцко, Афікс. наз.).

**Рыжу́ха** *бат.* 'рыжак' (беласт., Сл. ПЗБ), 'рудая вада на балоце' (навагр., НС). Ад *ры́жы* (гл.).

**Ры́жы** 'чырвона-жоўты' (ТСБМ, Сцяшк.), 'чырвона-чорны' (воран., віл., шальч., астрав., свісл., Сл. ПЗБ), 'руды' (ЛА, 4; шчуч., Сл. ПЗБ; Бяльк.) , худы (пра мяса) (ст.-дар., Нар. сл.), 'з праслойкамі мяса (пра сала)' (ст.-дар., чэрв., Сл. ПЗБ), 'рыжы, светла-карычневы', 'з рабаціннем на твары' (ТС), 'чырвонашчокі' (ПСл), *ры́жае, рыжо́віна* 'нятлустае мяса' (ЛА, 4), *рыжо́віны* 'сала з праслойкамі' (ст.-дар., ЛА, 4), рус. *рыжий*, укр. *ри́жий*, польск. *rydzy* 'рыжы', славац. *rýdzi* 'чысты', 'дабротны', чэш. *ryzí* 'рыжаваты', в.-луж., н.-луж. *ryzy* 'рыжы', славен. *rîdž* 'буры', серб.-харв. *rî̂đ* 'рыжы', балг. *рижд* 'жоўта-чырвоны', ст.-слав. *рыждь*. Прасл. **rydjь* (корань **ryd-*: **rъd-*: **rud-*). І.-е. корань **reudh* 'чырвоны', 'руды' (Покарны, 1, 872–873). Звязана з *руда́, рдзець, іржа*, параўн. літ. *rudis* 'іржа', жам. *rudéti* 'ржавець', літ. *rudýnas, rudijà* 'балота з іржавай, жалезістай вадой', *rùdis* 'руды конь' (Фасмер, 3, 527; Брукнер, 471; Махэк$_2$, 528; Скок, 3, 138–139; БЕР, 6, 252; Чарных, 2, 130).

**Ры́жык** 'ядомы грыб з рыжай шапачкай' (ТСБМ, Бяльк.; узд., барыс., Нар. Словатв.; Сцяшк.), 'сурэпка, свірэпка' (Бяльк.), *рыжок, рыжкі, рышкі, рышке, ры́жыкі* 'рыжык' (віл., чэрв., нараўл., ганц., пух., шчуч., брасл., круп., воран., швянч., в.-дзв., даўг., ігн., Сл. ПЗБ), *рыжо́к* 'рыжык' (ТС; мазыр., Янк.2; ЛА, 1, карта № 285, Сцяшк. Сл., Дэмб, 1415; Бяс. 145), *рыжа́к* 'рыжык' (Байк. і Некр., Дэмб.1, 278, Гарэц.). Ад *ры́жы* (гл.) па колеры шляпкі грыба. Сюды ж *рыжо́к* 'здаровы, моцны, чырвоны чалавек (пра старога чалавека, звычайна пра дужага дзеда) (Янк. 2).

**Ры́жыца** 'асака' (хойн.). Ад *ры́жы* (гл.) па колеры расліны або ад *рэ́заць* (гл.), параўн. *рэская трава* 'асака'. Параўн. таксама *рэ́знік*$_1$.

**Рыжы́шча**, *рыжышчо* 'іржышча' (карэл., Сл. ПЗБ; кар., Шат.; Сцяц., Сцяшк. Сл.). Ад *іржы́шча* (гл.) у выніку метатэзы.

**Ры́за** 'адзенне святара', 'металічная акладка на абразах' (ТСБМ), 'раса' (Янк. 1) 'дрэнная вопратка' (валож., ЛА, 5), *ры́зніца* 'памяшканне, дзе захоўваюцца рызы і царкоўныя рызы' (ТСБМ), 'зношанае адзенне' (рэч., лельч., ельск., добр.), *ры́зіна* 'старая, падраная вопратка' (Янк.1), *ры́за* 'адзенне святара', 'раса' (Нас.), *ры́зка, ры́зочка* 'адзенне, у якім хрысцяць дзіця' (Нас.), *ризки* 'тс' (Дэмб. 1, 646), ст.-бел. *риза, рыза* 'адзенне' (XV ст.), 'адзенне святара' (XVI ст.), *рызница* 'рызніца', рус. *ры́за* 'адзенне святара', *ры́зка* 'пялёнка, у якую закручваюць дзіця пасля хрышчэння', ст.-рус. *риза* 'адзенне', укр. *ри́за*, чэш. *říza*, 'рыза', серб.-харв. *ри̏за* 'адзенне', балг. *ри́за*, ст.-слав. **риза**. Няма надзейнай этымалогіі. Па адной з версій меркавалася роднасць з **rezati*, **raz* (> бел. *рэ́заць, раз*). Некаторыя схіляюцца да версій аб запазычанні, параўн. візант. ῥιαις 'перадплечча' (Фасмер, 3, 482–483 з літ-рай БЕР, 6, 254).

**Рыза́** 'плаванне' (камянец., кобр., ЛА, 1; Сл. Брэс., Клім, 65). Утворана ад *рэ́заць* (гл.).

**Рызава́ць** 'ачышчаць зерне' (Сл. Гродз.). Няясна. Магчыма, паланізм, параўн. польск. *ryzować* 'выразаць на дрэве'. Хутчэй да *рыззё* (гл.).

**Рыззё** 'старое, падранае адзенне', 'анучы' (ТСБМ, чэрв., ст.-дар., паст., мядз., шум., глыб., Сл. ПЗБ), *ры́ззе* 'дранае, старое адзенне' (Ян.; добр., калінк., жытк., хойн., добр., гом., ветк., светл.; Янк. 2; Яўс.), *ри́ззе* 'лахманы' (Нас.), *ры́зы* 'рыззё' (смарг., вільн., брасл., Сл. ПЗБ; Сцяшк., Інстр. 1,81), 'парванае адзенне' (Жд. 1), *ризи́на, ризи́нка* 'дрэннае, падранае адзенне' (Нас.), *рызі́нка* 'ануча, якою адцэджваюць чыгуны' (Жд. 3), *рызняке* 'адзенне' (пух., Сл. ПЗБ), *ры́зьзе́* 'падраная вопратка' (Янк. 2), 'лахманы' (Яруш.; Гарэц.), *рыззё* 'парванае адзенне' (Янк.), *рызіна* 'старая падраная вопратка' (Янк. 2). Ад *ры́за* (гл.).

**Рызёўка**, *рызоўка, рыззёўка, рызоўка, рыззявік, рызя́тніца* 'посцілка, вытканая з рыззя' (віл., докш., глыб., в.-дзв., Сл. ПЗБ), 'коўдра, вытканая з трапак' (ушац., віл., валож., віл., ЛА, 4), *рызьзёўка* 'пасцілка, вытканая са стужак' (Янк.), *рыза́вік* 'посцілка, вытканая з тоўстых нітак і рыззя' (мядз., Нар. словатв.), *рыдзёўка* 'тс' (докш., ЛА, 4), *рызо́ўка* 'посцілка, вытканая з істужак' (лаг.), 'пасцілка, тканая з рыззя' (Жд. 1), *рызявік* 'тс' (глыб., ЛА, 4), *рызянка* (чэрв., ЛА, 4), *рызётніца* (в.-дзв. ЛА, 4). Ад *ры́за* (гл.).



**Рызі́на** 'эластычны матэрыял з каўчуку' (ТСБМ), *рызі́нка* 'сцірка', 'тасьма з рызіны', 'від вязання, які мае ўласцівасць расцягвацца' (ТСБМ; Сцяшк.; навагр., НС). З рус. *резина* 'гума'.

**Рызі́наўка** 'піяўка' (добр.). Ад *рызі́на* (гл.), паколькі піяўка мае ўласцівасць цягнуцца, расцягвацца і падобная на палоску чорнай рызіны.

**Рызі́ны** 'галёшы' (гом., добр., чач., ветк., кам., жлоб., ЛА, 2), *рэзіна* 'гумовы абутак' (ПСл). Утворна ад *рызі́на* 'гума' (гл.) у выніку метанімічнага пераносу назвы рэчыва, з якога зроблены прадмет, на сам прадмет; параўн. *фу́тра* 'шкура звера', 'зімовая вопратка з такіх шкур'.

**Рызкі́** 'сенажаць' (малар., ЛА, 2). Утворана ад *рэ́заць* (гл.).

**Рызма́н** 'ласкут' (шальч., Сл. ПЗБ), 'старое адзенне' (Мат. Гродз.; Гарэц.), 'парваная адзежына' (Жд. 1), 'посцілка з рыззя' (воран., Сл. ПЗБ), *рызманы́* 'падранае адзенне, лахманы' (ТСБМ), *рызма́нты* манаткі, лахманы (Янк. Мат.), *рызма́нне* 'парванае адзенне' (Жд. 1). Утворана ад *рыззё* (гл.) з дапамогай суфікса *-ман*, як *лахма́н, сукма́н* 'вопратка' (Сцяцко, Афікс. наз., 160–161).

**Ры́знік** 'анучнік' (паст., вільн., мядз., швянч., беласт., Сл. ПЗБ; Жд. 1, Янк. 2), 'дрэнна апрануты чалавек' (Яўс.). Да *рыззё* (гл.).

**Рызува́ты** 'расчышчаць' (Сл. Брэс.). Няясна. Магчыма, звязана з *рызава́ць* (гл.).

**Рызу́ха** 'крываўнік' (брэсц., ЛА, 1). Да *разу́ха (гл.)*.

**Рызо́ха** 'асака' (Бяс.). Да *разу́ха (гл.)*.

**Рызыдава́ць** 'самаўладнічаць' (Цых.). Паланізм, параўн. польск. *rezydować* 'быць, знаходзіцца', 'мець рэзыдэнцыю', *rezydent* 'рэзідэнт', *уст.* 'нахлебнік, дармаед'.

**Рызыкава́ць** 'ісці на рызыку', 'падвяргаць рызыцы', 'адважвацца на што-небудзь' (ТСБМ; шальч., Сл. ПЗБ), *рызыкавацца* 'фанабэрыцца' (пух., Сл. ПЗБ), *ры́зыка* 'магчымая небяспека' (ТСБМ; пух., Сл. ПЗБ; Гарэц.), 'небяспека' (лях.), *рызыкоўна* 'смела, нахабна' (астрав., Сл. ПЗБ). З польск. *ryzyko, ryzykować* 'тс'.

**Рызыка́нт** 'смелы чалавек' (ТСБМ, Некр., 232), 'адчайны, рызыкоўны чалавек, задзіра, забіяка' (ТС). Ад *рызыкава́ць* (гл.) з дапамогай суф. *-ант* як *шпікуля́нт, маскіра́нт* (Сцяцко, Афікс. наз., 29).

**Ры́зік** 'дзеяч' (Янк. Мат.). Ад *рызыкава́ць* (гл.) з дапамогай суф. *-ік* як *дры́жык* 'палахлівец', *вы́цік* 'плакса' (Сцяцко, Афікс. наз., 41).

8а Зак. 2628

**Ры́йка** ‘лыч’ (шчуч., Сл. ПЗБ; Сцяшк. Сл.), ‘верхняя або ніжняя частка лыча’ (шчуч., Сл. ПЗБ). Верагодна з польск. *ryj* ‘лыч’, *ryjek* ‘лычык, хабаток’. Хаця не выключана, што гэта незалежнае ўтварэнне ад *рыць* (гл.), як *на́крыўка, сну́йка.*

**Рык**$_1$ ‘роў жывёлы’ (ТСБМ), ст.-бел. *рыкание, рыканье* (Скар.), руск. *рык,* польск. *ryk*, славац. *ryk,* чэш. *ryk*, славен. *rik*, серб.-харв. *рик, ри̏ка* ‘рык’, ‘рокат’, ‘шум’, балг. *рик*. Прасл. **rykъ* адвербальнае ўтварэнне ад **rykati* (> бел. *ры́каць*) (БЕР, 6, 255).

**Рык**$_2$ ‘тоўсты брус’ (ваўк., Сл. ПЗБ). Няясна.

**Рык**$_3$ ‘вадзяны вол’ (добр.). Утворана безафіксальным спосабам ад *ры́каць* (гл.), як *бай* ад *ба́яць*, *чос* ад *часа́ць* (Сцяцко, Афікс. наз., 262–263).

**Ры́ка** ‘грэчка’ (Сцяшк. Сл.). Ад *гры́ка* (гл.), дзе пачатковае *г* было ўспрынята як пратэтычнае і адпала.

**Ры́каць,** *рыка́ты* ‘рыкаць, раўці’ (ТСБМ; шчуч., віл., докш., лід., астрав., бяроз., навагр., беласт., ліпск., Сл. ПЗБ; Сцяшк.; жытк., ветк., ельск., петр., калінк., Інстр. 2, 30; Гарэц., БДА, 891, Інстр. 3, 61), *рыка́ць* ‘рыкаць’ (ТС, Янк. 1), *рыке́ля* карова (ТС), *ры́кнуць* ‘зарыкаць, рыкнуць’, ‘злосна закрычаць (пра чалавека)’ (Бяльк.), ‘рыкнуць, зараўці’ (ТС), *рыку́ха* ‘карова’ (Сцяшк. Сл.), ст.-бел. *рыкати* ‘раўсці (пра валоў, ільвоў) (XVI ст.), ‘брахаць’ (1653), ‘пра мову лясных людзей’ (XVII ст.), руск. дыял. *рыкать* ‘зваць, клікаць’, ‘рыкаць’, укр. *рика́ти*, польск. *ryczeć*, славац. *ryčat’*, чэш. *ryčeti* ‘раўсці’, в.-луж. *ryčeć*, н.-луж. *rycaś*, славен. *rikati*, серб.-харв. *ри̏ка* ‘рык’, ‘рокат’, ‘шум’, *ри́кати*, балг. *ри́кам* ‘рыкаю, кашляю’, ст.-слав. *рыкати*; са старажытным вакалізмам: славен. *rûk* ‘цечка ў аленяў’, *rúčati* ‘раўсці’, в.-луж. *ručeć*. Прасл. **rykati: *ryčati* (< **ryketi*) ‘раўсці’, ‘рыкаць’, ‘крычаць’. І.-е. гукапераймальны корань **reu-: *rou-: *rŭ* (бел. *раўсці*) з пашыральнікам *-k-*: **reuk: *ruk*. Параўн. літ. *rukti* ‘рычэць’, а таксама *rēkti* ‘крычаць’, лат. *rûkt* ‘бурчаць’, ст.-в.-ням. *ruhen* (**ruhjan*), с.-в.-ням. *rohen* ‘раўсці, рохкаць’, англасакс. *rýn* ‘раўсці’, с.-ірл. *rucht* ‘рык’, лац. *rumor, ravus, raucus* (Фасмер, 5, 527–528; Скок, 3, 142; БЕР, 6, 256; Чарных, 2, 132; Брукнер, 472). Ст.-бел. *рыкунья, рыкуня, рикунья* ‘даглядчыца жывёлы’ (1539) лічыцца запазычаннем з літоўскай мовы, параўн. літ. *rykune* (Булыка, Запаз., 290).

**Рыкашэ́т** ‘палёт цела пад вуглом пасля ўдару аб якую-небудзь паверхню’ (ТСБМ). З франц. *ricochet* ‘тс’ хутчэй за ўсё праз пасрэдніцтва рускай мовы, параўн. рус. *рикоше́т* ‘тс’.



**Ры́кша** ‘чалавек, які запрогшыся ў каляску, перавозіць седакоў і грузы’ (ТСБМ). З япон. (*dzin) rikisia* праз пасрэдніцтва рускай, параўн. рус. *ри́кша* ‘тс’.

**Ры́ла** ‘лыч’ ( ТСБМ; лудз., Сл. ПЗБ), ‘твар чалавека’ (ТСБМ; пін., Сл. ПЗБ), ‘пашча ў рыбы’ (ігн., Сл. ПЗБ), ‘вузкі ўваход у рыбалоўную снасць (пух., Сл. ПЗБ), ‘верхняя вузкая частка графіна, бутэлькі’ (барыс., Шат.), *ры́ло* ‘рыла, морда’, ‘горла бутэлькі’ (ТС, ПСл), руск. *ры́ло* ‘морда’, ‘пашча’, ‘лыч’, укр. *ри́ло*, ст.-руск. *рыло*, польск. *rydel* ‘рыдлёўка’, чэш. *rydlo* ‘разец’, славац. *rydlo* ‘разец, лапата’, славен. *rílo* ‘хобат’, серб.-харв. *ри̏ло* ‘рыла’, ‘губа’, балг. *ри́ло* ‘рыла, морда’. Прасл. **rydlo* (< **ru-tlo-m*), звязанае з *рыць*, *рваць*, выяўляе значны паралелізм структуры з лац. *rutrum* ‘лапатка’, лат. *raûklis* ‘скрабок’ (ЭССЯ, Проспект, 76–77; Фасмер, 3, 528; Копечны, 313; БЕР, 6, 259–260).

**Рыла́н**, *рыле́й* ‘чалавек з поўным чырвоным тварам’ (ТС). Сюды ж *рыла́сты* ‘таўстаморды’ (Байк. і Некр.), *рыла́стый* ‘чалавек з моцным, громкім голасам’, *рылатый* ‘чалавек з тоўстымі, адвіслымі губамі’ (Нас.), *рыла́ты* ‘губаты’ (люб., ЛА). Адыменныя ўтварэнні з рознымі суфіксамі ад *ры́ла* (гл.) (Пра славаўтваральны тып з суф. *-ан* і *-ей* гл. Сцяцко, Афікс. наз., адпаведна 94 і 98). Тое ж у іншых мовах, параўн. рус. дыял. *рыла́н* ‘таўстарылы’, серб.-харв. *ри̏ласт* ‘мардасты’, ‘губасты’.

**Рылёўка**, *рыля́ўка* ‘лапата’ (Сцяшк. Сл.). Ад *рыдлёўка* (гл.) у выніку прыпадабнення *р* да *л* з наступным сцяжэннем *лл* у *л* (*рыдлёўка > рыллёўка > рылёўка)*.

**Ры́льнік** ‘судна (начное)’ (ветк. Мат. Гом.). Ад *ры́ла* (гл.), паколькі начынне мае *ры́ла* ‘носік’.

**Рым** ‘дрыгва, топкае месца’ (Ян.), укр. дыял. *рим* ‘яма з вадой’, ‘лог, заліты вадой’, ‘глыбокі роў’. Няяснае слова. Можна меркаваць роднасць да польск. *ryma* ‘насмарк’, чэш. *rýma* ‘насмарк’, славац. *réma* ‘насмарк’, ст.-слав. **рема** ‘выцяканне’, *роума, рюма* ‘сцяканне’, ст.-ням. *reuma* ‘насмарк’, фр. *rhume* ‘прастуда, катар’, лац. *rheuma, reuma* ‘выцяканне’, нова-грэч. ῥεῦμα ‘насмарк’, літ. *rymà* ‘насмарк’. Польская і чэшская лексемы лічацца запазычаннямі з франц. *rhume*, якое з грэч. ῥεῦμα (Мацэнаўэр, 301; Махэк$_2$, 527). Але гэта няпэўна. Здзіўляе падабенства з рус. *ры́мбаць, рында́ть* ‘гразнуць у балоце’, ‘правальвацца нагамі ў балота, праз лёд або снег’, *ры́ндало* ‘балота’, якое з до-

ляй верагоднасці лічаць запазычаннем з фін. *rämpiä* 'ісці праз балота, снег', 'рухацца наперад з цяжкасцю' (Фасмер, 3, 528). Параўнай *рымаць* (гл.).

**Рыма**, гл. *рымзаць*.

**Ры́мар** 'майстар, які вырабляе вупраж' (ТСБМ, ТС; ваўк., смарг., лід., Сл. ПЗБ; ЛА, Сцяшк. Мат.), *рымарня* 'рымарская майстэрня' (ТСБМ), *рымарства* 'рамяство рымара' (ТСБМ), ст.-бел. *рымаръ, римаръ, римарь, ремарь* (1502). З польск. *rymarz* 'тс', якое з ням. *Riemer* 'рымар' (< ням. *Riemen* 'рамень') (Брукнер, 472).

**Ры́маць** 'румзаць, канозіцца' (ТС), *рыме́ць* 'злаваць, выгаворваць' (дзярж., Нар. сл.), 'вішчаць (пра свіней)' (мядз., Нар. сл.), руск. дыял. *рымонить,* чэш. *rýma* 'насмарк', серб.-харв. *ри̏мати* 'плакаць, хныкаць', з іншым вакалізмам рус. дыял. *рю́мить* 'плакаць', *рю́ма* 'плакса, равула', укр. *рюмати, рюмсати*. Да і.-е. **r'um-: *rym* (Куркіна, Этимология 1971, 76; Скок, 3, 144). Параўнай *ры́мзаць* (гл.).

**Ры́мдзіць** 'размаўляць аб дробязях' (Сцяшк. Сл.). Магчыма, да *ры́мзаць* (гл.) або да *рэ́йдзіць* (гл.). З іншага боку параўн. літ. *rim̃tinti* 'рабіць сур'ёзным', rim̃teti 'рабіцца сур'ёзным'.

**Ры́мзаць**, *рэмзаць* 'плакаць' (пух., ганц., Сл. ПЗБ; калінк., Сцяшк. Сл.; БДА, 911), 'доўга і нудна гаварыць' (маладз., Янк. Мат.), 'скрыпець', 'плакаць' (Крывіч, 12, 1926,109). рус. *ры́мза* 'плакса', *рымо́нить* 'раўсці, плакаць'. Чаргаваннем галосных звязана з рус. *рюма, реветь*, параўн. літ. *riáumoja* 'раўсці', лат. *rumor* 'гул, гоман, мармытанне', ст.-ісл. *rymr* 'шум, рык', *rymja* 'раўсці, бурчаць', грэч. ϕρῦμαι 'раву, галашу'(Фасмер, 3, 528–529 з літ-рай).

**Рымкаць** 'паскрыпваць' (Крывіч, 12, 1926, 109), *рымець, рымчэць* 'працягла скрыпець (пра дзверы, вароты)' (Крывіч, 12, 1926, 109), *ры́мка* 'першая тонкая струна ў скрыпцы' (Мядзв.; Крывіч, 12, 1926, 109), *рымст* 'аднаразовы скрып': *чую, ажно вароты – рымст, рымст, – нехта паціхоньку іх адчыняе* (Крывіч, 12, 1926, 109). Гукаперайманне.

**Ры́мно** (з рубэм) 'верхні край пасуды' (Клімчук, ЛА 5). Да *ро́ўны* (гл.).

**Рымо́нне** 'адзенне' (Ян.), 'рыззё' (лоеў.). Магчыма, ад *рызма́нне, рызма́н* (гл.), як *адзе́нне*, шляхам *рызма́нне* > *рыма́нне* > *рымо́нне*.

**Ры́мсціць** 'карцець' (Сцяц., Сцяшк. Сл.), 'чакаць', 'перачэкваць' (Гарэц., Яруш.), *ри́мсціць* 'чакаць, цярпець, трываць' (Нас.), *за-*



*римсцило* 'захацелася' (Нас.), *рымста* 'зло, помста' (люб., Паўлаў. Быў светлы міг), рус. дыял. *ры́мстить* 'трываць', *уры́мстить* 'вытрываць боль'. Запазычана з літ. *rìmti, rìmstu, rìmaũ* 'быць спакойным' (Фасмер, 5, 529).

**Рыму́нкі** 'самаробныя чаравікі' (Сцяшк. Сл.). Гукаперайманьнае слова, утворана ад *ры́мкаць* (гл.), як *паку́нкі, справу́нкі* (Пра словаўтваральны тып гл. Сцяцко, Афікс. наз., 69, 90).

**Ры́на** 'вадасцёкавая канава' (шчуч., брасл., Сл. ПЗБ; Сцяшк.), 'вадасцёкавая труба' (шальч., Сл. ПЗБ; Цых.), 'жолаб, па якім вада цячэ на кола ў млыне' (Бяльк.), 'жолаб, вадзяны мяшок на мельніцы' (Нас.), *ры́нва* 'рына' (жытк., Нар. сл.), рус. дыял. *ры́нва* 'вадасток', 'канава', укр. *ри́нва* 'тс'. З польск. *rynna* 'жолаб', *rynwa* 'жолаб' (XVI ст.), якое з ням. *Rinne* 'жолаб', 'канава'(< ням. *rennen* 'бегчы') (Брукнер, 472; Фасмер, 3, 529).

**Ры́нак** 'базар' (ТСБМ; астрав., Сл. ПЗБ), руск. *ры́нок*, укр. *ри́нок*. Да ўсходніх славян трапіла праз пасрэдніцтва заходнеславянскіх моў, параўн. польск. *rynek* 'рынак', 'рынычная плошча', славац. *rinok* 'рынак', 'рынычная плошча', чэш. *rynk* 'кола', 'гарадская плошча', н.-луж. *rynk* 'рыначная плошча' са с.-в.-ням. *rinc* 'кола', 'плошча', ням. *Ring* 'кола' (> у паўдн.-усх. дыялектах 'плошча' > 'рыначная плошча'). Параўн. таксама галанд. *ring* 'кола', швед. *ring* 'кола', 'пляцоўка' (Фасмер, 5, 530; Брукнер, 472; Чарных, 2, 130; Булыка, Бел. лігв., 64). Сюды ж і *ры́нак* у значэнні 'сярэдняя свабодная частка пакоя' (капыл., Сл. ПЗБ).

**Рына́лік** 'дзіцячы начны гаршок' (Сцяшк. Сл.). Магчыма ад *ры́льнік* (гл.) або ад *рыка* (гл.), параўн. польск. дыял. *rynik*, ст.-чэш. *renlík* 'гаршчык'.

**Ры́нда**[1], *рындося* 'хто неахайны' (в.-дзв., даўг., Сл. ПЗБ), рус. дыял. *ры́нда* 'худы высокі чалавек', 'худы конь'. З літ. *rindà* 'непаваротлівы чалавек' (Саўка, Запісы 23, 57).

**Ры́нда**[2] 'воін царскай аховы на Русі' (ТСБМ), рус. *ры́нда* 'аружаносец, целаахоўнік', ст.-руск. *рында*. Цяжкое слова, верагодна іншамоўнага паходжання. Вывядзенне са ст.-ісл. *rǫnd* 'край шчыта, шчыт' ставіцца пад сумненне з фанетычнага пункту гледжання. Зусім неверагоднае тлумачэнне з дац. *rinde, rende* 'бегчы' і з ням. *Ronde* 'дазор' (Фасмер, 3, 529). Магчыма, сюды ж рус. *ры́ндель* 'знамяносец' з наступным з'ўленнем насавога (Фасмер, 3, 529).

**Рында₃:** *рынду біць* ‘у парусным флоце – тройчы ўдарыць у звон у поўдзень’ (ТСБМ), рус. *рында* ‘звон карабельнага калакала’. Тлумачыцца як утварэнне з англ. *to ring the bell* ‘званіць у колакал’ (Фасмер, 5, 529). Малаверагоднай падаецца версія аб запазычанні са швец. *ringa* ‘званіць’ (Мацэнаўэр, LF 18, 245)

**Рындзіць** ‘гаварыць без патрэбы’, ‘плесці абы-што’ (Сл. Гродз.). Няясна. Ад трындзець > рындзець > рындзіць. ? укр. закарпац. *риндза* ‘страўнік цяляці’ ? ст.-бел. *рендзикъ, рендик* ? рус. дыял. *рындик* ‘здаравяк, маладзец’

**Рындэлак** ‘паўлітровая шкляная банка’ (Сцяшк. Сл.), ‘рынка, пасудзіна з ручкай’ (Сл. Гродз.). З польск. *rondel*.

**Рынка** ‘патэльня на ножках з доўгай ручкай’ (Сл. Брэс.; ваўк., гарад., Сл. ПЗБ; Сцяшк.), ‘драўляная міска’ (раг., Сл. ПЗБ; рэч., Нар. сл.; светл., рагач., рэч., б.-каш., ЛА 5), ‘гліняная міска’ (Бяльк., Нар. Гом.; жлоб., б.-каш., чач., ветк., добр., рэч., маз., петр., гом., Сл. ПЗБ), ‘звязка дроў’ (Шпіл.), руск. дыял. *рынка* ‘гаршчок для кветак’, ‘гліняная міска’, укр. *ринка*. З польск. *rynka* ‘тыгель’, ‘нізкая каструлька (раней гліняная)’, якое, як і пол. *rondel* ‘каструля’ (> бел. дыял. *рандэлек*), са ст.-в.-ням. *rîna*, с.-в.-ням. *rîne, reindel, rindel, reinel* ‘трохногі гліняны гаршчок’, ‘тыгель’, ‘міска для малака’, ням. *Reindel* (Фасмер, 3, 529; Брукнер, 472; Трубачоў, Ремесл. терм., 297). З іншага боку можа быць звязана з ням. *Ring*, параўн. славен. *rînka* ‘пярсцёнак’ (Сной у Безлай, 3, 181).

**Рынкаляско** ‘ручка ў вілах’ (Сл. Гродз.). Паланізм па форме.

**Рынуцца,** гл. *рынуць*.

**Рынуць** ‘рынуцца’, ‘кінуць’ (ТСБМ), *рынуцца* ‘імкліва кінуцца, хлынуць’ (ТСБМ, Гарэц.), *рынуцца, рынацца* ‘легчы адпачыць пасля цяжкай работы’ (віл., паст., Сл. ПЗБ; Бяльк.), *рынуць* ‘кінуцца, рынуцца імкліва’ (ТС, Нар. Гом.; б.-каш., Шпіл.), ‘упасці’, ‘кінуць’ (Яруш.; Янк.), *ринутый* ‘кінуты’, *ринуць* ‘кінуць’, ‘пакінуць’, *ринуцьца* ‘рушыць’, ‘кінуцца’, ‘упасці’ (Нас.), рус. *ринуть*, дыял. *взрынуть* ‘ускіпець’, ‘раздражніцца’, *взрынуться* ‘уз’есціся’, укр. *ринути* ‘моцна цячы’, ст.-рус. *ринути* ‘кінуць, піхнуць’, *ринтися* ‘злавацца’, славац. *rinút'*, чэш. *řinouti se* ‘ліцца’, славен. *ríniti* ‘соваць, рухаць’, ‘давіць’, серб.-харв. *ри̏нути* ‘піхнуць’, *ри̏нути се* ‘рынуцца, ‘кінуцца’, ‘стукнуцца’, *нарнути* ‘злосна забрахаць, накінуцца’, мак. *рине* ‘кідаю’, балг. *ри́на* ‘разграбаю, ачышчаю’, ст.-слав. *ринѫти* ‘кінуцца’. Прасл. **rinǫti sę* ‘цячы, ліцца’, ‘біць ключом’ (Копечны, 307). І.-е. база **erei-* ‘цячы’ з корнем **er* ‘рушыць’, ‘зрушыць’. Роднаснае да ст.-інд. *riṇati, riṇvati* ‘застаўляе цячы’, ‘выпускае’, *ríyate* ‘пачынае цячы’, грэч. ὀρΐνω, лесб. ὀρΐννω ‘прыводжу ў рух, узбуджаю, раздражняю, лац. *rivus* ‘ручай’, *ir-rito* ‘раздражняю’, ірл. *rian* ‘мора’, гальск. *Renos* ‘Рэйн’. Далей звязана з *рой, рэяць, рака́*. (Фасмер, 3, 484 з літ-рай; Скок, 3, 144; Сной у Безлай, 3, 181).

**Рыпацца** ‘рухацца’ (Янк. Мат.), ‘ёрзаць, рухацца’ (Гарэц.), *рыпнуць* ‘хутка пайсці’ (рэч.), рус. *рыпаться* ‘безпаспяхова спрабаваць зрабіць што-небудзь’, дыял. *рыпать, рыпе́ть* ‘рыпець’, укр. *ри́пати* ‘рыпець’, *ри́патися* ‘часта адчыняць дзверы’, польск. *rypać* ‘шыбаваць’, ‘уцякаць’, саст. ‘біць нагой’, ‘рыпець’, ‘, чэш. *rýpati* ‘калупаць што-небудзь’, ‘тыкаць’, ‘піхаць’ > ‘чапляцца да каго-небудзь’, ‘крыўдзіць’, *rýpati se* ‘калупацца’, славац. *rýpat'* ‘капаць’ > ‘чапляцца да каго-небудзь’, чэш. *rypati* ‘капаць, рыць’, *vyrypovat* ‘ісці пружыністым, спешным крокам’, в.-луж. *rypać* ‘калупаць’, н.-луж. *rypaś*, балг. *ри́пам* ‘падкідваю ўверх’, ‘падскокваю, скачу’. Прасл. **rypati* ‘рыць, рваць, капаць’. І.-е. база **reup-* ‘ламаць’, ‘вырываць’, ‘рваць’, ‘раздзіраць’, з расшыральнікам *-s-: *reups-:*rups-:*ryps-*; корань **reu-* (:**ru-*) ‘рыць’, ‘капаць’ (Покарны, I, 868–870; Куркіна, ОЛА, 135; БЕР,6 261–263 з літ-рай). Параўн. літ. *rùõpti* ‘капаць’, *raũpti* ‘выдзёўбваць’, ‘раскалупваць’, *rupěti* ‘клапаціцца’, ст.-в.-ням. *roubon* (ням. *rauben*) ‘рабаваць’, лац. *rumpo* ‘рву’, ‘разрываю’, ст.-інд. *ropayati* ‘абламвае’ (Чарных, 2, 130–131).

**Рыпаць₁** ‘падымацца ўверх і апускацца ўніз (пра ніты)’ (петр., Шат.), *рипа* ‘деталь самопрялки, соединяющая верхнюю часть с подставкою’ (Влад.). Ад *рыпаць₂* (гл.), параўн. серб.-харв. *rípati* ‘скакаць, падскокваць’.

**Рыпаць₂** ‘скрабсці’, ‘скрыпець’ (Др.), ‘скрыпець’ (Гарэц.), ‘няўмела іграць на гармоніку, скрыпцы’ (Мядзв.) *рыпаць* ‘рыпець, скрыпець, скрыгаць; дрэнна іграць; поркацца, кешкацца’ (ТС), *рыпацца* ‘рыпець, выдаваць гукі пры трэнні’ (ТС), ‘незадаволена бурчаць’ (Яўс.), *рыпалка* ‘дрэнны гармонік’, ‘няўмелы гарманіст’ (Янк. 2, Жд. 3), рус. *рыпать, рыпнуть*, руск. дыял. *рыпать* ‘скрыпець’, укр. *ри́пати* ‘скрыпець’, *ри́патися* ‘часта адчыняць дзверы’, польск. *rypać* ‘удараць’, ‘грымець’, ‘рыпець’, в.-луж. *rypać* ‘калупаць’, славац. *rýpat'* ‘капаць’ > ‘чапляцца да каго-небудзь’,

чэш. *rýpati* ‘калупаць’, ‘тыкаць’ > ‘чапляцца да каго-небудзь’, ‘крыўдзіць’, *rýpati se* ‘калупацца’, *rupati* ‘хрусцець’, ‘трашчаць’)’, серб.-харв. *rípati* ‘скакаць, падскокваць’. Прасл. **rypati* для якога можна меркаваць першаснае значэнне ‘рыць’, ‘капаць’, ‘рваць’ (польск. дыял. *rypać* ‘стукаць, адбіваць’, ‘есці’, ‘капаць’, ‘крышыць’, чэш. *rypati* ‘капаць, рыць’) і другаснае ‘непакоіцца’ (рус. *рыпаться*, в.-луж. *rypać* ‘чапляцца, назаляць’, балг. *рúпам* ‘мітусіцца, кідацца’), было растлумачана Брукнерам як вытворнае ад **ryp* (утварэнне ад **ryti* з суфіксальным *-p-*) (Брукнер, 472). Аднак наяўнасць славянскіх слоў з тым жа *-p-* і іншай агласоўкай кораня тыпу **rupa* ‘яма’ (укр. *рупа*, славен. *rupa*, серб.-харв. *rupa*, балг. *рýпа*) і **rupiti sę* ‘непакоіцца’ (> бел. *рýпіцца*), што сведчыць аб прыналежнасці *-p-* да зыходнай дзеяслоўнай асновы (імаверна вытворнай у сваю чаргу ад і.-е. **reu-*, які даў і прасл. **ryti*). Таму больш дакладным падаецца тлумачэнне Махэка, які мяркуе, што слав. **rypati* з’яўляецца ітэратывам ад незахаванага дзеяслова **rupiti*, якой адпавядаў бы літ. *raũpiti* (Махэк, 2, 527). Аднак мяркуемы зыходны дзеяслоў прапаноўваецца рэканструяваць у форме **rъpati* (**rup-:*rъp-:*ryp-*), паколькі захаваліся укр. *пóрпати* ‘капацца, разграбаць, выграбаць (пра курэй)’, ‘рыцца ў чым-небудзь’, польск. дыял. *parpać* ‘рыцца, капацца’, балг. дыял. *ръ́пам, ръ́пна* ‘рэзаць тупымі, вышчарбленымі нажніцамі або сярпом’, ‘рэзаць дрэнна, нячоўна’ (Варбот, Этимология 1971, 6–7; Куркіна, Этимология 1984, 111). Гл. таксама *рыпéць*.

**Рыпéць**, *рыпаць* ‘скрыпець’ (ТСБМ; беласт., Сл. ПЗБ; Бяльк.), *рыпнуць* ‘скрыпнуць’ (беласт., Сл. ПЗБ), *рып* ‘гук, які утвараецца пры трэнні’ (ТСБМ), *рыплівы, рыпýчы* ‘скрыпучы’ (ТСБМ, Сцяшк.), *рыпéць* ‘рыпець, скрыпець, скрыгатаць’ (ТС), *рыпаць* ‘няўмела граць’, ‘выказваць крыўду’ (Яўс.), *рыпнуць* рыпнуць, скрыпнуць (ТС), *рыпýчы* ‘скрыпучы’ (ТС), *рыпкі* ‘рыпучы’ (Сцяшк. Сл.), *рыпанне* ‘буркатня’, ‘няўмелае гранне на гармоніку’ (Яўс.), рус. *рыпéть*, укр. *рипіти* ‘скрыпець’, чэш. *rupati* ‘хрусцець’, ‘трашчаць’ *rupěti* ‘хрусцець (пра снег). Прасл. **rypati*. І.-е. база ** reup-* ‘ламаць’, ‘вырываць’, ‘раздзіраць’; корань **reu-(:*ru)* ‘рыць’, ‘капаць’ з расшыральнікам *-p-* (Покарны, 1, 868–870). Параўн. літ. *rũpti* ‘капаць’, *raũpti* ‘выдоўбліваць’, раскалупваць’, *rupe´ti* ‘клапаціцца’, ст.-в.-ням. *roubon* (ням. *rauben*) ‘рабаваць’, лац. *rumpo* ‘рву’, ‘разрываю’, ст.-інд. *ropayati* ‘абломлівае’ (Чарных, 2, 130–131). Лічыцца, што тут той жа корань, што і ў *рынуць*, *рака́*, г. зн. узыходзяць да і.-е. кораня **erei-*, расшыраным фармантам *p* і роднаснае да ням. *reisen (reiten)* (Скок, 3, 146). Малаверагодная роднасць са ст.-ісл. *raup* ‘выхвалянне’, *ropa* ‘адрыгваць’, с.-н.-ням *ropen*, с.-в.-ням. *roffazen* ‘тс.’ (Мацэнаўэр, LF 18, 245; Фасмер, 3, 530). Магчыма, гукапераймальнага паходжання). З іншага боку параўн. літ. *rypúoti* ‘плакаць, галасіць’, *raupyti, ruopti* ‘ударыць’, *rupas, rupus* ‘штосьці няроўнае’, інд. *ropa-* ‘дзюра’, *ropajati* ‘адрывае’, *rupjati* ‘у яго рве ў бруху’, лац. *rumpere*, ням. *Raub* ‘рабаўніцтва’ (< з ням. *roub ‘?’*), *raufen* ‘вырываць’, ‘рваць’, ‘трапаць’, ‘церабіць’ (Брукнер, 472). Гл. таксама *рыпаць₂*.



**Ры́поцень** ‘моцны, пякучы мароз’ (ТС). Ад *рыпéць* (гл.), як *віскуцень* ‘вісклівы, пранізлівы вецер’.

**Ры́пс** ‘тоўстая тканіна палатнянага перапляцення ў рубчык’ (ТСБМ), ‘нанка’ (Шпіл.), *рыпсавы* ‘нанковый’ (Шпіл.). З франц. *reps* ‘тс’.

**Рыпутува́ць** ‘есці гучна якую-небудзь зеляніну’ (Бяльк.). Гукапераймальнае слова.

**Рыпýнь** ‘пра рыпенне, няўмелую ігру на гармоніку’ (Янк. Мат.). Ад *рыпéць* (гл.).

**Рыс** ‘радок’ (лаг.). Паланізм, параўн. польск. *rys* ‘рысачка, лінія’

**Ры́са** ‘лінія, вузкая паласа’, уласцівасць, адметная якасць’, ‘аблічча твару’ (ТСБМ; Гарэц.), *рыска* ‘рыска’ (Бяльк.), ‘паз’ (свісл., Шат.). Праз польск. *rys* ‘рыса’, ‘замалёўка’, ‘лінія’, *rysa* ‘драпіна’, ‘шчыліна’ з ням. *Riss* ‘трэшчына’, ‘шчыліна’, ‘драпіна’, ‘дзюра’ (Брукнер, 472).

**Рысава́ць₁** ‘маляваць пры дапамозе графічных сродкаў’ (ТСБМ, Байк. і Некр.), *рысýнак* ‘малюнак’ (ТСБМ), *рысýнак, русынак* ‘малюнак’ (брасл., калінк., Сл. ПЗБ), ‘малюнак’, ‘чарцёж’ (Байк. і Некр.), *рысава́льшчык* ‘той, хто займаецца рысаваннем’ (ТСБМ). З с.-в.-ням. *rizen* праз польскую, параўн. польск. *rysować* ‘маляваць’.

**Рысава́ць₂** ‘красаваць (пра збожжа)’ (Сцяц.). Утворана ад *красава́ць* шляхам адпадзеня пачатковага *р-* і звужэння ненаціскной галоснай (красаваць > расаваць > рысаваць).

**Рыса́к** ‘пародзісты конь’ (ТСМБ), *рысакомі* ‘рыссю’ (Сцяшк.), *рысакóм* ‘рыссю’ (Янк. 1). Няясна. Магчыма, ад *ры́скаць* (гл.).

**Рыса́ць** ‘рыскаць, не ляжаць на месцы пры перавозцы’ (ТС). Ад *ры́скаць* (гл.).

**Рыск**, *рыскаўня* ‘цечка’ (кіраў., ЛА, 1), *ваўкі рышчацца, рыску́юць* ‘гайнююць’ (кіраў., пух., ЛА, 1), *ры́скаўня* ‘зграя сабак у пару спарвання’ (кіраў., НС), серб.-харв. *ristati* ‘скакаць, бегчы’, ц.-слав. *riskati* ‘скакаць, танцаваць’. Лічыцца запазычаннем са ст.-рус. *ристати* ‘бегаць’, ‘скакаць’, ‘насіцца’ (Фасмер, 2, 204). Да прасл. **riskati* (Этимология – 1976, 24). Сюды ж *рыскура́ства, рыскура́ство, рыскура́т* ‘распуста’ (слаўг., Нар. словатв.), *рыскура́тнік* ‘распуснік’ (слаўг., Нар. словатв.), *рыскура́тны* ‘распусны’ (слаўг., Нар. словатв.).

**Рыска** ‘сібірская кошка дымчатага колеру’ (Нас. Доп.), *ры́скі* ‘трохколерны кот’ (Сцяшк. Сл.), ст.-бел. *рысоватый* ‘буры’ (XVII ст.), польск. *rysawy, ryszawy* ‘рудаваты’. Ад *ры́са* (гл.) з-за характэрнай паласатай афарбоўкі ката, параўн. славац. *rysý, rysavý* ‘стракаты’.

**Ры́ска** ‘зямельны ўчастак у 510 сотак’ (Выг.). Ад *рэ́заць* ‘наразаць зямлю’. Гл. *рэ́зка.*

**Ры́скаць** ‘ухіляцца ад курсу ў розныя бакі (пра судна)’ (ТСБМ), руск. *ры́скать* ‘бегаць у пошуках каго-, чаго-небудзь’, дыял. *рыставать* ‘бегаць у розных напрамках’, *риставанне* ‘спаборніцтва’, ст.-рус. *рискати* ‘бегчы’, ‘хутка ісці’, ‘скакаць’, ‘несціся’, ст.-харв. *riskati* ‘танцаваць’, ‘скакаць’, *ȑiskati se* ‘тоўпіцца, працісквацца (пра жывёл)’, *rištati* ‘цячы (пра ваду)’, балг. *ристалище, риса* ‘бадзяццца, шмат хадзіць’, *ри́сам* ‘бадзяцца’, ст.-слав. **рискати, рыскати** ‘бегчы’, ‘хутка ісці’, ‘несціся’, ‘скакаць’, ‘імкнуцца’, магчыма, сюды ж славен. *rízati se* ‘гуляцца’, ‘бавіцца’ (пра маладых жывёл, дзяцей) (Сной у Безлая, 3, 184). Прасл. **ristati: *riskati* (Куркіна, Этимология 1976, 24). І.-е. корань **risk* (*:*rist*) (і.-е. база **reiə-* : **ri-*, пашыральнік *-s-* (на прасл. глебе *-sk-: -st-*), корань **er- /*or- /*r-* ‘прыходзіць у рух’, ‘быць у руху’, ‘імкнуцца’. Параўн. літ. *rìstas* ‘перыяд цечкі (у жывёл)’, *risčià* ‘рыссю’, с.-в.-ням. *risch* (аснова **ri-sk-*) (Покарны, I, 326, 330–331; Скок, 3, 146–147; БЕР, 6, 265–266). Далей звязана з *рой, ры́нуць, рака́.*

**Рыска́я** ‘калючая’ (камян., ЛА 5). Ад *ры́зкая* < *рэ́заць* у выніку рэгрэсіўнай асіміляцыі, параўн. *рэская трава* ‘асака’. Гл. *рэ́знік*₁.

**Рыско́ўны** ‘смелы, рызыкоўны’ (Сцяшк. Сл.). Зрусіфікаваная форма ад *рызыко́ўны*, параўн. рус. *риско́ванный.*



**Рысо́к** ‘рубец’ (дзятл., Сл. ПЗБ). Утворана на базе польск. *rys* ‘лінія’, *rysa* ‘драпіна, расколіна, трэшчына’. Сюды ж *ры́сы* ‘насечкі’ (смарг., Сл. ПЗБ).

**Рысо́ра**, *рысо́ры, рэйсо́ры* ‘рысоры’ (в.-дзв., шчуч., Сл. ПЗБ), *рэсо́рка* ‘павозка на рысорах’ (Мат. Гом.). Запазычана з франц. *ressort* праз руск. *рессо́ра.*

***Распалог,** *рыспалог* ‘растэрміноўка’ (Бяльк.).

***Рыстароп** ‘цямкі, растаропны, разумны’, ‘бяздараж’ (Бяльк.), *рыстаропіца* ‘бездарожжа’ (Бяльк.). Русізм, параўн. рус. *расторо́пный* ‘хуткі, спрытны’.

**Рысу́нак**, *русы́нак* ‘малюнак’ (брасл., калінк., Сл. ПЗБ), ‘малюнак’, ‘чарцёж’ (Байк. і Некр.). З рус. *рису́нок.*

**Ры́сцік** ‘роў’ (Янк. Мат.). Памяншальнае ад *рышто́к* (гл.).

**Рысь**₁ ‘спосаб бегу жывёлы’ (ТСБМ), *рысі́ць* ‘бегчы рыссю’ (ТСБМ), *рыса́к* ‘пародзісты, рысісты конь’ (ТСБМ), *ры́сом* ‘рыссю’ (ТС), *рыся́ко́м* ‘рыссю’ (Юрч.), рус. *рысь, ры́сью, рысцо́й*, укр. *ристь*, ст.-руск. *ристію*. Звязана з рус. *риста́ть, ристаю, рищу* ‘бегчы’ (Фасмер, 5, 531). Няпэўна.

**Рысь**₂ ‘драпежная жывёліна’ (ТСБМ, Сцяшк.), *ры́ся* (Нас., Байк. і Некр.), рус. *рысь*, укр. *рись*, ст.-рус. *рысь*, польск. *ryś*, славац., чэш. *rys*, славен. *rȋs, rȋsa*, серб.-харв. *ри̏с*, балг. *рис*. Прасл. **rysъ:*rysь* ‘рысь’ з’яўляецца, хутчэй за ўсё, вынікам кантамінацыі з *rysъ* (< *ryd-sъ*) ‘руды’, ‘чырванаваты’, засведчанага праз в.-луж., н.-луж. *rysy* ‘руды’, польск. *rysawy* ‘рудаваты’, славац. *rysý, rysavý* ‘стракаты’, чэш. *rysý, rysavý, ryšý, ryšavý* ‘рудаваты’, *ryšán* ‘рудагаловы’, ‘ліс’ і далей роднаснае да *ры́жы, руда́, ру́сы* (БЕР, 6, 265). Але такое тлумачэнне адрывае славянскую назву ад іншых і.-е. назваў звера. Таму больш верагодным падаецца тлумачэнне з **lysь* з другасным *r* пад уплывам **rysъ* ‘руды, плямісты’. У апошнім выпадку трэба зблiжаць з літ. *lúšis* ‘рысь’, лат. *lusis* ‘рысь’, ст.-пруск. *luysis* , ст.-в.-ням. *luhs* ‘рысь’, ст.-англ. *lox*, грэч. λῦγξ (Махэк₂, 527). Кантамінацыя з **rysъ* магла абапірацца на матывы табу. Менш верагоднае тлумачэнне *-r-* уплывам **rzkati* (> бел. *рыкаць*) або словам *рваць*. Нельга даказаць запазычанне **rysь* з іранскага, паколькі падобнае слова да гэтага часу не занатавана ў іранскай мове (Фасмер, 5, 530–531 з літ-рай; Брукнер, 473; Чарных, 2, 131). Пачатковае *r-* можна тлумачыць і як адзінкавае пранікненне гукавой нормы іншага і.-е. дыялекта – іранска-

га – у славянскі. У іранскай і індыйскай адбыўся перабой агульнаеўрапейскага плаўнага *l* у іншы плаўны *r* (арыйскі ратацызм). "Іранская" форма **rusi* і адлюстравана ў слав. **rysь*. Гаворка тут ідзе не пра запазычанне з іранскай (у іран. мове слова не зафіксавана), а пра тое, што фанетычная заканамернасць (*l* > *r*), якая выступае як норма у адной групе моў, арыйскай, магла, у выглядзе выключэння, праявіцца адзінкавымі выпадкамі ў іншай групе, славянскай (Абаев, Этимология–1966, 261–262). Фанетычныя хістанні ў славянскіх назвах могуць тлумачацца спецыфікай самой семантэмы 'назвы жывёл'. Этымалагічна гэтыя назвы звязаны з і.-е. коранем **leuk[h]:*luk[h]* 'свяціць' па прыкмеце колеру светлай ззяючай скуры або вачэй звера (параўн. лат. *lûša spalvas zirgs* 'конь колеру рысі') (Гамкрэлідзэ – Іванаў, 511–512). Па версіі Махэка (Махэк$_2$, 527) тут было і.-е. **lŭk'*- з асновай на зычны, верагодна ад асновы **leu̯k'*- 'глядзець' (грэч. λεύσσω). Ён мяркуе, што тут былі 2 часткі слова, якія па сэнсе адпавядалі чэш. *ostrovid* (рысь бачыць і ноччу); у слэнгу старажытных паляўнічых слова было скарочана шляхам адкідання першай часткі. Пры такой моцнай дэфармацыі замест *l* пачало ўжывацца *r*, магчыма, з мэтай табу. Аб табу сведчыць і тое, што стара-рускія помнікі стараюцца не ўжываць назву *рысь*, а карыстаюцца *лютый зверь*. Па іншай версіі, славянскае *r* было першасным. Іншыя даводзяць, што слав. **rysь* наклалася на слав. **rysъ* 'стракаты', 'каляровы', 'чырванаваты', 'рудаваты', параўн. славен. *riságа* 'вінаградная лаза', польск. дыял. *rysawy* 'чырвоны', чэш. *rysý* 'тс', *rysavý* (Мацэнаўэр; Безлай, 3, 182).

**Ры́скі** 'ніткі, якія вісяць унізе падола старога адзення' (раг., Сл. ПЗБ). Памяншальнае ад *ры́са* (гл.).

**Ры́сьліць** 'рыхліць' (навагр., З нар. сл.). Дыялектная форма слова *ры́хліць*. Гл. *ры́хлы*. Няпэўна.

**Рытаві́на** 'калдобіна' (паст., Сл. ПЗБ; рас., Шат.; міёр., Нар. сл.), *рытві́на* 'узрытае месца' (Нас. Доп.), *рытаўя* калдобіны' (паст., Сл. ПЗБ). Ад *рыць* (гл.), як *свідраві́на*. Магчыма, аднак, што гэта запазычанне з польск. *rytwina*.

**Рытату́йня,** *рытату́йнасць, рыстату́йня, рыстату́йнасць* 'дурнота' (Янк. Мат.), *рытату́йна, рыстату́йна* 'бязглузды, дурны' (Янк. Мат.), *рытату́йный, рыстату́йный* 'бязглузды, дурны' (Янк. Мат.), руск. дыял. *ритату́ешник* 'клоун, камедыянт', *ритату́й* 'камедыянт', 'дурань, прыдурак', *ритату́йчик* 'кукла'. Магчыма, экспрэсіўнае ўтварэнне ад *ратату́й* 'французскае блюда'. З іншага боку параўн. чэш. *řititi se* 'скідвацъ', 'абрушвацца', 'абвальвацца', серб.-харв. *ри̏тати се* 'брыкацца', 'біць заднімі нагамі' (пра каня), балг. *ри́там, ры́там* 'брыкаць', 'лягаць', 'піхаць', якое да прасл. **rjutiti, rutiti* 'брыкацца'.



**Ры́тва** 'каляіна' (Сцяшк. Сл.). Утворана ад *рыць* (гл.), як *во́рыва, ку́рыва.*

**Ры́тка** 'выдумшчык, махляр' (Сцяшк. Сл.). Магчыма, звязана з польск. *rytka, retka* 'дэталь ткацкага станка для навівання пражы на навой', якое з ням. *Retkamm.* Наўрад ці можна збліжаць з серб.-харв. *ри̏та* 'лахман', 'галадранец', 'абарванец', не гледзячы на фармальнае падабенства.

**Ры́ткі** 'прыстасаванне для выроўнівання асновы пры навіванні на навой (дзве драўляныя планкі з дубцамі)' (ТС). Да *рэ́ткі* (гл.). Няясна. Параўн. славен. *rȋtek* 'пучок саломы для пакрыцця стрэх', *rȋtka* 'яблычная галінка', 'таўсцейшы канец снапа', *rȋtina* 'камель', харв. кайк. *rítek* 'салома, якой пакрываюць стрэхі'. Скок (3, 147) мяркуе, што гэта метафарычнае ўтварэнне ад *ȑit* 'podex'. Далей глядзі *ȑit* (Безлай, 3, 184). З іншага боку параўн. літ. *rite* 'шпулька', 'катушка', 'бабіна', *ritinȳs* 'валік', 'рулон', 'скрутак'.

**Рытні́к** 'той, хто капае' (Янк. Мат.). Ад *рыць* (гл.).

**Рыто́нда**, *рыто́н* 'ратонда' (воран., трак., ігн., Сл. ПЗБ), *рыто́рда* 'накідка з воўны' (Сл. Гродз.). З італ. *rotonda* 'круглая'.

**Рыто́рыка** 'тэорыя аратарскага мастацтва', *рытары́чны* 'напышлівы, упрыгожаны словамі' (ТСБМ), *ры́тар* 'прамоўца', 'настаўнік красамоўства' (ТСБМ). З грэч. ῥητορική.

**Рытуўё** 'чаранок у рыдлёўцы' (Бяльк.). Варыянт слова **рытаўё*, утворанага ад *рыць* (гл.).

**Рыўну́ць** 'капануць' (Янк. Мат.). Дзеяслоў для абазначэння аднаразовага дзеяння, утвораны ад *рыць* (гл.), як *крыкнуць.*

**Ры́хаць** 'кашляць' (Сл. Гродз.). Ад *ры́гаць* (гл.), але тады незразумелыя прычыны аглушэння зычнага *г.*

**Ры́хлік** 'акучнік' (міёр., Нар. сл.). Ад *ры́хліць* (гл.) з дапамогай суф. *-ік-* як *цягні́к, кры́цік* 'сноп накрываць мэндлікі' (Пра словаўтваральны тып глядзі Сцяцко, Афікс. наз., 41–42).

**Ры́хлы** 'порысты, рассыпісты, мяккі' (Нас., ТСБМ), *ры́хлы, ру́хлы* 'рассыпісты' (брасл., віл., Сл. ПЗБ), шпаркі, хуткі (Нас.), спрытны, увішны, хуткі ва ўсім чалавек (Пан.), хуткі ў рабоце' (ушац., ЛА), ст.-бел. *рыхлый, рихлый* 'хуткі', 'шпаркі' (XVI ст.), рус. *рыхлый*, польск. *rychły* 'хуткі, паспешны', славац. *rýchly* 'хуткі', 'жвавы', чэш. *rychlý* 'тс', в.-луж. і н.-луж. *rychły* 'хуткі'. Лексема адсутнічае ў паўднёва-славянскіх мовах. Прасл. **rychlъ*. Звязана з *рух, ру́шыць*, параўн. лат. *rusenis* 'вельмі рыхлы снег', *rūsa* 'смецце', літ. *ruošùs* (лат. *roušs*) 'клапатлівы', 'мітуслівы', 'дзейны', *ruõšti* 'рыхтаваць', 'збіраць', с.-н.-ням. *rusch*, ст.-ісл. *rúst* 'разваліны', нідэрл. *rul* 'рыхлы і сухі пясок' (Голуб–Копечны, 2, 320; Фасмер, 5, 532; Брукнер, 471; Чарных, 2, 131). Прасл. **rychlъ* (да **rychnǫti, *rysăti*, роднасных да **ruchnǫti, *rušiti*) (Варбат, Морфонол., 88–89). Польск. *rychle, rykle, rytle* 'сып, кароста, гнайнікі' з'яўляецца нямецкім запазычаннем, параўн., с.-в.-ням. *rücheln*, ням. *Röteln* 'краснуха', *Rütteln* 'трэсці, устрэсваць' (Брукнер, 471). Сюды ж *ры́хленько* 'скоранька' (Нас.). Два значэнні гэтага прыметніка ('хуткі' і 'рассыпісты, няшчыльны, мяккі') тлумачацца з асноўных значэнняў зыходных дзеясловаў з корнем **ruch-: *rъch-* 'рыць, капаць' > 'пасоўваць', 'ссоўваць з месца', 'разбураць'. Кожнае са значэнняў прыметніка прадстаўлена ў варыянтах з рознай агаласоўкай. Таму варта казаць пра адзінае ўтварэнне з суф. *-l-* і двума значэннямі, часткова размеркаванымі па дыялектах: у заходне-славянскіх прадстаўлена толькі 'хуткі', у паўднёва-славянскіх – толькі 'няшчыльны, мяккі' (Варбат, Морфонол., 88). Махэк адрознівае заходне- і ўсходнеславянскія лексемы. Ён сцвярджае, што ўсходнеславянскія трэба звязваць з *рух, рушыць*. Заходнеславянскія лічыць роднаснымі да літ. *rušėti* 'быць поўным', 'варушыцца', 'быць жвавым, актыўным, дзейным'. З доляй імавернасці лічыць, што існаваў дзеяслоў **rych-ati* і лексема *рыхлы* з'яўляецца скарочанай формай ад **rychaly* (якое ўтварылася як *dbaly* ад *dbati*) (Махэк$_2$, 527).

**Ры́хт**, *ры́хцік, рыхтык* 'якраз, дакладна' (ТСБМ; шальч., гарад., беласт., астрав., паст., Сл. ПЗБ; Сл. Брэс., Янк. 2; бераст., шчуч., пінск. ЛА, 3; Выг.), 'акурат, у момант, хутка' (Сцяшк.), *ры́хтык* 'вельмі падобны на каго-небудзь' (капыл., Нар. словатв.), 'якраз, якраз як', 'быццам, як' (Сцяц.), *ры́хцік* 'аднолькавы, падобны' (браг., З нар. сл.; в.-дзв., Шат.; Янк. Мат.), 'акурат' (калінк., З нар. сл.), 'дакладна', 'якраз', 'падобна', 'зусім' (ТС), *ры́хты* 'такі ж, падобны' (лях., Сл. ПЗБ), *рыхцю́сенькі* 'вельмі падобны' (Сцяшк. Сл.), *рыхцю́тко* 'якраз, вельмі добра' (Сл. Гродз.), *рыхт*: *рыхт у рыхт* 'такі самы' (ТСБМ), *рых* 'дакладна' (ТС), *ры́хтачкі* 'як дзве каплі вады', 'якраз', 'дакладна' (дзярж., Нар. сл.), 'падобны' (кіраў., Нар. сл.), *рыхты́чна* 'падобна' (Сцяшк. Сл.), *рыхты́чны* 'падобны' (Сцяшк. Сл.), *рэ́хт* выкл. 'няхай будзе так' (Нас.), 'накшталт, якраз' (ТС), 'досыць, даволі' (Шат., Ян.), *рэ́хта* 'канец, гатова' (ТС). Сюды ж *ры́сцік* 'хутка' (валож.). З ням. *richtig* 'правільны', 'патрэбны', 'сапраўдны', верагодней за ўсё праз ідыш.

**Рыхтава́ць** 'прыводзіць у стан гатоўнасці', 'гатаваць', 'працаваць над чым-небудзь' (ТСБМ), 'выпраўляць' (Яруш.), *рыхтава́цца* 'рабіць прыгатаванні', 'збірацца' (ТСБМ; віл., беласт., в.-дзв., Сл. ПЗБ; Гарэц.), *рихтовацьца* 'тс' (Нас.), *рыхту́нак* 'падрыхтоўка' (Сцяшк. Сл.), ст.-бел. *рихтовати* 'рыхтаваць', с.-в.-ням. *richten* 'накіроўваць' (Чартко, Дасл. па літ. і мове, Гродна, 1967). Сюды ж *рыхтова́ць* 'парадкаваць, раўняць канцы калод у плыце' (ТС).

**Рыхце́ць** 'кіпець' (Сцяшк. Сл.). Гукапераймальнае слова, утворана па мадэлі *пыхце́ць*.

**Ры́хчыцца**, *ры́шчыцца* 'знаходзіцца ў стане цечкі' (чэрв., віл., Сл. ПЗБ). Ад *ры́скаць* (гл.).

**Ры́цар** 'у сярэдневяковай Еўропе: феадал, які належаў да ваенна-землеўладальніцкага саслоўя, цяжка ўзброены воін' (ТСБМ), ст.-бел. *рыцеръ, рицеръ, рыцаръ, рыцэръ, рицэръ, ритеръ, рыдель, ридель* 'рыцар', руск. *ры́царь*, укр. *ри́цар, лі́цар*. Ва ўсходнеславянскія мовы трапіла з польскай, параўн. польск. *rycerz* 'тс', якое з с.-в.-ням. *ritter*, ням. *Ritter* 'рыцар' (Брукнер, 470–471; Фасмер, 3, 532; Чарных, 2, 132).

**Рыцы́на** 'алей з насення клешчавіны' (ТСБМ; шальч., трак., Сл. ПЗБ; ТС). Запазычана з польск. *rycyna* 'тс'. Параўн. літ. *ricinà* 'касторка'

**Рыць**$_1$ 'капаць' (ТСБМ, Нас., Бяльк., ТС), 'рыць (рылам)' (гродз., паст., астрав., вільн., Сл. ПЗБ; Гарэц.), 'падмываць бераг' (лід., Сл. ПЗБ), 'капаць бульбу' (ЛА 2, карта № 222), руск. *рыть*, укр. *ри́ти*, ст.-рус. *рыти*, польск. *ryć*, славац. *ryt'*, чэш. *rýti*, в.- луж. *ryć*, н.-луж. *ruś*, серб.-харв. *ри̏ти*. Прасл. **ryti* (Копечны, 314). I.-е. корань **reu- : *reue : *rū* 'рыць', 'ускопваць' (Покарны, 1, 868). Роднас-

нае да літ. *ráuti* 'вырываць, палоць', 'карчаваць', *ravėti* 'палоць', *rutìs* 'бульбяная яма', склеп', лат. *raût* 'рваць', 'дзёргаць', 'браць', ст.-пруск. *rawys* 'роў', лац. *ruo* 'абрушваюся', 'вырываю'; 'зграбаю'. Далей звязана з *рваць, роў, рыла* (Фасмер, 3, 531–532; Чарных, 2, 131; Махэк₂, 528; Скок₃, 148). Анікін выступае супраць генетычнай роднасці **ryjǫ/*rъvǫ* (Анікін, Этимология–1984, 31).

**Рыць₂** 'нагаворваць' (Янк. Мат.). Магчыма, скарочаная форма фразеалагізма *яму рыць*. Параўн. серб.-харв. *ри̏ти* 'вынюхваць', 'сачыць', 'шпіёніць'.

**Ры́цьвіна** 'парытае свіннямі месца' (Бяльк.). Ад *рыць₁* (гл.) з дапамогай суф. *-ін-а* як *выбо́іна, прага́рына* (пра словаўтваральную мадэль гл. Сцяцко, Афікс. наз., 42).

**Рыча́г** 'рычаг' (ТСБМ; навагр., Сл. ПЗБ), руск. *рыча́г*. У беларускую мову было запазычана з рускай. Паходжанне няяснае. Па адной з версій у рускую мову прыйшло праз польск. *rycząg* 'шворань на пярэдняй асі цялегі' праз с.-в.-ням. **rîtstange*, швед. *vridstång* 'тс'; ст.-в.-ням. *rîdan* 'круціць', швед. *vrida* 'тс' (Фасмер, 3, 532). Па другой мяркуюць, што ўзнікла з *роча́г* (параўн. рус. дыял. *ро́чег* 'рычаг', 'жэрдка'), якое з *рага́ч* у выніку перастаноўкі складоў (*рога́ч* > *роча́г*) і пераасэнсавання вытворнага ад *рог* слова, якое страціла сваю ўнутраную семантыку (Чарных, 2, 132). Няясна.

**Рыш** 'рыс' (гродз., Сл. ПЗБ). Запазычана з польск. *ryż* 'тс'.

***Рышка**, *рі́шка* 'будынак з печкай для сушкі снапоў' (ДАБМ). Запазычанне з руск. *ри́га* 'памяшканне для малацьбы', 'пуня', 'адрына', 'гумно', якое з фін. *riihi* 'тс' (Фасмер, 3, 482).

**Рышт₁** 'рыштаванне пры пабудове зруба вышэй вокнаў' (ТС), 'козлы для падоўжанай распілоўкі калод' (ТС), *ры́шты, рэ́шты, ра́шты* 'прыстасаванне ў возе для пашырэння яго пагрузачнай пляцоўкі' (Нар. словатв.). Усечаная форма ад *рыштава́нне* (гл.), *рышту́нак*.

**Рышт₂** 'месца, дзе цячэ невялікая рэчка' (міёр., НС), 'роў, ручай' (Бяльк.), 'канава' (Нас.), 'ручай, рэчышча, роў' (клім., ЛА 5), 'канава' (Гарэц., Яруш.), *ры́шта* 'канава' (Жд. 3). Ад *рышто́к* (гл.).

**Рышта́нт** 'свавольнік', 'распуснік' (віл., НС; Сл. Гродз.), валацуга, злодзей (ТС), злодзей, нягоднік (Янк. Мат.), *рышта́нец* 'арыштант', 'хуліган' (Янк. 2), *рышта́нтскій* 'нягодніцкі' (Янк. Мат.), *рышта́нтства* 'нягодніцтва' (Янк. Мат.).



**Рыштава́нне** 'часовае будаўнічае збудаванне' (ТСБМ), 'часовыя падмосткі звонку зруба' (Сцяшк.; Інстр. 2), 'падмосткі пад стог' (ДАБМ, 878), *рыштава́не* 'рыштаванне' (лід., паст., Сл. ПЗБ), *рышта́к, рышто́ўка, рышту́нак* 'рыштаванне' (лельч., добр., ельск., жытк., Сл. ПЗБ), *рыштова́нне* 'рыштаванне', 'падмосткі', *рыштова́ць* 'рабіць падмосткі', *рыштова́цьца* 'падмашчывацца', 'жульнічаць', *рышту́нокъ* 'падмосткі', 'падстаўка' (Нас.), *рыштава́ць* 'рабіць падмосткі' (Гарэц.), ст.-бел. *рыштованье, рештованье, риштованье, роштованье* 'рыштаванне' (1514). Запазычанне з польск. *rusztowanie*, *rynsztunek* 'узбраенне', 'рыштунак', якія ў сваю чаргу з ням. *Rüstung* 'узбраенне', 'рыштунак', *rüsten* 'рыхтаваць', 'забяспечваць'.

**Рышто́к** 'вадасцёкавая канава' (ТСБМ, Сцяшк.; смарг., шчуч., шальч., Сл. ПЗБ; маладз., Янк. Мат.; Бір. Дзярж.), 'паток' (швянч., Сл. ПЗБ), 'затока' (трак., Сл. ПЗБ), 'сцежка' (лід., Сл. ПЗБ), 'паз у столі' (шальч., Сл. ПЗБ), *рышто́ка* 'затока' (чэрв., Сл. ПЗБ), *рыштко́м, рышто́кам, рыштако́м, рышто́камі* 'цуркам' (шальч., воран., трак., слонім, Сл. ПЗБ), *рышт* (паст., Сл. ПЗБ), *рышто́кі* 'рагі поту, слёзы на твары', 'пацёкі на вокнах' (воран. ЛА 3), ст.-бел. *риштокъ, рыншторкъ* 'сцёкавая канава' (1580). Запазычанне з польск. *rynsztok* < с.-в.-ням. *rinnstok*, ням. *Rinnstock* 'тс' (Булыка, Запазыч., 290).

**Рышто́чнік** 'званочак' (Кіс.). Утворана ад *рышто́к* (гл.), паколькі расліна расце на ўзбоччы дарог, каля вадасцёкавых канаваў.

**Рышту́нак** 'набор неабходных для працы прыстасаванняў' (ТСБМ, Гарб.), ст.-бел. *рыштунокъ, риштунокъ, ринштунокъ, рынштунокъ* 'рыштунак' (1530). Запазычана праз польск. *rynsztunek* 'узбраенне', 'рыштунак' з ням. *Rüstung* 'рыштунак'.

**Ры́шты** 'вышкі ў хляве' (стол., Нар. сл.). Ад *рышт₁* (гл.).

**Рышчы́ны** 'размоклыя хлебныя крошкі ў квасе', (Цых.). Ад *рашчы́на, ро́шчына* (гл.).

**Рышшыбуня́ць** 'раскідаць' (чавус., Нар. сл.). Утворана ад *рас-* і *шы́бень* 'палка', *шыбава́ць* 'хутка, жвава, імкліва рухацца', *шыба́ць* 'кідаць, шпурляць', *шы́бка* 'хутка, шпарка', *шы́бельны* 'свавольны', 'гарэзлівы'.

**Рышэльé** 'ажурная вышыўка' (ТСБМ), *рышыльé* 'від вышыўкі' (Сцяшк.). З франц. *Richelieu* – імя кардынала.

**Рэ-** прыстаўка са значэннем 'аднаўленне або паўторнасць дзеяння; процілеглае дзеянне або супрацьдзеянне' (ТСБМ). З лац. *rĕ-* (*rĕd-*) 'тс' (Брукнер, 456).

**Рэáльны** 'які існуе ў рэчаіснасці', 'які можа быць здзейснены' (ТСБМ). Паўторнае запазычанне з рус. *реальный*. Ст.-бел. *реалный* 'рэальны' < ст.-польск. *realny* 'тс' < с.-лац. *realis* 'тс' (Булыка, Лекс. запазыч., 196).

**Рэ́бахі** мн. л. 'махлярскія даходы' (Нас.). Магчыма, з ідыш *reveh* 'даход, прыбытак'. Польск. арг. *rebucha* 'хабар', *rebuszka* 'гасцінчык' выводзяць з ст.-яўр. *rebuchem* 'хабар' (Каня, Słownik, 188).

**Рэ́бе** 'спадар (*пры звароце да яўрэя*)' (Нас.). З ідыш *reb* 'спадар (*зварот*)' < ст.-яўр. *rabbī* 'настаўнік (*зварот*)'. Магчыма, форма *рэбе* ўтварылася пад уплывам клічнага склону (параўн. *пан – пане*). Гл. яшчэ *рабін₁*.

**Рэбезá**, *рэбéзнік* 'ірдзест (расліна)' (ТС). Магчыма, суадносіцца са славацк. *ríbezle* 'парэчкі' (і парэчкі, і ірдзест растуць каля рэк), серб. і харв. *ribīz*, *ribizl* 'тс', славен. *ribez* 'тс' < ням. *Ribisel*, якое з познелац. *rybes(ium)* < араб. *rībās* 'гатунак рэвеня'(Скок, 137; Сной, 537).

**Рэбраплóднік** 'расліна Pleurospermum' (Кіс.). Назва ўтворана шляхам асноваскладання ад *рабро* (гл.) і *плод* (гл.) паводле знешняга выгляду плода, які мае вострыя канты.

**Рэ́бры₁** 'лазовыя дубцы, якімі сплятаюць нерат' (Жыв. НС). Перанос паводле знешняга падабенства. Гл. *рабро*.

**Рэ́бры₂** 'басаножкі' (Мат. Гом.). Відавочна, ад *рабро* (гл.), перанос паводле знешняга падабенства. Падобная семантычная мадэль у рус. *рéмни* 'сандалі'. Але нельга выключыць, што лексема ўтворана шляхам фанетычных змен паводле народнай этымалогіі на базе першапачатковага *трэпы*, *трэбы* 'абутак на драўлянай падэшве; басаножкі', *дрэпы* 'абутак на драўлянай падэшве' (ЛА, 4). На семантыку маглі паўплываць *дрэбы*, *драбы* (гл.) 'рэбры ў кошыку' (ЛА, 4). Гл. далей *трэпы*.

**Рэбрэ́й** 'балотная расліна з вузкімі лістамі і чатырохкутнай разеткай іх унізе' (ТС). Параўн. чэш. *řebříček* 'крываўнік', славац. *rebrica* 'парэзнік', серб. і харв. *рѐбрац* 'крываўнік'. Магчыма, паводле знешняга падабенства ад *рабро* (гл.).



**Рэ́бус** 'тып загадкі' (ТСБМ). З рус. *ребус* 'тс' < ням. *Rebus* < фр. *rébus*. Радзімай рэбусаў лічыцца Пікардыя (Францыя), дзе, пачынаючы з XV ст., на карнавалах ладзіліся сатырычныя агляды мясцовага жыцця, якія называліся па-лацінску *de rēbus quae geruntur* 'пра бягучыя справы', дзе *rēbus* – мн. л. Тв. скл. лацінскага *rēs* 'рэч; справа' (Брукнер, 457; Фасмер, 3, 454; Сной, 528). Іначай лічыцца, што крыніцай слова стала лацінскае выслоўе *non verbis sed rēbus* 'не словамі, а рэчамі', якое таксама звязваюць са згаданымі карнаваламі (E. Cobham Brewer, Dictionary of Phrase and Fable, 1898).

**Рэ́ва** 'плакса' (Янк. Мат.). Укр. *рéва* 'тс', рус. *рёва* 'тс'. Да *раўці* (гл.).

**Рэ́вала** 'крыкуха' (Ян.). Балг. *ревла* 'тс'. Ад *раўці* (гл.) + суфікс *-ал-а*, які характарызуе асобу па інтэнсіўнай знешняй прыкмеце з экспрэсіяй зніжанасці (Сцяцко, Афікс. наз, 93–94).

**Рэ́вень₁** 'рэвень' (ТСБМ). З рус. *ревень*, якое з тур. *rävänd* 'тс' < пярс. *rāvend* 'тс' (Фасмер, 3, 454). Паводле Праабражэнскага, запазычана з цюрк. *равéнд* або, магчыма, з рум. *revent* (2, 191). Паводле Брукнера, польск. *rzewień* з рус. *ревень* < грэч. *rheion*, якое выводзяць ад старажытнай назвы Волгі *Rha* (Брукнер, 456).

***Рэ́вень₂** *рэвынь* 'невялікая студня на балоце' (Нар. сл.), 'прыродная яма на балоце, дзе звычайна ловяць рыбу' (Яшк.), *рэвэнь* 'ямка з вадой, крыніца' (малар., Нар. лекс.). Укр.-палес. мікратапонімы: *Ревине болото*, рака і балота *Ревна*; рус. дыял. *ревень* 'калодзеж', *равéнь* 'тс; лагчына, дзе ўвесну стаіць вада', балг. *ровйна* 'роў, яма'. Бадуэн дэ Куртэнэ звязвае з *роў₁*, *рыць* (гл.), прыводзячы ў падтрымку гэтай версіі іншую назву калодзежа *кóпанец* < *кáпаць* (Даль₃, 3, 1461), але значэнне 'крыніца' наводзіць на думку аб сувязі з *рэяць* 'цячы, струменіць' (гл. *рэяць₁*). Відаць, дзве розныя па паходжанні лексемы маглі з часам супасці па форме.

**Рэвідавáць** 'анатаміраваць' (смарг., Сл. ПЗБ). З польск. *rewidować* 'пераглядаць; абшукваць' < лац. *revidēre* (Булыка, Лекс. запазыч., 33).

**Рэвíзія** 'праверка, перагляд' (ТСБМ). Ст.-бел. *ревизия* (*ревизыя*) 'тс' < ст.-польск. *rewizyja* < лац. *revīsio* 'зноў аглядаць' (Булыка, Лекс. запазыч., 33).

**Рэвізо́р** 'той, хто робіць рэвізію, кантралёр' (ТСБМ). Ст.-бел. *ревизоръ* 'тс' < ст.-польск. *rewizor* < лац. *revīsor* (Булыка, Лекс. запазыч., 24) < лац. *rĕvīso* 'зноў гляджу (аглядаю)'.

***Рэві́ла** *рэвіло* 'усеагульны роў; плакса' (ТС). Экспрэсіўная форма з адценнем узмацняльнасці ад *раўці* (гл. *роў₂*), аналагічна *мазіла* 'мазь' (З нар. сл.), *равула* 'румза' (Нар. лекс.).

**Рэ́вот** 'страшны роў, рыканне, шум; крык, плач' (ТС). Укр. *ревіт*, славацк. *revot* 'шум, роў'. Магчыма, бязафікснае ўтварэнне ад **рэвата́ць* (параўн. рус. наўг. *ревотать* 'іржаць'), мадэль як *рагатаць – рогат*.

**Рэ́вох** 'страшны роў, рыканне, шум; крык, плач' (ТС). Экспрэсіўнае ўтварэнне ад *роў₂* (гл.). На форму магла яшчэ паўплываць лексема *рэйвах* (гл.).

**Рэ́воцень** 'плакса' (ТС). Экспрэсіўная форма з адценнем асуджэння ад *раўці* (гл.).

**Рэ́га** 'рыбалоўная прылада (аснова з дрэва з нацягнутай сеткай)' (Мат. Гом.). Магчыма, звязана з літ. назвай палазоў *rãgai*. Параўн. семантыку назваў рыбалоўных прылад *полаз* (гл. *полаз₂*), *сані*.

**Рэгава́нне** 'матэрыял, якім пакрываецца вата пры пашыве ватняга адзення' (шальч., Сл. ПЗБ). Гл. *рыгаванне*.

**Рэга́лы** 'калёсы для перавозкі снапоў і сена' (брасл., Сл. ПЗБ), *рыгалы* 'спецыяльная рама на возе' (пух., Жыв. сл.). Рус. *ре́гель* 'падпорка, перакладзіна; даўгая тонкая планка'. Відаць, з польск. *rygiel* 'бэлька' < сяр.-н.-ням. *regel* 'рычаг, падпорка', першакрыніца нар.-лац. *regula* 'кій, планка' (Фасмер, 3, 457). Форма *дры́галы* 'жэрдкі, прымацаваныя да калёсаў вазіць бярвёны' (Стан.) утварылася паводле народнай этымалогіі ад *дрыгаць*.

**Рэ́галь** 'невялікі пераносны арган XVI–XVIII ст.' (Булыка, СІС). Ст.-бел. *рекгалъ* (*регалъ*) 'невялікі арган' < ст.-польск. *regał* 'тс' < ням. *Regal* 'тс' (Булыка, Лекс. запазыч., 166).

**Рэ́гаць,** *ры́гаць* 'рыпаць, брымкаць' (ТС), *рэгацца* 'моцна брахаць' (Ян.). Славен. *régati* 'квакаць', серб. і харв. *ре̏гати*, *регѐтати* 'рычаць', *ре̏га* 'рык'. Прасл. **regati*, гукапераймальны корань **rech-* (Бязлай, 3, 167). Гл. яшчэ *рогат*.

**Рэге́ля,** *рагеля* 'від кломлі (рыбалоўная прылада)' (ТС). Укр. *раге́ля* 'рэдкая сетка для лоўлі ракаў'. Магчымая сувязь з літ. назвай палазоў для перацягвання бараны *ragelès*. Параўн. семантыку назваў рыбалоўных прылад *полаз* (гл. *полаз₂*), *сані*.



**Рэ́гент** 'часовы правіцель манархічнай дзяржавы; дырыжор хору, пераважна царкоўнага' (ТСБМ). Ст.-бел. *реентъ* 'начальнік канцылярыі' < ст.-польск. *regent, rejent* < лац. *regēns, -ntis* 'кіраўнік' (Булыка, Лекс. запазыч., 59). Значэнне 'дырыжор' з рус. *ре́гент* 'тс'.

**Рэгеро́й** 'рубероид' (Сл. ПЗБ). Скажонае *руберойд* (гл.) з адпадзеннем канцавога зычнага.

**Рэ́гі₁** мн. 'маленькі ручаёк, які сцякае па чым-небудзь' (Янк. Мат.). Гл. *рага*.

**Рэ́гі₂** мн. л. 'рогат' (Стан.). Бязафікснае ўтварэнне ад *рэгаць* (гл.).

**Рэ́гнуць** 'прагнуць, жадаць' (Ян.). Укр. *регнути* 'вельмі хацець', польск. дыял. *rechać się* 'пра свінню: юравацъ', каш. *reχac są* 'тс', палаб. *ragni-sǎ* 'рухаецца'. Прасл. **regnǫti* звязана з дзеясловам **regotati*. Тут значэнне 'смяяцца' другаснае, першаснае – 'іржаць'. Цэлы шэраг дзеясловаў, якія абазначаюць роў жывёлаў, адначасова абазначаюць і працэс цечкі, гону, бо звычайна менавіта гэты перыяд характарызуецца ровам, параўн. рус. *рёв* 'час цечкі ў скаціны; роў'. Слова *рэгнуць* – відаць, першапачаткова азначала 'быць у перыядзе палавай актыўнасці', а потым набыло больш адцягненае значэнне 'хацець, імкнуцца'. У плане семантыкі параўн. яшчэ в.-луж. *rjut* 'спешка, страснае жаданне' < **r'uti* 'раўці' (Мяркулава, Этимология–1974, 61).

**Рэ́готы** 'драўляная пасудзіна ў выглядзе карыта, у якой мялі сукно' (З нар. сл., Сл. Брэс.). Няясна. Магчыма, звязана з польск. *rechot* 'роў, напоўнены вадой', бо першапачаткова для апрацоўкі сукна маглі выкарыстоўваць роў з вадой, а пазней ужо пасудзіну. Польскае слова Ліндэ выводзіць з франц. *rechaud de rempart* 'абарончы вал; роў' (Ліндэ, 5, 34). Магчымая семантычная паралель: польск., чэш. *koryto* 'рэчышча' – *карыта* 'пасудзіна'.

**Рэгра́цыя** 'вольны час, адпачынак; лёгкая праца' (Нас.). Ст.-бел. *рекрацыя* 'тс'. Параўн. яшчэ славац. *regrácia* 'забава'. Гл. *рэкрэацыя*.

**Рэ́гты** адз. л. няма 'гучны смех' (Янк.). Славацк. *rehot* 'рогат; іржанне', польск. *rechot* 'кваканне; рогат', чэш. *řeht* 'тс'. Параўн. яшчэ укр. выраз *реготы беруть* 'вельмі смешна'. Бязафікснае ўтварэнне ад *рэхтаць* (гл.).

**Рэ́гула** 'правіла' (Нас.), *рэгул* 'канец' (відаць, больш дакладна 'мера') (Жд. 3). Ст.-бел. *рекгула* (*регула*) 'правіла; каталіцкі

манастырскі статут’ < ст.-польск. *reguła* ‘тс’ < лац. *rēgŭla* ‘норма, правіла’ (Булыка, Лекс. запазыч., 180).

**Рэ́далі** ‘калёсы з высокімі драбінамі, на якіх возяць сена’ (ЖНС, Касп., Крыў., Са сл. Дзіс., Сцяшк. Сл., Нар. лекс.), *рэдаль* ‘тс’ (брасл., Сл. ПЗБ, Хрэст. дыял.), *рӑдыли* ‘тс’ (смал.). Гл. *арэдалы*.

**Рэ́дзель** ‘лапата’ (Сцяшк. Сл.). Гл. *рыдзель*.

**Рэ́дзіва** ‘што-небудзь рэдкае’ (ТСБМ). Славацк. *redïvo* ‘рэдкае палатно’. Ад *рэдкі* (гл.) + *-ів-а*.

**Рэ́дзіна** ‘сетка ў масцы ад пчол’ (Рам., 8). Рус. *ре́день* ‘рэдкая тканіна’, польск. *rzędzina* ‘тс’, серб., харв. *редина* ‘тс’, славацк. *riedina* ‘рэдкі лес’. Прасл. **rědina*. Да *рэдкі* (гл.).

**Рэдзо́вы** ‘жытні’ (смарг., Сл. ПЗБ). Магчыма, кантамінацыя лат. *rudzi* ‘жыта’, *rudzāji* ‘жытняя салома’ і *разовы* ‘буйна змолаты’ (Сл. ПЗБ). Гл. яшчэ *разоўка*.

**Рэдзь**$_1$ ‘столка’ (ТСБМ, Жд. 3, Мат. Гом., Ян., Янк. Мат., Сл. ПЗБ), ‘раз; чарга; адзінка вымярэння; столка’ (Байк. і Некр., Касп., Нас.), *рэ́дка, рэ́дачка* ‘тс’ (Юрч. СНЛ), *радзь* ‘столка’ (докш., Сл. ПЗБ). З пераасэнсаваннем кораня пад уплывам народнай этымалогіі ■ польск. *ryza, reza* ‘стос (паперы)’ < ням. *Ries* ‘тс’.

**Рэдзь**$_2$, *рэць*, ‘рыбалоўная сетка з рэдкага палатна’ (віц., калін., ЛА, 1; ашм., Сл. ПЗБ; ТС), ‘знешнія сценкі рыбалоўнай сеткі’ (Жыв. НС, З нар. сл.). Бязафікснае ўтварэнне ад *рэдкі* (гл.).

**Рэ́дзька**$_1$ ‘рэдзька (Raphanus sativus L.)’ (ТСБМ, Байк. і Некр., Бяльк., Сл. ПЗБ, Сцяшк. МГ, ТС, Шат.), *рыдюха, рыдчек, рэдзечка, рюткiвка, рэдзько́ўка* ‘свірэпа, Barbarea vulgaris R. Br.’ (ЛА, 1), *рэ́дзіна* ‘павелічальнае ад рэдзька’ (Нас.), *рэ́дзьчына* ‘адна рэдзька’ (Нар. словатв.). Укр. *ре́дька*, рус. *ре́дька*, польск. *rzodkiew*, в.-луж. *řetkej*, н.-луж. *ŕatkej*, чэш. *ředkev*, славац. *red’kovka*, славен. *rêdkev*, серб. і харв. *ро̏тква*, макед. *‘рдоква*, балг. *ръдоква* ‘рэпа’. Прасл. **redьky* (Чарных, 2, 106). Даўняе запазыч. з герм. **redicō*: ст.-в.-ням. *retih*, ням. *Rettich* < лац. *rādix* ‘корань; рэдзька’ (Праабражэнскі, 2, 194; Фасмер, 3, 460).

**Рэ́дзька**$_2$ ‘стрыжнёвы корань’ (Інстр. 3). З польск. *rdzeń* ‘сарцавіна; стрыжань’ пад уплывам *рэдзька*$_1$ паводле знешняга падабенства.

**Рэ́дзясь** ‘рэдкае палатно’ (ЖНС). Ад *рэдкі* (гл.). Форма, магчыма, па аналогіі з *дробны* > *дробязь*.



**Рэ́дкі** ‘вадзяністы; не густы; не часты’ (ТСБМ, Байк. і Некр., Жд. 3, Жыв. НС, Нас., ПСл, Сл. ПЗБ, ТС, Ян.), *рэ́дкій* ‘тс’ (Бяльк.); *рэ́дкі* ‘рэдкая бульба (суп)’ (Мат. Гом.), *рэ́дкія* ‘тс’ (Нар. словатв.), ‘тс’ (Сцяшк. МГ), ‘тс’ (Шатал.), *рэ́дкае* ‘тс’ (ЛА, 4), *рэ́дкое* ‘тс’ (ТС), сюды ж *рэ́дзіць* ‘рабіць рэдкім, прарэджваць’ (ТСБМ, Касп.), *рэ́джаный* ‘прарэджаны’ (Юрч. СНЛ). Укр. *рідкий*, рус. *ре́дкий*, польск. *rzadki*, палаб. *rjodke*, н.-луж., в.-луж. *rědki*, чэш. *řídký*, славац. *riedky*, славен. *rédek*, серб. і харв. *ре̑дак*, макед. *редок*, балг. *рядък*, ст.-слав. **рѣдъкъ**. Прасл. **rědъkъ*. Роднасн. літ. *rētas* ‘рэдкі’, лат. *rets* ‘тс’, лац. *rēte* ‘мярэжа’ (Фасмер, 3, 458; Махэк$_2$ 532; Сной, 529).

**Рэ́дчык**$_1$ ‘рэдка сатканая тканіна, марля’ (Бяльк., Жд. 2; чач., Жыв. НС, Мат. Гом., Нас.), *рэдчак* ‘тс’ (ПСл), *рэччакі* ‘тс’ (паст., Сл. ПЗБ). Да *рэдкі* (гл.).

**Рэ́дчык**$_2$ ‘чапец (складка брушыны)’ (чач., Жыв. НС, Шатал.). Магчыма, семантычны перанос паводле знешняга падабенства, ад назвы рэдка сатканай тканіны (гл. *рэдчык*$_1$) на другі аддзел страўніка жвачных – *сетка* (гл.), а потым і на частку брушыны. Да *рэдкі* (гл.).

***Рэ́дчыкі** *рэ́ччыкі* ‘бульбяны суп’ (івац., Нар. словатв.), *рэ́ччыкі* ‘рэдкі суп’ (стаўб., Сл. ПЗБ). Відавочна, ад *рэдкі* (гл.), параўн. яшчэ назвы бульбянага супу *рэ́дкія* (маг., Нар. словатв.), *рэ́дкая картошка* (бяроз., глус., акц., ЛА, 4). Таму неапраўдана параўноўваць фанетычны запіс беларускага слова, дзе [-чч-] < *-дч-*, з рускім *речи́ки, речеги* ‘дробныя часткі, аскепкі, чарапкі’, і суадносіць яго з чэшскім *proráčit* ‘праламіць’, літоўскім *ràkti* ‘калоць вострым прадметам’, матывуючы тым, што ‘бульбяны суп’ – гэта ‘суп з накрышанай, рэзанай бульбы’ (Гарачава, Этимология–1985, 65–66), тым больш што існуюць і такія назвы бульбянога супу, як *кры́шанка* (гл. *крышыць, крыха*), *рэ́занкі* (гл. *рэзанка, рэзаць*).

**Рэе́стр** ‘пералік, спіс’ (ТСБМ, Нас.). Ст.-бел. *реестръ* ‘рэестр’ < ст.-польск. *regestr, registr, rejestr* ‘тс’ < с.-лац. *register* (Булыка, Лекс. запазыч., 57).

**Рэж** ‘падклад, на якім раскладаюць вогнішча’, ‘дзёран, якім абкладваюць драўніну пры выпальванні вуглю’ (Інстр. 3), *рэ́жа* ‘дзёран’ (Мат. Гом., ПСл), *рэ́жык* ‘тс’ (Мат. Гом.). Магчыма да *рэзаць* (гл.), паколькі дзёран наразалі пластамі, параўн. славен.

*reža* 'прарэха, шчыліна', *reženj* 'кавалак, луста'. Нельга выключыць уплыў народнай этымалогіі на ям. *Rasen* 'дзірван'.

**Рэ́жа₁,** *рэж, рыж* 'палатно для рыбалоўных сетак з буйнымі вочкамі' (мін., гом., ЛА, 1), *ре́жа* 'тс' (Нар. лекс.). Сюды ж *рэжо́ўка* 'двухпалотная рыбалоўная сетка з буйнымі і дробнымі вочкамі' (ПСл, ТС), *рэжу́ха* 'тс' (ТС). Укр. *режь* 'крыло рыбалоўнай сеткі', рус. *режь, режа* 'рэдкая рыбалоўная сетка'. Прасл. **rědia*. Да *рэдкі* (Фасмер, 3, 461).

**Рэ́жа₂** 'даўгі капец бульбы' (ЛА, 2). Фанетычна змененае *рэз₃* (гл.), дзе адбыўся пераход *-j-* > *-ž-*, магчыма, пад уплывам *рэж* (гл.).

***Рэ́жаць,** *рэ́жэць* 'пясчанае поле' (ЛА, 2). Няма пэўнасці, што слушна вызначана семантыка: *жоўты пясок, што там будэ, ек там самэй рэжэць.* Адзінкавая фіксацыя, усе астатнія назвы тым ці іншым чынам звязаныя з лексемай *пясок*. Можна дапусціць уплыў *рэжа* 'дзёран; дзірван' (гл. *рэж*).

**Рэ́жка** 'металічная рашотка' 'краты' (смал., КЭС). Рус. курск. *ре́жка* 'лёгкі плот, палісаднік'. Да *рэдкі* (гл.).

**Рэжонэ́** 'непрыемнасці, небяспека' (Сцяшк. Сл.). З ілюстрацыі (*чаго ты лезяш на рэжонэ)* відавочна ўжыванне фразеалагізма *лезці на ражон* 'рабіць што-небудзь рызыкоўнае', да таго ж *рэжонэ* – гэта форма множнага ліку ад *ражон* (гл.).

**Рэ́жчык** 'бандарская прылада, якой робяць выразы ў клёпках' (Нар. сл.). Да *рэзаць* (гл.).

**Рэ́жчыкі** 'бульбянік, аладка з варанай бульбы' (Ян.). Рабіліся з рэзанай бульбы. Да *рэзаць* (гл.).

**Рэ́жык** 'сцізорык' (Сцяшк. Сл.), *рэжыкі* 'нажніцы' (Сл. Гродз., Сл. рэг. лекс.). Да *рэзаць* (гл.).

**Рэ́жыха крынічная** 'буйміна; жыруха; ражуха крынічная' (Cardamine amara L.)' (Касп.). Рус. *режу́ха*, польск. *rzeżucha* 'буйміна', чэш. *řeřicha* 'крэс-салата', славац. *roripa* 'жарушнік, (Rorippa)', літ. *rėžiūkas* 'кустоўнік'. Даль лічыць, што рус. *режуха* скажонае *жеруха* (Даль, 3, 1764), гл. далей *жарушнік*.

**Рэз₁** 'месца разрэзу; разрэз' (ТСБМ, Мат. Гом., Сцяшк. МГ), *рэ́зік* 'тс' (Юрч. СНЛ), 'адзін праход пілой' (ТС), *рэзь* 'месца распілоўкі' (Мат. Гом.). Сюды ж *рэ́за, ры́за, рі́зка* 'пілавінне' (ЛА, 1). Укр. *різ*, рус. *рез*, польск. *rzez*, в.-луж. *rěz* , чэш. *řez*, славац. *rez*, славен. *réz*, серб.-харв. *ре̑з*, макед. *рез*, балг. *ряз*. Прасл. * *rězъ*. Бязафікснае ўтварэнне ад *рэзаць* (гл.).



**Рэз₂** 'паласа зямлі, надзел, ніва' (Байк. і Некр., Касп., Нас., Хрэст. дыял., Шат., Шатал., Яшк., Выг.), *рыз, ры́ска, рэ́ска* 'зямельны надзел у 5–10 сотак' (Выг.), 'даўняя мера зямельнай плошчы (8 дзесяцін, 10 га)' (ТС), *рэс, нарэ́з* 'паласа ворнай зямлі' (ЛА, 2). Бязафікснае ўтварэнне ад *рэзаць* (гл.), параўн. яшчэ *секъ* 'адзінка колькасці мяса' (Ст.-бел. лекс.). Няма падстаў лічыць лексічным літуанізмам, як прапануе Лаўчутэ (Лаўчутэ, Балтызмы, 72), а таксама нельга пагадзіцца з Дайлідэнасам, які лічыць гэтую форму семантычным літуанізмам (Бел. мова, вып. 15, 80). Гл. яшчэ *рэзас*.

**Рэз₃** 'забой скаціны' (Байк. і Некр., Нас., Гарэц.). Рус. *ре́зка* 'тс', польск. дыял. *rzeź* 'тс', в.-луж. *rěz* 'разрэз; забой скаціны; лязо; пілавінне'. Ад *рэзаць* (гл.).

**Рэз₄** 'дарога (за прысядзібным полем)' (Мат. Гом.), *рэ́за* 'глухія, пустэльныя і гразкія месцы' (Яшк.). Укр.-палес. мікратапонім: луг *Рэ́зкі*. Магчымае развіццё семантыкі 'надзел' < 'надзел, адрэзаны ў аддаленым месцы' < 'глухое месца'. Да *рэз₂* (гл.). Але калі ўзяць пад увагу рус. цвяр. *ре́зы* 'участак зямлі, з якога зразаецца пад ворыва зацвярдзелы верхні пласт', тады да *рэж* (гл.).

**Рэ́занка** 'бульба (рэзаная, насенная)' (Мат. Гом.; маст., Сл. ПЗБ, ТС), *рэ́зынка* 'тс' (Яўс.), *рэ́занка, рэ́занчык* 'адзін кавалачак пакрышанай бульбы' (Вешт.), *рэ́занка* 'рэзь у жываце' (Нар. словатв., Нас.), 'хустка без махроў' (ПСл), 'хустка (паўшарсцяная)' (Мат. Гом.), *різанка, рызанка* 'невялікая галаўная хустка' (Сакал.), *рэза́нка, рэза́нчык* 'адрэзаны кавалак сала' (ТС), сюды ж *рэзанік* 'звараная неабіраная перарэзаная бульбіна' (Нар. словатв.), *рэзанікі* 'тс' (ТС, Шатал.), *рэзакі, рэзанкі, рэзуны́, рэзу́нкі* (Вешт. яшчэ назва *палавінкі*), *рэзаны́* 'тс' (ТС), *рэзьнікі* 'тс' (ваўк., Сл. ПЗБ); *рэзанкі* 'бульбяны суп' (ЛА, 4, ПСл), *рэзкі* 'тс' (ЖНС), *рэ́занка, рэзкі* 'тс' (ТС). Параўн. славац. *rezance* 'локшыны', серб. і харв. *реза́нци* 'тс'. Ад *рэзаць* (гл.).

**Рэ́занне** 'парэзаны лесаматэрыял, дровы' (Юрч. СНЛ), 'сварка' (Жд. 2). Славацк. *rezina* 'пілавінне'. Ад *рэзаць* (гл.).

**Рэ́зас** 'надзел; загон' (ЛА, 3; воран., Сл. ПЗБ). З літ. *rėžis* 'тс' (Сл. ПЗБ, 4, 329). Форма з *-з-*, хутчэй за ўсё, пад уплывам бел. *рэз, нарэ́з* (гл. *рэз₂*). Фіксацыя адзінкавая, таму выклікае здзіўленне сцвярджэнне Дайлідэнаса, што "былая лексема *резъ* у форме *резас* бытуе да цяперашняга часу ў беларускіх паўночна-заходніх гаворках" (Бел. мова, вып. 15, 80–81).

9 Зак. 2628

**Рэ́заць** 'чым-небудзь вострым раздзяляць на часткі' (ТСБМ, Бяльк., Мат. Гом., Сл. ПЗБ, ТС, Ян.), 'пілаваць' (ТСБМ, Бяльк., ЛА, 1, Мат. Гом., Сл. ПЗБ, Сцяшк. МГ, ТС), 'жаць' (Сл. ПЗБ) 'забіваць' (ТСБМ, Мат. Гом., Сл. ПЗБ, ТС), 'муліць' (Бяльк.), 'балець' (Жд. 3, Сл. ПЗБ) 'кусаць, грызці' (Бяльк., ТС), 'есці' (Мат. Гом., ТС, Шатал.), 'ампутаваць' (Ян.), 'дакараць' (Мат. Гом., Ян.), 'падмываць (бераг)' (Мат. Гом.), 'бойка іграць на муз. інструменце' (ТС), сюды ж *рэ́зацца* 'нападаць; сварыцца' (Сл. ПЗБ), 'рэзацца; сварыцца' (Юрч.), 'гуляць азартна ў карты' (Бяльк.), *разаніна* 'лаянка' (міёр., Нар. словатв.). Укр. *різати*, рус. *резать*, польск. *rzezać*, , н.-луж. *rězaś*, , в.-луж. *rězać*, чэш. *řezati*, славац. *rezat'*, славен. *rezati*, серб. і харв. *pȅзати*, макед. *реже*, балг. *режа*, ст.-сл. **рѣзати**. Прасл. **rězati*. Роднасн. літ. *rėžti* 'рэзаць' (Фасмер, 3, 461; Чарных, 2, 107; Рэйзак, 556; Махэк$_2$, 531; Сной, 536).

**Рэза́чка** 'дызентэрыя' (ПСл, Сл. Эп.-Шып., ТС), 'боль у жываце' (Арх. Федар.), 'ліха, халера' (Нар. словатв.). Гл. *разачка*.

**Рэ́звы,** *рі́звый* 'хуткі ў рабоце' (ЛА, 3), *рэ́зву* 'бойкі, смелы' (ТС). Укр. *різвий*, рус. *резвый*, польск. *rzeźwy*. Прасл. дыял. **rězvъ* 'рэзкі, энергічны', несумніўна, звязана з **rězati* (гл. *рэзаць*); у аснове, магчыма, больш ранні прыметнік **rězъ* 'рэзкі', роднасны літ. *raižùs* 'рэзкі'; наяўнасць *-vъ* звязана з прыналежнасцю прыметніка да асновы на *-й-* (Борысь, 534–535).

**Рэ́згіны** 'прыстасаванне насіць сена, салому, зробленае з вяровачнай сеткі, нацягнутай на сагнутыя пруткі, дужкі' (ТСБМ, Сл. ПЗБ), *рэ́дзгіні* (З нар. сл., Сл. ПЗБ, Сцяшк. МГ), *рэ́звіны* (Нас., Юрч., Ян.), *рэ́згіні* (Сцяшк. МГ), *рэ́зьвіны* (Бяльк., Нар. сл., Сл. ПЗБ, Янк. Мат.), *рэ́зкі* (Шатал.), *рэ́зьгіны* (Касп., Шат., Янк. Мат.), *рэ́зіні*, *рэ́зьбіны*, *рэ́звілі*, *рэ́звы*, *рэцькавіны*, *рэ́ськіны*, *рэ́цкліны*, *рэ́цкі* (ДАБМ, камент. 826), *рэ́згінь* (Маш.), *разгіны* (Сл. ПЗБ), *рэзгіны* 'воз з шырокімі драбінамі для перавозкі сена, саломы' (Сл. ПЗБ), 'вязанка' (Яруш. 45). Сюды ж *рэ́згіна* 'ануча' (Сл. Гродз., Сл. рэг. лекс.). З літ. *rêzginės* 'тс' ад *rèzgti* 'плесці' (Фасмер, 3, 461; Лаўчутэ, Балтизмы, 22).

**Рэзеда́** 'Reseda L.' (Кіс. 110; ТСБМ). З рус. *резеда* 'тс' < франц. *réséda* < лац. *resēda*, якое ўзводзяць да лац. *resēdāre* 'лячыць' (Фасмер, 3, 462).

**Рэзе́рв** 'запас чаго-небудзь' (ТСБМ). З рус. *резерв* 'тс' < франц. *réserve* 'тс' (Фасмер, 3, 462).



**Рэзе́рва** 'паласа адчужэння каля чыгункі, шашы' (Яшк.). З польск. *rezerwa* < ням. *Reserve* 'запас, рэзерв' (Фасмер, 3, 462; Рэйзак, 540).

**Рэзідэ́нт** 'дыпламатычны прадстаўнік; грамадзянін якой-небудзь краіны, які пастаянна пражывае ў замежнай дзяржаве; тайны прадстаўнік разведкі, які дзейнічае на тэрыторыі іншай дзяржавы' (ТСБМ). Паўторнае запазыч. з рус. *резидент* 'тс'. Ст.-бел. *резыдентъ* 'упаўнаважаны прадстаўнік' < ст.-польск. *rezydent* < лац. *residēns, -ntis* (Булыка, Лекс. запазыч., 24)

**Рэзідэ́нцыя** 'месца, дзе пастаянна знаходзіцца ўрад, або асобы, якія займаюць высокія адміністрацыйныя пасады' (ТСБМ). Ст.-бел. *резыденцыя* 'месца пастаяннага знаходжання прадстаўніка ўлады' < ст.-польск. *rezydencyja* < с.-вяк.-лац. *residentia* (Булыка, Лекс. запазыч., 33)

**Рэ́зка** 'сечка' (Мат. Гом.), 'сечка; сячкарня' (докш., воран., Сл. ПЗБ), *рэ́ска, рэзь* 'сечка' (ЛА, 2), *рэ́ска* 'тс' (З нар. сл., Нар. сл., Янк. Мат.), *рэ́зка* 'палоска (поля); загон' (Мат. Гом.; раг., Сл. ПЗБ; Сцяшк. Сл., ТС, Яшк.), *рэ́зы* 'тс' (калінк., Сл. ПЗБ), *рэ́ска* 'тс' (ЛА, 3), 'адрэзаная галінка' (пін., Сл. ПЗБ, ТС). Параўн. в.-луж. *rězanc* 'флянец', славацк. *rezok* 'тс', літ. *rãžas* 'сухі прут'. Ад *рэзаць* (гл.).

**Рэ́зкі$_1$** 'рэзкі, востры; шурпаты, з вострымі гранямі; жорсткі; ядраны, халодны; дзёрзкі' (ТСБМ, ТС), 'калючы; вельмі кіслы' (воран., калінк., Сл. ПЗБ), 'прарэзлівы' (Ян.). Укр. *різкий* 'рэзкі', рус. *резкий* 'тс', польск. *rześki* 'жвавы, рэзкі', чэш. дыял. *rezký* 'жвавы, бадзёры', серб. і харв. *pȅзак* 'востры, кіслы', балг. *рязък* 'рэзкі'. Прасл. **rězъkъ* < **rězati* (гл. *рэзаць*). Параўн. яшчэ семантыку укр. *рву́чкий*, *рву́чий* 'рэзкі, хуткі' ад *рвати* 'рваць'.

**Рэ́зкі$_2$** 'вілы для пераноскі саломы' (Сл. Брэс.). Ад *рэзаць* (гл.), параўн. *драпакі* 'вілы для гною' (Сл. Брэс.) ад *драпаць*. Але нельга выключыць уплыў *рэзгіны* (гл.) 'прылада для пераноскі саломы'.

**Рэзне́нця**, *разне́ньця* 'рэзкі боль' (воран., Сл. ПЗБ). З польск. *rznięcie* 'тс' (Сл. ПЗБ 4, 331).

**Рэ́знік$_1$**, *рэ́зка, рэ́ская трава, рэза́к* 'разак, Stratiotes L.' (ЛА, 1, Мат. Гом.), 'зараснікі рагалісніку Ceratophyllum demersum L.' (Яшк.), *рэ́зьнік, рэ́зя* 'рачная трава падобная да альясу, разак' (Сл. ПЗБ), *рэ́зьнік* 'балотная трава' (Нар. лекс.), *рэ́ская трава* 'асака, Carex L.'

(ЛА, 1). Расліна атрымала такую назву паводле вострых краёў лісця. Ад *рэзаць* (гл.).

**Рэ́знік$_2$** 'пшанічная аладка, спечаная з раскачанага цеста, разрэзанага на чатырохвугольныя часткі' (Нас.), *рэ́знікі* 'тс' (Сл. Гродз., Сл. рэг. лекс., Сцяшк. Сл.), *рэ́зьнік* 'тс' (Янк. Мат.), 'тс' (Бяльк.), *рэ́знік* 'пернік' (Сцяшк. Сл., Юрч.), 'луста' (Нік., 88), *рэ́знічак* 'тс' (Юрч. СНЛ). Серб. і харв. *реза́нац* 'адрэзаны кавалак', *реза́нци* 'локшыны'. Да *рэзаць* (гл.), параўн. яшчэ семантыку *палама́нцы* 'печыва з мукі; ламанцы' (Сл. Гродз.) ад *ламаць*.

**Рэ́знік$_3$** 'мяснік' (Мат. Гом., Нас., ТС, Байк. і Некр.). Гл. *разнік*.

**Рэ́знік$_4$** 'кош, сплецены з нітак' (Сл. Гродз., Сл. рэг. лекс.). Дээтымалагізаваная форма ад *рэзгіны* (гл.).

**Рэ́зніца** 'сячкарня' (ЛА, 2, Мат. Гом.), 'бойня; мясныя яткі' (Нас., ТС), *рэ́зьніца* 'тс' (Байк. і Некр.), 'сячкарня (саламарэзка)' (Бяльк.). Гл. *разніца*.

**Рэ́знуць** 'разануць; стукнуць, ляснуць' (ТСБМ, ТС), *рэ́знуцца* 'моцна стукнуцца' (ТСБМ, Мат. Гом.; ганц., Сл. ПЗБ; Шат.). Славац. *reznut'* 'ударыць'. Ад *рэзаць* (гл.).

**Рэ́зны:** у выразе *рэзны камень* 'онікс' (Байк. і Некр.). Ад *рэзаць* (гл.).

**Рэзо́н** 'сэнс, падстава, разумны довад' (ТСБМ). З рус. *резон* 'тс', якое з фр. *raison* 'прычына' < лац. *ratiōnem* 'тс' (Фасмер, 3, 463).

**Рэ́зрух** 'разруха; беспарадак' (Нар. Гом.). Гл. *разруха, розрух*.

**Рэзульта́т** 'вынік' (ТСБМ). З руск. *результат* 'тс' < фр. *resultat* 'тс'.

**Рэ́зчык** 'той, хто рэжа; разьбяр' (ТСБМ), 'хто пілуе дровы' (ТС), *рэ́шчык* 'разец' (вільн., Сл. ПЗБ, Шатал.). Ад *рэзаць* (гл.).

**Рэзь$_1$** 'дробна нарэзаная салома на корм' (Байк. і Некр., Бяльк., Касп., Мат. Гом., Нас., Шатал., Юрч., Сл. ПЗБ, Нар. лекс.); сюды ж *рэзь* 'дызентэрыя' (ЛА, 3), 'боль у жываце' (Байк. і Некр., Нас.), 'рэзкі боль' (ТСБМ, Сл. ПЗБ), 'аперацыя' (Жд. 1). Укр. *різь* 'рэзь', рус. *резь* польск. *rzeź* 'забой скаціны'. Прасл. *rězь < *rězati. Гл. *рэзаць*.

**Рэзь$_2$** 'сетка з вялікімі вочкамі' (мін., ЛА, 1), 'сетка з тоўстых вяровачак' (гом., ЛА, 1). Падобна на тое, што аднолькавая форма, зафіксаваная ў двух рэгіёнах, мае адрознае паходжанне. Лексема з першым значэннем суседзіць з формай *рэ́жа* 'тс' (гл. *рэжа$_1$*), якая ад *рэ́дкі*, можна дапусціць, што і *рэзь* першапачаткова фігу-



равала як *рэдзь* < *рэдкі* (гл.). Але пад уплывам пераасэнсавання кораня *рэж-* як ад *рэжу* < *рэзаць*, адбылася і замена *рэдзь* > *рэзь*. Другое значэнне дазваляе меркаваць, што форма *рэзь* не ад *рэзаць*, як можа падацца на першы погляд, а ад *рэзгіны* (гл.) шляхам адаптыўных зменаў, параўн. яшчэ формы гэтага слова *рэ́зкі* (Шатал.), *рэ́зіні, рэ́звы* (ДАБМ, камент., 826). Гл. яшчэ наступнае слова.

**Рэ́зьва** 'рэдкая тканіна' (Сл. ПЗБ, Сцяшк. Сл.). Ад *рэдкі* (гл.) пад уплывам *рэзгіны* (*рэзьвіны*): *рэдзіва* < *рэдзьва < *рэзьва*.

**Рэ́чка** 'лёстка ў возе' (Сл. ПЗБ). Памяншальнае ад *рэя$_1$* (гл.).

**Рэй$_1$** у спалуч. *весці рэй* 'верхаводзіць' (ТСБМ, Байк. і Некр.). З польск. *rej* 'шэраг, рад'. Параўн. яшчэ чэш. *rej* 'танец, карагод', в.-луж. *rej* 'тс', *rejewodźer* 'распарадчык танцаў'. Запазыч. з с.-в.-ням. *rei(e)/reige* 'веснавы або летні карагод' (сучаснае ням. *Reigen* 'карагод'), якое з ст.-франц. *raie* 'танец' (Борысь, 513).

**Рэй$_2$** 'ёўня' (Анім. дад.). Гл. *рэя$_3$*.

**Рэ́йвах** 'пярэпалах': ... *нарабіла вялікага рэйваху* (Дзядзька Квас. Роздумы на калёсах. Беласток, 1995. С. 114). Укр. *рейвах* 'вэрхал, мітусня, беспарадак', польск. *rejwach* 'тс', чэш. *rajboch* 'беспарадак'. Паводле Махэка – няяснае (Махэк$_2$, 506). Брукнер выводзіць ад *rej* 'танец' (Брукнер, 457). З ідыш *rejwach* 'шум, мітусня' (Каня, Słownik, 189).

**Рэ́йдаць$_1$** 'гаварыць лухту' (З нар. сл., Жыв. сл.), *рэ́йдзіць, рэ́ндаць* 'гаварыць абы-што' (Сцяшк. Сл.), *рэ́йдзіць, рэ́йдаць* 'тс' (Сл. ПЗБ, ЛА, 3), *рэ́йды* 'плёткі' (Сл. ПЗБ), *рэ́йдало* 'чалавек, які гаворыць лухту; рот' (Нар. лекс.). Параўнанне з літ. *raizgýti* 'плесці' (Весці АН БССР, 1969, 4, 131) сумніўна. Серб.-харв. *рдати* 'ляяцца'. Магчыма, з ідыш *redn* 'балбатаць' < ням. *réden* 'размаўляць'. Гл. яшчэ *райдоліць, райдун, райдак*.

**Рэ́йдаць$_2$**, *рэ́йдзіць* 'хадзіць без справы' (воран., Сл. ПЗБ). Магчыма, звязана з папярэднім словам; развіццё семантыкі: 'гаварыць лухту' > 'нічога не рабіць' > 'хадзіць без справы'.

**Рэ́йда** 'гультай' (Сл. ПЗБ), *ро́йда* 'беспарадак; беспарадачны чалавек' (смал., бран., Сл. ПЗБ). Славац. *rajda, randa* 'пацяганка'. Ад *рэйдаць$_2$* (гл.).

**Рэ́йды** 'старое адзенне' (Сл. Гродз., Сл. рэг. лекс.). З польск. *rędy* 'лахманы', параўн. яшчэ славац. *randy* 'тс'.

**Рэ́йза** 'неахайніца' (Сцяшк. Сл.), 'назола' (івац., Жыв. сл.), *рэ́ўза* 'неахайніца' (Касп.). Магчыма далейшае развіццё значэння ад

'плакса' да 'неахайніца' (гл. *рэўза)*. Параўн. яшчэ *рэмзаць, румзаць* (гл.).

**Рэ́йка$_1$** 'вузкі стальны брус на чыгунцы' (ТСБМ, Касп., Шат., Байк. і Некр.), 'вузкая тонкая дошчачка' (ТСБМ, Бяльк., Шушк.), 'жалезная шына (у плузе) да якой прымацоўваецца лямеш і паліца' (Бяльк.). Ад *рэя$_1$*.

**Рэ́йка$_2$** 'сэрца, лёгкія, печань у жывёлы' (Бяльк., Нас., Дабр.). Паводле Фасмера (3, 463) – няяснае. Пятлёва суадносіць гэту лексему з *rějati (*sę*), для якой на базе рус. дыял. *ре́ять* 'часта дыхаць, запыхацца', *ре́яться* 'задыхацца' выводзяць яе семантычнае адгалінаванне 'дыхаць'. Такім чынам, *рэ́йка* можа азначаць 'тое, чым дыхаюць; орган дыхання' або, што больш верагодна 'тое, што мае малую вагу і таму ўсплывае у вадзе (супе)' (Пятлёва, Этимология–1975, 42–44). Параўн. у Фасмера, які рус. *лёгкое* суадносіць з *лёгкий*, таму што, калі вантробы жывёл кладуць у ваду, лёгкія застаюцца на паверхні. Таксама ён прыводзіць адпаведнікі з іншых моў: англ. *lights* 'лёгкія некаторых жывёл' > *light* 'лёгкі', парт. *leves* 'лёгкія' > *leve* 'лёгкі' (Фасмер, 3, 474).

**Рэйлікаваць** (*рейликовать*) 'пярэчыць' (Гарб.). Ад польск. *replikować* 'адказваць на абвінавачанні, папрокі' < лац. *replico* 'выступаць з пярэчаннем'. Гл. *рэпліка*.

**Рэ́йсмус** 'інструмент для правядзення паралельных ліній' (ТСБМ), *рэ́смас* 'тс' (Касп., Інстр. 2), *рэ́смус* 'тс' (ТС, Інстр. 2), 'грунтвага, ватэрпас' (Мат. Гом.). З ням. *Reißmaß* < *reißen* 'крэсліць' і *Maß* 'мера' (Булыка, СІС, 2, 318).

**Рэ́йсы** 'сляды поту, слёз на твары': *рэйсамі пот цячэць* (ЛА, 3). Месца фіксацыі (в.-дзв.) дазваляе дапусціць уплыў лат. *rasot* 'пацець (напр. пра вокны)', *rasains* 'расісты'.

**Рэ́йтар** 'наёмны салдат кавалерыі ў арміях Зах. Еўропы, Польшчы і ВКЛ у XVI–XVII стст.) (Булыка, СІС). Ст.-бел. *райтаръ* (*рейтаръ*) 'кавалерыст; разбойнік' < ст.-польск. *rajtar* < ням. *Reiter* і непасрэдна з ням. (Булыка, Лекс. запазыч., 62)

**Рэйту́зы** 'вузкія штаны ў абцяжку (першапачаткова для верхавой язды)' (ТСБМ). З польск. *rajtuzy* 'тс' < ням. *Reithosen* 'тс' < *reiten* 'ездзіць на кані' і *Hose* 'штаны' (Брукнер, 453).

**Рэ́ка** 'рака' (ашм., Сл. ПЗБ). Націск пад уплывам польск. *rzeka* 'тс', гл. *рака́*.



**Рэ́кат** 'кваканне' (Нар. Гом.). Бязафікснае ўтварэнне ад *ракатаць 'квакаць', параўн. рус. *рекота́ть* 'рагатаць, кашляць'. Гл. *рокат*.

**Рэквізі́цыя** 'прымусовае адчужэнне за плату або часовая канфіскацыя маёмасці ва ўласнасць дзяржавы' (Булыка, СІС). З рус. *реквизиция* 'тс'. Ст.-бел. *реквизиция* (*рэквизыцыя*) 'зварот да судовых улад з пэўнай просьбай' < ст.-польск. *rekwizycyja* < лац. *rěquīsītio* 'даследаванне' (Булыка, Лекс. запазыч., 51).

**Рэке́ша** 'поўная або неахайная жанчына', *раге́ша* 'неахайны чалавек' (смарг., бярэз., Непакупны, Связи, 194). З літ. *rekešỹs* 'разгалістае дрэва; няўклюда', *rẽkežis*, *rekežỹs* 'бясформенная рэч' (Непакупны, там жа). Гл. яшчэ *рагеша*.

**Рэкла́ма** 'паведаленне аб якім-небудзь мерапрыемстве, тавары, паслузе з мэтай прыцягнення ўвагі' (Булыка, СІС). З рус. *реклама*, якое з заходнееўрапейскіх моў. Крыніца – франц. *réclame* 'тс' ад дзеяслова *réclamer* 'настойліва прасіць, патрабаваць' < лац. *reclāmāre* 'гучна выкрыкваць; клікаць' (Чарных, 2, 108).

**Рэ́кнуць** 'сказаць, абазвацца, падаць голас, загаварыць' (ТСБМ, Жыв. НС, Нар. сл., Нар. словатв., Шат.), 'сказаць, папрасіць' (Сл. ПЗБ), *рэ́катэ* 'доўга, заікаючыся расказваць' (ЖНС). Польск. *rzeknąć*, палаб. *rict*, н.-луж. *rjaknuś*, в.-луж. *rjeknyć*, чэш. *řeknouti*, славацк. *rieknuť* 'тс', серб. і харв. *рѐкнути* 'сказаць', балг. *река*. Прасл. *reknǫti, *rekti. Роднаснымі звычайна лічацца літ. *rė̃koti*, *rė̃kti* 'крычаць', лат. *rēkt* 'раўці, рыкаць' (Махэк$_2$, 532; Бязлай, 3, 163; Чарных, 2, 109; Сной, 529).

**Рэкра́цыя** перан. іран. 'важны ўчынак' (Сл. ПЗБ). Ад *рэкра́цыя* 'забава, адпачынак' (гл. яшчэ *рэграцыя*), якое набыло супрацьлеглае значэнне ў іранічным кантэксце (параўн. ужыванне *малайчына* пры асуджэнні)

**Рэ́крут** 'салдат-навабранец' (ТСБМ), *рэ́крут, не́крут* (Др.-Падб.). З польск. *rekrut* 'навабранец' < ням. *Rekrut* 'тс' < *rekrutieren* 'набіраць, вербаваць' < фр. *recruter* 'тс' (Брукнер, 457; Махэк$_2$, 512).

**Рэкрэа́цыя** 'перапынак паміж урокамі' (ТСБМ). Ст.-бел. *рекреяция* (*рекрацыя*) 'адпачынак, забава' < ст.-польск. *rekreacyja* < лац. *rěcreātio* 'аднаўленне (сіл); ачуньванне' < *rěcreo* 'аднаўляю, умацоўваю' (Булыка, Лекс. запазыч., 118).

**Рэ́ктар** 'кіраўнік вышэйшай навучальнай установы' (ТСБМ). Ст.-бел. *ректоръ* 'кіраўнік школы', 'ксёндз філіяльнага касцё-

ла' < ст.-польск. *rektor* 'тс' < лац. *rēctor* 'кіраўнік' (Булыка, Лекс. запазыч., 188).

**Рэ́кша** 'сізаваронка, Coracias garrulus L.' (Нікан.). Укр. *ра́кша*, рус. *ра́кша, ро́кша* 'тс', звязана з гукапераймальным коранем слоў *рокота́ть, регота́ть* (Фасмер, 3, 439), насуперак Праабражэнскаму, які выводзіць з **кракша* ад *кракаць* (2, 179).

**Рэ́лі** 'арэлі' (Бяльк.), *рэ́ля* 'гушкалка' (Мат. Гом.); *рэ́лі* 'шыбеніца' (Дабр., Этн.). Укр. *ре́ля* 'гушкалка', рус. *ре́ли* 'арэлі'. Да ст.-рус. *рѣль* 'перакладзіна; насціл з бярвенняў', ст.-бел. *рель* 'перакладзіна; шыбеніца; насціл'. Гл. далей *арэлі*.

**Рэлі́гія** (ТСБМ). Ст.-бел. *реликгия* 'рэлігія' < ст.-польск. *religija* < лац. *rĕlĭgio* 'рэлігійнасць; святыня' (Булыка, Лекс. запазыч., 180). Паводле Брукнера, *religja* 'шанаванне' < *re-lego* < *alegō* 'дбаю' (Брукнер, 456).

**Рэлі́квія** 'прадмет рэлігійнага пакланення' (ТСБМ). Ст.-бел. *реликвия* 'мошчы святых' < ст.-польск. *relikwija* < лац. *reliquiae* 'рэшткі; парэшткі' (Булыка, Лекс. запазыч., 180).

**Рэ́лкі** 'каласнікі' (Малч., 38). Гл. *арэлі*.

**Рэ́ллю** 'абы-як, навалам' (ушацк.). Форма творнага склону ст.-рус. *рѣль* 'перакладзіна; насціл з бярвенняў'. У аснове семантыкі, відавочна, ляжыць прыкмета паверхні маставога насцілу, які звычайна робіцца з неабчасаных бярвенняў і таму бывае няроўным, гарбатым, што асацыіруецца з рэчамі, якія ляжаць у беспарадку, навалам (БЛ, 11, 1977, 74–75). Гл. яшчэ *арэлі*.

**Рэ́лька** 'лятучая кузурка, стрэлка' (Дразд.). Няясна. Магчыма, скажонае *стрэлка* (гл.).

**Рэ́лькі** 'рэбры ў кошыку' (ЛА, 4). Гл. *арэлі*.

**Рэлакса́цыя** 'паступовае вяртанне ў стан раўнавагі фізічнай або фізіка-хімічнай сістэмы, якая была ў неўраўнаважаным стане пад уздзеяннем знешніх сіл' (Булыка, СІС). Ст.-бел. *релаксация* 'палёгка; звальненне ад чаго-небудзь' < ст.-польск. *relaksacyja* 'тс' < лац. *rĕlaxātio* 'аслабленне; адпачынак' < *rĕlaxo* 'аслабляю; адпачываю' (Булыка, Лекс. запазыч., 77).

**Рэля́цыя** 'данясенне пра баявыя дзеянні' (ТСБМ). Ст.-бел. *реляция* (*реляца*) 'данос, даклад' < ст.-польск. *relacyja* 'тс' < лац. *rĕlātio* 'паведамленне; данясенне' (Булыка, Лекс. запазыч., 51).

**Рэ́мант** 'рамонт' (Сл. ПЗБ). З польск. *remont* 'тс'. Гл. *рамонт*.

**Рэманэ́нт** 'нядоімка; звыш ліку' (Нас.). З польск. *remanent* 'лішак' < лац. *remanens, remanentis* 'які застаецца'.



**Рэ́мез** 'птушка атраду вераб'іных' (ТСБМ, ТС), *рэме́за, рэмезо́к* 'тс' (ТС), *рэ́мус* 'рэмез, *Remiz pendulinus L.*' (Нікан.), *рэ́міс* 'стрыж, *Apus apus*' (ЛА,1), *рэміс* 'чорны стрыж' (Шатал.). Сюды ж *рэмезо́* 'гняздо рэмеза' (ТС). Рус. *ре́мез*, укр. *ре́мез*, чэш. *remiz*, польск. *remiz*. Паводле Фасмера (3, 467), праз польскую мову запазычана з ням. *Riedmeise* 'чарацянка', дзе *Ried* 'чарот', *Meise* 'сініца' (Булыка, СІС, 2, 323). Брукнер лічыць назву славянскай і суадносіць са славац. *remzati* 'шчабятаць', а таксама дапускае этымалагічную сувязь з *rzemieśniczek* 'рэмез', паколькі гэтая птушка з вялікім майстэрствам робіць гняздо (параўн. таксама ст.-рус. *ремези* 'майстры'); праблема толькі ў тым, як растлумачыць пераход *rze-* > *re-* (Брукнер, 457).

**Рэме́ннік₁** 'кажан' (Нар. сл.). Да *раменнік* (гл.). Рус. *реме́нница* 'тс' ад *реме́нь* (Фасмер, 3, 468), параўн. яшчэ *кажан*.

**Рэме́ннік₂** 'нейкая вадзяная расліна; раменныя лапці' (ТС). Гл. *раменнік*.

**Рэ́мень** 'доўгая паласа, выrабленай скуры' (ТСБМ, Сл. ПЗБ), 'раменная частка пугі' (ТС), 'прывязка для прымацоўвання біча да цапільна' (Шатал.), *рэ́мінь* 'раменны пас' (Бяльк.), *рэмянчык* 'раменьчык' (Сл. ПЗБ), *рэменячка* 'тс' (ТС), *рэменны* 'раменны, зроблены са скуры' (ТС), *раме́нь* 'рэмень' (Сл. ПЗБ). Укр. *ремінь*, рус. *ремень*, польск. *rzemień, rzemyk*, н.-луж., в.-луж. *rjemjeń*, чэш. *řemen, řemyk*, славац. *remeň*, славен. *jermen*, серб. і харв. *ре̑мен*, макед. *ремен*, балг. *ремък*. Прасл. **remy*, Род. скл. **remene*. (Сной, 201). Не выключаюць і праславянскае запазычанне з нямецкай мовы, параўн. с.-в.-ням. *rieme(n)* 'тс', с.-н.-ням. *rēme, rēmen* 'тс' (Брукнер, 475; Чарных, 2, 110), але існуе думка, што ням. *Riemen* славянскае запазычанне (Даль, 3, 1675).

**Рэменякве́тнік** 'расліна-паразіт сямейства рэменяцветных' (БРС), *рэменяцветнік* 'тс' (ТСБМ). Калька з рус. *ремнецветник* 'амяла', якое калька ням. *Riemenblume* 'Loranthus L.' (*Riemen* 'рэмень', *Blume* 'кветка').

***Рэмеслі́вы** *рэмесліву* 'злослівы, непрыхільны, злапамятлівы' (ТС). Магчыма, кантамінацыя *рэмствоваць* (гл.) і *помслівы*.

**Рэме́ха** 'грубае самаробнае палатно, зрэб'е' (ТС). Рус. *ре́мох, ремо́ха* 'ануча', *ремошина, ремушка* 'ануча; лахманы'. Ад *рэмень* (Даль, 3, 1676) з экспрэсіўнай суфіксацыяй.

**Рэ́мжа** 'махры, абтрапаныя краі адзежы' (ТС). Няясна. Магчымая сувязь з літ. *rémžti* 'рэзаць (абы-як)'.

**Рэ́мжыць** ‘іржаць’ (ДАБМ, камент., 891), *рэ́мжыты* ‘тс’ (Сл. Брэс.), *рэ́мжаць* ‘плакаць усхліпваючы; раўці’ (ТС), *рэ́мжа* ‘плакса’ (ТС). Славац. *remzit’*, *remzat’* ‘хутка незразумела казаць’, балг. *ръмжа, рънжа* ‘рычаць’. Найбольш верагодна, праславянскі дыялектызм з рэфлексамі насавых (БЕР, 6, 374). Гл. далей *іржаць*.

**Рэ́мза** ‘плакса’ (ТС), *рэ́мзаць* ‘капрызіць, плакаць, румзаць’ (Сл. ПЗБ, Сцяшк. Сл., ТС), *рэ́мза́ці* ‘надакучваць размовай’ (івац., Жыв. сл.). Суадносіцца з *рэмжыць* (гл.).

**Рэмі́за** ‘памяшканне, у якім захоўваўся проціпажарны інструмент’ (Скарбы). З польск. *remiza* ‘дэпо’, параўн. таксама чэш., славац. *remiza* ‘вазоўня. Крыніца – ням. *Remise* ‘тс’ < фр. *remise* ‘тс’ (Махэк$_2$, 512).

**Рэмі́сія** ‘часовае паслабленне або знікненне праяваў хваробы’ (ТСБМ). Ст.-бел. *ремисия* (*ремисыя*) ‘адтэрміноўка рашэння справы на судзе’ < ст.-польск. *remisyja* ‘тс’ < лац. *rĕmissio* ‘перапынак; адмена’ (Булыка, Лекс. запазыч., 51).

**Рэ́мствоваць** ‘злоснічаць, абгаворваць, ганіць’ (ТС), *рымстава́ць* ‘злавацца’ (жлоб., Жыв. сл.), *рымсава́ць* ‘плакаць, упарціцца’ (чач., Жыв. НС). Рус. *ре́мство* ‘нянавісць; злосць’, *ремствовать* ‘ненавідзець’, укр. *ре́мство, ремст* ‘абурэнне’, *ремствувати* ‘наракаць’. Мацэнаўэр (LF 16, 181) параўноўвае з літ. *susiremti* ‘уперціся супраць каго-небудзь’.

**Рэ́мус$_1$** літаральна ‘прасіць літасці’, перан. ‘допыт з катаваннем’ (Нас.). Скажонае ад лац. *oremus* ‘молім’ (Нас., 562).

**Рэ́мус$_2$** у спалуч. *узяць каго за рэмус* ‘узяць за жабры’ (смал., КЭС). Далейшае развіццё значэння ад *рэмус$_1$* (гл.).

**Рэ́мус$_3$** ‘выгляд’ (Юрч. СНЛ). Відаць, звязана з *рэмус$_1$*, але матывацыя няясная.

**Рэ́мчыць** ‘бегчы хутка’ (Ян.). Магчыма, кантамінацыя польск. *rączy* ‘хуткі’, якое Брукнер выводзіць ад *ruczaj* ‘ручай’ (Брукнер, 467) і *імчаць*. Але параўн. рус. *ремши́ть* ‘хутка ісці, спяшацца’.

**Рэнава́цыя** ‘абнаўленне асноўных фондаў вытворчасці’ (Булыка, СІС). З рус. *реновация* ‘тс’. Ст.-бел. *реновация* ‘абнаўленне завяшчання’ < польск. *renowacja* ‘тс’ < лац. *rĕnŏvātio* ‘абнаўленне; аднаўленне’ < *rĕnŏvo* ‘абнаўляць; аднаўляць’ (Булыка, Лекс. запазыч., 77).

**Рэ́нгі** мн. л. ‘поліўка з рыбы’ (даўг., Сл. ПЗБ). З лат. *renğe* ‘салака’ (Сл. ПЗБ, 4, 332), параўн. яшчэ серб.-харв. *ренга* (*ха̀ринга*) ‘селядзец’.



**Рэ́нта** ‘даход ад капіталу, маёмасці або зямлі, які не патрабуе ад уладальніка прадпрымальніцкай дзейнасці’ (Булыка, СІС), ‘рэнта, зямельны надзел’ (Сл. ПЗБ). З польск. *renta* ‘тс’ (Сл. ПЗБ, 4, 332).

**Рэнтге́н** ‘кароткія электрамагнітныя хвалі’ (ТСБМ), *рэнге́нт* ‘тс’ (Сл. ПЗБ), *рэге́нт* ‘тс’ (Сл. ПЗБ, Яўс.). З рус. *рентге́н* ‘тс’, якое з ням. *Röntgen* ад прозвішча нямецкага фізіка *W. Roentgen* (Булыка, СІС, 2, 325).

**Рэ́нчыць** ‘шанцаваць’ (Сцяшк. Сл.). Спаланізаваная форма *ручы́ць* (гл. *ручыцца*), польскае *ręczyć* мае зусім іншае значэнне – ‘гарантаваць, ручацца’.

**Рэ́па$_1$** ‘рэпа (*Brassica rapa L.*)’ (ТСБМ, Байк. і Некр., Сл. ПЗБ, ТС, Шат.), *рэ́піна* ‘тс’ (ТС), ‘адно каліва рэпы’ (Юрч. СНЛ). Укр. *ріпа*, рус. *репа*, польск. *rzepa*, палаб. *repo*, н.-луж., в.-луж. *rěpa*, чэш. *řepa* ‘бурак’, славацк. *repa* ‘рэпа; бурак’, славен. *répa* ‘рэпа’, серб., харв. *rȅpa*, балг. *ряпа*. Прасл. **rěpa*. Адпаведнікі ў і.-е. мовах: літ. *rópė*, лац. *rāpa*, ст.-в.-ням. *ruoppa*. Мяркуецца, што гэта старажытны вандроўны культурны тэрмін невядомага паходжання (Фасмер, 3, 471; Чарных, 2, 111).

**Рэ́па$_2$** ‘трэшчыны’ (Сл. ПЗБ), ‘цыпкі на нагах або руках’ (Сцяц., Шатал., Янк. Мат.), *рэ́пы* ‘тс’ (ЛА, 3), *рэ́піна* ‘трэшчына на скуры’ (ТСБМ), *рэ́паўка* ‘трэшчына’ (Сл. ПЗБ), *рэ́паўкі* ‘цыпкі на нагах’ (ЛА, 3), *рэ́йпіна* ‘драпіна’ (пін., Нар. лекс.), *рэ́панка* ‘нешта парэпанае, патрэсканае’ (ТС), ‘гатунак бульбы, яблыкаў, груш’ (Мат. Гом., ТС), ‘груша або яблык, верхняя частка якіх лопнула ад сонца’ (Янк. Мат.), ‘земляная жаба, рапуха’ (ТС), *рэ́паўка* ‘тс’ (Жыв. сл.), *рэ́панкі* ‘цыпкі’ (Мат. Гом.). Ад *рэпаны* (гл.).

**Рэпаве́ня** ‘лопух’ (воран., Сл. ПЗБ). У выразе: *наламаў рэпавеня*. Хутчэй за ўсё, гэта форма роднага склону ад **рэпавенне*/**рэпавенё* < *рэпа* (гл.), аналагічна як *буракавене*/*буракавенё* (ДАБМ, камент., 867) < *бурак*. Магчыма, такая форма ўтварылася ў выніку кандэнсацыі састаўной назвы *рэпавае націнне* (Сцяцко, Афікс. наз., 99).

**Рэ́паны** ‘патрэсканы, шурпаты’ (Мат. Гом., ПСл), *рэ́паныя грыбы* ‘пеўнік стракаты (грыб)’ (Нар. словатв.), *рэ́паны, рэ́йпаны* ‘рэпана жаба (земляная жаба, рапуха)’ (ТС), *рэ́йпаны* ‘цёмны, забіты’ (Жыв. сл.). Укр. *репаний* ‘патрэсканы; грубы’, славац. *rapavý* ‘рабы; парэпаны’, *rapina* ‘воспіна, шчэрбіна’, макед. *рапав*

'шурпаты', балг. *репейак* 'няроўная шурпатая паверхня'. Літ. *raupaĩ* 'воспа'. Аснова **ropa* 'гной'. Найбольш дакладныя адпаведнікі звязаныя з чаргаваннем *e:o* – лат. *repeči* 'нешта няроўнае; патрэсканая скура', *rept* 'зарубцоўвацца', балг. *ропка, ропа* 'яма, роў', *ропчев* 'са слядамі воспінаў на твары'. Асновы **rep-* і **ropa* маюць узаемаабумоўленыя значэнні: 1) трэскацца – біць, струменіць – шчыліна, яма; 2) трэскацца – шчыліна – няроўнасць – грубы. Семантычныя паралелі рус. *лопать(ся) – лопань* 'калодзеж на балоце', *прыскать – прыщ* 'пухір, вадыр' (Куркіна, Этимология–1972, 73).

**Рэпарава́ць** 'рамантаваць' (Сл. ПЗБ). З польск. *reperować* 'тс'.

**Рэпара́цыя** 'аперацыя' (Сл. ПЗБ). З польск. *reperacja* 'рамонт; папраўка'. Перанос паводле гукавога і семантычнага падабенства.

**Рэ́пах** 'куча' (Мат. Гом.). Няясна. Магчыма, ёсць сувязь з *ра́пахі* 'адыходы пры прадзенні' (Шатал.) або *рэптух* 'торба' (гл.).

**Рэ́пацца** 'трэскацца, лопацца' (ТСБМ), *рэпыцца* 'тс' (Яўс.). Укр. *репатися* 'трэскацца, лопацца', *репнути* 'трэснуць, лопнуць', рус. *репаться* 'тс'. Гл. *рэпаны*.

**Рэпаць,** гл. *рэпацца, рэпаны*.

**Рэпе́й** абрад. 'галінка (хвоі, упрыгожаная кветкамі)' (Мат. Гом.). Магчыма, пад уплывам рус. *репе́й* адбыўся семантычны перанос 'калючы дзядоўнік' > 'калючая галінка хвоі'. Але калі гаворка пра вясельны абрад, у час якога каравай упрыгожвалі "шышкамі" – абкручанымі цестам і запечанымі галінкамі з двума і трыма парасткамі, тады можна суаднесці з в.-луж. *repuch* 'развілістая галіна'.

**Рэпетава́ць** 'злавацца, сердаваць' (Ян.), *рыпытова́тэ* 'крычаць, лямантаваць' (драг., Нар. лекс.). Укр. *репетова́ть* 'крычаць з усяе моцы; плакаць', *репетувати* 'лямантаваць; лаяцца', рус. *репетить* 'хутка гаварыць', *репетиться* 'выказваць незадаволенасць', чэш. *repetit* 'хутка і невыразна гаварыць' экспрэсіўнае ад *reptati* 'раптаць' < прасл. **rъpъtati*, дзе *rъp-* – гукапераймальная аснова. (Махэк$_2$, 512–513; Рэйзак, 536–537). Гл. яшчэ *рэптаці*.

**Рэпеты́цыя** 'развучванне, паўтарэнне або пробнае выкананне драматычнага, музычнага і пад. твора' (ТСБМ). З рус. *репетиция* 'тс'.

**Рэ́пік** 'род шматгадовых травяністых раслін сямейства складанакветных' (ТСБМ), '*Eupatorium* L.' (Байк. і Некр.), 'дзядкі' (Касп.). Укр. *реп'ях*, рус. *репе́й*, польск. *rzep*, в.-луж. *řěpik*, чэш., славац. *repík* 'тс', серб. і харв. *ре̏пух* 'тс', балг. *репей*, ст.-слав. **рѣпьк**. Прасл. **rěpъ/*rěpьjь* 'учэплівая расліна' ад **rěpiti* 'хапаць, чапляцца' (Борысь, 533). Мяркуецца сувязь з літ. *aprepti* 'ахопліваць', *reples* 'абцугі', ст.-прус. *raples* 'тс', лац. *rapio* 'хапаць, абрываць' (Фасмер, 3, 471).



**Рэ́піца** 'хваставая частка пазваночніка ў жывёлін' (ТСБМ). Укр. *ріпиця* 'тс', рус. *ре́пица* 'тс', польск. *rząp* 'хвасцец', в.-луж. *rjap* 'хрыбет', славен. *rep* 'хвост', серб. і харв. *ре̂п* 'тс'. Прасл. **ręрь/*ręрь* азначала, напэўна, кароткі хвост, абрубак хваста, сам хвост як працяг хрыбта. Магчыма, роднаснае прасл. **rǫbiti* 'рубіць' і ням. *Rumpf* 'тулава' (Трубачоў, Этимология–1964, 8).

**Рэ́піць** 'заўзята, з захапленнем граць, скакаць' (Сцяшк. МГ). Ад *рыпаць$_2$* (гл.). Чаргаванне *ы:э*, магчыма, пад уплывам польск. *rzępolić* 'кепска граць на скрыпцы', *rzępak* 'музыка', *rzępoła* 'той, хто кепска грае на скрыпцы'. Польскія словы Брукнер звязвае з *rząp* 'хвасцец, зад' (Брукнер, 474), што неверагодна. Можна таксама дапусціць уплыў назвы народнага танца *Рэпка* > *рэпіць* 'скакаць або граць *Рэпку*' > 'граць, скакаць'.

**Рэ́пішча** 'поле пасля рэпы' (Яшк.). Аналагічна *грача́нішча* 'поле пасля грэчкі' (ЛА, 2), *гарахаві́шча* 'поле пасля гароху' (ЛА, 2). Прасл. **rěpišče* < **rěpa*. Гл. *рэпа$_1$*.

**Рэ́пка$_1$** 'драўляны блок, які прыводзіць у рух шпульку ў калаўроце' (Касп., Нар. сл., Скарбы), 'кальцо для замацавання шпулькі ў калаўроце' (Сл. ПЗБ, Шатал.), 'кальцо для прымацавання шыйкі касы да касся' (Шатал.), *ріпа* 'дэталь самапрадкі, якая злучае верхнюю частку з падстаўкай' (Уладз.). Форма *рэ́пка* ўтварылася паводле народнай этымалогіі, магчыма, з-за знешняга падабенства дэталі да *рэпы*. З лат. *ripa* 'дыск; круг; шайба'.

**Рэ́пка$_2$** 'надкаленная косць' (ТСБМ, Жд. 2; смарг., Сл. ПЗБ), анат. 'макаўка (у жывёлін)' (гродз., Сл. ПЗБ). Укр. *ріпиця* 'тс'. Іншая назва *чашка* (гл.). Паводле знешняга падабенства звязана з *рэпка$_1$* (гл.).

**Рэ́пка$_3$** 'скрутак льну' (Жыв. сл., ЛА, 4), 'звязка апрацаванага льну' (Сцяшк. МГ), 'скрутак' (віл., раг., Сл. ПЗБ). Паводле знешняга падабенства звязана з *рэпка$_1$* (гл.).

**Рэ́пкі** 'цукровыя буракі' (Жыв. НС), 'чырвоныя буракі' (Сл. Гродз., Сл. рэг. лекс.). Гл. *рэпа$_1$*.

**Рэ́пліка** ‘кароткі адказ, заўвага’ (ТСБМ). Ст.-бел. *реплика* < ст.-польск. *replika* < с.-лац. *replica* (Булыка, Лекс. запазыч., 51).

**Рэ́пнік₁** ‘бацвінне рэпы’ (ТСБМ), *рэпнік* ‘страва з бульбы, морквы, бручкі, забеленая малаком’ (З нар. сл.; гродз., Сл. ПЗБ), *рэ́пнык* ‘тс’ (Сл. Брэс.). Ад *рэпа₁* (гл.).

**Рэ́пнік₂** ‘Rapistrum’ (ЭПБ, 4), ‘лопух’ (шальч., Сл. ПЗБ). Гл. *рэпік*.

**Рэ́пніца** ‘матыль бялянка рэпавая, Pieris rapae L.’ (ЭПБ, 4). Ад *рэпа* (гл.), паколькі вусені развіваюцца на лісцях рэпы, параўн. аналагічна *бру́чніца* ‘матыль бялянка бручкавая, Pieris napi’ (ЭПБ, 1) < *бручка* (гл.).

**Рэ́пех** ‘лопух вялікі, Arctium lappa L.’ (ЛА, 1). Гл. *рэпік*.

**Рэ́пнуць₁** ‘лопнуць, трэснуць’ (Ян.). Гл. *рэпаны*.

**Рэ́пнуць₂** ‘сказаць недарэчнае’ (Сцяшк. Сл.). Экспрэсіўнае развіццё значэння *рэпнуць₁* (гл.). Існуе цэлы шэраг слоў, асноўнае значэнне якіх ‘ударыць’ пераходзіць у экспрэсіўнае ‘сказаць недарэчнае’. Параўн. *ля́пнуць* ‘рэзка, з шумам стукнуць’ > ‘сказаць недарэчнае’, рус. *бря́кнуть* ‘тс’, чэш. *plesknouti, plácnouti* ‘пляснуць, стукнуць’ > ‘прагаварыцца, ляпнуць’.

**Рэ́псам** ‘напралом’ (Мат. Гом.), ‘нечакана; хутка’ (жлоб., Наша слова, 2002, 16 кастр.). Магчыма, вынік шэрагу фанетычных змен: *раптам* > *рапцам, рэпцам* > *рэпсам*. Гл. *раптам*.

**Рэ́пта** ‘непаваротлівая жанчына’ (Нар. сл.). Да *рэптух* ‘торба’ (гл.).

**Рэпта́ці** ‘нагаворваць’ (Нар. сл.). Укр. *ропта́ти* ‘шумець’, рус. *ропта́ть* ‘шумам выказваць незадаволенасць’, н.-луж. *ropotaś* ‘грымець, грукатаць’, в.-луж. *ropotać* ‘тс’, чэш. *reptati*, славац. *reptat'*, славен. *ropotáti* ‘грымець, грукатаць’, серб. і харв. *ро̀птати* ‘выказваць незадаволенасць’, ст.-слав. **ръпътати** ‘тс’. Прасл. **ropot-* разам з **rъpъt-* гукапераймальнае; параўноўваюць яшчэ з ст.-інд. *rápati* ‘балбоча’ (Фасмер, 3, 502). Гл. яшчэ *раптаць*.

**Рэ́птух** ‘торба (для кармлення каня)’ (Мат. Гом., ТС), *рэ́пех* ‘тс’ (Мат. Гом.), *рэ́птух, рапту́х* ‘вераўчаны мех’ (Сл. ПЗБ), *рэ́птух* ‘стары, нямоглы чалавек’ (Сл. Гродз., Сл. рэг. лекс.), ‘чалавек або жывёліна з вялікім жыватом’ (ТС), *рапцю́х* ‘вялікая сетка з вяровачак, у якую набіваюць сена для каня, калі збіраюцца ў дарогу’ (Янк. Мат.), ‘торба; тоўстая жанчына’ (Сл. Гродз.), *рэпцю́х* ‘аброчная торба’ (івац., Жыв. сл.). Ст.-бел. *ребтухъ* (*рабтухъ*, *хрептухъ*) ‘мех для конскага корму’ < ст.-польск. *kreptuch* < с.-в.-ням. *kripptuoch* (Булыка, Лекс. запазыч., 102).



**Рэптушы́ло** ‘чалавек з вялікім жыватом’ (ТС). Экспрэсіўнае ад *рэптух* (гл.).

**Рэпулу́ска** ‘птушка рэпалоў’ (Бяс.). Рус. *ре́полов, ре́пел* ‘тс’, *реполиха* ‘самка рэпалова’, польск. *rzepołuch* ‘канаплянка’. Прасл. **rępelъ/*rępolъ* утворана ад **ręрь/*ręрь* ‘хвост’ і суф. **-elъ/*-olъ* (Трубачоў, Этимология–1964, 7).

**Рэпута́цыя** ‘агульная думка, якая склалася пра каго-небудзь’ (ТСБМ). Ст.-бел. *репутацыя* ‘рэпутацыя’ < ст.-польск. *reputacyja* ‘тс’ < лац. *rĕpŭtātio* ‘абдумванне; разважанне’ < *rĕpŭto* ‘абдумваць; разважаць’ (Булыка, Лекс. запазыч., 136)

**Рэ́пчаты** ‘па форме падобны на рэпу’ (ТСБМ), *рэпчатка* ‘гатунак цыбулі’ (Мат. Гом.). Гл. *рэпа₁*.

**Рэ́пша** ‘неахайніца’ (Мат. Гом.). Магчыма, суадносіцца з літ. *rupša* ‘рапуха’. Гл. яшчэ *рапуха*.

**Рэпэ́ха** ‘неахайніца’ (івац., Жыв. сл.). Магчыма, экспрэсіўная кантамінацыя: *рапу́ха* (гл.) і *рапяхі́* ‘адходы пры прадзенні кудзелі’ (Шатал.). Параўн. яшчэ рус. *репсаха* ‘неахайніца’, *рёпся* ‘неахайнік’ (алан.), *репсать* ‘быць неахайным, не трымаць парадак у хаце’, ‘сёрбаць’. Гл. яшчэ *рапеха*.

**Рэ́пяшны** ‘парэпаны’ (Нар. Гом.). Экспрэсіўнае ад *рэпаны* (гл.).

**Рэ́ра** ‘неахайніца’ (Мат. Гом.). Рус. свярдл. *ре́рюшка* ‘няўмека’. Можна дапусціць сувязь з польск. *rura* (ад выразу *rura do barszczu*) ‘непрактычны чалавек, расцяпа’. Але нельга выключыць уплыў прасл. **rarogъ*, які апрача значэння ‘птушка’, азначае яшчэ назву духа, параўн. утвораныя на гэтай базе чэш. *rarach* ‘злы дух, чорт’, *rarášek* ‘дух, які выклікае вецер’, польск. *raróg* ‘дзівак’ (Трубачоў, Этимология–1965, 64–65). Гл. яшчэ *рарог*.

**Рэ́сы** мн. ‘парасткі на клубнях бульбы’ (драг., Жыв. НС). Гл. *раса₂*.

**Рэ́сквась** ‘раз’езджаная гразь на дарозе’ (баран., Сл. ПЗБ), ‘непагадзь’ (Сцяшк. Сл.). Гл. *роскваcь*.

**Рэ́скол** ‘непаслухмянае дзіця’ (Сл. Гродз., Сл. рэг. лекс.), *раско́л* ‘хуліган’ (Жыв. сл.), *расколіна* ‘тс’ (Янк.), *роско́л* ‘тс’ (ТС). Гл. *раскол*.

**Рэскры́пт** ‘пісьмо манарха з аб’яўленнем узнагароды; адказ імператара на пададзенае яму для вырашэння пытанне’ (ТСБМ). Ст.-бел. *рескриптъ* ‘маніфест; выпіска з дакумента’ < ст.-польск.

*reskrypt* < лац. *rescrīptum* ‘імператарскі ўказ’ (Булыка, Лекс. запазыч., 57).

**Рэ́слік** ‘расток’ (стаўб., Сл. ПЗБ), *ро́слі* ‘парасткі бульбы’ (Жыв. сл.). Гл. *рослік*.

**Рэспе́кт** ‘пашана, павага’ (ТСБМ). Ст.-бел. *респектъ* ‘павага’ < ст.-польск. *respekt* ‘тс’ < лац. *respectus* ‘павага; пункт погляду’ (Булыка, Лекс. запазыч., 136).

**Рэ́спуст** ‘распуснік, хуліган, свавольнік’ (ЖНС, Сцяшк. Сл.). Гл. *распуста*.

**Рэ́ставаць** ‘рэстаўраваць’ (Сл. Гродз., Сл. рэг. лекс.). Спрошчанае *рэстаўраваць*. Гл. наст. слова.

**Рэстаўра́цыя** ‘узнаўленне разбураных ці пашкоджаных ад старасці помнікаў мастацтва, гісторыі, культуры’ (Булыка, СІС). Ст.-бел. *реставрацыя* (*рестаурацыя*) ‘рэстаўрацыя; рамонт’ < ст.-польск. *restauracyja* ‘тс’ < лац. *restauratio* (Булыка, Лекс. запазыч., 95).

**Рэ́страсць** ‘нешта зношанае, старое’ (ЖНС). Ад *растрэ́сці* < *трэсці* (гл.).

**Рэстыту́цыя** ‘аднаўленне былых парушаных правоў’ (ТСБМ). Ст.-бел. *реституция* ‘зварот забранай уласнасці’ < ст.-польск. *restytucyja* ‘тс’ < лац. *restitūtio* ‘аднаўленне; аднаўленне ў правах’ < *restituo* ‘вяртаю; аднаўляю’ (Булыка, Лекс. запазыч., 77).

**Рэ́сці** ‘расці’: *ні рэслі агуркі, а потым сталі рэсць* (навагр., Сл. ПЗБ). Славацк. *rast'* ‘тс’. Да *расці* (гл.).

**Рэ́сціць** ‘дабіць, даканаць; пакараць’ (слон., Нар. лекс.), *дарэ́сьціць* ‘даканчыць’ (Нар. сл.), ‘разбурыць, разбіць’ (зэльв., Жыв. сл.). Рус. *рестить* ‘лаяцца’, *изрестити* ‘выкалаць’. Прасл. **restiti* ‘калоць, біць; лаяцца, караць’, магчыма, уяўляе сабой дэнамінатыў ад **restъ*(*ь*?), верагодна ў значэнні ‘калючка, вастрыё’, як, напрыклад **čьstiti* ‘шанаваць’ < **čьstь* ‘гонар’; *gostiti* ‘гасцяваць’ < *gostь* ‘госць’ (Гарачава, Этимология–1980, 105–106). Відаць, сюды ж *рэ́сткі*, мяркуючы па ілюстрацыі: *крычэць на ўвесь свет рэсткім крыкам* (Глеб Альгердзіч. Нашчадкі і спадкаемцы // Шыпшына, № 2, 1946. С. 36), са значэннем ‘востры, пранізлівы’.

**Рэсь,** *рэс* у лічылцы: *Эна, бэна, рэсь, Кэнтар, мэнтар, жэсь. Она, дуна, рэс, кіндэр, віндэр, рэс* (Дзіцячы фальклор, 422). Няясна. Магчыма, імітацыя іншамоўнай гаворкі (хутчэй за ўсё, ідыш).



**Рэ́ся** ‘дурніца’ (Сцяц., Сцяшк. Сл.). Няясна. Напэўна, можна суаднесці з тураў. *ра́ся*, *ро́ся* ‘персанаж гульні, падобнай да гульні ў квача’, у час гульні *ра́сю* цвеляць, дражняць. Таксама нельга выключыць уплыў *расама́ха* ‘неахайная жанчына’ (Сл. рэг. лекс.; гл.). Параўн. яшчэ рус. *ресо́ня* ‘неахайніца’ (перм.).

**Рэ́ткі** ‘частка кроснаў, якая складаецца з дошкі з дзіркамі, у якія ўцягваюцца ніткі’ (Сл. Гродз., Сл. рэг. лекс.), *ры́ткі* ‘тс’ (ТС), *ра́йткі* ‘прылада для навівання нітак у кроснах’ (Сл. Гродз.), *рэ́йтка* ‘маток нітак’ (Сцяшк. Сл.). З літ. *ratẽlis* ‘колца; самапрадка’ або літ. *rìtė* ‘шпулька’ < ням. *Riet* ‘бёрда’.

**Рэту́шка** ‘ракавіна’ (Ян.). Магчыма, ад рус. *раку́шка* ‘тс’.

**Рэ́тчас** ‘рэдка’ (лаг., Сл. ПЗБ), *зрэ́дчас* ‘тс’ (ТСБМ). Вынік сцяжэння словазлучэння *рэдкім часам*.

**Рэў** ‘моцны, працяглы крык’ (ТСБМ). Чэш. *řev*, славацк. *rev*, балг. *рев* ‘тс’. Да *раўці* (гл.), як ад *спяваць* – *спеў*.

**Рэ́ўгішы** ‘пацёкі’ (свісл., Сл. ПЗБ). Гл. *рага*.

**Рэ́ўда** ‘пра плаксівае дзіця’ (карэліц., Сл. ПЗБ). Параўн. літ. *raudà* ‘плач; лямант’, лат. *raudāt* ‘плакаць’. Ад *раўці* (гл.) + суф. *-д-а* (Сцяцко, Афікс. наз., 35).

**Рэ́ўза** ‘плакса, крыкун’ (Скарбы, ТС), ‘неахайніца’ (Касп.). Экспрэсіўнае ўтварэнне з дапамогай суфікса *-з-а* ад *раўці* ‘плакаць’ (Сцяцко, Афікс. наз., 41), падобна як *рабэйза* (гл.) ад *рабы*. Сюды ж *рэ́ўзаць* ‘плакаць, румзаць’ (ТС). Паводле Масковіча (Зб. Талстому, 364), ад яўрэйскага ўласнага імя *Réize*, чаму пярэчыць фанетыка.

**Рэўматы́зм** (ТСБМ, Сл. ПЗБ), *рама́туз*, *рама́тыз*, *раматызма*, *рамацізма*, *рамацізна*, *рамацізм* (Сл. ПЗБ), *ромаціз* (ТС). З рус. *ревмати́зм*. У рус. з ням. *Rheumatismus* ‘тс’ < лац. *rheumatismus* ‘катар’ < грэч. ρευματικοζ ‘цякучы’ (Фасмер, 3, 455; Праабражэнскі, 2, 191). Гл. яшчэ *раматус*.

**Рэ́ўна** ‘горка; слёзна’ (Сб. 1866, 191). Укр. *ревно* ‘горка, жаласна’; польск. *rzewnie* ‘тс’, чэш. *ryvný*, *řevný* ‘тс’. Прасл. **revьnъ*/**rъvьnъ* < **ruti*, **revǫ* ‘раўці, рыкаць’; магчымае развіццё семантыкі ‘той, хто раве’ > ‘той, хто выказвае эмоцыі’ > ‘зайздросны; жаласны’ (Борысь, 534). Гл. яшчэ *раўці*, *раўнівы*.

**Рэ́ўнасць** ‘пачуццё сумнення ў чыёй-небудзь вернасці’ (ТСБМ), *рэ́ўносць* ‘рэўнасць, зайздрасць, цяга’ (ТС). Укр. *ревнощі*, *ревність*, рус. *ревность*, серб. і харв. *ре́вно̑ст* ‘стаAранне’, балг. *ревност*

10 Зак. 2628

‘рэўнасць’. Прасл. **rъvьnostь* вытворнае ад **rъvьnъ* (БЕР, 6, 200). Гл. *раўнівы*.

**Рэ́ўня** ‘раёўня’ (Мат. Гом.). Вынік сцяжэння групы гукаў ад *раёўня* (гл.).

**Рэ́ўці** ‘раўці’ (Нас., Ян.), ‘румзаць; спяваць (басам)’ (Мат. Гом.). Укр. *ревти* ‘тс’. Гл. *раўці*.

**Рэ́ўцянь**$_1$ ‘расліна каля рэчкі з тоўстым пустым у сярэдзіне сцвалом’ (Бір. Дзярж.). Па апісанні падобна, што гаворка ідзе пра баршчэўнік Сасноўскага (Heracleum sosnowskyi). Паколькі сок расліны можа выклікаць апёкі скуры чалавека, можна дапусціць паходжанне назвы ад *раўці* (гл.), параўн. яшчэ *рэвоцень* ‘плакса’. Семантычная паралель у рускай мове: *крикун, крыкун* ‘расліна Cicuta virosa L.’, гэтай раслінай часта атручваюцца буйныя рагатыя жывёлы, беларуская назва *шалей* (гл. *шал*).

**Рэ́ўцянь**$_2$ ‘бадзяга’ (Сцяшк. Сл.). Высушаная расліна – народны сродак ад рэўматычных і іншых боляў. Відавочна, ад *раўці* (гл.), таксама гл. *рэўцянь*$_1$.

**Рэфарма́тар** ‘той, хто праводзіць рэформу; пераўтваральнік’ (ТСБМ). Ст.-бел. *реформаторъ* ‘прыхільнік кальвінізму’ < польск. *reformator* < лац. *refōrmātor* ‘пераўтваральнік’ ці непасрэдна з лац. (Булыка, Лекс. запазыч., 173).

**Рэфарма́цыя** ‘правядзенне рэлігійных пераўтварэнняў у духу пратэстантызму’ (Булыка, СІС). Ст.-бел. *реформацыя* ‘рэлігійнае пераўтварэнне’ < ст.-польск. *reformacyja* < лац. *refōrmātio* ‘пераўтварэнне’ (Булыка, Лекс. запазыч., 181).

**Рэфера́т** ‘кароткі выклад якога-небудзь пытання, зместу кнігі’ (ТСБМ). З рус. *реферат* ‘тс’. Ст.-бел. *реферацыя* ‘даклад, справаздача’ < с.-лац. *referatio* (Булыка, Лекс. запазыч., 33).

**Рэфле́ксія** ‘роздум; аналіз думак, перажыванняў’ (ТСБМ). Паўторнае запазычанне з рус. *рефле́ксия* ‘тс’. Ст.-бел. *рефлекцыя* ‘роздум’ < ст.-польск. *refleksyja* < лац. *reflexio* ‘думаць’ (Булыка, Лекс. запазыч., 132).

**Рэфо́рма** ‘змена, пераўтварэнне’, ‘перабудова’ (ТСБМ). З рус. *реформа* ‘тс’.

**Рэх**$_1$ ‘паласа раллі або сенажаці’ (Яшк.). Гл. *прарэх, урэх*.

**Рэх**$_2$ ‘ляшчына звычайная’ (маг., Кіс. 41). Гл. *арэх*.

**Рэ́ха** ‘водгалас, водгук’ (ТСБМ, Байк. і Некр., Сл. ПЗБ, Шат.), *рэ́хво* ‘тс’ (ТС). Ст.-бел. *exo* ‘рэха’ < ст.-польск. *echo* < лац. *ēchō* ‘водгалас, рэха’ < грэч. ηχω (Булыка, Лекс. запазыч., 138).



**Рэ́хва** ‘жалезны абруч, які наганяецца на драўляную калодку кола’ (ТСБМ, Байк. і Некр., Бяльк., Касп., Нас., Скарбы, Сцяц., Шат.), *ры́хва* ‘тс’ (Нар. словатв.), ‘жалезны абруч; шайба, якая закручваецца на канцы восі; кольца, якім змацоўваюць часткі ў прыладах працы’ (Сл. ПЗБ), ‘кольца, якім прымацоўваецца каса да касся’ (Сцяшк. МГ, Янк. Мат.), ‘кальцо для замацавання шпулькі ў калаўроце; невялікі жалезны абруч, які надзяецца на слуп і на вароты, каб іх зачыніць’ (Шатал.), *рэ́хвіна* ‘рэхва’ (ушац., Нар. лекс.), *рэ́хвачка* ‘металічнае кольца якое прымацоўвае касу да касся’ (ЖНС), ‘кольца (на грабільне)’ (Сцяц.), *рэ́квачка* ‘жалезная пятля прымацоўваць аглоблі да саней’ (Сцяшк. Сл.), *ра́хва, ры́хва, ра́фы* ‘тс’ (Маслен.); сюды ж *рэ́хва* ‘дурань’ (Жд. 3, Сцяц.). Ст.-бел. *рефа* (*рефъ, рехва, рыфа*) ‘вобад’ < ст.-польск. *refa, ryfa* ‘тс’ < ням. *Reif* ‘вобад, абруч’ (Булыка, Лекс. запазыч., 120). Формы *ары́хва, горе́хва, орехоўкі* ‘тс’ (Маслен.) паўсталі з несвядомага імкнення адаптаваць, зрабіць зразумелым чужое слова.

**Рэ́хкаць** ‘кракаць (пра качкі)’ (ЛА, 1). Гукапераймальнае. Параўн. *рохкаць* (гл.).

**Рэ́хма** ‘напралом (гл. *рэпсам*)’ (Мат. Гом.). Ад *рэхнуць* (гл.).

**Рэ́хнуць** ‘стукнуць’ (Мат. Гом.). Рус. *раха́ть, рахну́ть* ‘кідаць што-небудзь цяжкае’, славац. *rachnúť* ‘грымнуць; бухнуць’, чэш. *řachnouti* ‘тс’. Магчыма, гукапераймальнае (Фасмер, 3, 449).

**Рэхт**$_1$ выклічнік ‘няхай будзе так’ (Нас.), ‘досыць, даволі’ (Шат., Ян.). Сюды ж *рэхта* ‘канец, гатова’ (ТС). З ідыш або з ням. *Recht* ‘права, закон’ < *recht* ‘слушны, сапраўдны; які мае рацыю; які пасуе’ (Рэйзак, 532).

**Рэхт**$_2$ ‘накшталт, якраз’ (ТС). Скарочанае ад *рыхтык* (гл.) пад уплывам *рэхт*$_1$ (гл.).

**Рэ́хта** ‘лоўж (куча галля)’ (ЛА, 1). Няясна.

**Рэ́хтаць** ‘іржаць’ (ДАБМ, камент., 891). Рус. *регта́ть* ‘рагатаць’, чэш. *řehtat* ‘тс’, славацк. *rehtať* ‘тс’, польск. *rechtać* ‘рохкаць’. Гукапераймальны корань **rech-* (Рэйзак, 554).

**Рэцыды́ў** ‘зварот, паўтарэнне якой-небудзь з’явы’ (ТСБМ). Паўторнае запазычанне з рус. *рецидив* ‘тс’. Ст.-бел. *рэцыдыва* ‘аднаўленне хваробы’ < ст.-польск. *recydywa* < лац. *recidīvus* ‘паўторны’ < *rĕcīdo* ‘зноў трапляю’ (Булыка, Лекс. запазыч., 129).

**Рэ́цьма** ‘з усіх ног, стрымгалоў’ (ЖНС, Касп., Макар. Суадносіцца з рус. *рети́вый* ‘рэзвы; які рвецца да бегу (пра каня)’,

_рети́ться_ 'гарачыцца; палка брацца за што-небудзь'. Ст.-рус. _ретитися_ 'спаборнічаць; імкнуцца', _реть_ 'старанне, запал'. Чарных (2, 100) выводзіць прасл. _*retь_ (< _*ērtь?_) і суадносіць з _*ratь_ (гл. _раць_), што цяжка давесці.

**Рэцэ́пкі** 'рэбры ў кошыку' (ЛА, 4). Перанос значэння ад _рацэ́пы_ 'клеткі' (гл.) на перапляценне лазы ці лыка ў кошыку, а затым на аснову перапляцення.

**Рэцэ́пт** 'пісьмовае прадпісанне ўрача' (ТСБМ), _рэцэ́п_ 'тс' (Сл. ПЗБ), _рыцэ́пт_ 'тс' (Жыв. НС ). Ст.-бел. _рецепта_ 'рэцэпт' < ст.-польск. _recepta_ < лац. _recepta_ (Булыка, Лекс. запазыч., 129). Ад лац. _receptum_ 'гарантую; ручаюся', што азначала, што аптэкар пацвярджае, што лекі былі зроблены ў адпаведнасці з прадпісаннем лекара (Чарных, 2, 114; Сной, 528).

**Рэч**$_1$ 'рэч, прадмет, справа' (ТСБМ, Байк. і Некр., Касп., Нас., ТС, Шат.), _рэ́чы_ 'пажыткі' (Сл. ПЗБ). З польск. _rzecz_ 'тс' < лац. _rēs_ 'тс' (Брукнер, 475).

**Рэч**$_2$ 'мова, маўленне; гаворка' (ТС, Шат.), _рэ́ч'е_ 'тс' (ТС). Укр. _річ_, рус. _речь_, польск. _rzecz_, палаб. _rec_, в.-луж. _rěč_, чэш. _řeč_ славац. _reč_, славен. _rệč_, серб. і харв. _ре̑ч_ 'слова', балг. _реч_ 'мова; прамова', ст.-слав. **рѣчь**. Прасл. _*rěčь (< *rēk-ĭs)_ < _*rek-ti_ 'казаць'. І.-е. корань _*rēk-_. Роднасныя тахар. А _rake_, В _reki_ 'слова' (Чарных, 2, 115; Сной, 528; Бязлай, 3, 163). Гл. яшчэ _рэкнуць_.

**Рэчаі́снасць** (ТСБМ), _рэчаві́стасць_ 'тс' (Байк. і Некр., Нар. Гом.). Калька з польск. _rzeczywistość_ 'тс', якое, паводле Брукнера, створана на ўзор _oczywisty_ (Брукнер, 475).

**Рэчаспі́с** 'рэестр, каталог' (Байк. і Некр.). Утворана шляхам словаскладання ад словазлучэння _спіс рэчаў_.

**Рэ́чман** 'старшы ротман у плытагонаў' (Нар. сл.), 'плытагон' (Сцяшк. МГ), _рэ́цьман_ 'брыгадзір плытніцкай брыгады' (З нар. сл.), _рэ́ксман_ 'старшы сярод плытагонаў' (Скарбы). Гэтыя формы суадносяцца з _рака, рэчка_ пад уплывам народнай этымалогіі. Гл. _ротман_.

**Рэ́чнік** 'рэпік канапляны, Eupatorium L.' (Кіс. 51). Ад _рака_ (гл.), паколькі гэтая расліна расце па берагах рэк.

**Рэ́чны** 'рачны' (Байк. і Некр.). Мяркуючы па націску, з польск. _rzeczny_ 'тс'.

*__Рэчны́__$_1$ _речный_ 'языкаты' (пін., Нар. лекс.). Да _рэч_$_2$.



**Рэчны́**$_2$ 'ганарлівы' (жытк., Нар. словатв., ТС), _рачны́_ 'самаўпэўнены, нахабны' (Сцяшк. Сл., Сцяц. Сл.). Відаць, далейшае развіццё семантыкі ад _рэчны_$_1$ (гл.), але нельга выключыць уплыў польск. _grzeczny_ 'ветлівы, выхаваны', хаця націск робіць такое дапушчэнне сумніўным.

**Рэ́чыва** 'тое, з чаго складаецца фізічнае цела; матэрыя' (ТСБМ). Калька з рус. _вещество_.

**Рэ́чыцца** 'надарыцца' (Шат.), 'удацца' (Стан.). Фанетычны варыянт да _ру́чыцца_ 'удацца' (гл.).

**Рэ́чышча** 'паглыбленне на паверхні зямлі, па якім цячэ рака' (ТСБМ, Байк. і Некр.), _рэ́чыца_ 'старое рэчышча' (ЛА, 2), _рачы́шча_ 'тс' (чэрв., Сл. ПЗБ), _ро́чышча_ 'месца, дзе цякла рака' (Яшк.). Укр. _річище_, польск. _rzeczysko_, в.-луж. _rěčišćo_, _rěčnišćo_, чэш. _řečiště_, славацк. _riečište_ 'рэчышча', балг. _рѐчище_ 'тс'. Прасл. _*rečišče_. Ад _рака_ (гл.), як _багнішча_ < _багна_.

**Рэ́шата**$_1$ 'прылада для прасейвання мукі ў выглядзе шырокага абруча з сеткай' (ТСБМ, Бяльк., Касп., Сл. ПЗБ), 'надзвычай рэдкае сіта' (Янк. Мат.), _рэ́шато_ 'рэшата' (Сцяшк.), _рэшэто_, _рышыто_ 'тс' (Сл. Брэс.), _рэшота, рэшото, рэшэто_ 'тс' (ТС); сюды ж _рэшатнік_ 'хто вырабляе рашоты' (Сл. ПЗБ). Укр. _ре́шето_, рус. _решето_, польск. _rzeszoto_, палаб. _rîsetü_, в.-луж. _řešo_, чэш. _řešeto_, славац. _rešeto_, славен. _rešẹ́to_, серб., харв. _решѐто_, макед. _решето_, балг. _реше́то_. Прасл. _*rešeto_. Паводле асноўнай семантычнай прыметы ('рэдкае перапляценне') часта звязваюць з асновай _*rěch-_ (параўн. рус. _прореха_, бел. _прарэх_) < _*rěd-ch_ < _rědъkъ_ 'рэдкі' (Праабражэнскі, 2, 237; Брукнер, 476; Чарных, 2, 115). На карысць гэтай версіі можна прывесці літ. _rẽtis_ 'рэдкасць; рэшата'. Але Фасмер, прымаючы гэтую версію ў семантычных адносінах, лічыць неверагодным вывядзенне прасл. _*rešeto_ ад _*rědъkъ_, паколькі давялося б прымаць чаргаванне галосных у першым складзе. Паводле іншай версіі, прасл. _*rešeto_ суадносяць з літ. _rezgu_, _regti_ 'плесці, вязаць', лат. _režģis_ 'сетка; краты' (Махэк$_2$, 530). Фасмер лічыць такое параўнанне неапраўданым фанетычна (Фасмер, 3, 479). А паводле Куркінай, на славянскай глебе і.-е. корань _*rezg-_ перанёс некаторыя змены, пры якіх меў месца пераход _zg_ > _sk_ > _x/š_ (Куркіна, Этимология–1974, 54).

**Рэ́шата₂**, *рэшота, рэшото, рэшэто* 'стаўная рыбалоўная пастка' (ТС). Да *рэшата₁* (гл.) паводле знешняга падабенства, паколькі гэтая прылада мае выгляд рэдкай сеткі з абручамі.

**Рэ́шата₃** (*рэшэто*) 'рашэтнік, падрашэтнік (грыб)' (ТС). Гл. *рашэтнік*.

**Рэ́шата₄** (*рэшэто*) 'гульня, падобная да гульні ў класы' (ТС). Да *рэшата₁* (гл.), паколькі для гэтай гульні на зямлі крэсляць лініі, якія ўтвараюць рэдкую сетку.

**Рэ́шата₅** астр. 'сітцо (Вялікая Мядзведзіца)' (Сл. ПЗБ), астрав. 'Пляяды' (Федар., 1, 150). Паводле легенды, тры каралі пакінулі сіта, з якога сыпалі авёс сваім коням, разам з дарункамі для Ісуса. Гэтым сітам карысталася Божая Маці, а пасля ўзнясення на неба, павесіла яго сярод зорак. Паводле Купішэўскага ў балтаў і фінаў назва гэтага сузор'я мае семантыку 'сіта' (Władysław Kupiszewski. Polskie słownictwo z zakresu astronomii i miar czasu. Warszawa, 1974. S. 99).

**Рэ́шка** 'бок манеты, адваротны гербаваму малюнку' (ТСБМ). З рус. *решка* 'тс'.

**Рэ́шнік₁** 'арэшнік' (ЛА, 1, Сл. ПЗБ). Ад *арэшнік* < *арэх* (гл.).

**Рэ́шнік₂** 'тонкія планкі, якія набіваюць пры атынкоўцы' (Сл. Гродз., Сл. рэг. лекс.). Рус. *решетины* 'тс', *решка* 'краты'. Гл. *рашотка₁*.

**Рэ́шта** 'астача, астатак; рэшта' (ТСБМ, Байк. і Некр., Касп., Нас., Сл. ПЗБ, ТС), 'абрэзак тканіны' (ЛА, 4), *рэшт* 'астача, рэшта' (ЛА, 3), *рэйшта* 'тс' (Сцяшк. Сл.), *рэшка* 'рэшта, астатак' (Бяльк.). Ст.-бел. *решта* 'рэшта' < ст.-польск. *reszta* < ням. *Rest* (Булыка, Лекс. запазыч., 81). Сюды ж *рэштавы* 'астатні' (Нас.).

**Рэ́шты,** *рашты, рышты* 'прыстасаванне ў возе для пашырэння яго пагрузачнай пляцоўкі' (Нар. словатв.). Відаць, з чэш. *rešt, rošt* 'бэлька, трама' < ням. *Rost* 'краты'. Гл. яшчэ *рошт*.

**Рэшэме́та** 'стаўная рыбалоўная пастка з уваходам у цэнтры: *Рэшэмета – таке рэшэто з дзірочкой*' (ТС). Магчыма, кантамінацыя *рэшата* і *мятаць*. Гл. *рэшата*.

**Рэшэці́ць** 'прыбіваць жэрдкі да крокваў' (ТС). Укр. *решетити* 'дзіравіць; абрашэчваць'. Да *рашотка₁* (гл.).

**Рэ́я₁** 'рухомы папярочны круглы брус на мачце' (ТСБМ), 'тоўстае бервяно' (Нар. сл.). Ст.-рус. *рая* 'рэя', польск. *reja* 'тс'. З ням. *Raa, Ree, Rahe* або нідэрл. *raa* (Брукнер, 457; Даль, 3, 1671).



**Рэ́я₂** 'карагод' (Байк. і Некр.). Гл. *рэй₁*.

**Рэ́я₃** 'ёўня' (Байк. і Некр., Касп., Нас.), 'вельмі вялікі капец бульбы' (ЛА, 2), *рэй* 'прыстасаванне з слупоў і жэрдак для дасушвання збажыны і траў'. Польск. дыял. усх. *reja, rejka* 'капец бульбы'. З літ. *rejà, rijà* 'ёўня' < лат. *rija* 'тс' (Сл. ПЗБ, 4, 331; Фасмер, 3, 463; Лаўчутэ, Балтизмы, 33; LKA, 64).

**Рэ́я₄** 'тое, што і батарэя' (Нар. сл.). Ад *батарэя* (гл.) шляхам адсячэння пачатку слова. Параўн. чэш. слэнг. *retka* < *cigaretka* 'цыгарэтка'.

**Рэ́яць₁** 'ліцца, цячы струменем (пра кроў)' (Юрч., Юрч. Сін.), 'цячы, нястрымна ліцца' (Сцяшк. МГ). Укр. *ріять* 'раіцца (пра пчол)', рус. *ре́ять* 'цячы; ляцець; падаць', серб., харв. *рѐвати* 'ліцца; раўці'. Прасл. **rěјati*, корань *rěj-*, і.-е. база **(e)rei-/*roi-/*rī-* са значэннямі 'цячы, струменіць; імкнуцца' (Чарных, 2, 115). Чаргаваннем галосных звязана з *рынуцца* (гл.), *рой* (гл.) (Фасмер, 3, 480).

**Рэ́яць₂** 'плаўна лятаць; лунаць', 'развявацца (пра сцяг)' (ТСБМ). Рус. *ре́ять*, балг. *рея се* 'тс'. Другаснае значэнне; развілася на базе 'цячы, струменіць; імкнуцца'. Гл. *рэяць₁*.

# С

**С**, *са* – прыстаўка, *са* – прыназоўнік. Гл. *з*.

**Саба́ка**$_1$ м. р. 'свойская жывёліна сямейства сабачых, якая выкарыстоўваецца для вартаўнічай аховы, язды (на Поўначы), на паляванні і пад.'. Укр. *соба́ка* с. і ж. р., рус. *соба́ка* ж. р., 'тс'. За межамі ўсх.-слав. моў толькі польск. дыял. *sobaka* (Вялікапольшча; у Верхняй Сілезіі – як лаянка); каш. *sobaka* 'разбэшчаны чалавек'. Большасць даследчыкаў лічаць слова запазычаннем з іран.; параўн. сяр.-іран. **sabāaka-*, сяр. парсі *sabah* (напр., Уленбек, 322), авесц. *spaka-*, прым. 'сабачы', *spā* 'сабака', мідыйск. *σπάκα* (гл. Фасмер, 3, 702 з літ-рай). Пры гэтым польскае і кашубскае словы тлумачацца як запазычанне з рускай, «з мовы фурманаў» (Міклашыч, 312; Развадоўскі, RO, 1, 107; Брукнер, 53; таксама Шцібер, SOr, 27, 257–258 кашубскае слова лічыць новым пранікненнем у часы вайны з мовы беларускага або рускага насельніцтва. Супраць Фасмер, там жа і Сялішчаў, ИОРЯС, 32, 308. Міклашыч (Türk. El. Nachtr., 2, 184) і Корш (у Фасмера, 3, 702), абараняючы іранскае паходжанне, лічаць магчымым цюркскае або фінскае пасрэдніцтва. Фасмер (там жа) выказвае меркаванне, што давесці гэтага нельга, а як семантычнае абгрунтаванне прыводзіць італ. *alano*, ст.-франц. праванс. *alan* 'дог', якое з нар.-лац. *alanus* 'аланскі', г. зн. іранскі сабака. Другі, кардынальна адменны пункт погляду на паходжанне слова ў Трубачова (Происх., 29 і наст.), які, указваючы на фанетычныя і знешнелінгвістычныя фактары, лічыць слова цюркізмам < цюрк. *köbäk* 'сабака'. Змена роду ў бел. і ўкр. ⁺*собака* Карскі (Белорусы 2–3, 15) тлумачыць паўсюдным ужываннем для істоты ж. р. слова *сука*; г. зн., відаць, проціпастаўленню рус. *кобель – сука* адпавядае бел. і ўкр. *сабака – сука*.



**Саба́ка**$_2$ 'мерка для раўнамернага набівання рашацін на страху' (Шат.), 'заціскачка' (Сл. ПЗБ), 'палка для ўмацоўвання кола задняга навоя' (Жыв. сл.), *соба́ка* 'вілы з загнутымі ўніз канцамі' (Выг.). Да *сабака*$_1$. Семантычную матывацыю гл. *сабачка*$_2$.

**Саба́ка**$_3$ 'устарэлая мера дроў' (лун., Шат.). Параўн. *сабачкі*$_3$. Відаць, 'столькі дроў, колькі памяшчаецца на такіх санках'.

**Саба́кі** 'гульня' (Бяльк.). Рус. паўн. *соба́ка* 'палка, якой ганяюць сучку, шар у гульні', укр. *соба́ка* 'назва некаторых з гуляючых у гульню *пыж*'. Да *сабака*$_{1,2}$, але семантычная матывацыя няясная, паколькі апісанне гульні адсутнічае.

***Сабакрут**, *собакру́т* 'сцяпёр, маркоўнік' (ТС). Няясна. Магчыма, гаплалогія з **сабакакрут*, ад *сабака* і *круціць*, але матывы намінацыі невядомыя.

**Сабаніць** 'падаць (пра дождж)' (Сл. рэг. лекс.). Рус. перм., вяц., каз. *саба́нить* 'моцна дзьмуць, як саплом, цягнуць, цячы, імкнуцца'. Рускае слова падаецца Далем у гняздзе *саба́н* 'плуг' (гл. наступнае слова). Геаграфія слоў і націск указвае на невялікую магчымасць сувязі паміж імі. Калі рус. слова ўтворана ад *сабан*, бел. слова магло мець тую ж крыніцу, але, відаць, было запазычана ад татарскага насельніцтва на тэрыторыі Беларусі. Хутчэй за ўсё, да *цабаніць* 'падаць (пра дождж)', гл.

**Сабанту́й** 'у татараў і башкіраў народнае свята, звязанае з заканчэннем веснавых палявых работ', 'шумлівая пагулянка; калатня, бітва' (ТСБМ). Праз рус. *сабанту́й* 'тс' (параўн. Крукоўскі, Уплыў, 74) з тат. *сабантуй* 'банкет у канцы свята веснавога ворыва', ад *сабан* 'двухколавы плуг' і *туй, той* 'банкет, баль'; гл. Трубачоў, Дополн., 3, 541. Аб магчымым існаванні слова *сабан* і ў бел. гаворках сведчыць наяўнасць яго ў гаворках беларускіх перасяленцаў у Сібіры: "*пахалі бабы, плугоў не была, сабані толькі*" (Бел.-рус. ізал., 120).

**Сабарно́** 'вялізны сабака' (ТС, Скарбы), *сабо́рно* 'сабака' (Мат. Гом.). Укр. *соба́рний* 'сабачы'; сюды ж, відаць, рус. пск. *соба́рник* 'буян, грубіян', *соба́рничать* 'буяніць'. Нейкі складаны словаўтваральны варыянт ад *сабака*$_1$. Магчыма, першапачаткова частка *-ака* ў гэтым слове была заменена экспрэсіўным суфіксам *-ара(-ор)* (аб суф. гл. SP, 21 і наст.), адкуль быў утвораны прым. з суф. *-н-*, гл. украінскі прыклад. Прыметнік быў субстантываны суф. *-о*. Няпэўна.

**Са́бас** 'субота ў яўрэяў' (Гарэц.), *саба́х* 'малітва ў татараў' (Скарбы). З *ша́бас* (гл.), з асімілятыўнай менай *ш > с*.

10а Зак. 2628

**Саба́ць** ‘калоць’ (гродз., З нар. сл.). З *зобаць*?

**Саба́чка₁** памянш. да *сабака₁* (гл.).

**Саба́чка₂** ‘спускавы механізм у агнястрэльнай зброі’, ‘прыстасаванне ў машынах, механізмах, якое перашкаджае руху назад зубчастага кола’ (ТСБМ), ‘прылада, пры дапамозе якой здымаюць бобы’ (Сцяшк. Сл.), ‘частка ткацкага станка’, ‘слясак’ (Мат. Гом.), ‘дэталь у ніты красён’ (Сл. ПЗБ), ‘палачка, якая злучае паніжы з нітамі’ (Жыв. сл., Нар. сл.), ‘прылада ў кроснах, якая трымае набілкі на патрэбнай вышыні’ (Бяльк.), ‘кружкі ў кроснах, на якіх перамяшчаюцца ніткі асновы’ (Сцяшк. Сл.), *собáчка* ‘вільчак’ (палес., Нар. сл.), *собáчкі* ‘тры маленькія драўляныя палачкі па абодвух баках ніта’ (Влад.). Агляд семантыкі бел. *сабачка* гл. таксама Н. А. Старасценка, Бел. мова, 8, 1981, 77 і наст. Параўн. рус. *собáчка* ‘спускавы механізм у агнястрэльнай зброі’, а таксама назвы дэталяў для захвата, зачэплівання чаго-небудзь, у тым ліку і ў кроснах. Да папярэдняга слова.

**Саба́чка₃** ‘галоўка дзядоўніка, шышка’ (Нас., Байк. і Некр.). Рус. *собачка* ‘тс’. Да *сабачка₁* па ўласцівасці зачэплівацца. Параўн. яшчэ *ваўчкі*.

**Саба́чка₄** ‘мужчынскі гальштук у выглядзе банта’ (Сл. рэг. лекс.). Да *сабачка₁* па знешняму падабенству.

**Саба́чкі₁** ‘расліна ваўчкі паніклыя, Bidens cernuus L.’ (Гарэц., Кіс.), ‘ваўчкі трохраздельныя, Bidens tripartia L.’ (Бяльк., Демб. 1), ‘ваўчкі паніклыя і трохраздзельныя’ (Касп., Демб., 1), ‘ваўчкі’ (Сл. ПЗБ). Рус. *собáчки* ‘асот, лопух, дзед’. Да *сабачка₁*; расліна названая па вострых учэпістых пладах. Параўн. Мяркулава, Очерки, 98.

**Саба́чкі₂** ‘кветка львіны зеў’ (Бяльк.), ‘кветкі-фіялкі’ (Сцяшк. Сл.), ‘зарніца звычайная’ (мазыр., Жыв. сл.). Да *сабачка₁*, відаць па знешняму падабенству кветак да морды сабакі.

**Саба́чкі₃**, *сабачукí* ‘невялікія сані’ (Сл. ПЗБ). Да *сабачка₁*. Падрабязна гл. пад *сучкі*.

**Саба́чы**, прым. ад *сабака₁*; часта як састаўная частка назваў некаторых раслін і грыбоў: *сабáччая мята* ‘мята палявая’ (Шат.), *сабáча, сабáчая, сабáччая, сабáчча мята, собáча мнята* ‘мята вадзяная і палявая’ (Сл. ПЗБ), *сабáча мята* ‘мята перцавая’ (Жыв. сл.), *сабáчы рамон* ‘рамонак’ (Бяльк.), *сабáчы рамонак, сабáчы румянак* ‘тс’ (Сл. ПЗБ), *сабáчча мыла* ‘вятроўнік вязалісты’ (Жыв. сл.), *сабáчы баравік* ‘воўчы грыб’ (Сл. ПЗБ), *сабáчыя грыбы* ‘неядомыя грыбы’ (Сцяшк. Сл., Жыв. сл.), *сабáчы грыбок* ‘від грыба’ (Байк. і Некр.). Як заўважае Мяркулава (Очерки, 89), назвы такога тыпу існуюць у большасці індаеўрапейскіх моў. Значэнне прыметніка, утворанага ад назваў жывёл і птушак, звычайна выпустошана; ён указвае толькі на неядомасць або непрыдатнасць для чалавека гэтай расліны. Пра сінанімію *сабачы – воўчы* гл. Жураўлёў, Язык и миф, 378–380.



**Саба́чына** ‘грубае з тоўстым сцяблом сена, трава (якую не хоча есці жывёла’ (Нар. словатв.). Да *сабака₁* (гл.).

**Сабачз́ўнік** ‘сабачая мята’ (Сл. ПЗБ). Да *сабачы*. Вынік кандэнсацыі словазлучэння *сабачая мята*.

**Сабга́таць** ‘скамячыць’ (Янк.), *сабгáкаць* ‘зжаваць’ (Сл. ПЗБ). Да *бгаць* (гл.).

**Сабе** (без націску) часціца. Ужываецца пры дзеясловах або займенніках для падкрэслівання, што дзеянне адбываецца спакойна, незалежна, з задавальненнем; таксама з выказваннем дакору (ТСБМ, Сл. ПЗБ). Гл. *сябе*.

**Сабе́чыць**, часцей з прыст. *прысабéчыць* ‘набываць ва ўласнасць’, ‘прысвойваць’ (Нас.). Дэрыват ад займ. *сабе*.

**Сабізра́л** ‘хто легкадумны’, *савіздрáл* ‘хвалько’ (шальч., Сл. ПЗБ). З польск. *Sowizdrzał;* першапачаткова *Sownočiardłek*, пераклад ням. *Eulenspiegel*, імя народнага жартаўніка і веселуна, персанажа рамана Ш. Дэ Кастэра “Легенда пра Уленшпігеля і Ламе Гудзака” (Брукнер, 508).

**Са́бля** ‘рыба чахонь Pelecus cultratus’ (Жук., Інстр. 2). Запазычанне з рус. *сáбля* ‘тс’, якое, у сваю чаргу, ад рус. *сабля* ‘шабля’, таму што дзякуючы завостранаму, моцна выгнутаму брушку і прамой шырокай спіне рыба нагадвае лязо нажа (шаблі) (Фасмер, 4, 354).

**Сабо́** ‘абутак на драўлянай падэшве або выдзеўбаны з дрэва’ (ТСБМ). Праз рус. *сабо* з франц. *sabot* ‘тс’; аб апошнім гл. СИС, 450.

**Сабо́р₁** ‘у дарэвалюцыйнай Расіі – сход службовых ці выбарных асоб’, ‘сход ці з’езд прадстаўнікоў вышэйшага духавенства хрысціянскай царквы’, ‘галоўная або вялікая царква ў горадзе, манастыры’ (ТСБМ), ‘царква’ (Сцяшк.). З рус. *собóр* ‘тс’ (Крукоўскі, Уплыў, 56), якое запазычана з царкоўнаславянскай, параўн. ст.-рус. *съборъ*, ст.-слав. **съборъ**, першапачаткова ‘сход духавенства’ < прасл. **sъbrati*. Калька з грэч. συναγωγή ‘сход’. Гл. Фасмер, 3, 704 з літаратурай.

**Сабóр**₂ 'куча' (Сл. ПЗБ), 'набор' (Нар. лекс.). Гл. *субор*.

**Сабугóрыць** 'пабудаваць' (Юрч., Сцяшк. Сл.), 'з-за недахопу сродкаў зрабіць што-небудзь абы як' (Раст.), 'даглядзець' (Мат. Гом.). Параўн. у Насовіча *бугóрынне* 'нагрувашчванне' < *бугор* (гл.). Сюды ж і дзеяслоў з першасным значэннем 'пабудаваць абы як, нагрувасціць як *бугор*'.

**Сабýр** 'згушчаны сок лісцяў альясу, які ўжываецца ў медыцыне як слабіцельнае' (ТСБМ). Рус. *сабýр* 'тс'. Праз цюрк. пасрэдніцтва з араб. *ṣabr* 'тс' (Мацэнаўэр, 302; Локач, 139; Міклашыч, Türk. El. Nachtr., 2, 148; Праабражэнскі, 2, 243; Фасмер, 3, 541).

**Савá**₁ 'драпежная начная птушка атрада соў, у якой вялікая круглая галава, вялікія вочы і кароткая загнутая дзюба'. Укр., рус. *совá*, серб.-ц.-слав. *сова*, польск., н.-луж., в.-луж. *sowa*, палаб. *süwó*, чэш., славац. *sova*, серб.-харв. *сȍва*, славен. *sóva*, балг. *cóва*. Прасл. **sowa* 'птушка Strix'. Большасць этымолагаў лічаць гукапераймальным утварэннем, параўн. Фасмер, 3, 704 і наст.; Траўтман, 300; Махэк₂, 568. Яшчэ праіндаеўрапейская назва (Струтыньскі, Nazwy, 87), параўн. роднасныя: ст.-брэтон. *couann* 'тс', брэтон. *kaouen*, кімр. *cuan* 'начная сава', ст.-в.-ням. *hûwo*, *hûwila* 'тс', *hiuwilôn* 'лікаваць' і г. д. Параўн. яшчэ з пачатковым заднепаднябенным рус. дыял. *кáва* 'галка', літ. *naktikóva* 'сава, начны крумкач', *kóvas* м., *kóva* ж. 'галка', ст.-інд. *kaúti* 'крычыць' (гл. Вальдэ-Гофман 1, 184). Ад і.-е. **kēu-*, *kău-* 'выць, рычаць, крычаць' (Борысь, 567; Сной₁, 594, Шустар-Шэўц, 2, 1336).

**Савá**₂, мн. л. *сóвы* 'грыб шампіньон' (нарач., ЛА, 1). З польск. *sowa* 'від пластынковага грыба', якое Борысь, 567 памяшчае ў артыкул *sowa* 'птушка'. Назва, магчыма, па колеру.

**Савакí** 'валакуша, спецыяльнае прыстасаванне для перавозкі драўлянага плуга' (Нар. сл., Скарбы). Да **савацца*, *суваць* (гл.).

**Савакупля́цца** 'здзейсніць палавы акт', *савакуплéнне* (ТСБМ). Новае запазычанне з рус. *совокупля́ться* (Крукоўскі, Уплыў, 42), якое запазычана з ц.-слав., ст.-слав. **съвъкоупити**, вытворнага ад ст.-рус., ц.-слав. *вькупѣ* 'сумесна', *купъ* 'куча' (Фасмер, 3, 705).

**Сáван** 'пахавальны ўбор з белай тканіны для нябожчыка' (ТСБМ, Мат. Гом.), *савáны* мн. 'тс' (Байк. і Некр.). Рус. *сáван*, ст.-рус., царк.-слав. *саванъ*. Праз грэч. σάβανον з сяміцкіх моў, параўн. араб. *sabanijjat*, г. зн. 'тканіна, якую рабілі ў Сабане каля Багдада'; гл. Міклашыч, 288; Фасмер, 3, 542 з іншай літаратурай.



**Савáцца** 'заляцацца' (Сл. ПЗБ). Гл. *сувац(ца)*. Відаць, семантычна аказіянальнае ўтварэнне.

**Савéт** 'назва некаторых органаў дзяржаўнага кіравання, якія складаюцца з выбарных або прызначаных асоб', 'распарадчы або дарадчы калегіяльны орган пры якой-небудзь установе, арганізацыі, таварыстве і пад.' (ТСБМ), 'савет, нарада' (Бяльк.), *савéты* 'савецкая ўлада; савецкія людзі' (Сл. ПЗБ, Скарбы). З рус. *совéт*, *совéтовать* (Крукоўскі, Уплыў, 43). Рус. з царкоўнаславянскай, параўн. ст.-рус. *съвѣтъ*, ст.-слав. **съвѣтъ**, якое калькуе грэч. συμβούλιον 'нарада'; гл. Фасмер, 3, 705.

**Савéтніца** 'белая тонкая посцілка, прасціраддла' (Бяльк.). З **светніца* < *свет* (гл.) з дыял. прыст. *са-* замест *с-*; магчыма, пад уплывам *святліца* (гл.), г. зн. посцілка, якая сцялілася ў святліцы.

**Савéць** 'рабіцца вялым, санлівым ад зморанасці' (ТСБМ), часцей *асавéць* (гл.). Рус. *совéть* 'быць ачмурэлым, падкочваць вочы', польск. *sowieć* 'станавіцца асавелым, смутным'. Да *сава*, першапачаткова 'стаць такім, як сава', таму што совы, актыўныя ноччу, днём становяцца апатычнымі і соннымі. Гл. Праабражэнскі, 1, 664; 2, 348; Фасмер, 3, 162; Борысь, 567.

**Савíна** 'куст ядловец казачы Juniperus sabina L.' (Кіс.). Запазычанне з польск. *savina* 'тс', якое з лац. *sabina* 'тс' праз зах.-ням. *Sevenbaum*, літаральна 'сабінскае дрэва, расліна' па назве племені сабінаў, якія некалі насялялі Італію (гл. Скіт, 536).

**Савíты** 'двайны, ў два разы больш дарагі' (Гарб.), *савíта* 'ў два разы больш (палажыць)' (Нас., Гарб.). Запазычанне з польск. *sowity* 'двайны', 'шматлікі' (Кюнэ, Poln., 98), якое ад *sować* (гл. *сунуць*). Аб польскім слове гл. Брукнер, 508; Борысь, 567; ст.-бел. *совитый*, *осовитый* 'шчодры, двайны' (XVI ст.) з ст.-польск. *sowity* 'тс' (Булыка, Лекс. запазыч., 195).

**Сáвіць**: *сáвыты* 'святкаваць' (Клім.). Параўн. укр. *сáвити* 'святкаваць дзень св. Савы'. Сюды ж *сáвы* 'рэлігійнае свята зімой' (Мат. Гом.). Ад уласнага імя *Сава*. Гл. таксама Талстая, Полес., 219.

**Савóй** 'канапляная вяроўка' (Шатал.). Гл. *сувой*.

**Савóк** 'прылада для збірання смецця' (Мат. Маг.), 'шуфлік', 'міска драўляная', 'мерка на 2 фунты' (Мат. Гом.), 'прылада ў выглядзе грабелек для збірання чарніц', 'каробачка з бяросты для ягад' (Шатал.). Рус. *совóк* 'прылада для збірання смецця; грабелькі для збірання ягад' і г. д. Да **соваць*, гл. *сунуць*.

**Сав́осы**: *в савосы* 'дамоў, да хаты' (Нас.). На думку Насовіча (571) гэта скажонае рус. *восвояси*, што выклікае сумненні з фанетычнага боку. Лепей тут бачыць уплыў літ. *sãvas* 'свой' або ўтварэнне ад таго ж літоўскага слова з суф. *-ос* (як *дзівосы*). Аб гэтым суф. гл. Карскі, 2–3, 31. Цвяткоў (Запіскі, 2, 51) прыводзіць у якасці паралелі серб. *сав* 'увесь' і падтрымлівае этымалогію Насовіча.

**Сав́як** 'грыб падбярозавік, абабак' (Сцяшк., Нар. лекс.), 'падасінавік' (Мат. Гом., Жд. 1, 2, Нар. сл.), 'махавік' (Сл. ПЗБ, Жыв. сл.), *саўякі* 'падасінавікі' (лельч., Арх. ГУ). З *асавяк* у выніку адпадзення *а-*. Гл. *асавік*.

**Са́вянка** 'вялікі кошык' (Сл. рэг. лекс.). Гл. *сявалка, сявенька*.

**Са́га** 'крупы з крухмалу сагавай пальмы, а таксама штучныя крупы з кукурузнага або бульбянога крухмалу' (ТСБМ). З рус. *са́го* 'тс', у якой праз ням. *Sago*, франц. *sagou* з малайск. *sâgû* 'мука з сагавай пальмы' (Праабражэнскі, 2, 244; Фасмер, 3, 543; Махэк$_2$, 535).

**Сагайда́к** 'чахол для лука', 'увесь набор збруі конніка: лук з чахлом і калчан са стрэламі' (ТСБМ). Ст.-бел. *сагайдакъ, саадакъ, сайдакъ, согайдакъ, согойдакъ* (пачатак XVI ст.), працягвае ст.-рус. *саадакъ, сайдакъ, сагайдакъ*; параўн. і ст.-укр. *сайдакъ, сагайдакъ* (XV ст.), гл. Булыка, Лекс. запазыч., 71. Укр. *сагойда́к, сайда́к*, рус. дыял. *саада́к, сагада́к, сайда́к*, польск. *sahajdak, sajdak* 'тс' (XVII ст., з усходнеславянскіх, Брукнер, 479). Запазычанне з цюрк., параўн. казах., чагат., алт. *sadak*, балкар. *sadaq, saday* 'стрэлка', тат., чагат. *saydak* 'калчан', манг. *sagadag* 'лук і стрэлы'. Гл. Фасмер, 3, 540, 543 з літ-рай. Аб гісторыі гэтых назваў у рускай мове гл. Адзінцоў, Этымалогія–98 і наст.

**Сага́н** 'чыгун' (ТСБМ, Касп., Гарб., Байк. і Некр., Др.-Падб., Бес., Сцяшк., Шн. 3, Шатал., Жд. 1, 2, Мат. Гом., Сл. Брэс., З нар. сл.), 'паліваны чыгун з двума вушкамі' (Сл. ПЗБ, ТС), *сагане́ц* 'тс' (Янк. БП), 'высокі чыгун з вушкамі', 'нізкі тоўсты чалавек' (ТС). Укр. *сага́н* 'кацёл, вялікі гаршчок, посуд наогул', рус. дыял. *сага́н* 'міска, чаша', польск. *sagan* 'вялікі металічны гаршчок'. Запазычанне з тур., крым.-тат. *sahan* 'блюда з накрыўкай, міска, чаша' ад араб. *ṣaḥn* (Радлаў, 4, 282; Міклашыч, 287; Фасмер, 3, 543). Польскае запазычана праз усходнеславянскія або вянгерскую мовы (Брукнер, 479). Паводле Козырава (Лекс. тюрк., 74) непасрэднай крыніцай беларускага слова з'явілася ўкраінская мова.



**Сагане́ць** 'моцна ліць (пра дождж)' (маст., Сл. рэг. лекс.). Відаць, рэгіянальны цюркізм; параўн. тур. *saganak* 'навальніца, лівень'. Аб магчымасці непасрэдных запазычанняў з мовы татар, якія жывуць на Беларусі, гл. Жураўскі, Лекс. тюрк., 93).

**Сага́нка** 'цыганка' (Сл. ПЗБ). З *цыганка* (гл.) у выніку дыялектнага змянення *ц* > *с*, аб якім гл. Карскі, 1, 362–363.

**Сагла́с** 'згода' (Шат.), *сагла́сіе, сагла́сія, сагла́се* 'тс' (Сл. ПЗБ), *сагласі́цца* 'згадзіцца' (Сл. ПЗБ). З рус. *согла́сие, согласи́ться*, якія запазычаны з царкоўнаславянскай мовы. Гл. *голас*.

**Саго́нь** 'сёння' (Сл. Брэс.). З рус. *сегодня* 'тс'; першапачаткова было, магчыма, *сагодньь*, потым *дн'* > *нн'* > *н'*.

**Сад** 'участак зямлі, засаджаны дрэвамі, кустамі і кветкамі; дрэвы, кветкі, якія растуць на гэтым участку', дыял. 'карма ў невадзе, мяшок пасярод яго, куды трапляе рыба' (віц., Нар. лекс.), 'пасад у гумне' (Нас.), 'верхні і ніжні млынарскія камені' (Некр.), 'грыбная калонія ў лесе' (Яшк.). Да *садзіць, сесці*. У першым значэнні агульнаславянскае і праславянскае: рус., укр. *сад*, ст.-рус. *садъ* 'дрэва, расліны, гай, сад', ст.-слав. **садъ** 'сад', польск. *sad* 'сад, парк', в.-луж., н.-луж. *sad* 'садавіна; сад', чэш., славац. *sad* 'сад, насаджэнне', серб.-харв. *са̑д* 'новае насаджэнне', славен. *sâd* 'плод; плантацыя', балг., макед *сад* 'насаджэнне'. Праслав. **sadъ* 'пасадка', старая аснова на *-й* (Мяйе, RS 6, 131). Бліжэйшыя адпаведнікі ў ст.-інд. *sadá* 'язда вярхом, сядзенне', ст.-ісл. *sót* 'сажа', гл. Траўтман, 259 і наст.; Майргофер, 3, 473; Фасмер, 3, 543 і наст.; Брукнер, 478 і наст.; Махэк$_2$, 539, Сной$_1$, 550; Шустар-Шэўц, 2, 1263; Борысь, 537. *Сад* у значэнні 'дзіцячы сад' з рус. *сад* 'тс'.

**Сад калёс** 'круг колаў, 2 пярэдніх і 2 задніх' (Маслен.), *садо́к* 'тс' (Мат. Гом.). Чэш. *sada* 'камплект, набор'. Да *садзіць*; гл. Рэйзак, 558.

**Садаві́к**, *садо́вы грыб* 'шампіньён' (гродн., ЛА, 1). Да *садовы* < *сад*; магчыма гаворка ідзе пра культурныя шампіньёны ў процілегласць дзікарослым. Не выключана запазычанне з польскай, улічваючы лінгвагеаграфію.

**Садавіна́** 'плады садовых дрэў' (ТСБМ), 'садавіна; садовыя дрэвы' (ТС), *садо́віна* 'садавіна' (Сцяшк., Байк. і Некр., Нар. словатв.), *садаві́на* 'садавіна, садовыя дрэвы' (Сл. ПЗБ), 'садавіна' (Бяльк.), 'сад; адно пладовае дрэва ў лесе' (Яшк.). Укр. *садовина́* 'садавіна;

садовыя дрэвы', польск. старое *sadowina* 'тс', в.-луж. *sadowina* 'садавіна; усё, што датычыцца саду', серб.-харв. *садо́вина* 'гадавальнік; віно з маладога вінаградніку', макед. *садо́вина* 'зямля, якая не прапускае ваду'. Ад прым. **sadowy* < **sadъ* (гл. *сад*) з суф. *-ina*. Аб суфіксацыі гл. SP, 1, 120 і наст. Улічваючы адрозненні ў семантыцы, відаць, познія дэрываты ў розных славянскіх мовах.

**Садаві́ць**, *садові́ті, садовы́ты* 'дапамагаць сесці', 'прапанаваць сесці', 'сеяць, садзіць (пра насенне)' (свісл., гродз., беласт., Сл. ПЗБ), *садаві́цца, седаві́цца, садові́тісе, садовы́тысь* 'садзіцца' (гродз., шчуч., ваўк., драг., Сл. ПЗБ), *садаві́цца* 'тс' (Сцяшк. Сл.). З польск., параўн. *sadowić* 'садзіць у паказанае месца'. Паводле Борыся, 537 ад прасл. **sadъ* у першасным значэнні 'сажанне; пасадка'; элемент *-ow-* (< **-ou-*) ён тлумачыць як след даўней прыналежнасці **sadъ* да *-ŭ-* асноў.

***Садам**, *са́дом* (сесці) 'сесці на доўгі час, не ўстаючы' (ТС). Творны склон ад назоўніка *сад* 'сядзенне' < *садзіць, сесці*.

**Сада́нуць** 'з размаху ўсадзіць (што-небудзь вострае)', 'моцна ўдарыць' (ТСБМ), 'стукнуць' (Мат. Гом., Янк.), 'раптоўна вынасці ў вялікай колькасці (пра ападкі)' (Сл. ПЗБ). Рус. прастамоўн. *сада́нуть*, укр. *садну́ть* 'тс'. Дзеяслоў аднакратнага дзеяння з суф. *-ну-* ад *садзіць*. Прастамоўная форма з устаўным *-а-* па тыпу рус. *копану́ть, мазану́ть* пры літар. *копнуть, мазнуть* і да т. п.

**Са́дзень** 'пацёртае месца, ссадзіна' (Нас., Байк. і Некр.). Да наст. слова.

**Са́дзець** 'шчымець, пячы ад болю' (Байк. і Некр., ТС; карэліц., Нар. сл.; навагр., Нар. словатв.; Сл. рэг. лекс.), *садзе́ць* 'тс' (Байк. і Некр., Сцяшк. Сл.). З польск. *sadzieć* 'тс', улічваючы націск і лінгвагеаграфію, якое да прасл. **saditi*, гл. *садзіць*. Параўн. таксама *садніць*.

**Садзі́ба** 'сядзіба; зямельны ўчастак на якім знаходзіцца хата з гаспадарчымі пабудовамі; сад' (Сл. ПЗБ, Мат. Гом., Яшк., Інстр. 2, Нар. лекс., Шушк.), 'засяленне, выган' (Нас. гіст.), 'засяленне, асёдласць' (Гарб.). Укр. *сади́ба* 'сядзіба', польск. *sadyba* < усходнеславянскіх (Брукнер, 479). Слова з не вельмі ясным статусам. Лаўчутэ (Лекс. балт., 21; Балтизмы, 130) зыходзячы з лінгвагеаграфіі і суфіксацыі (балт. суф. *-yba* пры слав. **-ba*), крыніцай слова лічыць літ. *sodýba* 'сядзіба' < *sod-inti* 'садзіць, сажаць' + суф. *-yba*. Супраць Трубачоў (ЭССЯ, Проспект, 78), які лічыць слова праславянскім дыялектызмам, і Слаўскі (SP, 1, 62), паводле якога слова з'яўляецца познім славянскім утварэннем ад прасл. **saditi* + суф. *-iba*, дзе *-i-* ўзята з інфінітыва. Параўн. *сядзіба*.



**Садзі́ць** 'запрашаць або прымушаць заняць якое-небудзь месца'; 'прызначаць, уладкоўваць на якую-небудзь пасаду', 'пасяляць дзе-небудзь', 'закопваць у зямлю карані саджанцаў, клубні і пад. з мэтай вырошчвання раслін', 'змяшчаць у гарачую печ посуд для выпякання, сушэння', 'энергічна, з сілай утвараць якое-небудзь дзеянне'. Укр. *сади́ти, саджу́*, рус. *сади́ть, сажу́*, старажс.-рус. *садити*, ст.-слав. **садити**, польск. *sadzić, sadzę*, в.-луж. *sadźiś*, н.-луж. *sajźić*, чэш. *saditi*, славац. *sadit'*, серб.-харв. *са́дити, са̑дим*, славен. *saditi, sadim*, балг. *садя́*, макед. *сади*. Прaслав. **saditi, sadiǫ* каўзатыў да прасл. **sěsti* 'сесці'. Роднасныя літ. *sodinti, sodinù* 'саджаць', ст.-прус. *saddinna* 'ён ставіць', *ensadints* 'той, які ўстаўлены'; гоц. *satjan* 'саджаць', ірл. *suidim* 'сяджу' (Траўтман, 259), ст.-інд. *sādáyati* 'са́дзіць', ірл. *sáidim*. Гл. таксама Фасмер, 3, 544 з літрай, Брукнер, 478 і наст.; Махэк$_2$, 539; Борысь, 537; Шустар-Шэўц, 2, 1263–1264; Сной$_1$, 551; БЕР, 411–415. Параўн. *сад*.

**Садзо́нкі**, *саджо́нкі* 'пасадкі маладога лесу', 'саджанцы', 'расада', *садзо́нкі* 'пасадка лесу' (Сцяшк. Сл.). З польск. *sadzonka* 'саджанец'.

**Са́дкі** 'рэзкі на смак, даўкі' (ТСБМ, Нас., Байк. і Некр.), 'тая, якая збягаецца (аб тканіне)' (Нас.), *са́дкасць* 'рэзкасць, даўкасць' (Нас., Байк. і Некр.). Рус. *са́дкий* 'аб тканіне – якая збягаецца'. Да *садзіць*.

**Са́дла** 'сала' (Сцяшк., Сл. ПЗБ). Ст.-бел. *садло* 'тс'. З польск. *sadło* (Булыка, Запазыч., 292).

**Са́дніць** 'шчымець, даваць пякучы боль (у выніку ранення, раздражненыя скуры, апёку і пад.)' (ТСБМ), *садні́ць* 'тс' (Бяльк.), *садне́ць* 'тс' (Мат. Гом.). Рус. *садни́ть* 'тс'. Дзеяслоў утвораны ад прасл. **sadъno* 'пляма, нацертае месца', якое ад *садзіць*; гл. Шанскі, ЭИРЯ, 1, 72. Калі ўлічыць лінгвагеаграфію і тое, што *садно́* (гл.) не мае гэтага значэння, то можна меркаваць, што дзеяслоў *са́дніць* – гэта пранікненне з рускай тэрыторыі.

**Садно́**$_1$ 'задняя частка штаноў' (Сакал., Нар. лекс.). Да *садзіць* (гл.) з суф. *-но*. Мяркуючы па суфіксацыі, архаічнае ўтварэнне;

адносна суфіксацыі гл. SP, 1, 115. Параўн. прасл. *sadъno ‘рана; пацертасць ад сядла’, гл. папярэдняе слова.

**Садно́**$_2$ ‘дрэва, на якім стаіць вулей’ (Яшк.), ‘месца на дрэве для вулля’ (ТС), ‘верх страхі, пакрыты кастрыцай’ (Сцяшк. Сл.). Этымалагічна тое ж, што і папярэдняе.

**Садо́к** ‘штучны вадаём для развядзення рыбы’, ‘памяшканне для трымання, гадоўлі і адкорму жывёлы’, ‘пастка на звяроў і птушак’ (ТСБМ), ‘садок для рыб’ (Сл. ПЗБ, 3 нар. сл.). Дэрыват ад *садзіць* з суф. *-ок*.

**Садо́м** ‘бязладдзе, сумятня, гоман, крык’ (ТСБМ), *садома* ‘тс’ (Ант.). Рус. *содо́м*, укр. *содо́ма* ‘тс’. З грэч. Σόδομα και Γόμορρα – назвы старажытных гарадоў, якія былі знішчаны за грахі і распусту. Гл. Праабражэнскі, 2, 349; Фасмер, 3, 706.

**Садру́жнасць** ‘узаемная дружба, сяброўскае яднанне, саюз’, ‘аб’яднанне на аснове агульных інтарэсаў, поглядаў’ (ТСБМ). Калька з рус. *содру́жество* ‘тс’.

**Са́духі** ‘пахаванне’, ‘раптоўная смерць’ (Нас.), ‘канец, смерць’ (Гарэц., Др.-Падб.), *саду́хі* ‘тс’ (Байк. і Некр.), укр. *со́духі* ‘тс’. Ад першых двух слоў пахавальнага песнапення: «Со духи праведными скончавшуся...» (Нас., 572) або ц.-слав. *съ доухы правьдьникъ*, параўн. Цвяткоў, Запіскі, 2, 51.

**Садэ́нне** ‘нутро (*сын бацьку ўсё садэньне пірывярнуў сваім былаўствам*)’ (Бяльк.). Ізаляванае слова. Цвёрдасць *-д-* указвае на запазычанне, хутчэй за ўсё з польскай мовы, але ў польскай эквівалента няма. Відаць, рэгіянальнае ўтварэнне ад кораня *ден-*, які ў ст.-польск. *denna, denna niemoc* ‘артрыт, хвароба суставаў’ і, далей, у чэш. *dna* ‘падагра’, ст.-рус. *дна* ‘тс’, балг. дыял. *дънек* ‘кішкі’, *дъняк* ‘сляпая кішка’, якія ўзыходзяць да прасл. *dъno ‘дно’, якое ўжывалася таксама ў значэнні ‘ніжняя частка цела’, параўн. польск. дыял. *dno* ‘матка’, укр., *дна* ‘тс’; па хворай частцы цела была названая і хвароба. Параўн. Зубаты, Studie I, 922; Фасмер, 1, 517; Слаўскі, 1, 149; Махэк$_2$, 121; БЕР, 1, 457. Такім чынам, беларускае слова можна рэканструяваць як *са-денн-je* з суф. зборнасці *-ьje*, прыстаўка *са-* тыповая для магілёўскіх і гомельскіх гаворак.

**Сае́та** ‘тонкае высокагатунковае сукно’ (ТСБМ, Нас.), *sae ́т*... *сае́т* ‘англійскае сукно’ (Гарэц., Байк. і Некр.), ‘кафтан; сарафан, спадніца’ (Гарэц., Нар. лекс. Гом.), ‘тонкае бліскучае сукно’ (ТС). Запазычанне з польск. *saja* ‘гатунак сукна’, *sajeta* ‘тонкая дарагая тканіна, тонкае сукно’ (Кюнэ, Poln., 95). Апошняе з італ. *saja, saietta* ‘гатунак сукна’ < лац. *sagum* ‘ваенная адзёжа’ (Брукнер, 479). Параўн. *саян*, гл.



**Саж** ‘сажалка’ (Нас.), ‘невялікі хлеў’ (Мат. Гом.), ‘маленькі хлявок для парасят, які выгароджваецца ў хляве’ (Ян.), ‘садок для рыб’ (ТС), ‘азярцо паблізу прытока ракі, якое служыць садком для рыбы перад замаразкамі зімой’, ‘скрынка для трымання ў рацэ жывой рыбы’ (Яшк.). Укр. *саж* ‘хлеў, дзе зачыняюць жывёліну для адкормлівання’, ‘плецены кош для захоўвання злоўленай рыбы’, рус. кур. *саж* ‘хлеў або перагародка для свіней’, польск. *sadz* ‘скрынка з адтулінамі для захоўвання ў вадзе злоўленай рыбы’. Паўн.-прасл. *sadjь < *saditi ‘садзіць’, г. зн. ‘тое, у што *садзяць*’.

**Са́жа** ‘прадукт няпоўнага згарання паліва, які чорным налётам асядае ў комінах, дымаходах і пад.’, ‘хвароба хлебных злакаў’ (ТСБМ, Нас., Шат., Бяльк., ТС, Сл. ПЗБ), *са́джа* ‘тс’ (Касп., Сл. ПЗБ), ‘спарынне, чорнае зерне ў пшаніцы, просе’ (Шатал., Выг.). Рус., укр. *са́жа*, ст.-слав. **сажда**, польск. *sadza*, каш. *saz*, в.-луж. *sazy* мн. л., н.-луж. дыял. *saze* мн. л., чэш. *sáze*, славац. *sadza*, славен. *sája*, балг. *са́жда, са́жди* мн. ‘сажа’, макед. *са́жда*. Прасл. *sadja, дэрыват з суф. *-ja* ад *sěsti, *sędǫ ‘сесці’ (SP, 1, 82), г. зн. ‘тое, што насела, асадак’. Роднасныя літ. *súodžiai* ‘сажа, копаць’, англ.-сакс., ст.-ісл. *sót*, англ. *soot*, ірл. *suide* (*sōdiā). Гл. Траўтман, 273; Зубаты, BB 18, 257, Фасмер, 3, 544; Борысь, 537; Махэк$_2$, 738; Шустар-Шэўц, 2, 1270–1271; Сной$_1$, 551.

**Са́жалка** ‘штучны вадаём’, ‘садок для рыбы’ (ТСБМ, Нас., Бяльк., Сцяшк., Яшк., Сл. ПЗБ, Др.-Падб., Янк., Выг., Клім., Інстр. 1), *са́джалка* ‘тс’ (Касп., Байк. і Некр., Сл. ПЗБ), *са́жэлка* ‘тс’ (ТС), *са́жаўка* ‘тс’ (Сцяшк. Сл., Скарбы, Сл. ПЗБ), ‘старык ці прарытая вадой упадзіна; круглая яма’ (Яшк.), ‘яма з вадой’ (Шат.). Рус. дыял. *са́жалка*, укр. *са́жалка, са́жавка*, польск. *sadzawka* ‘тс’. Да *сажаць, садзіць* з суф. *–алка*, гл. Брукнер, 478. Для тлумачэння матывацыі Борысь, 537 прыводзіць прыклад з XVI ст.: “sadzawka… kędy ryby sadzają”. З бел. запазычаны літ. *sazalka, sõziauka* ‘сажалка’ (Скарджус, LW 203; Фрэнкель, 1, 286).

**Са́жань** ‘старая адзінка меры даўжыні, роўная 3 аршынам, або 2,134 м, якая ўжывалася ў Расіі і Беларусі да ўвядзення метрычнай сістэмы мер’, ‘прылада да абмервання зямельных участкаў’

(ТСБМ, Др.-Падб., Сцяшк., Янк., Мат. Гом.), 'старая мера дроў' (Скарбы, Колас), *са́жэнь* 'сажань' (ТС). Ст.-бел. *сажень* 'адзінка вымярэння даўжыні'. Рус. *са́жень* ж. р., укр. *са́жень* м. р., ст.-рус. *сажень, сѧжень*, сербск.-ц.-слав. *сѧжень*, польск. *sążeń*, в.-луж. *sažeń*, н.-луж. *sežań, sćěžań*, ст.-чэш. *sažeń*, чэш. *sáh*, славац. *siaha*, серб.-харв. *сѐжа̑нь*, славен. *sę́ženj* 'сажань'. Прасл. **sęženь* утворана ад прасл. **sęgati* (гл. *сягаць*), дыял. прасл. **sęžanь* (**sęg-ěnь*), гл. SP, 1, 125, з першасным значэннем 'мера даўжыні ад пальцаў адной да пальцаў другой распрасцёртых рук' (Міклашыч, 291; Брукнер, KZ, 46, 234; Праабражэнскі, 2, 244; Махэк$_2$, 535). Фасмер, 3, 545 адхіляе рэканструкцыю Міккалы (LF, 8, 302) прасл. **sogeni-* і параўнанне з літ. *síeksnis* 'сажань', улічваючы ст.-рус. і інш. слав. формы. Гл. яшчэ Шустар-Шэўц, 2, 1271; Борысь, 540.

**Сажо́нка** 'расліна анемона люцічная Anemone ranunculoides L.' (Кіс.). Рус. *сазо́нчики* 'Pulsatilla vulgaris L.', *самсо́нички* 'Pulsatilla patens Mill.', польск. *sasanka* 'Anemone pulsatilla L.', чэш. *sasanka* 'расліна Anemone', серб.-харв. *sása* 'Pulsatilla', балг. *са́сан* 'расліна Hepatica triloba'. Ва ўсходнеславянскіх мовах, відаць, запазычанне з польскай, якое падверглася розным фанетычным зменам; напэўна, яно было зблізкана і з дзеясл. *садзіць, сажаць*. Адносна паходжання этымона гл. Махэк$_2$, 537; там жа і літ-ра. Гл. *сасонка*.

**Сажо́нкі** 'стыль плавання з папераменным выкідваннем уперад то адной, то другой рукі' (ТСБМ). Рус. *сажо́нки* 'тс'. Да *сягаць, сажень* (гл.). Магчыма, вуснае запазычанне з рускай.

**Сажо́р** 'сузор'е Вялікай Мядзведзіцы' (ЛА, 1). Рус. тул. *сожа́р, сажо́р* 'тс'. Скарачэнне з *валасажар* (гл.). Фасмер, 3, 706 рускія словы выводзіць з *стожа́р*.

**Саза́н** 'рачная прамысловая рыба сямейства карпавых' (ТСБМ, Сл. ПЗБ, Жук., Інстр. 2). Рус., укр. *саза́н*. З тур., казах. *sazan* 'тс' (Міклашыч, 289; Фасмер, 3, 545).

**Сазніяць** 'падгарэць' (Касп.). Рус. *зне́ять, знеть* 'гарэць без пламя, тлець' < прасл. **zněјati, *zněti* 'гарэць, тлець' (аб гэтых формах падрабязна гл. Фасмер, 2, 101; Махэк$_2$, 717. З роднасных беларускіх форм параўн. *зніч, зноіць, прызніяць* (гл.).

**Сазяро́д** 'азярод' (Мат. Гом.). Гл. *азярод*.

**Саіска́льнік** 'удзельнік конкурсу на атрыманне чаго-небудзь', 'той, хто рыхтуецца да атрымання вучонай ступені за навуковую працу або вучонага звання' (ТСБМ). Частковая калька (бел. суф. -*(а)льнік*) рус. *соиска́тель* 'тс' < *искать* 'шукаць', параўн. Круkоўскі, Уплыў, 124 і наст.



**Са́іць** 'карміць грудзьмі' (Сцяшк. Сл.), 'карміць грудзьмі', 'карміць з вымені', 'карміць з соскі' (Сл. ПЗБ). Новы інфінітыў ад асновы цяп. ч. **саю*, параўн. славац. *sajím* 'кармлю' ад прасл. **sъsati* (гл. *ссаць*). Лінгвагеаграфія ўказвае на запазычанне з польскай; відаць, нерэгулярная дыял. форма.

**Сайга́,** *сайга́к* 'буйная млекакормячая жывёліна атрада парнакапытных стэпавай зоны, від антылопы' (ТСБМ). Праз рус. *сайга́, сайга́к* 'від антылопы' з цюрк. моў; параўн. чагат. *saiγak* 'серна'. Гл. Радлаў, 4, 222; Локач, 141; Міклашыч, Türk. El. Nachtr., 2, 150; Фасмер, 3, 545.

**Сайгачья капуста** 'расліна расходнік звычайны, Ledum vulgare L.' (Демб. 1, 293). Да *сайгак* (гл. папярэдняе слова). Аб матывацыі назвы гл. *заячья капуста*.

**Са́йда** 'паўночная марская прамысловая рыба сямейства трасковых' (ТСБМ). Сучаснае запазычанне з рус. *са́йда* 'тс', якое з фін. *saita*, Род. с. *saidan* 'трэска' або саам. *sajte* 'род трэскі'; гл. Фасмер, 3, 546; Мызнікаў, Рус. гов. Обон., 189–190.

**Са́йка**$_1$ 'невялікая булка з пшанічнай мукі' (ТСБМ), 'перапечка з ільнянога семя' (Сл. ПЗБ). Новае запазычанне з рус. *са́йка* 'тс', якое лічыцца вытворным ад **сая* < эст. *sai*, Род. с. *saia* 'белы хлеб', фін. *saija* 'тс' (Праабражэнскі, 2, 245; Фасмер, 3, 546; Каліма, 212). Адваротны напрамак запазычання – з рускай у балтыйскую мову – прымае Кіпарскі (гл. у Фасмера, там жа).

**Са́йка**$_2$ 'балкон' (Касп.). З *салька* (гл.) у выніку дыялектнага пераходу *й* <-> *л*'.

**Саймава́ць(ца)** 'удзельнічаць у саймаванні, раіцца, дамаўляцца' (ТСБМ, Касп.), *саймікава́ць(ца)* 'тс' (ТСБМ), *саймікава́цца* 'раіцца, дамаўляцца' (Нар. сл.). Паланізмы. Параўн. польск. *sejmować (się), sejmikować się* 'засядаць на сеймы, абмяркоўваць', якія ад *sejm* 'сейм' (Брукнер, 484). Параўн. *сейм*.

**Саймэ́т** 'сакрэт' (Касп.). Па сцвярджэню Чэкмана (Гісторыя, 115) запазычанне з ідыш, але этымон нам невядомы.

**Сак**$_1$ 'жаночая вопратка тыпу кароткага прасторнага паліто' (ТСБМ, Касп., Бяльк., Хрэст. дыял.), 'верхняя жаночая вопратка на ваце' (ТС), 'верхняя жаночая вопратка кароткага памеру' (Янк.), 'жаночае адзенне' (Сл. ПЗБ), 'жаночае паліто' (Бяльк.). З польск.

старога *sak* 'жаночая prасторная вопратка', якое, відавочна, як і рус. *сак* 'прасторны, падобны на мяшок плашч' запазычаны з франц. *sac* 'плашч', першапачаткова 'мех'. Аб рускім слове гл. Фасмер, 3, 546. Гл. наступнае і *сачык*. Ст.-бел. *саакъ, сакъ* у значэнні 'мяшок; жаночая вопратка; рыбалоўная сетка; мера мёду' (XVI ст.) з ст.-польск. *sak* (Булыка, Лекс. запазыч., 104).

**Сак$_2$** 'рыбалоўная снасць у выглядзе сеткі, нацягнутай на абруч' (ТСБМ, Шат., Касп., Сл. ПЗБ), 'рыбалоўная перастаўная пастка, звычайна лазавая' (Крыв.), *сачóк* 'рыбалоўная сетачка, якая прывязана да жэрдкі' (Нас.). Гл. таксама ЛА, 1, Карта № 333. Агульнаславянскае. Укр. *сак* 'ручная сетка', рус. *сак* 'від рыбалоўнай сеткі', 'торба для корму ў кавалерыі', польск., чэш., славац. *sak* 'кашэль, мех', в.-луж. *sak* 'сетка', серб.-харв. *са̏к* 'мех для сена', славен. *sàk* 'рыбалоўная сетка', балг., макед. *сак* 'тс'. Большасць даследчыкаў (Мюлер, ВВ 1, 279; Міклашыч, 287; Сной$_1$, 551; падрабязна гл. Фасмер, 3, 546) лічаць запазычаннем ■ грэч. σακκος ад ст.-яўр. (фінікійскага) *saq* 'мех, шарсцяная тканіна, адзежа' праз нар.-лац. *saccus* 'мех' або італ. *sacco* 'кашальковая сетка'. *Сáква* 'торба з кармам у конніцы' сведчыць аб існаванні формы **saky, -ъve*, якая наблізілася да слав. асноў на *-й*. Менш верагодным лічыцца запазычанне праз гоц. *sakkus* 'мех' (Уленбек, AfslPh, 15, 491) або з лац. *sagena* праз ням. *Sack* (Махэк$_2$, 536). Гл. таксама Шустэр-Шэўц, 2, 1264–1265; БЕР, 6, 423–424.

**Сакá** 'асака' (Нас., Бяльк., Жд. 2, Мат. Гом., Мат. Маг.), 'балоцістая нізкая сенажаць, дзе расце асака Carex' (Грыг.). З *асака* (гл.) у выніку адпадзення *а-*.

**Сакавíк** 'трэці месяц каляндарнага года' (ТСБМ, Нас., Байк. і Некр.), 'сок бярозы, клёна' (Шат.). Укр. дыял. *соковíк, сочéнь* 'тс'. Да *сок*, таму што бярозы ў пачатку вясны багатыя на сок (Шаўр, Этымалогія–1977, 95).

**Сáканка** 'мука грубага памолу' (Сцяшк. Сл.). З **секанка < сячы*.

***Сакарына**, *сокорына* 'ясакар' (Бес.), *сакары* 'ясакары' (Скарбы), *сакарына* 'буслава гняздо' (Сцяшк. Сл.). Укр. *сокорина* 'ясакар', польск. *sokora* 'чорны топаль, ясакар' з усходнеславянскіх (Брукнер, 506). З *ясакар* з адпадзеннем пратэзы і суф. *-ina*. Выклікае сумненне значэнне 'буслава гняздо'. Мабыць, 'сакарына з гняздом бусла'.



***Сакарыць**, *сокорити* 'кудахтаць' (Клім., Бес.). Укр. *сокорити* 'тс', *сокоруха* – эпітэт курыцы. Мабыць, таго ж паходжання, што і *сакатаць* (гл.) з нарашчэннем *-ар-*.

**Сакатáць** 'сакатаць' (БРС, Нас., Шат., Касп., Сцяшк., Гарэц., Шн., Янк. 3. Інстр. 2, 3, Зн., дыс.), *сокотíты* 'раўнамерна, хораша пастукваць (пра новы воз)' (Нар. лекс.). Рус. *сокотáць* 'балбатаць (як сарока), гагатаць', 'кудахтаць'. Звязваюць з слав. **sokъ* 'ісцец, выведнік, лазутчык', рус. *сáкать* 'перагаворвацца', балг. *сáкам* 'патрабую, хачу' і далей з літ. *sakýti, sakaũ* 'гаварыць' (Мікуцкі, 70, 365), лат. *sacît, saku* 'тс', лац. *in-seque* 'абвясці', ст.-в.-ням. *sagên* 'гаварыць', грэч. ἔνισπου 'скажы' (Траўтман, 255; Фрэнкель, ZfslPh, 20, 51; гл. таксама Фасмер, 3, 708, там жа і іншая літ.). Сюды ж *сóкот* – дэвербатыў ад *сакатаць* і *сакатýха* 'курыца'.

**Сáква** 'кавалерыйская сумка для аўса і прадуктаў' (ТСБМ). Ужо ст.-бел. *саква* 'торба', 1616 г., запазычанне з ст.-польск. *sakwa*; Булыка, Лекс. запазыч., 103. Далей гл. *сак$_2$*.

**Саквістáтар** старое 'судовы выканаўца' (Сл. ПЗБ, Скарбы). З польск. *sekwestrator* 'тс'. Апошняе з лац. *seqwestrator* 'тс' (Дарашэўскі, 8, 128).

**Сакéлка** 'торба' (Кос.), *с'ак'елка* 'аброчная торба' (віц., ДАБМ, камент., 825). Запазычанне з польск. *sakiewka* 'мяшочак, торба', якое з'яўляецца памяншальным да *sakwa* 'тс'; Брукнер, 479. Гл. *сак$_2$*, *саква*.

**Сакéра** 'сякера' (Сцяшк., Мат. Гом., Нар. лекс., Скарбы., Янк.), *сокíера* 'тс' (Бес.). Дыял. варыянт прасл. **sokyra* (Варбат, Этимология–1974, 42). Далей гл. *сякера*. Аб разбурэнні проціпастаўлення *с–с'* у беларускай мове гл. Чэкман, Гісторыя, 115 і наст.

**Сакла** 'рыба, від сіга' (быx., Рам. 8). Няясна.

**Сáкля** 'жыллё каўказскіх горцаў' (ТСБМ). Запазычанне праз рус. *сáкля* (Крукоўскі, Уплыў, 74) з груз. *saxli* 'дом', інгуш. *saxl* (гл. Праабражэнскі, 2, 245). Локач (143) лічыць запазычаннем з цюркскай мовы. Гл. таксама Фасмер, 3, 547.

**Сакмó** 'след, знак ад падэшвы нагі на раллі, пяску' (Ласт.; гродз., Яшк.). Рус. усх. *сакмá* 'каляіна, лясная сцежка, след нагі', *сокмá* 'тс', якое, як лічаць, з'яўляецца цюркізмам; параўн. казах. *sokpa* (< *sokma*) 'сцежка', чагат. *sokmak* 'дарога, сцежка' ад **sok-* 'біць' (Радлаў, 4, 526 і наст.). Міклашыч (Türk. El. Nachtr., 2, 150) лічыць крыніцай рускага слова паўн.-цюрк. *sakma* 'сцежка'. Іншыя гіпотэзы і літаратуру падрабязна гл. Фасмер, 3, 547. Непакупны, Baltistica,

VIII, 1, 1972, 102 лічыць балтызмам, параўн. літ. *sekmė* 'поспех', *sèkti* 'ісці за кім-небудзь', *sěkomis* 'услед'. Супраць Анікін (Этимология–1997–1999, 10), які падтрымлівае цюркскае паходжанне слова і крыніцу бачыць у мове беларускіх або літоўскіх татар.

**Сакну́ць** 'падагнаць валоў' (салігар., Нар. словатв.). Дзеяслоў утвораны на аснове анаматапеічнага ўтварэння; параўн. укр. палес. *сок-сок...* 'выгук, якім падзываюць коней' (Лысенка, СПГ).

**Сако́л** 'сокал' (Гарэц., Др.-Падб., Янк. 2, Сл. ПЗБ, Байк. і Некр.). Гл. *сокал*.

**Сако́лка₁** 'трыкатажная майка без рукавоў і каўняра' (ТСБМ, Сцяшк. Сл., Мат. Гом.), 'мужчынская безрукаўка, камізэлька' (Янк.), *сако́лачка* 'майка' (Сл. ПЗБ). Не вельмі ясна, у суседніх славянскіх мовах не адзначана. Назва ўтворана, відаць, ад назвы спартыўна-гімнастычнага таварыства "Сокал" у Чэхіі і іншых славянскіх краінах. Ва ўсялякім выпадку, адзначаны рускія *со́кол, соко́льский* 'сакольская гімнастыка'. Такім чынам, гэта магла быць майка з сакольскай сімволікай. Параўн. чэш. *sokolka* 'сакольская шапка, кепка'.

**Сако́лка₂**, *сако́льчык* 'мярэжка', *сакалі́ць* 'вышываць мярэжкай' (Мат. Гом.), 'рубіць з упрыгожваннем' (*сакаліць насавы платок*) (Ян.). Не вельмі ясна. Суаднесенасць рус. *мережка* 'тып вышыўкі', *мярёжа* 'рыбалоўная сетка' наводзіць на думку, што слова ўзыходзіць да *сак₁* (гл.), ад якога першапачаткова быў утвораны дзеяслоў *саколіць*, потым ад дзеяслова – назоўнік. Але *сак* 'рыбалоўная сетка' у гаворках сустракаецца даволі рэдка, гл. ЛА, 2; таму слова хутчэй утворана ад кораня *-кол-* (гл. *калоць*), параўн. рус. *ско́лок* 'узор, зняты сколкаю, дакладны знімак іглою'.

**Сако́лле** 'аддаленыя глухія месцы навокал' (Яшк.). Ад кораня *-кол-* (гл. *аколіца*, *наваколле*) з прыст. *са-*, тыповай для магілёўскіх гаворак, і суф. зборнасці *-ле*.

**Сакольні́к** 'расліна ястрабок зонцічны, Hieracium umbellatum L.' (Кіс.). Рус. *соко́лья трава* 'тс', *сокольнúка* 'Hieracium pilosella L.', серб.-харв. *соколова трава* 'Hieracium cymosum L.', польск. *jastrzębiec*, чэш. *jestřábník* 'Hieracium'. Да *сокал* (гл.). Антычная назва для Hieracium і блізкіх раслін утворана ад грэч. ἱέραξ 'ястраб', таму што існавала павер'е, што ястрабы і сокалы для вастрыні зроку ўжываюць сок гэтых раслін; гл. Махэк, Jména rostl., 232. Аднак, назва можа тлумачыцца тым, што вялікая колькасць гэтых раслін расце на значнай вышыні, дзе водзяцца ястрабы і сокалы (Сіманавіч, 232).



**Сакракі́** 'ледзяшы' (Сл. ПЗБ). Гл. *сукракі*.

**Сакра́мант** 'нешта свяшчэннае, рытуальнае; талісман' (ТСБМ), *сакра́мэнт* 'прычасце' (Нас., Байк. і Некр.). Ст.-бел. *сакраментъ* 'таінства'. Запазычанне з польск. *sakrament* < лат. *sakrāmentum* 'наданне святасці' (Кюне, Poln., 95); ст.-бел. *сакраментъ* (*секраментъ*) са ст.-польск. *sakrament*, гл. Булыка, Лекс. запазыч., 181.

**Сакрэ́т** 'тое, што падлягае захаванню ўпотай, аб чым не гавораць усім; тайна' (ТСБМ, Шат., Касп., Байк. і Некр.). З польск. *sekret*, таксама як і рус. *секре́т* (гл. Фасмер, 3, 593; Кюнэ, Poln., 96). Польскае слова з лац. *sekretus* 'тое, што аддзелена, скрыта; тайна' (Фасмер, там жа; Брукнер, 484).

**Саксаўл** 'невысокае бязлістае дрэва (або хмызняк) сямейства маравых, якое расце ў сярэднеазіяцкіх саланчаковых пустынях' (ТСБМ). Праз рус. *саксау́л* (параўн. Крукоўскі, Уплыў, 74) з казах. *seksevil* (гл. Трубачоў, Дополн., 3, 547).

**Саксо́нцы** 'насельніцтва Федэратыўнай рэспублікі Германія, якія жывуць на тэрыторыі былога каралеўства Саксонія' (ТСБМ), адз. л. *саксо́нец, саксо́нка*. Укр. *Саксо́нія, саксо́неиь*, рус. *Саксо́ния, саксо́нец*. З сяр.-лац. *Saxonia, Saxones* ад ст.-сакс. *sahs* 'меч з аднабаковым лязом'; гл. Фасмер, 3, 548.

**Саксу́н** 'від качкі' (Мат. Гом.). З рус. *соксу́н* 'утка Anas clypeata L.'. Паводле Фасмера (3, 709), запазычанне. Параўн. казах. *soksur* 'від качкі'.

**Саку́н** 'чалавек, які постфікс *ся* ў зваротных дзеясловах вымаўляе як *са'* (Серб., Шат., Скарбы). Ад незафіксаванага **сакаць* з суф. *-ун*. Фасмер, 3, 548, гл. там жа і літ-ру, як семантычную паралель прыводзіць *егу́н, ягу́н* – прозвішча беларусаў і інш. акаючага і якаючага рускага насельніцтва паводле характэрных асаблівасцяў маўлення.

**Сакуя́ш** 'цеплая кофта' (Сл. рэг. лекс.). Да *сак₁* з суф. *-яш* (гл. Сцяцко, Афікс. наз., 35); *-у-* рэшта старой асновы на *-й-*.

**Сала́**, *со́лка* 'востраў сярод ракі, пакрыты лазой і кустамі', 'камяністы выступ сярод рэчкі' (іўеў., Арашонкава і інш., БЛ, 3, 45), *сала́* 'водмель, востраў', 'узвышанае месца сярод балота' (іўеў., віл., швянч., Сл. ПЗБ). З літ. *salà* 'востраў'; гл. Арашонкава і інш. у названай крыніцы; Сл. ПЗБ, 4, 350.

**Са́ла₁** 'тлушчавае адкладанне ў целе жывёльнага арганізма' (ТСБМ, Шат., Бяльк., ТС, Нар. сл.), 'сала, здор' (Сл. ПЗБ), 'ку-

рыны тлушч' (Жд. 1), 'гусіны тлушч' (Мат. Гом.), 'мясістая абалонка ў гарбузе' (навагр., З нар. сл.), 'белая сарцавіна камыша' (жлоб., Кошчанка, вусн. паведамл.), *салныця* 'ўнутранае сала' (Сл. Брэс.). Агульнаславянскае; рус. *са́ло* 'сала, нутранае сала', укр. *са́ло* 'сала; здор', стараж.-рус. *сало*, польск. *sadło* 'нутраны тлушч наогул', в.-луж. *sadło* 'топленае сала, тлушч', н.-луж. *sadło* 'нутраны тлушч, сала', чэш. *sádlo* 'від жывёльнага тлушчу', славац. *sadlo* 'тс', серб.-харв. *са̏ло* 'нутраны тлушч, свіны тлушч', славен. *sálọ* 'нутраны тлушч', балг. *са́ло* 'нутраны тлушч', 'мяккая тканка вакол насення ў гарбузе, перцы і г. д.', макед. *са́ло* 'свіны тлушч; нутраны тлушч'. Прасл. **sadlo*. Дэрыват ад кораня **sad-* (які ў **saditi* 'садзіць'), г. зн. 'тое, што садзіцца на мяса або на нейкія часткі цела'; гл. Міклашыч, 287; Мацэнауэр, LF, 19, 244; Младэнаў, 567; Брандт, РФВ 24, 145; Фасмер, 3, 550; Шустар-Шэўц, 2, 1263; Борысь, 537. Сумненні адносна словаўтварэння ў Махэка$_2$ (535), які праславянскай лічыць форму **sadidlo*, і Рэйзака (558); апошні лічыць магчымым утварэнне слав. слова ад і.-е. *sa-* 'сыціць'. Аналагічна Сной$_1$, 552. Мартынаў (Этимология–1982, 9) параўноўвае з прус. *saltan* 'сала', літ. *lašiniai* 'сала', марфалагічна тоесных слав. **sadlo*, але фанетыку кораня цяжка давесці.

**Са́ла$_2$** 'бома для прыціскання бервяна на козлах' (дзісн., КЭС), 'рычаг (цяжкае бервяно)' (нараўл., Сл. ПЗБ), 'груз на калодзежным жураўлі' (Сл. Брэс.). Да *сала$_1$*. Калька літ. *lašinai* 'сала', 'палка або чурбан для прыціскання дошак'.

**Сала$_3$** '«жалезныя свечы» на аржавенні-вадзе, дзе шмат жалезных спалучэнняў' (Нік. очерки). Да *сала$_1$* (гл.).

**Са́ла$_4$** 'ледаход' (Байк. і Некр.). Да *сала$_1$*, параўн. рус. *са́ло* 'першая корка лёду'; гл. Фасмер, 3, 550.

**Салаве́й** 'маленькая пеўчая птушка атрада вераб'іных, якая вылучаецца прыгожым спевам'. Агульнаславянскае; укр. *солові́й, солове́й*, рус. *солове́й*, ст.-рус. *соловии*, руск.-ц.-слав. *славии*, польск. *słowik*. Прасл. **solvьjь*, якое потым у некаторых славянскіх мовах было пашырана рознымі суф. Большасць даследчыкаў (Младэнаў, 588; Брукнер, 501; Махэк$_2$, 556; Фасмер, 3, 711) лічаць дэрыватам ад прасл. **solvъ* 'жаўтавата-шэры' (параўн. рус. *солово́й* 'тс') з суф. *-ьjь* (SP, 1, 84). Назва птушкі па колеру апярэння. Паралель у ст.-прус. *salowis* 'салавей'. Параўноўвалі таксама з літ. *šalvas, šalvis* 'харыус', гл. Зубаты, AfslPh, 16, 413; Булахоўскі, ИАН ОЛЯ, 7, 110, і інш.; і са ст.-в.-ням. *swolawa* 'ластаўка', ст.-ісл. *svola* 'тс', гл. напрыклад Сольмсен, AfslPh, 24, 575; Шустар-Шэўц, 2, 1332; Борысь, 559; супраць Фасмер, там жа. Мартынаў (Этимология–1982, 9) не аддзяляе *салавей* ад *слава* і першасным значэннем лічыць 'той, хто пяе славу'.



**Салаве́ць** 'рабіцца мутным, невыразным (пра вока)', 'рабіцца вялым, санлівым ад зморанасці, ап'янення' (ТСБМ). З рус. *солове́ть*, якое ад *соло́вый, солово́й* 'жаўтавата-шэры, мутны' (Праабражэнскі, 1, 664; 2, 353 і наст.). Для рус. дзеяслова Праабражэнскі (там жа) і Фасмер (3, 712) дапускаюць кантамінацыю з *осоветь* (гл. *савець*).

**Салагу́бы** 'губаты' (Ян.). Кантамінацыя *салапаты* (гл.) і *губа*.

**Саладу́ха** 'салодкая страва з густазаваранай жытняй мукі, кулага, раўгеня' (ТСБМ, Нас., Яруш., Байк. і Некр., Др.-Падб., Сцяшк. МГ, Шн. 3, Малчанава, Мат. культ., Жд. 1, Мат. Гом., Жыв. сл., Нар. сл.), 'раствор, у які апускаюць посуд пасля абпальвання' (Жд. 1). Рус., укр. *солоду́ха* 'тс'. Да *саладзіць* (гл. *салодкі*) з суф. *-уха*.

**Сала́ка** 'дробная марская рыба сямейства селядцоў' (ТСБМ). З рус. *сала́ка*, дзе таксама *сала́га, салаку́ша*; запазычанне з фін. *salakka* 'рыба Alburnus lucidus', эст. *salakas*. Гл. Фасмер, 3, 549; Мызнікаў, Рус. гов. Обон., 191–192.

**Сала́га** 'хто фанабэрысты' (ваўк., Сл. ПЗБ). Вуснае запазычанне рус. размоўн. шутл. і зняважл. *сала́га* 'малады матрос; малады нявопытны салдат', наогул 'малады нявопытны чалавек', якое з марскога слэнга і ўзыходзіць, відаць, да папярэдняга.

**Салама́йда** 'ўзвар з каліны' (Сл. Брэс.), 'каша' (Скарбы). Ад *саламаха* з замена суф. *-аха* на *-ajda*.

**Салама́ха** 'від стравы з мукі накшталт густога кісялю' (Нас., Пал., Гарэц., Шн. 3., Чачот), 'страва', 'чарнічнае варэнне' (Мат. Гом.), 'мучны раствор для прапітвання асновы' (Влад.), *солома́ха* 'ячня; зацірка' (Сл. Брэс.). Укр. *солома́ха* 'рэдкае цеста (пераважна грачышнае) закіпячонае з маслам', 'страва з хлеба і тоўчанага часнаку', польск. (XVII ст.) *sałamacha* 'страва з размолатых круп' ("так гавораць татары" – Брукнер, 480), рус. *салама́та* 'саламаха, рэдкая каша', паўн. *салома́т, салама́та* і да т. п., сіб. *солома́ть, салама́ть* 'аўсяная крупа, падсмажаная на сале', укр. *салама́та* 'каша' (Гогаль). Няясна. Звязваюць з *са́ла* (Праабражэнскі, 2, 247) і з *со́лод*, гл. Праабражэнскі, там жа; Сабалеўскі, РФВ, 66, 348 і наст.; RS, 5, 265, які лічыць, што ў словаўтваральных адносінах слова

аналагічна ст.-рус. *космать*. Міклашыч, Türk. El. Nachtr., 2, 184 выводзіць з паўн.-цюрк. *solomat*, якое, на думку Фасмера, 3, 549, хутчэй само запазычана з рус. Іншую літ-ру гл. Фасмер, там жа. Магчыма, што бел. і ўкр. *саламаха, соломаха* з'явілася вынікам кантамінацыі *саломата, саламата, саладуха, солодуха* (гл.).

**Саламя́** 'салома або кастрыца, накладзеная на грэбень саламянай страхі' (Шат.), 'верхняе бервяно, якое накладвалася на козлы і служыла непасрэднай апорай страхі' (Малчанава, Мат. культ.), *саламяно* 'бэлька, якая вагаецца на слупе ў калодзежы з жураўлём' (бых., КЭС), *со́лам'е, со́лом'я, со́лом'е, со́лум'е* 'кладзь, якая служыла апорай страхі на сохах' (калінк., лельч., Нар. сл.), 'чалеснікі ў пячы і верхняе спалучэнне іх' (усх.-палес.), 'вялікі агонь у пячы' (жытк., Нар. сл.), *со́лам'я* 'чалеснік' (Мат. Гом.), *со́ламенне* 'ямка для жару на прыпечку' (калінк., Нар. сл.), *со́ломје, со́ломень* 'чалеснікі' (Шушк.), *solommie* (Маш.), *сала́м'е* 'скляпенне' (петрык., Шатал.), *со́ломје* 'вусце печы' (Шушк.). Рус. царк.-слав. *слѣмя*, больш позняе (XVI ст.) *соломина* 'брус, бервяно, перакладзіна', польск. *ślemię, szlemię* 'брус, вільчак', чэш. *slémě, slemeno* 'брус, вільчак', 'горны грэбень', славац. *slemä, slemeno* 'брус, перакладзіна', серб.-харв. *шљѐме* 'вільчак', 'горны грэбень', славен. *sléme* 'тс', балг. *сле́ме* 'вільчак'. Прасл. **selmę, -ene*. Верагодныя паралелі толькі ў літ. *šelmuõ*, Род. с. *šelmens* 'вільчак, франтон, доўгі брус', *šelmenỹs* 'тс', лат. *salmene* 'саламяны капялюш', гл. Траўтман, 301 і наст., Мюленбах-Эндзелін, 3, 674 і наст. Далей мяркуюць аб магчымасці і.-е. **k's(u)el-* + суф. *-men* і параўноўваюць з грэч. σέλμα 'брус, памост, палуба', англ.-сакс. *sealma, selma* 'ложа' < 'драўляны ложак'; гл. Педэрсан, LF, 5, 59; Сној$_1$, 580; супраць Фасмер, 3, 669. Аналагічна БЕР, 6, 867 – ад і.-е. **sel-* 'града' з *(k')seul-*, якое роднаснае групам **suel-, *seel-*, працягам якіх з'яўляецца ст.-в.-ням. *swelle* 'парог' < герм. *swalja*, ням. *Schwelle* 'тс'. Махэк$_2$ (553) параўноўвае таксама з лац. *culmen* 'верх, вяршыня', але гэта лічыцца фанетычна непрымальным.

**Саландзі́ць** (языком) 'гаварыць недарэчна', *салэ́ньдзіць* 'многа, несупынна гаварыць' (Сл. ПЗБ). Вытворнае ад *ланда, ландзіць* (гл.).

**Салане́шнік** 'сланечнік' (Мат. Гом.; полацк., Нар. лекс.). З *сланечнік* з гіперычным паўнагалоссем.

**Салані́на** 'свіное пасоленае сала' (ТСБМ, ТС), 'свіное сала; салёная гавядзіна' (Нас.), 'сала' (ПЗБ, Бяльк., Сцяшк. МГ), 'тоўстае добра пасоленае свіное сала' (Нар. сл.), 'сала, праслойкі мяса



сярод сала' (Нар. словатв.). Рус. *солони́на* 'пасоленае сала або салёная гавядзіна', укр. *солони́на* 'свіное сала', польск. *słonina* 'свіное сала', чэш. *slanina* 'шпік, вэнджанае сала', славац. *slanina* 'свіное сала', серб.-харв. *сла̀нина* 'вэнджанае сала, шпік', славен. *slanína* 'тс', балг. *слани́на* 'тс'. Прасл. **solnina*. Ад **soln-* (гл. *салоны*) з суф. *-ina*, гл. SP, 1, 121; Махэк$_2$, 596.

**Сала́нка** 'сальніца' (віл., Сл. ПЗБ), *саля́нка* 'тс' (Бяльк., ТС). З польск. *solanka* 'тс'.

**Саланча́к** 'глеба, насычаная салямі' (ТСБМ), 'крыніца з салёнай вадой' (гродз., Яшк.). З рус. *солонча́к* 'тс' < *солоный* (гл. *салоны*).

**Салапа́ць** 'гарэць (аб вялікім агні)' (Мат. Гом.), *салыпну́ць* 'успыхнуць (пра полымя)' (Сл. ПЗБ). Відаць, метафарычнае; да *салыпаць, салупаць* (гл.). Параўн. яшчэ вобразны выраз *языкі полымя*.

**Салапе́нда** 'салапяка' (Жыв. сл.). Ад *салопіць, салупаць* (гл.) з суф. *-енд-а*. Аб суфіксацыі гл. Сцяцко, Афікс. наз., 98.

**Салапе́ць**, гл. *салупаць*.

**Салапя́ка** 'разява, чалавек з высунутым языком; чалавек з адкрытым ротам; той, хто часта высоўвае язык' (ТСБМ, Др.-Падб., Шат., Гарэц., Нар. лекс.), *салапя́к* (Бір. Дзярж.), *салапа́йка* (Сцяшк. Сл., Янк. 1), *солоп'я́ка* (Клім.), *салопя́ка, салапі́ха* (Сл. ПЗБ), *сале́па* (Скарбы), *салапа́ты* (Жд. 1), *салапа́н* (Нар. сл.), *солопэ́й* (Нар. лекс.), *салапа́ты, салапа́йка, салапе́ка* (Мат. Гом.), *солопе́ка, солопе́та* (ТС). Для укр. *солопій* 'салапяка' і, такім чынам, бел. *солопэ́й* Анікін, Этымалогія–1982, 69 узнаўляе прасл. **solpějь*. Да *салупаць* (гл.) з рознымі суф. Сюды ж *салапа́ты, салапа́ч* 'той, хто выгаворвае *с* замест *ш*' (Шат.), *салапа́ты* 'шапялявы' (Ян.) з далейшым развіццём значэння 'чалавек з разінутым ротам' – 'чалавек, які мае дэфект вымаўлення'.

**Сала́та** 'аднагадовая агародная расліна', 'страва з лісцяў гэтай расліны', 'халодная страва з нарэзанай сырой або варанай гародніны, часам мяса, рыбы і пад., палітых якім-небудзь соусам' (ТСБМ, Бяльк., Сцяшк., Кіс., Байк. і Некр., Сл. ПЗБ). З польск. *salata* 'тс' (Кюнэ, Poln., 95), якое з італ. *insalata, salata* 'пасоленая гародніна' ад італ. *salare* 'саліць'; у аснове ляжыць лац. *sal* 'соль'; гл. Голуб-Ліер, 430. Ст.-бел. *салата* (XVII ст.) узыходзіць да ст.-польск. *salata* (Булыка, Лекс. запазыч., 151). Варыянт *сала́т* з рус. *сала́т*, аб якім гл. Фасмер, 3, 549.

**Салáш** 'будан' (ПЗБ, ТС, Яшк.; пух., З нар. сл.). Укр. *шалáш, салáш*, рус. *шалáш*, польск. *salasz*, славац. *salaš* 'тс'. Большасць даследчыкаў узводзіць да цюрк., параўн. тур. *salaš*, азерб. *šalaš* 'шалаш, палатка', гл. Міклашыч, 287; Локач, 143; Фасмер, 3, 397 з літ-рай. Паводле Якабсона (IJSLP, 1/2, 1959, 276), розныя славянскія формы запазычаны з розных цюркскіх гаворак. Кіш (ЭИРЯ, 1963, 58–62) крыніцай славянскага слова лічыць венгерскую мову. Беларускае слова непасрэдна магло быць запазычана з украінскай. Падрабязна гл. Супрун, Лекс. тюрк., 68 і наст. Гл. таксама *шалаш*. Агляд семантыкі і этымалогій гл. яшчэ Клепікава, Паст. терм., 172 і наст.

**Салдáт** 'радавы ваеннаслужачы сухапутнага войска' (ТСБМ, Бяльк.). З рус. *солдáт* 'тс', якое вядома з 1515 г.; запазычана праз зах.-еўр. мовы (ням. *Soldat*, франц. *soldat* і г. д. з італ. *soldato* ад *soldare* 'нанімаць'); Праабражэнскі, 2, 352; Клюге, 568; Фасмер, 3, 709. З рус. і *салдафóн* 'ваенны, інтарэсы якога не выходзяць за межы вузкапрафесійных заняткаў і ведаў; грубы, абмежаваны, некультурны чалавек' (ТСБМ); у рус. з *солдат* пад уплывам уласнага імя *Агафон*, гл. Фасмер, там жа. Ст.-бел. *салдатъ* (1710 г.) з той жа крыніцы (Булыка, Лекс. запазыч., 63).

**Салдýк** 'салдат' (Касп.). З *салдат* (гл.) з заменай канцавога складу суф. *-ук*, як у *прымýк* 'прымак', *знайдýк* 'пазашлюбнае дзіця' і г. д.; аб суфіксе гл. Сцяцко, Афікс. наз., 74.

**Салéтра** 'назва азотнакіслых салей калія, натрыя, амонія, кальцыя і пад., якія выкарыстоўваюцца ў вытворчасці выбуховых рэчываў, для ўгнаенняў, пры засолцы мяса і пад.' (ТСБМ, Байк. і Некр., Сцяшк. МГ, Сл. ПЗБ), 'штучныя ўгнаенні' (Жд., 1). Ст.-бел. *салетра* (*салітра*, *селетра*, *селитра*, *солетра*; 1503 г.) < ст.-польск. *saletra* < лац. *sal nitrum* (Булыка, Лекс. запазыч., 141). Сучаснае слова, відаць, працягвае ст.-бел. Аб польск. *saletra* гл. Брукнер, 479.

**Салёнікі**, *салóнікі, салёнкі, салóднікі* 'адвараная ачышчаная бульба' (Сл. ПЗБ, ТС, Сцяшк., Янк., Шатал.), *салóдныя* 'тс' (Нар. лекс.), *салóнікі* 'грыбы, якія толькі соляць' (Сцяшк. МГ). Дэрываты ад *салёны, салоны* (гл.).

**Салёны** 'які ўтрымлівае ў сабе соль, насычаны соллю', 'прыпраўлены соллю, занадта пасолены', 'прыгатаваны ў запас з соллю, у салёным растворы' (ТСБМ, ТС, Сцяшк. МГ). Рус. *солёный* 'тс'.



Руск.-бел. інавацыя ад *соль*; параўн. *салоны*, або першапачатковы залежны дзеепрыметнік мін. ч. ад *саліць*, які потым стаў прыметнікам.

**Салібóкі** 'плечы' (Сл. рэг. лекс.). Няясна.

**Салíдны** 'моцны, добра зроблены', 'які вылучаецца грунтоўнасцю, глыбінёй, сур'ёзнасцю', 'важны, паважны, самастойны (пра чалавека)' (ТСБМ), *салíнны* 'мажны' (навагр., Сл. ПЗБ). Рус. *солúдный* 'тс', позняе запазычанне з франц. *solide* 'пэўны' ад лац. *solidus* 'шчыльны, суцэльны, цвёрды' (Фасмер, 3, 710). Беларускае слова з рускай мовы.

**Салісóўка** 'хустка ў кветкі' (Сл. Брэс.). Відаць з *шаліноўка* (гл.); да замены *ш/с* параўн. *сапель* 'шуфель'. Магчыма, паўплывала *мусліноўка* (гл. *муслін*).

**Салóдкі** 'які мае прыемны смак, уласцівы цукру, мёду і пад.', 'смачны, багаты (пра яду)', 'поўны дастатку, задаволенасці, шчасця, радасці (пра жыццё, лёс)', *салóдкае* ў знач. наз. 'страва, прыгатаваная з цукрам, варэннем, мёдам і пад., а таксама цукеркі, кандытарскія вырабы'. Агульнаславянскае; рус. дыял., укр. *солóдкий*, ст.-слав. **сладъкъ** 'салодкі', польск. *słodki*, в.-луж. *słódki*, н.-луж. *słodki*, чэш., славац. *sladký*, серб.-харв. *сла̏дак*, славен. *sládk*, балг. *слáдък*, макед. *сладок*. Прасл. **soldъkъ* – дэрыват з суф. *-ъk* ад **soldъ* 'салад'. Адпаведнікі ў літ. *saldùs*, лат. *salds* 'салодкі', літ. *sálti, sąlù* 'рабіцца салодкім', далей звязана з *соль* (гл.). Першаснае значэнне 'салёны, смачны, востры'. Гл. Траўтман, 248 і наст., Мяйе, RES, 6, 172 і наст., Фасмер, 3, 713, Брукнер, 499). Махэк$_2$, 551 не прымае роднасць з слав. **solь* і прапаноўвае першапачатковую форму **svādus* 'салодкі, мілы', якая была б роднаснай ст.-інд. *svadúh*, лац. *suāvis*, ням. *Süss* 'салодкі', дзе *-va-* было заменена на *-ol-* пад уплывам **solь*, што лічыцца неверагодным; гл. Шустар-Шэўц, 2, 1303. Да таго ж *соль* у некаторых рэгіёнах у старажытнасці была сапраўды каштоўнай прыправай. Гл. Борысь, 558; БЕР, 6, 841–844. Параўн. *солад*.

**Салóма** 'сухія сцёблы злакавых раслін, якія застаюцца пасля абмалоту'. Агульнаславянскае, укр., рус. *солóма*, ст.-рус. *солома*, ц.-слав. *слама*, польск., в.-луж., н.-луж. *słoma*, чэш. *sláma*, славац. *slama*, серб.-харв. *сла̏ма*, славен. *sláma*, балг., макед. *слáма*. Прасл. **solma* 'салома' роднаснае лат. *salms* 'саломінка', ст.-прус. *salme* 'салома', ст.-в.-ням. *hal(a)m* 'сцябло', лац. *culmus* 'чарот', і, да-

лей, ст.-інд. *çalākas* ‘сцябло, колас’; усе да і.-е. **koləmā* ‘сцябло’. Гл. Сной, 578; Борысь, 558. Гл. яшчэ Фасмер, 3, 713; Махэк$_2$, 551; Шустар-Шэўц, 2, 1304.

**Салóменіца** ‘нізкае месца’ (Яшк.). З **салоненіца* ў выніку дыстантнай дысіміляцыі. Першапачаткова ‘месца, дзе ёсць салёная крыніца’. Да *салоны* (гл.).

**Салóны** ‘салёны’ (ТСБМ, Нас., Сл. ПЗБ, Сцяшк., Ян., ТС, Мат. Гом.), *салóнны* ‘тс’ (Сл. ПЗБ, Нар. лекс., Скарбы); з дысіміляцыяй *нн – дн салóдны* ‘тс’ (Сл. ПЗБ, ТС). Агульнаславянскае; рус. *сóлоный*, укр. *солóний*, ст.-слав. **сланъ**, польск., в.-луж., н.-луж. *słony*, чэш., славац. *slaný*, серб.-харв. *сла̑н*, славен. *slȃn*, балг. *слан*. Прасл. **solnъ* (Траўтман, 249; Фасмер, 3, 713 і наст., Махэк$_2$, 592; Брукнер, 506); утворана ад і.-е. кораня **sol-* (гл. *соль*) з суф. **-nъ*, архаічны прыметнік; гл. Махэк$_2$, 592; Шустар-Шэўц, 2, 1306–1307; Борысь, 558. Гл. яшчэ Фасмер, 3, 713 і наст. з літ-рай. Ад *салоны* ўтворана *саланéць* ‘прасольваць’ (Сцяшк. Сл.).

**Салóха** ‘жаночае імя Саламаніда’, ‘дурань, дурніца’ (Нас., Байк. і Некр.), ‘неахайная жанчына’ (Мат. Гом., Юрч., Сл. Брэс.). Укр. *солóха* ‘ведзьма’, ‘жаночае імя’, рус. пск., цвяр. *солóха* ‘неахайная касматая жанчына’, ‘русалка’. Апелятывы ўтвораны ад жаночага імя *Салоха*, якое Унбегаун (BSL, 52, 1957, 176), таксама як і Насовіч, 600, выводзіць з *Соломонида*, якое было распаўсюджана ў XVII–XVIII стст.; Брукнер, KZ, 43, 403 і інш., гл. Фасмер, 3, 714 утвараюць ад грэч. імя Σαλόμη ‘Саламея’. Магчыма, сюды ж і гом. *самахня́* ‘салоха’ з **салахня* пад уплывам *сам, сама*.

**Салупáць** ‘высоўваць язык, лізаць’, *салýп, салы́п* ‘аддзеяслоўная часціца, якая азначае частае высоўванне языка’ (Нас., Бяльк.), *салапéць* ‘тс’ (Мартынаў, Бел.-укр. ізал., 49), *салапáць* ‘высоўваць язык, балбатаць’ (Сл. ПЗБ); сюды ж **селяпáць, селепáць* ‘хутка чэрпаць, сёрбаць, хлёбаць лыжкаю’, **саляпанýць, салепанýць* ‘сцябаць чым-небудзь гнуткім’, **селяпáйла, селепáйла* ‘хто хутка чэрпае лыжкаю’ (Нас.). Часцей ужываецца з прыст., параўн. *высалапіць, асалапець* (гл.). Бел.-укр. ізалекса: укр. *солопíти, висолопíти*; у рус. гаворках (*солопи́ть* ‘высоўваць язык, лізаць’, *вы́солопить*) толькі на сумежных з бел. гаворкамі тэрыторыях (Мартынаў, Бел.-укр. ізал., 49). Фасмер (3, 714) лічыць гукаперайманнем. Паводле Мартынава (там жа; Лекс. Палесся, 14) пранікненне з балт. моў, гл. падрабязна ЭСБМ, 2, 282. Трубачоў (Слав. языкозн. V, 177) высунуў гіпотэзу аб сувязі разглядаемых ўсх.-слав. слоў са ст.-слав. **слѣпати** ‘скакаць’, рус.-ц.-слав. *слѣпати* ‘цячы, біць крыніцай’; на яго думку, яны працягваюць прасл. дыял. **vysolpiti*, **vyselpiti*, **vyselpati*, **selpati*. Гэта сувязь была намечана яшчэ ў Патабні (гл. Патабня, К истории, 206). Фасмер, 3, 715 рускі гідронім *Солпа* таксама звязваў з вышэйназванымі стараславянскімі і царкоўнаславянскімі словамі, прыцягваючы сюды ж ст.-слав. **слапъ** ‘хваля’, чэш. *slap* ‘парог на рацэ’, серб.-харв. *сла̑п*, славен. *slȃp* ‘вадаспад; вал, хваля’; сюды ж і балг. *слап* ‘хваля’, макед. *слап* ‘вадаспад’. Агляд усіх версій і семантыкі гл. Анікін, Этимология–1982, 65 і наст., які рэканструюе прасл. **selpati*, **sьlpati*, **solpъ*, якія ўзыходзяць да і.-е. **sel-* ‘скакаць’ з семантычным пераходам ‘скакаць’ – ‘бурна цячы, струменіць’, уласна кажучы ‘скакаць (аб вадзе)’. Прыцягваючы для параўнання яшчэ ўкр. палес. *совпатис’* ‘тыкацца, таўчыся’ (гл. і бел. *соўпаць(ца)*) < прасл. **sъlpati sę* (‘высунуць язык’, уласна ‘выткнуць язык’, а ‘тыкацца’ – гэта своеасаблівы варыянт ‘скакаць’), для беларуска-ўкраінскай групы ён рэканструюе прасл. **solpati* (*салупаць*) з адпаведнікамі ў славен. *slápati* ‘цячы, выпарацца’, серб.-харв. *slàpati* ‘ударацць (па вадзе)’, **solpěti* (*салапéць*, славен. *slapéti* ‘сцякаць уніз’, укр. *солопíти* ‘глядзець бессэнсоўна’, **selpati* ‘селепаць’, ст.-слав. **слѣпати**, **vysolpiti* ‘высалапіць язык’. Гл. яшчэ Супрун, Веснік БДУ, 1970, 3, 58: бел. *асалапець, высалапіць* разглядаў як кантамінацыю прасл. **solp-* і **slop-*, параўн. польск. *osłupieć*; крытыку яго версіі і гіпотэзы Мартынава гл. Анікін, там жа; гл. яшчэ Скок, 3, 279.



**Салхвéта** ‘сурвэтка’ (Мат. Гом.). З рус. *салфéтка*, якое праз ням. *Salvette* запазычана з італ. *salvietta* ‘тс’, гл. Праабражэнскі, 2, 247; Мацэнаўэр, 302; Фасмер, 3, 551.

**Сáлька** ‘вышкі, зробленыя над свіранам, накшталт каланчы ў гаспадскіх і шляхецкіх дамах для вывешвання вяндліны, сала і да т. п.’ (Нас.), ‘пакойчык пад дахам’, ‘падстрэшак’ (іўеў., ашм., даўг., Сл. ПЗБ), ‘вышкі’ (Байк. і Некр.). Памяншальнае да *саля* (гл.), або запазычанне з польск. *salka* ‘невялікі пакойчык, які выступае над дахам’; гл. Брукнер, 479.

**Сальмя́к** ‘нашатыр’ (Байк. і Некр.). З польск. *salmiak* ‘тс’, якое з лац. *sal ammoniacum* ‘аміячная соль’ (Брукнер, 479).

11 Зак. 2628

**Сальніца** 'невялікая пасудзіна для трымання солі' (ТСБМ, Касп., ТС, Сцяшк., Сл. ПЗБ, З нар. сл.). Укр. *сільни́ця*, рус. дыял. *сольни́ца*, польск. *solniczka*, чэш. *solnička* і г. д. Прасл. **solnice* дэрыват ад **solьnь* 'салёны' (Махэк₂, 592; Трубачоў, Ремесл. терм., 258).

**Сальцісо́н** 'каўбасны выраб з спрасаваных вараных субпрадуктаў' (ТСБМ), 'вантрабянка' (Мат. Гом.), *салтысо́н* 'тс' (Скарбы), *салтасо́н*, *сальсасо́н*, *сальсесо́н*, *салтысо́н* 'тс' (Сл. ПЗБ). З польск. *salceson*, якое Брукнер (480) выводзіць з італ., параўн. *salsume*, *salsamento*, *salsiccia* 'каўбаса', а не з франц. *saucisson*.

**Са́ля** 'зал, зала' (Байк. і Некр.; шчуч., Сл. ПЗБ). З польск. *sala* 'тс', гл. Кюнэ, Poln., 95; Сл. ПЗБ, там жа. Ст.-бел. *саля* (XVI ст.) праз ст.-польск. з італ. *sala* 'тс' (Булыка, Лекс. запазыч., 99).

**Салядыно́вы** 'бледна-зялены (колер)' (Сл. рэг. лекс.). Рус. *селадо́новый* 'колеру марской хвалі'. Мяркуючы па месцы націску, з польск. *seladynowy* 'бледна-зялёны'. Слова ўзыходзіць да франц. *céladon* 'селадон' і, далей, да імя героя пастухоўскага рамана «Астрэя» Анарэ д'Юрфэ (1568–1625 гг.). Гл., напрыклад, Мацэнаўэр, LF, 19, 248; Голуб-Копечны, 329; Фасмер, 3, 594; Брукнер, 484.

**Салядэ́рак**, *салатэ́рак* 'сподак' (Сл. ПЗБ), *салітэ́рка* 'талерка' (Сл. Брэс.), *салітэ́рка* 'міска' (гом., Нар. сл.). З польск. *salatierka*, *salaterka* 'салатнік'. Апошняе з франц. *salatiere* 'тс' (Брукнер, 480).

**Саля́нка**₁ 'саляніца' (ЛА, 5). Дэрыват ад прым. *саля́ны*, які да *соль* (гл.).

**Саля́нка**₂ 'мера сыпучых рэчываў у 4 чацверыка' (Касп.). Да *соль* (гл.), мабыць, першапачаткова мера солі.

**Саля́рка** 'салява масла' (ТСБМ, Сл. ПЗБ). Кандэнсацыя словазлучэння *саляравае масла* 'прадукт перагонкі нафты, які выкарыстоўваецца як паліва для дызеляў, рэчыва для змазкі механізмаў і пад.', дзе *саляравае* ад лац. *solaris* 'сонечны' < *sol* 'сонца' (Голуб–Ліер, 445). У беларускай, хутчэй за ўсё, непасрэднае запазычанне з рус. *соля́рка* 'тс'.

**Сам** 'сам, ніхто іншы', у знач. наз. 'гаспадар, кіраўнік і г. д.' (ТСБМ, Нас., Касп., Бяльк., ТС, Сл. ПЗБ), 'адзін, адзінокі' (Сл. ПЗБ, Нар. лекс.), *са́мы* займ. 'той, ніхто іншы', 'іменна такі, які патрэбен, падыходзіць (*самая пара*)'; 'той, што мае вышэйшую ступень якасці (*самы вясёлы*)' (ТСБМ, Бяльк.), *са́му, саму́* 'адзін, адзінокі' (ТС), *са́мо, са́ме* 'толькі, як раз', *са́міе* 'самі' (Ян.), *саме́нко, саме́нты* 'якраз' (Мат. Гом.). *Сама-* – першая састаўная частка складаных слоў, якая абазначае накіраванасць, здзяйсненне, працяканне дзеяння і інш.: *самасе́й* (да *сеяць*), *самапа́сам* 'самастойна, без нагляду' (да *пасці*), *самату́жкі* 'маленькія санкі' (да *тужыцца*), *самакі́ша* 'прастакваша' (да *кіснуць*), *самахоць* 'па сваёй волі' (да *хацець*) і інш. Агульнаславянскае; рус. *сам* 'сам; адзін', укр. *сам*, *са́мий* 'тс', стараж.-рус., ст.-слав. **самъ**, польск., в.-луж., н.-луж. *sam*, каш. *som*, чэш., славац. *sám*, серб.-харв. *sȃm*, славен. *sȃm*, балг., макед. *сам* 'сам', 'адзін, адзінокі'. Прасл. **samъ*, **sama*, **samo*. Паралелі ў ст.-інд. *samás* 'роўны, адзінакавы', авесц. *hama-*, *hāma-*, ст.-пярс. *hama-* 'роўны, той жа самы', гоц. *sama* 'той жа самы', ст.-в.-ням. *samo*, ст.-англ. *same*, ст.-ісл. *sómr* 'падыходзячы, належачы' і г. д., гл. Траўтман, 273; Торп, 432; Праабражэнскі, 2, 249; Фасмер, 3, 552; Снойі, 553; усе ад і.-е. кораня *somo/semo* < і.-е. **sem* 'адзін'. Трубачоў, Этимология–1965, 23, 65, падкрэсліваючы незалежнасць ужывання займеннікавага элемента ў славянскім і іранскім, лічыць, што авесц. *hāmō* не падцвярджае агульнасць інавацыйнага падоўжання ў гэтых мовах. Даўжыня галоснага ў славянскім слове паводле Махэка₂, 537 мае экспрэсіўны характар. Гл. яшчэ БЕР, 6, 453 і наст., Шустар-Шэўц, 2, 1266; Борысь, 538. Сюды ж прым. *самаві́ты* 'разумны' (Нас., ТС), 'самастойны' (Ян.), 'мажны, дзябёлы', 'паважны, салідны' (ТСБМ), *самава́ць* 'садзіцца на гак, шараваць плытам па гаку' (навагр., Нар. лекс.).



**Самава́р** 'металічны прыбор для кіпячэння вады з награвальнай трубкай у сярэдзіне' (ТСБМ, Др.-Падб.). З рус. *самова́р* 'тс', якое ад *сам* і *варить* (Праабражэнскі, 2, 248; Брукнер, 480). Інакш Міклашыч, які бачыць у рускім слове запазычанне з цюрк. *sanabar*, што менш верагодна. Падрабязна аб рус. слове гл. Фасмер, 3, 553.

**Самакі́ша** 'сыракваша'. Гл. *сам*, *кіснуць*.

**Самалёт** 'цяжэйшы за паветра лятальны апарат з рухавіком і, звычайна, нерухомымі крыламі' (ТСБМ). З рус. *самолёт* 'тс' або адаптаванага польск. *samolot* 'тс', што не выключае і самастойнае ўтварэнне ад *сам* (гл.) і *лятаць* (гл.), параўн. *самапла́ў* 'тс' і заўвагу Бузука: «вельмі прыгожае наваўтварэньне, якое я чуў у Асіпавічах» (Буз., 257), гл.

**Самалу́к**, *самайлу́к* 'аснова драўлянай бараны (дубовая палка, якая абгінае барану з трох старон)' (рагач., Сл. ПЗБ), *самолу́к*

'тс' (Выг.), *самайлу́к* 'тс' (Рам., 8), 'лук' (Ян.), 'хто няўмелы' (пух., Сл. ПЗБ), 'гультай' (Мат. Маг.). Да *сам* і *лук₁* (гл.).

**Сама́н** 'цэгла-сырэц, выробленая з сумесі гліны, гною і сечанай саломы' (ТСБМ), 'ферма' (Жд. 2). Рус. *сама́н* 'тс'. Цюркізм, параўн. чагат., крым.-тат., тур. *saman* 'салома', гл. Радлаў, 4, 432; Фасмер, 3, 552. Магчыма рускае пасрэдніцтва.

**Саманíца**, *са́маны* 'мох' (ігн., Сл. ПЗБ). З літ. *sãmanos* 'мох' (там жа; Лаўчутэ, Балтызмы, 50 з літ-рай); магчыма, непасрэднай крыніцай было польск. *samanice* 'месца, зарослае кустамі і мохам', якое з той жа крыніцы.

**Самапла́ў** 'самалет' (Буз.). Наватвор 30-х гадоў ад *сам* (гл.) і *плаваць* (гл.), першапачаткова, відаць, адносілася да парахода.

**Самарда́к** 'удар па твары', 'хвароба ў роце, калі баляць сківіцы', 'пахмурны, упарты, маўклівы чалавек', 'упартасць, маўклівасць' (ТСБМ), *самурда́ка* 'ўпартасць, маўклівасць' (Касп.), *самарды́ка* 'нягодніца' (Мат. Гом.). Улічваючы пераважна ўсходнюю лакалізацыю гэтых лексем, магчыма выдзеліць прыст. *са-*, якая тут часта ўжываецца замест *з-, с-;* тады да *морда* (гл.), асабліва параўн. разважанні аб роднасці ўсх.-слав. *морда* і славен. *mrd* 'грымаса'. Адсюль першаснае значэнне, відаць, было 'чалавек з выразам, грымасай незадаволенасці'.

**Саме́ц** 'асобіна мужчынскага полу' (ТСБМ, Сл. ПЗБ), 'дрэва, якое не дае насення' (Сл. ПЗБ), 'часць сеці, якая непасрэдна прымыкае да «маткі»' (Маш.), *само́к* 'самец' (ТС), *самчу́к* 'тс' (Сл. ПЗБ). Рус. *саме́ц*, укр. *саме́ць*, польск. *samiec*, *samczek*, чэш. славац. *samec*, серб.-харв. *са̏мац* 'адзінокі чалавек', славен. *sámec* 'адзінокі чалавек', 'самец'. Прасл. **samьcь*, дэрыват ад **samъ* 'сам'. Махэк₂, 537 семантыку назвы тлумачыць тым, што самцы жылі адны, не ўдзельнічаючы ў выхаванні патомства. Форма *само́к* утворана як паралель м. р. да наз. ж. р. *самка*, гл. Гл. яшчэ Борысь, 538.

***Самíнец**, *со́мінец* 'кароткае бервяно паміж вокнамі' (ТС; стол., Нар. сл.), *самíца* 'тс' (ТС), *самíнка* 'сценка паміж вакон' (КСТ), рус. дыял. *сомцы́* 'працяг зруба з бярвенняў, якое завяршаецца трохвугольным выступам', *саме́ц, само́к* 'вохлуп', *самцы́* 'кароткія бярвенні', укр. карп. *саме́ць*, мн. л. *сíмці* 'бервяно ў сцяне хаты, якое толькі адным канцом звязана ў замок, а другім упіраецца ў вушакі', польск. дыял. *sumiec* 'бервяно, якое ўсунута сваім абсклюдаваным канцом у паз', *sonik, sunik, sumik, sulnik* 'кароткае бервяно паміж вокнамі', *sowiniec* 'жэрдкі над токам у гумне,



вышкі', чэш. дыял. *somik* 'вушак', *somínec* 'кол у плоце', *slumík* 'столбік у плоце', *sumík* 'вертыкальная драўляная рама', *somica, somík* 'бервяно паміж вокнамі', славац. *sôm* 'вушак', *somík* 'тс', 'папярочная планка ў грабель, матавіла і г. д.', серб.-харв. *somić, sȍmić* 'дзірка для дыму ў форме роўнастаронняга трохвугольніка, якая выходзіць на два бакі даху', 'франтон', славен. *somik* 'жолаб, паз на сцяне'. Этымалогія спрэчная. Фасмер (3, 716) першапачатковай лічыць форму *сомок* (*сомец, сомцы* – другасная) і выводзіць яе з **sъ-mъk-* (гл. *мкаць, мкнуцца*), але прыводзіць толькі рускі і ўкраінскі матэрыял. Махэк₂ (566) з улікам славацкай формы ўзнаўляе прасл. **somъ*, **somьcь* і ў якасці адпаведнікаў указвае на ст.-інд. *śamyā* 'палка, затычка, цвік', авесц. *sima* 'частка вупражы возу, магчыма, драўляная частка, якая абхоплівае шыю каня', арм. *samik'* мн. л. 'дзве драўляныя часткі ярма', грэч. κάμαξ 'жэрдка, кол', с.-в.-ням. *hamel* 'жэрдка', дац., шв. *hammel*, нарв. дыял. *hamul* 'папярочная перакладзіна перад возам'. Няпэўна.

**Самíт** 'аксаміт' (Бяльк.). Як бачна з тлумачэння, з *аксаміт* у выніку адпадзення першага склада.

**Самíца₁** 'самка' (ТСБМ, Сл. ПЗБ), 'галоўны корань у дрэве' (Сл. ПЗБ), *самы́ця* 'самка' (Сл. Брэс.). Укр. *самíця*, польск. *samice*, чэш. *samice*, славац. *samica*, серб.-харв. *са̏міца* 'самка птушак', славен. *samica* 'тс'. Прасл. **samica*, дэрыват ад **samъ* 'сам' з суф. *-*ica*, паралель да наз. м. р. **samьcь* 'самец' (SP, 1, 98; Махэк₂, 537). Улічваючы націск і лінгвагеаграфію, у бел. магчыма з польск. Гл. яшчэ Борысь, 538.

**Самíца₂** 'каўтун на галаве', *само́к₂* 'вялікі камяк каўтуна на галаве' (пух., З нар. сл.). Укр. *са́мка* 'дзіцячая хвароба'. Табуістычныя назвы ад *самíца₁, самок₁* (гл.).

**Са́мка** 'асобіна жаночага полу'. Рус. *са́мка* 'тс', укр. *са́мка* 'від дзіцячай хваробы'. Да *сам* з суф. *-к-*.

**Само́та** 'адзінота, находжанне ў адзіноцтве', *само́тны*. Лічачы па націску, з польск. *samota, samotny* 'тс', якія да *sam* (гл. *сам*).

**Сампо́рык** 'рэдкі малапажыўны суп' (Скарбы). Дэрыват ад польск. *sapory* 'прысмакі, соўсы' з другаснай назалізацыяй і нарашчэннем дэмінутыўнага суфікса. Да гэтай жа крыніцы ўзыходзіць і *сапо́рак* 'нагар у люльцы' (трак., Сл. ПЗБ). Польскае слова з лац. *sapa* 'від сока', *sapor* 'смак' (Брукнер, 481). Да семантыкі *сапорак* параўн. *сос* (гл.).

**Самту́к** 'апалонік (малькі жабы)' (воран., Сл. ПЗБ). З літ. *samtùkai* мн. 'апалонікі', дэмінутыў да *sámtis* 'апалонік (лыжка)'; семантычны пераход пад уплывам бел. аналагічнага пераходу; гл. Грынавяцкене і інш., Lietuviu kalbotyros klausimai, 1975, XVI, 188; Лаўчутэ, Балтизмы, 72.

**Саму́йла** 'тоўсты чалавек' (віц., Нар. лекс.). Ад *сам* з суф. *-уй-ла* (як *хамуйла* (гл.). Аб суфіксацыі гл. Карскі 2–3, 23–25. Да семантыкі параўн. *самавіты* і вытворныя (гл. *сам*).

**Самура́й** 'гарэзлівае дзіця', перан. 'насякомае' (Мат. Гом.). Тыпалагічна хутчэй першасным значэннем будзе 'насякомае', потым 'гарэзлівае дзіця'. Тады з ˜*са-мур-ай*, да кораня *-мур-*, які ў *мурашка*, *муравей* (гл.).

**Саму́сь** 'нешта нябачнае, якое прыводзіць рэчы ў рух': *самусь дзверы очыныв* (КЭС). Ад *самы* з палес. пераходам *ы* > *у* і часціцай *сь*. Не выключаны ўплыў імя *Самусь* з *Самуіл* (гл. Нас.).

**Самшы́т** 'паўднёва вечназялёнае дрэва з цвёрдый драўнінай' (ТСБМ), праз рус. *самшит* 'тс' (Крукоўскі, Уплыў, 73) з пярс. *šimšäd* 'тс' (Праабражэнскі, 2, 249; Локач, 151; Фасмер, 3, 555).

**Самяшы́на** 'перхаць' (кіраў., Нар. сл.). Дэрыват ад дыял. **самяша́ць* 'змяшаць' < *мяшаць* з суф. *-іна*.

**Сан** 'званне, звязанае з пачэсным становішчам, з высокай пасадай у дарэвалюцыйнай Расіі' (ТСБМ). Стараж.-рус. *санъ*, ст.-слав. **санъ**. У беларускай, відавочна, запазычанне з рус. *сан* (параўн. Крукоўскі, Уплыў, 48), якое большасць даследчыкаў (Міклашыч, 288; Брукнер, ZfslPh, 4, 213) лічаць запазычаннем з дунайска-балг., параўн. тур., чагат. *san* 'вялікая колькасць, сан, слава', паўн.-цюрк. *sanamak* 'цаніць'. З іншага боку, параўноўваюць таксама (Траўтман, 250; Праабражэнскі, 2, 250, Бернекер, AfslPh, 38, 263) са ст.-інд. *sā̃nu* сяр. р. 'вяршыня, вышыня, вастрыё'. Гл. таксама Фасмер, 3, 555. Трубачоў, Этимология–1965, 22 супраць супастаўлення з іранскім, лічачы слова чыстым цюркізмам.

**Санда́л** 'вечназялёнае трапічнае дрэва сямейства сандалавых' (ТСБМ). Ст.-рус. *сандаль* 'тс'. З рус. *санда́л* 'тс' (Крукоўскі, Уплыў, 88). Апошняе праз грэч. σάνταλον з араб. *ṣandal* ад ст.-інд. *candanas* 'сандалавае дрэва', *candrás* 'бліскучы' (Праабражэнскі, 2, 249; Фасмер, 3, 556). Фасмер (там жа) дапускае пасрэднасць тур. *sandal* (параўн., напрыклад, блізкія формы ў Радлава (4, 305) і Міклашыча (Türk. El. Nachtr, 2, 155).



**Санда́лі** 'лёгкія летнія туфлі без абцасаў, якія зашпільваюцца раменьчыкамі' (ТСБМ), *санда́лы*, *сандалэ́*, *санда́лі* (Сл. ПЗБ), *санда́л* (Сл. Брэс.) 'тс'. Ст.-бел. *сандаль* 'сандаля', ст.-слав., рус.-ц.-слав. *сан(ъ)далии*, рус. *санда́лии*, прастамоўнае *санда́ли*. Першакрыніца слоў – грэч. σανδάλιον 'драўляны чаравік', якое прыйшло з Усходу (Фасмер, 3, 556; Булыка, Лекс. запазыч., 113). У суч. бел. м. формы з мяккім *-л-*, магчыма, запазычаны праз рускае пасрэдніцтва, з цвердым – праз польскае, параўн. *sandały* 'сандалі', *sandał* адз. л., якія, як мяркуе Фасмер (там жа), запазычаны з захаду; параўн. італ. *sandala* ад лац. *sandalium*.

**Сандара́к** 'духмяная смала, якую здабываюць з кары хваёвага дрэва сямейства кіпарысавых; выкарыстоўваецца для вырабу лакаў' (ТСБМ). З рус. *сандара́к* 'тс', кніжнага запазычання з франц. *sandaraque* або ням. *Sandarak* < лац. *sandaraca*, грэч. σανδαράκη ад ст.-інд. *candrarāga-* 'які мае бляск луны' (гл. Мацэнаўэр, 303; Фасмер, 3, 556).

**Са́ндвіч** 'дзве складзеныя разам скібачкі хлеба з маслам, сырам, каўбасой і пад. між імі' (ТСБМ). Праз рус. *са́ндвіч* 'тс' (Крукоўскі, Уплыў, 80) з англ., у якой ад імя лорда *Sandwich*, які, як гаворань, увёў гэту страву ва ўжыванне (ССРЛЯ, 13, 162).

**Са́ні** 'зімовая павозка на палазах', *са́нкі* 'памяншальнае да сані' (Касп., Сцяшк., Бяльк., Сл. ПЗБ, ТС, Шушк.), 'сківіцы; ніжняя сківіца' (Бяльк., Гарэц.; арш., докш., КЭС; Шатал., Сл. ПЗБ, ТС, Мат. Гом.), *санькі* 'санкі' (Янк. 1), *sanka* 'часць плуга, па якой ён сунецца па зямлі' (Тарн.), *са́ннік* 'майстар рабіць сані' (Янк. 3, Гарб.), *санны́к* 'колькасць сена або саломы, што змяшчаецца на санках' (Сл. Брэс., Клім.). Укр. *са́ни* 'сані', *са́нка* 'полаз', рус. *са́ни*, ст.-рус. *сани*, ст.-рус., ц.-слав. *сань* 'змяя', польск. *sanie*, *sanki* 'сані', *sannice* 'палазы', в.-луж. *sanje*, н.-луж. *sańe* 'сани', чэш. *sáně* 'сані; сківіцы, скула', *saň* 'дракон, змей', славац. *sane* 'сані', серб.-харв. *са̏она*, славен. *sanȋ*, балг. *са́нка* 'сані'. Слова не вельмі яснага паходжання. Запазычанне з фін. *cionne* 'від саамскіх саней' (Каліма, RS, 6, 82 і інш.) або набліжэнне да тат. *čana* 'сані', казах. *šana*, манг. *čana*, бурац. *sana* 'санкі, лыжы' (Радлаў, 4, 286; Рамстед – гл. Фасмер, 3, 556–557) адвяргаецца шэрагам аўтараў, якія схіляюцца да славянскага паходжання слова, гл. Фасмер, там жа з літ-рай. Звярталася ўвага на паралелізм значэнняў 'сані, санны полаз', 'змяя' у слова *сані* і *полаз* 'санны полаз, змяя'.

Узнаўляецца прасл. **sanь* (Шустар-Шэўц, 2, 1269) або **sani* (Махэк₂, 537; Сной₁, 554). Агульнай назвы для саней у індаеўрапейскай мове няма. Найбольш пераканаўчым лічыцца параўнанне з літ. *šõnas* 'старана', лат. *sãns* 'тс', першапачаткова 'рабро'. Сувязь з грэч. σανίς 'паля; бэлька, тоўстая дошка' лічыцца сумніцельнай. Гл. Зубаты, AfslPh, 16, 416 і наст.; Мюленбах–Эндзелін, 3, 804 і наст.; Траўтман, 298. Абаеў, 1, 398 параўноўвае слав. словы з асец. *ǯonyǯ/ conæǯ* 'сані; сківіца'. Гл. яшчэ БЕР, 6, 476–478; Борысь, 538.

**Санітáр** 'асоба малодшага медыцынскага персаналу ў лячэбных установах, якая даглядае хворых і раненых, сочыць за чысцінёй у палатах і пад.' (ТСБМ). З рус. *санитáр* 'тс' (Крукоўскі, Уплыў, 89), якое, магчыма, з франц. *sanitaire* 'які мае дачыненне да аховы здароўя' з дапамогай суф. *-ар-* (Гараеў, 451; Фасмер, 3, 557).

***Санот**, *санóт* 'сланечнік' (Выг., Бейл.), *сaнá* 'тс' (Мат. Гом.). Параўн. укр. *сóнях* 'тс'. Цяжкасці з тлумачэннем словаўтварэння. Магчыма, мясцовае пераўтварэнне ўкраінскага слова або нерэгулярныя дэрываты ад кораня *сон-*, як і ў *сонца*.

**Сап₁** 'заразная хвароба коней і іншых непарнакапытных, якая небяспечна і для людзей' (ТСБМ, Бяльк., Сл. ПЗБ). Укр., рус. *сап* 'тс', польск. дыял. *sapa* 'катар носу, насмарк', *sapy* 'сап'. Звязана чаргаваннем галосных з **sopeti* (гл. *сапсці*), гл. Фасмер, 3, 558; Брукнер, 481.

**Сап₂** 'багна', 'нізкае месца' (Сл. ПЗБ). Этымалагічна тое ж, што і *сап₁*; назва па гуку, які робіць багна, калі па ёй ідуць. Значэнне развілося, відаць, пад польскім уплывам, параўн. польск. *sapowisko* 'багно' ад *sapać* 'сапсці'.

**Сáпа₁** 'акоп, траншэя, падкоп' (ТСБМ). Праз рус. *сáпа* 'тс' (параўн. Крукоўскі, Уплыў, 82), якое з франц. *sap(p)e* 'траншэя' (Праабражэнскі, 2, 251; Фасмер, 3, 558). Адсюль фразеалагізм *ціхай сапай* 'непрыметна, цішком', гл. Лепешаў, этым. фраз., 401–402.

**Сáпа₂** 'від рыбы (тонкая, касцістая)' (ТС). Рус. дыял. *сáпа* 'рыба Cyprinus ballerus L'. Існуючыя версіі няпэўныя. Параўноўвалі з літ. *šãpalas* 'рыба Leuciscus cephalus', лат. *sapals* 'від карпа', гл. Мацэнаўэр, LF, 19, 246 і наст., што адвяргае Фасмер (3, 558), таксама як і думку Мацэнаўэра (Cizí sl., 303) аб сувязі з ням. *Zope* 'від карпа', *zupe* 'тс'. Лаўчутэ (Балтизмы, 148) выводзіць з лат. *sapols* 'галаўль'; супраць Анікін, Опыт, 272–273 (прапануе сувязь з прасл. **sopěti, *sapeti*.

**Сапáння** 'дыхавіца', 'дыханне' (астрав., Сл. ПЗБ). З польск. *sapanie* 'сапенне' (там жа, 4, 365).



**Сáпаць**, гл. *сапці.*

**Сапежы́нка** 'гатунак грушы' (Нас.), *сапяжáнка* 'тс' (Касп., Сцяшк. Сл.). Польск. *sapieżanka* 'тс'. Ад імя князя *Сапегі*, з садоў якога паходзіў гэты гатунак груш (Нас., 573; Дарашэўскі, 8, 65).

**Сапéль₁** 'ерш' (Нар. лекс.), *сопéль* 'тс' (ТС), *саплю́к* 'тс' (Сл. ПЗБ). Рус. дыял. *соплúвик, сóплик* 'тс'. Ад *соплі* (гл.), *сапліва*, таму што гэта рыба пакрыта слоем слізі.

**Сапéль,** *сопéль* 'лядзяш' (ТС), *саплí, саплé* 'соплі', 'ледзяшы' (швянч., в.-дзв., Сл. ПЗБ), *сапля́к* 'сапліваe дзіця' (ТСБМ), 'лядзяш' (Сцяшк.; івац., Жыв. сл.), 'сопляк', 'лядзяш' (Сл. ПЗБ), 'лядзяш', 'газоўка', 'падростак', мн. л. *сапля́кі* 'соплі' (ТС). Гл. *соплі*.

***Сапель**, *сопэ́ль* 'шуфля' (Сл. Брэс.). З польск. *szufel* 'тс' з частай менай *с/ ш* і адаптацыйным пераходам *ф > п*.

**Сапёлка**, *сапёлочка* 'дудачка', 'прадаўгаватая, але вузкая рэч; вузкая, цесная адзежа' (Нас.), *сапéлка* 'дудачка' (Бяльк.). Рус. *сопéль* 'дудачка, жалейка', дыял. алан. *сопля́* 'калашына', укр. *сопівка, сопілка* 'тс', рус.-ц.-слав. *сопѣль* 'тс', *сопѣти* 'іграць на трубе', польск. дыял. *sopiałka, sopiłka, supiłka* 'дудачка', серб.-харв. *sopela, sopil, sopila* 'тс'. Праслав. **sopelь'*. Ад **sopěti* (гл. *сапсці*) з суф. **-elь* або **-lь* – параўн. ст.-рус. *сопль* 'труба, жалейка' (гл. SP, 1, 106 і наст.; Фасмер, 3, 718). Параўн. *соплі*.

**Сапéрнік** 'той, хто імкнецца перамагчы каго-небудзь, дабіваючыся адной і той жа мэты' (ТСБМ). Рус. *сопéрнік*, ст.-рус. *супьрь*, польск. *sąpierz*, чэш. *soupeř* 'праціўнік', славац. *súper*, серб.-харв. *сýпарнйк* 'тс', славен. *sǫ̑pər, zǫ̑pər* 'насустрач'. Ад **супьрь* або **супьрьн-*, якія ў сваю чаргу ад **sǫ-* 'с' і **perti* 'біць, цясніць, упірацца' (гл. *перці*) (Праабражэнскі, 2, 357; Фасмер, 3, 718; Махэк₂, 495).

**Сапéта** 'спецыяльная сетачка для захавання злоўленай рыбы ў жывым выглядзе' (бых., КЭС), *сапэ́тка* 'саламяны мат' (Анох.), 'кошык, сплецены з лазы, дроту' (Сцяшк. Сл.). Рус. *сапётка* 'вулей, плецены з пруцця ўярбы' (Каўказ), 'кош для пасадкі злоўленай рыбы' (дан., церск.), укр. *сапéт, сапéта, сапéтка* 'вялікі плецены кош на калёсы', 'плецены з лазы ручны кош', польск. *sepet* 'скрынка'. З тур., крым.-тат. *säpät* 'кош' (Радлаў, 4, 495), якое з перс. (Гл. Локач, 139; Фасмер, 3, 558; Брукнер, 485).

11а Зак. 2628

**Сапёр** ‘ваеннаслужачы сапёрных часцей’ (ТСБМ). Праз рус. *сапёр* ‘тс’ (Крукоўскі, Уплыў, 82) з франц. *sapeur* ад *sape* ‘траншэя, акоп’, гл. Фасмер, 3, 558.

**Са́пка₁** ‘матыка’ (Касп., ТС, Клім., Выг.), *са́па* ‘тс’ (Мат. Гом.). Рус. паўдн. *capá, cáпка*, укр. *cáпá, cáпка* ‘тс’. Праз польск. *sapa* ‘тс’ (Брукнер, 481) з франц. *sape* ‘матыка’, італ. *zappa, sapa* ‘тс’ (гл. Міклашыч, 27; Бернекер, 1, 121). Румынскае пасрэдніцтва (Мацэнаўэр, LF, 19 246; Брукнер, там жа) адхіляецца Фасмерам (3, 558).

**Са́пка₂** ‘раптам’ (Сл. рэг. лекс.). Да *сапці* (гл.).

**Са́пко** ‘топка’ (ТС). Да *сапці* (гл.), параўн. польск. *sapy, sapowisko* ‘балота’. Магчыма, семантычнае запазычанне з польск., таму што дэрываты ад *сапці* ў беларускай мове са значэннем ‘балоцісты’ як быццам бы не адзначаны.

**Сапо́ліць** ‘рагатаць’ (Мат. Гом.). Да *сапці, сапець* (гл.), відаць, праз прамежкавы назоўнік з суф. *-оля* – **саполя*. Да семантыкі параўн. аднакаранёвае рус. дыял. *сопе́нить* ‘моцна крычаць, гарлапаніць; плакаць, галасіць’.

**Сапры́чка** ‘клін у коле пярэдняга навоя ў кроснах’ (Сцяшк., Жд. 1, Мат. Гом., Інстр. 2). Рус. дыял. *сапры́ка* ‘дошчачка з пракручанымі ў ёй дзіркамі, якая належыць да кроснаў’. Звязана з *перці, прэ* (гл.). Суфіксацыя *-ык* першапачаткова як у nomina agentis (параўн. SP 1, 95). Параўн. таксама прозвішча *Сапры́ка* (Бірыла, Бел. антр. 2, 365) і рус. *Сапры́кин*.

**Сапса́н** ‘драпежная птушка сямейства сакаліных, сапраўдны сокал’ (ТСБМ). З рус. *сапса́н* ‘тс’. У рускай упершыню фіксуецца ў 1866 г. (ССРЛЯ, 13); слова не адзначана ў Даля і Ушакова. Верагодна, з цюркскіх моў.

**Сапсе́ць** ‘састарыцца’ (Нас., Растарг.), ‘разбалавацца, дрэнна сябе паводзіць’ (Растарг.). Да *псець* (гл.); магчыма, з’яўляецца семантычным эквівалентам прымаўкі *псеі век зжыў* (Нас.). З іншай прыстаўкай – *зaпсе́ць* ‘састарыцца, як сабака’ (Шат., Касп.). Сінанімічна ў другім значэнні да *разапсе́ць* ‘разбалавацца’ (Растарг.). Здзіўляе падабенства харв. дыял. *spjèšati* ‘аслабець’, якое разам са славен. *pěhati* ‘стаць слабым, стаміцца’ Бязлай (3, 21) зблізкае з **pьsъ* (гл. *пёс*).

**Сапура́тнік** ‘свавольнік’ (Сл. рэг. лекс.). З **супаратнік* ад *супраць* з устаўным *-а-*.

**Сапуста́т**, *сапуста́тка* (Нас.). З *супастат, супастатка* (гл.).



**Сапутэ́рня** ‘мажная жанчына’ (лаг., Сл. ПЗБ). З польск. *sempiterna* ‘зад, ягадзіцы’, якое з школьнага жаргону; паходзіць ад лац. *sempiternus* ‘што ёсць заўсёды’. Аб польск. слове гл. Брукнер, 484.

**Сапу́ха** ‘сажа’ (Сцяшк. МГ), ‘засланка’ (Мат. Гом.). Гл. *сопуха*.

**Сапці́** ‘цяжка дыхаючы, пераважна носам, утвараць гукі з прысвістам’ (ТСБМ, Шат., Гарэц., Бяльк., Байк. і Некр.), *со́пці* ‘сапці, спаць’ (Нас.), *сапе́ць* ‘сапці’ (Бяльк., Касп., Ант.; брасл., Сл. ПЗБ), *сапсці́* ‘тс’ (Др.-Падб., Скарбы), *сапа́ць* ‘пакрывацца налётам сажы’ (Сцяшк.), ‘пачынаць разгарацца (аб дровах)’, ‘сальпаць (аб пламені)’ (Сл. ПЗБ; гродз., З нар. сл.), *сапану́ць* ‘передахнуць’ (Сцяшк. Сл.), *сапну́ць* ‘тс’ (Шатал.), *сапаце́ць* ‘хутка ісці’ (Сцяшк. Сл.), *сапану́ць* ‘садануць, пырнуць’ (Касп., Юрч.), *сопону́ты* ‘рынуцца, кінуцца, шмыгнуць’, *сапаце́ць* ‘пыхаць жарам’ (Нар. лекс.), *сопоні́ты* ‘тс’ (Клім.), *со́паць* ‘сапці’ (ТС). З іншай ступенню чаргавання ў корані: *са́паць* ‘сапці, цяжка дыхаць’ (Нас., Гар., Др.-Падб.), магчыма, з польск. *sapać* (гл. *сап₂*). Укр. *сапті́* ‘сапці’, рус. *сопе́ть* ‘тс’, дыял. ‘дуць (аб ветры)’, ‘піць’, ст.-слав. **сопсти**, ст.-рус. *сопѣти* ‘іграць на трубе’, *сопьць* ‘музыка, які іграе на трубе’, чэш. *sopliti* ‘сапці; пыхкаць (аб пламені, дыму)’, славац. *soptiť* ‘тс’, серб.-харв. *со̀пити* ‘сапці, пыхкаць’, *sopsti* ‘тс’, славен. *sopéti, sopsti* ‘шумна дыхаць, фыркаць’, балг. *со́пам се* ‘агрызацца’; з іншай агаласоўкай кораня: ст.-рус. *сапѣти, саплю* ‘сапці’, польск. *sapać* ‘сапці; пыхкаць’, в.-луж. *sapać* ‘вывяргаць’, н.-луж. *sapaś* ‘пылаць, пламянець’, чэш. *sapati se* ‘накідвацца на каго-небудзь’, славен. *sápati* ‘тс’. Прасл. **sopti, *sopěti, *sapati* ‘цяжка дыхаць’. Куркіна (Этимология–1984, 46, 51–52) дзеясловы на *-iti, -ěti, -ati* лічыць прыналежнасцю асобных славянскіх моў эпохі дыялектнага развіцця прасл. мовы. Паралелі ў ст.-інд. *śápati* ‘ён праклінае’, *sábdah* ‘гук, голас, шум’, гл. Міклашыч, 316; Траўтман, 299; Майргофер, 3, 296. Праабражэнскі (2, 257 і наст.) лічыць слова гукапераймальным і параўноўвае з рус. *сипеть, шыпеть*. Гл. яшчэ Фасмер, 3, 718. Снойі, 593, узводзіць слав. слова да і.-е. **suop-* у тым жа значэнні. Гл. яшчэ Шустар-Шэўц, 2, 1270; Борысь, 538.

***Сара**, *сора́* ‘зачэпы на дне ракі’ (ТС). Параўн. рус. на Волзе *сор* ‘усялякая перашкода (камяні, кусты) для цягі судна лінай’,

якое Даль (4, 276) дае ў гняздзе *сор* 'смецце', а таксама тэрміналагічнае ж. р. *сорá* 'пячное і іншае смецце, якое апрацоўваецца для здабычы часціц серабра і золата, якія туды трапілі'. Змяненне рода можа быць абумоўлена прафесійным словаўжываннем. Няпэўна; генетычная тоеснасць або запазычанне рус. *сор, сора*? Тады няяснымі застаюцца шляхі запазычання.

**Сарадзэ́ля** (Кіс., Сцяшк.). Гл. *сырадэля.*

**Сара́й**, *сарэ́й* 'хлеў' (Сл. ПЗБ). З рус. *сара́й* 'гаспадарчае памяшканне' (Козыраў, Лекс. тюрк., Сл. ПЗБ), якое з пярс. *sarāi, sarā* 'палац' праз пасрэдніцтва цюрк. моў; параўн. тур., кыпч. *sarai* 'дом; палац; караван-сарай' (гл. Фасмер, 3, 560).

**Саракаві́ны** 'сарачыны' (Сцяшк. Сл., Ян.), *саракóўка* 'тс' (Мат. Гом., Ян.). Рус. *сорокови́ны*, укр. *сороковúни* 'тс'. Да *сорак* (гл.). Параўн. *сарачыны.*

**Саракапу́т** 'птушка саракуш' (ТСБМ), *саракапы́т* 'тс' (Мат. Гом.). Рус. *сорокопу́д, сорокопу́т*, чэш. *strakopoud*, слвц. *strakopód*. Прасл. **sorkopǫdъ*. Паводле Фасмера, 3, 727 і наст., Махэка$_2$, 581 ад *сарока* і *пудить* 'гнаць'. Параўн. укр. *сорокогін* 'тс' ад *сарока* і *гнати*. Гл. яшчэ Праабражэнскі, 2, 358; Булахоўскі, ИАН ОЛЯ, 7, 114; трубачоў, Серболуж. Сб., 169–170.

**Саракапы́тнік** 'падалешнік Asarum L.' (Нар. лекс.). Ад *сорак + капыта* паводле круглавата-ныркападобнай формы лісця. Параўн. іншыя назвы гэтай расліны: *капытнік, канячыя капыткі* (Кіс., 20).

**Сарасква́ша** (Бяльк., Касп.). Гл. *сыракваша.*

**Сарака́** '40 штук' (Серж. Грам., 62); 'свята 40 мучанікаў, 9/22 сакавіка' (Нас., Інстр. 2), *саракé* (Шат.), *сарака́* (Мат. Гом.), *сырокі́* (Шн. 3), *саракавік* 'тс', 'сарачыны' (Мат. Гом.). Рус. *Со́роки* 'свята 9 сакавіка'. Ад *сорак* (гл.); параўн. Даль, 4, 275.

**Саракóўка** 'сорак гадоў', старое 'манета вартасцю ў 20 капеек', 'бутэлька гарэлкі ёмістасцю ў 1/40 частку вядра', 'тое, што мае таўшчыню ў 40 міліметраў (сантыметраў)' (ТСБМ), 'манета 20 капеек', 'сорак снапоў збожжа', 'тоўстая дошка' (ТС). Да *сорак, саракавы.* Манета ў 20 капеек называецца так адносна *гроша*, меднай манеты ў 1/2 капейкі, якая выпускалася ў СССР у 1925–1928 гг. (БелСЭ, 4, 31).

**Сараку́ш** 'драпежная птушка з атрада вераб'іных з вялікай загнутай дзюбай і моцнымі кіпцюрамі' (ТСБМ). Укр. дыял. *сороку́ш*, польск. *srokosz*, в.-луж., н.-луж. *srokoš*, славац. *strakoš* 'тс'.



Ад *сарока* (гл.), якую гэтая птушка нагадвае апярэннем (Брукнер, 511; Струтынскі, Nazwy, 98). Шустар-Шэўц, 2, 1351 разглядае слова як гіпакарыстычнае ўтварэнне ад **sorka* 'сарока' з суф. *-uš*.

**Сарамата́** 'патаемныя часткі цела' (Сл. ПЗБ), *соромотá* 'палавыя органы' (ТС), *сарама́ценне* 'тс' (Байк. і Некр.), *сарама́та* 'сорам, ганьба', *сарама́ціць* 'дакараць, выклікаючы пачуццё сораму', 'ганьбіць, няславіць' (КЭС). Да *сорам.*

**Сарамя́га** 'сарамлівы' (Шат., Байк. і Некр.), *соромня́га* 'саромніца' (ТС). Ад *сорам* з суф. **-ęga* або **-aga*; да суфіксацыі параўн. SP, 1, 66. Брукнер, 511 заўважае, што **sormęga* ужо не было вядома старажытным тэкстам. Таму бел. слова можа быць як архаізмам, так і адваротным дэрыватам ад *сарамяжы, сарамяжлівы* (гл. наступнае слова).

**Сарамя́жы** 'сарамлівы, канфузлівы' (ТСБМ, Гарэц., Янк. 1, Байк. і Некр., Мат. Гом., Ян., Сл. ПЗБ), *сарамя́жлівы* (Касп., Сцяшк. Байк. і Некр., Сл. ПЗБ), *сарамя́жны* (Байк. і Некр.) 'тс'. Укр. *сором'я́жний, соромяжли́вий*, ст.-рус., ц.-слав. *срамѧживъ, срамѧжьливъ*, ст.-рус. *соромяживый, соромяжьливый*, польск. старое *sromieżliwy*, н.-луж. *sromjažliwy*, серб.-харв. *срáмеж* 'сорам', славен. *srameżljiv* 'сарамлівы'. Ад **sormęga*, (гл. *сарамяга*) з рознымі суф. (Брукнер, 511; Шустар-Шэўц, 2, 1351); па апошняй прычыне прасл. форму ўзнавіць цяжка. Формы *сарама́злівы, сарамя́злівы* (беласт., лях., Сл. ПЗБ), магчыма, пад польскім уплывам.

**Сара́нка** 'расліна сямейства лілейных; тое, што і лілея' (ТСБМ). Рус. усх. *сарана́* 'сібірская красная лілія, Lilium tenuifolium; жоўтая лілія Lilium martagon'; паходзіць з тат. *sarana* 'лілія', манг. *sarana* 'дзікі часнок' (Фасмер, 3, 560), праз рус. пасрэдніцтва.

**Саранча́** 'насякомае падсямейства саранчовых, падобнае на коніка, якое вялікімі чародамі пралятае і знішчае пасевы' (ТСБМ), *саранча́, сарана́* 'тс' (ТС), *сара́нка* 'конік, казюлька' (ТС), *сарана́* 'дзятва' (Янк., Ян., Мат. Гом.), *саранчу́к* 'насякомае, падобнае на саранчу, але зялёнага колеру з доўгімі заднімі нагамі' (Нас.), 'каромысел (насякомае)' (Байк. і Некр.). Ст.-бел. *саранча, шаранча* (XVI ст.) (Булыка, Лекс. запазыч., 146). Рус. *саранча́*, дыял. *сарана́*, укр. *сарана́*, польск. *szarancza, sarancza* (з рус. – Брукнер, 683). Запазычанне з цюрк. *sarynča* 'тс'; параўн. кыпч. *sarynčaq* 'тс', вытворнага ад *sary(γ)* 'жоўты', *saryža* 'жаўтаваты' (Корш, AfslPh, 9, 666). *Сарана́* – адваротны дэрыват ад *саранча* – Фас-

мер, 3, 560. Сюды ж *сарачыць* 'спусташаць, знішчаць, як саранча' (Нас., Байк. і Некр.). Параўн. *сарыч*. Гл. яшчэ Жураўскі, Лекс. тюрк., 85.

**Саранчу́к** 'жоўтая махрастая з моцным пахам кветка' (Некр.). Відавочна ад *саранчук* 'насякомае' (гл. *саранча*); па падабенству фарбы.

**Сарапо́ня** 'вадкае незакіслае малако' (полац., Нар. сл.), 'сыракваша' (паст., в.-дзв., Сл. ПЗБ), *сарапе́ня* 'сыракваша', 'ежа з круп і вады' (Касп.), 'сыракваша' (горац., Нар. словатв.), *сарапу́та* 'тс' (Мат. Гом.). Гл. *сырапеня*.

**Сарафа́н** 'руская верхняя жаночая вопратка ў выглядзе асобага крою свабоднай доўгай сукенкі без рукавоў' (ТСБМ, Інстр. 1, Сл. ПЗБ), 'доўгая світка' (Сцяшк.), *сарахва́н* 'жаночае адзенне' (Бяльк.), 'сукенка без рукавоў' (Ян.), *сарапа́н* 'тс' (Мат. Гом.). З рус. *сарафа́н* 'жаночае суцэльнае адзенне без рукавоў', старое 'мужчынскі кафтан', ст.-рус. *сарафанъ* 'доўгі мужчынскі кафтан'. Рус. слова запазычана з усходу праз цюрк. *särapa(i)* з пярс. *serāpā* 'пачэснае адзенне' (Міклашыч, 288; Праабражэнскі, 2, 252; Фасмер, 3, 561).

**Сара́ч** 'сукно з горшага гатунку воўны' (стол., Нар. лекс.; Сл. Брэс.). Ад *серы* (гл. *шэры*) з суф. *-ач*; назва па колеру тканіны.

**Сарачня́** 'сорак (снапоў)' (старое, ТСБМ), *соротня́, сорокня́* 'тс' (ТС), *сарачня́, сарашня́* 'сорак штук чаго-небудзь' (смарг., пух., Сл. ПЗБ). Да *сорак* (гл.).

**Сарачы́ны** 'саракавы дзень пасля чыёй-небудзь смерці' (ТСБМ, Шат., Ян., Мат. Гом.). Рус. *сорочи́ны*, укр. *сорокови́ни*, *сорочи́ни* 'тс'. Ад *со́рак* (гл.) (Фасмер, 3, 724).

**Сарві́ла** 'сарві-галава' (Бяльк.). Ад *сарва́ць* < *рваць* з суф. *-іла* (гл. Сцяцко, Афікс. наз., 42).

**Сарвэ́та**, *сарвэ́тка* 'настольнік' (Байк. і Некр., Касп., Сцяшк., Сл. Брэс., Сл. ПЗБ, Скарбы). Гл. *сурвэта*.

**Саргу́ч** 'адростак у выглядзе прадаўгаватых валікаў у свінні пад падбародкам' (Скарбы). Да *серга* (гл.). Параўн. рус. *серга, серьга* 'завушніца; пачапка', таксама 'скурыстыя адросткі пад шыяй у свінні, казы'.

**Сарда́к** 'безрукаўка' (Сл. ПЗБ, Нар. сл., Скарбы), 'суконная жакетка без падкладкі' (Сл. Брэс.), *сардачо́к* 'безрукаўка' (Шатал.), 'камізэлька' (Сцяшк. Сл.), *сарда́чык* 'кофта, блузка' (Сцяшк. Сл.). Укр. *сердáк, сардáк* 'кафтан з грубага сукна', 'верхняя цёплая суконная вопратка галіцкіх сялян, расшытая шнурамі', польск. *serdak*, дыял. *sardak* 'скураная безрукаўка ў сялян-горцаў; кафтан, світка'. Апошняе, магчыма, з усх.-слав. (Брукнер, 485). Слова няяснага паходжання. Набліжаюць да *сэрца*, г. зн. адзенне, якое пакрывае грудзі і спіну, верхнюю частку тулава. Праабражэнскі (1, 434) лічыць першакрыніцай франц. *surtout*, параўн. рус. *сюрту́к*, бел. *сурду́т* (гл.). Не з *лапсардак* (гл.), рус. *лапсердак* 'доўгаполы яўрэйскі сурдут', якое з ідыш. *Labserdak*, ад *lāb* 'ліф' і укр. *сердак*. Гл. яшчэ Фасмер, 2, 459 з літ-рай.



**Сардані́кс** 'каштоўны камень з малочна-белымі і бура-чырвонымі палоскамі; разнавіднасць агату' (ТСБМ). З ц.-слав. *сардониксъ, сардоникии*, якое з грэч. σαρδόνυξ 'тс', г. зн. 'камень з Сард, у Лідыі' (Мацэнаўэр, 304; Фасмер, 3, 605). У сучаснай беларускай мове, відаць, з рус. *сардоникс*, параўн. Крукоўскі, Уплыў, 73.

**Сардзі́на** 'невялікая марская прамысловая рыбка сямейства селядцовых' (ТСБМ). Праз. рус. *сарди́н(к)а* 'тс' (Крукоўскі, Уплыў, 80) з фр. *sardine* > італ., лац. *sardīna, sarda*, літаральна 'сардынская рыба', ад назвы вострава Сардынія (Фасмер, 3, 562).

**Сарду́шка** 'храпка' (трак., Сл. ПЗБ). Аўтары слоўніка (4, 369) параўноўваюць з літ. *šerdis* 'тс'.

**Сардэ́лька**[1] 'тоўстая кароткая сасіска' (ТСБМ), *сардэ́ля* 'тоўстая каўбаса' (Сл. рэг. лекс.). З рус. *сарде́лька* 'тс' (Крукоўскі, Уплыў, 80), якое ад *сардэ́ль* 'рыба Engraulis encrasicholus L.' (гл. Трубачоў, Дополн., 3, 562). Апошняе з італ. *sardella* < лац. *sardīna* 'рыба, якая ловіцца каля сардынскага ўзбярэжжа' (Праабражэнскі, 2, 253; Фасмер, 3, 562).

**Сардэ́лька**[2] 'рыба сардына' (ТСБМ). Ад рус. *сардэ́ль* 'тс'. Далей гл. папярэдняе.

**Сардэ́чнік** 'расліна Leonurus cardiaca L.' (ТСБМ, Кіс.), 'майнік Majanthenum' (Інстр. 2), 'фіялка духмяная Viola odorata L.', 'скочкі Sempervivum tectorum L.', 'кураслеп Anemone nemorosa L.', 'фіялка палявая Viola arvensis Murr.', 'чысцяк веснавы Ranunculus Ficaria L.', 'рагулька палявая Consolida arvensis Opitz' (Бейл.), 'лекавая расліна' (Сцяшк.). Ад *сардэ́чны*, *сэрца* (гл.), таму што гэтыя расліны ўжываюцца ў народнай медыцыне пры хваробах сэрца (гл., напрыклад, Махэк$_2$, 572). Аналагічна і ў іншых славянскіх мовах, параўн. рус. *серде́чник* 'палявая гарчыца Cardamine pratensis L.',

чэш. *srdečník* 'розныя расліны, якія ўжываюцца пры хваробах сэрца', серб.-харв. *ср̏дачица* 'род раслін Leonurus' і г. д.

**Са́ржа** 'тканіна для падкладкі з дыяганальным перапляценнем нітак' (ТСБМ). Праз рус. *са́ржа* 'тс' (параўн. Крукоўскі, Уплыў, 79) з франц. *sarge* або італ. *sargia* ад лац. *sērica* 'шоўк', гл. Міклашыч, 288; Праабражэнскі, 2, 253; Фасмер, 3, 562.

**Саржа́тка** 'тоўстая іголка' (Сцяшк. Сл.). Гл. *шаршатка*.

**Са́рма** 'неахайная жанчына' (Сл. рэг. лекс.). Няясна.

**Са́рна** 'горная каза з невялікімі рагамі' (ТСБМ, Гар., Др.-Падб., Байк і Некр., Янк. БП, Бес.). Рус. зах. *сарна́* 'тс', укр. *са́рна* (побач з *серна*) 'тс'. Запазычанне з польск. *sarna* 'тс' (гл. Фасмер, 3, 563) > праслав. **sьrna* (Брукнер, 482). Апошняе роднаснае лат. *sirna* 'сарна, казуля', ст.-прус. *sirvis* 'алень', лац. *cervus* 'алень', *cornu* 'рог', авесц. *srvā* 'рог,ногаць', гоц. *haúrn* 'рог'. Падрабязна гл. Фасмер, 3, 609.

**Саро́ка₁** 'птушка сямейства крумкачовых з доўгім хвастом і чорным з белым апярэннем'. Укр., рус. *соро́ка*, ц.-слав. *сврака*, польск., в.-луж., н.-луж. *sroka*, славін. *sãrka*, палаб. *svorkó*, чэш., славац. *straka*, серб.-харв. *сврäка*, славен. *sráka*, балг., макед. *свра́ка*. Прасл. **sorka* і **svorka*. Бліжэйшыя адпаведнікі ў літ. *šárka* 'сарока', ст.-прус. *sarke*, ст.-інд. *çari, çārikā* 'майна' (Траўтман, 419; Торб'ернсан, Liquid, 1, 30; 2, 62). Слав. *-v-* тлумачаць як вынік уплыву ц.-слав. *сверъчата* і роднасных, напр. рус. *сверчок* і г. д.; гл. Праабражэнскі 1, 358. Форму **sorka* параўноўваюць яшчэ з лац. *cornīx* 'варона', *corvus* 'крумкач', грэч. *χόραξ* 'крумкач', гл. Фасмер, 3, 723. Сной₁, 599 узводзіць назву птушкі да і.-е. кораня **k'er-* 'чорны'; гл. яшчэ Шустар-Шэўц, 2, 1350; Борысь, 573; БЕР, 6, 564.

**Саро́ка₂** 'жаночая шапачка ў выглядзе какошніка' (Анім.), 'стужка (вузенькая рабенькая лентачка' (пух., Сл. ПЗБ). Рус. дыял. *соро́ка* 'від жаночай шапачкі', укр. палес. *соро́ка* 'жаночы галаўны ўбор у выглядзе цюбецейкі'. Ад *сарока₁* у выніку падабенства з хвастом сарокі і пёстрай расфарбоўкай пер'яў (Кіпарскі, Gemeinslaw, 101; Торб'ёрнсан, Liquid, 1, 37; 2, 63; Фасмер, 3, 723.

**Саро́ка₃** 'спецыяльны спосаб укарочвання «перадоўкі» (кароткай вяроўкі, якая канцамі прывязваецца да пярэдняй часткі воза) пры накладванні яе на жэрдку ў час укладвання снапоў' (Шат.). Відавочна, ад *сарока₁* (гл.) у выніку падабенства з хвастом сарокі.



**Саро́ка₄** 'аладка' (Сл. Брэс., Мат. Гом.). Ад *саракі* (гл.), таму што ў гэты дзень пячэцца match печыва (звычайна ў колькасці 40) для сустрэчы птушак, вясны.

***Сарокі**, *соро́кі* (жытк., Нар. сл.) 'злучаныя парамі накрыж кароткія жэрдкі, якімі прыціскаюць салому ці кастрыцу на вільчыку'. Да *сарока₁* (гл.), у выніку падабенства да сарочага хваста.

**Сарома́ха** 'расамаха' (ТС). Укр. дыял. *сорома́ха* 'тс'. Магчымы рэлікт; Трубачоў (гл. у артыкуле *расамаха*), напр., бел. і укр. *+росома́ха* лічыць вынікам табуістычнай замены **соромаха* ад слав. **sormaxa*. Падрабязней гл. *расамаха*.

**Саро́чка** 'мужчынская (верхняя і споднняя) або жаночая (споднняя) кашуля' (ТСБМ, Нас., Шат., Касп., Бяльк., Маш., Чач., Сл. ПЗБ, ТС, Сцяшк.), *саро́чачка* 'тс' (Мат. Гом.). Укр. *соро́чка* 'кашуля', рус. *соро́чка*, дыял. *сорочи́ца* 'сялянская кашуля', ст.-рус. *сорочька*, ст.-слав. **срачица** 'сарочка', царк.-слав. *срака, сракы*, Род. скл. *-ъве*, славен. *sráčica, srájca, srájčka*. Прасл. **sorčica* < **sorka* (гл. Сной₁, 599). Мяркуецца роднасць з літ. *šar̃kas* 'адзежа, суконны сурдут рыбакоў', *švar̃kas* 'пінжак, халат', лат. *svãrks* 'сурдут, пінжак'. Зычны *-v-* тлумачыцца тут уплывам літ. *švarùs* 'чысты, ахайны', гл. Траўтман, 299; Мюленбах-Эндзелін, 3, 1144. З прычыны наяўнасці *-š-* у балцкіх словах Фасмер (3, 727 і наст.) адхіляе думку аб запазычанні з германскіх, параўн. ст.-ісл. *serkr* 'кашуля, сурдут, штаны', англ.-сакс. *sierce* (**sarkjôn-*) 'тс', як меркавалі аб гэтым Сабалеўскі і інш. (Фасмер, там жа). Адвяргаюцца версіі Мюленбаха-Эндзеліна (3, 1144) і Фрэнкеля (IF, 52, 298) з розніцы у значэннях узвядзенне слав. **sorčica* да сяр.-лац. *sarica, sērica* 'шоўк', алб. *sharkë* 'род плашча з белай воўны'; гл. аб гэтым Фасмер 3, 724. Аб параўнанні з алб. *sharkë* 'род плашча з белай воўны з чырвонымі крапінкамі' і з авесц. *surī* 'скура', хец. *karii̯a* 'пакрываць' гл. Сной, там жа.

**Сарпа́нка**, *сарпа́нок*. Гл. *серпанка*.

**Са́рпаць** 'храпці, фыркаць' (Нас., Бяльк., Юрч.), *сарпану́ць* 'разануць, ударыць нажом' (Бяльк., Юрч.), *сарп* 'пра фырканне (коней)' (мсцісл., Нар. лекс.), *са́рпанне* 'усхрап, фырканне' (Гарэц.). Рус. дыял. *са́рпаць* 'тс', выкл. *сарп* 'фырк!'. Гукапераймальнае (Фасмер, 3, 563). Параўн. яшчэ укр. *са́ркати, са́рчати* 'фыркаць'.

**Сарпі́нка** 'лёгкая баваўняная тканіна ў палоску ці ў клетку' (ТСБМ, Нар. сл., Жд. 1). Запазычанне з рус. *сарпи́нка* 'паласатая

або клятчастая тканіна з Сарэпты'. Апошняе ад назвы ракі *Сарпа*, прым. *са́рпино* (Фасмер, 3, 563).

**Сартава́нне** 'дзеянне паводле знач. дзеясл. *сартава́ць* (ТСБМ). З польск. *sortowanie*. Параўн. рус. *сортиро́вка* (Кюне, Poln., 95).

**Сару́к** 'шарпак' (Мат. Гом.). Не вельмі ясна. Мабыць, дыялектная форма ад *серан, шэрань*, дзе *-ан, -ань* успрымалася як суфікс і было заменена суф. *-ук*.

**Сарцаві́на** 'унутраная частка сцябла (ствала) або кораня расліны' (ТСБМ, Сл. ПЗБ). Да *сэрца* (гл.).

**Сарца́к** 'асяродак у бульбе' (шчуч., Сл. ПЗБ). Да *сэрца* (гл.).

**Сары́ч** 'драпежная птушка сямейства ястрабіных; тое, што і канюк' (ТСБМ). Праз рус. *сары́ч* 'тс' з цюркскіх моў; параўн. паўн.-цюрк. *saryča* 'парода паляўнічых сакалоў', тур. *saryǯa* 'жаўтаваты', *saryǯyk* 'нейкая птушка' (Радлаў, 4, 325). Назва птушкі ўтворана ад назвы колеру, параўн. уйг. *saryɣ* 'жоўты', тур. *sary* 'тс', чагат. *sar* 'шуленак, каршун', манг. *sar*, калм. *sar* (Міклашыч, Türk. El. Nachtr., 2, 152; Праабражэнскі, 2, 253). Версія аб роднаснасці са ст.-інд. *sā́ram* 'драўніна, стрыжань дрэва', арм. *uruk* 'пракажоны' абвяргаецца Фасмерам (3, 564).

**Сас** 'саксонец' (Байк. і Некр.), *са́скі* 'саксонскі' (Нас., Гарэц.). Запазычанне з польск. *sas, saski* 'тс' (Кюне, Poln., 96), стараж. *Sas* 'саксонская зямля'. Польск., таксама як і укр. *сас*, ст.-рус. *сасъ*, *сасинъ*, чэш. *sas*, ст.-серб. *сасинь*, сяр.-балг. *сасинъ* запазычана з ст.-в.-ням. *sahso* 'сакс', сяр.-н.-ням. *sasse* (Міклашыч, 288; Сабалеўскі, AfslPh, 32, 309 і наст.). Гл. таксама Фасмер, 3, 564 і наст.; параўн. *саксонец*.

**Сасі́лы** 'саскі ў жывёлы' (віц., Нар. лекс.). Вытворнае ад **сасаць* або **сосіць*, параўн. рус. *сосать* (гл. *ссаць*) з суф. *-іла*, аб якім гл. Сцяцко, Афікс. наз., 42.

**Сасі́ска** 'невялікая каўбаска, якую ядуць у вараным выглядзе' (ТСБМ). Праз рус. *соси́ска* (параўн. Крукоўскі, Уплыў, 79 і наст.) з франц. *saucisse* 'сасіска' ад сяр.-лац. *salsīcia* ад *salsus* 'салёны', гл. Праабражэнскі, 2, 360; Фасмер, 3, 726.

**Сасло́ўе** 'грамадская група са спадчыннымі правамі і абавязкамі, якая склалася на аснове класавых адносін у дакапіталістычным грамадстве' (ТСБМ). Запазычанне з рус. *сосло́вие* 'тс' (Крукоўскі, Уплыў, 56). У рускай мове гэта старажытны кніжны славянізм эпохі другога паўднёваславянскага ўплыву, параўн. ц.-слав. *съсловие* 'саслоўе, згода' (гл. Вінаградаў, Этимология–1966, 133 і наст.; там жа падрабязна аб развіцці семантыкі рус. *сосло́вие*). Царкоўнаславянскае слова разглядаюць як кальку грэч. σύγκλητος 'той, які сазваны' (Праабражэнскі, 2, 360) або σύλλογος 'сход, зборышча' (Фасмер, 3, 726).



**Сасна́** 'вечназялёнае дрэва сямейства хваёвых, якое расце пераважна на пясчаных глебах і вызначаецца прамым высокім стваломі доўгай ігліцай, Pinus silvestris L.', галоўным чынам зах.- і усх.-славянскае: рус., укр. *сосна́*, ст.-рус., рус.-ц.-слав. *сосна* 'елка, сасна', польск., н.-луж., чэш., славац. *sosna*, палаб. *süsnó* 'тс'. У паўднёваславянскіх мовах захавалася часткова: сяр.-балг. (XIV ст.) *сосна*, макед. тапонім *Sosna*. Па традыцыйных версіях узводзілася да і.-е. *k̂asnos* 'шэры' і параўноўвалася з ст.-прус. *sasins* 'заяц', ст.-інд. *çaçás* 'тс', ст.-в.-ням. *haso* 'заяц', *hasan* 'шэры, бліскучы', лац. *cánus* 'шэры' (Брукнер, 507; Фасмер, 3, 726–727; Борысь, 567) або да **sopsna* і тлумачылася як 'смалістае дрэва', параўн. лац. *sapa* 'сок', ст.-в.-ням. *saf* 'тс', рус. *сопля*, прымаючы пры гэтым выдзяленне суф. *-sna* (гл. Фасмер, там жа). Трубачоў (Дополн., 3, 727), падкрэсліваючы неалагічны характар слова і спасылаючыся на назіранні Машынскага (Kultura 1, 133 і наст.), што на Палессі *сасна* датычыцца толькі хваёвага дрэва ■ борцю, дуплом, а звычайная *сасна* называецца *хвоя*, мяркуе, што **sosna* першапачаткова належала да тэрміналогіі бортніцтва і абазначала 'дуплянае дрэва' і выводзіць яго ад прасл. **sopěti* 'сапці, дуць', параўн. ст.-слав. **сопль** 'жалейка. флейта'. Па фанетычных прычынах ён (там жа) адхіляе і этымалогію Машынскага (Pierw., 216 і наст.) ад **sojǫ, *sojiti* 'калоць'; тут чакалася б **sesna*. Іншыя версіі гл. яшчэ Фасмер, там жа. Аналагічна Трубачову Шустар-Шэўц, 2, 1335.

**Сасн́э** 'адросткі пер'яў у птушак пасля ліньк' (Сл. ПЗБ). Да *асн́э* 'тс' (Сцяшк. Сл.), што да *асо́н* (гл.). Зблізжана з *сасна* (гл.) з-за знешняга падабенства да сасновых шыпулек.

**Сасн́які** 'лісічкі' (Сл. рэг. лекс.). Да *сасно́вы* < *сасна*.

**Сасо́к** 'знешняя частка малочнай залозы млекакормячых і чалавека ў выглядзе шышачкі, з якой дзіцё ссе малако' (ТСБМ; в.-дзв., Сл. ПЗБ). Рус. *сосо́к* 'тс', ст.-чэш. *sesek*, славац. *sosok, sosec*, ст.-слав. **съсьць** 'сасок', ст.-рус. *съсъкъ, съсъ* 'сасок'. Да прасл. **sъsati* 'ссаць'. Гл. Фасмер, 3, 725; Махэк$_2$, 538.

***Сасо́нка**, *со́сонка* ‘хвошч палявы, Equisetum arwense L.’ (Бейл.). Укр. *со́сонка* ‘тс’. Вытворнае ад *сасна* (гл.), расліна названа па знешняму падабенству. Параўн. рус. *со́сенник* ‘Equisetum pratense Ehrh.’ (Аненкаў, 58), а таксама назвы для Hippuris vulgaris L.: рус. *со́сенка*, польск. *sosnoweczka* (гл. Махэк, Jména rosl., 151 і наст.).

**Сасо́ннік** ‘сон-трава Anemone pulsatilla L.’ (Шат.), *сасну́лькі* ‘сон’ (астрав., Сл. ПЗБ). Польск. *sasanka, sesenki*, чэш. *sasanka*, серб.-харв. *sása* ‘тс’, балг. *сасан* ‘Hepatica triloba’, *сасанка* ‘тс’, дыял. таксама *сасенка*; сюды ж, магчыма, і рус. *сазончики* ‘Anemone pulsatilla L.’ і *самсонички* ‘Pulsatilla pratens Mill.’ Неяснае слова. Дурыданаў (Зб. Лер-Сплавінскаму, 81 і наст.) мяркуе, што славянскія словы – гэта запазычанне са ст.-грэч. σουσον ‘лілея’, якое на славянскай глебе падверглася розным пераўтварэнням і ўплыву народнай этымалогіі, якая звязала назву гэтай расліны з *сон* (гл. *сон-трава*). Грэч. слова Дурыданаў звязвае з ст.-егіпец. *s-š-n* ‘лотас’, копц. *šošen* ‘лілея’, ст.-яўр. *šošan*, араб. *susan* ‘лілея’, пярс. *susän* ‘лілея, касач’, тат. *susan* ‘касач’. Для беларускага слова магчыма польскае пасрэдніцтва. Гл. яшчэ Махэк₂, 537–538, выклад гіпотэзы Дурыданава.

**Саста́ў** ‘сукупнасць частак, прадметаў, якія складаюць цэлае; склад’ (ТСБМ). Рус. *соста́в*, ст.-рус., ст.-слав. **съставъ**. У сучаснай беларускай мове з рускай, на што ўказвае прыстаўка *са-* (параўн. Крукоўскі, Уплыў, 56). Да *со-ставить*; лічаць (гл. Фасмер, 3, 727 і наст.) калькай грэч. слова.

**Сасу́д** ‘трубчасты орган у целе чалавека ці жывёлы, па якім цячэ кроў або лімфа; у раслін – трубка, па якой праходзяць вільгаць з растворанымі мінеральнымі салямі і іншымі рэчывамі’ (ТСБМ), *сасу́д, сасу́да* ‘тс’ (Сл. ПЗБ). Ст.-бел. *сосудъ, судъ* ‘чаша, судзіна’ (Альтбаўэр). Мажліва паўторнае запазычанне з рус. *сосу́д* (Крукоўскі, Уплыў, 56), дзе з **sъ* + **sǫdъ*; гл. *суд₂* (Фасмер, 3, 728).

**Сатана́** ‘у некаторых рэлігіях – злы дух, які супрацьстаіць богу, д’ябал’ (ТСБМ, Сл. ПЗБ), *сата́н* ‘сатана; надакучлівы чалавек’ (Нас.), *са́тан, сатана́* ‘сатана’, *сата́ньe* ‘чэрці’ (ТС). Укр., рус. *сатана́*, ст.-рус. *сатана*, ст.-слав. **сотона**, чэш. *satan, satanáš*, славац., н.-луж., в.-луж. *satan*, серб.-харв., славен. *sotona*, балг. *сатана, сатона*, макед. *satana*. Старажытнае запазычанне з грэч. σατανας, якое са ст.-яўр. *sāṭān* (Міклашыч, 317; Фасмер, 3, 565; Кіпарскі, Gemeinslaw., 130), а не з гоц. *satana*, як лічаць Стэндэр-



Петарсан (Slaw.-germ., 430 і наст.), Махэк₂, 538. Форму *сатана* Фасмер (там жа) тлумачыць другасным прыстасаваннем да грэч. формы. Сюды ж *сатані́ць* ‘сварыць каго-небудзь з кім-небудзь’, ‘шкодзіць’, ‘зводзіць, падбухторваць’.

**Са́тка** ‘вязаная хустка’ (Жд. 1). Да *саткаць* (гл. *ткаць*). Поўная словаўтваральная паралель у чэш. *zatka* ‘корак’ < *zatknouti* ‘заткнуць’.

**Сатні** (*Прынісла Калида рышато блиноў Ды начоўки сатнёў* – віц., Рам., 8, 129). Гл. *сачэнь* (*сачні* > *сацні* > *сатні*), відавочна, з *т-* гіперкарэктным у цокаючых гаворках.

**Сатра́п** ‘правіцель у старажытнай Персіі’ (ТСБМ). Відаць, запазычанне з рус. *сатра́п* ‘тс’ (параўн. Крукоўскі, Уплыў. 74). Рус. праз грэч. σατράπης са ст.-пярс. *xšadrapavan* ‘даглядальнік страны’ (ССРЛЯ, 13, 202), якое ад *xšara* ‘вобласць, правінцыя’ і *pa(y)-* ‘кіраваць’ (Вальдэ-Гофман, 2, 482). Ст.-бел. *сатрапъ* ‘правіцель у старажытнай Персіі’, паводле Булыкі, Лекс. запазыч., 28, праз грэчаскую мову са ст.-пярс. *sitrab*.

**Сатыра** ‘спецыфічная форма мастацкага адлюстравання рэчаіснасці, якой уласціва высмейванне розных адмоўных з’яў’ (ТСБМ), Крукоўскі (Уплыў, 85) лічыць новым запазычаннем з рус. *сати́ра* ‘тс’, якое праз франц. *satire* паходзіць з лац. *satira*, больш стараж. *satura* (*lanx*) ‘блюда з рознымі пладамі, якое кожны год падносілася багам; дэсерт, сумесь; вершаваная сумесь’ (Фасмер, 3, 565; Праабражанскі, 2, 254). Раўнаверагодна і пасрэдніцтва польск. *satyra* ‘сатыра’. Аб польск. слове гл. Брукнер, 482.

**Саўга́цца** ‘катацца на львдзе, коўзацца’ (Касп.), *саўгану́ць* ‘пасунуць, перасунуць’ (КЭС), *са́вгаты* ‘глынаць, дзяўбці’ (Клім., Сл. Брэс.), *саўгну́ць* ‘тыкнуць з сілай’ (Клім.), *саўка́цца* ‘швэндацца’ (Мат. Гом.). Гл. *соўгаць, соўкаць*.

**Саўге́ль** ‘коўзкае месца, каток’ (Касп., Яшк.), выкл. ‘пра ссоўванне’ (Янк. БП), *саўгу́нь* ‘тс’ (Нар. лекс.). Дэрываты ад *соўгаць(ца)* з суф. *-ель, -унь*.

**Саўгуны́** ‘бліны’ (Жд. 2), *саўга́ч* ‘блін’ (Сцяшк. Сл.). Да *соўгаць*, гл.

**Са́ўка** ‘сіваваронка’ (Бяльк.). Няясна.

**Саўлы́га** ‘грубы чалавек’ (Мат. Маг.). Відаць, з *шалы́га* ‘махляр’ (Нас.) (гл.) пад уплывам *соўгаць(ца)*.

**Саўмі́ла**, *соўмэ́ла* ‘чалавек, які соўгаецца без мэты’ (драг., Нар. лекс.). Ад **соўмаць* з суф. *-іла*, параўн. укр. *совману́ти* ‘толк-

нуть, піхнуць', *совма́нитися* 'рухацца, хадзіць туды і сюды', якое, магчыма, да **sovati* (гл. *совацъ*). Няясным застаецца *-м-*.

***Саўпнуць**, *совпну́ты* 'тыкнуць, упікнуць' (Клім.), *со́впатысь, совпну́тысь* 'тс' (Сл. Брэс.). Укр. палес. *со́впатис'* 'тыкацца; таўчыся', *совпну́ти* 'тыкнуць; упікнуць'. Анікін, Этимология–1982, 67, 70 узнаўляе прасл. **sъlpati (sę)* – ст.-слав. **сльпати, сълпати** 'цячы'. Далей да групы славянскай лексікі, аб'яднанай пад **solpati* 'салупаць' (гл. *салупаць*).

**Саўсе́ня** 'тоўчаная бульба з цыбуляй' (смарг., Сл. ПЗБ). Паводле аўтараў слоўніка (4, 374), з літ. *sausiẽne* 'тс'.

**Саўсі́м** 'зусім' (Некр., Шат., Бяльк., Янк. 3, Нар. лекс., Жд. 1), *саўсём, саўсе́м, саўсі́м* 'тс' (Сл. ПЗБ), *саўсём, сусі́м* 'тс' (мін., Жыв. сл.). З прыст. *с-, са-* і тв. склону займ. *ўвесь*; Карскі 2–3, 76; Шуба, Прыслоўе, 149. Параўн. *зусім*.

***Саўсюкі́**, *соўсюкі́* 'назва раслін з невянучымі кветкамі' (воран., Сл. ПЗБ). Паводле Сл. ПЗБ (4, 524), з літ. *sausiùkai* 'тс'.

**Саўта́цца** 'ісці хістаючыся; швэндацца, хадзіць без справы' (глус., Янк.). Лаўчутэ, Балтизмы, 130 узводзіць да літ. *siautóti* 'разбягацца ва ўсе бакі', *siaũsti* 'бегаць, гарэзіць, дурэць'.

**Са́ўча** 'сват' (Мат. Гом.). Фармальна да імя *Сава, Саўка* з пяратыўным суф. *-ча*. Семантыка няясная. Магчыма, звязана са святам *Савацій-пчаляра*, які прыходзіўся на 23 верасня па старому стылю – пад час восеньскіх вяселляў.

**Сафі́т**, *софі́т* 'падшыўка дошак да столі' (ТС), *су́фіт, суфэ́т* 'столь' (Сл. Брэс.). Этымалагічна тое ж, што і літар. *сафі́т* 'паверхня якой-небудзь архітэктурнай дэталі, якую можна бачыць знізу', 'прыстасасаванне ў карнізе, якое дае рассеянае святло і інш.' (ТСБМ). З італ. *soffitto* 'столь' (ТСБМ, там жа) праз заходнееўрапейскія мовы; у першым значэнні праз польск. *sufit* 'ніжняя паверхня столі; столь'; гл. SWO, 710.

**Саф'я́н** 'мяккая, добра вырабленая звычайна яркага колеру авечая скура, якая ідзе на кніжныя пераплёты, абутак, абіўку мэблі' (ТСБМ), *сап'я́н* 'тс' (ТС). Рус. *сафья́н*, укр. *сап'я́н, саф'я́н*, польск. *safian*, чэш., славац. *safián*, балг. *сахтия́н*. Праз цюркскія мовы, параўн. тур., балкар., карач. *saxtijan* 'тс', крым.-тат., кыпч. *saktyjan* (гл. Радлаў, 4, 256, 282; Фасмер, 3, 566) з перс. *sextijān* 'тс' (гл. Праабражэнскі, 2, 254; Махэк$_2$, 535), якое звязана з пярс. *sext* 'моцны, цвёрды' (Локач, 140). Этымалогія Міклашыча (287) і Брукнера (479) ад назвы горада *Саффі* у Марока аспрэчваецца Літманам (гл. Фасмер, 3, 566). Ст.-бел. *сафьянъ, сафьанъ, сафиянъ* з той жа крыніцы, гл. Булыка, Лекс. запазыч., 115.



**Саха́** 'саха, земляробчая прылада' (ТСБМ, Нас., Шат., Касп., Бяльк., Сл. ПЗБ, ТС, Сцяшк., Янк. 2; пруж., КЭС; Мат. Гом.; Янк., Бес.), 'акучнік' (Сл. ПЗБ), 'слуп з развілінай наверсе, які служыць апорай чаму-небудзь' (ТСБМ, Касп., Сл. ПЗБ, Сцяшк. Сл., Некр., Выг., Шушк., Мат. Гом., Янк., Янк. 2), 'частка калодзежнага жураўля, слуп' (Сл. ПЗБ, Шат., Янк. 2, Мат. Гом., Сцяшк. Сл., Бір., Жд. 1, Тарн.), 'частка ствала дрэва, ад якой адыходзіць некалькі макушак' (Інстр. 3), 'завостраны кол, прыстасаванне для тармажэння плыта' (Сл. ПЗБ, Нар. сл.), старое 'мера зямельнага падаткаабкладання' (ТСБМ), 'зямельная мера' (Выг.), 'частка сахі ў выглядзе доўгай жардзіны, да якой збоку прыпрагаўся конь' (Сл. рэг. лекс.), мн. *сахі* 'рогі лася' (ТСБМ), *сахо́та* 'саха' (Сцяшк. Сл.), *со́хі* мн. л. 'накрыж укопаныя падпоркі' (Касп.), 'слупы ў гаспадарскім будынку' (Сцяшк.), 'даўнейшы ткацкі станок, прасцейшы за кросны' (бялын., Нар. сл.), *со́шкі* 'столбікі ткацкага станка' (Шат.), 'вілаватыя палкі, якія ставяць па баках воза, калі кладуць сена' (Бяльк.). Рус. *соха́* 'земляробчая прылада; падпорка, слуп, частка калодзежнага жураўля', 'мера зямлі', укр. *соха́* 'падпорка', стараж.-рус. *соха* 'кол, дубіна, падпорка, саха', 'мера плошчы', польск. *socha* 'развілак', в.-луж., н.-луж. *socha* 'кол з развілкамі', чэш. *socha* 'статуя', дыял. 'кол з развілкай, падпора; частка калодзежнага жураўля і да т. п.', славац. *socha* 'калона', серб.-харв. *со̀ха* 'палка, кій з развілкай', серб.-ц.-слав. *соха* 'тс', славен. *sóha* 'слуп з папярочкай', балг., макед. *соха́* 'кій з развілкай'. Прасл. **soxa* 'кол, дрэва з развілкай'; з гэтага значэння выцякаюць усе астатнія. Слова лічыцца спрадвечна славянскім, запазычанне выключаецца. Бліжэйшыя адпаведнікі бачаць у літ. *šakà* 'галузка, сук, развіліна', лат. *saka* 'разгалінаванае дрэва', *sakas* 'хамут, ярмо', ст.-інд. *çā̂khā* 'галінка, сук', перс. *šāx* 'галінка, сук, рог', гоц. *hôha* 'плуг' і г. д. (Траўтман, 297; Фасмер, 3, 729–730), усе да і.-е. **k̂ak-* 'галузка' (Покарны, 523; Шустэр-Шэўц, 1331); *-х-* (у слав. чакалася б **soka*, як бачым з параўнанняў) тлумачыцца як новы суфікс, як у чэш., польск. *brach, bracha* < *brat(r)* (Махэк$_2$, 565–566); спірантызацыя *-к-* (Брукнер, 505–506), або ў Борыся, 566 як суф. *-sā*: **k'ăk-sā* (як *страха*). Трубачоў, Ремесл. терм., 160–161, падкрэс-

ліваючы, што прасл. *soxa датычыцца толькі адсечанай часткі дрэва, звычайна вызначанай формы, узводзіць прасл. слова да больш старажытнага *soka, дэрывата ад *sěkti (гл. *сячы*), а -x- тлумачыць, услед за Брукнерам, як спірантызацыю -k- па семантычных матывах. Аналагічна Страхаў, Palaeoslavica, 13/2, 6.

**Сахаві́лы** 'драўляныя вілы для гною' (ТС, Выг., Сл. Брэсц.), *суховілкі* 'тс' (Жыв. сл.), 'вілкі з трыма зубамі' (пін., Шатал.), 'палка з раздвоенымі канцамі' (палес., Сл. ПЗБ), *соховы́ла* 'лапы драўлянай сахі, канцы якіх пераўтвараюцца ў ручкі' (палес., Нар. лекс.). Беларуска-палеска-украінская ізалекса: параўн. укр. дыял., палес. *соховіли* 'драўляныя вілы для гною' (Выгонная, Бел.-укр. ізал., 18). Да *саха* і *вілы* (гл.), першапачаткова, мабыць, *саха*, г. зн. палка з раздвоенымі канцамі, якая ўжывалася замест віл.

**Са́хар** 'цукар' (Бяльк., Сл. ПЗБ), 'строгі, суровы, сварлівы муж' (Нас.). Ст.-бел. *сахаръ* 'тс' (Булыка, Запазыч., 294). Рус. *са́хар*, укр. *са́хар(ь)*, ст.-рус. *сахаръ* (Кірыла Тураўскі, Афанасій Нікіцін і інш.). З грэч. σάκχαρο ад палі *sakkharā*, ст.-інд. *çárkarā* 'гравій, галька, пясок; цукар-пясок' (гл. Праабражэнскі, 2, 254; Фасмер, 3, 567 з іншай літаратурай). Сучаснае беларускае *са́хар*, відаць, новае запазычанне з рус., прынамсі аўтары Сл. ПЗБ (4, 376) параўноўваюць з рускім *са́хар*.

**Сахары́н,** *сахары́на* 'белае крышталічнае вельмі салодкае рэчыва; сурагат цукру' (ТСБМ, Сл. ПЗБ), *сахары́на* 'тс' (Янк. 2). З рус. *сахари́н* 'тс' (Крукоўскі, Уплыў, 42), якое з ням. *Sacharin*, утворанага вынаходнікам рэчыва К. Фальбергам з Насаў у 1879 г. ад лац. *saccharum* 'цукар' (гл. Фасмер, 3, 567).

**Саха́ты** 'з галінастымі рагамі', 'лось' (ТСБМ). Рус. *соха́тый* 'тс'. Да *саха* (гл.).

**Сахо́р** 'жалезныя вілы для накідвання гною' (ТСБМ, Янк. 1, Мат. Гом., Мат. Маг.), 'драўляныя вілы для гною' (Шат., Бір., Сл. ПЗБ, ТС, Сцяшк., Сержп.), *сахо́р, со́хар* 'тс' (Клім.), *саха́р, сахо́р, соха́р, сухары́* 'тс' (Сл. Брэс.), 'саха ў будане' (віц., Нар. сл.), *сахі́ра* 'саха, слуп з развілінай уверсе' (Касп.), 'саха ў студні з жураўлём' (ДАБМ, камент., 808), *сахіры́* 'конусападобнае прыстасаванне з жэрдак для сушкі травы, бульбоўніка і да т. п.' (Сл. ПЗБ). Укр. *соха́р* 'бервяно з развілінай, якое стаіць на плыту', *со́хур* 'вілка для лоўлі рыбы зімой', рус. дыял. *сохры́* 'грубкі на лёдзе', *сохи́рь* 'дрэва з развілкай', польск. дыял. *sochor* 'жэрдзі', в.-луж. *sochor* 'жэрдзь, рычаг', чэш. *sochor* 'жэрдзь, якая служыць рычагом', славац. *sochor* 'тс'. Прасл. *sochorъ, *sochyrъ. Ад *socha (гл. *саха*) з суф. *-or, -yr*; гл. Фасмер, 3, 730; Махэк$_2$, 565 і наст., Шустар-Шэўц, 2, 1331. Аб варыянтнасці суф. *-or, *-yr у славянскіх мовах гл. Варбат, Этымалогія–1974, 42.



**Сацава́ць** 'шанаваць, паважаць' (дзятл., Сл. рэг. лекс.). З польск. *szacować* 'цаніць, ацэньваць', 'паважаць'; польск. з ням. *schätzen* < *Schatz* 'скарб', гл. Брукнер, 538.

**Саці́н** 'баваўняная або шаўковая тканіна, якая мае гладкі бліскучы правы бок' (ТСБМ), *саці́на* 'тс' (Ян.), *саці́навы* 'які мае адносіны да сацігу' (ТСБМ, Бяльк.), *саці́нкаву* 'тс' (ТС). Праз рус. *сати́н* 'тс' (параўн. Крукоўскі, Уплыў, 79) з ням. *Satin* або франц. *satin* 'атлас', якія тлумачаць з араб. *zaitūnī* 'з кітайскага горада Цзяадун', г. зн. тканіна названая па месцу паходжання. Гл. Локач, 171; Праабражэнскі, 2, 254; Фасмер, 3, 565.

**Сацыялі́зм** 'вучэнне аб пабудове сацыялістычнага грамадства; першая фаза камуністычнага грамадства' (ТСБМ). Праз рус. *социали́зм* (Крукоўскі, Уплыў, 81), якое з франц. *socialisme* < лац. *sociale* 'таварыскі, грамадскі' (ССРЛЯ, 14, 427).

**Сацыялі́ст** 'член сацыялістычнай партыі; паслядоўнік сацыялістычнага вучэння' (ТСБМ). Праз рус. *социали́ст* (Крукоўскі, Уплыў, 81) з ням. *Sozialist* (гл. Фасмер, 3, 730). У беларускай мове з'явілася ў 20-я гады XX ст. (Гіст. лекс., 239).

**Сацьві́ца** 'сачавіца' (Янк. 1), *сацві́чнік* 'салома сацвіцы' (Янк. 3). Гл. наступнае слова.

**Сачаві́ца** 'аднагадовая травяністая расліна сямейства матыльковых; старажытная зернебабовая культура'. Укр. *сочеви́ця*, рус. *чечеви́ца*, дыял. *сочеви́ца*, ст.-рус. *сочевица*, *сочиво* 'тс', польск. *soczewica*, чэш. *čočovice*, ст.-чэш. *sočovicě*, славац. *šošovica*, *šošovica*, серб.-харв. *со̏чиво* 'тс'. Паўн.-прасл. *sočevica. Звязана з *сок* (гл.), рус. *сочиво* 'сок, малако з сямян', ст.-рус. *сочиво*. Параўн. в.-луж. *soka* 'сачавіца', н.-луж. *sok* 'тс' (Міклашыч, 313; Праабражэнскі, 2, 357; Фасмер, 3, 355). Інакш Махэк$_2$, 106, які разглядае славянскае слова як складанае: другая частка *-vica* роднаснае лац. *vicia* 'віка', а першая ўзыходзіць да і.-е. *kiko-* (параўн. ст.-прус. *keckers* 'гарох'), якая на славянскай глебе падверглася розным зменам. Гл. Борысь, 566; Шустар-Шэўц, 2, 1332.

**Сачо́к$_1$** 'конусападобная сетка на абручы з ручкай, якая служыць для лоўлі рыбы, насякомых і пад.' (ТСБМ, Нас., Сцяшк.,

Сл. ПЗБ, Бес., 3 нар. сл.), *са́чак* 'тс' (Демб., 2, 575). Памяншальнае да *сак₂* (гл.).

**Сачо́к₂** 'від жаночага адзення, кароткая куртка на ваце' (ТСБМ, Янк., Сцяшк.), *са́чак* 'тс' (Бір., Сцяшк., Шатал., Янк., 3 нар. сл., Нар. сл.), *са́чык* 'тс' (Сцяшк., 3 нар. сл., Жд. 1, Нар. сл., Сл. Брэс., Сакал., Скарбы). Памяншальнае да *сак₁* (гл.).

**Сачо́к₃** 'гультай' (Жд. 1). Запазычанне вусным шляхам з рус. прастамоўнага *сачо́к* 'тс', *сачкова́ть* жарг. 'гультаяваць; прапускаць урокі, лекцыі'. Дзеяслоў, паводле ССРЛЯ, 13, 210, фіксуецца ўпершыню ў пісьменніка Новікава-Прыбоя ў значэннях 'лавіць рыбу сачком', 'гультаяваць'. Тады да *сачок* < *сак₂* (гл.) 'прылада лавіць рыбу'; значэнне 'гультаяваць' у дзеяслова з'явілася, відаць, пад уплывам меркаванняў, што лоўля рыбы – гэта занятак, каб правесці час. Гэта можа быць і народная этымалогія. Гаўлава (Etym. Brunensia, Brno, 1980, 27), якая прыводзіць яшчэ дыял. маск. *сачёк* 'хлопец, які заляцаецца да дзяўчыны, яе каханы', узводзіць да **sočiti* (гл. *сачыць*), што больш верагодна, параўн. і вядомае ў гутарковай мове 30-х гадоў XX ст. *сачо́к* як адпаведнік рус. *сексо́т* (< *секретный сотрудник*).

**Сачо́ўка₁** 'пасма нітак, навітая асобна на клубок' (Шат., Інстр. 3), 'шпулька' (Мат. Гом.). Метатэза з *часоўка* 'тс' (гл.).

**Сачо́ўка₂** 'грэбень для часання ільну' (Мат. Гом.). Няясна. Відаць, этымалагічна тое ж, што і папярэдняе, з *часоўка*, ад *часаць*.

**Сачыне́нне** 'від пісьмовай школьнай работы, звязаны з выкладаннем сваіх думак на пэўную тэму' (ТСБМ). З рус. *сочине́ние* 'тс'; гл. Крукоўскі, Уплыў, 56. У рускай аддзеяслоўны дэрыват ад *сочини́ть*, ад прасл. **sǫ-* 'з' і прасл. **činiti* 'чыніць' (гл. *чыніць*).

**Сачы́ўка** 'сачавіца' (ТСБМ, Касп., Некр., Гарэц., Др.-Падб., Демб., 1, Кіс., Сл. ПЗБ, Сл. Брэс., Клім., Шатал., Жд. 1, Выг.), 'мука з бобу' (Мат. Гом.), *сачэ́ўка* (Шат., Бяльк., Сцяшк., Кіс., Мат. АС, Скарбы), *сачо́ўка, сачу́ўка* (Сцяшк., Сл. ПЗБ), *сачу́ўка* (Сл. Брэс.) 'тс'. Гл. *сачавіца*. Даны суф. варыянт можа быць запазычаннем з польск. *soczewka* 'тс'.

**Сачы́цца** 'цячы, выцякаць па кроплі або тонкім струменем (пра вадкасць)', 'пранікаць, прасочвацца ўнутр (пра вадкасць)'. Рус. *сочи́ться*, польск. *soczyć się* 'тс'. Да *сок* (гл.); гл. Фасмер, 3, 731; Брукнер, 506.

**Сачыць** 'назіраць, наглядаць за кім-небудзь, чым-небудзь', 'адшукваць', 'дапільноўваць' (ТСБМ, Шат., Касп., Стан., Ласт.), 'цікаваць, высочваць, віжаваць' (Бяльк., Гарэц.), 'пільнаваць' (Сл. ПЗБ) 'назіраць, запільноўваць' (Варл.) 'шукаць у галаве' (Сержп. Прык.) 'гнаць звера (пра сабаку)' (Сцяшк.) 'быць падобным на каго-небудзь': *сочыць бацьку – падобны да бацькі* (віл., глыб., Сл. ПЗБ), *сочы́ць* 'высочваць' (ТС). Укр. *сочи́ти* 'падпільноўваць', рус. *сочи́ть* 'шукаць, дапільноўваць', ст.-рус. *сочити, сочу* 'адшукваць; весці судовую справу', польск. *soczyć* 'паклёпнічаць, цкаваць', чэш. *sočiti* 'ненавідзець; раўнаваць; абгаворваць', серб.-харв. *со̀чити* 'выявіць, адшукаць', 'даказаць', славен. *sáčiti* 'лавіць', балг. *со́ча* 'паказваю'. Прасл. **sočiti*. Звязваюць з прасл. **sokъ* 'абвінаваўца, выведнік' і параўноўваюць з літ. *sakýti, sakaũ* 'гаварыць', лат. *sacît*, ст.-в.-ням. *sagen* 'тс' і г. д. (Бругман, IF, 12, 38; Траўтман, 255; Мюленбах–Эндзелін, 3, 603; Младэнаў, РФВ, 63, 310; Фасмер, 3, 731). Махэк₂ (566) зыходным значэннем лічыць 'дапільноўваць, адшукваць (звера)' і супастаўляе з літ. *sekù, sèkti* 'ісці (следам)', лац. *sequor*, ірл. *sechur* 'тс', ст.-інд. *sácate* 'ідзе следам'. Бязлай (Linguistika, VIII, 1, 71), славенскае слова таксама супастаўляе з літ. *sèkti*, лат. *sekt* 'ісці следам'. Аб супастаўленні слав. **sočiti* з вышэйпрыведзенымі балцкімі словамі меркаваў яшчэ Фрэнкель (757, 773). Варбат (Марфан., 31–32) падтрымлівае думку Брукнера (394–395) аб зліцці ў слав. *sočiti* двух вышэйназваных індаеўрапейскіх гнёздаў.

**Сачэ́нь** 'выраб з кіслага або прэснага цеста ў выглядзе тоўстага бліна без начыння' (ТСБМ, Нас., Касп., Гарэц., Др.-Падб., Мядзв., Малч., Шн. 3, Нар. сл.), *сачэ́нь, сашэ́нь* 'тс' (Сл. ПЗБ), паўн.-усх. *сачэ́нь, цацэ́нь, чачэ́нь* (Цыхун, Бел.-рус. ізал., 90), *сачэ́нь* 'буханка хлеба, абкачаная ў муку' (рас., Шатал), ст.-бел. *сачень* 'праснак' (Ст.-бел. лексікон). Рус. паўн.-усх., усх. *сочéнь* 'від перапечкі на канапляным алеі', пск. *сочéнь* 'перапечка', смал. *сачéнь, сачни́* 'бліны'. Ад *сок₁* (гл.), гл. Міклашыч 313; Фасмер. 3, 730. Сумесная беларуска-руская інавацыя з цэнтрам на рускай тэрыторыі; гл. аб гэтым Цыхун, там жа, 90.

**Сач'ю́** у выразе *сач'ю гаварыць* 'загаворваць ад сурокаў' (Сл. ПЗБ). Уласна *з вачэй*, г. зн. загаворваць ад «дурнога вока», рус. *сглаза*; *-у* – стары канчатак парнага ліку.

**Саша́** 'шаша' (Касп., Сцяшк., Сл. ПЗБ, Мат. Гом., Ян., Нар. лекс., Янк. 2, Янк. 3). Рус. нар. *саша́* 'тс'. З *шаша* (гл.) у выніку дысіміляцыі.

**Сашóк** 'шашок' (Касп.), *сашак* (Інстр. 2). З *шашок* (гл.) у выніку слогавай дысіміляцыі.

**Сашнíк** 'рабочая частка сахі, культыватара, веялкі – востры жалезны нарог' (ТСБМ, Тарн., Выг., Клім., ДАБМ, камент., 826). Укр., рус. *сошни́к*, польск. дыял. (лінгвагеаграфію гл. Кандрацюк, Бел-польск. ізал., 54) *sosznnik, sasznik, susznik* 'тс'. Ад *саха* з суф. *-нік*. Упершыню фіксуецца ў другой палове XVI ст. Падрабязна гл. Смулкова, 29 і наст.

**Сашчá** 'даска, аснова сахі' (Касп.). Відаць, скарачэнне ад *сашчэпа* < *сашчапіць* (гл.) або непасрэдны дэрыват ад *сашчапіць*.

**Сашчавíк** 'падбярозавік' (Сл. ПЗБ). З **чашчавік* ад *чашча* (гл.).

**Сашчапýліваць** 'стульваць (губы)' (Юрч.). Рус. дыял. арл. *сощепу́лить* 'тс'. Відавочна, да *шчапіць* (гл.) з экспрэсіўным нарашчэннем *-ул-* (параўн. Смаль-Стоцкі, Приміт., 98 і наст.). Сюды ж і *сашчалюпіць* (*рыба біз вады зябры то сышчалюпя, то рышчалюпя* – Яшк., З жыцця) з метатэзай *л* і *п*.

**Сашчарэ́піць** 'сашчапіць' (Нар. сл.). Ад *сашчапіць* з экспрэсіўным нарашчэннем *-ер-* і наступнай метатэзай. Параўн. *ашчаперыцца* і *ашчарэпіць*.

**Саю́з** 'цеснае аб'яднанне, сувязь дзвюх або некалькіх асоб, груп, таварыстваў, класаў; пагадненне, аб'яднанне арганізацый, дзяржаў для сумесных дзеянняў; назва дзяржаў, грамадскіх арганізацый' (ТСБМ). Новае запазычанне з рус. *союз* 'тс', таксама як і іншых вытворных ад яго: *саю́зны, саю́знік* і г. д. (Крукоўскі, Уплыў, 42, Гіст. лекс., 239). Рус. слова з ц.-слав. **сънжзъ**; параўн. ст.-слав. **съвжзъ, съжзъ** 'прывязь, рамень, вузы', ст.-рус. *съвузъ* 'сувязь, вузы'. Далей да *вязаць, вузы*; гл. Фасмер, 3, 731.

**Сая́к** 'грыб падасінавік' (Сцяшк. Сл.). З *савяк* (гл.) у выніку нерэгулярнай мены ў гродзенскіх гаворках *в* > *j*.

**Сая́н** 'шарсцяная даматканая спадніца' (Касп.), 'шарсцяная спадніца з каснікамі, андарак' (Бяльк., Малч., Сл. ПЗБ), 'шарсцяная спадніца з купленай тканіны' (Малч.), 'верхняя світка з чырвонага сукна, лепшая адзежа' (Мядзв.), 'зімовая шарсцяная спадніца' (Тарн.), 'спадніца, сарафан' (Пал., ДАБМ, камент., 933; віц., магіл., Шн. 1), 'спадніца з ільняной тканіны' (Нік., Оч.), 'тонкае сукно' (Гарэц.), 'паўсукно' (Сл. ПЗБ), 'палатно з воўны' (Інстр. 1), *сая́н, сая́к* 'суконная спадніца' (Мат. Гом.). Рус. цвяр., смал. *сая́н* 'сарафан з даматканай фарбаванай тканіны, расхінны сарафан', курск. 'высокая спадніца з падцяжкамі'. Запазычана праз польск. *sajan* 'плашч' (ст.-польск. *sajan* 'кароткі салдацкі кафтан') з італ. *saione*, 'грубая шарсцяная фуфайка' < *saio* 'простая фуфайка, салдацкая куртка' < лац. *sagum* 'салдацкі плашч', кельцкага паходжання (Мацэнаўэр, 302, Брукнер, 479; Фасмер, 3, 567). Ст.-бел. *саянъ, соянъ* (XVI ст.) са ст.-польск., гл. Булыка, Лекс. запазыч., 109. Літ. *sajõnas, sejõnas, sijõnas* 'спадніца, летняя жаночая вопратка' паходзяць з усходнеславянскіх моў, гл. Скарджус, Slav., 195.

Даведачнае выданне

ЭТЫМАЛАГІЧНЫ СЛОЎНІК
БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

Том 11

Р–С

Укладальнікі:
**Авілава** Валянціна Людвікаўна
**Антропаў** Мікола Паўлавіч
**Цыхун** Генадзь Апанасавіч і інш.

Рэдактар *Т. С. Клімовіч*

Мастак *А. А. Кулажэнка*

Мастацкі рэдактар *В. А. Жахавец*

Тэхнічны рэдактар *Т. В. Лецьен*

Камп'ютэрная вёрстка *Л. І. Кудзерка*

Падпісана ў друк 20.09.2006 г. Фармат 60×90 1/16. Папера афсетная № 1. Гарнітура Times New Roman. Друк афсетны. Ум. друк. арк. 21,0. Ум. фарб.-адб. 21,0. Ул.-выд. арк. 18,5. Тыраж 600 экз. Заказ 2628.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Выдавецкі дом «Беларуская навука». ЛИ № 02330/0131569 ад 11.05.2005 г. 220141, Мінск, вул. Ф. Скарыны, 40.

ААТ «Баранавіцкая ўзбуйненая друкарня». ЛП № 02330/0131659 ад 02.02.2006 г. 225409, Баранавічы, вул. Савецкая, 80.




**Этымалагічны** слоўнік беларускай мовы. Т. 11. Р–С /
Э93 НАН Беларусі, Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа ; уклад. В. Л. Авілава [і інш.] ; рэд. Г. А. Цыхун. – Мінск : Беларус. навука, 2006. – 333 с.
ISBN 985-08-0740-7.

Чарговы том слоўніка змяшчае этымалагічны аналіз беларускіх слоў на літары Р і С. Як і папярэднія тамы, мае на мэце даследаванне гісторыі развіцця лексікі беларускай мовы і яе суадносін з лексікай іншых славянскіх і неславянскіх моў.

Папярэдні том слоўніка выйшаў у 2005 годзе.

Разлічаны на філолагаў, літаратуразнаўцаў, гісторыкаў і ўсіх, хто цікавіцца сувязямі беларускай мовы з іншымі мовамі.

**УДК 811.161.3'373.6'374**
**ББК 81.2Бел-4**